ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АКАДЭМІІ НАВУК
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## ТОМ 4

# ЛАЗАРУК — ПЕРКІН

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
імя ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1994

ББК 91.09:83.3Бел
Б 43
УДК 012(476)+016:882.6(092)+882.6(092)

Пад рэдакцыяй
доктара філалагічных навук,
прафесара А. В. МАЛЬДЗІСА



This edition is a table reference book for all those who have an interest and concern in the Byelorussian culture. The book comprises more than 1100 articles containing full, manysided and systematized information on the Byelorussian literature representatives who created their works in Old Slavonic, Byelorussian, Russian, Latin, Polish and other literary languages of Belarus. The bibliographic references represent more than 600 thousand various publications.

Б $\frac{0160000000—016}{М\ 318(03)—94}$ 30—94

ISBN 5-85700-153-6 (Т. 4)
ISBN 5-85700-060-2

# Л

## ЛАЗАРУК МІХАСЬ



*Лазарук Міхаіл Арсеньевіч (н. 5.7.1926, в. Ушаловічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.), крытык, літаратуразнавец, педагог. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар (1971). Акадэмік АПН СССР (1982, член-карэспандэнт, 1978). Член СП Беларусі з 1972.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька родам з-пад Брэста. Зямлі сваёй не меў, рэвалюцыю сустрэў прыхільна. У час грамадзянскай вайны служыў у Чырвонай Арміі. У 1929 разам з сялянамі суседніх вёсак арганізаваў калгас, дзе працаваў да апошняга дня (1966). Маці памерла у 1935. У 1933—40 М. Лазарук вучыўся ў пачатковай, затым сярэдняй школе. У 1940 ён паступіў у Мінскі дарожна-механічны тэхнікум, але правучыўся там адзін год. Пачалася вайна і 15-гадовы юнак вярнуўся ў родную вёску. Да 1944 жыў у доме бацькоў, дапамагаў у гаспадарцы. Пасля вызвалення Беларусі (1944) мабілізаваны ў Чырвоную Армію і дайшоў да Берліна. Пасля Перамогі некаторы час служыў у Савецкіх войсках у Германіі. У 1946 дэмабілізаваўся. У 1947 паступіў на падрыхтоўчыя курсы пры Мінскім педінстытуце імя М. Горкага. Экстэрнам здаў экзамены за сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт педінстытута, які скончыў у 1951. Потым вучыўся ў аспірантуры па спецыяльнасці беларуская літаратура. У 1954 абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў выкладчыкам беларускай літаратуры ў Мінскім педінстытуце. У 1959—60 па камандзіроўцы Міністэрства вышэйшай адукацыі выязджаў у Польскую Народную Рэспубліку, працаваў там на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З 1968 дэкан філфака Мінскага педінстытута, адначасова выконваў абавязкі загадчыка кафедры беларускай літаратуры. У 1970 абараніў доктарскую дысертацыю і прызначаны прарэктарам па вучэбнай рабоце педінстытута. З 1978 — дырэктар навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. З 1990 загадчык лабараторыі праблем літаратурнай адукацыі гэтага ж інстытута. Быў дэпутатам Мінскага гарсавета, Фрунзенскага райсавета, старшынёй Педагагічнага таварыства БССР, членам Прэзідыума АПН СССР. Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Друкавацца пачаў з 1949. Спачатку пісаў вершы, потым захапіўся тэорыяй літаратуры, крытыкай. Выкладчыцкую дзейнасць ён увесь час спалучае з навукова-даследчыцкай і літаратурна-крытычнай. Выступае ў друку з артыкуламі і рэцэнзіямі, даючы аб'ектыўныя ацэнкі надзённым здабыткам беларускай літаратуры. Пісаў пра паэзію П. Панчанкі — з гэтай работы яго ўвагу займае пераважна паэзія. Аўтар даследаванняў пра беларускую паэму («Станаўленне беларускай паэмы», «Беларуская паэма ў другой палавіне XIX — пачатку XX стагоддзя»). Уласны паэтычны вопыт, добрае веданне тэорыі літаратуры, шырокі гістарычны погляд на літаратурныя з'явы далі яму магчымасць не толькі паказаць, як зараджаўся ў беларускай літаратуры жанр паэмы, якія гістарыч-

ныя этапы прайшоў гэты жанр і якімі сувязямі ён звязаны з паэзіяй братніх народаў, але і пранікнуць у жывую душу паэзіі, паказаць яе зменлівы твар. Даследаванне агульных эстэтычна-стылёвых тэндэнцый беларускай літаратуры, распрацоўка тэарэтычных пытанняў, жанравых асаблівасцей беларускай паэзіі сталі тым грунтам, на якім нарадзіліся падручнікі для студэнтаў-філолагаў («Уводзіны ў літаратуразнаўства», з А. Ленсу), вучняў сярэдніх школ («Тэорыя літаратуры», «Беларуская літаратура», з В. Івашыным). М. Лазарук з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў па пытаннях беларускай літаратуры, ім выдадзены зборнік літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў («Часу непадуладнае»). Сумесна з А. Ленсу ім складзены слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Поэзия Пимена Панченки: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1954.

Пімен Панчанка: Літаратурна-крытычны нарыс. Мн., 1959. Рэц.: Г р ы н ч ы к М. Пра паэта-сучасніка // ЛіМ. 1960. 26 сак.

Пытанні тэорыі літаратуры. Мн., 1964 / Сааўт. А. Ленсу. Рэц.: Д з ю б а й л а П. Прастата і спрошчанасць // ЛіМ. 1965. 5 студз.; М і т р а х о в і ч С. Дапаможнік па тэорыі літаратуры // Наст. газ. 1965. 9 чэрв.

Тэорыя літаратуры ў школе: Дапаможнік для вучняў сярэд. школы. Мн., 1967. Рэц.: Р а з а н а ў І. Тэорыя літаратуры ў школе // Нар. асвета. 1968. № 7; П я к а р с к і А. Тэорыя літаратуры — школьнікам // ЛіМ. 1967. 24 кастр.; 2 выд. Мн., 1971. Рэц.: М і т р а х о в і ч С. І навукова, і даступна // Наст. газ. 1972. 5 студз.

Станаўленне беларускай паэмы: (Жанр паэмы і некаторыя асаблівасці развіцця бел. літаратуры ў першай палавіне XIX ст.). Мн., 1968. Рэц.: Ж у р а ў л ё ў В. Даследуецца беларуская паэма // Вяч. Мінск. 1970. 5 чэрв.; К о в а л е н к о В. Поэма — жанр ведущий // Вопр. литературы. 1971. № 4; М а л ь д з і с А. Ля вытокаў беларускай паэмы // ЛіМ. 1969. 14 студз.; С е м я н о в і ч А. Даследуецца беларуская паэма // Звязда. 1969. 25 студз.; Я р о ш М. Роздум над паэмай // Полымя. 1969. № 8.

Белорусская поэма в XIX — начале XX века: Становление жанра: Автореф. дис. ... д-ра филол. н. Мн., 1969.

Беларуская паэма ў другой палавіне XIX — пачатку XX стагоддзя. Мн., 1970. Рэц.: Ж у р а ў л ё ў В. Даследуецца беларуская паэма // Вяч. Мінск. 1970. 5 чэрв.; К о в а л е н к о В. Поэма — жанр ведущий // Вопр. литературы. 1971. № 4; М а й с е е н к а А. Панарама беларускай паэмы // Маладосць. 1970. № 10; С е м я н о в і ч А. Працяг размовы // Звязда. 1970. 27 кастр.; Ю р э в і ч У. На мяжы эпохі // Полымя. 1971. № 2; Я р о ш М. Працяг размовы // ЛіМ. 1970. 17 ліп.

Уводзіны ў літаратуразнаўства: Для філал. фак. вышэйш. навуч. устаноў. Мн., 1970 / Сааўт. А. Ленсу; 2 выд., дапрац. і дап. Мн., 1982 / Сааўт. А. Ленсу. Рэц.: Б а б и ш к и н О. Становлення білоруської поеми // Жовтень. 1971. № 4; Б у т э в і ч А. Аб беларускай паэме // Беларусь. 1970. № 11; К а с п р у к А. Поема в сучасному літературознавстві // Рад. літ.-знавство. 1972. № 5; Ц і х а н ч у к М. Доўгачаканы дапаможнік // Наст. газ. 1983. 14 мая.

Беларуская літаратура: Падручнік для 8-га кл. сярэд. школы. Мн., 1979 / Сааўт. В. Івашын. Рэц.: Г н і л а м ё д а ў У. З веданнем справы // ЛіМ. 1980. 25 студз.; Ш а ў л о ў с к а я М., М і ш ч а н ч у к М. Глыбока, доказна, зацікаўлена // Наст. газ. 1980. 27 лют.; 2 выд. Мн., 1980 / Сааўт. В. Івашын; 3 выд. Мн., 1981 / Сааўт. В. Івашын; 4 выд. Мн., 1982 / Сааўт. В. Івашын; 5 выд. Мн., 1984 / Сааўт. В. Івашын; 6 выд. Мн., 1986 / Сааўт. В. Івашын; 7 выд. Мн., 1988 / Сааўт. В. Івашын; 8 выд. Мн., 1990 / Сааўт. В. Івашын.

Часу непадуладнае: Літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Мн., 1981. Рэц.: М і ш ч а н ч у к М. Назіранні даследчыка // Наст. газ. 1982. 9 кастр.

Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў: Дапаможнік для настаўнікаў. Мн., 1983 / Сааўт. А. Ленсу. Рэц.: К р о т М. Тым, каго вабіць мастацкае слова // Наст. газ. 1983. 16 ліст.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985 / У сааўт.

Изучение русской литературы во взаимосвязи с белорусской: Пособие для учителя. Мн., 1988 / У сааўт. з В. Івашыным, А. Ленсу.

**1.3.**

**1949.** Паэзія жыцця // ЛіМ. 28 мая.

**1950.** Мастак: Байка // ЛіМ. 1 крас.; Повесть о наших современниках // Сталин. молодежь. 9 июня; Интересная и полезная книга: Заметки читателя // Там жа. 11 авг.

**1951.** Ліса: Байка // Вожык. № 3; Квактуха: Байка // Там жа. № 10; Сучаснікам: [Верш] // Полымя. № 6; Лыска і воўк: [Байка] // Чырв. змена. 7 чэрв.; Мір будзе: [Верш] // Там жа. 8 вер.

**1952.** Сасна: [Байка] // На сонечных сцежках. Мн.; Сябру ў Мелітопаль: [Верш] // Беларусь. № 11; В ногу с жизнью: [Рэц. на кн.: К і р э е н к а К. Маякі. Мн., 1952] // Сталин. молодежь. 1 июля.

**1953.** Малады будаўнік; Сябру ў Мелітопаль: [Вершы] // На сонечных сцежках. Мн.; «В добрый час» // Сталин. молодежь. 5 авг.; Книга о драматургии К. Крапивы: [Рэц. на кн.: У с і к а ў Я. Драматургія Кандрата Крапівы. Мн., 1953] // Там жа. 18 окт.

**1955.** «Іранскі дзённік» Пімена Панчанкі // Полымя. № 7.

**1956.** Паэзія Пімена Панчанкі // Панчанка П. Выбр. тв. Мн.; Некаторыя асаблівасці паэтычнага майстэрства П. Панчанкі // Уч. зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 6.

**1957.** Глубже освещать историю белорусской литературы // Сов. Бел. 25 янв. / Сааўт. М. Пятровіч; Першая кніга: [Рэц. на кн.: Н а в у м е н к а І. Семнаццатай вясной. Мн., 1957] // Маладосць. № 11; Серьезный труд по истории белорусской литературы: [Рэц. на кн.: Б а р ы с е н к а В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX века. Мн., 1957] // Там жа. 2 авг.

**1958.** Адзін верш // Маладосць. № 1; Асаблівасці жанра // ЛіМ. 14 мая; Пошукі і знаходкі // Там жа. 28 чэрв.

**1959.** Творчасць П. Панчанкі перыяду Айчыннай вайны // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн. Вып. 2.

**1961.** Разглядаючы літаратурны працэс... // ЛіМ. 10 студз.

**1962.** Шлях народнага паэта: Да 80-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 2; Шляхі беларускай паэзіі // Маладосць. № 5; Упоравень з часам: [Рэц. на кн.: Л о с ь Е. Палачанка. Мн., 1962] // Там жа. № 8.

**1963.** Гісторыка-літаратурнае значэнне паэмы «Энеіда навыварат» // Беларуская літаратура: Даследаванні. Мн. Вып. 5; Купалазнаўства ў апошнія два дзесяцігоддзі (1941—1962 гг.); Дакастрычніцкая лірыка Янкі Купалы: [Метадычныя рэкамендацыі] // Янка Купала: Семінарый. Мн.; Глыбока, пераканаўча: [Рэц. на кн.: И в а ш и н В. У истоков социалистического реализма. Мн., 1963] // ЛіМ. 13 вер.

**1967.** Паэма Я. Коласа «Сымон-музыка» // У сэрцы народным. Мн.

**1968.** Паэтычны вопыт Янкі Лучыны // Полымя. № 2; Праблемы тэорыі і сучасная проза: [Рэц. на кн.:

Дзюбайла П., Жураўлёў В., Луфераў М. Праблемы сучаснай беларускай прозы. Мн., 1967] // Там жа. № 6.

**1970.** Невычэрпная тэма: [Рэц. на кн.: У. І. Ленін і літаратура. Мн., 1970] // Звязда. 19 ліп.

**1971.** І з'явяцца новыя творы: Нататкі аб мастацкай Купаліяне // ЛіМ. 9 ліп.; У цеснай дружбе // Наст. газ. 2 кастр.; Мы и мир // Учит. газ. 30 нояб.

**1972.** «Частицей Родины себя я ощущаю»: (К 90-летию со дня рождения Янки Купалы) // Культура и жизнь. № 6; Заўсёды помніць... // Звязда. 21 ліст.; Без канікулаў // Наст. газ. 29 студз.

**1973.** «Роднай нівы я мільённая часціна...» // Народныя паэты Беларусі. Мн.; 2 выд. Мн., 1981; Воспитывать всей деятельностью вуза // Подготовка студентов к воспитательной работе в школе. Мн.; Снежань парадніў нас: [Рэц. на кн.: Панчанка П. Снежань. Мн., 1972] // Полымя. № 12; На пачатку стагоддзя: [Рэц. на кн.: Лойка А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Мн., 1972] // ЛіМ. 26 кастр.; Людзі высокай гатоўкі // Наст. газ. 14 лют.; Шчырая садружнасць // Там жа. 28 сак.; Кіраваць у пошук // Там жа. 11 ліп.; Служэнне людзям // Там жа. 25 жн.; Сувязям мацнець // Там жа. 5 снеж. / Сааўт. К. Аргеткіна.

**1974.** «І крыла дужэе ўзмах...»: [Рэц. на кн.: Лужанін М. Прага крыла. Мн., 1974] // ЛіМ. 22 снеж.; Дабрата і талент: [Рэц. на кн.: Лойка А. Шчырасць. Мн., 1973] // Наст. газ. 26 чэрв.; Першакурснік // Там жа. 18 снеж.

**1975.** Заглядваючы ў заўтра // Наст. газ. 30 жн.; Студэнт 70-х: які ён // Там жа. 8 кастр.; Педагогический всеобуч // Сов. Бел. 26 апр. / Сааўт. А. Грымаць; В сердце каждом отзовется... // Учит. газ. 17 апр.

**1976.** Главная служба жанра: Развитие современной белорусской поэмы // Коммунист Бел. № 6; Школа, літаратура, пісьменнік // Полымя. № 5; Аб вытоках і традыцыях — па-новаму: [Рэц. на кн.: КаваленкаВ. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Мн., 1975] // Наст. газ. 14 лют.; Дапамога інстытута // Там жа. 24 ліп.

**1977.** Куба — далёкая і блізкая: Нарыс // Полымя. № 2; Гістарызм як найважнейшы прынцып: [Рэц. на кн.: История белорусской советской литературы. Мн., 1977] // Там жа. № 11; Грамадзянская пазіцыя крытыка: [Рэц. на кн.: Усікаў Я. Грамадзянскае сумленне мастака. Мн., 1976] // Звязда. 26 кастр.; Паэма «Тарас на Парнасе» // Наст. газ. 6 крас.; Кафедра і выхаваўчы працэс // Там жа. 17 жн.

**1978.** Развіццё навукі аб літаратуры // Уводзіны ў літаратуразнаўства: Хрэстаматыя. Мн.; Гавана — сталіца фестывалю // Вясёлка. № 7; Прысяжны паверaны праўды // Полымя. № 1; Пра беларускае вершаскладанне: [Рэц. на кн.: Ралько І. Вершаскладанне. Мн., 1977] // Там жа. № 11; Праз наяўнасць перспектывы // Наст. газ. 22 ліп. / Сааўт. А. Грымаць.

**1979.** Сельский учебно-производственный комбинат: опыт и проблемы // Подготовка старшеклассников к труду. Мн. / Сааўт. Ф. Івашчанка; Цэнтр педагагічнай думкі: НДІ педагогікі — 50 гадоў // Нар. асвета. № 10; На новай вышыні: [Рэц. на кн.: Навуменка І. Кніга адкрывае свет. Мн., 1978] // Полымя. № 8; Служыць школе // Наст. газ. 17 кастр.

**1980.** Навуковаму пошуку — дакладную кардынацыю // Наст. газ. 22 сак.; Компас исследователя // Учит. газ. 5 февр.

**1981.** Уводзіны; Пачатковы этап станаўлення новай беларускай літаратуры; Беларуская літаратура ў сярэдзіне XIX ст. // Гісторыя беларускай літаратуры XIX — пачатак XX ст. Мн.; Уводзіны // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры 1917—1940. Мн.

**1982.** Дзве паэмы // Энеіда навыварат; Тарас на Парнасе. Мн.; «Магіла льва» як філасофская паэма // Янка Купала і Якуб Колас. Мн.; В строю самых действенных творений // Агитатор. № 20; На новыя рубяжы // Наст. газ. 4 снеж.

**1983.** Педагагічная спадчына Якуба Коласа // Разам з народам. Мн.; Навучанне літаратуры як творчасць // Полымя. № 10; Творчы пошук: [Інтэрв'ю] / Зап. Н. Ваніна // Наст. газ. 16 крас.

**1984.** Сталенне вопыту: [Інтэрв'ю] / Зап. У. Наркевіч // Звязда. 29 сак.

**1985.** Уводзіны // Гісторыя беларускай літаратуры. Мн. / Сааўт. В. Чамярыцкі; На главном направлении // Патриотическое воспитание на уроках литературы и во внеклассной работе. М.; Патрабуецца творчасць // Звязда. 8 студз.; У арсенал асветнікаў // Наст. газ. 30 студз.

**1.5.**

**На англійскую мову.** «I feel I am part of my country dear...» // National Poets of Byelorussia. Mn., 1973; National Poets of Byelorussia Yanka Kupala and Yakub Kolas. Mn., 1981.

**На нямецкую мову.** Als Teil der Heimat fühl' ich mich...: Zur 90. Wiederkehr d. Geburtstags Janka Kupala // Kultur Leben. 1972. Nr. 6; Seine größte Leidenschaft war der Kampf: Zum 100. Geburtstag des belorussischen Volksdichters Janka Kupala // Presse der Sowjetunion. 1982. Nr. 13.

**На французскую мову.** «Je fais partie de ma patrie» // Poèts nationaux de la Biélorussie. Mn., 1973.

**1.6.**

Уводзіны ў літаратуразнаўства: Хрэстаматыя [Для філал. фак. ВНУ БССР]. Мн. 1978 / Скл. з М. Мішчанчуком, М. Шаўлоўскай. Рэд.; 2 выд., дапрац. і дап. Мн., 1991.

НИИ педагогики. Минск. Научно-исследовательский институт педагогики Белорусской ССР (1929—1979). Мн., 1979 / Рэд. з інш.

Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.: Падручнік для філал. фак. пед. ін-таў. Мн., 1981 / Рэд. з А. Семяновіч.

Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, 1941—1980: Падручнік для філал. фак. пед. ін-таў / Рэд. з А. Семяновіч.

Адзінства навучання і выхавання на ўроках літаратуры: Тэмат. зб. навук. прац. Мн., 1982 / Рэд.

Выкладанне беларускай мовы і літаратуры. Мн., 1983 / Рэд.

Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, 1941—1980: Падручнік для філал. фак. пед. ін-таў БССР. Мн., 1983 / Рэд. з А. Семяновіч.

Шляхі ўдасканалення літаратурнай адукацыі ў школе: Зб. навук. прац. Мн., 1983 / Рэд. з А. Ленсу.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985 / Рэд.

Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. Мн., 1985 / Рэд. з А. Семяновіч.

Методыка аналізу літаратурнага твора ў школе: Зб. навук. прац. Мн., 1985 / Рэд.

Патриотическое воспитание на уроках литературы и во внеклассной работе. М., 1985 / Рэд.

Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986 / Рэд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бойка У. Шлях да ісціны // Наст. газ. 1975. 22 ліст.; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 129—132; Падгайскі Л. Шчасце ў працы // Наст. газ. 1976. 3 ліп.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Пшыркоў Ю. Летапісец свайго народа. Мн., 1982. С. 116—118; Семяновіч А., Мішчанчук М. Нястомны працаўнік асветы // ЛіМ. 1976. 2 ліп.; Шкраба Р. Пра спецыфіку літаратуры // Полымя. 1984. № 5.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЛАМАН ПЁТР



*Ламан Пётр Аляксандравіч (н. 11.7.1949, в. Маласельцы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.), паэт, празаік, акцёр. Член СП Беларусі з 1983.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1966 скончыў Ярэміцкую сярэднюю школу, працаваў трактарыстам у калгасе імя Чарняхоўскага ў сваім раёне. У 1967 паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Пасля яго заканчэння ў 1971 прыняты акцёрам у Беларускі тэатр імя Я. Коласа (Віцебск).

Першы верш надрукаваны ў 1970 у газеце «Чырвоная змена». Падборка вершаў «Споведзь агню» ўвайшла ў калектыўны зборнік «Нашчадкі». Вершы П. Ламана друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь», газеце «Літаратура і мастацтва», зборніках «Дзень паэзіі». Аўтар кніг вершаў «Зерне імгненняў», «Стары млын» і аповесцяў «Астравы». Творчасць П. Ламана суаднесена з уласным жыццёвым вопытам. Апяванне хараства роднай зямлі, спадзяванні, трывогі і клопат сучасніка, які адчувае сваю непарыўную сувязь з зямлёй, назіральнасць, уменне сказаць вобразна пра вядомае, адкрыць прыгожае ў звычайным, будзённым, псіхалагічная дакладнасць пачуццяў, выразнасць малюнка — такія асноўныя рысы яго паэзіі і прозы.

Жыве ў Віцебску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Зерне імгненняў: Вершы. Мн., 1983. Рэц.: Кавалёў С. Песня, якая плыве // ЛіМ. 1984. 20 ліп.; Навумчык С. У кожным імгненні — сэнс // Віцеб. рабочы. 1984. 21 сак.

Стары млын: Вершы. Мн., 1988.

Астравы: Аповесці. Мн., 1989.

**1.3.**

**1970.** Рабіны: [Верш] // Чырв. змена. 18 кастр.

**1971.** Ноч: [Верш] // Віцеб. рабочы. 4 снеж.; «...Як жа ты вырас...»; «Ты ведаеш, што столькі год жыву чаканнямі сустрэч...»: [Вершы] // Знамя юности. 12 марта.

**1973.** Айчына: [Верш] // Чырв. змена. 29 крас.; «Паласкала матуля...»; «Вяселле гуло на ўсю вёску...»; Падсечаны бор; Калыханка: [Вершы] // Там жа. 3 чэрв.

**1974.** «Паласкала матуля...»: [Верш] // Знамя юности. 18 апр.; Край мой крынічны: [Верш] // Там жа. 10 сент.; Смага: [Верш] // Чырв. змена. 21 ліп.

**1975.** Айчына: [Верш] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; «Хацелася б пакласці...»; «Да паўдня гаравала маці...»; «Зрабіўшы ласку...»; «Вечна дзявочая постаць жыцця...»: [Вершы] // Маладосць. № 2.

**1976.** Яшчэ адна вясна; Вырай; «Ах, які цудоўны вечар!..»: [Вершы] // ЛіМ. 9 крас.

**1977.** «Ідуць камбайны...»; «Галубіная ноч...»; Сустрэча; «Вятрыскам скалануўшы сонны одум...»; «Мой сябрук, мой дарадчык...»: [Вершы] // Маладосць. № 3; Ідуць камбайны; Завіруха; Ачышчэнне: [Вершы] // Полымя. № 12.

**1979.** Высокі бераг; «Ручаямі вуліц і завулкаў...»; «Са змроку выплыў жураўліны клін...»; Прасёлак; «Складаюць апошнія копы...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 79. Мн.; Споведзь агню: [Цыкл вершаў] // Нашчадкі. Мн.; Музыка Фадзей: [Верш] // Віцеб. рабочы. 16 чэрв.; «Маленькая сенажаць...»: [Верш] // Там жа. 28 жн.; Айчына: [Верш] // Чырв. змена. 1 мая.

**1980.** «Зноў вясна празрыстым птахам...»; «Дрыготкі цуд пявучай цішыні...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 80. Мн.; Родны дом; «Над імшарай крычаць журавы...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 18 ліст.

**1981.** Стары млын; «Рэкі Радзімы цякуць у акіян...»; «Паласуй, навальніца...»; «Няхай палае чарнакрылы вецер...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 31 снеж.; «Паласкала матуля...»; Родны дом: [Вершы] // Чырв. змена. 9 кастр.

**1982.** Каложа: [Верш] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Белы дождж; «Шырэюць дарогі...»: [Вершы] // Чырв. змена. 11 снеж.

**1983.** Астравы: Аповесць // Маладосць. № 3. Рэц.: Клямята С. Паэтыка прыгажосці // Віцеб. рабочы. 1983. 10 ліст.; Далёкі бераг; «Мяцеліца змроку...»; «Дзед надламаную гольку...»; «Дагарае ночы зорны прысак...»: [Вершы] // Віцеб. рабочы. 2 крас.; Гаючыя дарогі: [Верш] // Там жа. 22 ліст.; Купалле; «Курганы на Беларусі»; Браслаўшчына; «Абложны дождж»; «Рэчка... Цяпельца... Золак»; «Над галавой гайдаецца бяроза»: [Вершы] // ЛіМ. 27 мая.

**1984.** Стары млын: [Верш] // Дзень паэзіі — 84. Мн.

**1985.** Дажынкі; «Цёплыя далоні...»: [Вершы] // Беларусь. № 4.

1.5.

**На рускую мову.** «Поезда покидают перроны...»: [Верш] / Пер. В. Липневич // Неман. 1980. № 9.

2.3.

**На беларускай мове.** [Біябібліяграфічная даведка] // Нашчадкі. Мн., 1979; Скрыган Я. Вашаю моваю лёгка тварыць характары // Скрыган Я. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1985. Т. 2.

**На рускай мове.** Тычина М. Притяжение реальности // Неман. 1984. № 8. *Я. А. Гараднiцкі.*

# ЛАПО ДЗМІТРЫЙ

*Лапо Дзмітрый Еўдакімавіч (крыпт. Л-о; кастр. 1861, г. Беліца Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер у межах Гомеля — люты 1936, Краснаярск), пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік народніцкага рэвалюцыйнага руху. Пісаў на рускай мове.*

Па бацькоўскай лініі паходзіў з мяшчан Беліцы (прадмесце Гомеля), па маці — з сялян. Рана страціў бацьку. Неўзабаве маці выйшла замуж за рабочага гомельскага цукровага завода, і сям'я пераехала ў Гомель. У гады вучобы ў Гомельскай прагімназіі Д. Лапо зблізіўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю. З 3-га класа быў удзельнікам тайных гурткоў самаразвіцця, прапагандаваў антыўрадавыя ідэі сярод рабочых. З 1879 ён вучыўся ў Кіеўскай гімназіі, вылучаўся сярод навучэнцаў актыўнасцю і сталасцю. Нейкі час быў старшынёй аб'яднанага камітэта рэвалюцыйных груп сярэдніх навучальных устаноў Кіева. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта. Быў актыўным членам кіеўскай групы нарадавольцаў, уваходзіў у «тэхнічную» падгрупу, якая займалася справамі падпольнай друкарні. Прыязджаючы дамоў, вёў агітацыю сярод рабочых у Гомелі і ў вёсках. У 1885 арыштаваны ў Гомелі і сасланы ў Табольскую, потым у Енісейскую губерні. У ссылцы пачаў пісаць свае апавяданні з беларускага жыцця, дзе выкарыстаў уражанні дзяцінства і юнацтва.

Яго літаратурны дэбют адбыўся ў 1888 — апавяданнямі «Стукачка на р. Сожы» і «Патап і Цяроха» (пад крыпт. Л-о). Пасля заканчэння тэрміну ссылкі (1890) вярнуўся ў Гомель і ўключыўся ў работу па ўзнаўленні мясцовых нарадавольніцкіх арганізацый. У 1892 пасяліўся ў г. Чыстапалі Казанскай губ., займаўся там прыватнай адвакатурай, служыў сакратаром гарадской управы, выдаў кнігу па гісторыі Чыстапаля. У 1896 па ўласнай ініцыятыве пераехаў на жыццё ў Сібір, пасяліўся ў Краснаярску. Праз 2 гады вытрымаў экзамен на званне юрыста ў Казанскім універсітэце. У 1900 атрымаў месца міравога суддзі пры Краснаярскім акруговым судзе з адкамандзіраваннем у Мінусінск, дзе пражыў 3 гады. У 1903 вярнуўся ў Краснаярск, працаваў міравым суддзёй, членам, потым пракурорам акруговага суда. У Сібіры актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, быў гарадскім сакратаром і гласным думы ў Краснаярску. З 1898 супрацоўнічаў у многіх сібірскіх газетах, дзе пад псеўданімамі Кама, Кантыграў, Некарэспандэнт, Павел Ачкоў змяшчаў публіцыстычныя артыкулы і допісы. Як член, а потым старшыня вучылішчнай камісіі пры Краснаярскай гарадской управе шмат зрабіў для развіцця ў горадзе асветы, марыў аб увядзенні ў Краснаярску ўсеагульнай адукацыі. Займаўся педагагічнай дзейнасцю — выкладаў гісторыю і заканадаўства ў мясцовай гімназіі і гандлёвай школе. Па яго ініцыятыве быў адкрыты Марцьянаўскі дзіцячы прытулак. Узімку 1901—02 актыўна дапамагаў галадаючаму насельніцтву Мінусінскай акругі, быў членам камітэта Мінусінскага музея. Прымаў удзел у падзеях 1905 у Краснаярску. Належаў да буржуазна-ліберальнай партыі кадэтаў, прымыкаў да т. зв. «абласнікоў». Вывучаў побыт і норавы карэннага сібірскага насельніцтва, адстойваў яго правы, прапанаваў стварыць у Томскім універсітэце кафедры стэпавога права і цюрка-мангольскіх гаворак, адкрыць шлях качавым народам да асветы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўключыўся ў культурнае будаўніцтва ў Сібіры, у 1923 склаў асноватворныя дакументы, якія вызначылі нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва народнасцей енісейскай Поўначы. Працу юрыста сумяшчаў з выкладчыцкай работай у Краснаярскім тэхнікуме. Захапляўся краязнаўствам, выступаў з дакладамі ў Сярэдне-Сібірскім аддзеле Рускага геаграфічнага таварыства (быў яго старэйшым членам), з лекцыямі ў рабочых клубах Краснаярска.

Асноўнае месца ў творчай спадчыне Д. Лапо займае зборнік «Беларускія апавяданні». Ва ўключаных у яго творах праўдзіва, з дэмакратычных пазіцый паказана цяжкае жыццё сялян Пасожжа («На канікулах», «Дурань парабак і мудры пан»), выкарыстаны гомельскія паданні («Легенда пра замак»), апісаны народныя заняткі, звычаі («Стукачка на р. Сожы», «Святы вечар»). Некаторыя сюжэты ўзяты з арыштанцкага побыту («Патап і Цяроха»). Д. Лапо пісаў на рускай мове, але як аўтар «Беларускіх апавяданняў», дзе шырока выкарыстаны беларускі фальклор, народная лексіка, прычыніўся да мастацкага пазнання Беларусі, да развіцця яе літаратуры. *Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія

1.2.

Белорусские рассказы. Казань, 1895.

Город Чистополь накануне реформы 17 июня 1870 г. Казань, 1897.

Общественное управление минусинских инородцев. Томск, 1904.

Преступление и наказание по степовому праву Сибирских кочевых инородцев. Красноярск, 1905.

О введении всеобщего образования в Красноярске. [Красноярск], 1909.
1.3.
**1888.** Потап и Цероха: Рассказ // Северо-Западный календарь на 1888 г. М.; Стукачка на р. Соже: Рассказ // Мин. листок. № 63—66 / Пад крыпт. Л-о.
2.3.
**На беларускай мове.** П ш ы р к о ў Ю. Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў). Мн., 1960. С. 10—11; Х р о м ч а н к а К. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1979. С. 19—21.
**На рускай мове.** К у з н я е в а С. Судьба автора «Белорусских рассказов» // Неман. 1986. № 12.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЛАРЧАНКА МІХАСЬ



*Ларчанка Міхась [Міхаіл Рыгоравіч; псеўд. М і х а с ь В і с а ж а р, М. Ч а б о р, М. С в я т л а н і н; крыпт. М. Л.; 1(14).11.1907, в. Хварасцяны Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Слаўгарадскі р-н Магілёўскай вобл.— 31.7.1981, Мінск; пахаваны на Паўночных могілках], літаратуразнавец, крытык. Член СП Беларусі з 1939. Доктар філалагічных навук (1956), прафесар (1957). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1971).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Азарыцкай пачатковай школе. Працягваць вучобу далей не мог з-за беднасці. Працаваў на гаспадарцы, з вялікім душэўным гарэннем аддаўся грамадскай працы. У 1922 стаў першым камсамольцам у сваёй вёсцы. У 17 гадоў паступіў у Княжыцкую школу сялянскай моладзі (Магілёўскі р-н), дзе многа чытаў, спрабаваў пісаць вершы, загадваў школьнай бібліятэкай, удзельнічаў у самадзейнасці. Скончыўшы школу, паступіў у Магілёўскі педтэхнікум. У 1929 з 2-га курса тэхнікума перайшоў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ. Свае вершы друкаваў у газетах «Чырвоная Беларусь», «Піянер Беларусі». У 1932 датэрмінова закончыў крытычна-творчую секцыю літфака Беларускага Вышэйшага педінстытута, арганізаванага на базе педфака БДУ. У 1932—35 вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1936 абараніў кандыдацкую дысертацыю «Лірыка Якуба Коласа». Працаваў у гэтым жа інстытуце старшым навуковым супрацоўнікам (1935—41), чытаў лекцыі ва універсітэце. Член КПСС з 1941. З першых дзён вайны ваяваў на Бранскім фронце. У 1942 цяжка паранены, у 1943 дэмабілізаваны і вярнуўся ва універсітэт, які ў час вайны знаходзіўся на ст. Сходня пад Масквой. З 1944 у Мінску. Працаваў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры (1943—52, 1955—71), дэканам філфака (1944—52; адначасова быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР). Вучыўся ў дактарантуры Інстытута сусветнай літаратуры імя М. Горкага АН СССР (1952—55). Чытаў лекцыі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім (1958) і Сафійскім (1960) універсітэтах.

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Як паэт дэбютаваў у 1930, як крытык у 1932 (першы артыкул, прысвечаны Віцебскай філіі «Маладняка», надрукаваны ў газеце «Віцебскі пралетарый»). Апублікаваў каля 180 літаратуразнаўчых прац, артыкулаў і рэцэнзій. У манаграфіях «На шляхах да рэалізма» і «Па шляху рэалізма» даследаваў праблемы станаўлення і развіцця рэалізму ў беларускай літаратуры 19 — пачатку 20 ст. У даследаванні «Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст.», зборніках артыкулаў «Славянская супольнасць», «Яднанне братніх літаратур» аналізаваў гістарычныя карэнні ўзаемасувязей беларускай літаратуры з славянскімі літаратурамі. Займаўся пытаннямі старажытнай беларускай літаратуры і фальклору, традыцый і наватарства. Даследаваў творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Панчанкі і інш. Складальнік хрэстаматыі для сярэдняй школы «Родная літаратура», адзін з аўтараў дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры», «Беларуская вуснапаэтычная творчасць», «Старажытная беларуская літаратура», «Беларуская народна-паэтычная творчасць».

*М. Р. Міхайлаў.*

**1.2.**

Творчасць Максіма Багдановіча: Стэнаграма публічнай лекцыі, прачытанай у г. Мінску. Мн., 1949.

А. М. Горкі і беларуская літаратура: Стэнаграма публічнай лекцыі, прачытанай у г. Мінску. Мн., 1951.

Гогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры: Стэнаграма публічнай лекцыі, прачытанай у г. Мінску. Мн., 1952.

Становление и развитие реализма в белорусской литературе XIX века: Автореф. дис. ... д-ра филол. н. Мн., 1955.

На шляхах да рэалізма. Мн., 1958. Рэц.: Майхровіч С. Цікавае літаратуразнаўчае даследаванне // Звязда. 1959. 13 сак.; Макарэвіч А. Важная праблема літаратуразнаўства // ЛіМ. 1958. 23 ліп.; Усікаў Я. Каштоўнае даследаванне // Маг. праўда. 1959. 10 лют.; Яго ж. Новая літаратурная праца // Полымя. 1958. № 11; Цішчанка І. На шляхах да рэалізма // Беларусь. 1959. № 4.

Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст. Мн., 1958. Рэц.: Пётух А. Важная праблема і яе вырашэнне // ЛіМ. 1959. 21 сак.

Па шляху рэалізма: Развіццё рэалізма ў беларускай літаратуры дакастрычніцкай пары. Мн., 1959. Рэц.: Макарэвіч А. Працяг ранейшай тэмы // ЛіМ. 1960. 2 сак.

Славянская супольнасць. Мн., 1963. Рэц.: Александровіч С. Славянская супольнасць // ЛіМ. 1963. 17 вер.; Есакоў А. Літаратурная славянская супольнасць // Чырв. змена. 1964. 17 чэрв.

Старажытная беларуская літаратура: Вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ. Мн., 1968 / Сааўт. П. Ахрыменка. Рэц.: Усікаў Я. Дапаможнік па літаратуры // Полымя. 1969. № 7; Яго ж. Для студэнтаў і настаўнікаў // Маг. праўда. 1969. 16 жн.

Яднанне братніх літаратур. Мн., 1974. Рэц.: Короткая Л. С позиций сегодняшнего дня // Неман. 1975. № 4; Хромчанка К. У сям'і славян // ЛіМ. 1974. 6 вер.; Яфімава М. Садружнасць літаратур // Беларусь. 1975. № 5; Rahojsza W. // Sl. Orient. 1977. Nr. 3.

Жывая спадчына. Мн., 1977. Рэц.: Жыгоцкі М. З увагай да спадчыны // Звязда. 1977. 16 чэрв.; Яго ж // ЛіМ. 1977. 29 крас.; Яго ж. Кніга пра спадчыну // Беларусь. 1978. № 1.

Літаратурнае пабрацімства славян: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1984. Рэц.: Янаў В. // ЛіМ. 1984. 13 крас.

**1.3.**

**1930.** У спевах машын: [Верш] // Чырв. Бел. № 7/ Пад псеўд. М. Вісажар; У спевах Кастрычніка: [Верш] // Піянер Бел. 5 ліст. / Пад псеўд. М. Вісажар.

**1931.** Голас на пераклічцы: [Урывак з паэмы] // Чырв. змена. 26 лют. / Пад псеўд. Міхась Вісажар; У. Маякоўскаму: [Верш] // Там жа. 14 крас. / Пад псеўд. Міхась Вісажар; У рабселькораўскім маршы: [Верш] // Там жа. 23 кастр. / Пад псеўд. Міхась Вісажар.

**1932.** Літаратурны шлях віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў // Віцеб. пралетарый. 7 сак.

**1933.** Пра творчую перабудову П. Глебкі // Полымя рэвалюцыі. № 10; Памылкі і недахопы т. Модэля // За пралет. н. 10 ліст.; Пра добрую кнігу паэзіі і дрэнны мастацкі пераклад // ЛіМ. 31 кастр.

**1934.** Пра драму «Вайна да пабеднага канца» Якуба Коласа // Драматургія. Мн.; Кніга рэвалюцыйнай пралетарскай паэзіі: [Рэц. на кн.: Гідаш А. Венгрыя спраўляе ўрачыстасць. Вершы. Мн., 1933] / Пад крыпт. М. Л.; Аўладаць мастацкім паказам рэчаіснасці: [Рэц. на кн.: Шаповалов М. Ян Рэндзя. Поэма-повесть. Мн., 1932] // Крытыка-бібл. зб. Мн.; Паэзія бальшавіцкай маладосці: [Рэц. на кн.: Ушакоў А. Праца і маладосць. Мн., 1933] // Крытыка-бібл. бюл. № 1—2; Першы камсамольскі літаратурны альманах // Там жа. № 6; Аб новым выданні «Новай зямлі» Коласа і прадмове паэта: [Рэц. на кн.: Колас Я. Новая зямля. 3 выд. Мн., 1934] // Там жа. № 7; Авалодаць мастацкім майстэрствам: [Рэц. на кн.: Шынклер Х. Запіскі інструктара Томана. Мн., 1934] // Там жа. № 8; Перамагчы творчыя недахопы: [Рэц. на кн.: Мікуліч Б. Дужасць. Мн., 1934] // Там жа. № 10; Праверыць якасць усвоення новага беларускага правапіса // За пралет. н. 11 сак.; Пра нацдэмаўскае ахвосце на старонках «Полымя рэвалюцыі» // ЛіМ. 20 студз.; Пра паэзію ў «Полымі рэвалюцыі» // Там жа. 12 лют.; Першы вытап // Там жа. 16 лют.; Пра драму Я. Коласа «Вайна да пабеднага канца» // Там жа. 12 сак.; Аб перакладах паэтычных твораў // Там жа. 28 мая; За вывучэнне паэтычнай спецыфікі: [Рэц. на кн.: Александровіч А. Выбр. тв. Мн., 1934] // Там жа. 15 ліст.

**1937.** Памылкі, што мяжуюць са злачынствам // ЛіМ. 24 чэрв.; Шкодныя хрэстаматыі // Там жа. 23 вер.; Горький и белорусский народ // Рабочий. 18 июня; Обломовщина и бухаринско-троцкистская клевета на народы СССР // Там жа. 30 июня; Сатыра Пушкіна // Чырв. змена. 15 лют.

**1938.** Паэтычныя асаблівасці лірыкі Якуба Коласа // Полымя рэвалюцыі. № 1; Аб некаторых пытаннях падручніка па беларускай літаратуры // Звязда. 10 жн.; Аб рамане «Будучыня» Э. Самуйлёнка // Там жа. 30 жн.; Някрасаўскія матывы ў творчасці Я. Купалы і Я. Коласа // ЛіМ. 10 студз.; Да пытання аб гісторыі старажытнай і пачатку новай беларускай літаратуры // Там жа. 10, 16 лют.; Сталін у беларускай савецкай паэзіі // Там жа. 22 сак.; Горкі і беларуская літаратура // Там жа. 27 сак.; Тэма пралетарскага інтэрнацыяналізма ў беларускай савецкай паэзіі // Там жа. 1 мая; Аб паэме А. Куляшова «У зялёнай дуброве» // Там жа. 11 кастр.; Першыя помнікі новай беларускай літаратуры: («Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе») // Там жа. 23 кастр.; Маяковский детям // Сталин. молодежь. 20 июля.

**1939.** Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX стагоддзя // Калоссе. № 3 / Сааўт. Л. Фіглоўская; Заходняя Беларусь у савецкай паэзіі // Звязда. 30 вер.; Сялянскае жыццё і вобразы паноў у творчасці Ф. Багушэвіча // ЛіМ. 9 лют.; Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX стагоддзя / Сааўт. Л. Фіглоўская; Пад жыватворчым уплывам Шаўчэнкі // Там жа. 9 сак.: Паэмы вялікай мастацкай сілы: Пра «Новую зямлю» і «Сымона музыку» Я. Коласа // Там жа. 11 чэрв.; Творчасць Максіма Багдановіча // Там жа. 11 жн.; Аб новых ананімных паэмах беларускай літаратуры XIX стагоддзя: («Панская ласка» і «Васкрасенне Хрыстова») // Там жа. 21 вер.; Горький и культура белорусского народа // Сов. Бел. 24 июня.

**1940.** Творчасць М. А. Багдановіча // Багдановіч М. Выбр. тв. Мн.; Ф. К. Багушэвіч // Багушэвіч Ф. Выбр. тв. Мн.; Апавяданні Ядвігіна Ш. // Ядвігін Ш. Апавяданні. Мн.; Патрыятычная тэма ў творчасці Янкі Купалы // Полымя. № 7—8; Да 100-годдзя з дня нараджэння Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 1 сак.; Асноваположнік беларускай літаратуры: (Да 100-годдзя з дня нараджэння Ф. К. Багушэвіча) // Там жа. 22 сак.; Чырв. змена. 1 сак.; На радзіме Ф. К. Багушэвіча // Звязда. 26 вер.; Супроць пошласці // Там жа. 4 кастр.; Сатыра Я. Купалы // Там жа. 8 снеж.; Эстэтычныя погляды Ф. К. Багушэвіча // ЛіМ. 3 сак.; Сатыра і гумар Ф. Багушэвіча // Там жа. 23 сак.; Янка Купала // Піянер Бел. 8 снеж.; Мицкевич и белорусская литература // Сов. Бел. 26 нояб.; Горкі і беларуская літаратура // Чырв. змена. 18 чэрв.; Камсамольскі гарт юначы... // Там жа. 8 снеж.; На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы // Там жа. 11 снеж.

**1941.** Цётка (Алаіза Пашкевіч) // Цётка. Выбр. тв. Мн.; [Рэц. на кн.: Бядуля З. Хлопчык з-пад Гродна. Мн., 1940] // Полымя. № 1; Творчасць Цёткі // Там жа. № 2; Францыск Скарына // Звязда. 11 студз.; Алаіза Цётка: (Да 25-годдзя з дня смерці) // Там жа. 5 лют.; Читайте эти стихи // Сталин. молодежь. 14 янв.; Пясняр народа // Чырв. змена. 23 сак.

**1943.** Душа народа // Сав. Бел. 26 чэрв.

**1944.** Вялікі асветнік // Беларусь. № 1; Гераічны эпас нашых дзён: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Янук Сяліба. М., 1943] // Там жа. № 2; Паэзія любві і помсты: [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. Дарога вайны. М., 1943] // Там жа. № 3; Песні помсты і гневу: [Рэц. на кн.: М а ш а р а М. Беларусі. Мн., 1944] // Там жа. № 6; Крылоў і беларуская літаратура // Звязда. 24 ліст.; Четверть века белорусской советской литературы // Лит. и искусство. 1 янв.

**1945.** Першы вялікі нацыянальны паэт // Беларусь. № 1; Пятрусь Броўка / Пад псеўд. М. Чабор; Першыя помнікі новай беларускай літаратуры: «Энеіда навыварат» // Там жа. № 2; Партызанская лірыка: [Рэц. на кн.: А с т р э й к а А. Крамлёўскія зоры. Мн., 1945] / Пад псеўд. М. Чабор; Першыя помнікі новай беларускай літаратуры: «Тарас на Парнасе» // Там жа. № 3; Вершы пра Айчынную вайну: [Рэц. на кн.: Л у ж а н і н М. Шырокае поле вайны. Мн., 1945] / Пад псеўд. М. Чабор; Творчасць Алеся Гаруна // Там жа. № 5; Паэма пра бяссмерце: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў А. Прыгоды цымбал. Мн., 1945] / Пад псеўд. М. Чабор; Янка Купала — вялікі асветнік // Там жа. № 6; Аповесць пра народных мсціўцаў: [Рэц. на кн.: Г у р с к і І. Лясныя салдаты. Мн., 1945] // Там жа. № 7—8; Ранак ідзе: [Рэц. на кн.: К і р э е н к а К. Ранак ідзе. Мн., 1945] // Там жа. № 11—12; Апавяданні жыццёвай праўды / Пад псеўд. М. Святланін; Іван Андрэевіч Крылоў // Полымя. № 1; Апавяданні пра душу простага чалавека; У. У. Маякоўскі //Там жа. № 4; Патрыятычная тэма ў творах Янкі Купалы // Там жа. № 7—8; [Рэц. на кн.: М а ш а р а М. Выбраная лірыка. Мн., 1945] // Там жа. № 11—12; Народны паэт // ЛіМ. 1 чэрв.; Белорусская литература в Великую Отечественную войну // Сталин. молодежь. 2 сент.; Паэт-патрыёт // Чырв. звязда. 1 ліп.

**1946.** Апавяданні Ядвігіна Ш. // Ядвігін Ш. Апавяданні. Мн.; Лірыка Змітрака Бядулі // Беларусь. № 3; Мастацкая проза перыяду Вялікай Айчыннай вайны // Там жа. № 5—6 / Сааўт. У. Агіевіч; Змітрок Бядуля: (Да 60-годдзя з дня нараджэння) // Звязда. 23 крас.; Горький и белорусская литература // Сов. Бел. 16 июня.

**1947.** Максим Богданович: К 30-летию со дня смерти // Сов. Бел. 25 мая.

**1948.** Народны паэт: Да 6-й гадавіны з дня смерці Я. Купалы // За Радзіму. 29 чэрв.; Максім Горкі і беларуская літаратура // Зара. 2 крас.

**1949.** [Слова на пленуме ССПБ, прысвечаным пытанням крытыкі] // ЛіМ. 15 кастр.

**1950.** Заснавальнікі крытычнага рэалізму // Беларусь. № 5; Поэт-демократ // Известия АН БССР. № 3; Жыватворчы ўплыў // Звязда. 14 крас.; Паэзія шырокіх даляглядаў // ЛіМ. 20 мая; Аб паэме Максіма Лужаніна «Кладкі Градоўскага» // Там жа. 15 ліп.; Вялікі помнік літаратуры // Там жа. 16 снеж.

**1951.** Паэзія барацьбы за шчасце, за мір: [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. За шчасце, за мір. Мн., 1950] // Беларусь. № 4; Янка Купала і беларуская паэзія // Там жа. № 6; Паэтычная творчасць Пімена Панчанкі // Полымя. № 7; З гісторыі руска-беларускіх літаратурных сувязей: «Слова аб палку Ігаравым» і беларуская літаратура // Уч. зап. БГУ [спецвыпуск да 30-годдзя ун-та]; Друг і настаўнік беларускіх пісьменнікаў // ЛіМ. 16 чэрв.; Горкі і беларускія пісьменнікі // Мін. праўда. 17 чэрв.

**1952.** Янка Купала і Максім Горкі // Беларусь. № 6; Н. В. Гоголь и белорусская литература // Известия АН БССР. № 2; Народны паэт Беларусі // Камуніст Бел. № 11; М. В. Гогаль і беларуская літаратура // Звязда. 22 лют.; Якуб Колас і руская класічная літаратура // Там жа. 13 ліст.; Класік беларускай літаратуры // Калг. праўда. 25 мая; Традыцыі вялікай рускай літаратуры ў творчасці Я. Купалы // Там жа. 5 ліп.; Гогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры // Мін. праўда. 4 сак.; Народны паэт // Наст. газ. 10 ліп.; Горьковские мотивы в творчестве Янки Купалы // Сов. Бел. 4 июля.

**1953.** Ф. Богушевич // Богушевич Ф. Избранное / С бел. М.; Горкі і беларуская культура // Беларусь. № 3; Янка Купала і Тарас Шаўчэнка // Полымя. № 6; Максім Горкі і Янка Купала // Наст. газ. 2 крас.

**1954.** Зборнік вершаў Я. Аношкі: З архіўных матэрыялаў // ЛіМ. 17 ліп.; О литературной критике и литературоведении // Сов. Бел. 10 авг.

**1955.** Янка Купала і Тарас Шаўчэнка // Янка Купала. Мн.; Аб некаторых праблемах рэалізма ў творчасці Ф. Багушэвіча // Полымя. № 12.

**1956.** Літаратура першай палавіны XIX ст. (Уступ); Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына // Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мн.; Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры //ЛіМ. 17 ліст.

**1957.** Аб характары рэалізма ў фальклоры // Полымя. № 3; Неразрывные связи: (О русско-белорусском литературном единении во второй половине XIX века) // Сов. Отчизна. № 3; К вопросу о русско-белорусском литературном единении в 50—90 годах XIX в. // Уч. зап. БГУ. Серия филол. Вып. 39; Пачынальнік новай беларускай літаратуры // ЛіМ. 21 снеж.

**1958.** Да землякоў // За вярт. на Радзіму. № 98; Творчыя сувязі // ЛіМ. 30 жн.

**1959.** Па шляху сацыялістычнага рэалізма // ЛіМ. 14 студз.

**1960.** Братэрская дружба: Нататкі аб паездцы ў Польшчу // Голас Радзімы. № 32; Заснавальнік рэалізма // ЛіМ. 19 сак.; Слова ў спрэчках: Да пытання перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры // Там жа. 11 кастр.

**1961.** Великое творческое единение // Сов. Бел. 11 авг.

**1962.** Гордасць народа // Мін. праўда. 6 ліп.

**1963.** Пясняр яднання народаў // Полымя. № 6.

**1964.** Тарас Шаўчэнка і Янка Купала // Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн.; Віцеб. рабочы. 7 сак.; Яго магутны ўплыў // Наст. газ. 14 кастр.

**1965.** Заўвагі на палях (Пра некаторыя пытанні гісторыі беларускай савецкай літаратуры) // Полымя. № 7.

**1966.** Прадмова; Развіццё беларускай фалькларыстыкі / Сааўт. В. Бандарчык; Песні і частушкі савецкай эпохі / Сааўт. П. Ахрыменка; Заключэнне // Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мн. Рэц.: Ц а р а н к о ў Л. Творчасць народа // Беларусь. 1967. № 3; Шлях да мэты // Пра час і пра сябе. Мн.

**1967.** Праблема вывучэння ўзаемасувязей беларускай літаратуры з літаратурамі славянскіх народаў // Тыпалогія і гісторыя славянскіх моў і ўзаемасувязі славянскіх літаратур. Мн.; А выхаванне эстэтычнае? // Наст. газ. 11 кастр.

**1968.** А. М. Горкі і культура беларускага народа // М. Горький и вопросы литературы. Мн.; М. Горкі і культура беларускага народа // Максім Горкі і Беларусь. Мн.; Исследования по истории белорусской литературы: [Рэц. на кн.: Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1] // Коммунист Бел. № 11; Ён адкрываў нам новы свет // Заря. 16 марта; Мін. праўда. 27 сак.

**1969.** Тарас Шаўчэнка і Якуб Колас // Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі па вывучэнню беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязей. Гомель; Ленин и вопросы перевода // Веснік БДУ. Сер. 4. № 3 / Сааўт. Л. Трохан; Великий русский баснописец и белорусская литература // Гомел. праўда. 13 лют.; Заря. 13 февр.

**1970.** Эстэтычныя ідэі Леніна і беларуская літаратура // Веснік БДУ. Сер. 4. № 2; Фольклорные традиции в белорусской поэзии: [Рэц. на кн.: Г р ы н ч ы к М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн. 1969] // Вопр. литературы. № 10; Святло яго ідэй // Вяч. Мінск. 8 студз.

**1971.** Песня маладосці: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.; Развіццё літаратуразнаўства БДУ // Веснік БДУ. Сер. 4. № 2; На современном уровне: [Рэц. на кн.: Ч а м я р ы ц к і В. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969] // Вопр. литературы. № 2; «Зорка зорцы голас падае...»: [Рэц. на кн.: Л е р м а н т а ў М. Выбр. паэзія. Мн., 1969] // Неман. № 1; Удача исследователя: [Рэц. на кн.: П о д о к ш и н С. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII вв.). Мн., 1970] // Там жа. № 12; Выдатны паэт і грамадзянін //



*Лаўшук Сцяпан Сцяпанавіч (н. 28.7.1944, г. п. Васілевічы Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.), крытык, літаратуразнавец. Член СП Беларусі з 1982.*

Нарадзіўся ў рабочай сям'і. Бацька, Сцяпан Пятровіч, працаваў на Беларускай чыгунцы, маці, Еўдакія Данілаўна,— на розных прадпрыемствах у Васілевічах. У 1961 скончыў Васілевіцкую СШ № 2. Працаваў рабочым Пашыйскага цэментна-металургічнага завода на Урале, на лесаскладзе ў Васілевічах. У 1962—67 вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. Пасля заканчэння універсітэта накіраваны ў Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл. Працаваў выкладчыкам і намеснікам дырэктара Дзятлавіцкай і Лахвенскай сярэдніх школ (1967—68), загадваў аддзелам у Лунінецкім райкоме камсамола, быў дырэктарам Бродніцкай НСШ. У 1970 паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, абараніў кандыдацкую дысертацыю (1974). З 1973 працуе ў Інстытуце літаратуры — малодшым, з 1975 — старшым навуковым супрацоўнікам.

Друкавацца пачаў у 1962, з літаратурна-навуковымі працамі выступае з 1972. Асноўны прадмет яго інтарэсаў — праблемы беларускай драматургіі. У манаграфіі «Сучасная беларуская драматургія» даследаваў эстэтычную прыроду драматургічнага канфлікту. У пазнейшых кнігах «Станаўленне беларускай савецкай драматургіі» і «Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» даў гісторыка-эвалюцыйную панараму развіцця беларускай драматургіі з пачатку стагоддзя і да нашых дзён. У манаграфіі «На драматургічных скрыжаваннях» даследаваў грамадска-эстэтычную місію беларускай драматургіі ў гісторыка-сацыялагічным аспекце. Аўтар раздзелаў для «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове), «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (ч. 1—2), шэрага брашур. Выступае ў перыядычным друку з артыкуламі і рэцэнзіямі па пытаннях сучаснай беларускай драматургіі і тэатра. Побач з даследчыцкай займаецца і тэксталагічнай працай (выдаў кнігі «Беларуская дакастрычніцкая драматургія», «Творы» У. Галубка і інш.). Падрыхтаваў і выдаў 5-томны збор твораў А. Макаёнка.

Жыве ў Мінску.

*І. Ф. Штэйнер.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Проблемы современной белорусской драматургии (Конфликты и характеры): Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1974.

З думкай пра сучасніка: Агляд сучаснай беларускай драматургіі. Мн., 1977. (Матэрыял у дапамогу лектару).

Сучасная беларуская драматургія. Мн., 1977. Рэц.: Бугаёў Д. З маладым запалам // Полымя. 1978. № 6; Дзівін М. Драматургія ў руху // ЛіМ. 1977. 16 вер.

Першы народны артыст БССР. Мн., 1982.

Высокія арбіты грамадзянскасці: (Метадычныя рэкамендацыі па прапагандзе твораў народнага пісьменніка). Мн., 1984.

Станаўленне беларускай савецкай драматургіі (20-я — пач. 30-х гг.). Мн., 1984. Рэц.: Грынчык М. На этапе станаўлення // ЛіМ. 1985. 17 мая; Смольскі Р. Сугучнасць часу // Полымя. 1985. № 11.

Кандрат Крапіва і беларуская драматургія. Мн., 1986.

У. І. Ленін і Кастрычніцкая рэвалюцыя ў беларускай літаратуры. Мн., 1987 / Сааўт. У. Гніламёдаў, Л. Савік.

На драматургічных скрыжаваннях. Мн., 1989.

**1.3.**

**1962.** Зарастаюць асакою // Гомел. праўда. 17 жн.

**1963.** Хай здзейсніцца мара // Піянер Бел. 12 ліп.; Шахцерская слава // Там жа. 26 ліп.

**1972.** Большая проблема «малых театров» // Сов. Бел. 17 окт.

**1973.** Узмужненне жанру // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 4; На ўсесаюзнай сцэне // Голас Радзімы. № 18; Конфликт в драматургии // Неман. № 11; Спяваюць чыгуначнікі // Звязда. 13 лют.; Адданасць тэме: [Рэц. на кн.: Сачанка Б. Памяць. Мн., 1973] // Там жа. 13 ліст.; З вышыні сучаснасці // Мін. праўда. 18 вер.; Праз пошукі да адкрыццяў // Там жа. 29 снеж.

**1974.** Во имя будущего: [Рэц. на кн.: Мурашко Р. Сын. Мн., 1973] // Неман. № 8; Майстэрства прапагандыста // Звязда. 7 сак.; Драматургія ў прызме су-

часнасці // Там жа. 11 крас.; Сталы погляд: [Рэц. на кн.: Ю р э в і ч У. Погляд. Мн., 1974] // Там жа. 16 жн.; З верай у чалавека: [Рэц. на кн.: П а л ь ч э ў- с к і А. Запознены пасаг. Мн., 1973] // Мін. праўда. 21 вер.; Драма неўміручасці // Там жа. 2 ліст.

**1975.** Праблема асобы ў беларускай гістарычнай драматургіі // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 3; На пазіцыях сацыялістычнага гуманізму // Голас Радзімы. № 6; Дарогамі ваенных гадоў // Там жа. № 20: [Рэц. на кн.: М я д з ё л к а П. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974] // Неман. № 10; Кірунак пошукаў — сучаснасць // Полымя. № 2; Год змагання і славы: [Рэц. на кн.: Н а в у м е н к а І. Сорак трэці. Мн., 1974] // Там жа. № 6; З увагай да людзей: [Рэц. на кн.: П а р а х н е в і ч М. Зара-зараніца. Мн., 1975] // Там жа. № 12; Поэт из Большой Уссы // Знамя юности. 6 июля; Трасянка з чужых публікацый // ЛіМ. 26 вер.; Творчы неспакой драматурга // Мін. праўда. 14 кастр.

**1976.** Даследуецца літаратурная навука // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 5; Эхо недавней истории: [Рэц. на кн.: М у ш ы н с к і М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30 гады. Мн., 1975] // Неман. № 11; Дарога праз вайну: [Рэц. на кн.: Д а м а- ш э в і ч У. Порахам пахла зямля. Мн., 1975] // Полымя. № 5; Лёс купалаўскай «Паўлінкі» // Голас Радзімы. 29 ліп.; Такая гэта прастата // Звязда. 19 вер.; Мудрость таланта // Знамя юности. 5 марта; Пачатак паэтычнай дарогі: [Рэц. на кн.: К а м а р о ў с к і А. Пачатак. Мн., 1975] // Мін. праўда. 22 мая.

**1977.** Андрей Макаенок // История белорусской советской литературы. Мн., 1977; Падзенне Зміцера Апанасавіча: [Рэц. на кн.: С е м а ш к е в і ч Р. Бацька ў калаўроце. Мн., 1976] // Полымя. № 6; Заслужыў удзячнасць нашчадкаў: [Рэц. на кн.: Я д в і г і н Ш. Выбраныя творы. Мн., 1976] // Голас Радзімы. 13 студз.; Пасля блакаднага пекла: [Рэц. на кн.: П т а ш н і к а ў І. Найдорф. Мн., 1976] // Звязда. 12 крас.; На ўзмежжы чалавечнасці і дзелавітасці // Там жа. 21 кастр.; Усталяванне чалавечнасці // ЛіМ. 18 лют.; Нетыпова аб тыповым: [Рэц. на кн.: Я с к е- в і ч А. У свеце мастацкага твора. Мн., 1977] // Там жа. 21 кастр.

**1978.** Заснаванне драматургічных традыцый // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн.; Драматургія // Беларуская літаратура і праблема сучаснасці. Мн.; Спраўджаныя надзеі: [Рэц. на кн.: В а- с і л е в і ч А. Мыс Добрай Надзеі. Мн., 1977] // Полымя. № 1; На шляхах сталення: [Рэц. на кн.: Л о й- к а А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1] // Звязда. 4 кастр.; А майстэрства прыйдзе // ЛіМ. 27 кастр.; Талент, аддадзены народу // Мін. праўда. 6 студз.

**1979.** Чтоб люди не печалились: Штрихи к творческому портрету А. Макаёнка // Неман. № 2.

**1980.** Гэта яго лёс // Макаёнак А. Выбр. тв.: У 2 т. Мн. Т. 1; Пра першага народнага: [Рэц. на кн.: «Адхінуўшы заслону часу...». Мн., 1979] // Полымя. № 2; Вяртаючыся да вытокаў: [Рэц. на кн.: У с і к а ў Я. Беларуская камедыя: Літаратурна-крытычныя нарысы. Мн., 1979] // Там жа. № 9; У неспакойным пошуку // ЛіМ. 19 вер.; Сілай эмацыянальнага ўздзеяння: [Рэц. на кн.: К у д р а в е ц А. На балоце скрыпелі драчы: Апавяданні. Мн., 1979] // Мін. праўда. 12 студз.

**1981.** Літаратура перыяду грамадзянскай вайны і 20-х гг. (драматургія); Літаратура 30-х гг. (драматургія) // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Мн. Ч. 1.

**1982.** Літаратура на сучасным этапе (З сярэдзіны 50-х гг.): [Драматургія]; Андрэй Макаёнак // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Мн. Ч. 2; З плеяды пачынальнікаў // Тэатр. Мінск. № 3; Лунаў яго талент высока: Пра літаратурную спадчыну У. Галубка // ЛіМ. 14 мая; І сёння — на афішы...: П'есы А. Макаёнка на Купалаўскай сцэне // Там жа. 4 чэрв.

**1983.** Рэвалюцыяй акрылены талент // Галубок У Творы. Мн.

**1984.** З чыстых крыніц // П'есы. Мн.; Узыходжанне на драматычны Парнас // Мастацтва Бел. № 7; От истоков: [Рэц. на кн.: Г і с т о р ы я беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1] // Неман. № 9.

**1.6.**

Б е л а р у с к а я дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978 / Скл., падрыхт. тэкстаў і камент.

М е л е ж І. Зб. тв.: У 10 т. Т. 2. Нарысы, п'есы. Мн., 1980 / Рэд.

Г а л у б о к У. Творы: Драматургія; Паэзія; Проза; Публіцыстыка. Мн., 1983 / Скл.

П ' е с ы. Мн., 1984 / Скл.

М а к а ё н а к А. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1987—90. / Скл.

К а л я роднай хаты: П'есы. Мн., 1987 / Рэд.

В о б р а з — 89. Мн., 1989 / Скл.

К а н д р а т Крапіва: Фотаальбом. Мн., 1989 / Скл.

К р а п і в а К. Вершы. Байкі. Эпіграмы. Паэмы. Мн., 1991 / Скл.

У б е л а р у с к і х літаратуразнаўцаў: [Інтэрв'ю з І. Я. Навуменкам] // Голас Радзімы. 1973. № 50 / Зап.; «...П а к у л ь гумару хопіць!»: [Інтэрв'ю з А. Макаёнкам] // ЛіМ. 1978. 6 студз. / Зап.; К р а п и в а К. Превратности жанра // Неман. 1980. № 12 / Зап.

**2.3.**

**На беларускай мове.** П р ы г о д з і ч З. Праблемы сучаснасці ў люстры літаратуры // Полымя. 1978. № 12.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЛЕВАНОВІЧ ЛЕАНІД



Левановіч (сапр. Л я в о н а ў) Леанід Кірэевіч (н. 14.9.1938, в. Клеявічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл.), празаік, драматург. Член СП Беларусі з 1975.

Нарадзіўся ў сям'і калгаснікаў. У 1945—52 вучыўся ў Клеявіцкай сямігадовай школе, якую закончыў на «выдатна». Пасля паступіў у Магілёўскае культасветвучылішча. Закончыўшы яго ў 1956, працаваў інструктарам Дзяржынскага раённага дома культуры Мінскай вобл. (1956—57), загадчыкам сельскага клуба ў в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на (1957—58), дырэктарам РДК у г. Касцюковічы (1958). У 1957 паступіў на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ. У 1958—61 служыў на Балтыйскім флоце і адначасова вучыўся. Пасля дэмабілізацыі перавёўся на стацыянар і закончыў універсітэт (1963). Працаваў літсупрацоўнікам газеты «Знамя юности» (1963—65), уласным карэспандэнтам «Сельской газеты» (1965—69), літсупрацоўнікам «ЛіМа» (1969—71), рэдактарам аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі часопіса «Неман» (1971—74), адказным сакратаром (1974—75) і загадчыкам аддзела навукі і мастацтва (1975—79) часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання (1979—82). У 1982—86 на творчай рабоце. З 1986 рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Дэбютаваў у 1963 апавяданнем «Русакова дарога». У 1960—70-я гады актыўна выступаў як нарысіст. Журналісцкім творам Л. Левановіча ўласціва праблемнасць, доказнасць, уменне бачыць у чалавеку тое, што вызначае яго характар. Праца ў жанры нарыса дапамагала шліфаваць майстэрства, прывучала да лаканічнасці. Для апавяданняў пісьменніка характэрна маральна-этычная праблематыка. У аповесці «Валанцёр свабоды» стварыў запамінальны вобраз барацьбіта-інтэрнацыяналіста П. Варанецкага (прататыпам паслужыў Фадзей Варанішча), былога камсамольца Заходняй Беларусі, пасля падпольшчыка ў Аргенціне, абаронца рэспубліканскай Іспаніі, удзельніка Супраціўлення ў Францыі. Аб праблемах аднаўлення калгаса, навучання ў пасляваеннай школе расказвае ў рамане «Шчыглы», дзе стварыў вобразы дзяцей вайны. У п'есах Л. Левановіча ўзнімаюцца праблемы чалавечых адносін, сям'і. Апошнія значныя творы пісьменніка — раманы «Паводка сярод зімы», «Дзікая ружа».

Жыве ў Мінску. *Я. І. Клімуць.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Гаспадар зямлі: Нарыс. Мн., 1971. (Праца ўпрыгожвае чалавека) / Пад сваім прозв.

Зялёны трохкутнік: Нарыс. Мн., 1973. Рэц.: Л е ц к а Я. Вокам руплівага гаспадара // ЛіМ. 1973. 2 ліст.; М а р ц і н о в і ч А. З любоўю да ўсяго зямнога // Вяч. Мінск. 1974. 5 жн.

Мадонна з кветкаю: Апавяданні. Мн., 1976. Рэц.: В ы ш ы н с к і М. Людзі і кветкі // ЛіМ. 1976. 10 снеж.; Ф о м ч а н к а А. На скрыжаванні лёсу // Вяч. Мінск. 1977. 31 сак.

Якар надзеі: Аповесці і апавяданні. Мн., 1979. Рэц.: В і к т а р а ў Р. На плынь — з паднятым якарам! // Беларусь. 1980. № 7; Д з м і т р ы е ў М. Прачытаўшы кнігу... // Нар. асвета. 1980. № 9; Е р м а л о в і ч М. Прага чысціні // Чырв. змена. 1980. 22 студз.; К р ы с к а в е ц Я. Адзіная на ўсё жыццё // Маг. праўда. 1980. 31 мая; Н і к і ф а р о в і ч В. Героі — нашы сучаснікі // ЛіМ. 1980. 11 студз.; С ц я ц к о П. Споведзь душы // Наст. газ. 1981. 11 сак.; Т а р а с е в і ч С. Чалавеку патрэбна дабрата // Вяч. Мінск. 1980. 6 лют.

Валанцёр свабоды: Аповесць і апавяданні. Мн., 1983. Рэц.: К л і м у ц ь Я. У пошуках героя // Маг. праўда. 1985. 28 мая; М а р ц і н о в і ч А. Адысея Паўла Варанецкага // Голас Радзімы. 1985. 29 жн.; П е т к е в і ч А. Повесть о мужестве // Гродн. правда. 1984. 26 дек.

Шчыглы: Раман. Мн., 1986.

Хлеб і мужнасць: Нарысы. Мн., 1987. (Рэспубліка. Час. Людзі.)

Паводка сярод зімы: Раман. Апавяданні. Мн., 1989.

**1.3.**

**1963.** Русакова дарога: Апавяданне // Сав. Бел. 17 крас.; На рыбалке: [Апавяданне] // Сел. газ. 28 июля.

**1968.** Иванова роща; Белорусский мед: [Нарысы] // Неман. № 2, 9 / Пад сваім прозв.

**1969.** Сад ты наш, батюшка: [Нарыс] // Неман, № 8 / Пад сваім прозв.

**1970.** Второй хлеб: [Нарыс] // Неман. № 6; Трэці ордэн: Нарыс // ЛіМ. 4 снеж. / Пад сваім прозв.

**1971.** Чатыры цюльпаны: Апавяданне // Беларусь. № 5; Белорусская Советская... // Неман. № 9; Кароткія апавяданні // Полымя. № 11; Песня дзятла; Брытва: [Апавяданні] // ЛіМ. 14 мая; Чалавек і яго работа: [Рэц. на кн.: Р а м а н а ў А. Бурштын. Мн., 1970] // Там жа. 18 чэрв.

**1972.** Ці любіце вы грэчку?: Сцэна ў адной дзеі // Беларусь. № 11; Антонава лазня: Апавяданне // Маладосць. № 8; Признание в любви: [Рэц. на кн.: С і п а к о ў Я. Па зялёную маланку. Мн., 1971] // Неман. № 8; [Рэц. на кн.: Г е р а с и м о в В. Стенография. Мн., 1971] // Там жа. № 12; Дырэктар: Апавяданне // Полымя. № 12.

**1973.** Зялёны дубочак: Апавяданне // Бярозка. № 8; Загадка Янки Мавра: [Нарыс] // Неман. № 5; Год роздуму, творчасці, пошукаў // ЛіМ. 2 лют.

**1975.** Старэйшая сястра: Апавяданне // Маладосць. № 4; Не толькі ўзнёсла і шчыра...: [Рэц. на кн.: П р а с к у р а ў В. Людзі-суседзі. Мн., 1974] // Полымя. № 3; Песня дзятла; Апавяданне // Родная прырода. № 4.

**1976.** Пушок: Апавяданне // Бярозка. № 5; Белая крыніца: Апавяданне // Маладосць. № 7.

**1977.** Позныя грыбы: Апавяданне // Полымя. № 2; Шчырасць: Апавяданне // ЛіМ. 8 ліп.; «Няма правоў без абавязкаў...» // Там жа. 19 жн.

**1978.** Выспяванне народнага гневу: [Рэц. на кн.: Ч ы г р ы н а ў І. Апраўданне крыві. Мн., 1977] // Беларусь. № 10; Апошні аўтобус: Апавяданне // Маладосць. № 6; Прызнанне: Апавяданне // Полымя. № 3; Шыпшына Саласпілса: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 5; «Мастацтва ёсць вялікая справа» // ЛіМ. 8 вер.

**1979.** Хлеб і мужнасць: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; ЛіМ. 16 сак.; Живут на целине белорусы // Коммунист Бел. № 12; Закон жыцця // ЛіМ. 5 кастр.; Якар надзеі // Чырв. змена. 12 жн.

**1980.** Жывуць на цаліне беларусы: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Нет земли безымянной: [Рэц. на кн.: К о з л о в и ч А. Пора идти. Мн., 1979] // Лит. обозрение. № 9; Пасля разводу: Драма // Маладосць. № 12; Незабыўныя хвіліны: [Рэц. на кн.: С к р ы г а н Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1979] // Полымя. № 3; Хлеб — всему голова: (Заметки писателя) // Сов. Бел. 24 авг.

**1981.** Чалавек і яго клопат // Сучаснік. Мн.; Як памагчы полю // Чырв. змена. 31 студз.

**1982.** Імантаўскі аксакал: [Нарыс] // Беларусь. № 4; Зямля і людзі: Старонкі дакументальнай аповесці // Вяч. Мінск. 18, 20, 22, 28 вер.; Два аўтографы // Там жа. 16 снеж.; Энергия братского единения // Сел. газ. 25 авг.

**1983.** Баркун: Апавяданне // ЛіМ. 11 сак.; Там дзе горы Алатаў: Нарыс // Там жа. 23 вер.; Жыць па законах сумлення: [Рэц. на кн.: Л а с к о ў І. Чароўны камень. Мн., 1983] // Там жа. 14 кастр.; Валанцёр свабоды: [Урыўкі з аповесці] // Чырв. змена. 12, 13 ліп.

**1984.** Ці хутка вернецца тата?: [Урывак з рамана «Шчыглы»] // Бярозка. № 12; [Рэц. на кн.: Р а д к е в и ч Е. Плотогоны. М., 1983] // Неман. № 5; Ад роднай Бесядзі // ЛіМ. 3 лют.; Смачны праснак: Урывак з рамана // Там жа. 30 сак.; Бацькоўскі наказ: Нарыс // Там жа. 17 жн.; Дырэктар: [Урывак з рамана «Шчыглы»] // Наст. газ. 24 сак.; Вяртанне: Урывак з рамана // Чырв. змена. 18 крас.

**1985.** Чалавек на зямлі [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Глыбокія карані: Нарыс // Беларусь. № 8; Барозны ідуць за далягляд // Маладосць. № 7; Чалавек на зямлі: Нарыс // Полымя. № 3; Час не вернеш назад // Звязда. 21 ліп.; Ганна Дзянісаўна: Быль // ЛіМ. 14 чэрв.

**1.4.**

**1974.** Б а л ё н е н е Э. Хрысціна: Апавяданне / З літ. // Бярозка. № 8.

**1984.** Б а л ё н е н е Э. Хрысціна: Апавяданне / З літ. // Бурштынавыя пацеркі. Мн.

**1.5.**

**На казахскую мову.** Саласпилс итмурыны / Ауд. Жакыпов // Полесье энгімелері. Алматы, 1984.

**На літоўскую мову.** Genio daina: Novele / Vert. E. Balioniene // Komjaunimo tiesa. 1974. Kovo. 22.

**На рускую мову.** Якорь надежды: Повести, рассказы. М., 1991; Четыре тюльпана: [Новелла) / Пер. С. Куваев // Неман. 1972. № 3; Директор: [Апавяданне] / Пер. С. Кагарлицкая // Учитель. К., 1973; Песня дятла; Бритва; Антонова баня: (Рассказы) / Пер. С. Куваев // Неман. 1974. № 1; Камень; Поздние грибы: (Рассказы) / Пер. С. Куваев // Неман. 1978. № 10.

**На ўкраінскую мову.** Чотыри тюльпани: [Апавяданне] / Пер. О. Ленік / // Рідня. К., 1980.

**1.6.**

С у ч а с н і к — 86: Нарысы; Публіцыстыка; Хроніка. Мн., 1986 / Рэд. з інш.

С у ч а с н і к — 87: Нарысы; Публіцыстыка; Хроніка. Мн., 1987 / Рэд. з інш.

С у ч а с н і к — 88: Нарысы, публіцыстыка. Мн., 1988 / Рэд. з інш.

С у ч а с н і к — 89: Нарысы, інтэрв'ю, публіцыстыка. Мн., 1989 / Рэд. з інш.

З о н а бяды. М., 1991 / Рэд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А к у л і ч Д. У пампе сенакос пачынаецца... // ЛіМ. 1984. 26 кастр.; Л ы с е н к а А. Сучасны беларускі нарыс. Мн., 1978. С. 101—108; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Ш у п е н ь к а Г. Цеплыня чалавечнасці. Мн., 1977. С. 194—197; Ю р э в і ч У. На быстрыні жыцця // На арбіце часу. Мн., 1974. С. 177—179; Я г о ж. Нарыс — гэта даследаванне // Юрэвіч У. Абрысы. Мн., 1976.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЛЕВАНОВІЧ ПАВЕЛ



*Лeвановіч Павел Антонавіч (3.11.1914, в. Мазалава Мсціслаўскага пав., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл.— 20.12.1943, пахаваны ў в. Старынка Горацкага р-на Магілёўскай вобл.), празаік, публіцыст.*

Біяграфічныя звесткі пра П. Левановіча амаль не захаваліся. Вядома, што паходзіў ён з сялянскай сям'і. Меў сярэднюю адукацыю, скончыў першы курс геафака БДУ. Удзельнічаў у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь (1939). З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на фронце. Трапіў у палон, уцёк з Крычаўскага лагера ваеннапалонных, памагаў партызанам. З кастрычніка 1943 зноў на фронце. Быў цяжка паранены, ад чаго і памёр.

Першыя творы П. Левановіча (нарысы, апавяданні, вершы) з'явіліся ў друку ў 1934. З 1936 яго імя рэгулярна сустракалася на старонках рэспубліканскай перыёдыкі. Яго творы вызначаліся ўважлівымі адносінамі да рэчаіснасці. Аўтар спрабаваў прасачыць псіхалогію ўчынкаў сваіх персанажаў (вобразы плытагона Кірылы і брыгадзіра плытагонаў Ягора ў апавяданні «На Сожы»). Тагачасная крытыка адзначала ў прозе пісьменніка дынамічнасць фабулы, трапнасць дэталяў, жывую вобразную мову. Прыхільныя водгукі выклікала і проза П. Левановіча для дзяцей (кніга апавяданняў «Дружба»), дзе выявілася добрае веданне аўтарам дзіцячай псіхалогіі. У 1940 падрыхтаваў да друку другі зборнік апавяданняў, які быў абмеркаваны і ўхвалены на секцыі прозы ў Саюзе пісьменнікаў (у час вайны рукапіс загінуў). Ёсць звесткі, што П. Левановіч выступаў у франтавым друку (1943).

Адна з вуліц г. Мсціслава носіць імя П. Левановіча.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Дружба: Зборнік апавяданняў. Мн., 1938. Рэц.: Пармон А. Апавяданні Паўла Левановіча // ЛіМ. 1939. 23 ліп.; Шарапов А. О рассказах Павла Левановича // Сталин. молодежь. 1940. 10 марта.

**1.3.**

**1934.** Боркаў аўтамабіль: Нарыс // Іскры Ільіча. № 9; Пачынаю нанава: Апавяданне // ЛіМ. 22 сак.; Радкі бальшавіцкія: [Верш] // Палес. праўда. 12 мая; Дружба з вясной: [Верш] // Там жа. 13 ліп.; Дарогаю па вадзе: Апавяданне // Там жа. 9 жн.

**1935.** Будзем багаты: [Верш] // Палес. праўда. 18 крас.

**1936.** Пра вавёрачку і кошку: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 4; Заяц: Апавяданне // Там жа. № 6; На Сожы: Апавяданне // Полымя. № 7; Ноч у пасечніка: Апавяданне // ЛіМ. 27 вер.

**1937.** Сарока белабока: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 2; Удодава гняздо: Апавяданне // Там жа. № 6; Хамелеён: Апавяданне матроса // Там жа. № 7; Мой знаёмы: Нарыс // Звязда. № 45; Пеоны: Апавяданне // ЛіМ. 17 вер.; Шызы голуб: Апавяданне // Піянер Бел. 5 мая; Куток цішыні і недатыкальнасці // Там жа. 24 ліп.; Бабровая хата: Апавяданне лесніка // Там жа. 28 ліп.; Паляванне на мядзведзя: [Апавяданне] // Там жа. 30 ліп.; Паласатая кошка: [Апавяданне] // Там жа. 3 жн.; Каса выратавала; Рагаты прыгажун: [Апавяданні] // Там жа. 18 вер.; Сказ удавы: [Верш] // Чырв. змена. № 249.

**1938.** Дружкі: Апавяданне // Піянер Бел. 17 ліст.; Разговор у окна: [Апавяданне] // Сталин. молодежь. 1 мая; Згублены сшытак: [Апавяданне] // Чырв. змена. 2 жн.; Нерпа: [Апавяданне] // Там жа. 24 жн.; Даўнія знаёмствы: [Апавяданне] // Там жа. 9 кастр.; Два студэнты аднаго факультэта // Там жа. 17 кастр.

**1939.** Універсітэт ордэнаноснай рэспублікі // Звязда. 14 кастр.; Галубы: Апавяданне // ЛіМ. 12 вер.; Ля помніка // Там жа. 11 кастр.; Гомель: (Города Советской Белоруссии) // Сталин. молодежь. 12 сент.; У доміку Лермантава: (Запіскі турыста) // Чырв. змена. 8 жн.; Коста Хетагураў // Там жа. 12 жн.; Нерпа: Апавяданне // Там жа. 24 жн.

**1940.** Беларускі дзяржаўны запаведнік // Піянер Бел. 11 крас.; Вялікі мастак-рэаліст // Там жа. 29 вер.; Приданое: [Апавяданне] // Сталин. молодежь. 1 мая; Дзед-Мароз: [Казка] // Чырв. змена. 1 студз.; Крылатае пакаленне: [Апавяданне] // Там жа. 26 лют.; Апавяданне пра адну школу // Там жа. 6 крас.; На граніцы // Там жа. 1 мая; Прыход жаданняў: Як Г. Ю. Грыгоніс стаў заслужаным артыстам БССР // Там жа. 22 мая; Сімфонія шчасця // Там жа. 26 мая; Нараджэнне песні: [Апавяданне] // Там жа. 20 чэрв.

**1941.** 19 студзеня 1905 г. // Піянер Бел. 22 студз.; Ф. М. Дастаеўскі: 120 год з дня нараджэння // Там жа. 13 лют.; У дарозе: Апавяданне // Там жа. 2 сак.; Коста Хетагураў: Нарыс // Там жа. 3 крас.; Буслы: Апавяданне // Там жа. 1 чэрв.; На іспытах: Навела // Сялян. газ. 25 мая.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Самуйлёнак Э. «Бацькава пісьмо» П. Леванові ча // ЛіМ. 1936. 17 снеж.; Творчы вечар у Клёнках // Палес. праўда. 1935. 22 чэрв.; Юрчанка Г. Ён назаўсёды застаўся маладым // ЛіМ. 1965. 20 жн.; Яго ж. Новае пра Паўла Левановіча // Там жа. 1978. 7 крас.; Яго ж. Палымянасць // Чырв. змена. 1966. 11 студз.

*З. У. Драздова.*

# ЛЕГАТОВІЧ ІГНАТ

*Леганові ч Ігнат Сымонавіч [крыпт.: І. L., І. Р. L.; 30.7(10.8).1796, в. Малая Капліца Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 28.9(10.10).1867, Мінск], беларуска-польскі паэт, педагог.*

Нарадзіўся ў сям'і шляхціца Самсона Легатовіча, жанатага з Магдаленай Стшалкоўскай. У пяцігадовым узросце страціў бацьку, выхоўваўся айчымам Якубам Вішнеўскім, небагатым, але клапатлівым шляхціцам. Пасля заканчэння дамініканскай школы ў Гродне вучыўся ў Віленскім ун-це, на аддзяленні літаратуры і мастацтва, дзе атрымаў ступень магістра (1817). У 1817—39 выкладаў лацінскую мову і літаратуру ў Мінскай гімназіі. У 1839 пераехаў у Лепель, затым у Вілкамір, працаваў інспектарам лепельскай, полацкай і вілкамірскай школ. Быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3-га класа і адзнакай за бездакорную 25-гадовую працу. Страціўшы зрок, у 1846 выйшаў у чыне калежскага саветніка на пенсію і вярнуўся ў Мінск, дзе займаўся рэпетытарствам па лацінскай мове, збіраннем бібліяграфічных рэдкасцяў і паэтычнай творчасцю, запісваў трапныя выслоўі, перакладаў з рускай і французскай моў, вершаваныя мініяцюры і эпіграмы.

Упершыню ў друку выступіў з навуковай працай «Даследаванне пра лісты» [«Tygodnik Wileński», («Віленскі штотыднёвік»). 1817. Т. 3]. Пазней пісаў на польскай мове павучальныя кнігі для дзяцей і юнацтва, дыдактычныя двухрадковыя максімы, эпіграмы, якія карысталіся асаблівай папулярнасцю на Міншчыне. Антыпрыгонніцкія погляды І. Легатовіча выявіліся і ў беларускім вершы «Скажы, вяльможны пане...», за публікацыю якога неўзабаве пасля выхаду быў канфіскаваны альманах «Bojan» («Баян», Вільня, 1838). Значную ўвагу І. Легатовіч надаваў бібліяфільству, сабраў багатую бібліятэку, у якой былі каштоўныя, не зафіксаваныя бібліёграфамі выданні. Пра некаторыя з іх ён расказаў у часопісе «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»).

*У. І. Мархель.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Wiersz na obchód przez Dworzaństwo imienin JW Wincentego z Gieczan Giecewicza, gubernatora Mińskiego... [Mn.], 1822.

Epigrammata. Wilno, 1848; Wilno, 1854.

Prawdy, prawidła życia, maksymy, zdania, przysłowia i myśli rozmaite... Wilno, 1848.

Gościniec dla dziatek, to jest prawdy i zdania moralne dla pożytku uczących się obojej płci wydane. Wilno, 1849.

Poradnik dla młodzieży, to jest Prawdy i zdania moralne dla użytku uczących się obojej płci. Wilno, 1851.

Prawidła poczciwego życia czyli Zdania rozmaite z różnych autorów... do moralnej nauki zastosowane. Wilno, 1852.

Prawy, to jest Nauka moralna dla dzieci. Wilno, 1853.

Apoftegmata. Wilno, 1854.

Myśli. Wilno, 1857.

Dawna prodków naszych obyczajność, to jest ustawy obyczajności, przyzwoitości i grzeczności. Wilno, 1858.

Gościniec dla dziatek, to jest Prawdy i zdania moralne dla pożytku uczących się obojej płci wydane. Wilno, 1859.

**1.3.**

**1817.** Rozprawa o listach // Tygodnik Wileński. T. 3.

**1821.** Epigrammata // Dz. Wileński. T. 3. Nr 2.

**1822.** Epigrammata // Dz. Wileński. T. 2. Nr 6.

**1825.** Wiadomość o dziełach polskich, o ktorych żaden z naszych bibliografów dotąd nie uczynił wzmianki // Dz. Wileński. T. 1. Nr 4.

**1826.** Epigrammata // Dz. Wileński. T. 1. Nr 6.

**1827.** Epigrammata // Dz. Wileński. T. 2. Nr 9.

**1829.** Epigrammata // Dz. Wileński. T. 4. Nr 12.

**1838.** Z białoruskiego narzecza: «Skaży Wielmożny Panie...» // Bojan (Wilno). Cz. 1 / Аўт. спрэчнае.

**1971.** Скажы, вяльможны пане: [Верш] // Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. Мн. / Аўт. спрэчнае.

**1.4.**

**1822.** Epigrammata / Z fr., ros. // Dz. Wileński. T. 1. Nr 2.

**1825.** Epigrammata / Z fr., ros. // Dz. Wileński. T. 1. Nr 4.

**1826.** Epigrammata / Z fr. // Dr. Wileński. T. 1. Nr 9.

**1.5.**

**На польскую мову.** Powiedz mnie, wielmożny panie / Tł. J. Huszcza // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław, 1978 / Аўт. спрэчнае.

**1.6.**

Kopa z naddatkiem bajek naszych pisarzy dla młodzieży płci obojej. Wilno, 1858 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бас І. Малавядомы верш на беларускай мове // Беларусь. 1954. № 7; Мархель У. Лірнік вясковы. Мн., 1983. С. 146—147; Яго ж. «Нічога такога я не пісаў...» // Голас Радзімы. 1980. 29 мая.

**На польскай мове.** Jelski A. Listy z prowincyi: Mińsk lietewski // Kraj. 1888. Nr 49; Sabowski W. Ignacy Piotr Legatowicz // Tyg. Il. 1885. Nr. 134.

**На рускай мове.** Ц ы х у н А. Поэт и педагог // Гродн. правда. 1984. 4 авг.
**3.1.**
Б-ка Асалінскіх у Вроцлаве (Польшча), аддз. рукап., адз. зах. 3150; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 541, 542, 543, 544, ф. 158, адз. зах. 719; ЦДГА Беларусі ў Мінску, ф. 3157, воп. 1, спр. 499; ЦДГА Літвы, ф. 567, воп. 2, спр. 3041, 4227, 5570, ф. 1135, воп. 11, спр. 7, л. 15; Ягелонскі ун-т у Кракаве, аддз. рукап., адз. зах. 2790, 2791.

*Т. М. Махнач.*

# ЛЕЙКА КАНДРАТ



*Лейка Кандрат Тодаравіч (крыпт. К. Л-к а, К. Л.; 17.9.1860, в. Збочна Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н — 6.9.1921, м. Здалбунаў Ровенскага пав., цяпер г. Здалбунаў Ровенскай вобл., Украіна), празаік, паэт, драматург.*

Нарадзіўся ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Бацька, Тодар Якаўлевіч, часта хварэў, гаспадарка ляжала на маці, Тэклі Данілаўне, да вобраза якой К. Лейка не раз звяртаўся пазней у сваіх творах. Змалку Кандрату давялося працаваць пастушком, хадзіць босаму па халоднай расе за статкам. У выніку захварэў рэўматызмам, усё жыццё балелі ногі. Вучыўся ў Азярніцкім народным вучылішчы непадалёк ад роднай вёскі. Добры ўплыў на яго меў настаўнік В. Вікторскі. Пасля заканчэння вучылішча К. Лейку як лепшага вучня накіравалі ў 1876 у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю вучыцца за казённы кошт. У 1879 ён скончыў семінарыю, 5 гадоў працаваў у мяст. Косава (цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.). Мяркуецца, што ў гэты час пачаў пісаць вершы на беларускай мове, бо некаторыя з іх датаваны 1883. У сувязі з абвастрэннем рэўматызму ўрачы запрапанавалі змяніць клімат на больш сухі. У 1884 К. Лейка пераехаў на Украіну, на Харкаўшчыну, дзе і пражыў большую частку свайго жыцця. Працаваў настаўнікам у Ліміўскім і Аснавянскім народных вучылішчах, у 1893 выдаў у Харкаве падручнік «Руская азбука». У 1896 вытрымаў экзамен на званне настаўніка павятовага вучылішча, і яго прызначылі інспектарам Харкаўскага вучылішча сляпых дзяцей, паслалі ў Пецярбург на спецыяльныя курсы. К. Лейка праявіў сябе як вопытны педагог, спецыяліст у галіне навучання сляпых. Друкаваўся ў часопісе «Слепец», газеце «Школа и жизнь» (Пецярбург), газетах «Харьковские губернские ведомости», «Южный край» (Харкаў). Працуючы ў вучылішчы, слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. У 1908 па стану здароўя пакінуў службу ў Харкаве. Ёсць звесткі, што ён некаторы час працаваў выкладчыкам рускай мовы ў Елісаветградскім камерцыйным вучылішчы і прыватнай жаночай гімназіі. З 1911 загадчык вучэбнага аддзела ў Валкаўскім павятовым земстве Харкаўскай губ. У 1917 здароўе К. Лейкі значна пагоршылася. У пачатку 1918 ён быў спаралізаваны. Давялося пакінуць службу і пераехаць на Валынь у мяст. Здалбунаў да брата Івана. Цяжка перажываў разлуку з адзіным сынам Віталем (нарадзіўся ў 1916, маці памерла адразу пасля родаў), якога забралі сваякі на Палтаўшчыну і з якім яго неўзабаве падзялілі франты і межы (мяст. Здалбунаў апынулася ў Польшчы). К. Лейка стварыў для сына рукапісны «Альбом», дзе выказваў пяшчотныя бацькоўскія пачуцці, прасіў не губляць сувязей з радзімай. Хворы пісьменнік не пераставаў пісаць, падтрымліваў сувязь з выдавецтвамі, перапісваўся з Г. Леўчыкам, Л. Дубейкаўскім, што жылі тады ў Варшаве. У лютым 1921 паслаў у Вільню ў Беларускае навуковае таварыства 8 сшыткаў сваіх твораў — апавяданняў, вершаў, казак (лёс гэтых сшыткаў пакуль што невядомы). Знойдзены некаторыя рукапісы вершаў, баек, казак, апавяданняў на бытавыя, маральныя, сацыяльныя тэмы. Асобныя яго рукапісы зберагаюцца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы ў Вільнюсе, а таксама ў Слоніме (школьны музей «Літаратурная Слонімшчына»).

Пачынаючы з 1911 творы К. Лейкі друкаваліся ў «Нашай ніве». У 1912 асобным выданнем у Вільні выйшла яго п'еса «Снатворны мак». У 1914

Я. Купала прапанаваў яму выдаць зборнік. Пісьменнік з радасцю згадзіўся і рыхтаваў да друку кніжку пад назвай «Засеўкі», у якую былі ўключаны 9 празаічных твораў і верш. Але 1-я сусветная вайна перашкодзіла здзейсніць гэтую задуму.

Творы К. Лейкі былі высока ацэнены ў свой час М. Гарэцкім, які пісаў пра яго: «...надта здольны нашаніўскі апавядальнік», «... ён зробіцца адным з самых відных беларускіх белетрыстаў» (Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920. С. 202—203). Проза пісьменніка, праблемная для свайго часу, вызначаецца паглыбленнем у сацыяльныя канфлікты, у пытанні агульнакультурнага, нацыянальнага жыцця, у паводзіны чалавека, яго ўнутраны свет. Апавяданні К. Лейкі засведчылі, што ён не толькі назіральны бытапісальнік і адкрывальнік унутранага свету сваіх герояў, а і лірык, гумарыст, сатырык. Яго проза разнастайная і па жанру, большасць яго празаічных твораў мяжуюць з мастацкім нарысам, некаторыя нагадваюць лірычную імпрэсію. У апавяданні «Кульгавы дзед Раман» створаны прывабны вобраз селяніна-працаўніка, паказана багацце яго духоўнага жыцця. У апавяданні «Панас Крэнт» намаляваны супрацьлеглы тып — вобраз кулака-крывасмока. П'еса К. Лейкі «Снатворны мак», заснаваная на фальклорна-казачным сюжэце, лічыцца першай спробай у беларускай літаратуры стварыць драматычны твор для лялечнага тэатра. *З. П. Мельнікава.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Снатворны мак: Сцэна для дзіцячых тэатраў. Вільня. 1912.

**1.3.**

**1911.** Успамін: [Апавяданне] // Н. н. 20 кастр.; Зязюлька: [Верш] // Там жа. 27 кастр.

**1912.** Кульгавы дзядзька Раман: [Апавяданне] // Зборнік Нашай нівы. Вільня. № 1; Н. н. 19 крас.; Таклюся — сухотніца: [Апавяданне] // Зборнік Нашай нівы. Вільня. № 2; Н. н. 28 чэрв.; Снатворны мак: (Сцэна для дзіцячых тэатраў) // Там жа. 14, 21 снеж.

**1913.** Лес шуміць: [Апавяданне] // Н. н. 3 кастр.; Панас Крэнт: З беларускага жыцця: [Апавяданне] // Там жа. 7, 14 ліст.

**1914.** Лепей смерць, чым грэх: Carte postale: [Апавяданне] // Велікодная пісанка. Вільня; Наша нядбайшчына // Н. н. 7 лют. / Пад крыпт. Л-ка К.; Навальніца: [Верш] // Там жа. 13 лют.; Пан Трудоўскі: [Апавяданне] // Там жа. 25 крас.

**1915.** Абмылка: [Апавяданне] // Н. н. 29 мая, 5 чэрв.

**1916.** Таклюся — сухотніца: (Беларускія тыпы): [Апавяданне] // Беларускі каляндар на 1916 год. Вільня.

**1917.** У гадаўшчыну // Гоман. 16 лют. / Пад крыпт. К. Л.

**1919.** Без хлеба: (Віленскі абразок): [Апавяданне] // Бел. думка. 2 чэрв. / Пад крыпт. К. Л.

**1921.** Бабуся: (З натуры): [Апавяданне] // Наша думка. 14 студз.

**1965.** Кульгавы дзядзька Раман; Таклюся — сухотніца: (Беларускія тыпы); Панас Крэнт: (З беларускага жыцця): [Апавяданні] // Беларуская дакастрычніцкая проза. Мн.

**1967.** Таклюся — сухотніца: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1968.** Таклюся — сухотніца: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. № 12.

**1978.** Снатворны мак: Сцэна для дзіцячых тэатраў // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн.

**1990.** З літаратурнай спадчыны // Маладосць. № 3.

**1.4.**

**1912.** Думка: [Верш] / З укр. // Н. н. 15 сак. / Пер. пад крыпт. К. Л.

**1.6.**

Руская азбука. Харьков, 1893 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Г а р э ц к і М. Лейка Кандрат // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; Г і с т о р ы я беларускага тэатра: У 3 т. Мн., 1983. Т. 1. С. 400; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1969. Т. 2. С. 257—258; К а б р ж ы ц к а я Т., Р а г о й ш а В. Карані дружбы. Мн., 1976. С. 69—71; Л о й к а А. Плеяда старэйшых адраджэнцаў // Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1980. Ч. 2; С е м я н о в і ч А. Беларуская драматургія: (Дакастрычніцкі перыяд). Мн., 1961. С. 228—229; Х р о м ч а н к а К. Беларуская мастацкая проза: (Канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1979. С. 106—110.

**3.1.**

ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 254, 256—258. *Т. М. Махнач.*

# ЛЕНСУ АЛЕНА



*Ленсу (Лянсу) Алена Якаўлеўна [н. 18.4(1.5).1914, Пецярбург], літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1943). Дацэнт (1943).*

Нарадзілася і вырасла ў сям'і педагогаў. Бацька, Якаў Якаўлевіч, працаваў сельскім настаўнікам, пазней служачым. Маці, Жураўская Алена Станіславаўна, таксама настаўніца. Спачатку бацькі працавалі ў сельскіх школах каля Токсава пад Ленінградам, пазней жылі ў Ленінградзе. У 1930 А. Ленсу скончыла 8 класаў школы № 73 Ленінграда. У 1931—35 работніца, потым лабарантка ленінградскай папяровай фабрыкі «Дзяржзнак». У 1935 паступіла на факультэт літаратуры і гісторыі, які пазней рэарганізаваны ў філалагічны факультэт Ленінградскага універсітэта. Пасля заканчэння яго (1940) вучылася ў аспірантуры. Калі універсітэт знаходзіўся ў эвакуацыі ў Саратаве, абараніла там кандыдацкую дысертацыю на тэму «Ранняя творчасць Л. М. Талстога». У 1943 уступіла ў партыю. У 1943—51 дацэнт, загадчык кафедры літаратуры Шадрынскага педінстытута (г. Шадрынск Курганскай вобл.). У 1951—80 дацэнт, загадчык кафедры рускай і зарубежнай літаратуры Мінскага педінстытута. У 1980—85 узначальвала аддзел методыкі навучання літаратуры Навукова-даследчага інстытута педагогікі (Мінск). Узнагароджана медалямі, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Упершыню А. Ленсу выступіла ў друку ў 1953. У сваіх артыкулах і рэцэнзіях распрацоўвае пытанні літаратурных традыцый і ўзаемасувязей (М. Ламаносаў, М. Гогаль, Ф. Дастаеўскі, Л. Талстой, А. Чэхаў, М. Някрасаў, Т. Шаўчэнка, Я. Купала, Я. Колас), тэорыі і методыкі выкладання літаратуры, методыкі аналізу мастацкага твора. Аўтар манаграфій і вучэбна-метадычных дапаможнікаў «Фальклорныя традыцыі ў дакастрычніцкай творчасці Я. Купалы», «Задума. Мастацкая ідэя і вобразны свет літаратурнага твора», «Вывучэнне тэорыі літаратуры ў школе (IV—VII кл.)» і інш.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

За тесную связь пропаганды литературных знаний с жизнью народа. Мн., 1958.

Ленинская теория отражения и вопросы литературы. Мн., 1958.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі аб працоўных подзвігах свайго народа. Мн., 1959.

Станаўленне метаду сацыялістычнага рэалізму ў творчасці Янкі Купалы. Мн., 1962. Рэц.: Царанкоў Л. Які разгляд, такія і вывады // ЛіМ. 1962. 19 чэрв.

Пытанні тэорыі літаратуры. Мн., 1964 / Сааўт. М. Лазарук. Рэц.: Дзюбайла П. Прастата і спрошчанасць // ЛіМ. 1965. 5 студз.; Мітраховіч С. Дапаможнік па тэорыі літаратуры // Наст. газ. 1965. 9 чэрв.

Фольклорные традиции в дооктябрьском творчестве Янки Купалы. Мн., 1965. Рэц.: Грынчык М. Янка Купала і народная паэзія // Полымя. 1966. № 8.

Уводзіны ў літаратуразнаўства. Мн., 1970 / Сааўт. М. Лазарук; 2 выд., дапрац. і дап. Мн., 1982.

Дооктябрьское творчество Янки Купалы в свете литературных связей и традиций. Автореф. дис. ... докт. филол. н. Мн., 1972.

Дооктябрьское творчество Купалы в свете литературных связей и традиций: Учеб.-метод. пособие. Мн., 1976.

Художественная идея и образ. Мн., 1978.

Курсовые работы по русской литературе XIX века и советской литературе. Мн., 1978 / Сааўт. І. Разанаў.

Замысел. Художественная идея и образный мир литературного произведения. Мн., 1980.

Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў: Дапаможнік для настаўнікаў. Мн., 1983 / Сааўт. М. Лазарук. Рэц.: Крот М. Тым, каго вабіць мастацкае слова // Наст. газ. 1983. 16 ліст.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985 / У сааўт.

Вывучэнне тэорыі літаратуры ў школе (IV—VII кл.). Мн., 1985. (Б-ка настаўніка бел. мовы і літ.). Рэц.: Боган У. Аналіз мастацкага твора // Наст. газ. 1985. 21 жн.; Шкраба Р. Асцярожна: школа! // Полымя. 1985. № 12.

Художественная идея и образный мир литературного

произведения: Учеб. пособие для филол. фак. пединститутов БССР. Мн., 1986.

1.3.

**1953.** Поверхностная статья // Сов. Бел. 16 июня.

**1956.** «Раскіданае гняздо» Я. Купалы: (Да пытання аб жанры п'есы) // Полымя. № 9; Ф. М. Достоевский // Сов. Бел. 9 февр.

**1958.** «Раскіданае гняздо» Я. Купалы: (Да пытання аб жанры п'есы) // Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн.; Грунтоўнае даследаванне // ЛіМ. 5 ліп.

**1959.** Раман аб нашых сучасніках // Полымя. № 2.

**1961.** Вісарыён Бялінскі // Работніца і сялянка. № 6; Первый поэт Руси // Сов. Бел. 19 нояб.; Большой друг народа: К 140-летию со дня рождения Н. А. Некрасова // Там жа. 10 дек.

**1963.** З чым нельга пагадзіцца // ЛіМ. 26 крас.

**1968.** К проблеме горьковских традиций в дооктябрьском творчестве Я. Купалы // Доклады межвузовской научной конференции, посвященной 100-летию со дня рождения А. М. Горького. Мн.; Стих призывный, страстный // Сов. Бел. 15 июня.

**1969.** «С землей и небом связывает нить...» // Неман. № 12.

**1971.** Образная сила слова В. И. Ленина // В. И. Ленин и художественная литература. Мн.; Дакастрычніцкая творчасць Купалы і Някрасаў // Полымя. № 12.

**1974.** Пра стылёвае багацце: [Рэц. на кн.: З а л е с с к а я Л. О романтическом течении в советской литературе. М., 1973] // Полымя. № 1 / Сааўт. А. Семяновіч; Ад беларускіх ніў і ўдзячных сэрцаў братніх // Там жа. № 6.

**1976.** О петербургских повестях // Гоголь Н. Петербургские повести. Мн.; Художественное время в белорусской поэзии XIX в. // Филологические исследования. Мн.

**1977.** Художественное время в лирике Ф. Богушевича // Проблемы жанра. Мн.; На шасцідзесяцігадовым рубяжы // Звязда. 3 снеж.

**1978.** Писатель и действительность; В. И. Ленин о Толстом // Учебное пособие по специальному курсу для студентов-заочников филфака педагогического института. Мн.; Рысы эпасу // Маладосць. № 11.

**1980.** Художественное время в дооктябрьской поэзии Я. Купалы // Жанр и стиль художественного произведения. Мн.

**1982.** Фарміраванне і развіццё літаратурных здольнасцей у вучняў сярэдніх класаў у працэсе вывучэння тэарэтычна-літаратурных паняццяў // Адзінства навучання і выхавання на ўроках літаратуры. Мн.; Янка Купала і творчасць Тараса Шаўчэнкі // Янка Купала і Якуб Колас: Некаторыя аспекты творчасці. Мн.

**1983.** Аналіз рамана І. Мележа «Людзі на балоце» ў святле праграмных патрабаванняў па тэорыі літаратуры // Выкладанне беларускай мовы і літаратуры. Мн.; Вывучэнне паняцця «літаратурны герой» // Шляхі ўдасканалення літаратурнай адукацыі ў школе. Мн.

**1984.** Идейно-нравственное и эстетическое воспитание учащихся // Педагогические проблемы идейно-нравственного воспитания учащихся в процессе обучения и внеурочной работы. Мн.; Изучение понятия партийности литературы в школе // Преподавание русской литературы. Мн.

**1985.** Пытанні ўдасканалення методыкі аналізу мастацкага твора ў школе // Методыка аналізу літаратурнага твора ў школе. Мн.; Воспитание патриотизма на уроках литературы // Патриотическое воспитание на уроках литературы и во внеклассной работе. М.; Роль урока в коммунистическом воспитании учащихся // Нар. асвета. № 6; Класавасць мастацкай літаратуры // Там жа. № 11.

1.6.

Ш л я х і ўдасканалення літаратурнай адукацыі ў школе: Зб. навук. прац. Мн., 1983 / Рэд. з М. Лазаруком.

2.3.

**На беларускай мове.** К а н а ш В., Ц і х а н ч у к М. Шчодры плён // Наст. газ. 1984. 11 ліп.

*М. П. Барташэвіч.*

# ЛЕТКА ІВАН



*Летка Іван Антонавіч (н. 14.6.1935, маёнтак Масаляны Гродзенскага пав. Беластоцкага ваяв., цяпер Берастаўвіцкі р-н Гродзенскай вобл.), паэт. Член СП Расіі з 1978.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Антон Васілевіч, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, ваяваў на франтах першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. У 1919 калчакаўцамі быў прыгавораны да расстрэлу, але ў апошні момант прысуд адмянілі. У Расію з Гродзеншчыны Летка ўцёк разам са сваёй будучай жонкай Соф'яй Васілеўнай, каб там ажаніцца. У 1925 сям'я А. Леткі вярнулася на Гродзеншчыну, у в. Бадзюкі. Хаты ўласнай не было, жылі ў зямлянцы. З паўгектара ўласнай зямлі сям'я, у якой на той час было васьмёра дзяцей, пракарміцца не магла, таму бацька

наймаўся парабкам. Бацькі былі адукаваныя, шмат чыталі, мелі сваю бібліятэку, якая ў час вайны разышлася па людзях. У Масалянах нарадзіўся апошні ў іх сям'і сын Іван. Маці, якой тады ўжо было 44 гады, пасля родаў хварэла і неўзабаве памерла. У 1941 загінуў бацька. Хлопчык застаўся сіратой. У 1944 пайшоў у першы клас Масалянскай сямігодкі. У 5-м класе захварэў рэўматызмам, цэлую чвэрць лячыўся ў шпіталі і быў пакінуты на другі год. За лета падрыхтаваўся самастойна, здаў экзамены за 5-ы клас і ў 6-ы пайшоў разам з усімі. У 1954 скончыў Масалянскую СШ і паехаў у Маскву да брата. Вучыўся ў медыцынскім вучылішчы, адтуль прызваны ў Савецкую Армію. Дэмабілізаваўшыся, працаваў грузчыкам на бетонным заводзе ў Маскве, мулярам-дэкаратарам у Цэнтральным тэатры Савецкай Арміі, кавалём на аўтазаводзе імя Ліхачова. У 1961 паступіў на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута і ў 1967 паспяхова абараніў дыплом. Вучобу сумяшчаў з працай на заводзе. З 1971 працаваў майстрам, намеснікам начальніка цэха па вытворчасці, начальнікам участка, інжынерам па кадрах. З 1985 на пенсіі. Узнагароджаны ордэнам Працоўнай Славы, медалём.

Цяга да паэтычнага слова, да народнай песні абудзілася ў І. Леткі ў раннім маленстве. Першы яго верш «На радзіме» апублікаваны ў газеце «Чырвоная змена» (1959), пасля чаго яго вершы сталі часта з'яўляцца на старонках беларускіх перыядычных выданняў, гучаць па радыё. У 1960 у часопісе «Полымя» надрукавана падборка вершаў з прадмовай Р. Бярозкіна. Аўтар зборнікаў паэзіі «Тры крокі ад сонца», «Тры верасні», «Грамы на зімоўцы» і інш. Хараство прыроды, паэтызацыя стваральнай працы, гісторыя і сучаснасць — асноўныя матывы лірыкі паэта. Яркая метафарычная вобразнасць спалучаецца ў яго з апавядальна-спакойным рытмічным ладам. У паэме «Каліноўцы» створаны вобразы гераічных удзельнікаў паўстання 1863—64.

Жыве ў Маскве. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Тры крокі ад сонца: Вершы. Мн., 1967. Рэц.: Бярозкін Р. Чалавек пры агні // Беларусь. 1968. № 4; Кляўко Г. Путы і пратуберанцы // ЛіМ. 1968. 6 лют.; Марціновіч А. // Чырв. змена. 1968. 6 лют.; Мыслівец В. // Вяч. Мінск. 1968. 21 сак.; Шаховіч М. Паэзія моцных рук // Мін. праўда. 1968. 7 чэрв.

Тры верасні: Вершы. Мн., 1970. Рэц.: Семашкевіч Р. На подступах // ЛіМ. 1970. 2 кастр.

Грамы на зімоўцы: Вершы і паэма. Мн., 1974.

Агні ў пралётах: Вершы. Мн., 1991.

**1.3.**

**1959.** На радзіме: [Верш] // Чырв. змена. 12 лют.; Голас мой: [Верш] // Там жа. 17 мая; Лётаюць сэрцы: [Верш] // Там жа. 20 ліп.; «Край васількowага лета...»: [Верш] // Там жа. 26 жн.

**1960.** Сокал; «Буты»; «Млявы дзень...»; Чалавеку: [Вершы] // Полымя. № 7.

**1961.** Полымя: [Верш] // Полымя. № 10; Насуплюся часам...: [Верш] // ЛіМ. 17 студз.

**1962.** Нашы рукі; Маленькі гаспадар: [Вершы] // Маладосць. № 5; Бульба: [Верш] // Полымя. № 12; Не ўзрывайце вышыні: [Верш] // ЛіМ. 19 чэрв.; Шапоча вецце: [Верш] // Чырв. змена. 16 чэрв.

**1963.** Афрыка: [Верш] // Знамя юности. 5 нояб.; Равеснікі: [Верш] // ЛіМ. 1 сак.; Моўчкі...: [Верш] // Там жа. 12 ліст.; Сіні дзень: [Верш] // Сел. газ. 10 февр.; Мядзведзь: [Верш] // Чырв. змена. 31 кастр.

**1964.** Пейзажы: [Верш] // Гродн. правда. 26 сент.

**1965.** Дарогі; Ля домнаў; Ціхія; Трывога; «Каласамі ўпёрлася жыта ў сіні...»: [Вершы] // Маладосць. № 7; «Каласамі ўперлася жыта...»: [Верш] / ЛіМ. 9 ліп.

**1966.** Ільіча я ведаю жывога: [Верш] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Полымя. № 4.

**1967.** Лявоніха: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Ільіча я ведаю жывога: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Сынок; Гром: [Вершы] // Беларусь. № 6; Гавораць, нібы сэрца не празрыстае: [Верш] // Маладосць. № 7; З кнігі «Тры крокі ад сонца»: Мая праўда; Тры крокі ад сонца; Апошняя электрычка; Дарога з гор; Чорны колер; Рукі; «Сціснецца сэрца да слёз...»; «Крапіва ў маленстве...»; Харты; Дзеці вайны; Паўлюк Багрым; Вясна ў кузні; «Руду здабывалі ў балотах багі...»; «Жывуць драпежныя звяры...»; «Трэба крычаць...»: [Вершы] // Полымя. № 6; Калі на фронт...: [Верш] // ЛіМ. 11 жн.

**1969.** Ільіча я ведаю жывога: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.

**1970.** Мастаўляны: [Верш] // Беларускі каляндар. 1971. Беласток; Ільіча я ведаю жывога: [Верш] // Чырв. змена. 21 студз.

**1976.** Я зайздрошчу майстрам, што ўстаюць на зары: Малое шчасце; Майстра, ціха!: [Вершы] // ЛіМ. 26 сак.; Ільіча я ведаю жывога: [Верш] // Чырв. змена. 18 сак.

**1977.** Рукавіцы: [Верш] // Дзень паэзіі — 77. Мн.; Урачысты будзень; Добры дзень, Масаляны!; Восень: [Вершы] // Полымя. № 10; Субботник; «Светает... На работу тороплюсь...»; Характеристика: [Вершы] // Рабочая смена. № 4.

**1980.** Сябрам юнацкае пары; Стома; «У дзень зарплаты кавалі...»; «Над густою калінай...»; «Пад сцежку даў нырца ручай...»; Надзея; Гусі-лебедзі: [Вершы] // ЛіМ. 18 студз.

**1981.** Бераставіцкі бальшак: [Верш] // ЛіМ. 7 жн.

**1982.** Спадчына: [Верш] // Полымя. № 6.

**1984.** Вячэрняя змена; «Дым. Кузня. Горкае гарэнне...»; На глыбах бетону; Лясы; Балада пра Паўлюка Багрыма; Першы снег: [Вершы] // ЛіМ. 31 жн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Энергия; Сокол: [Вершы] / Пер. Г. Рябчиков // Техника — молодежи. 1964. № 9; Две руки: [Верш] / Пер. Г. Рябчиков // Там жа. 1966. № 9; Знаю Ильича живым: [Верш] / Пер. А. Шарапов // Сов. Бел. 1966. 1 мая; Где молоты бьют: [Верш] / Пер. В. Эльхин // Соц. индустрия. 1972. 26 июля; Горячий цех: Тополя; В ночную смену; «Я все могу...»; «Светает...»; Субботник; Характеристика: [Вершы] / Пер. В. Гуринович // Неман. 1975. № 11; Характеристика: [Верш] / Пер. В. Гуринович // Рабоче-крестьян. кор. 1979. № 2; Сокол: [Верш] / Пер. И. Василевский // Извечной песни голоса. Мн., 1980; Корни: «Время, погоди маленько...»; Дядьки; «А у нас в октябре...»; Металл и слово; «Тороплюсь...»: [Вершы] / Пер. В. Гуринович // Неман. 1981. № 1; «Светает...»; Характеристика: [Вершы] / Пер. В. Гуринович // Аврора. 1983. № 1; Красная суббота: [Верш] / Пер. Н. Котенко // Гудок. 1983. 16 апр.

**На ўкраінскую мову.** Бульба: [Верш] / Пер. М. Сингаївський // Прапор. 1963. № 1; Молода гвардія. 1966. 5 груд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бярозкін Р. У добры час // Полымя. 1960. № 7; Вялюгін А. Вершы моцных рук // Летка І. Тры крокі ад сонца. Мн., 1967; Грахоўскі С. Крытэрый патрабавальнасці // Полымя. 1971. № 4. *М. П. Барташэвіч.*

# ЛЕЎ КРЭЎЗА

*Леў (Лявон) Крэўза Жавускі (дата і месца нараджэння невядомы — 1638, Смаленск), пісьменнік-палеміст 1-й паловы 17 ст., смаленскі уніяцкі архіепіскап.*

Паходзіў з дробнай беларускай шляхты на Падляшшы (па мянушцы Бэйда). Будучы чалавекам бедным, пастрыгся ў манахі віленскага манастыра св. Тройцы і прыняў імя Леў. У 1617 без ведама і санкцыі мітрапаліта Іосіфа Вельяміна-Руцкага паслушнікамі быў выбраны архімандрытам. Бачачы здольнасці і стараннасць Льва Крэўзы, мітрапаліт не аспрэчваў гэта рашэнне. І новы архімандрыт апраўдаў давер. Ён стаў падтрымліваць палітыку Руцкага, скіраваную на сцвярджэнне уніяцтва, наладзіў у Вільні публічны дыспут з антыуніятамі. Каб даказаць гістарычную заканамернасць і пераемнасць традыцый Фларэнційскага сабора 1439, удзельнікі якога заклікалі да аб'яднання праваслаўных патрыярхаў з папай рымскім, Леў Крэўза ўзяўся за пяро, імкнучыся знайсці ў далёкай гісторыі, пачынаючы ад часоў хрышчэння Кіеўскай Русі, факты, якія б сведчылі пра адзінства хрысціянскай царквы. Ён напісаў на польскай мове палемічны твор «За сінодам Фларэнцкім» (не збярогся), накіраваны супраць ананімнага праваслаўнага апалагета Клірыка Астрожскага (паводле сведчання М. Возняка, пад гэтым псеўданімам схаваў сваё імя Гаўрыіл Дарафеевіч), які ў 1598 надрукаваў антыуніяцкую «Гісторыю аб разбойніцкім Фларэнційскім саборы». У абарону Брэсцкай уніі 1596 скіраваны таксама яго польскамоўны апалагетычна-палемічны твор «Абарона царкоўнай еднасці, або Доказы, якія сведчаць, чаму грэчаская царква павінна быць аб'ядна-на з лацінскай». Рэкамендаваная да друку па загаду мітрапаліта І. Вельяміна-Руцкага, «Абарона...» выдадзена ў 1617 у Вільні ў друкарні Л. Мамоніча. У гэтым творы Леў Крэўза пераказаў гісторыю уніі, змясціў звесткі пра ўсіх кіеўскіх мітрапалітаў і выказаў думку, што многія з іх імкнуліся да адзінства з Рымам. Друкуючы «Абарону...» на польскай мове, аўтар абяцаў у хуткім часе перавыдаць яе на старабеларускай. Але невядома, ці ажыццявіў сваё абяцанне, бо такое выданне не знойдзена. Апрача двух вышэй названых твораў Леў Крэўза пакінуў пасля сябе польскамоўны рукапіс «Абарона манастыра св. Тройцы», які надрукаваны толькі ў 1702. Гэты рукапіс, рэкамендаваны мітрапаліту і ордэну базыліян, паслужыў у свой час падставай выбрання Льва Крэўзы протаархімандрытам (генералам) ордэна базыліян на кангрэгацыі 1621 у Лаўрышаве. Праз 4 гады мітрапаліт Руцкі прызначыў яго архіепіскапам смаленскім і чарнігаўскім. У Смаленску Леў Крэўза пражыў каля 15 гадоў і пэўны час быў уніяцкім канкурэнтам праваслаўнага епіскапа Ісайі Капінскага. Але канкурэнцыя была нядоўгай: калі ў 1631 памёр праваслаўны мітрапаліт Іоў Барэцкі, І. Капінскі, выбраны кіеўскім мітрапалітам, пакінуў Смаленск. Леў Крэўза застаўся тут адзін і прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх справах уніяцкай царквы. Адсюль у 1629 ён ездзіў на сінод у Львоў, дзе меркавалася прымірыць праваслаўных з уніятамі.

*А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Obrona jedności cerkiewnej abo dowody, ktoremi się pokazuie, iż Grecka cerkiew z Łacińką ma być ziednoczona. Wilno, 1617.

Kazanie o świątobliwym żywocie... oyca Iosaphata Kuncewicza... [Połock?], 1625 / Аўт. спрэчнае.

Obrona monasteru św. Troicy. Wilno, 1702.

Lev Krevza's „Obrona iedności cerkiewney" and Zaxarija Kopysteńskyis „Palinodija": Harvard library of Early Ukrainian literature: Texts. Vol. 3. Harvard, 1988.

**1.3.**

**1878.** Obrona jedności cerkiewnej // Памятники полемической литературы в Западной Руси. Спб., 1878. Кн. 1 (РИБ. Т. 4).

**2.3.**

**На рускай мове.** Говорский К. Иосафат Кунцевич полотский униятский архиепископ // Вестн. Юго-Зап. и Зап. России. 1862. Т. 2; М. П. Древняя рукописная Палинодия // Лит. епарх. вед. 1898. № 21; Сокол С. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII в. Мн., 1984. С. 117.


*Т. М. Махнач.*



**Леўчык Гальяш [сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; інш. псеўд. Гальяш Л.,. Гляգля Бач, З-пад Мігоўскі, крыпт. Г. Л., Га-Ле; 29.7(7.8).1880, Слонім—1944, Варшава], паэт, празаік, перакладчык.**

Нарадзіўся ў сям'і вясковага каваля, які з роднай вёскі Шэйпічы, што ля Ружанаў, пераехаў у Слонім. Г. Леўчык скончыў Слонімскае павятовае вучылішча, служыў у Слоніме пісарчуком у каморніка, у канцылярыях з'езда міравых суддзяў, судовага следчага. З маленства выявіліся яго здольнасці маляваць, іграць на скрыпцы і гітары, спяваць. На курсах у родным горадзе набыў прафесію чарцёжніка. У 1904 выехаў у Варшаву, дзе да пачатку першай сусветнай вайны служыў чарцёжнікам. У пачатку 1920-х гадоў спрабаваў перабрацца на сталае жыхарства ў Вільню, але не ўладкаваўшыся тут на службу, вярнуўся ў Варшаву, дзе часам таксама даводзілася быць беспрацоўным. У Слонім прыязджаў кожнае лета, на бацькавым пляцы пабудаваў невялікі домік. На радзіме яму добра адпачывалася, добра думалася, плённа пісалася. Адарванасць ад радзімы абвастрыла патрыятычныя пачуцці, выклікала патрэбу служыць свайму народу. У 1908—12 рэгулярна супрацоўнічаў з газетай «Наша ніва», дасылаў туды творы, падпісаныя псеўданімам Гальяш Леўчык. Па заданні патрыятычна настроеных сяброў-аднадумцаў збіраў сродкі на пасмяротнае выданне твораў Сяргея Палуяна, яго ж памяці прысвяціў верш «Мне трэба ўмярці», да якога, паводле сведчання сучаснікаў, сам напісаў музыку і які любіў спяваць. Часта са свайго сціплага бюджэту выкройваў сродкі на розныя культурныя і выдавецкія мерапрыемствы, быў актыўным збіральнікам матэрыялаў для Беларускага музея ў Вільні. Г. Леўчык збіраў беларускія друкаваныя выданні (у яго асабістай бібліятэцы, як сведчаць сучаснікі, былі некаторыя нумары «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага, кнігі «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча, «Вянок» М. Багдановіча і інш.). Як жыхар Варшавы аказваў таварыскія паслугі сябрам і знаёмым з Беларусі, якія траплялі ў Польшчу, гуртаваў іх у зямляцтва, падтрымліваў асабістыя сувязі з Я. Купалам і Я. Коласам, быў пад непасрэдным уплывам іх творчасці.

Першыя вершы Г. Леўчык апублікаваў у 1908. У 1912 выдаў у Вільні зборнік вершаў «Чыжык беларускі». Творы яго пераважна настраёвыя, сумныя. Лірычны герой цесна звязаны з народам і пакутуе разам з ім. Пратэст супраць сацыяльнага зла ў гэтага героя выліваўся ў бунт сумлення. Паэт асуджаў адшчапенцаў і прыстасаванцаў («Хто адрокся сваіх»). У зборніку сустракаюцца журботна-меланхалічныя вобразы — адарванага ці засохлага лістка, пустых разор, замшэлых хат, спаленага жалем сэрца. Імперыялістычная вайна і разуменне яе сапраўдных прычын зрабілі значны ўплыў на станаўленне светапогляду і ідэалаў Г. Леўчыка як грамадзяніна і паэта. У яго творчасці з'явіліся антываенныя матывы («Восень», «Стогнуць, енчаць лес і горы» і інш.). У вершах Г. Леўчыка 20-х гадоў важнае месца заняла тэма Заходняй Беларусі. Ад імя суайчыннікаў паэт асуджаў усталяваны тут польскімі ўладамі рэжым. Стварыў шэраг вершаў у жанры палітычнай сатыры (некаторыя з іх змяшчаліся ў часопісе «Маланка»). Творы Г. Леўчыка гэтага часу арганічна ўліваліся ў рэчышча рэвалюцыйнага заходнебеларускага рамантызму, які прадстаўлялі яго сучаснікі У. Жылка, Л. Родзевіч, І. Канчэўскі («Дзіка бура загудзела», «Цень беларускага лірніка», «Волат», «Груганы», «Не нам беларусам» і інш.). У 20-я гады ён напісаў філасофска-медытацыйныя паэмы ў прозе «Хараство» і «Чалавек», у якіх абвяшчаў хараством усеагульную гармонію быцця і праўду мастацкага пазнання, прызваннем чалавека лічыў вечнае ўдасканаленне. У гэты ж час ім створаны празаічныя і публіцыстычныя творы. Г. Леўчык быў непасрэдна звязаны з вызваленчым рухам Заходняй Беларусі, што паступова прыўносіла ў яго творы аптымістычныя матывы. Ён быў актыўным карэспандэнтам дзіцячага часопіса «Заранка», спецыяльна для яго пісаў вершы, вершаваныя загадкі, прозу. Перакладаў для заходнебеларускага чытача лепшыя творы польскай і сусветнай паэзіі. Захавалася эпісталярная спадчына паэта, якая выяўляла яго грамадзянскую актыўнасць (прыкладаў намаганні адкрыць у Вільні выдавецтва «Кніжніца»; грамадскасць прасіла яго ў 1928 даць згоду балаціравацца ў паслы сей-

ма, але ён, бачачы ўзмацненне дыктатуры санацыі, адмовіўся). У 1930-я гады жыў у Слоніме (на вул. 3-га Мая, пазней Чырвонаармейскай у доме 73); у 1939 яго тут наведалі Я. Купала і М. Лынькоў. Г. Леўчык шчыра вітаў вызваленне Заходняй Беларусі і прыезд вядомых пісьменнікаў у сваёй прамове на мітынгу ў грамадскім клубе. Клапоцячыся пра лёс сваёй унікальнай варшаўскай бібліятэкі, ён у тым жа годзе выехаў у Польшчу. У слонімскім доміку засталася жыць жонка Зося, якую ў 1942 расстралялі фашысты. У 1944 варшаўскі дом Г. Леўчыка, дзе ён жыў тады, быў разбураны бомбай, а ў верасні ў акупіраванай польскай сталіцы памёр і ён сам.

Індывідуальную своеасаблівасць паэзіі Г. Леўчыка надаюць шчырасць і высакароднасць аўтарскага пачуцця. Знамянальны ў гэтых адносінах апошні з вядомых нам яго вершаў «Маё ўвасабленне», датаваны 1938. У гады Вялікай Айчыннай вайны верш Г. Леўчыка «Хто адрокся сваіх» быў вельмі папулярны сярод партызан. Пераапрацаваны ў асяроддзі народных мсціўцаў, ён выкарыстоўваўся як лістоўка. Гэты варыянт верша змешчаны ў зборніку «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны» (Мн., 1961). *З. П. Мельнікава.*

## Бібліяграфія


**1.1.**
Доля і хлеб: Выбр. тв. Мн., 1980. Рэц.: З и н г е р Д. За счастье народа // Гродн. правда. 1980. 11 нояб.; К л і м у ц ь Я. З кагорты першых // Полымя. 1981. № 7; S i e l i c k i F. // Sl. Orient. 1983. Nr 3.
**1.2.**
Čyžyk białaruski: (Wieršy). Wilnia, 1912.
**1.3.**
**1908.** «Хоць цэлы дзень цябе смех браў...»: [Верш] // Н. н. 15 лют.; Іх шкада мне: [Верш] // Там жа. 15 жн.
**1909.** Ой, цяжка: [Верш] // Н. н. 1 студз.; «Нашай Ніве» ў трэцюю гадаўшчыну: [Верш] // Там жа. 26 ліст.
**1910.** «Смешна часам баеш, дзядзька...»: [Верш] // Н. н. 8 сак.; Шэрая гадзіна: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Зламайце дудку: [Верш] // Там жа. 8 ліп.
**1911.** «Усё пераходзе, ўдалі знікае...»; «Я чайка слабая...»: [Вершы] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 год. Вільня; Цяжка часам...: [Верш] // Н. н. 7 ліп.; Дружна брацця!..: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Сірата: [Верш] // Там жа. 15 снеж.
**1912.** Дружна, брацця!..: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год. Вільня; Пры калысцы: [Верш] // Н. н. 2 лют.; «Жальбай зноў спатыкаю вясну...»: [Верш] // Там жа. 21 чэрв.
**1913.** «Жальбай зноў спатыкаю вясну...»; Пры калысцы: [Вершы] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год; Вільня; Малітва каня // Саха. № 15; Мы жывем надзеяй!..: [Верш] // Беларус. 21 лют.; Вечны батрак жыцця: [Верш] // Н. н. 10 кастр.
**1914.** «Жальбай зноў спатыкаю вясну...»: [Верш] // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1914 год. Вільня; Без працы: (Казка) // Беларус. 2 крас. / Пад крыпт. Л. Аўт. спрэчнае.
**1919.** Мы жывём надзеяй: [Верш] // Бел. жыццё. 5 чэрв.; Процi — усерасійскі фронт // Беларусь. 16 ліст. / Пад крыпт. Г. Л.; У табары «единой, неделимой» // Там жа. 18, 19 ліст. / Пад крыпт. Г. Л.
**1920.** Дажынкі на Беларусі ў 1920 г.: [Верш] // Бел. слова (Гродна). 22 кастр. / Пад псеўд. Гальяш Л.; Гдзе выхад? // Беларусь. 25 крас. / Пад крыпт. Г. Л.
**1921.** Нічога не хочу; Хто адрокся; Дажынкі на Беларусі ў 1920 г.: [Вершы] // Дэкламатар. Вільня; Мы не дбаем (Пераробка з Міцкевіча): [Верш] // Сялян. доля. № 3 / Пад крыпт. Г. Л.; «Стогнуць, енчаць лес і горы...»: [Верш] // Бел. звон. 28 крас.; Следам за дзедам: [Верш] // Там жа. 16 вер.; Восень: [Верш] // Там жа. 18 ліст.; Нічога не хочу...; Хто адрокся сваіх: [Вершы] // Бел. ведамасці. 23 кастр.; Дажынкі на Беларусі ў 1920 г.: [Верш] // Там жа. 25 снеж.
**1922.** Прысяга незалежнасці: [Верш] // Наш шлях. № 4 / Пад крыпт. Г. Л.; Поп Іван: (Апавяданне) // Бел. вёска / Пад крыпт. Л. Аўт. спрэчнае; «Жаваранкаў хоры цешаць нашу ніву...»: [Верш] // Бел. звон. 22 крас. / Пад псеўд. Гальяш Л.
**1923.** З індускіх пагаворак: [Вершы] // Наша будучыня. 14 лют.
**1924.** Пры калысцы: (Пасвячаю Язэпу Гапановічу): [Верш] // Беларускі дэкламатар. Мн.; Беларусь — мой край: [Верш] // Заходняя Беларусь. Вільня.
**1925.** «Сваю родну зямлю хто чужынцу прадаў...»; «Мову родную хто пазабыў, асьмеяў...»: [Вершы] // Беларускі Гаспадарскі Каляндар на 1926 год. Вільня; Восень: [Верш] // Правасл. беларус № 17—18; Галгофа: (З Зм. Бядулі): [Апавяданне] // Там жа. № 19—20. / Пад крыпт. Г. Л.; Сон на Нёмане каля Шчары: [Верш] // Студэнцкая думка. № 3; Праф. Карскі аб беларускай мове; Следам за дзедам: (Беларуская прыказка): [Верш] // Там жа. № 4; Сон аб бацькаўшчыне мілай: [Верш] // Крыніца. 26, 31 ліп.
**1926.** На следстве: [Гумарэска] // Маланка. № 5. / Пад крыпт. Г. Л.; Людзі жывуць і на месяцы...: [Жарт] // Там жа. № 11 / Пад крыпт. Г. Л.; Палітыкі; Кепская пара; Абрабіў бы зямлю: [Жарты] // Там жа. № 13 / Пад крыпт. Г. Л.; Калыханачка: (Песня аб вастрожнай долі); Афарызм цяперашняга часу: [Верш]; Сам-бы не ўтапіўся: [Жарт] // Там жа. № 14. / Пад крыпт. Г. Л.; Мы жывём з надзеяй!: [Верш] // Бел. крыніца. 16 мая; Падарожны: [Верш] // Там жа. 30 мая; «Не нам, беларусам, не нам...»: [Верш] // Там жа. 18 ліп.; «Праўды яснай агні не патухнуць табе!..» [Верш] // Там жа. 1 кастр.; Беларускі сцяг: [Верш] // Там жа. 15 кастр.; Дзед лірнік над Шчарай: [Верш] // Там жа. 19 ліст.
**1927.** Мая прадмова; Чыжык; Падаюць лісці: (Ноктурно); «Ніхто маіх не знае слёз...»; «Калі ка мне смерць набрыдзе...»; «Каб усе так слёзы нашага народу...»; «Хто адрокся сваіх...»; Дудачка: (Пасвячаю Р. Зямкевічу); Льецца дожджык; Годзі; Дружна, брацця!..; «Усё, праходзе, ўдалі знікае...»; «Жальбай зноў спатыкаю вясну...»; Мы жывём надзеяй; Я багат, багаты; Восень; На дзяды; Конь-ратай; Сон на Нёмне каля Шчары: [Вершы] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня; Сёмуха: [Верш] // Заранка. № 4; Бяда: [Верш] // Маланка. 1 ліп.; Трыялет: [Верш] // Наша праўда. 27 жн. / Пад крыпт. Га-Ле; Праклён бядам і ліхам: [Верш] // Сялян. ніва. 16 сак. / Пад крыпт. Г. Л.; «Мудра прыгаворка — салодка і горка!»: [Вершы] // Там жа. 2 ліп.
**1928.** Хто адрокся?: [Верш] // Беларускі дэкламатар. Вільня; Пры калысцы: [Верш] // Дэкламатар. Мн., Годзі!: [Верш] // Страха. 12 лют.
**1929.** «Жальбой зноў спатыкаю вясну...»: [Верш] // Беларускі каляндар на 1929 год. Вільня.
**1931.** О, сэрца, ты не плач: [Верш] // Бел. думка. 12 крас.
**1932.** Хараство: (Абразок) // Нёман. № 3 / Пад крыпт. Г. Л.
**1933.** Вясна ідзе!: [Верш] // Хрысціянская думка. № 9 / Пад крыпт. Г. Л.
**1961.** Чыжык; Дружна, брацця!..; Я багат, багаты; Восень: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 1.
**1962.** Я багат, багаты: [Верш] // Ніва. 15 ліп.
**1965.** Беларуская калыханка; Душыцелям слова: [Вершы] // Сцягі і паходні. Мн.
**1967.** Зламайце дудку; «Каб усе так слёзы нашага народа...»; Пры калысцы: [Вершы] // Беларуская дакастрычніцкая паэзія. Мн.

**1968.** «Ніхто маіх не знае слёз...»; Браце Беларусе!: [Вершы] // Голас Радзімы. № 40.

**1970.** Чыжык; Ніхто маіх не знае слёз...: [Вершы] // ЛіМ. 24 ліп.

**1980.** «Я багат, багаты...»: [Верш] // Беларускі каляндар. Беласток; Чыжык; «Ніхто маіх не знае слёз...»; «Хто адрокся сваіх...»: [Вершы] // Ніва. 20 ліп.

**1.4.**

**1921.** Т у в і м Ю. Прабіўшы неба грозным вокам...: [Верш] / З пол. // Бел. звон. 19 жн.; Т э т м а е р К. «Ты не гінь, як зране ў бою...»: [Верш] // Там жа. 4 ліст.; Я г о ж. У чайцы на вадзе жыцця: [Верш] / З пол. // Бел. ведамасці. № 7; Зборнік «Бел. ведамасцей». № 2.

**1923.** Л е с а ў ч ы к і: З паэмы «Władysław IV król Polski i Szwedzki». Leszno, 1649. / З пол. // Крывіч. № 1 / Пер. пад крыпт. Л. Аўт. пер. спрэчнае; Б і л ю н а с Ю. Смерць Брыся / З літ. // Там жа. № 5 / Пер. пад крыпт. Г. Л. Аўт. пер. спрэчнае.

**1926.** Л я н г е А. Аддай царам усё!: [Верш] / З пол. // Бел. справа. 14 ліп.

**1927.** Д з е д Мароз: [Верш] / З рус. // Заранка. № 8—9; С ы р а к о м л я У. Лялька: [Верш] / З пол. // Родныя гоні. № 6; «Мудра прыгаворка — салодка і горка!»: [Верш з паметай «Са зборніка трыялетаў»] / З кіт. // Сялян. ніва. 9 ліп.; «Мудра прыгаворка — салодка і горка»: [Верш з паметай «Са зборніка трыялетаў Гальяша Леўчыка»] / З араб. // Там жа. 13 жн.; «Мудра прыгаворка — соладка і горка»: [Вершы з паметай «Са зборніка трыялетаў Гальяша Леўчыка»] / З хіндзі // Там жа. 20 жн.

**1.5.**

**На польскую мову.** Hej, bracia!; Jesień / Tł. J. Huszcza // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław etc., 1978.

**На ўкраінскую мову.** Ой, тяжко...: [Верш] / Пер. М. Шаповал // Літ.-науковий вісник. 1909. № 10.

**2.3.**

**На беларускай мове.** В е р а с З. Гальяш Леўчык: [Успаміны] // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; В о й ц і к Л. [Зоська Верас]. Сустрэчы з Гальяшам Леўчыкам // ЛіМ. 1977. 30 вер.; В і р з о ў с к і С. [Біябібліяграфічная нататка да 105-годдзя нараджэння] // Полымя. 1985. № 7; Г а р э ц к і М. Леўчык Г. // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; Г і с т о р ы я беларускай літаратуры: XIX — пачатак XX ст. Мн., 1981. С. 162; І в е р с А. Гальяш Леўчык у «Нашай ніве» // Беларусь. 1973. № 2; Я г о ж // Далёкі ўспамін // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; К а л е с н і к У. Ветразі Адысея. Мн., 1977. С. 71—73; Я г о ж. Гальяш Леўчык // Калеснік У. Лёсам пазнанае. Мн., 1982; Я г о ж. Даніна сэрца // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; Я г о ж. Зорны спеў. Мн., 1975. С. 173; Л о й к а А. Плеяда старэйшых адраджэнцаў // Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1980. Ч. 2; М а р х е л ь У. Лірнік вясковы. Мн., 1983. С. 185—186; Н о в і к - П я ю н С. Гальяш Леўчык // Ніва. 1980. 20 ліп.; Я г о ж. Дзядзька Гальяш: [Успаміны] // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; Я г о ж. Незабыўная сустрэча // Народны паэт Беларусі. Мн., 1962; Я г о ж. Паэт-нашанівец // Голас Радзімы. 1968. № 40; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Р ы л к о М. Лёс паэта // Голас Радзімы. 1970. № 31; С а л а м е в і ч Я. Голас высакароднай душы // ЛіМ. 1980. 25 ліп.; Т у р о н а к Ю. Пра Гальяша Леўчыка // Беларускі каляндар. 1980. Беласток. 1980; Х м а р а С. Гальяш Леўчык // Шлях моладзі. 1938. № 25; Ш а х о в і ч М. Гальяш Леўчык // Ніва. 1980. 28 вер.; Ф - к о Ю. Беларусь у песнях // Бел. эхо. 1918. 30 сент.; Я р о ш М. Янка Купала і беларуская паэзія. Мн., 1971. С. 147—148.

**На польскай мове.** e x. [Abramowicz Z. P.] H. Leuczykowi nic nie grozi // Prz. Wileński, 1926. Nr 14; H a l i a s z Leŭczyk // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław etc., 1978; S m r e c z y ń s k i K. Twórczość poetycka Białorusinów wileńskich // Słowo. 1931. Nr 220; W o b r o n i e poety białoruskiego // Prz. Wileński. 1926. Nr. 13.

**На рускай мове.** К а р с к и й Е. Илья Левкович // Карский Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3; Р ы л к о М. Верный своей лире // Гродн. правда. 1976. 27 нояб.; Я г о ж. Судьба «Чижика белорусского» // Гродн. правда. 1970. 1 авг.; Ш у н д р и к В. Поэт Гальяш Левчик: (О жизненном и творческом пути белорус. поэта) // Гродн. правда. 1963. 30 июля.

**На Югаславіі мове.** D r e n J. O Belorusih in beloruskem slovstvu // Luč. 1933. Nr 9.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Б і ч э л ь - З а г н е т а в а Д. Гальяш Леўчык: [Верш] // Бічэль-Загнетава Д. Загасцінец. Мн., 1985.

**3.1.**

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 193; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 261—264. *В. У. Смольская.*

## ЛЕЦКА ЯЎГЕН



*Лецка Яўген Рыгоравіч (псеўд. Я. В а р а н е ц; н. 20.4.1944, в. Пабрэззе Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.), празаік, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Член СП Беларусі з 1977. Кандыдат філалагічных навук (1980).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Рыгор Іванавіч, маці, Надзея Сільвестраўна, мелі складаную радаслоўную. Паводле сямейнага падання, мужчыны з іх роду пасля разгрому паўстання пад кіраўніцтвам Шаміля былі перабіты, а малых дзяцей са старымі бабулямі выселілі ў Налібоцкую пушчу. А адтуль, пасля паражэння паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага, род быў перасялены на Навагрудчыну. На грамадзянска-патрыятычныя і маральныя пачуцці пісьменніка вялікі ўплыў меў бацька, у мінулым член Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1951 Я. Лецка пайшоў у першы клас сямігадовай школы, якая размяшчалася ў будынку былога панскага маёнтка Косы Двор. Скончыў Нягневіцкую СШ (1962). У 1962 паступіў на беларускае аддзяленне філфака БДУ. У першы навучальны год трэба было «зарабляць» працоўны стаж, таму адначасова працаваў электракаршчыкам на падшыпнікавым заводзе, грузчыкам на станцыі Мінск-пасажырскі, потым працаваў у складзе будаўнічага атрада, ездзіў гідам-перакладчыкам з турысцкімі групамі па краіне і многае пабачыў. Хоць і лічыўся студэнтам стацыянара, у час вучобы на пятым курсе працаваў настаўнікам Ушанскай школы Бярэзінскага р-на, выкладаў там беларускую мову і літаратуру і нямецкую мову, вёў 4-ы клас, меў гадзіны ў вячэрняй школе. Скончыўшы ў 1967 БДУ, працаваў у Карэлічах інструктарам райкома камсамола, карэспандэнтам-арганізатарам раённага радыёвяшчання. Тут, у раённай газеце «Полымя», упершыню выступіў (1968) як журналіст. У 1968 паступіў у аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры БДУ. Потым працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР (1971—86). З 1986 у выдавецтве «Мастацкая літаратура» — старшы рэдактар рэдакцыі прозы, загадчык рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства, драматургіі. Старшыня Рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (з 1990).

Першая публікацыя Я. Лецкі ў рэспубліканскім друку — рэцэнзія ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1972). Аўтар аповесцей «Па цаліку», «Дарога ў два канцы», манаграфіі «Выхаваўчая роля літаратуры». Кола інтарэсаў Я. Лецкі даволі шырокае. Аўтар сцэнарыя дакументальнага фільма пра Я. Купалу, перакладае з украінскай мовы, выступае ў перыядычным друку з нарысамі і артыкуламі па вострых праблемах сучаснасці — экалогіі, адносін да роднай мовы і інш.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік, А. М. Пяткевіч.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Беларуская літаратура за гады савецкай улады: Метадычныя парады лектарам. Мн., 1973.

Па цаліку: Аповесць. Мн., 1977. (Першая кніга празаіка). Рэц.: Атрашкевіч В. Добрага шляху // ЛіМ. 1977. 9 снеж.; Васілевіч А. Багацее проза, багацее... // Полымя. 1978. № 7; Марціновіч А. Азбука Васіля Травеня // Вяч. Мінск. 1978. 16 лют.; Петкевич А. Слово о людских судьбах // Гродн. правда. 1978. 17 февр.; Юрэвіч У. «Я чалавекам быць хачу...» // Маладосць. 1978. № 8.

Вялікая Айчынная вайна ў беларускай прозе. Мн., 1979. (Матэрыял у дапамогу лектару).

Выхаваўчая роля літаратуры. Мн., 1980. Рэц.: Бугаёў Д. Пафас патрабавальнасці // Полымя. 1981. № 11; Марціновіч А. Літаратура, чытач, выхаванне // Звязда. 1981. 23 ліп.; Няхай М. Прынцыпова, пераканаўча // ЛіМ. 1980. 26 снеж.; Піскун Л. Пошукі духоўных каштоўнасцей // Наст. газ. 1981. 23 снеж.

Современная белорусская проза: (Проблемы идейно-нравственного воспитания личности): Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1980.

Дарога ў два канцы: Аповесць. Мн., 1981. Рэц.: Далідовіч Г. Дарогі дадому і ў свет // Полымя. 1982. № 9; Жук І. Калі вяртаемся да сябе // Маладосць. 1982. № 10; Хорсун С. Усе мы з хат... // ЛіМ. 1982. 5 сак.

Хараство і боль жыцця: Нарыс творчасці Вячаслава Адамчыка. Мн., 1985.

**1.3.**

**1972.** Ад «Маладняка» да «Узвышша» // Весн. БДУ. Сер. 4. № 2; Роўная сярод роўных: (Беларуская савецкая літаратура да 50-годдзя СССР) // Весці АН БССР. Серыя грамад. н. № 6; Второе рождение: [Рэц. на кн.: Бядуля З. Соловей; В дремучих лесах. Мн., 1971] // Неман. № 6; Ад вытокаў да сучаснасці: [Рэц. на кн.: Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы. Мн., 1972] // Полымя. № 10; Лірык нашага рання // ЛіМ. 4 лют.; Перажытае і надуманае: [Рэц. на кн.: Няхай Р. Туман над стэпам. Мн., 1971] // Там жа. 29 вер.

**1973.** У дні сённяшнім // Маладосць. № 6; [Рэц. на кн.: Жук А. Асеннія халады. Мн., 1972] // Неман. № 7; Вокам руплівым гаспадара: [Рэц. на кн.: Лехановіч Л. Зялёны трохкутнік. Мн., 1973] // ЛіМ. 2 ліст.

**1974.** Талент, які многа абяцаў... // Калюга Л. Ні госць, ні гаспадар. Мн.; На трывалым грунце класікі // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1; Пафас ягонага жыцця: [Рэц. на кн.: Гусак С. Пафас праўды. Мн., 1973] // Маладосць. № 5; Свежы подых дажджоў: [Рэц. на кн.: Далідовіч Г. Дажджы над вёскай. Мн., 1974] // Там жа. № 12; Эхо войны: [Рэц. на кн.: Федотов В. Сорок дней. Мн., 1973] // Неман. № 6; Пераадоленне інертнасці: Літаратурна-мастацкая крытыка на старонках «Полымя» // Звязда. 7 жн.; Роздум над мастацкім словам: [Рэц. на кн.: Шкраба Р. Скарбы. Мн., 1973] // Там жа. 10 снеж.; «...Кто уж начал — тот не начинающий!» // Лит. газ. 11 дек.

**1975.** Неўміручы подзвіг народу: (Гераічная тэма ў беларускай прозе) // Полымя. № 5; Сцвярджэнне майстэрства: [Рэц. на кн.: Місько П. Калянае лісце. Мн., 1974] // Звязда. 24 вер.

**1976.** Вопыт пройдзеных пуцявін: [Рэц. на кн.: Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30-я гады. Мн., 1975] // Полымя. № 4; Сугучнасць паэзіі і жыцця: [Рэц. на кн.: Калеснік У. Зорны спеў. Мн., 1975] // Звязда. 31 сак.; Жывыя абрысы часу: Па старонках апавяданняў часопіса «Полымя» // Там жа. 25 крас.; Цяпло чалавечнасці: [Рэц. на кн.: Кудравец А. Дзень перад святам. Мн., 1975] // Там жа. 21 вер.; Перакосы тэмы мяшчанства // ЛіМ. 9 крас.; У калаўроце вясёлай фантазіі: [Рэц. на кн.: Семашкевіч Р. Бацька ў калаўроце. Мн., 1976] // Там жа. 19 ліст.; Шлях да свайго героя. [Рэц. на кн. Жук А. Паляванне на старых азёрах. Мн., 1975] // Чырв. змена. 6 студз.

**1977.** Па цаліку: Аповесць // Маладосць. № 5; Паміж вайной і домам: [Рэц. на кн.: Пташнікаў І. Найдорф. Мн., 1976] // Полымя. № 1; Шлях да сталасці: [Рэц. на кн.: Наўроцкі А. Валун. Мн., 1976] // Там жа. № 2; Чалавек і вайна // Вяч. Мінск. 16 лют.; Мудрае слова крытыкі: [Рэц. на кн.: Андраюк С. Вывяраючы жыццём. Мн., 1976] // Там жа. 19 мая; Зашчымела сэрца болем: [Рэц. на кн.: Місько П. Мора Герадота. Мн., 1976] // Там жа. 15 ліст.; Асваенне новых даляглядаў: [Рэц. на кн.: Асіпенка А. Два дні і дзве ночы. Мн., 1977] // Звязда. 25 мая; Пра крытыка і грамадзяніна: [Рэц. на кн.: Конан У. Адам Бабарэка. Мн., 1976] // ЛіМ. 17 чэрв.; Маладосць вітаецца з жыццём // Там жа. 26 жн.; Памятай: ты чалавек // Там жа. 30 вер.; Пругкі вецер жыцця: [Рэц. на кн.:

В о р а н а ў М. Ветраны дзень. Мн., 1976] // Чырв. змена. 6 вер.

**1978.** Крыніцы пульсуюць з зямлі // Маладосць. № 3; На блакітных дарогах Беларусі: [Рэц. на кн.: К і р э е н к а К. Вандроўнае шчасце. Мн., 1977] // Вяч. Мінск. 27 чэрв.; З пазіцый сучаснасці: Беларуская проза: асэнсаванне эпохі, часу, чалавека // Звязда. 8 мая; Цяпло «Халоднай птушкі»: [Рэц. на кн.: Ж у к А. Не забывай мяне. Мн., 1978] // ЛіМ. 13 кастр.

**1979.** Пачынаецца ўсё з даверу: [Рэц. на кн.: В а р а н о в і ч А. Высокі падмурак. Мн., 1978] // Маладосць. № 10; Постигая бытие народа: [Рэц. на кн.: А д а м ч ы к В. Чужая бацькаўшчына. Мн., 1978] // Неман. № 4; Вайна стукае ў сэрца: [Рэц. на кн.: К а з ь к о В. Суд у Слабадзе. Мн., 1978] // Полымя. № 11; Хараство і боль жыцця: [Рэц. на кн.: А д а м ч ы к В. Чужая бацькаўшчына. Мн., 1978] // Звязда. 30 сак.; Запавет яго жыцця: [Рэц. на кн.: М е л е ж І. Завеі, снежань. Мн. 1978] // ЛіМ. 2 лют.; Пайсці і застацца: [Рэц. на кн.: Б ы к а ў В. Пайсці і не вярнуцца. Мн., 1979] // Там жа. 4 мая.

**1980.** Тепло активного добра // Дружба народов. № 2; Меж войною и миром // Там жа. № 10; [Рэц. на кн.: М и с ь к о П. Море Геродота. М., 1979] // Лит. обозрение. № 10; Гордасць і сумленне народа // Маладосць. № 6; Дарога ў два канцы: Аповесць // Там жа. № 10; Ён побач з намі // Голас Радзімы. 3 ліп.; Урокі крытыка // ЛіМ. 11 крас.; Спатканне: Урывак з аповесці // Там жа. 11 ліп.

**1981.** Первооснова добра: [Рэц. на кн.: Г і г е в і ч В. Жыцціва. Мн., 1980] // Лит обозрение. № 5; Дарогай пошуку: [Рэц. на кн.: Г і г е в і ч В. Жыцціва. Мн., 1980] // Полымя. № 2; Даследчык роднага слова: Да 50-годдзя Інстытута літаратуры імя Я. Купалы // Вяч. Мінск. 18 чэрв.; Высакароднасць мэты // Голас Радзімы. 28 мая; Спадчына абавязвае // ЛіМ. 16 студз.; Дзеля супольнай карысці // Там жа. 6 сак.; Падораная радасць // Там жа. 21 жн.; Вяртанне ў перажытае: [Рэц. на кн. Я л о ў ч ы к Л. Дзе яно, шчасце... Мн., 1981] // Там жа. 25 вер.; Талент мужны і шчыры // Чырв. змена. 27 кастр.

**1982.** «Выше знамя борьбы за свободу и независимость» // Беларусь. № 2; [Рэц. на кн.: К и р е е н к о К. Счастье странствий. Мн., 1981] // Неман. № 12; Скразное прачытанне пісьменніка: [Рэц. на кн.: П я т к е в і ч А. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. Аб прозе Кузьмы Чорнага. Мн., 1981] // Полымя. № 5; Балючая праўда вайны // ЛіМ. 24 вер.; Пад знакам таленту і працы // Там жа. 8 кастр.; З глыбінь народнага жыцця // Чырв. змена. 7 кастр.

**1983.** Вернасць роднаму краю // Братэрства. Мн.; Шырыня інтарэсаў мастака // Звязда. 14 студз.; Вернасць бацькаўшчыне // ЛіМ. 28 кастр.

**1984.** Душы празрыстае свячэнне // Маладосць. № 6; Ответственность критика: [Рэц. на кн.: А н д р а ю к С. Жыць чалавекам. Мн., 1983] // Неман. № 6; Каб цякла жывая вада: Нарыс // ЛіМ. 6 студз.; Балючыя старонкі жыцця // Там жа. 16 сак.; Каласы прарастаюць з зярнятак // Там жа. 13 ліп.; Пярэдадзень эпапеі: (Над старонкамі «Знака бяды») // Там жа. 30 ліст.

**1985.** Балючыя старонкі жыцця: Штрыхі да творчага партрэта Міколы Аўрамчыка // Вобраз — 85. Мн.; «...І ва ўспрыняцці крытыкі» // ЛіМ. 11, 18 студз.; 8 лют.; Вернасць літаратуры // Там жа. 11 сак.; «Юны літаратар» запаліў паходню // Наст. газ. 20 сак.; Экзамены ў ВНУ: знаходкі і страты // Там жа. 19 кастр.

**1.4.**

Д р о з д У. Крык птушкі ў прыцемку: Аповесць, раман, апавяданні / З укр. Мн., 1989. (Проза народаў СССР).

**1983.** А й л і с л і А. Дзесьці свяціліся вербы: Аповесць / З азерб. // Братэрства. Мн.

**1984.** С а л а у х і н У. Вывадак; Камбінаваны вагон; Пад адным дахам; Мокры снег: Апавяданні / З рус. // Салаухін У. Пад адным небам. Мн.

**1985.** Г е р л о ў с к і А. Сівыя валасы; Дрэва яго сына: [Апавяданні] / З пол. // Далягляды. Мн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Дорога в два конца: Повести / Пер. Т. Золотухина. М., 1984. Рэц.: Т ы ч к о Г. О неизбежности выбора // Неман. 1985. № 3.

Дорога в оба конца: Повесть / Пер. В. Машков // Неман. 1982. № 9, 10. Рэц.: Ц е й т л и н а Т. И мир вседневный многоцветен... // Знамя юности. 1983. 2 марта.

**1.6.**

В о б р а з — 81. Мн., 1981 / Скл.

П е с т р а к П. Зб. тв.: У 5 т. Т. 4. Серадзібор: Раман. Мн., 1985 / Рэд.

Ц я п л о на першацвет: Апавяданні маладых беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1985 / Скл.

П е р ш ы я сцежкі. Мн., 1987 / Скл.

А к н о ў зялёны сад: Апавяданні. Мн., 1988 / Скл.

Д з я ш к е в і ч М. Ад вытокаў радаводных...: Літ.-крытыч. арт., нарысы, успаміны аўт. Мн., 1991 / Скл.

М р ы й А. Записки Самсона Самосуя: Роман, рассказы. М., 1991 / Скл.

Я ў м е н а ў Л. Зямлі беларускай прыцяжэнне // Голас Радзімы. 1980. 4 вер. / Зап.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 78—81; Г і г е в і ч В. Па дарозе творчасці // ЛіМ. 1982. 12 ліст.; К а в а л е н к а В. Вечная веліч праўды жыцця: (Палемічныя нататкі) // Вобраз — 83. Мн., 1983; Я г о ж. Сучаснасць і літаратура: герой, ідэйнасць, майстэрства // Полымя. 1985. № 7; К а н э Ю. Плынь. Мн., 1983. С. 124—125; Я г о ж. Якімі мы былі — якімі станем // Полымя. 1981. № 8; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С а в і к Л. Каб не астыла цяпло зямлі. Мн., 1984. С. 53—55; С і н і ц а П. Вобраз нашага сучасніка // ЛіМ. 1973. 13 ліп.; Т ы ч ы н а М. На службе часу // Там жа. 1978. 17 лют.

**На рускай мове.** Т ы ч и н а М. Координаты поиска: Заметки о молодой белорусской прозе // Неман. 1979. № 4.

*Я. А. Гараднiцкi.*

# ЛЁСІК ЯЗЭП



**Лёсік Язэп Юр'евіч (Іосіф Ягоравіч, Іосіф Юр'евіч; псеўд. Я. Л. Апалчэнец, Л-к., Я. Л., Я. Л-к; 6.11.1883, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.— 1.4.1940, Саратаў), празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, палітычны дзеяч. Акадэмік АН Беларусі (1928, пазбаўлены звання ў 1930, адноўлены ў 1990).**

Бацькі былі арандатарамі ў кн. Радзівілаў. У сям'і было дзесяцёра дзяцей, самы малодшы з іх Язэп скончыў 2 класы Мікалаеўскага народнага вучылішча. У 1897 спрабаваў паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але на іспытах «зрэзаны» з-за беларускага акцэнту. У 1898 паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, але праз год выключаны «за непакорлівасць» без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Адукацыю ўдалося атрымаць у Ноўгарад-Северскім (Чарнігаўшчына), дзе настаўнічаў яго брат Антон і куды ён пераехаў у 1900. Там Я. Лёсік скончыў гарадское вучылішча (1902), здаў экзамен пры гімназіі на званне настаўніка народнай школы і хатняга настаўніка пачатковай школы. Вярнуўшыся на Беларусь, настаўнічаў у Бабруйскай сельскагаспадарчай школе, выкладаў рускую мову. З 1903 Я. Лёсік працаваў у Грамячанскай школе Ноўгарад-Северскага пав. Там ён актыўна ўключыўся ў нелегальны рух, у 1905 арыштаваны за чытанне сялянам газет і каменціраванне тагачасных падзей. Зняволены ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 меўся быць суд у м. Старадуб, аднак Я. Лёсік уцёк з-пад варты, пераховаўся нейкі час у сваякоў і знаёмых у Стоўбцах. Спрабаваў уцячы за мяжу. Потым 2 гады жыў у старэйшага брата Міхала, які працаваў начальнікам станцыі Красноўка недалёка ад Луганска. У 1911 зноў прыехаў у Ноўгарад-Северскі да брата Антона. Тут ён зноў арыштаваны і асуджаны на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры (каля г. Кірэнск Іркуцкай губ., потым Бадайбо). Там ён пазнаёміўся і пасябраваў з А. Гаруном, працягваў самаадукацыю і падтрымліваў сувязь з цэнтрамі тагачаснага беларускага культурна-нацыянальнага адраджэння ў Вільні і Пецярбургу, дасылаў карэспандэнцыі, апавяданні і вершы ў газету «Наша ніва».

З Сібіры на Беларусь Я. Лёсік вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. Пасяліўся ў Мінску. Уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), увайшоў у Беларускі нацыянальны камітэт, рэдагаваў яго газету «Вольная Беларусь» (1917—18). Адзін з арганізатараў беларускіх курсаў. 28.7.1917 выставіў сваю кандыдатуру ад БСГ у гласныя Мінскай гарадской думы. Пад час працы 2-га з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый (21—23.7.1917) удзельнічаў у арганізацыі Беларускага вучыцельскага хаўруса, выбраны старшынёй Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый (ЦРБА). Улетку пазнаёміўся з дачкой пісьменніка Ядвігіна Ш. В. Лявіцкай, з якой увосень 1917 узяў шлюб. Удзельнічаў у рабоце І сесіі ЦРБА (18—19.8.1917), увайшоў у Вялікую Беларускую раду, створаную на II сесіі ЦРБА (28—30.10.1917). Прымаў удзел у Беларускім навуковым з'ездзе (28.12.1917) і ў працы Усебеларускага з'езда (28—30.12.1917). У лютым 1918 удзельнічаў у працы Народнага сакратарыяту Беларусі і абвяшчэнні Беларускай народнай рэспублікі, увайшоў у склад яе Рады і некаторы час з'яўляўся старшынёй прэзідыума Рады БНР. Удзельнічаў у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Адначасова выкладаў на курсах беларусазнаўства і беларускіх курсах. Пры часе акупацыі Беларусі польскімі войскамі (1919—20) супрацоўнічаў у газетах «Звон» і «Беларусь» (апошнюю пэўны час рэдагаваў). Уваходзіў у склад Найвышэйшай беларускай рады. Тады ж пачаў працу над «Практычнай граматыкай беларускай мовы» і хрэстаматыяй па беларускай літаратуры «Наша крыніца». З устанаўленнем савецкай улады летам 1920 Я. Лёсік арыштаваны, але па хадайніцтву У. Ігнатоўскага вызвалены з турмы. У наступныя гады, адыйшоўшы ад палітыкі, прысвяціў сябе педагагічнай і навуковай дзейнасці. З ліпеня 1921 чытаў курс беларускай мовы ў БДУ і на 10-месячных беларускіх лектарскіх курсах. У 1922 абраны сапраўдным членам Інбелкульта, удзельнічаў у рабоце Тэрміналагічнай камісіі. Чытаў лекцыі ў Белпедтэхнікуме. У лістападзе 1926 выступіў з прамовай на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі. У 1928 зацверджаны правадзейным членам Беларускай Акадэміі навук (БАН). З'яўляўся дырэктарам Інстытута навуковай мовы. У пачатку 1930 пры-

значаны старшынёй Тэрміналагічнай камісіі. У 1920-я гады стварыў некалькі падручнікаў па беларускай мове: для школ — «Школьную граматыку», для тэхнікумаў — «Фанетыку», «Марфалогію» і «Сінтаксіс». Апрача гэтага ў перыядычным друку публікаваліся ягоныя публіцыстычныя артыкулы, пераклады, папулярна выкладзеныя навуковыя працы, апавяданні.

Летам 1930 Я. Лёсік паехаў у Мацэсту (Каўказ), каб падлячыцца ад ішыясу, набытага ў Сібіры. Там 17.7 быў арыштаваны па справе неіснаваўшага «Саюза вызвалення Беларусі». У адпаведнасці з прысудам калегіі ОГПУ ад 10.4.1931 высланы на 5 год у г. Камышын над Волгай. Там працы не знайшоў, таму жыў у г. Нікалаеўскім, выкладаў у педтэхнікуме. Летам 1933 да яго пераехала сям'я. У лістападзе 1934 пастановай УЦВК амнісцiраваны. Улетку 1935 прасіў дазволу на вяртанне ў Мінск, але атрымаўшы катэгарычную адмову, пераехаў з сям'ёй на Браншчыну. Год працаваў настаўнікам у Малавышкаўскай школе (ст. Злынка), адкуль наведваўся ў Гомель. Потым яму і тут адмовілі ў працы. Летам 1936 перасяліўся ў в. Дубаўка Саратаўскай вобл., дзе выкладаў у школе. Праз год яму зноў адмовілі ў працы. Восенню 1937 з сям'ёй пераехаў у г. Аткарск, дзе выкладаў у педтэхнікуме рускую мову і літаратуру. У час ссылкі напісаў сваю апошнюю працу — «Сінтаксіс рускай мовы» для педвучылішчаў. Рукапіс забраны ў час вобыску пры апошнім арышце (25.6.1938). Спачатку Я. Лёсік адбываў зняволенне ў Аткарскай турме, потым пераведзены ў саратаўскую турму. Апошнюю звестку сям'я атрымала ад яго 16.7.1938 (гэта была паштоўка, у якой ён развітваўся з сям'ёй). Я. Лёсіка расстралялі ў саратаўскай турме адразу пасля абвяшчэння пастановы так званай Асобай нарады пры НКУС СССР ад 31.3.1940. Справа 1938 спынена Саратаўскім абласным судом у 1958. Справа 1931 спынена судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР у 1988. У Стаўрапальскім краі жывуць дачка Я. Лёсіка Алеся, хросніца Я. Купалы, і сын Юры.

Літаратурную дзейнасць Я. Лёсік пачаў як празаік. Першы яго апублікаваны твор — пераклад даўнейшай грэчаскай казкі «Геркулес і селянін» (змешчаны ў «Нашай ніве» за 1912). Неўзабаве там жа з'явіліся яго допісы і карэспандэнцыі, а ў канцы 1912 — апавяданне «Ня ўсе ж разам, ягамосьці!» і публіцыстычныя нататкі «Пра лёс беларускага народа і яго мовы». У далейшым Я. Лёсік найболей праявіў сябе як публіцыст, хаця яго прыроджаная адоранасць і разуменне асветніцка-адраджэнцкіх задач тагачаснай беларускай літаратуры выяўляліся то ў вершаваных спробах (вершы друкаваў пад псеўд. Апалчэнец і крыпт. Я. Л.), то ў больш характэрных для яго празаічных жанрах. У 1921 рыхтаваўся да друку зборнік яго мастацкай прозы «Родныя вобразы», але быў забаронены. Кнігі Я. Лёсіка ў 20-я гады падвяргаліся значным цэнзурным праўкам.

Прозе Я. Лёсіка ўласціва эпічнасць, імкненне даць разгорнутую характарыстыку тыпажу, багатая палітра вобразна-маляўнічых сродкаў, псіхалагічная праўдзівасць. Асобую ўвагу звяртаў на канкрэтыку, дэталі быту, пейзажу, аднак Я. Лёсіка нельга назваць бытаапісальнікам. Ён па-мастацку выяўляў душу простага беларуса, пазбягаючы пры гэтым тэндэнцыйнасці. Пераклаў на беларускую мову «Маніфест Камуністычнай партыі», перарабіў на сучасную мову «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча. Публіцыстычны талент Я. Лёсіка асабліва яскрава раскрыўся ў 1917—20, калі ён шмат выступаў у друку па нацыянальным пытанні, якое найбольш востра хвалявала яго ў той час. Менавіта публіцыстыку ставіў Я. Лёсіку ў галоўную заслугу М. Гарэцкі, аднак з жалем дадаваў, што публіцыст у ім, магчыма, міжволі зашкодзіў белетрысту. Гарэцкі падкрэсліваў талент Лёсіка-апавядальніка (асабліва адзначаў яго «Апавяданне без назвы»), вылучаў нацыянальны характар яго творчасці. Праз цяжкія напластаванні доўгатэрміновых рэпрэсіўных забарон і агавораў усё ж прабіліся прарочыя словы М. Гарэцкага пра Я. Лёсіка: «Гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ слаўнейшая будучыня».

*І. Э. Багдановіч, А. У. Жынкін.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

«Ня ўсе ж разам, ягомосці!..». Вільня, 1914. Вільня, 1924.

Аўтаномія Беларусі. Мн., 1917; 2 выд., ксеракап. Мн., 1990.

Як Мікіта бараніў сваіх. Мн., 1917 / Сааўт. М. Міцкевіч.

Практычная граматыка беларускае мовы: Курс першы. Мн., 1921. Рэц.: Аглядальнік // Вестн. Наркомпроса ССРБ. 1921. № 2; Шукевич-Третьяков. Под фирмой патриотизма // Звезда. 1922. 26 сент.; 2 выд. Практычная граматыка беларускае мовы: Часць I. Мн., 1922; Практычная граматыка беларускае мовы: Часць II: Кароткі курс этымалогіі і сінтаксісу. Мн., 1922; 3 выд. Пачатковая граматыка. Мн., 1925; 4 выд., нанава напіс. Школьная граматыка беларускае мовы. Мн., 1926. Рэц.: Замбржыцкі С. // Асвета. 1927. № 2; Цвяткоў Л. // Там жа. 1927. № 2; 5 выд. Мн., 1927; 6 выд. Мн., 1927; 7 выд. Мн., 1928; 8 выд. выпр. Мн., 1929.

Беларуская мова: Пачатковая граматыка. Мн., 1924. Рэц.: А-нік // Асвета. 1924. № 2.

Беларуская мова: Правапіс. Мн., 1924. Рэц.: А-нік // Асвета. 1924. № 1; 2 выд., перапрац. і дап. Беларускі правапіс. Мн., 1925; 3 выд. Мн., 1926; 4 выд., нанава перапрац. і дап. Мн., 1927; Рэц.: Цвяткоў Л., Астроўскі Р. // Асвета. 1927. № 3; 5 выд. Мн., 1927; 6 выд., папр. і дап. Мн., 1928; 7 выд. Мн., 1928; 8 выд., выпр. Мн., 1929.

Сінтаксіс беларускае мовы. Мн., 1925; 2 выд., перароб. Мн., 1926. Рэц.: Цвяткоў Л. // Асвета. 1926. № 8.

У справе рэформы нашае азбукі. Мн., 1925. Спрашчэнне правапісу. Мн., 1926.

Да рэформы беларускага правапісу. Мн., 1926 / Сааўт. А. Лёсік.

Граматыка беларускае мовы: Фанетыка. Мн., 1926. Рэц.: Цвяткоў Л. // Асвета. 1926. № 8.

Граматыка беларускае мовы: Марфалогія. Мн., 1927.

**1.3.**

**1912.** Геркулес і селянін: (Даўнейшая грэцкая казка) // Зборнік «Нашае нівы». Вільня. № 2; Н. н. 26 ліп.; Сібір, г. Кірэнск, Іркуцкай губ. [Карэспандэнцыя] // Н. н. 23 лют.; Не ўсё ж разам, ягомосці!: [Апавяданне] // Там жа. 2, 9 ліст.; 1906—1912 // Там жа. 16 ліст. / У сааўт.

**1913.** Украінска-беларуская вечарынка ў Сібіры // Н. н. 10 студз. / Пад крыпт. Я. Л.

**1914.** Віншаванне з салдатаў: [Верш] // Беларус. 24 снеж. / Пад псеўд. Я. Л. Апалчэнец; Ці

запраўды мы ніколі не будзем мець свайго Міцкевіча, Пушкіна, Сенкевіча, Талстога? // Н. н. 7 лют. / Пад крыпт. Я. Л.; Першынка: [Апавяданне] // Там жа. 27 сак.

**1916.** Геркулес і селянін: (Даўнейшая грэцкая казка) // Беларускі каляндар на 1916 г. Вільня.

**1917.** Апавяданне без назвы: Яўхім-Плашка // Літаратурны зборнік «Вольнае Беларусі». Мн. Сш. 1 / Пад крыпт. Я. Л-к.; Як учынілася рэвалюцыя / Пад крыпт. Я. Л.; Апавяданне без назвы: Яўхім-Плашка // Вольная Беларусь. 28 мая; Нацыянальны ўціск // Там жа. 11 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л-к; Настаўніцкі з'езд // Там жа. 20 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л-к; Вялікі дзень на Украіне // Там жа. 24 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л-к; Цёмныя сілы заварушыліся // Там жа. 1 ліп. / Пад крыпт. Я. Л-к; Хто вінавайца вайны // Там жа. 1, 26 ліп.; 3 жн.; Эканамічны заняпад Дзяржавы Расійскай // Там жа. 7 ліп. / Пад крыпт. Я. Л.; Пара звярнуць увагу // Там жа. 21 ліп. / Пад крыпт. Я. Л-к; Беларуская Рада // Там жа. 3 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Наша культурнае свята // Там жа. 8 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Што рабіць? // Там жа. 17 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Сон рэдактара: (Маленькі фельетон) / Пад крыпт. Я. Л.; Няма веры; «Чаму гэта так?» // Там жа. 23 жн.; Граматыка і родная мова // Там жа. 30 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Цэркаў і дэмакратыя // Там жа. 6 вер. / Пад крыпт. Я. Л-к; Апавяданне без назвы: Гаронім-ляснік // Там жа. 6, 11 вер.; Нашы патрэбы // Там жа. 11, 17 вер., 4, 9 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; Расійская рэспубліка // Там жа. 29 вер. / Пад крыпт. Я. Л.; Расійскае бязладдзе // Там жа. 15 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; Устаноўчы Сойм // Там жа. 19 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; Савет Расійскай Рэспублікі // Там жа. 26 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; Вялікая Беларуская Рада // Там жа. 30 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; Паўстанне і нашы заданні // Там жа. 8 ліст. / Пад крыпт. Я. Л-к; Сучасны момант / Пад крыпт. Я. Л-к; Падзеі апошняга часу: Хто такія бальшавікі? / Пад крыпт. Я. Л. // Там жа. 14 ліст.; Шлях паратунку; Падзеі апошняга часу: Скуткі бальшавіцкага паўстання // Там жа. 19 ліст. / Пад крыпт. Я. Л-к; Украінская Рэспубліка і этнаграфічныя граніцы / Пад крыпт. Я. Л-к; На што нам федэрацыя? / Пад крыпт. Я. Л. // Там жа. 23 ліст.; Нашыя адносіны да агульна-дзяржаўнага Сойму: Тлумачэнне // Там жа. 30 ліст. / Пад крыпт. Я. Л.; «Антось Лата»: «Сцэнічныя творы» Тараса Гушчы // Там жа. 8 снеж.; Вайна і мір; Кручаныя // Там жа. 21 снеж. / Пад крыпт. Я. Л-к.

**1918.** Што трэба ведаць кожнаму беларусу // Выданне «Вольнае Беларусі». Мн.; Сяло Мікалаеўшчына, Мінск[ага] павету // Вольная Беларусь. 7 студз; Наш правапіс // Там жа. 28 студз., 21 крас. / Пад крыпт. Я. Л-к; Родная мова і яе значэнне // Там жа. 24 лют.; 3, 10 сак. / Пад крыпт. Я. Л-к; Мір і Беларусь; Памятка беларусам маскоўскай прыхільнасці // Там жа. 10 сак. / Пад крыпт. Я. Л-к; Паўночныя Балканы // Там жа. 17 сак. / Пад крыпт. Я. Л.; Гісторыя Вялікага княства Літоўска-Беларускага: (Павэдлуг летапісаў) // Там жа. 24 сак. / Пад крыпт. Я. Л-к; Устаўная Грамата да народаў Беларусі // Там жа. 31 сак. / Без подпісу; Нёман: (Абразок) // Там жа. 14 крас.; Гісторыя вялікага княства Літоўска-Беларускага: (Павэдлуг летапісаў) // Там жа. 21 крас. / Пад крыпт. Л-к; Беларусь і Украіна // Там жа. 28 крас. / Пад крыпт. Я. Л-к; Рабочы стан пануючых і прыгвалчаных нацый // Там жа. 23 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л-к; Памяткі старасвецкай беларускай мовы і пісьменства // Там жа. 30 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л.; Апавяданне без назвы: Наша гаспода; Каля карчмы; Дома // Там жа. 6 ліп.; Нашы масты: (Гістарычныя нарысы паводлуг кнігі Сямёнава «Живописная Россия») // Там жа. 6 ліп., 4 жн., 3, 15, 22, 29 вер., 20 кастр. / Пад крыпт. Я. Л-к; [Рэц. на кн.: Гарун А. Матчын Дар. Мн., 1918] / Пад крыпт. Я. Л-к; [Рэц. на кн.: Луцкевіч А., Станкевіч Я. Беларускі правапіс. Вільня, 1918] / Пад крыпт. Я. Л. // Там жа. 14 ліп.; Апавяданне без назвы: Падарож да навукі // Там жа. 11 жн. / Пад прозв. Я. Ліосік; [Рэц. на кн.: Гарэцкія М. і Г. Руска-Беларускі слоўнік. Смаленск, 1918; Карскій Е. Белорусская речь: Очерки народного языка с историческим освещением. Пг., 1918] // Там жа. 18 жн. / Пад крыпт. Я. Л.; Апавяданне без назвы: «Панскія дзяўчаты», або Юзікава натура // Там жа. 6 кастр.

**1919.** Байка Багдана Хмяльніцкага: [Апавяданне] // Беларусь. 22 кастр.; Да агульнага ведама // Там жа. 18 ліст.; Апавяданне без назвы // Там жа. 20, 21 ліст.; Па валачобнаму: [Апавяданне] // Там жа. 2—4 снеж.; «Мой ты краю, родны, мілы...»: [Верш] // Звон. 25 жн. / Пад крыпт. Я. Л.; Чаму мы пішам Менск, а не Мінск // Там жа. 27 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Кароткая гісторыя культурнага жыцця беларускага народу // Там жа. 27 жн., 1, 3 вер. / Пад крыпт. Я. Л-к; Каму гэта патрэбна? // Там жа. 29 жн. / Пад крыпт. Я. Л-к; Чытанне абвестак: (Кароткі фельетон) // Там жа. 1 вер. / Пад крыпт. Я. Л-к.

**1920.** Беларускія прыказкі // Рунь № 9—10; Некалькі слоў беларускім святарам // Беларусь. 9 чэрв.; Прадмова Яна Чачота да яго зборніка «Сялянскія песні з-пад Нёмна і Дзвіны, некаторыя прыказкі і ідыятызмы [ідыёмы] у мове славяна-крывіцкай, з увагамі над ёю зробленымі», выданага ў Вільні ў 1846 г. // Там жа. 13 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л.; Польска-літоўскія адносіны і Беларусь // Там жа. 20 чэрв. / Пад крыпт. Я. Л-к; З жыцця Менску // Н. н. 29 ліст. / Пад крыпт. Я. Л.

**1921.** Беларуская «Энеіда навыварат»; Значэнне «Энеіды» // Вольны сцяг. № 5; «Літва-Беларусь»: (Гістарычныя выведы) // Шк. и культура Сов. Бел. № 1—2.

**1922.** Бітва пад Грунвальдам у апісанні хронікі Быхаўца, Длугаша Бельскага і інш.; Нацыянальны элемент у творчасці Я. Коласа // Адраджэнне. № 1; [Прамова на магіле А. Бурбіса] // Сав. Бел. 21 сак.

**1923.** «Не ўсё ж разам, ягамосьці»: (Адрывак); Апавяданне без назвы: (Яўхім Плашка): [Апавяданні] // Выпісы з беларускае літаратуры. Мн.; З прадмовы перакладчыка да «Камуністычнага Маніфесту» // Сав. Бел. 15 сак; У справе рэформы нашай азбукі // Там жа. 6, 7 ліп.

**1924.** Культурны стан Беларусі к моманту Лютаўскае рэвалюцыі // Беларусь. Мн.; [Рэц. на кн.: Некрашэвіч С. Роднае слова. М.; Пг., 1923. Ч. 1] // Полымя. № 1; Некаторыя ўвагі да беларускай літаратурнай мовы // Там жа. № 2, 3.

**1925.** Кепска рабілі нашыя продкі... // Беларускі Гаспадарскі Каляндар на 1926 год. Вільня; Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу // Полымя. № 2; Некаторыя ўвагі да беларускай літаратурнай мовы // Там жа. № 5.

**1926.** Да «рэвізіі» беларускага правапісу // Асвета. № 5; Да рэформы беларускага правапісу // Полымя. № 6 / Сааўт. А. Лёсік; Да рэформы беларускае азбукі // Звязда. 17 ліст.; Заключнае слова тав. Лёсіка // Там жа. 18 ліст.; Спрашчэнне беларускага правапісу // Там жа. 19 ліст.; Спрашчэнне правапісу // Сав. Бел. 9, 11, 18, 21, 22 вер.

**1927.** «Ня ўсе ж разам, ягамосці»; Апавяданне без назвы; Гаронім у дарозе: [Апавяданні] // Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году). Вільня; Тэрміналагічная работа ў Інбелкульце і на мясцох // Асвета. № 8 / Сааўт. А. Цвяткоў; Тэрміналагічная работа ў Інбелкульце і збіранне народных тэрмінаў // Наш край. № 12; [Рэц. на кн.: Байкоў М., Некрашэвіч С. Беларускі слоўнік. Мн., 1926] // Узвышша. № 2; Граматычныя нататкі // Там жа. № 5; Да рэформы беларускай азбукі: (З даклада члена Інбелкульта Я. Лёсіка) // Голас Беларуса. 23 лют.

**1928.** Граматычны склад мовы Ц. Гартнага // Полымя. № 10; **1929.** № 5, 7; Цікавішся — прачытай: («Лекцыі па гісторыі беларускай мовы» О. Лexcanовіча) // Сав. Бел. 2, 3 лют.; Лісты ў рэдакцыю // Там жа. 24 лют.; Дзесяцігоддзе беларускае граматыкі (1918—1928) // Там жа. 6 мая; Беларуская Акадэмія навук і яе метад работы // Там жа. 1 ліст.

**1929.** Графіка, правапіс і мова ў тэстаменце кн. Саломерацкага і ў двух другіх дакументах з папер Са-

«Полымя», «Чырвоная Беларусь», «Напагатове». У пасляваенныя гады паспяхова спалучаў педагагічную дзейнасць з літаратурнай. Падрыхтаваў да выдання ў Мінску паэтычныя зборнікі «Берасцянка жывых трывог», «Вянкі камунарам», перакладаў на беларускую мову вершы ўзбекскіх паэтаў, творы французскіх і нямецкіх пісьменнікаў. Апублікаваў шэраг прац пра спадчыну А. Франса, гісторыю і сённяшні дзень узбекскай літаратуры, яе сувязі з беларускай літаратурай. Для арыгінальнай паэтычнай творчасці С. Ліхадзіеўскага характэрна спалучэнне публіцыстычнасці, грамадзянскасці з лірызмам, інтэлектуальнасці і філасафічнасці з народна-песеннымі элементамі. *І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Берасцянка жывых трывог: Выбр. вершы і пераклады. Мн., 1962. Рэц.: Вярцінскі А. Жывая трывога паэта // ЛіМ. 1963. 24 вер.; Калеснік У. Інтэлігентнасць без позы // Полымя. 1963. № 7; Мірачыцкі Л. Старонкі жыцця // Мін. праўда. 1963. 13 лют.

**1.2.**

Рокаты дальняй прыстані: Вершы і паэмы. Мн., 1931.

Чырванеюць вішні: Вершы. Мн., 1931. Рэц.: Галубок Э. // Узвышша. 1931. № 3; Мікуліч Б. // Полымя. 1931. № 4.

Крывавыя знічкі на снезе: Паэзія. Мн., 1932. Рэц.: Бухароў П. // ЛіМ. 1932. 6 сак.

Мы — маладая гвардыя: Паэзія. Мн., 1932. Рэц.: Куніцкі С. // Напагатове. 1932. № 1; Скокаў П. Навагодні сказ паэта // ЛіМ. 1932. 24 ліп.

Анатоль Франс: Краткий очерк творческого пути. Ташкент, 1954.

Анатоль Франс: Очерк творчества. Ташкент, 1962. Рэц.: Фактаровіч Д. Грунтоўнае даследаванне // Полымя. 1962. № 10.

Поиски сердолика: Стихи; Переводы. Ташкент, 1973. Рэц.: Вайсерберг М. О времени и о себе // Ферганс. правда. 1973. 11 дек.; Пак Б. Дыхание славных дел // Правда Востока. 1974. 24 марта; Фархади Р. Главная тема // Звезда Востока. 1974. № 12.

Вянкі камунарам: Вершы і пераклады. Мн., 1974. Рэц.: Бечык В. З такою ж самай навізной... // Полымя. 1975. № 2; Мірачыцкі Л. Любоў да жыцця // Звязда. 1974. 7 снеж.; Пруднікаў П. Пераплаўленае ў паэзію жыццё // Вяч. Мінск. 1975. 7 лют.; Шушкевіч С. Вянкі камунарам // ЛіМ. 1974. 5 снеж.

Радость встреч: Сборник литературно-критических статей. Ташкент, 1977. Рэц.: Расолька В. Кнігапіс // ЛіМ. 1978. 28 крас.

Чырвоныя макі: Вершы. Мн., 1981. Рэц.: Шыханцоў В. «Пецьаб працы...» // Чырв. змена. 1982. 12 студз.

**1.3.**

**1925.** Ільічу: [Верш] // Бел. піянер. № 3.

**1926.** Падпісачныя: [Верш] // Малады араты. № 1—2; Вясенняе: [Верш] // Чырв. змена. 31 кастр.

**1927.** Я ўспомніў: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 12; Яшчэ ўчора: [Верш] // Там жа. № 13; І шумяць і шумяць: [Верш] // Там жа. № 17; На абшарах аксамітных: [Апавяданне] // Бел. вёска. 30 кастр.; Горад гуллівы: [Верш] // Звязда. 18 вер.; У цагельні: [Верш] // Там жа. 25 вер.; Студэнцкае: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Званіла зіма: (Сястры Надзеі прысвячаецца): [Верш] // Там жа. 4 снеж.; Першая сустрэча: (Успаміны) // Сав. Бел. 15 мая; Ой, у полі: [Верш] // Там жа. 10 ліп.; «Сёння я вясёлы, згінуў...»; «— Не! Жыццё не ружовыя...»: [Вершы] // Чырв. змена. 5 мая.

**1928.** Днямі загарэлымі: [Верш] // Бел. піянер. № 18; Студэнцкія летуценні: [Верш] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.» № 9; Настаўнік: [Верш] // Працаўнік асветы. № 9; У школе: [Верш] // Там жа. № 16; У сельсавеце: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 2; Хмель раніцы: [Верш] // Там жа. № 3; Ночка-таямніца: [Верш] // Там жа. № 8; Вайна: [Апавяданне] // Там жа. № 10; Ой, шумяць і сумуюць бары: [Верш] // Бел. вёска. 11 крас.; У сельсавеце: [Верш] // Звязда. 12 лют.; Свята рабочае: [Верш] // Там жа. 22 крас.; З вясновых матываў: [Апавяданне] // Чырв. змена. 11 ліп.; Пра маладую песню: [Верш] // Там жа. 25 ліст.; Чырвонаму студэнцтву: [Верш] // Там жа. 12 снеж.

**1929.** І такая ціхутка ноч: [Верш] // Маладняк. № 5—6; На скверы: [Верш] // Сав. Бел. 10 лют.; Над Свіслаччу: [Верш] // Там жа. 21 крас.; Беларусізацыя ў Менскім Белпедтэхнікуме кульгае // Сав. Бел. 29 крас.; Музыка балот: [Верш] // Там жа. 28 ліп.; Шумы гораду: [Верш] // Там жа. 6 кастр.; Чырванеюць вішні: [Верш] // Чырв. змена. 18 ліст.; Церусіў сняжок: Урывак з апавядання «Шумяць заходнія бары» // Там жа. 24 сак.; У буднях вакацый: (З паэмы «Буры юнацтва») // Там жа. 21 ліп.

**1930.** [Рэц. на кн.: Гурскі І. Сварка. Мн., 1929] // Камуністычнае выхаванне. № 1 / Пад крыпт. Юн.; Крывавыя знічкі на снезе: Паэма // Маладняк. № 4; Простае слова (у дзень 10-годдзя з часу вызвалення Беларусі ад белапалякаў): Паэма // Там жа. № 6—7; Такі прастор! Такая шыр!: З паэмы «Новыя Шумы» // Полымя. № 4; За сасновай агароджай: [Верш] // Там жа. № 5—6; Ой, да разыдзіцеся, вараныя коні!; Новую! Жніўную!; Маналог трактара; Чырвоны абоз; Мы возім снапы: [Вершы] // Там жа. № 11— 12; Чырвоны абоз: [Верш] // Бел. вёска. 1930. 18 кастр.; У школе: [Верш] // Піянер Бел. 27 студз.; Маладосць і будаванне: [Верш] // Сав. Бел. 16 лют.; Цвітуць гарады: [Верш] // Чырв. змена. 27 студз.; У першых шэрагах // Там жа. 10 ліст.

**1931.** Мой марш: [Верш] // БелЛАЧАФ. Зб. першы. Мн.; З паэмы «Простае слова» // Рытмы Перамогі. Мн.; Ну, дзяўчаты, не качай!: [Верш] // Вясна. № 4; Рокаты дальняй прыстані: [Верш] // Маладняк. № 1; Вершы пра культурную рэвалюцыю: (З блакнота культэстафетчыка) // Там жа. № 2; Сеем, засяваем: Нарыс // Там жа. № 5; Паэма пра геройства: Нарыс // Там жа. № 11 / Сааўт. Ц. Зарэчны; У краіну маладую, растучую! // Паляўнічы Бел. № 5 / Пад крыпт. А. С. Аўт. спрэчнае; Бяроза: [Верш] // Полымя. № 1; Ударніца: [Верш] // Там жа. № 3; З лірычнай нізанкі: Берасцянка жывых турбот; Завеі ў тысячу альтаў; Прадвесне: [Вершы] // Там жа. № 4; [Рэц. на кн.: Багун М. Рэха бур. Мн., 1931; Астапенка З. На ўсход сонца. Мн., 1931] // Там жа. № 5 / Сааўт. Б. Мікуліч; Ліст да аўтара «Цэхавых будняў» / Сааўт. Б. Мікуліч; Паэзія Юлія Таўбіна // Там жа. № 9; Горад не толькі горадам маладых самагубцаў: (З накідаў новай паэмы) // Там жа. № 10; Масянжовы пажар: [Верш] // Чырв. Бел. № 4; Сымболі буйнага ўзросту: [Верш] // Там жа. № 9; На баявых пастах: [Верш] // Там жа. № 19; Віцеб. пралетарый. 24 вер.; «Рытмы будавання»: (Трэці літаратурны альманах Віцебскай філіі БелАПП) / У сааўт.; Нашы дні: [Верш] // Там жа. 26 вер.; Калгасніца, што мае 4 гады: Замалёўка // Піянер Бел. 16 лют.; Голас абрабаваных: [Верш] // Сав. Бел. 20 вер.; Украіну маладую, растучую: (Нататкі з блёк-ноту ў час сустрэчы М. Горкага) // Чырв. змена. 15 мая / Пад крыпт. А. С.; Выклік маладосці: [Верш] // Там жа. 25 мая; Ну, дзяўчаты, не качай!: [Верш] // Там жа. 27 кастр.; Ударнік у літаратуры // Там жа. 30 ліст. / Сааўт. Б. Мікуліч.

**1932.** З чырвонага пагранічча: [Верш] / Беларусь калгасная. № 1; Радзіма — Краіна Саветаў: [Верш] // Маладняк. № 2—3; [Рэц. на: «Крывбас», літ. часопіс Крыварожскай арганізацыі ВУСПП. 1931. № 1—4, 1932. № 1—3] // Там жа. № 4; Ліст з Варны: [Апавяданне] // Напагатове. № 2; Танец голаду: [Верш] // Там жа. № 3; Вершы пераможнаму ліпеню: [Верш] // Чырв. Бел. № 13; Расці і тварыць: Нататкі пісьменніка пра творчыя планы // ЛіМ. 21 крас.; «Ці не тут адгучала атэнская ліра»: (Заўвагі пра «Таўрыду» Ю. Таўбіна) // Там жа. 30 крас.; Зрабіць рашучы пералом // Там жа. 5 чэрв.; Голая патэтыка і «казачныя феі»: [Рэц. на кн.:

Хадкевіч Т. Смялей, таварыш. Мн., 1932] / Пад крыпт. А. С.; I тэлескоп не дапаможа / Пад псеўд. Алесь Случанскі // ЛіМ. 24 ліп.; «Напор» Андрэя Александровіча ў БДТ-2 // Там жа. 5 жн. / Сааўт. Б. Мікуліч; Новыя кнігі чакае моладзь // Там жа. 4 снеж. / Сааўт. Б. Мікуліч; Нараджаецца новы герой: (Урывак з паэмы) // Чырв. змена. 1 студз.; Заходнебеларускім камсамольцам: З кнігі «Мы маладая гвардыя» // Там жа. 18 сак.; Радзіма — краіна Саветаў! // Там жа. 1 мая; Аўтарскія заўвагі // Там жа. 13 мая; Расцём бальшавікамі // Там жа. 28 мая; Вітаем народнага паэта рэспублікі // Там жа. 10 вер. / У сааўт.; Паўднёвая вахта: Апавяданне // Там жа. 12—15 кастр.

**1933.** Душа і сэрца: Урывак з кнігі «Паўднёвая вахта» // Напагатове. № 1; Песня еднасці: [Верш]; Курс на мора: Урывак з кнігі «Паўднёвая вахта» // Чырв. Бел. № 4; Пісьменнікі і крытыка ў 1933 г. // ЛіМ. 28 студз.; Слова перад пленумам // Там жа. 22 лют.

**1935.** Творчы вопыт лепшых майстроў — маладым аўтарам // ЛіМ. 26 сак. / Пад псеўд. Гуртковец.

**1946.** О рассказах А. Каххара // Звезда Востока. № 9.

**1947.** Узбекский исторический роман «Навои» Айбека // Звезда Востока. № 1; Поэты Киргизии / Пад крыпт. С. Л.; Творчество Владимира Липко // Там жа. № 2—3; Поэт-революционер // Там жа. № 5; Роман о горном колхозе // Там жа. № 6; Социальные повести С. Айни // Там жа. № 7; Дастан «Шасенем и Гариб» // Там жа. № 9; Новые книги // Там жа. № 10; Русские поэты Узбекистана // Там жа. № 11; Образ гуманиста в творчестве Анатоля Франса // Уч. зап. Ташкент. пед. ин-та. Вып. 1.

**1948.** Песни любви к Родине // Звезда Востока. № 3; Очерки о советских женщинах // Там жа. № 8; Неудача романиста // Там жа. № 10; «Время» // Правда Востока. 15 июня; Осуществленные мечты // Фрунзевец. 15 мая.

**1949.** Повесть о мастерстве высокого урожая // Звезда Востока. № 3; Люди Советской Кубани // Там жа. № 5; Поэзия С. Щипачева // Там жа. № 7; Поэма Айбека «Девушки» // Там жа. № 10; Лира Пушкина звучит на весь мир // Фрунзевец. 17 нояб.

**1950.** Поэзия в «Звезде Востока» за 1949 г. // Звезда Востока. № 5; «Обгоняем солнце!» // Там жа. № 10; Стихи А. Мухтара в русских переводах // Там жа. № 11; «Весенние песни» // Комсомолец Узбекистана. 24 окт.; Повесть о сталеварах // Правда Востока. 3 окт.; Новые стихи Гафура Гуляма // Там жа. 17 нояб.

**1951.** «Избранные стихотворения» Г. Гуляма // Звезда Востока. № 2; «Молодой Узбекистан» // Там жа. № 11; Стихи молодого поэта. // Комсомолец Узбекистана. 29 марта; Книга героя // Там жа. 14 апр.; Друг советского народа, защитник мира // Там жа. 30 июня; Поэма Г. Гуляма «Товарищу Сталину» // Правда Востока. 8 сент.; Поэма о хлопкоробе Гиясе // Там жа. 18 сент.; В. Маяковский // Узбекистон хотинкизлари. № 4.

**1952.** Народный поэт Белоруссии // Звезда Востока. № 6; Роман о борьбе и труде латышского народа // Там жа. № 10; Писатель белорусского народа: (К 70-летию со дня рождения Я. Коласа) // Там жа. № 11; Анатоль Франс — пламенный защитник русской революции, борец против империализма и войны // Труды САГУ. Филол. науки. Вып. 29. Кн. 1; Этюды об Анатоле Франсе // Там жа. Вып. 34. Кн. 2; Без учета требований читателей // Комсомолец Узбекистана. 24 янв.; Рваться в завтра, вперед! // Там жа. 5 февр.; «Огни Кошчинара» // Правда Востока. 1 февр.; Гуманист, демократ, борец за мир // Там жа. 26 февр.; Глубже и ярче отображать жизнь // Там жа. 21 марта; Поэзия борьбы за мир // Там жа. 23 дек.

**1953.** О прошлом и настоящем узбекской сатиры // Звезда Востока. № 8; Борец за мир и демократию // Правда Востока. 28 марта; Анри Барбюс // Там жа. 17 мая; Заметки о баснях // Там жа. 11 июля.

**1954.** Рассказы К. Файзулина // Звезда Востока. № 2; Анатоль Франс — патриот, друг русского народа // Там жа. № 4; Вклад поэтов // Там жа. № 8; Философский роман Ан. Франса «На белом коне» // Труды САГУ. Филол. науки. Вып. 51. Кн. 5; Анатоль Франс // Кизил Узбекистон. 13 окт.; Две комедии // Правда Востока. 2 сент.; Верный друг русского народа // Там жа. 13 окт.; О взыскательности к творчеству // Ташкент. правда. 24 марта; Неудавшаяся поэма // Там жа. 7 июля; Славный путь поэта // Там жа. 3 авг.; Больше заботы о мастерстве // Там жа. 17 окт.

**1955.** Рассказы о недавнем «прошлом» В. Мильчакова // Звезда Востока. № 4; Хороший подарок школьникам // Там жа. № 9; Анатоль Франс и первая русская революция // Иностр. литература. № 6; Жемчужина мировой литературы // Правда Востока. 23 апр.; Журнал и современность // Там жа. 19 мая; Адам Мицкевич // Там жа. 26 нояб.

**1956.** Новая повесть Г. Гульшина // Звезда Востока. № 6; Первая книжка рассказов // Там жа. № 11; «Тут все должно быть зримо, точно, веско» // Комсомолец Узбекистана. 4 сент.

**1957.** Не только в ширь, но и в глубь // Звезда Востока. № 2; Поет Кара-Калпакия // Там жа. № 4; Переходящие ляпсусы тиражом в 375 тысяч экземпляров // Там жа. № 8 / Пад псеўд. А. Случанский; Чырвоныя макі; Паэт і горы; Птушыны гурт у радаснай трывозе: [Вершы] // Полымя. № 4; «Остров пингвинов» А. Франса как сатирический роман // Ученые записки Таш. ГПИ им. Низами. Вып. 4; Повесть о работниках милиции // Комсомолец Узбекистана. 8 янв.; Расцвет поэзии // Там жа. 24 янв.; Вальтер Скотт // Там жа. 21 сент.; Труд литературоведа // Правда Востока. 11 июля; Тропа народного гнева // Там жа. 26 нояб.; Творческих успехов, дорогой Каххар! // Ташкент. правда. 11 окт.

**1958.** Проза Мирхмусина // Звезда Востока. № 7; Заметки об узбекской поэзии последних лет // Там жа. № 9; Библиографии — оперативность, критике — проблемность! // ЛГ. 23 сент.; Джордж Гордон Байрон // Правда Востока. 22 янв.; На пути творческого роста // Там жа. 6 июня; Новогодние строки: [Верш] // Ташкент. правда. 3 янв.

**1959.** Франс // История французской литературы. М. Т. 3; Геній; Гераіня Савецкага Саюза: [Вершы] // Маладосць. № 6; Смерць бацькі: [Верш] // Полымя. № 2; Літаратура сённяшняга Узбекістана // ЛіМ. 14 сак.; Май: [Верш] // Там жа. 29 крас.; Радасць сустрэч // Там жа. 12 жн.; «Каракалпакская повесть» // Правда Востока. 5 февр.; Повесть о судьбе нашей современницы // Там жа. 17 апр.; Страницы истории // Там жа. 23 июля; Широко и полно отражать жизнь народа // Там жа. 21 авг.; Сильнее бури // Ташкент. правда. 4 янв.; На страже мира и счастья // Там жа. 13 мая; Фуркат на русском языке // Там жа. 23 сент.

**1960.** [Прамова 2 лютага 1959 г. на узбекскай дэкадзе ў Маскве] // Школа мастерства. Ташкент; Они такие; Первые уроки политграмоты; Пропуск беды; Обезьянка; Абстрактное искусство; Первоклассник: [Вершы] // Звезда Востока. № 3; Расширенное, но не завершенное... // Правда Востока. 7 июля; В творческом семинаре ССП // Ферганская правда. 8 апр.; Эмиль Золя // Фрунзевец. 2 апр.

**1961.** Смерць бацькі: [Верш] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Кашу тугу; Паводкаю з вакзала да вакзала: [Вершы] // Маладосць. № 4; Исторический роман А. Франса «Боги жаждут» // Уч. записки ТашГПИ им. Низами. Вып. 24.

**1962.** Радасць сустрэч // Жыццё для народа. Мн.; Всегда в труде и в поиске: К 60-летию С. Бородина // Звезда Востока. № 9; Три языка: [Верш]; Радость встреч // Там жа. № 11; Облик молодого героя // Комсомолец Узбекистана. 29 сент. / Сааўт. Г. Окунь; Любоў арлянят // ЛіМ. 1 чэрв.; На зямлі Узбекістана // Там жа. 22 чэрв. / Пад псеўд. Л. Сцяпанаў; Тры мовы; Абстрактнае мастацтва: [Вершы] // Там жа. 30 кастр.; Вуліца Якуба Коласа ў Ташкенце: [Верш] // Там жа. 2 ліст.; Тры мовы: [Верш]; Сцяжынкамі паэта // Мін. праўда. 3 ліст.; Своими глазами // Правда Востока. 4 янв.; Умение видеть, рассказать, убедить // Ташкент. правда. 16 сент. / Сааўт. Г. Окунь; Золотые россыпи // Там жа. 17 нояб.

**1963.** Летопись жизни и творчества А. Франса // Уч. записки ТашГПИ им. Низами. Вып. 3; Великий сатирик: К 80-летию Я. Гашека // Правда Востока. 30 апр.; Китоблар ва замондошлар // Сирдаре хакикати. 17 нояб. / Сааўт. Г. Окунь.

**1964.** Узбекские поэты на белорусском языке // Звезда Востока. № 2; Французский критический реализм конца XIX — начала XX в. и А. Франс // Ученые записки РПИРЯиЛ. Вып. 1; Становление человека // Ташкент. правда. 2 авг.

**1965.** Свежесть дождя, омывающего листья // Звезда Востока. № 12; А. Франс в литературной критике // Ученые записки РПИРЯиЛ. Вып. 3; Трое у пулемета // Правда Востока. 20 июня; Ищи локатором главное // Там жа. 3 июля; Поэт и драматург: К 60-летию Уйгуна // Ташкент. правда. 18 мая.

**1966.** Іграюць Ойстрахі: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; За ясность мысли, за глубокий идейно-художественный анализ // Звезда Востока. № 4; Глубокое расследование // Там жа. № 6; Наш друг Ромен Роллан // Узбекистан. № 1; Шолохов и советский роман // Веч. Ташкент. 6 дек.

**1967.** Тры мовы; Вуліца Якуба Коласа ў Ташкенце: [Вершы] // Узбекістану: Вершы. Мн.; Поэтический мир Миртемира // Правда Востока. 4 авг.; Две повести Мирхмусина // Там жа. 28 сент.

**1968.** Упоение жизнью // Веч. Ташкент. 18 июля.

**1969.** Предисловие // Бородин С. Египтянин. Ташкент; Стихи Б. Пака // Звезда Востока. № 1; Содружество поэтов // Там жа. № 2; Анатоль Франс и Великий Октябрь // Там жа. № 4; Якуб Колас в Ташкенте // Там жа. № 10; Стихи о благодатных ливнях // Комсомолец Узбекистана. 23 мая.

**1970.** «Фрески Афрасаиба» // Звезда Востока. № 9; Селедка: [Верш] // Веч. Ташкент. 21 дек.

**1971.** Vouloir c'est pouvoir: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.; Братэрства: [Верш] // Голас Радзімы. № 39; Поэзия белорусских партизан // Звезда Востока. № 2; Литература «великого взлета» // Там жа. № 3; Роман о Мукими // Там жа. № 10; Доверие к человеку // Правда Востока. 16 апр.

**1972.** Вдохновение поэта // Звезда Востока. № 7; Братство; Венки дорогим коммунарам; У могилы Барбюса; Играют Ойстрахи: [Вершы] // Там жа. № 8; Гімн бяссонню; Калгасная хроніка ў чатыры радкі; Запрашэнне да купання: [Вершы] // Полымя. № 4; Воспринимаю жизнь как чудо // Правда Востока. 27 февр.

**1973.** Вуліца Якуба Коласа ў Ташкенце: [Верш] // Братэрства. Мн.; Жыццё — паэзія // Вытокі песні. Мн.; Жажда жизни // Звезда Востока. № 2; Стать человеком // Там жа. № 8; Стихи о мужестве // Там жа. № 9; Назидательное стихотворение о транспорте; Два сонета: [Вершы] // Там жа. № 12; Квартира вождя: [Верш] // Там жа. № 4; Веч. Ташкент. 2 апр.; Ля магілы Анры Барбюса: [Верш] // ЛіМ. 18 мая; Сергей Бородин; Тирилган тарих. // Совет Узбекистони. 2 май.

**1974.** Кватэра на вуліцы Мары-Роз: [Верш] // Звязда. 16 лют.

**1975.** Анатоль Франс в «Юманите» // Звезда Востока. № 3; В строю: («Свети звезда» Н. Буканова) // Там жа. № 12; Мухим дарслик // Шарк Юлдузи. № 4 / Сааўт. Ю. Пулатаў.

**1976.** З-пад крыла Якуба Коласа // Пясняр мужнасці. Мн.; Книга о мастере биографического жанра // Звезда Востока. № 3.

**1977.** Анатоль Франс и Великий Октябрь; Анатоль Франс в «Юманите» // Радость встреч. Ташкент; Богатство, рожденное Октябрем // Правда Востока. 13 марта.

**1982.** Вуліца Якуба Коласа ў Ташкенце: [Верш] // Нам засталася спадчына. Мн.; Звязда. 4 вер.

**1.4.**

**1931.** Б е з ы м е н с к і А. Трагедыйная ноч: Паэма З рус. // Полымя рэв. № 7 / Пер. пад крыпт. С. Л. Аўт. пер. спрэчнае.
// Там жа. № 11—12 / Пер. пад крыпт. С. Л.

**1932.** Г а р а ў с к і А. Маёвы марш: Урывак / З пол. // ЛіМ. 30 крас. / Пер. пад крыпт. С. Л.

**1936.** С а д о ў с к і Я. Неўміручасць: Апавяданне / З рус. // Полымя рэв. № 7 / Пер. пад крыпт. С. Л. Аўт. пер. спрэчнае.

**1949.** Х а м з а. Элегия Турсуной: [Верш] / С узб. // Путь к коммунизму. Ташкент; Я г о ж. Проснись, рабочий!; Да здравствуют Советы!; Элегия Турсуной; Тоскую: [Вершы] / С узб. // Хамза. Избранное. Ташкент; Я г о ж. Проснись, рабочий!; Да здравствуют Советы!: [Вершы] / С узб. // Звезда Востока. № 9; Я г о ж. Да здравствуют Советы!: [Верш] / С узб. // Комсомолец Узбекистана. 4 окт.; Фрунзевец. 5 окт.; Я г о ж. Да здравствуют Советы!; Проснись, рабочий!: [Вершы] / С узб. // Правда Востока. 25 сент.

**1950.** Б а б а е в М. Строительница: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 1; Г у л я м Г. Это подпись твоя: [Верш] / С узб. // Там жа. № 2; К и м Ц ы н С о н. Памятник Освобождения: [Верш] / С кор. // Там жа. № 10; Ш а р и п о в Д. Гигант коммунизма: [Верш] / С узб. // Там жа. № 12; К и м Ц ы н С о н. Послушай, мой друг!: [Верш] / С кор. // Комсомолец Узбекистана. 9 сент.; Г у л я м Г. Да здравствует мир!: [Верш] / С узб. // Правда Востока. 16 дек.

**1951.** Б а б а е в М. Я так чувствую; Подпись советского человека: [Вершы] / С узб. // Бабаев. М. Гимн радости. Ташкент; Г у л я м Г. Гимн миру; С трибуны мира; Да здравствует мир!; На подступах к небу; Друг у друга учимся мы; Это подпись твоя: [Вершы] / С узб. // Гулям Г. Москва — оплот мира. Ташкент; Я г о ж. Это подпись твоя: [Верш] / С узб. // Гулям Г. Счастье родной земли. Ташкент; Х а с а н П. Москва: [Верш] / С узб. // Здравствуй, Москва! Ташкент; К и м Ц ы н С о н. Послушай, мой друг!; Памятник Освобождения: [Вершы] / С кор. // Ким Цын Сон. Строка дружбы. Ташкент; М у к и м и. Сатира на Виктора / С узб. // Мукими. Изб. произв. Ташкент; Ш а р и п о в Д. Гигант коммунизма: [Верш] / С узб. // Новые дни Тахиа-Таша. Ташкент; Х а с а н П. [Верш] / С узб. // Пулат Х. Верность. Ташкент; Ф у р к а т. Письмо из Бомбея: [Верш] / С узб. // Фуркат. Избр. произв. Ташкент; Х а м з а. Проснись, рабочий!; Да здравствуют Советы!: [Вершы] / С узб. // Хамза. Избр. произв. Ташкент; Ф у р к а т. Тоска по родине: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 8; Х а с а н П. Москва; Наши девушки: [Вершы] / С узб. // Комсомолец Узбекистана. 7 июля.

**1953.** Г у л я м Г. На подступах к небу; Друг у друга учимся мы: [Вершы] / С узб. / Гулям Г. Избранное. Ташкент.

**1954.** Б а б а е в М. Я так чувствую: [Верш] / С узб. // Бабаев М. Я так чувствую. Ташкент; Х а м з а. Да здравствуют Советы!: [Верш] / С узб. // Правда Востока. 19 марта.

**1957.** Б а б а д ж а н Р. Уйгурской девушке: [Верш] / С узб. // Правда Востока. 22 сент.

**1958.** Б а б а е в М. Я так чувствую: [Верш] / С узб. // Бабаев М. Песни о счастье. М.; М и р т е м и р. Кузни; Дилькушо: [Вершы] / С узб. //Мирттемир. Стихи. Ташкент; Ф у р к а т [Восем вершаў] / С узб.//Фуркат. Избр. произв. Ташкент; Х а м з а. Тоскую: [Верш] / С узб. // Хамза. Избранное. М.

**1959.** Б а б а е в М. Я так чувствую: [Верш] / С узб. // Бабаев М. Твоя красота. Ташкент; Ф у р к а т. [Вершы] / С узб. // Фуркат. Лирика. Ташкент; М и р т е м и р. Борьба: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 2; Х а м з а. Поздравляю!: [Верш] / С узб. // Там жа. № 11; Ш у ш к е в и ч С. Наколол комарик ножку: [Верш] / С бел. // Зорька. 15 авг.; Пионер Востока. 7 июля.

**1960.** М и р т е м и р. Борьба; На берегах Аму: [Вершы] / С узб. // Миртемир. Такое уж время. М.; Х а м з а. Лишь твой образ; Тоскую; Проснись, рабочий!; Атин бибиджан; Поздравляю!; Будем учеными; Начало азартных игр: [Вершы] / С узб. // Хамза. Сочинения. Ташкент. Т. 1; Я г о ж. Ленин: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 7.

**1961.** А р а г о н Л. Пясняр сваёй партыі; Э л ю а р П. Свабода: [Вершы] / З фр. // ЛіМ. 1 жн.

**1962.** Х а к і м-з а д э Н. Х. Рабочы, прачынайся!; Запавет Турсуной; Д ж у р а С. Паляўнічы: [Вершы] / З узб. // Спявае Узбекістан. Мн.; Ш а м а н с у р о в Ю. Девушка-строитель; Кровь сердца; Под окошком родильного дома: [Вершы] / С узб. // Звезда Востока. № 6.

**1963.** Ф у р к а т. [Вершы] / С узб. // Фуркат. Избранное. Ташкент; Х а м з а. Начало азартных игр: [Верш] / С узб. // Хамза. Правдивый мальчик. Ташкент: Э л ю а р П. Надзея: [Верш] / З фр. // ЛіМ. 6 ліст.

**1965.** М и р т е м и р. Река: [Верш] / С узб. // Лирика военных лет. Ташкент; С а б и р А. Оставь на память сад: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 12.

**1966.** П р э в е р Ж. У кветачніцы; Кірмаш: [Вершы] / З фр. // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Х а к і м - З а д э Н. Х. Рабочы, прачынайся!; Д ж у р а С. Паляўнічы: [Вершы] / З узб. // Сонца ў арыках. Мн.; К у л а к о в с к и й А. Новеллы / С бел. // Звезда Востока. № 4.

**1967.** Х а м з а. Проснись, рабочий!; Поздравляю!: [Вершы] / С узб. // Песни столетий: Антология узбекской поэзии. Ташкент. Т. 3; Э л ю а р П. СССР — адзіная надзея; А р а г о н Л. Легенда пра Габрыэля Пэры: [Вершы] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Х а м з а. Да здравствуют Советы!: [Верш] / С узб. // Октябрь в советской поэзии. Л.; Х в е д а р о в и ч М. Карши: [Верш] / С бел. // Звезда Востока. № 1; П р э в е р Ж. Размова з Сенай: [Верш] / З фр. // ЛіМ. 5 снеж.; С а б и р А. Оставь на память сад: [Верш] / С узб. // Сов. Бел. 1 июня.

**1968.** С а б и р А. Оставь на память сад: [Верш] / С узб. // Пою мое отечество. М.; К а н ь ю Ж. Вещи, виденные в Ташкенте: [Верш] / С фр. // Звезда Востока. М.

**1970.** Х а м з а. Лишь твой образ; Проснись, рабочий!; Поздравляю!; Будем учеными: [Вершы] / С узб. // Хамза. Избр. произв. М.

**1971.** Г у л я м Г. На подступах к небу; Это подпись твоя; Друг у друга учимся мы: [Вершы] / С узб. // Гулям Г. Избр. произв.: В 5 т. Ташкент. Т. 1; М и р т е м и р. Бессмертие: [Верш] / С узб. // Звезда Востока. № 9.

**1972.** Г у л я м Г. Да здравствует мир!; С трибуны мира; Гимн миру: [Вершы] / С узб. // Гулям. Г. Избр. произв.: В 5 т. Ташкент. Т 2; М и р т е м и р. Плечом к плечу; Жемчуг: [Вершы] / С узб. // Звезда Востока. № 1; У й г у н. В сиянии солнца: [Верш] / С узб. // Там жа. № 4; Г у л я м Г. Сустрэча; В а х і д а ў Э. Дзяўчынка; «Маіх сяброў здзіві мой вопыт...»; Зорка; М і р т э м і р. Плячо ў плячо; Б а б а д ж а н Р. Я госць, але...: [Вершы] / З узб. // Полымя. № 11; Б а б а д ж а н Р. Я госць, але...: [Верш] / З узб. // Звязда. 29 кастр.

**1973.** М и р т е м и р. Вот и сады: [Вершы] / С узб. // Миртемир. Избранное. Ташкент; М і р м у х с і н. Узбекская прыгажуня: [Верш] / З узб. // Звязда. 7 ліп.

**1974.** Х а м з а. «Да здравствуют Советы...»; Проснись, рабочий!; Дуэт; Поздравляю!; Тоскую; Будем учеными; Начало азартных игр: [Вершы] / С узб. // Хамза. «Да здравствуют Советы!» Ташкент.

**1.5.**

**На рускую мову.** Май! Поэт и горы; Стансы: [Вершы] / Пер. авт. // Звезда Востока. 1957. № 8; Героиня Советского Союза; Смерть отца; Гений; Сыновья: [Вершы] / Пер. авт. // Там жа. 1959. № 8; Сыновья: [Вершы] / Пер. авт. // Там жа. 1960. № 3; Три языка: [Верш] / Пер. авт. // Там жа. 1962. № 11; Цветет вишня в садах; Первое знакомство; «Путоя»; Яйцо; Селедка; Царапина; Жеребенок; Комсомолец; Профессия: [Вершы] // Там жа. 1970. № 11.

**На таджыкскую мову.** Шоир ва кӯххо: [Верш] / Тарч. А. Бобочон // Комсомоли Точикистон. 1965. 21 ноябрь.

**На ўзбекскую мову.** Севастополь; Совет Иттифокининг кахрамон кизи: Шоир ва тоглар; Станслар; Биринчи синф ўкувчиси; Май; Рухсатнома: [Вершы] // Миртемир, М. Бобоев, Ж. Жабборов тарж. // Белорус шоирлари. Тошкент, 1962.

**1.6.**

У д а р н і к і: Зборнік. Мн., 1931 / Літ. праўка.

О г н и Ф а р х а д а: Сборник. Ташкент, 1949 / Рэдкал.

И д е й н о с т ь и мастерство русской литературы. Ташкент, 1965 / Рэд.

И з и с т о р и и зарубежной литературы. Ташкент, 1965. Вып. 3 / Рэд.

**2.1.**

**На рускай мове.** С т е п а н Иванович Лиходзиевский // Библиографические очерки о деятелях общественных наук Узбекистана: В 3 т. Ташкент, 1976. Т. 1.

**2.3.**

**На беларускай мове.** В е р н і к о ў с к і М. «Я камунізму аддаю...»: С. Ліхадзіеўскаму — 60 гадоў // ЛіМ. 1971. 7 мая; В е р н і к о ў с к і М., С е л і в а н а в а В. Пра творчасць С. Ліхадзіеўскага // Чырв. змена. 1932. 5 мая, 24, 30 кастр.; Г р а х о ў с к і С. Радкі біяграфіі пакалення // Ліхадзіеўскі С. Берасцянка жывых трывог. Мн., 1962; Д а к у т о в і ч Г. За дыялектычна-матэрыялістычны нарыс // Маладняк. 1932. № 2—3; К о л а с Я. [Ліст да С. Ліхадзіеўскага] // Колас Я. Зб. тв.: У 12 т. Мн., 1964. Т. 12; К у л я ш о ў А., Т а ў б і н Ю. За інтэрнацыянальную тэматыку ў паэзіі // ЛіМ. 1932. 30 крас.; М і к у л і ч Б. Творчасць Сцяпана Ліхадзіеўскага // Там жа. 1932. 18 сак.; М і р а ч ы ц к і Л. Любоў да жыцця; Пра паэзію Сцяпана Ліхадзіеўскага // Звязда. 1974. 7 снеж.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Р а г о й ш а В. У пошуках запаветнага каменя // Беларусь. 1974. № 9; Х а ц к е в і ч У., Е р м а л о в і ч М. Супроць схематызму // Бел. калгасная. 1932. № 4; Ш у ш к е в і ч С. Палын дарогі нашы не пакрыў // Голас Радзімы. 1979. 29 сак,; Я г о ж. Паэт, вучоны, педагог // Там жа. 1971. № 39; Я г о ж. Паэт і вучоны // Ліхадзіеўскі С. Чырвоныя макі. Мн., 1981; Ю б і л е й паэта і літаратуразнаўца // ЛіМ. 1961. 12 мая.

**На рускай мове.** Г р о м К. Поэзии живая радость // Веч. Ташкент. 1974. 18 февр.; Р о м Л. Писатель — рядовой боец социалистической стройки // Рабочий. 1931. 25 июля; Х р о н и к а белорусской литературы // Там жа. 1930. 9 апр.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Ш у ш к е в і ч С. «Маленства плыло шматгалосае...»: [Верш] // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 1; Я г о ж. Спатканне ў Ташкенце: [Верш] // Шушкевіч С. Рэха маладосці. Мн., 1984.

**3.1.**

ЦДАМЛіМ Беларусі, ф. 242, воп. 1, спр. 1—97.

*З. У. Драздова.*

# ЛІЯКУМОВІЧ ЦІМОХ



**Ліякумовіч Цімох (Цімафей Барысавіч; псеўд. Л. Ц і м о х і н, Л. Т и м о ф е е в; н. 11.7.1936, г. п. Азарычы Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.), літаратуразнавец, педагог. Дацэнт (1980), прафесар (1992). Піша на рускай і беларускай мовах.**

Нарадзіўся ў сям'і служачых. Пасля заканчэння СШ № 4 г. Мазыра (1955) паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Смаленскага пэдінстытута, які скончыў у 1962. Настаўнічаў у Плёскай сямігадовай (1961—62), Цялушскай сярэдняй (1962—65) школах Бабруйскага р-на, у СШ № 3 Бабруйска (1966—75). Завочна вучыўся ў аспірантуры Гомельскага педінстытута (1964—68). З 1975 працуе ў Брэсцкім педінстытуце, з 1980 загадчык кафедры рускай і замежнай літаратур.

Першыя публікацыі (замалёўкі, рэцэнзіі, вершы) Ц. Ліякумовіча з'явіліся ў мазырскай раённай газеце «Заря» ў 1955, калі ён яшчэ вучыўся ў школе. У рэспубліканскім друку выступае з 1962. Даследуе праблемы ўзаемадзеяння беларускай літаратуры з рускай і інш. літаратурамі. Асноўную ўвагу ўдзяляе купалаўскай тэматыцы, праблемам перакладу твораў беларускага песняра на рускую мову, яго творчым узаемасувязям з рускімі пісьменнікамі. Высвятляе асобныя аспекты беларускай Пушкініяны. Распрацоўвае пытанні выкладання літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе. Аўтар даследаванняў «Паэзія Янкі Купалы ў рускіх перакладах», «Паэзія сяброўства», «У лучнасці братняй», «Гогалеўскія традыцыі ў творчасці Якуба Коласа», «Слова свабоды» і інш., а таксама шматлікіх артыкулаў у энцыклапедычных выданнях. Складальнік праграм «Руская літаратура XVIII ст.» і «Руская літаратура XIX (1 пал.) ст.» для студэнтаў беларускіх аддзяленняў філалагічных факультэтаў педагагічных ВНУ рэспублікі.

Жыве ў Брэсце. *А. А. Майсейчык.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Поэзия Янки Купалы в русских переводах. Автореф. дисс. ... канд. филол. наук. Мн., 1973.

Потомки А. С. Пушкина в Белоруссии. Мн., 1991.

**1.3.**

**1962.** Люди с сердцем Прометея // Знамя юности. 16 окт.; Заглянем у цудоўнае заўтра // Наст. газ. 10 лют.

**1964.** До каждого сердца дойти // Знамя юности. 12 янв.; Карысная брашура // Наст. газ. 18 ліст.

**1965.** Каб вершы радавалі... // ЛіМ. 10 вер.; Своеасаблівы талент // Наст. газ. 2 кастр.

**1966.** Улюбёнасць: [Рэц. на кн.: Л о с ь Е. Хараство. Мн., 1965] // Беларусь. № 3; Шчырая песня: [Рэц. на кн.: Б у й л а К. Май. Мн., 1965] // Там жа. № 11; Пра веліч рэвалюцыі і чалавека // ЛіМ. 3 чэрв.; «Служым ёй штодзень дабром...»: [Рэц. на кн.: К у с я н к о ў М. Жывіца. Мн., 1966] // Там жа. 16 вер.; Сведчанне любві // Там жа. 20 вер.; «Полымя» і «Маладосць» — кожнай школе // Там жа 28 кастр.; Вершы ідуць у наступленне: [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. Пры святле маланак. Мн., 1966] // Маг. праўда. 18 ліст.

**1967.** Нескароныя // ЛіМ. 3 лют.; Адкрываць новае: [Рэц. на кн.: В о л к а д а е в П. Ливень. Мн., 1967] // Там жа. 4 ліп.; Пра дзіцячую мару // Там жа. 28 ліп.

**1968.** Навечна ў страі: [Рэц. на кн.: К р ы в ё ю с э р ц а Мн., 1967] // Беларусь. № 7; З братняю павагаю (Янка Купала і Валерый Брусаў) // Полымя. № 4; Слова значнае і патрэбнае: [Рэц. на кн.: Н а в у м е н к а І. Янка Купала: Духоўны воблік героя. Мн., 1967] // Звязда 22 жн.; Адданасць самаму дарагому // ЛіМ. 27 вер.; Пад сэрцам зноў гараць незагоеныя раны: [Рэц. на кн.: А ў р а м ч ы к М. Універсітэцкі гарадок. Мн., 1967] // Маг. праўда. 11 лют.; Наіры Зар'ян у Бабруйску // Там жа. 27 лют.; Пра шчасце: [Рэц. на кн.: Г р а х о в с к и й С. Высота. М., 1966] // Наст. газ. 21 лют.; Адна з лепшых // Там жа. 1 мая.

**1969.** Лірыка Янкі Купалы ў перакладзе Андрэя Малышкі // Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі па вывучэнню беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязей: Тэзісы дакладаў. Гомель; Неизвестный перевод // Неман. № 4; Школа імя Янкі Купалы // Звязда. 23 ліст.; З хваляваннем і любоўю: [Рэц. на кн.: Ш у ш к е в і ч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968] // Маг. праўда. 26 лют.; Друг беларускай літаратуры // Там жа. 14 жн.

**1970.** У племянника Бунина // Неман. № 8; Заўсёды клопат // ЛіМ. 29 мая; З песняй па жыцці // Наст. газ. 21 студз.

**1971.** Янка Купала ў Бабруйску // Маладосць. № 6; Шляхамі паэта: [Рэц. на кн.: Ш а р а х о ў с к і Я. Пясняр народных дум. Мн., 1970] // ЛіМ. 8 студз.; «Зноў да шчасця ўздымаю рукі...»: [Рэц. на кн.: М а л ь ц і н с к і Х. «Мой добры голуб». Мн., 1970] //

Там жа. 6 жн.; Народжаная сяброўствам: [Рэц. на кн.: Кобзаревский П. «Говорят мои друзья». Мн., 1971] // Там жа. 27 жн.; На паклон да народных паэтаў // Там жа. 10 вер.

**1972.** Купала перакладае Някрасава // Маладосць. № 7; Внучка Пушкина // Неман. № 1; Зарьян — друг Купалы // Там жа. № 4; Друг белорусской поэзии // Там жа. № 8; Над купалаўскім радком // Полымя. № 6; Моваю братэрства: Удасканальваць пераклады паэзіі Янкі Купалы на рускую мову // ЛіМ. 26 мая; Запрашэнне да падарожжа: [Рэц. на кн.: Бас І. «Падарожжа ў літаратурнае мінулае». Мн., 1971] // Там жа. 16 чэрв.; Арыенцір у яго творчасці: [Рэц. на кн.: Бібліяграфія твораў Янкі Купалы. Частка III, 1942—1960. Мн., 1972] // Там жа. 21 ліп.; «Надеюсь, это вас не обидит...» // Сов. Бел. 13 окт.

**1973.** Сведка і ўдзельнік вялікіх падзей: 70 год з дня нараджэння Платона Галавача // Голас Радзімы. № 18; Нашчадкі Пушкіна на Беларусі // Там жа. № 26; Новая встреча с Купалой: [Рэц. на кн.: Купала Я. Гусляр. Избранная лирика. М., 1972] // Неман. № 2; Наш друг Михаил Светлов // Там жа. № 6; С сыновней любовью // Там жа. № 12; «Сыну свайму даю запавет...»: [Рэц. на кн.: Мальцінскі Х. Вясёлыя вароты. Мн., 1972] // Полымя. № 5; З глыбінь жыцця // ЛіМ. 20 крас.; Нашчадкі Пушкіна на Беларусі // Там жа. 8 чэрв.; Пісьменнік светлых ідэалаў // Маг. праўда. 18 крас.

**1974.** «Беларусь — маленства маё...» // Беларусь. № 5; Даследаванне па творах прозы: [Рэц. на кн.: Дзюбайла П. Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе. Мн., 1973] // Там жа. № 6; Пушкин в Могилеве // Неман. № 6; С верой в человека: [Рэц. на кн.: Науменко И. Та самая земля. М., 1973] // Знамя юности. 10 окт.; Здымак нагадаў // ЛіМ. 9 жн.; Па жыццёвых дарогах Я. Коласа: [Рэц. на кн.: Александровіч С. На шырокі прастор. Мн., 1972] // Маг. праўда. 10 крас.; Пра здабыткі лірычнай камедыі: [Рэц. на кн.: Усікаў Я. Беларуская камедыя. Мн., 1973] // Там жа. 22 ліст.; Зайздросны лёс // Наст. газ. 30 ліст.

**1975.** У доме Максіма Рыльскага // Беларусь. № 3; «...Зачараваў сваім радком»: Да 80-годдзя з дня нараджэння Э. Багрыцкага // Там жа. № 11; Купаловский переводчик // Неман. № 5; Соратник Ильича / Пад псеўд. Л. Тимофеев; Фронтовые дороги потомков Пушкина // Там жа. № 7; «Строгай ласкай, сціплай дабрынёй...» // ЛіМ. 14 сак.; З пачуццём братэрства // Там жа. 4 крас. / Пад псеўд. Л. Цімохін; Стагналі таполі, стагналі бярозы... // Там жа. 31 кастр.

**1976.** Луначарскі пра Купалу // Беларусь. № 6; По приказу сердца // Заря. 3 дек.

**1977.** Рассказ Л. Н. Толстого «После бала» в переводе Янки Брыля // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур: Тэзісы дакладаў III Рэспубліканскай канферэнцыі 2—3 снежня 1977 г. Мн.; Светлая дружба: Да 100-годдзя з дня нарадж. А. С. Новікава-Прыбоя // Беларусь. № 3; Новиков-Прибой в Белоруссии // Неман. № 3; Переводчик с белорусского // Там жа. № 5; Подпись к фотографии // Там жа. № 12; З удзячнасцю да Беларусі // ЛіМ. 28 кастр.

**1978.** Янка Купала і Валерый Брусаў // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 6; На языке братского народа: [Рэц. на кн.: Браўн М. Ленінградскае неба. Мн., 1977] // Нева. № 11; Купала и Лахути / Пад псеўд. Л. Тимофеев; «Беларусь, ты, как солнце, со мною...» // Неман. № 1; По зову сердца // Там жа. № 3; Анталогія беларускага нарыса: [Рэц. на кн.: Беларускі савецкі нарыс. Т. 1—2. Мн., 1977] // Звязда. 22 жн.; «Вось ён, глядзіце, Янка Купала» // ЛіМ. 20 студз.; Ён перакладаў Купалу // Там жа. 16 чэрв.; І пра Беларусь — слова // Там жа. 7 ліп.; Праменяць яго песні // Там жа. 11 жн.

**1979.** Па законах братэрства: (М. Ціханаў і беларуская літаратура) // Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе: Матэрыялы рэсп. навукова-тэарэтыч. канферэнцыі. Мн.; Паглыбляючыся ў свет Купалы // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 7; З братняй удзячнасцю: [Рэц. на кн.: Ціханаў М. «Спасціжэнне». Мн., 1978] // Беларусь. № 2; Патомки Пушкина в Белоруссии // Неман. № 6; Созревай нивы урожай: [Рэц. на кн.: Шушкевіч С. Выбраныя творы. Т. 1—2. Мн., 1978] // Заря. 26 сент.; Прапагандыст беларускай літаратуры // ЛіМ. 10 жн.; Даўні і верны друг // Там жа. 12 кастр.; Свет добрай книги: [Рэц. на кн.: Отчик В. Зеленый гром. Мн., 1978] // Сов. Бел. 14 июня.

**1980.** Красамоўная і суровая песня // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 8; Беларускія старонкі творчай біяграфіі Міхаіла Ісакоўскага // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры. Гомель; Плён лірычнай садружнасці: [Рэц. на кн.: Прызнанне. Мн., 1979] // Беларусь. № 7; Аб перакладзе твораў Янкі Купалы на рускую мову // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 2; Признательность: [Рэц. на кн.: Вершы паэтаў Ленінграда. Мн., 1979] // Нева. № 3; Жывая праўда слова: [Рэц. на кн.: Алейнік Б. Заклінанне агню. Мн., 1979] // Полымя. № 8; Старонка жывой памяці // Звязда. 18 студз.; Будаваць жыццё па Ільічу: Новыя старонкі Ленініяны // Там жа. 18 крас.; У свеце купалавага слова: [Рэц. на кн.: Купала Я. Стихи и поэмы. Мн., 1979] // ЛіМ. 29 лют.; Роднае, дарагое: [Рэц. на кн.: Ісакоўскі М. Роднае. Мн., 1979] // Там жа. 21 сак.; «Сябры мае, браты мае навек!» // Там жа. 5 снеж.; Яркі прыклад братэрства // Наст. газ. 19 студз.

**1981.** Лермантаўскія матывы ў ранняй лірыцы Янкі Купалы (1904—1907) // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 9; Поэзия Янки Купалы в русских переводах // Мастерство перевода. М.; Белорусские страницы биографии Наири Зарьяна: К 80-летию со дня рождения (поэта) // Лит. Армения. № 1; Першае знаёмства // ЛіМ. 16 кастр.

**1982.** У сугучнасці з купалаўскім словам // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 10; Роля рускіх пісьменнікаў XIX ст. ў творчым жыцці Янкі Купалы // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн.; Первый переводчик Янки Купалы // Волга. № 7; Паэзія сяброўства // Полымя. № 6; Побач з крылом Буравесніка // Звязда. 29 студз.

**1983.** У лучнасці братняй // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 11; Строки братства: О первой советской книге, выпущенной в Бресте в 1939 г. («Фронтовые стихи») // Заря. 5 нояб.; Заўсёды побач // Звязда. 19 ліп.

**1984.** Плён творчай садружнасці // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 12; Згуртаванне // Маладосць. № 9.

**1985.** Заклік да змагання, заклік да перамогі // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 13; Творчество А. Твардовского периода участия в освобождении Западной Белоруссии // Проблемы истоков творчества: А. Твардовский, М. Исаковский, Н. Рыленков. Смоленск; З духоўнай самааддачай: [Рэц. на кн.: Дудзін М. Пасля спаткання. М., 1984] // Полымя. № 9; «Я з родным краем не магу расстацца...» // ЛіМ. 15 сак.; Паэт рэвалюцыйнай рамантыкі: Да 90-годдзя з дня нараджэння Э. Багрыцкага // Там жа. 7 ліст.

**1.4.**

**1976.** Ладонщчыкаў Г. Сур'ёзнае пісьмо: [Верш] / З рус. // ЛіМ. 16 крас.

**1977.** Рапінскі М. Апошні раз; Ды стаў бы...: [Вершы] / З рус. // ЛіМ. 4 сак.; Мельнічук С. Прызнанне: Гумарэска / З укр. // Там жа. 16 вер.

**1978.** Мельнічук С. Дуб: Гумарэска / З укр. // Родная прырода. № 1; Пруднік М. Аўтограф Сакрата: Гумарэска / З укр. // ЛіМ. 9 чэрв.

**1980.** Мельнічук С. Суседкі: [Гумарэска] / З укр. // Работніца і сялянка. № 2.

**1.5.**

**На украінскую мову.** Його шанує Україна: [Рэц. на кн.: Такі ён быў: Успаміны пра Янку Купалу] // Літ. Україна. 1976. 19 кастр.; [Рэц. на кн.: Шпорта Я. Явар. Мн., 1976] // Днипро. 1977. № 6; З увагою до купалівського слова // Рад. літ.-знавство. 1978. № 8; Янка Купала і Якуб Колас про уркаїнських письменників та літературу // Янка купала та Якуб Колас і Україна. Суми, 1982; Чуття пабратимства високе // Рад. літ.-знавство. 1982. № 6. *В. М. Грышкевіч.*

# ЛОБАН МІКОЛА



*Лобан Мікола [Мікалай Паўлавіч; псеўд. Язэп Фіта, 14(27).10.1911, в. Чаплічы Слуцкага пав., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.— 28.12.1984; Мінск, пахаваны на Паўночных могілках], празаік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974). Член СП Беларусі з 1950. Кандыдат філалагічных навук (1953).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Дзіцячыя гады правёў у роднай вёсцы, дзе бацькі займаліся на сваёй гаспадарцы, якая складалася з 1 дзесяціны зямлі, каня і каровы. Каб пракарміць сям'ю, бацька вымушаны быў падрабляць печніком. У 1918 г. М. Лобан пайшоў у падрыхтоўчы клас Чапліцкай пачатковай школы. У 1926 скончыў сямігадовую школу ў Слуцку. На працягу 3 гадоў заставаўся дома, працаваў лістаносцам, бібліятэкарам-аматарам у Чапліцкай хаце-чытальні. У 1929 паступіў на 2-гадовыя педагагічныя курсы ў Слуцку, а ў 1931 накіраваны на працу загадчыкам двухкамплектнай школы ў в. Пласток на Любаншчыне. У 1931—39 працаваў настаўнікам у в. Таль Любанскага, у мяст. Шацк і в. Пярэжыр Пухавіцкага раёнаў. Спасцігшае гора (смерць жонкі і дваіх дзяцей) прымусілі з'ехаць за межы Беларусі. У 1939 паступіў у Кіеўскі універсітэт, але праз некаторы час зноў вярнуўся на радзіму. Вайна застала М. Лобана ў Мінску. Удзельнічаў у баях пад Ленінградам на Волхаўскім фронце. 27 верасня 1941 ў час атакі паранены ў твар асколкамі ручной гранаты, а праз два тыдні (11 кастрычніка) — другі раз ужо ў санітарным эшалоне прамым пападаннем у вагон авіябомбы. Пасля гэтага ён больш за паўгода лячыўся ў розных шпіталях (Кіраў, Іркуцк) і ў канцы 1942 выпісаны інвалідам трэцяй групы. Працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе пас. Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобл. З аднаўленнем у 1943 работы БДУ (на ст. Сходня пад Масквой) вярнуўся на вучобу. З ліпеня 1944 адначасова з вучобай ён працаваў у слоўнікавай камісіі Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Пасля заканчэння універсітэта (1945) працягваў працаваць у Інстытуце мовазнаўства АН БССР у якасці малодшага навуковага супрацоўніка, аднавіў і творчую работу як празаік. У 1967—68 працаваў загадчыкам рэдакцыі мовы і літаратуры БелСЭ, з 1968 загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства АН БССР. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Першае апавяданне М. Лобана «Вясна» надрукавана ў літаратурным дадатку да газ. «Камуніст» у 1930. Асноўная тэматыка яго мастацкіх твораў — вайна, сучаснасць, рэвалюцыйнае мінулае Беларусі. Ён лічыў аднолькава важным сказаць пра партызанскі рух, пра жыццё і вучобу педагогаў, імкненне моладзі трапіць на вялікія будоўлі. Галоўны твор М. Лобана-празаіка трылогія «Шэметы» (1964—81), у цэнтры якой лёс некалькіх пакаленняў беларускай сям'і Шэметаў, пачынаючы з далёкіх дарэвалюцыйных дзён да нашага часу — вобразы людзей, якія змагаюцца за сваю шчаслівую будучыню. З раманаў «На парозе будучыні», «Гарадок Устронь», «Шэметы» паўстае шырокая панарама духоўнага росту цэлых пакаленняў, якія ладзілі сваё шчасце працай і змаганнем за надыход лепшага жыцця.

Акрамя пісьменніцкай творчасці М. Лобан доўгія гады працаваў у галіне беларускага мовазнаўства. Пры яго непасрэдным удзеле падрыхтаваны і выдадзены такія значныя працы, як «Руска-беларускі слоўнік», «Беларуска-рускі слоўнік», 5-томны тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Адзін з аўтараў «Арфаграфічнага слоўніка», «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Ён выступаў з нарысамі, пісаў артыкулы па мовазнаўству, займаўся перакладамі, сістэматычна публікаваў рэцэнзіі, эсэ, артыкулы па культуры мовы, па праблемах пісьменніцкага майстэрства.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Выбр. тв.: У 3 т. Мн., 1986. Т. 1; На парозе будучыні: Раман; Т. 2. Гарадок Устронь: Раман; Т. 3. Шэметы: Раман.

**1.2.**

Іркуцянка: Аповесць. Мн., 1953. Рэц.: Аляксееў Р. Першая аповесць // Беларусь. 1953. № 7; Кулешов Ф. Первая книга // Сов. Бел. 1953. 30 мая.

артыкулы друкаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць», газетах «Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета» і інш. Даследуе праблемы гісторыі беларускай савецкай літаратуры. Адзін з аўтараў кніг «Праблемы беларускай сучаснай прозы», «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (т. 1), падручніка для філалагічных факультэтаў педінстытутаў «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», аўтар манаграфіі «Проза Кузьмы Чорнага», брашуры «Кузьма Чорны» і інш. Працы М. Луферава вызначаюцца разуменнем надзённых праблем літаратуры, добрым эстэтычным густам, руплівасцю і ўдумлівасцю даследчыка.

Жыве ў Магілёве.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Кузьма Чорны. Мн., 1960. (Таварыства па распаўсюджванню паліт. і навук. ведаў БССР). Рэц.: С а в и н Е. Творчество — это и есть его жизнь! // Знамя юности. 1960. 29 июня.

Проза Кузьмы Чорнага. Мн., 1961. Рэц.: Г е р ц о в і ч Я. Яшчэ адна кніга пра Кузьму Чорнага // Полымя. 1961. № 10; П ш ы р к о ў Ю. Пошукі і станаўленне // Звязда. 1962. 23 лют.; Ц а р а н к о ў Л. Удумлівы разгляд // ЛіМ. 1961. 19 мая.

Праблемы сучаснай беларускай прозы. Мн., 1967 / Сааўт. П. Дзюбайла, В. Жураўлёў. Рэц.: Б у р а н В. Праблемы сучаснай прозы // ЛіМ. 1967. 19 вер.; Л а з а р у к М. Праблемы тэорыі і сучасная проза // Полымя. 1968. № 6.

1.3.

**1952.** Кніга пра піянерскі калектыў // ЛіМ. 19 крас.

**1958.** Вобразы, якія натхняюць і клічуць // Звязда. 24 вер.; Цікавае даследаванне: [Рэц. на кн.: Б а р ы с е н к а В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957] // Наст. газ. 20 мая.

**1959.** Станаўленне новага чалавека ў барацьбе за сацыялістычную бацькаўшчыну: Паводле рамана «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага // Вуч. зап. (Магілёўскі пед. ін-т). Вып. 6; Кніга пра Купалу-драматурга: [Рэц. на кн.: Я р о ш М. Драматургія Янкі Купалы. Мн., 1959] // Полымя. № 11; Абагульняць не выпадковае, а асноўнае: [Рэц. на кн.: Л у п с я к о ў М. У вераб'іную ноч. Мн., 1958] // ЛіМ. 18 ліп. / Сааўт. А. Крывіцкі; Арыгінальнае даследаванне: [Рэц. на кн.: А д а м о в і ч А. Шляхі да майстэрства. Мн., 1958] // Наст. газ. 10 сак.

**1960.** Высокае майстэрства: (Заўвагі аб асаблівасцях творчай манеры Кузьмы Чорнага) // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 3; Майстэрства крытыка: [Рэц. на кн.: А д а м о в і ч А. Культура творчасці. Мн., 1959] // Маладосць. № 3; Поиски будущего: (К 60-летию со дня рождения Кузьмы Чорного) // Неман. № 3; Пісьменнік вялікай душы: Да 60-годдзя з дня нараджэння Кузьмы Чорнага // Звязда. 6 ліп.; Манаграфія прысвячаецца пісьменніку: [Рэц. на кн.: Х о м ч а н к а К. Піліп Пестрак. Мн., 1960] // Там жа. 2 кастр.; Характэрнае і выпадковае: [Рэц. на кн.: К у з ь м а Чорны. Мн., 1959] // ЛіМ. 4 студз.; Адзінства стылю // Там жа. 28 чэрв.

**1963.** Платон Галавач // Беларуская літаратура. Мн., Вып. 4; Роман Кузьмы Чорного «Третье поколение» // Чорный К. Третье поколение. М.; Л.; Праблемнае даследаванне: [Рэц. на кн.: Б у г а ё ў Д. Шчодрае сэрца пісьменніка. Мн., 1963] // Маладосць. № 10; Незабыўнымі сцежкамі: [Рэц. на кн.: А л е к с а н д р о в і ч С. Незабыўнымі сцежкамі. Мн., 1962] // Полымя. № 6; Гневное слово сатирика: [Рэц. на кн.: М а к а р э в і ч А. Сатыра Кандрата Крапівы. Мн., 1962] // Сов. Бел. 27 июля.

**1964.** Кузьма Чорны; Міхась Зарэцкі; Платон Галавач // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн. Т. 1; Пошукі даюць плён: [Рэц. на кн.: Д а м а ш э в і ч У. Між двух агнёў. Мн., 1963] // Маладосць. № 2; Первый опыт: [Рэц. на кн.: М а к а р э в і ч А. Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. Мн., 1963] // Сов. Бел. 1 сент. / Сааўт. Д. Гальмакоў; Поэзии М. Танка посвящается: [Рэц. на кн.: Б у г а ё ў Д. Паэзія Максіма Танка. Мн., 1964] // Там жа. 15 сент.

**1968.** [Уступны артыкул да аўтабіяграфіі К. Чорнага] // Полымя. № 5.

**1969.** Рэха незабыўных гадоў // Маг. праўда. 19 ліп.; Твой сонечны поўдзень // Там жа. 20 вер.

**1971.** З братняй любоўю // ЛіМ. 25 чэрв.; Талент шчодры, непаўторны: Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Зарэцкага // Там жа. 19 ліст.; З чыстых крыніц // Маг. праўда. 30 студз.; Выдатны пісьменнік, выдатны чалавек // Там жа. 23 ліст.

**1978.** Уклад землякоў // Гомел. праўда. 22 жн.

**1979.** Драматызацыя канфлікту ў літаратурных жанрах // Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе. Мн.; Рамантыка рэвалюцыі і творчасці: [Рэц. на кн.: М а й с е е н к а А. Творчасць Міхася Зарэцкага. Мн., 1978] // ЛіМ. 23 сак.; Сталасць // Маг. праўда. 21 вер. / Пад псеўд. М. Петракоў; Рысы класавай праўды // Там жа. 5 снеж. / Пад псеўд. М. Петракоў.

**1981.** Платон Галавач // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1917—1940. Мн.; Плённыя традыцыі // Маг. праўда. 12 чэрв. / Пад псеўд. М. Петракоў. Сааўт. Л. Барысава.

**1982.** Праўда. народа: [Рэц. на кн.: Д а й н е к а Л. Людзі і маланкі. Мн., 1978; Я г о ж. Запомнім сябе маладымі. Мн., 1981] // Полымя. № 7.

**1985.** Ніткай без вузлоў: [Нарыс] // Маг. праўда. 18 вер.

1.4.

**1962.** З а р э ц к і М. Аўтабіяграфія / З рус. // Полымя. № 6.

2.3.

**На беларускай мове.** Л а з а р у к М. Часу непадуладнае. Мн., 1981. С. 124—127; М і к о л у Луфераву — 50 // ЛіМ. 1979. 5 студз.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П ы с і н А. У сяброўстве з сучаснікам // Маг праўда. 1979. 6 студз.

*Т. М. Махнач.*

## ЛУЦКЕВІЧ АНТОН (НАВІНА АНТОН)



***Луцкевіч Антон Іванавіч [псеўд. А. Иванов, Антон Белорус, Генрык Букавецкі, Кумельган, І. Мялешка, Ів. Мялешка, Антон Навіна; крыпт. А. Л., А. Н., А. Н-А, А. Н-а, А-н-а, А.-н-А, а-н-а, Б. Г., Г. Б., Г-б э, Г., Г. В., Н., Н-а-А, Н. А., A. L., A. N., Н. В.; 17(29).1.1884, Шаўлі Ковенскай губ., цяпер г. Шаўляй, Літва — 1946 (?), Сяміпалацінская вобл., Казахстан (?)], крытык, літаратуразнавец, лінгвіст, гісторык, грамадскі і палітычны дзеяч.***

Бацька А. Луцкевіча паходзіў са старога збяднелага беларускага шляхецкага роду герба «Навіна», сваёй зямельнай уласнасці не меў. Служыў у арміі, потым на чыгунцы. Таму сям'я часта пераязджала з месца на месца. Маці, у дзявоцтве Зоф'я Лычкоўская, з дробнай шляхты. Дзядзька А. Луцкевіча Сцяпан загінуў у паўстанні 1863, што вельмі паўплывала на выбар жыццёвага шляху будучага пісьменніка і яго старэйшага брата І. Луцкевіча, археолага, арганізатара Віленскага беларускага музея, грамадскага дзеяча. Вучыцца А. Луцкевіч пачаў у гімназіі ў Лібаве (цяпер г. Ліепая, Латвія). Калі пасля смерці бацькі сям'я пераехала ў Мінск, ён працягваў вучобу ў Мінскай класічнай гімназіі. У 1902 паступіў у Пецярбургскі універсітэт, дзе вывучаў прыродазнаўства. А. Луцкевіч адзін з заснавальнікаў «Круга беларускай народнай прасветы», які вёў работу сярод выхадцаў з Беларусі і ставіў мэтай стварэнне беларускай народнай школы, выданне беларускіх кніг. Разам з братам і іншымі студэнтамі выдаў у Пецярбургу «Калядную пісанку», «Велікодную пісанку» і інш. Восенню 1903 увайшоў у ядро палітычнай арганізацыі — Беларускай рэвалюцыйнай грамады, перайменаванай у 1905 у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Адзін з аўтараў яе праграмы. У 1904 арыштаваны ў Мінску за распаўсюджванне партыйнай літаратуры. Потым выпушчаны без права выязджаць з горада. Давялося спыніць вучобу. Экзамены за курс прыродазнаўчага і юрыдычнага факультэтаў Пецярбургскага і Дэрпцкага універсітэтаў здаў экстэрнам.

А. Луцкевіч — актыўны ўдзельнік рэвалюцыі 1905—07. На І з'ездзе БСГ (канец 1905) выбраны членам ЦК. У лютым 1906 перайшоў на нелегальнае становішча і пераехаў у Вільню. Разам з братам і Цёткай узначальваў партработу ў горадзе і Віленскім краі. Адзін з заснавальнікаў органа БСГ газеты «Наша доля». Пасля 4 нумару ён, яго брат і Цётка выйшлі з складу рэдакцыі і заснавалі газету «Наша ніва», дзе ўбачылі свет творы найлепшых тагачасных беларускіх пісьменнікаў. У сваіх артыкулах і нататках (многія з іх не падпісаны) А. Луцкевіч выкрываў палітыку царызму, выказваўся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага народа, друкаваў рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў. У 1909 апублікаваў брашуру «Беларусы» (якая ёсць у кабінеце У. І. Леніна з яго паметамі). Быў членам віленскіх выдавецкіх суполак, Беларускага драматычна-музычнага гуртка ў Вільні. Пасля акупацыі горада і заходняй часткі Беларусі нямецкімі войскамі зноў разам з братам, Цёткай, В. Ластоўскім і інш. выдаваў газету «Гоман». Уваходзіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую групу, пры дапамозе якой быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК). Ён таксама адзін з ініцыятараў «Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага». Выступаў за стварэнне незалежнай беларуска-літоўскай дзяржавы з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі, соймам і сталіцай у Вільні. На канферэнцыі беларускіх арганізацый у 1917 выбраны старшынёй Віленскай Беларускай Рады. Абвяшчэнне незалежнасці Літоўскай Рэспублікі (16.2.1918) прывяло А. Луцкевіча на цалкам незалежніцкія пазіцыі. У час акупацыі Літвы нямецкімі войскамі шмат працаваў дзеля стварэння беларускай школы, выкладаў беларускую мову на курсах настаўнікаў. Як і ў «Нашай ніве», змяшчаў у «Гомане» артыкулы па праблемах беларускай школы. У 1917 выдаў работу «Як правільна пісаць па-беларуску», а ў 1918 (разам з Я. Станкевічам) — «Беларускі правапіс». Пазней, у 1921, пераклаў на беларускую мову падручнік па элементарнай алгебры Кісялёва. Літаратурна-крытычныя працы Луцкевіча дарэвалюцыйнага перыяду сабраны ў кнізе «Нашы песняры» (1918).

Пасля таго, як у 1918 пачалося новае нямецкае наступленне на ўсход, 21.2.1918, за 4 дні да акупацыі Мінска, была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Неўзабаве А. Луцкевіч разам з І. Луцкевічам, В. Ластоўскім і яшчэ шасцю членамі Віленскай Беларускай Рады быў кааптаваны ў склад

Рады БНР. На пасяджэнні Народнага Сакратарыяту (урада) ён выступіў з прапановай абвясціць незалежнасць БНР, што і было зроблена 25.3.1918. Пасля распаду БСГ на некалькі палітычных арганізацый А. Луцкевіч стаў відным дзеячам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Як старшыня Рады Народных Міністраў БНР і міністр замежных спраў вёў перагаворы з урадам Украінскай Народнай Рэспублікі і вядомым бальшавіком Х. Ракоўскім у Кіеве (кастрычнік 1918). У лістападзе таго ж года з візітам у Маскве. З дзённіка А. Луцкевіча, які ён вёў у той час, вынікала, што ён быў не супраць саюза з РСФСР і ўвядзення савецкай канстытуцыі на Беларусі пры ўмове, што Савецкая Расія прызнае незалежнасць Беларусі. У некаторых публікацыях сцвярджаецца, што А. Луцкевіч вёў перагаворы непасрэдна з У. І. Леніным. У канцы 1918 Луцкевіч разам з урадам БНР пераехаў у Вільню, потым у Гродна. У нотах польскаму ўраду ён пратэставаў супраць анексіі беларускіх паветаў, прызыву беларусаў у Войска Польскае. З просьбай абараніць Беларусь ад польскіх акупантаў звярнуўся да дыпламатычных прадстаўнікоў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, да ўрада Германіі. На перагаворах з прадстаўнікамі польскага Міністэрства замежных спраў адмовіўся ад супрацоўніцтва з польскім урадам на Версальскай мірнай канферэнцыі і стварэння супольнага антыбальшавіцкага фронту. На мірнай канферэнцыі ў Версалі быў супраць рашэння Антанты аб прызнанні юрысдыкцыі Калчака ў дачыненні да Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны і іншых былых уладанняў Расійскай імперыі. Настойваў на прызнанні незалежнасці БНР, дамогся яе прызнання Чэхаславакіяй, Францыяй і Латвіяй. У Парыжы А. Луцкевіч вёў перагаворы з міністрам-прэзідэнтам Польшчы І. Падэрэўскім і быў запрошаны ў Варшаву. У 1919 пераехаў у польскую сталіцу, дзе быў практычна інтэрніраваны. Толькі 22.10.1919 яго прыняў Ю. Пілсудскі. Сустрэча з начальнікам Польскай дзяржавы не дала практычных вынікаў, бо Пілсудскі не прызнаў права Беларусі на дзяржаўную самастойнасць. Расказваючы пра сустрэчы з кіраўніком Польскай дзяржавы ў інтэрв'ю газеце «Кур'ер Польскі», А. Луцкевіч завяршыў яго словамі: «У любым выпадку Белая Русь павінна быць створана як асобная дзяржаўная адзінка» (1.11.1919). Хутка ў Радзе БНР адбыўся раскол: утварыліся Народная Рада і Найвышэйшая Рада. А. Луцкевіч узначаліў урад Найвышэйшай Рады БНР. Зразумеўшы, што дабіцца ад Польшчы прызнання ёю беларускай дзяржаўнасці не ўдасца, у пачатку 1920 ён падаў у адстаўку і пераехаў у Вільню. Там напісаў і выдаў брашуру «Польская акупацыя на Беларусі», аднавіў выданне газеты «Наша ніва» (выйшла 9 нумароў), склаў зборнікі «Наша ніва» і «Памяці Івана Луцкевіча». Для зборніка «Наша Ніва» падрыхтаваў артыкул «Палітычныя лозунгі беларускага руху», дзе пазнаёміў чытачоў з гісторыяй барацьбы за незалежнасць Беларусі, а таксама некалькі рэцэнзій. У зборніку «Памяці Івана Луцкевіча» яму належаць прадмова і нарыс пра жыццё і працу І. Луцкевіча. У 1921 А. Луцкевіч апублікаваў свае працы «Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры» і «Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры». Прывёўшы ў парадак калекцыі свайго брата, у 1921 адчыніў і стаў дырэктарам Беларускага музея імя І. Луцкевіча. У тым жа годзе заснаваў у Вільні Беларускую школьную раду, якая пазней злілася з Таварыствам беларускай школы. А. Луцкевіч адмоўна ставіўся да мірнага дагавору паміж РСФСР і Літвой (12.7.1920), паводле якога частка беларускіх зямель перадавалася Літве. Негатыўна ацаніў ён і Рыжскі трактат, паводле якога заходняя частка Беларусі пераходзіла пад уладу Польшчы. Калі ў кастрычніку 1920 Віленскі край захапілі войскі польскага генерала Л. Жалігоўскага, А. Луцкевіч назваў гэта новай акупацыяй. Беларускі нацыянальны камітэт пад кіраўніцтвам А. Луцкевіча байкатаваў прызначаныя Л. Жалігоўскім выбары ў Віленскі сойм. Сойм прагаласаваў за ўключэнне т. зв. Сярэдняй Літвы ў склад Польшчы. Супраць акупацыйнай улады А. Луцкевіч змагаўся легальнымі сродкамі. Пасля таго, як на лістапад 1922 былі прызначаны выбары ў сойм Польскай Рэспублікі, ён узначаліў Беларускі выбарчы камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі амаль усіх беларускіх партый. Дзейнасць камітэта дала плён: пасламі на сойм былі абраны 10 беларусаў, сенатарамі — 3. Быў створаны Беларускі пасольскі клуб. У 1923 польская разведка перахапіла ліст старшыні ЦВК і СНК БССР А. Чарвякова да А. Луцкевіча, які сведчыў аб выкананні апошнім заданняў Масквы, атрыманні грошай з Беларускай ССР.

Наступленне польскіх улад на беларускую школу, на правы нацыянальных меншасцяў, з аднаго боку, палітыка беларусізацыі ў БССР, вяртанне ёй зямель Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў, нэп, агульны гаспадарчы і культурны ўздым на ўсходзе Беларусі — усё гэта спрыяла радыкалізацыі нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. У чэрвені 1925 левыя паслы ўтварылі ў сойме фракцыю Беларускай работніцка-сялянскай грамады (БСРГ). Пачалося стварэнне масавай палітычнай арганізацыі. Да канца 1926 БСРГ налічвала 100 тысяч чалавек. А. Луцкевіч у яе не ўступіў, хоць і супрацоўнічаў у цэнтральнай рэдакцыі грамадаўскіх газет. Яго насцярожваў нерэалістычны пункт праекта праграмы пра тое, што ўсе беларускія землі павінны аб'яднацца ў адзіную незалежную рэспубліку сялян і рабочых. Такой мэты, на яго думку, нельга было дасягнуць ані шляхам плебісцыту, ні шляхам паўстання. Ва ўмовах санацыйнага рэжыму Ю. Пілсудскага не стаяла пытанне «сацыялізм ці капіталізм?», а пытанне «дэмакратыя ці дыктатура?». Насцярожвалі А. Луцкевіча і падзеі ў СССР і БССР: прапановы «левых» весці індустрыялізацыю за кошт сялян, курс на фарсіраваную калектывізацыю, згортванне нэпа, выступленні супраць дзеячаў беларускай культуры, у якіх выявіліся першыя адхіленні ад нацыянальнай палітыкі. У пачатку 1927 былі арыштаваны кіраўнікі БСРГ, а потым і А. Луцкевіч, які ўзначальваў прэсу гэтай арганізацыі. Пры допыце называў сябе няверуючым, «па перакананню марксістам». Улады абвінавацілі яго ў макіявелізме, у тым, што ён быў кайзераўскім, а потым і бальшавіцкім агентам, атрымліваў грошы ад Камінтэрна, супрацоўнічаў з КПЗБ. Такім чынам яны хацелі скампраметаваць беларускія культурна-асветныя арганізацыі і ўстановы, у якіх працаваў Луцкевіч. Суд, аднак, прызнаў яго невінаватым. У канцы мая 1928, прабыўшы ў турме 8 месяцаў, ён выйшаў на волю. У тым жа годзе пачаўся самы драматычны перыяд у яго жыцці. Паколькі рашэннем VI кангрэсу Камінтэрна сацыял-дэмакраты былі абвешчаны сацыял-фашыстамі, да іх быў аднесены і А. Луцкевіч, які заставаўся верны сацыял-дэмакратычным прынцыпам. Яго нежаданне салідарызавацца з лявацкімі сіламі разглядалася як здрада. На А. Луцкевіча, чый партрэт

і становучую характарыстыку раней змясціла «Праўда» (1928. № 51, 53), пра каго з сімпатыяй і спачуваннем пісалі ў СССР і БССР, пасыпаліся абвінавачанні ў супрацоўніцтве з пілсудчыкамі. Асаблівую раздражнёнасць выклікала ягоная публіцыстыка. У газетах «Наперад», «Беларускі звон», «Родны край» А. Луцкевіч крытыкаваў І. Сталіна і яго акружэнне за парушэнне ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай і аграрнай палітыкі («Цень Азефа» і інш.), што ацэньвалася як антыкамуністычная і антысавецкая прапаганда. Пазней А. Луцкевіча вінавацілі ў тым, што ён супрацоўнічаў з будучымі фашыстамі Р. Астроўскім і Ф. Акінчыцам. Але на самай справе ён парваў адносіны з гэтымі дзеячамі яшчэ да таго, як яны сталі нацыянал-сацыялістамі. Больш таго, у 1932 разам з У. Самойлам і А. Трэпкам выклікаў Астроўскага на грамадскі суд чэсці. Атрымалася так, што А. Луцкевіча адначасова крытыкавалі і камуністы, і фашысты. Таварыства беларускай школы выключыла яго са сваіх радоў, а польскія ўлады звольнілі яго з працы ў Віленскай беларускай гімназіі. Адышоўшы ад актыўнай палітычнай дзейнасці, ён заставаўся дырэктарам Беларускага музея імя І. Луцкевіча і, нягледзячы на тое, што польскія ўлады пазбавілі тую ўстанову датацый, не дапусціў яе закрыцця. У 20—30-я гады А. Луцкевіч актыўна працаваў у Беларускім навуковым таварыстве, быў яго старшынёй, супрацоўнічаў з часопісамі «Родны гоні», «Студэнцкая думка», «Калоссе», друкаваўся ў «Беларускім календары», «Гадавіку (Запісах) Беларускага навуковага таварыства», газетах «Беларуская думка», «Наперад», «Беларускі звон», «Родны край», «Пшэглёнд Віленьскі», двухтыднёвіку «Сыгналы» (Львоў і інш.). Яго артыкул «Дваццатыя ўгодкі ў газеце «Змаганне», кніга «За дваццаць пяць гадоў» — крыніцы па гісторыі беларускага вызваленчага руху ў пачатку 20 ст. У 1934 А. Луцкевіч вітаў у Вільні дэлегатаў 10 з'езда Саюза музеяў, у 1935 выступіў на VI Усеагульным з'ездзе польскіх гісторыкаў з дакладам «Беларусынарадавольцы і іх орган «Гоман». Ён даследаваў таксама мову скарынаўскіх выданняў, пісаў пра першы Статут Вялікага княства Літоўскага, жыццё і творчасць У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, іншых беларускіх пісьменнікаў. Яму належаць артыкулы «Вільня ў беларускай літаратуры», «Эвалюцыя беларускай адраджэнчай ідэалогіі і яе адлюстраванне ў літаратуры», рэферат «Аб беларускай літаратуры «нашаніўскай пары» і інш. Найбольш поўны зборнік літаратурна-крытычных прац А. Луцкевіча — «Адбітае жыццё» (1929). Ён займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю. Пераклаў падручнік па алгебры, працу М. Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», Новы Запавет і Псалтыр (Хельсінкі, 1931; 2 выд. ў 1948).

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Вільню А. Навіна выступіў на сходзе культурна-асветных работнікаў-беларусаў з заклікам да адраджэння беларускай школы, культуры, мастацтва. 30.9.1939 быў арыштаваны па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Рашэннем Асобай нарады пры НКУС СССР асуджаны на 6 гадоў зняволення, у час якога і памёр. Згодна адной версіі, гэта здарылася ў чэрвені 1941, калі эвакуіравалася на ўсход Вілейская турма, дзе яго трымалі, па другой — больш верагоднай — у 1946 у Казахстане. Рэабілітаваны ў 1989. *А. М. Сідарэвіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Белорусы. Пб., 1909 (Адб. з кн. Формы национального движения в современных государствах. Пб., 1909). Рэц.: Шаповал М. // Українська хата. 1909. № 10.

На дарозе да новага жыцця. Пб., 1912. Рэц.: Czeczott W. Około kwestji białoruskiej // Litwa i Ruś. 1913. Z. 6.

Ekonomičnaja ewolucja i biełaruski ruch. Wilnia, 1917.

Jak prawilna pisać pa-biełarusku. Wilnia, 1917.

Biełaruski prawapis. Wilnia, 1918 / Сааўт. Я. Станкевіч. Рэц.: В. // Бел. шлях. 1918. 6 ліп.; Я. Л. [Лёсік Я.] // Вольная Бел. 1918. № 26.

Нашы песняры: (Літ.-сацыяльныя нарысы). Вільня, 1918. Рэц.: т р. // Гоман. 1918. 15 лют.

Польская акупацыя на Беларусі. Вільня, 1920.

Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры. Вільня, 1921.

Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня, 1921.

Вязніца Адама Міцкевіча. Вільня, 1923.

Як вучыць у новай школе: Увагі для вучыцялёў бел. сярэдніх школ. Вільня, 1923.

Prawda o celi Konrada: W setną rocznicę procesu filomatów. Wilno, 1923. Рэц.: Erka // Prz. Wileński. 1924. Nr 2.

Вільня ў беларускай літаратуры. Вільня, 1925. (Адб. з час. «Студэнцкая думка». 1925. № 5).

За дваццаць пяць гадоў (1903—1928): Успаміны аб працы першых бел. палітычных арганізацый: Бел. рэв. грамада, Бел. сац. грамада. Вільня, 1928. Рэц.: Č. A. [Černy A.] // Slovansky přehled. 1929. R. 21.

Адбітае жыццё: Лекцыі і стацці з беларускае адраджэнскае літаратуры. Вільня, 1929. Кн. 1. Рэц.: Каспяровіч М. // Полымя. 1929. № 6; Hr. F. [Hryškewič F.] // Slovanský přehled. 1930. R. 22.

Янка Купала як прарок адраджэння: Публічная лекцыя, чытаная ў Вільні, Рызе і Дзвінску. Вільня, 1932.

Беларускі музей імені Івана Луцкевіча. Вільня, 1933. (Адб. з «Гадавіка БНТ». Кн. 1).

Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі. Вільня, 1933. (Адб. з «Гадавіка БНТ». Кн. 1).

Narodowolcy Białorusini i ich organ «Homan». Lwów, 1935.

За дваццаць пяць гадоў (1903—1928): Успаміны аб працы першых бел. палітычных арганізацый: Бел. рэв. грамада, Бел. сац. грамада. Мн., 1991.

**1.3.**

**1906.** Што будзе? // Наша доля. № 1 / Без указ. аўт.

**1909.** Белорусы // Формы национального движения в современных государствах. Пб.; Национальное возрождение белорусов // Моск. еженедельник. № 9; Odrodzenie narodowe Białorusinów. Litwa. Nr 4.

**1910.** Аб эміграцыі // Н. н. 14 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; «Кароткая гісторыя Беларусі» // Там жа. 23 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Родная мова і яе культурнае значэнне // Там жа. 14 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 21 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Справа аб беларускай школе ў Думе // Там жа. 18 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; Наш шлях // Там жа. 9 снеж. / Пад крып. Г. Б.

**1911.** Родная мова і яе культурнае значэнне // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 год. Вільня / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Н. н. 6 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 13 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; Pro domo sua // Там жа. 27 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; Расія і Кітай // Там жа. 10 лют. / Пад крыпт. Г. Б.; У вялікую гадаўшчыну // Там жа. 17 лют. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 21 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; Страшная байка // Там жа. 28 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; З нашага жыцця: Вёска і горад // Там жа.

12 мая / Пад крыпт. Г. Б.; Государственные доходы Расеі // Там жа. 2 чэрв. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 16 чэрв. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 11 жн. / Пад крыпт. Г. Б.; Што чуваць за граніцай? // Там жа. 1 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Школы і граматнасць у Беларусі // Там жа. 1 вер. / Пад крыпт. А. Н-а; Нашы перасяленцы ў Сібіры // Там жа. 8 вер. / Пад крыпт. А. Н-а; Гдзе прычына // Там жа. 22 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Даўгі двароў // Там жа. 29 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Рэвалюцыя ў Кітаі / Пад крыпт. Г. Б.; З газет / Пад крыпт. А-н-а // Там жа. 6 кастр.; Што чуваць за граніцай // Там жа. 13, 20, 27 кастр.; 3, 10 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; З нашага жыцця; Маладая Беларусь // Там жа. 3 ліст. / Пад крыпт. а-н-а; Бел. мова ў апошнім пяцілецці // Там жа. 10 ліст. / Пад крыпт. а-н-а; Памяці Вінцука Тубіса // Там жа. 15 снеж.; Наш доўг // Там жа. 22 снеж. / Пад крыпт. Г. Б.

**1912.** Навагоднія думкі; Вёска і горад // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год. Вільня / Пад крыпт. В. Г. Аўт. спрэчн.; На дарозе да новага жыцця // Маладая Бел. Сер. 1. Сш. 1; К пытанню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве // Там жа. Сер. 1. Сш. 2; Развитие взаимного кредита // Веч. газ. (Вильно). 16 нояб. / Пад крыпт. Г. Б.; Евреи в Польше // Там жа. 17 нояб. / Пад крыпт. Г. Б.; Национальное воспитание // Там жа. 18 нояб. / Пад крыпт. Г. Б.; Хулиганство // Там жа. 19 нояб. / Пад крыпт. Г. Б.; Поучительный пример // Там жа. 23 нояб. / Пад ккрыпт. Г. Б.; Против нравственного разложения // Там жа. 24 нояб. / Пад крыпт. Г. Б.; Почему? // Там жа. 7 дек. / Пад крыпт. А. Н.; 27 самоубийств в один день // Там жа. 10 дек. / Пад крыпт. А. Н.; Театр и музыка: «Отец» Стринберга в польском театре // Там жа. 12 дек. / Пад крыпт. А. Н.; Новый устав // Там жа. 13 дек. / Пад псеўд. А. Иванов. Аўт. спрэчн.; Кровавый предрассудок // Там жа. 18 дек. / Пад псеўд. А. Иванов. Аўт. спрэчн.; Что ж будет дальше / Пад крыпт. Г. Б.; Маленькая статья / Пад псеўд. А. Иванов. Аўт. спрэчн.; Театр и музыка: «Седьмая заповедь» Гейерманса — в польском театре / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 24 дек.; За образование женщин // Там жа. 30 дек. / Пад крыпт. Г. Б.; З заграніцы // Там жа. 5 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; З заграніцы // Там жа. 9 лют. / Пад крыпт. Г. Б.; Правінцыя будзіцца / Пад крыпт. Г. Б.; Думкі аб школьнай справе / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 15 сак.; Новы хаўрус нацыяналістаў // Там жа. 22 сак. / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 5 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; Янішская справа / Пад крыпт. Г. Б.; Нячыстая палітыка / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 19 крас.; З газет // Там жа. 26 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; Наш адказ газеце «Kur. Lit.» // Там жа. 3 мая / Пад крыпт. Г. Б.; З газет // Там жа. 10 мая / Пад крыпт. Г. Б.; Першы крок // Там жа. 24 мая / Пад крыпт. а-н-а; З жыцця нямецкіх вучыцялёў // Там жа. 14 чэрв. / Пад крыпт. Н. Аўт. спрэчнае; Работы Трэцяй Думы // Там жа. 21 чэрв. / Пад крыпт. Г. Б.; За апошні тыдзень з Расеі // Там жа. 28 чэрв. / Пад крыпт. Г. Б.; Чаму ў нас цукер дорага / Пад крыпт. Г. Б.; З жыцця Англіі / Пад крыпт. Н. Аўт. спрэчнае // Там жа. 5 ліп.; Край і народ / Пад крыпт. а-н-а; Новы закон аб арэндзе зямлі пад будоўлі / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 19 ліп.; Цікавы цыркуляр / Пад крыпт. Г. Б.; За межамі школы / Пад крыпт. Н. Аўт. спрэчн.; Аб грамадскай працы // Там жа. 9 жн. / Пад крыпт. Н. Аўт. спрэчн.; Фальшывая дарога // Там жа. 16 жн. / Пад крыпт. Н. Аўт. спрэчн.;... (Да выбараў) // Там жа. 23 жн. / Пад крыпт. Г. Б.; Граматнасць і заработкі // Там жа. 30 жн. / Пад крыпт. А. Н.; Фальшывы страх // Там жа. 6 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; З павета — у губерню // Там жа. 13 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Пашкадуйце дзяцей / Пад крыпт. Г. Б.; Пустыя словы / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 20 вер.; Серба-харваты / Пад крыпт. А.; Аб прадажы сялянскай зямлі за даўгі / Пад крыпт. Г. Б.; «Тоже белорусы» / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 29 ліст.; За родную мову // Там жа. 14 снеж. / Пад крыпт. А.; U Źródeł odrodzenia Białorusinów // Świat Słow. T. 11.

**1913.** Наш доўг; Родная мова і яе культурнае значэнне / Пад крыпт. Г. Б.; За межамі школы / Пад крыпт. Н. // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 г. Вільня; Наш шлях // Маладая Бел. Сш. 3; Переселенческая волна // Веч. газ. 21 янв. / Пад псеўд. А. Иванов. Аўт. спрэчн.; Театр и музыка: «Хромая Гульда» Бьернстьерн — Бернсона у «Передвижников» // Там жа. 10 марта / Пад крыпт. А. Аўт. спрэчн.; Совещание польских реалистов // Там жа. 13 марта / Пад псеўд. А. Иванов. Аўт. спрэчн.; На новы год // Н. н. 4 студз. / Пад крыпт. А.-н-а; Што трэба рабіць? // Там жа. 10 студз. / Пад крыпт. а-н-а; Змаганне з чужаземнымі эмігрантамі // Там жа. 18 студз. / Пад крыпт. Г. Б.; Скінулі скуру! // Там жа. 25 студз. / Пад крыпт. А-н-а; Змаганне з хваробай // Там жа. 1 сак. / Пад крыпт. а-н-а; Старая работа // Там жа. 8 сак. / Пад крыпт. а-н-а; Шляхам жыцця: [Рэц. на кн.: Купала Я. Шляхам жыцця. Пб., 1913] // Там жа. 26 крас. / Пад крыпт. а-н-а; Новы закон аб школах // Там жа. 31 мая / Пад крыпт. А-н-А; Дарэмныя страхі // Там жа, 20 чэрв. / Пад крыпт. А-н-а; Данос // Там жа. 16 жн. / Пад крыпт. А-н-А; Справа Бейліса // Там жа. 17 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Канец справы Бейліса // Там жа. 31 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Да супольнай працы! // Там жа. 5 снеж. / Пад крыпт. А-Н-А; На адпачынак // Там жа. 12 снеж. / Пад крыпт. а-н-а; Сяўцы асветы / Пад крыпт. а-н-а; Для роднага краю / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 21 снеж.

**1914.** Яшчэ год... / Пад крыпт. А.; Што трэба рабіць? / Пад крыпт. Н-а-А // Беларускі каляндар на 1914 год. Вільня; Аграрная реформа в Белоруссии // Веч. газ. 15 янв. / Пад крыпт. А. Н.; Голас праўды // Н. н. 4 студз. / Пад крыпт. а-н-а; Новая напасць // Там жа. 17 студз. / Пад крыпт. а-н-а.; Да сумленных вучыцялёў // Там жа. 24 студз. / Пад крыпт. а-н-а; Пясняр чыстай красы // Там жа. 21 лют. / Пад крыпт. Г. Б.; Пуцяводная ідэя // Там жа. 20 сак. / Пад крыпт. а-н-а.; Важная справа // Там жа. 27 сак. / Пад крыпт. Г. Б.; Слова і дзела / Пад крыпт. а-н-а; У зашчыту прэсы «недзяржаўных нацый» / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 25 крас.; Дарэмная праца // Там жа. 1 мая / Пад крыпт. а-н-а.; На добрай дарозе / Пад крыпт. Г. Б.; Кудой ісці / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 26 чэрв.; Адвечная пропасць / Пад крыпт. а-н-а.; Рабочы рух / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 17 ліп.; Вайна пачалася // Там жа. 25 ліп. / Пад крыпт. а-н-а; У добры час // Там жа. 21 жн. / Пад крыпт. а-н-а.; Наша павіннасць // Там жа. 2 кастр. / Пад крыпт. а-н-а; Пажажыцця! // Там жа. 16 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Не дамося // Там жа. 16 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; Сіла еднасці // Там жа. 18 снеж. / Пад крыпт. а-н-а; На мяжы двух гадоў // Там жа. 25 снеж. / Пад крыпт. а-н-а.

**1915.** Польские настроения // Веч. газ. 2 янв. / Пад крыпт. Г. В.; Театр и музыка: Концерт Смирнова // Там жа. 27 апр. / Пад крыпт. А. Аўт. спрэчн.; Памяці Юзюка Пашкевіча // Н. н. 21 лют. / Пад крыпт. а-н-а; Новыя напасці // Там жа. 27 лют. / Пад крыпт. а-н-а; Вайна і дэпутаты / Пад крыпт. Г. Б.; Дзякуй за шчырасць / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 7 сак.; Кліч да згоды // Там жа. 14 сак. / Пад крыпт. а-н-а; Першы крок // Там жа. 19 сак. / Пад крыпт. а-н-а; Іх адказ // Там жа. 2 крас. / Пад крыпт. а-н-а; Зблізку і здалёку // Там жа. 9 крас. / Пад крыпт. а-н-а.; Наша павіннасць // Там жа. 16 крас. / Пад крыпт. а-н-а.; Ваўкі ў авечай скуры // Там жа. 24 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; Рэдкае здарэнне // Там жа. 1 мая / Пад крыпт. а-н-а; Напамінанне // Там жа. 29 мая / Пад крыпт. Г. Б.; Да працы! // Там жа. 5 чэрв. / Пад крыпт. а-н-а; Чаго вучыць вайна? // Там жа. 19 чэрв. / Пад крыпт. а-н-а; Перад адкрыццём Гас. думы / Пад крыпт. Г. Б.; Жыццё дужэй за смерць / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 25 чэрв.; На новай дарозе / Пад крыпт. Г. Б.; Пісьмо філосафа / Пад крыпт. а-н-а // Там жа. 2 ліп.; Год вайны / Пад крыпт. а-н-а; Падмога працай / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 17 ліп.; Найвялікшая ахвяра // Там жа. 31 ліп. // Пад крыпт. а-н-а.; Чародная справа // Там жа. 7 жн. / Пад крыпт. а-н-а.

**1916.** 400-лецце Беларускай літаратуры 1517—1917;

Сіла наша — у нас саміх; Вызваленне школы; Народ і рэлігія; 10-летні юбілей беларускай прэсы / Пад псеўд. І. Мялешка; Да аднэй мэты; Унутраная работа; Эканамічны стан Беларусі; Аснова еднасці; Беларускі тэатр / Пад крыпт. А. Н. // Беларускі каляндар на 1917 год. Вільня; Уздоўж крывавай мяжы / Пад крыпт. Г.; Для роднага краю / Пад псеўд. І. Мялешка // Гоман. 15 лют.; Перамены; Алаіза Пашкевіч-Кейрысова / Там жа. 18 лют. / Пад псеўд. І. Мялешка; «Старая песня» / Пад псеўд. І. Мялешка; Эканамічны стан Беларусі / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 22 лют.; Без ніякіх перамен // Там жа. 29 лют. / Пад псеўд. І. Мялешка; Места і вёска / Пад крыпт. А. Н.; Ліхая спадчына / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 3 сак.; «Тутэйшыя» / Пад псеўд. І. Мялешка; Эканамічная праца (І) / Пад крыпт. А. Н.; Народ і рэлігія / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 7 сак.; Запаведзь буры / Пад псеўд. І. Мялешка; Эканамічная праца (II) / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 10 сак.; Самі сабе // Там жа. 14 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; Народ і рэлігія // Там жа. 17 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; Святая павіннасць / Пад псеўд. І. Мялешка; Расійская палітыка ў Беларусі / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 21 сак.; З-за мяжы // Там жа. 28 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; Дзеля хлеба для ўсіх // Там жа. 31 сак.; Да адной мэты // Там жа. 7 крас. / Пад крыпт. А. Н.; На зваротным пункце // Там жа. 11 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; Гістарычныя словы // Там жа. 14 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; Змаганне за школу // Там жа. 18 крас. / Пад крыпт. А.; Максім Кавалеўскі: Пасмертны ўспамін // Там жа. 26 крас. / Пад крыпт. А. Л.; Да новай будучыні // Там жа. 28 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; За волю Украіны / Пад крыпт. А. Н.; Пазнаймо сваё імя! / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 2 мая; Прылучэнне Сувальшчыны да Вільні // Там жа. 5 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Пералом // Там жа. 9 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Грахі мінуўшчыны // Там жа. 16 мая / Пад крыпт. А. Н.; «Трайны саюз» // Там жа. 19 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Мудрая рада // Там жа. 26 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Народнае свята; Нашы суседзі // Там жа. 2 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; З чужыны — дамоў / Пад крыпт. А. Н.; Народнае свята / Пад крыпт. І. Мялешка // Там жа. 6 чэрв.; Вайна і мір / Пад крыпт. А. Н.; «Унутраная» справа / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 13 чэрв.; На з'езд у Лазанне // Там жа. 16 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; Вялікая задача // Там жа. 20 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; Тарговыя дарогі // Там жа. 27 чэрв. / Пад крыпт. А. Н.; Новае праступленне / Пад псеўд. І. Мялешка; Гутарка і шрыфт / Пад крыпт. А. Н.; На выстаўку / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 30 чэрв.; Погляд у будучыню // Там жа. 4 ліп. / Пад крыпт. А. Н.; Кліч да згоды // Там жа. 7 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Вызваленне школы // Там жа. 11 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Скарбы характва / Пад крыпт. А. Н.; Нашы дэпутаты / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 14 ліп.; Непапраўная крыўда / Пад псеўд. І. Мялешка; З-прад двух гадоў / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 18 ліп.; Першыя выступленні // Там жа. 21 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Да працы / Пад псеўд. І. Мялешка; Перад сумнай гадаўшчынай / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 25 ліп.; З-прад двух гадоў // Там жа. 28 ліп. / Пад крыпт. А. Н.; Грамадскія арганізацыі // Там жа. 1 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Кс. Ян Курчэўскі: [Некралог] // Там жа. 4 жн. / Пад крыпт. А.; Павіннасць грамадзянства / Пад псеўд. І. Мялешка; Цёмная пляма / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 8 жн.; Аснова еднасці / Пад крыпт. А. Н.; Мучанікі за мову / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 11 жн.; Патрэба школ / Пад крыпт. А. Н.; На сучасныя тэмы / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 15 жн.; Самачыннасць вёскі // Там жа. 18 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Структура краю // Там жа. 22 жн. / Пад крыпт. А. Н.; З літоўскага жыцця / Пад крыпт. Г. Б.; Адгалоскі жыцця / Пад псеўд. І. Мялешка; Аб кніжках для школы / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 25 жн.; Да еднасці / Пад псеўд. І. Мялешка; З маставага жыцця: Кватэрнікае пытанне / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 1 вер.; Г. Ландсберг-Жэмкальніс // Там жа. 8 вер. / Пад крыпт. А. Н.; З апошніх дзён расійскага панавання: (Успамін) // Там жа. 8, 11, 15 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; Сіла наша — у нас саміх // Там жа. 15 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Падумайце аб дзецях // Там жа. 22 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Да родных ніў... // Там жа. 26 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Аляксандр Ельскі: [Некралог] / Пад крыпт. А. Н.; «Аружны народ» / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 29 вер.; Людзі без веры // Там жа. 3 кастр. / Пад псеўд. І. Мялешка; Заплата работнікам / Пад крыпт. Г. Б.; Фальшывыя «прыяцелі» / Пад псеўд. І. Мялешка; Лекарская помач / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 6 кастр.; Беларускі тэатр // Там жа. 10 кастр. / Пад крыпт. А. Н.; За акіянам // Там жа. 17 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Наша задача // Там жа. 20 кастр. / Пад псеўд. І. Мялешка; 10-летні юбілей беларускай прэсы // Там жа. 24 кастр. / Пад псеўд. І. Мялешка; На правільнай дарозе // Там жа. 31 кастр. / Пад псеўд. І. Мялешка; Шануйце роднае слова // Там жа. 3 ліст. / Пад крыпт. А. Н.; Становішча работнікаў // Там жа. 7 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; Проці бясчыннасці / Пад псеўд. І. Мялешка; «У зімовы вечар» / Пад крыпт. А. // Там жа. 10 ліст.; Аб нашых мястэчках / Пад крыпт. Г. Б.; Аснова быту / Пад псеўд. Я. Мялешка // Там жа. 14 ліст.; Без пасрэднікаў // Там жа. 17 ліст. / Пад псеўд. Я. Мялешка; Генрык Сянкевіч: [Некралог] // Там жа. 21 ліст. / Пад крыпт. А. Н.; Воля — няволя // Там жа. 24 ліст. / Пад псеўд. І. Мялешка; Прычыны неспакойства // Там жа. 28 ліст. / Пад псеўд. І. Мялешка; Праз 77 гадоў / Пад крыпт. Г. Б.; Літоўская прэса / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 1 снеж.; Туман развяваецца / Пад псеўд. І. Мялешка; Прызыў знізу / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 12 снеж.; Напамінанне // Там жа. 19 снеж. / Пад псеўд. І. Мялешка; Змаганне за ўласць / Пад крыпт. Г. Б.; Наша інтэлігенцыя / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 22 снеж.; Дзеля патрэб Краю // Там жа. 29 снеж. / Пад псеўд. І. Мялешка.

**1917.** Міхайла Грушэўскі // Гоман. 1 студз. / Пад крыпт. А. Н.; Чародная задача / Пад крыпт. А. Н.; Голас суседзяў / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 9 студз.; Перамена фронту / Пад псеўд. І. Мялешка; Дзеля бурнай работы / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 12 студз.; Не запужаюць! / Пад псеўд. І. Мялешка; Без веры / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 16 студз.; Патрэба выбару // Там жа. 19 студз. / Пад псеўд. І. Мялешка; «Аддзяка» // Там жа. 23 студз. / Пад псеўд. І. Мялешка; У чым наша сіла? // Там жа. 30 студз. / Пад псеўд. І. Мялешка; Да мора // Там жа. 2 лют. / Пад крыпт. А. Н.; Памяці «Цёткі»: (У гадаўшчыну смерці) // Там жа. 6 лют. / Пад крыпт. А. Н.; Літоўская газета / Пад крыпт. Г. Б.; Разбітая традыцыя / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 9 лют.; У адкрытыя карты / Пад крыпт. А. Н.; Двайная задача / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 13 лют.; Добрыя весці // Там жа. 16 лют. / Пад псеўд. І. Мялешка; «Добрыя весці»; Трайны пратэст / Пад псеўд. І. Мялешка; «У іх нічога німа!» / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 20 лют.; Цікавае выступленне // Там жа. 23 лют. / Пад крыпт. А. Н.; «Гістарычная місія» // Там жа. 27 лют. / Пад псеўд. І. Мялешка; Добрая навука // Там жа. 2 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; На фальшывай дарозе // Там жа. 6 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; Разбітае недаразуменне // Там жа. 27 сак. / Пад псеўд. І. Мялешка; З агня ды ў полымя // Там жа. 3 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; «Вясна народаў» // Там жа. 10 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; Недальнавідныя; Супольная дарога // Там жа. 13 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; «У Купальскую ноч» / Пад крыпт. А. Аўт. спрэчн. // Там жа. 24 крас.; Нашы песняры: 1. Якуб Колас // Там жа. 1 мая; Воля Краю // Там жа. 4 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; На розных дарогах // Там жа. 11 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Да нашых палонных / Пад псеўд. І. Мялешка; Нашы песняры: 2. Янка Купала // Там жа. 16 мая; Мэты вайны // Там жа. 18 мая / Пад крыпт. Г. Б.; Новая трыбуна // Там жа. 29 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Нашы песняры: 3. Цішка Гартны // Там жа. 1 чэрв.; Стары план // Там жа. 5 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; Палітыка «вольнай рукі» / Пад псеўд. І. Мялешка; Нашы песняры: 4. Максім Багдановіч // Там жа. 12 чэрв.; Каля зямельнай справы // Там жа. 15 чэрв. / Пад крыпт. Г. Б.; Pro memoria // Там жа. 19 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; Новы цэнтр // Там жа. 29 чэрв.

/ Пад псеўд. І. Мялешка; Натуральныя саюзнікі // Там жа. 6 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Ад слоў — да дзела // Там жа. 10 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Польшча і Украіна // Там жа. 17 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Suum cuique (Кожнаму сваё) // Там жа. 20 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Расейская праблема // Там жа. 27 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Дарэмныя жальбы // Там жа. 7 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Беларуская справа і студэнцкі рух // Там жа. 28 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; На два фронты // Там жа. 11 вер. / Пад крыпт. І. М.; Крызіс рэвалюцыі / Пад крыпт. І. М.; Хто вінават? / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 14 вер.; Цэннае адкрыццё // Там жа. 18 вер. / Пад крыпт. А. Н.; «Краёвая Рада Літвы» // Там жа. 28 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Бела-ляхі // Там жа. 2 кастр. / Пад псеўд. І. Мялешка; Памяці Максіма Багдановіча: [Некралог] / Пад крыпт. А. Н.; Край будзіцца / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 9 кастр.; Урадавая мова ў Літве // Там жа. 19 кастр. / Пад крыпт. Г. Б.; Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух // Там жа. 6, 9 ліст.; Рэвалюцыя ідзе далей // Там жа. 13 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; Настаў час // Там жа. 16 ліст. / Пад крыпт. Г. Б.; Важны крок // Там жа. 28 снеж. / Пад крыпт. А. Н.

**1918.** Беларуская работа ў 1917 гаду ў межах акупацыі / Пад псеўд. І. Мялешка; Цэннае адкрыццё / Пад крыпт. А. Н. // Беларускі каляндар. Вільня; Аб дзяржаўным будаўніцтве // Варта. № 1; Литва, Белоруссия и поляки в районе старой оккупации: (Беседа с председателем Виленской Белорусской Рады А. И. Луцкевичем) // Чырв. шлях. № 7—8; З цяжкім возам на гнілой грэблі // Бел. шлях. 13, 15, 16 крас. / Пад крыпт. А. Н.; Аб нас: З прэсы // Там жа. 25 крас. / Пад крыпт. А. Н.; Расцярушанае багацце // Там жа. 16 чэрв. / Пад крыпт. А. Н.; Асновы еднасці // Бел. эхо. 30 сент.; «Беларусь за Познаншчыну» // Гоман. 1 лют. / Пад псеўд. І. Мялешка; Марнаванне сіл / Пад крыпт. Г. Б.; На беларускую гімназію / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 15 лют.; Ігнат Буйніцкі: (Пасмяротны ўспамін) // Там жа. 22 сак. / Пад крыпт. А. Л.; Будаванне дзяржаўнага жыцця / Пад псеўд. І. Мялешка; Справа шрыфту / Пад крыпт. А. Л.; Два цэнтры / Пад крыпт. А. Н. // Там жа. 3 крас.; Аб даўняй Расіі / Пад крыпт. Г. Б.; Аб наш правапіс // Там жа. 9 крас.; На тэмы дня // Там жа. 16 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; Пасівізм ці акцівізм / Пад крыпт. Б. Г.; Яшчэ аб тым жа / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 19 крас.; Важная справа // Там жа. 23 крас. / Пад крыпт. Г. Б.; Будаванне Бацькаўшчыны // Там жа. 26 крас. / Пад псеўд. І. Мялешка; Беларуская тэрміналогія // Там жа. 3 мая / Пад крыпт. А. Л.; На новыя павевы // Там жа. 7 мая; Барацьба не спыняецца // Там жа. 17 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Польская сіла на Украіне // Там жа. 29 мая / Пад псеўд. І. Мялешка; Перад развязкай польскае справы // Там жа. 4 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; Каганец: (Пасмертны ўспамін) // Там жа. 7 чэрв. / Пад крыпт. А. Л.; Да родных ніў // Там жа. 11 чэрв. / Пад псеўд. І. Мялешка; [Рэц. на кн.: П р о с т ы спосаб стацца ў кароткім часе граматным. Брэслаў, 1918] / Пад крыпт. А. Л.; Напярэдадні развязкі / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 14 чэрв.; [Рэц. на кн.: А л я х н о в і ч Ф. Базылішк. Вільня, 1918] // Там жа. 21 чэрв. / Пад крыпт. А. Н.; Новы фронт // Там жа. 3 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Усход ці Захад? // Там жа. 5 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Новая Беларусь // Там жа. 19 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; [Рэц. на кн.: Г а р у н А. Матчын дар. Мн., 1918] // Там жа. 23 ліп. / Пад крыпт. А. Н.; Беларускае музыкальнае таварыства // Там жа. 26 ліп. / Пад крыпт. А. Н.; Адбудова Расіі // Там жа. 26 ліп., 2 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; [Рэц. на кн.: К а р с к и й Е. Белорусская речь: Очерк народного языка с историческим освещением. Пг., 1918] / Пад крыпт. А. Н.; Да працы! / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 30 ліп.; Беларусь і Расея / Пад псеўд. І. Мялешка; Беларускі універсітэт / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 6 жн.; Унутраны фронт / Пад псеўд. І. Мялешка; Расійскія справы / Пад крыпт. Г. Б. // Там жа. 13 жн.; З усходняй Беларусі // Там жа. 17 жн. / Пад крыпт. Г. Б.; Палякі і жыды // Там жа. 20 жн. / Пад крыпт. Г. Б.; Ратуйце дзяцей! // Там жа. 23 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Аб супольную платформу // Там жа. 24 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Жыды на Беларусі // Там жа. 30 жн. / Пад псеўд. І. Мялешка; Падсіленая Беларусь / Пад крыпт. Г. Б.; Беларусы — «нямецкая інтрыга» / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 3 вер.; Да дзяржаўнай еднасці // Там жа. 6 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Аб Більшчыне // Там жа. 13 вер. / Пад крыпт. Г. Б.; «Светач мінуўшчыны» // Там жа. 17 вер. / Пад псеўд. І. Мялешка; Штрэйкбрэхеры // Там жа. 20 снеж. / Пад псеўд. І. Мялешка.

**1919.** Нашы песняры: Змітрок Бядуля // Бел. жыццё. 29 вер.; Алёзья з Пашкевічаў Кейрысовая («Цётка») // Там жа. 7 ліст.; З Горадні // Грамадзянін. 28 лют. / Пад крыпт. А. Н.; У чым наша сіла? // Там жа. 18 сак. / Пад крыпт. Г-бэ; Яны наступаюць! // Там жа. 25 сак. / Пад крыпт. Г-бэ.

**1920.** Ад выдавецтва; «Дзве душы» М. Гарэцкага / Пад крыпт. А. Л.; Палітычныя лозунгі беларускага руху // Зборнік «Наша ніва». 1920. Вільня; Прадмова; Жыццё і праца Івана Луцкевіча // Памяці Івана Луцкевіча... Вільня; Правакатары / Пад псеўд. І. Мялешка; Трэці раздзел Беларусі // Н. н. 28 кастр.; На «Дзяды» // Там жа. 1 ліст.; Палітычныя разважанні // Там жа. 12 ліст. / Пад псеўд. І. Мялешка; «Гісторыя беларускае літаратуры»: [Рэц. на кн.: Г а р э ц к і М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920] // Там жа. 22 ліст.; Жыццё вучыць // Там жа. 29 ліст. / Пад псеўд. І. Мялешка; Самі сабе // Там жа. 13 снеж. / Пад псеўд. І. Мялешка; Тры заявы / Пад крыпт. Г. Б.; Кудой ісці? / Пад псеўд. І. Мялешка // Там жа. 20 снеж.; Адраджэнне нацыі // Наша думка. 31 снеж.

**1921.** Літаратурна-выдавецкая праца ў 1920 г. // Наша думка. 7 студз. / Пад крыпт. А. Л.; Наш культурны стан // Там жа. 22 студз.; Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры // Там жа. 29 студз., 4, 18, 25 лют., 4 сак.; Адраджэнне беларускага мастацтва // Там жа. 18 сак.; Эвалюцыя краёвае культуры // Там жа. 1 крас.; Максім Багдановіч: У чацвёртыя ўгодкі смерці яго / Пад крыпт. А. Л.; Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры // Там жа. 27 мая; Праф. Рудольф Абіхт: (Жалобны ўспамін) // Там жа. 1 ліп.

**1922.** Песні: (Памяці Ядвігіна Ш.): [Вершы] / Пад крыпт. Н. А.; Вялікае свята // Наш шлях. № 1; Ідэолаг народнай інтэлігенцыі (Максім Гарэцкі): Літ.-сацыяльны нарыс // Бел. звон. 24 лют., 4 сак.; Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) // Там жа. 11 сак.; Аляксандр Бурбіс // Там жа. 22 крас.; Песняру зямлі нашай // Там жа. 28 вер.; Чей путь правильней: (Из записной книжки белорусского интеллигента) // Звезда. 23 янв. / Пад псеўд. Антон Беларус. Аўт. спрэчн.

**1923.** Двaццатыя ўгодкі БРГ // Змаганне. № 21 / Пад крыпт. Г. Б.; Нязнаныя творы М. Багдановіча // Наша будучыня. 6 студз.; Бібліяграфія: [Рэц. на кн.: Д у б о ў к а У. Строма. Вільня, 1923] // Там жа. 14 лют.; Памяці Ігната Канчэўскага: [Некралог] // Новае жыццё. 27 крас. / Пад крыпт. А. Л.

**1924.** Крызіс ідэі ці крызіс грамадзянства?; Новае ў беларускай паэзіі; Вязніца Адама Міцкевіча // Заходняя Беларусь. Вільня; Кудой ісці?// Студэнцкая думка. № 1 / Пад крыпт. А. Н.; Наш культурны рост // Змаганне. 4 студз.; Не калечце мовы! // Сын беларуса. 30 чэрв.; Беларусы ў польскіх партыях // Там жа. 23 ліп. / Пад псеўд. І. Мялешка; Успамін аб Мацею Бурачку // Там жа. 27 ліп.; Эканамічнае нішчэнне краю // Там жа. 30 ліп. / Пад псеўд. Ів. Мялешка; Вялікая вайна ў беларускай літаратуры // Там жа. 1 жн.; Праз галовы нашых паслоў // Там жа. 17 жн. / Пад псеўд. Ів. Мялешка; Фантастычны данос / Пад псеўд. Ів. Мялешка; Абмылкі ў выданнях твораў Багушэвіча: Пісьмо ў рэдакцыю // Там жа. 27 жн.; Літаратурны плагіят // Там жа. 5 вер.; Ключ усходу // Там жа. 10 вер. // Пад псеўд. Ів. Мялешка; Вярніце Беларусі культурны скарб // Сялян. праўда. 26 ліст. / Пад крыпт. А. Л.; Забытая кніга // Там жа. 30 ліст.; Z powodu sporu o «Celę Konrada»: (List do Redakcji) // Prz. Wileński. Nr 6; Jeszcze jedna napaść: (List do Redakcji) // Prz. Wileński. Nr 7; Podświadome i świadome w «duszy białoruskiej» Syrokomli // Prz. Wileński. Nr 18.

**1925.** «Мы верым, што наша маладая народная інтэ-

[Верш] // Там жа. 10 ліп.; Крок небяспекі: [Верш] // Там жа. 28 ліп.; Жніво: [Верш] // Там жа. 11 жн.; Баявая — манеўраная: [Верш] // Там жа. 18 вер.; У Рагачэве: (Нататкі з манеўраў) // Там жа. 29 вер.; У громе аркестраў, у чырвані сцягоў...: (Нарыс) // Там жа. 2 кастр.; У Дзень Калектывізацыі: (З цыкла «Саха і трактар») // Там жа. 13 кастр.; Тэатральныя нататкі // Там жа. 18 кастр.; Багі ў нумарах: («гасцініца Саваофа»): (Маленькі фельетон) // Там жа. 20 кастр. / Пад крыпт. Юрка Л-ны; Рэбэ, якому шанцуе... Мракабесы ў чырвонаполлі: (Маленькі фельетон) // Там жа. 27 кастр. / Пад крыпт. Юрка Л-ны; Чахарда на заводзе: (Маленькі фельетон) // Там жа. 30 кастр. / Пад крыпт. Юрка Л-ны: Чысцільшчык — грэх: [Верш] // Сав. Бел. 3 лют.; Вакзал: [Верш] // Чырв. змена. 6 студз.

**1930.** Энтузіясткі калектыўных палетках: Нарыс // Бел. работніца і сялянка. № 29—30; Заява: [Верш] // Вясна. № 3; Над аркушамі: [Верш] // Маладняк. № 1; [Рэц. на кн.: Ж а р о в А. Великое состязание. М., 1930] // Там жа. № 6—7; Пераклічка паравозаў: [Верш] // Полымя. № 9—10; Букініст.: [Верш] // Там жа. № 11—12; «Най лэбн»: [Верш] // Чырв. Бел. № 3; Юбілейная чырвонаармейская: [Верш] // Там жа. № 4; У дзень вызвалення: [Верш] // Там жа. № 13—14; Усяго адно прайшло дзесяцігоддзе: [Верш] // Звязда. 10—11 ліп.; Друкарня: [Верш] // Там жа. 5 кастр.; Ленінскія дні: (Абразкі) // Камунар Магілёўшчыны. 21 студз.; Сормаўцам: [Верш] // Там жа. 2 лют.; Юбілейная чырвонаармейская: [Верш] // Там жа. 23 лют.; Вольгін шлях: (Апавяданне) // Там жа. 7 сак.; Мастакі пралетарскага слова // Там жа. 16 сак.; Парыж у вагні (18 сакавіка): [Верш] // Там жа. 19 сак.; Быхаўскія спартанцы і Японія: (Фельетон) // Там жа. 21 сак. / Пад крыпт. Юрка Л-ны; На вуліцы: [Верш] // Там жа. 23 сак.; Кавалак разьбітага ў дрэбезгі: (Маленькі фельетон) // Там жа. 28 сак.; На смерць Маякоўскага: [Верш] // Там жа. 18 крас.; У агні народжаная // Там жа. 20 крас.; Баявая чырвонаармейская: [Верш] // Сав. Бел. 19 студз.; Сягоння — гонар павільёнаў: [Верш] // Там жа. 10 жн.; Юбілейная чырвонаармейская: [Верш] // Чырвонаарм. праўда. 23 лют.; Яны павінны быць вольны: [Верш] // Чырв. змена. 10 ліп.; Сон Пуанкарэ: [Верш] // Там жа. 2 снеж.

**1931.** Лагі: Апавяданне // Бел. работніца і сялянка. № 5; На хвалі сталінскіх прыбояў: [Верш] // Там жа. № 9; Першамай у Заходняй Беларусі: [Верш] // Там жа. № 14; Гудуць ратацыі: Нарыс // Там жа. № 18; Вясна 1931 года: [Верш] // Маладняк. № 9; Нязнань: Нарыс // Там жа. № 10; Размова з народным паэтам: [Верш] // Полымя. № 4; Размова з паэтамі-ўдарнікамі: [Верш] // Там жа. № 8; Брыгадзір Марцін Байдулевіч: [Верш] // Там жа. № 9; Дзень у Ратамцы: Нарыс // Чырв. Бел. № 4; Інжынер Гехт; Ноч на пагрузцы торфу: [Вершы] // Там жа. № 22—23; Два тыдні: [Верш] // Звязда. 26 студз.; Мы не аддзелім героя ад клясы!: [Верш] // Там жа. 5 лют.; Новаму сябру: [Вершы] // Рабселькор. 13 лют.; Увага Жлобінскага райкому КП(б)Б невыстарчальная // Там жа. 18 лют.; Першамай у Заходняй Беларусі: [Верш] // Сав. Бел. 1 мая; Дзесятаму: [Верш] // Чырв. змена. 5 студз.; Песня пра дырыжабль: [Верш] // Там жа. 20 студз.

**1932.** У паход; Маленькі камунар; Выйдзі за паўзмежак: [Вершы] // Партыя, слухай. Мн.; Партрэт ілжэўдарніка: [Верш] // Маладняк. № 5—6; Ударніцы камінтэрнаўскай СТФ: Нарыс // Работніца і калгасніца Бел. № 14; Тайс, Трайс і іншыя: Нарыс; Кастрычніцкая песня: [Верш] // Там жа. № 30; Бабскі калгас: Апавяданне // Там жа. № 33; Радкі нянавісці: [Верш] // Чырв. Бел. № 10; Той жуды не пазбыць, не закрэсліць: [Верш] // Там жа. № 13; Творчая вучоба, ці звычайны плагіят...? // ЛіМ. 28 сак. / Сааўт. П. Ананьцеў; Тэрор: [Верш] // Там жа. 27 чэрв.; Трывожныя сімптомы // Там жа. 10 ліп. / Сааўт. З. Півавараў; Спатканне з тав. Андрыеску // Там жа. 19 ліст.; «Тармазом на перакор!» // Сав. Бел. 14 мая; З вершаў пра «камуну БВА» // Чырвонаарм. праўда. 4 кастр.

**1933.** А. С. Серафімовіч // Работніца і калгасніца Бел. № 7; Дзэлегатка з Юравіч // Там жа. № 15; «Вока ўдарніцы» глядзіць пільна // Там жа. № 23; Тварыш Клара на трыбуне: [Верш] // Там жа. № 24; Рунь на пясках: [Нарыс] // Звязда. 30 крас.; 1 мая; Пра каня: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Чычыкавы з «Перамогі»: [Фельетон] // Там жа. 4 кастр.; Жыццё Кузьмы Баярына: [Нарыс] // Там жа. 24 кастр. / Сааўт. С. Грахоўскі; Камандзір-бальшавік: [Нарыс] // Там жа. 6—7 ліст.; Апавяданне камандора // Там жа. 24 ліст.; Беларусізацыя пад пячаткай // Там жа. 1 снеж.; Савецкія пісьменнікі ў тав. Гікала // Там жа. 6 снеж. / Пад крыпт. Юр. Л-ны; Каток // Там жа. 16 снеж.; Жыццё ў рамонце: [Нарыс] // Там жа. 24 снеж. / Сааўт. С. Грахоўскі; На новую зямлю: Урывак з аповесці «Агні над балотам» // Камунар Магілёўшчыны. 9 вер.; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. // ЛіМ. 28 студз.; Два вершы: Новыя Т'еры; Нямецкая вуліца // Там жа. 26 чэрв.; На эстрадзе ня ўсё ў парадку // Там жа. 15 ліп.; Чаму 5 раёнаў апынуліся ў паласе прарыву // Сав. Бел. 4 студз.; Камуна БВА: [Верш] // Там жа. 23 лют.; Адна з «Жалезнага патоку»: (Пра бальшавічку Варвару Данілаву): [Нарыс] // Там жа. 8 сак.

**1934.** Растуць новыя Батвіннікі: [Нарыс] // Звязда. 3 студз.; 1.300.000...: [Нарыс] // Там жа. 8 студз.; Загудуць турбіны ЦЭЦ: [Нарыс] // Там жа. 11 студз. / Сааўт. М. Нікіцін; «Недарасль» // Там жа. 17 студз. / Сааўт. Т. Такарчук; Брыгада пісьменнікаў заходняй вобласці ў Менску // Там жа. 8 лют.; У палоне ў кулакоў і чарнасоценцаў: [Нарыс] // Там жа. 25 лют. / Сааўт. С. Галкін; Юныя таленты: [Нарыс] // Там жа. 5 сак.; Мастакі БССР за 15 год: [Нарыс] // Там жа. 9 сак.; «Паручык Кіжэ» // Там жа. 16 сак. / Пад крыпт. Юр. Л.; Калгасная радасць: [Нарыс] // Там жа. 19 мая / Сааўт. М. Кін; Думкі мастака-рэвалюцыянера // Там жа. 25 мая / Пад крыпт. Юр. Л-ны; Юбілейны вечар Л. М. Літвінава // Там жа. 4 чэрв. / Пад крыпт. Юр. Л-ны; Асабняк на Пушкінскай... // Камуніст. 23 кастр.; Стараверы: [Верш] // Там жа. 15 ліст.; У новай школе // Там жа. 21 ліст.; Дзе арганізаваны глядач? // Там жа. 24 ліст. / Пад крыпт. Юр. Л-ны; Юбілей М. Ф. Рафальскага // Там жа. 28 ліст.; «Хорошая жизнь»: Тэатр // Там жа. 29 ліст.; Гартаючы старонкі барацьбы...: [Верш] // Там жа. 30 ліст.; Фільм выключнай якасці // Там жа. 4 снеж.; Творчы шлях Міх. Шолахава // Там жа. 10 снеж. // Пад крыпт. Юр. Л-ны; Экскурсіі дэлегата // Там жа. 15 снеж.; Рэйд Дуні Нікітка // Там жа. 18 снеж.; У чым сакрэт поспеху: «Рэкрут» і «Вольпанэ»? // ЛіМ. 28 лют. / Пад крыпт. Юр.; «Пагібель эскадры» ў Рускім дзяржаўным тэатры БССР // Там жа. 30 ліст.; Літгурткі Бабруйска за работаю // Там жа. 12 снеж.; «Прыгожае жыццё» ў Рускім дзяржаўным тэатры // Там жа. 25 снеж.; Піянерскі марш: [Верш] // Піянер Бел. 9 студз.

**1935.** Кіеў: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 11; [Рэц. на кн.: А т а к а: Альманах 4. Мн., 1935] // Там жа. № 12; Свабоду Тэльману: [Верш] // Работніца і калгасніца Бел. № 11; Мая рэспубліка: [Верш] // Там жа. № 15; Парашутысткі: Нарыс // Там жа. № 16; Равесніца Кастрычніка: [Верш] // Там жа. № 20; Жыве, як гімн, неўміручы Ленін!: [Верш] // Калгаснік Бел. 22 студз.; У чырвонаармейскім літгуртку // ЛіМ. 27 ліст.; Першамай у Чырвонай арміі // Там жа. 1 мая / Пад крыпт. Юр. Л-ны; У паходзе за літаратурны мінімум // Там жа. 6 мая; Літаратурны Смаленск // Там жа. 21 ліп.; Паездка на Беларусь творча ўзбагаціла нас: Гутарка з Б. Буачыдзе // Там жа. 24 ліп. / Пад крыпт. Юр. Л-ны; Кампазітар-педагог // Там жа. 22 жн.; Чаму ў нас няма зборніка народных песень? // Там жа. 16 кастр.; [Рэц. на кн.: У ш а к о в Н. Избранные стихи. М., 1935] // Там жа. 12 ліст.; Першае жніўня: [Верш] // Чырв. фронт. 3 жн.

**1936.** Жонка капітана: (Нарыс) // Работніца і калгасніца Бел. № 4; Дзяўчына з возера: [Апавяданне] // Там жа. № 19; Высокаякасны, баявы часопіс // ЛіМ. 6 лют.; Рабочыя эсперантысты пра пленум (Лісты з-за мяжы) // Там жа. 10 лют.; Сустрэча на вакзале // Там жа. 11 лют.; Літаратурны Варонеж // Там жа. 16 крас.; Рабочыя літгурткі па-за ўвагай газеты // Там жа. 11 мая / Пад крыпт. Ю. Л.; Аздаравіць эстраду // Там жа. 21 вер.; Рускі драматычны тэатр Малдавіі ў БССР // Там жа. 27 вер.; Песня абаронцы //

Піянер Бел. 23 лют.; Незабыўныя дні: Нарыс // Чырв. змена. 23 лют.

**1959.** Маланння; Пераклічка паравозаў; Далёкі рэйс: [Вершы] // ЛіМ. 30 мая.

**1961.** Крыштальнай цвеценню заружавелі далі; Горад вятроў; Размова з марсіянамі: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Пад штандарам ленінскага гарту...; Зарадка: [Вершы] // Маг. праўда. 3 вер.

**1968.** Роднае; Пад штандарам ленінскага гарту...: [Вершы] // Маг. праўда. 30 ліп.

**1977.** Зашалясцяць шаўкі: [Нарыс] // Беларускі савецкі нарыс: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1978.** Беларусь; Кастрычніцкая песня; Мая рэспубліка: [Вершы] // Маг. праўда. 29 ліп.

**1.4.**

Фурманаў Д. Чырвоны дэсант: Апавяданне / З рус. Мн., 1929 / Пер. пад крыпт. Ю. Л.

Ольбрахт І. Ганна пралетарка: Раман / З чэш. Мн., 1932.

**1927.** Слесарэнка А. Штаны: [Апавяданне] / З укр. // Сав. Бел. 19 крас.; Жараў А. Смейся, вецер!..: [Верш] / З рус. // Чырв. змена. 5 чэрв. / Пад крыпт. Ю. Л.

**1928.** Масэнка Т. Ліра будняў: [Верш] / З укр. // Літ. дад. да газ. «Савецкая Беларусь». № 9; Кавальчук М. Вуліца: [Верш] / З укр. // Там жа. № 11; Банкоў П. Усе выйгралі: (Апавяданне) / З рус. // Маг. селянін. 5 лют. / Пер. пад крыпт. Юр. Л.

**1929.** Грымайла Я. Сельбудаўскія вечары; Сасюра В. На вуліцы; «Смехам, жаркай песняю...»; Масэнка Т. Ліст / З укр. // Ранне. Магілёў; Паўлюк А. Францыя: [Верш] / З укр. // Полымя. № 1.

**1930.** Уштуні А. Рай: [Верш] / З арм. // Полымя. № 9—10.

**1931.** Кірсанаў С. Анёлы: [Верш] / З рус. // Чырв. змена. 23 лют.

**1932.** Кавынёў Б. Першамай: [Верш] / З рус. // Сав. Бел. 4 мая.

**1933.** Лахуці Г. Ангельская калонія ў Афрыцы / З тадж. // ЛіМ. 9 ліп.

**1934.** Маякоўскі У. Бюлетэнь: [Верш] / З рус. // Звязда. 22 студз.; Рыленкоў М. Твой шлях: [Верш] // З рус. // ЛіМ. 28 лют.

**1935.** Рыленкоў М. Твой шлях; Зялёны цэх; Свята: [Вершы] / З рус. // Паэты заходняй вобласці. Мн.; Маякоўскі У. Два маі: Урывак з верша / З рус. // ЛіМ. 1 мая; Тарахоўская Е. Метрапалітэн: [Верш] / З рус. // Піянер Бел. 3 кастр.

**1936.** Ішэмгулаў Б. Праўдзір; Юлтый Д. Начное спатканне: [Вершы] / З башк. // Полымя рэвалюцыі. № 2; Маякоўскі У. Два маі: [Верш] / З рус. // Там жа. № 5.

**1.5.**

**На польскую мову.** Rozpoczęto obrady plenum komit. Organizac. Zw. Pisarzy Radzieckich // Orka. 1934. 26 kwiet. / Пад крыпт. Jur. L-пу.

**На ўкраінскую мову.** Сонет: [Верш] / Пер. А. Панів // Нова Білорусь. К., 1929.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Аношкін І. І сёння ў страі: Да 60-годдзя з дня нараджэння Ю. Лявоннага // Маг. праўда. 1967. 16 снеж.; Яго ж. Сэрца паэта білася песняй... // Там жа. 1978. 29 ліп.; Яго ж. Пішучай арміі радавы // ЛіМ. 1978. 21 ліп.; Атрашкевіч В. Пад штандарам ленінскага гарту... // Маг. праўда. 1983. 30 ліп.; Бандылевіч Л. Першая патуга адкрытага крытычнага ліста // ЛіМ. 1932. 5 жн.; Беларуская савецкая проза: Апавяданне і нарыс. Мн., 1971. С. 278—279;Ваўчок З. Не скажаце гісторыі піянерскай арганізацыі: Аб вершах Ю. Лявоннага // Піянер Бел. 1932. 19 мая; Глебка П. Маладая паэзія // Ударнікі. Альманах 3. Мн., 1934; Грахоўскі С. Савецкая, № 68: Трыццатыя гады...: Успаміны // Дзень паэзіі. Мн., 1978; Есакоў А. Вершы Юркі Лявоннага // ЛіМ. 1959. 30 мая; Куніцкі С. За ідэйна-мастацкі рост рабочых-ударнікаў // Маладняк. 1931. № 11; Макарэвіч А., Усікаў Я. Натхнёнае слова паэта // Маг. праўда. 1961. 3 вер.; Матэвушаў В. Поплеч з намі // Там жа. 1968. 30 ліп.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Смальянава Л. Шляхі паэтычнага эпасу: З гісторыі беларускай савецкай паэмы. Мн., 1977. С. 62, 73—74; Сядура У. Камсамол у беларускай паэзіі // Маладняк. 1932. № 1; Яго ж. Супраць буржуазнага рэстаўратарства і «левага» ліквідатарства // ЛіМ. 1932. 30 крас.; Шушкевіч С. З маладняkоўскага племя: Да 60-годдзя з дня нараджэння Юркі Лявоннага // ЛіМ. 1968. 30 ліп.; Яго ж. Кавалачак з аўтабіяграфіі паэта Разекі // Маладняк. 1932. № 7; Яго ж. «Хто ўзімку жыве, як вясной...» // Голас Радзімы. 1968. № 34.

*Т. М. Махнач.*

# ЛЯВОНЦІЙ КАРПОВІЧ

*Лявонцій Карповіч (свецкае імя Лонгін, Логін; каля 1580, Пінскі пав.— верагодна 1620, Вільня), пісьменнік-палеміст, царкоўна-палітычны дзеяч. Архімандрыт праваслаўнага Свята-Духаўскага манастыра ў Вільні (1613).*

Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і на Піншчыне. Адукацыю атрымаў у Астрожскай школе на Валыні. Што прымусіла яго стаць манахам, як праходзіла яго жыццё да з'яўлення ў віленскім Свята-Духаўскім манастыры, будаўніком і першым архімандрытам якога ён з'яўляўся,— сёння невядома. Дакладныя звесткі пра яго грамадска-палітычную дзейнасць пачынаюцца толькі са студзеня 1609, калі ў ліку іншых віленскіх паслоў ён знаходзіўся ў Варшаве і выступаў там на вальным сейме як абаронца інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны. Лявонцій Карповіч крытыкаваў дзеянні тагачаснага уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея, які незадоўга да гэтага адабраў у віленскіх мяшчан 12 праваслаўных цэркваў і праваслаўны брацкі Свята-Троіцкі манастыр. У 1610, будучы рэктарам брацкай школы, кіраўніком і старшым друкаром брацкай друкарні, адрэдагаваў і выдаў на польскай мове славуты «Фрынас» М. Смятрыцкага, за што па распараджэнні караля Сігізмунда III Вазы быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, дзе правёў 2 гады як дзяржаўны злачынца Рэчы Паспалітай. Выйшаўшы з турмы, узначаліў барацьбу віленскага праваслаўнага брацтва супраць дзейнасці каталікаў і уніятаў. Незадоўга да смерці быў вылучаны кандыдатам у епіскапы — на Уладзімірскую і Брэсцкую кафедру, але смерць не дазволіла заняць гэтай пасады.

Яго памяці прысвечаны ананімны паэтычны твор «Лямант у свеце ўбогіх на жаласную смерць Лявонція Карповіча». На яго пахаванні выступіў Мялеці Сматрыцкі.

Пяру Лявонція Карповіча належаць творы: «Казанне двое...» і «Казанне на пахаванне князя В. Галіцына» (у перакладзе на польскую мову), прадмовы да кнігі інака Фікарыя «Вертаград душэўны» і да перакладу тлумачэнняў Златавуста да «Ойча наш» (1620). З яго рукапісных твораў вядома павучанне «У нядзелю перад Раством Хрыстовым», некалькі лістоў ад імя членаў віленскага брацтва львоўскаму брацтву і манахам на Афон (1619). Казанні Карповіча вызначаюцца ўзнёслым тонам, барочнай квяцістасцю. У іх шырока выкарыстаны рытарычныя фігуры, вобразныя параўнанні, анафары, рэлігійная сімволіка. Усё гэта прыдавала ім выключную дынамічнасць, сілу эмацыянальнага ўздзеяння на чытача і слухача. Нягледзячы на абмежаванасць і непаслядоўнасць, яго літаратурная і прапаведніцкая дзейнасць мела прагрэсіўнае значэнне, таму што была скіравана супраць іншаземнага засілля, абуджала народную самасвядомасць. *А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


1.2.

Казанье двое... Евье, 1615.

1.3.

**1620.** К правоверному читателю // Фикара Святогорец. Вертоград душевный. Вильно.

**1894.** Честному священнойнокови, господину отцу Кириллу (Пафнутию, Иелисею) о Господе нашем Иисусе Христе радоватися // Лит. епарх. вед. № 26.

**1922.** З кнігі «Казанне двое...»: [Урывак] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.

**1959.** Казанье на преображение господа Бога и Спаса нашего Исуса Христа; В неделю пред Рожеством Христовым наука // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн.

1.5.

**На польскую мову.** Kazanie na pogrzebie kniazia Wasila Haliczyna... w roku 1619... pogrzebionego / Z rus. Wilno, 1619.

2.2.

**На старажытнабеларускай мове.** «Лямент...» на смерть Леонтия Карповича. Вильно. 1620.

Мелетий Смотрицкий. Казанье на честный погреб... Леонтия Карповича. Вильно, 1620.

**На рускай мове.** Леонтий Карпович, церковный вития православной Юго-западной Руси в XVII ст. и его два слова. М., 1878.

2.3.

**На беларускай мове.** Гарэцкі М. Казанне // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 307; Дабрынін М. Беларуская літаратура: Старажытны перыяд. Мн., 1952. С. 226—231; Кароткі У. Слова, звернутае да народа: (Да 400-годдзя з нараджэння Л. Карповіча) // Вяч. Мінск. 1981. 31 студз.; Коршунаў А. [Уступны артыкул] // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959; Ларчанка М. Літаратура канца XVI — першай паловы XVII ст. // Ахрыменка П., Ларчанка М. Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1968. С. 98—99; Прашковіч М. «Лямент...» на смерць Лявона Карповіча // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1974. № 1; Помнікі гіст. і культ. Бел. 1973. № 2.

**На рускай мове.** Брянцев П. Виленский Свято-Духовский монастырь // Виленский календарь на 1898 год. Вильна, 1897; Василенок С. Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма. М., 1961. С. 216—217; Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 92—94; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 173—174; 224—225; Карский Е. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3. Вып. 2. С. 135—139; Леонид, арх. Два слова, которые сказывал отец Леонтий Карпович... // Чтения в Обществе истории и древностей российских. 1878. № 1; Макарий. История русской церкви. Спб., 1881. Т. 10; Спб., 1882. Т. 11; Маслов С. Казанье Мелетия Смотрицкого на честный погреб о. Леонтия Карповича // Чтения в историческом обществе Нестора летописца. К., 1908. Кн. 20. Вып. 2, 3; Миловидов А. Виленский первопечатник и первые издания виленских типографий // Лит. епарх. вед. 1903. № 6; Молчанов Н. Леонтий Карпович, церковный вития православной Юго-западной Руси в XVII столетии и два его слова // Православное обозрение. 1880. № 11; Нечаенко П. Леонтий Карпович, русский проповедник 1615 года // Маяк. 1843. Т. 2; Пашкевич М. Князь Богдан Матвеевич Огинский, защитник православия в первые времена унии // Лит. епарх. вед. 1903. № 26—27; Петров Н. Послание настоятеля Виленского Свято-Духова монастыря и братства Леонтия Карповича к Афонским подвижникам, 1619 года // Там жа. 1894. № 26; Сцепуро Д. Виленское св. духовское братство в XVII и XVIII столетиях // Труды Киевской духовной академии. 1899. № 6; Т-ч. А. Виленский Свято-Духовский монастырь: (Исторический очерк) // Виленский календарь на 1892 год. Вильна, 1891.

**На ўкраінскай мове.** Маслов С. Наука Леонтія Карповіча в неділю перед Різством // Записки Укр. наукового товариства в Києві. К., 1908. Кн. 2.


*Т. М. Махнач.*

# ЛЯЖНЕВІЧ АЛЕСЬ*



**Ляжневіч Алесь [ініцыялы А. Ф., псеўд.: А. Бяздольны; Алесь Бяздольны, Язэп Церабеж; 1890, в. Сенцяняты Ашмянскага пав. Віленскай губ. цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.— —1937(?)], драматург.**

З сялян. Бацька меў 8 дзесяцін зямлі і 6 дзяцей. З дзяцінства А. Ляжневіч працаваў на гаспадарцы. Скончыў пачатковую народную школу. Марыў працаваць ў тэатры. Пачаў удзельнічаць у розных аматарскіх гуртках, займаўся самаадукацыяй. У 1914 мабілізаваны ў царскую армію. Знаходзіўся ў Туркестане, дзе працаваў у перасоўных аматарскіх тэатрах артыстам драмы. У 1914—17 — у арміі, радавы. У час лютаўскай рэвалюцыі 1917 з Румынскага фронту прыбыў у Адэсу, пачаў працаваць у абласным тэатры, акторам бежанскай суполкі «Беларускі гай». Адначасова паступіў у Адэскую тэатральную прыватную школу дзеля далейшай адукацыі. У 1919 уступіў у Камуністычную партыю, быў на савецка-польскім фронце. Захварэў на тыфус. Пасля працаваў у палітаддзеле 16-й арміі ў Магілёве. У 1919 накіраваны ў Мінск. У 1920 — акцёр беларускага тэатра. У 1921 — дырэктар БДТ-1. З 1922 — у Маскве, дырэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва. У 1924 у Маскве пры партыйнай чыстцы выключаны з партыі з прычыны «адарванасці ад мас і палітычнай няграматнасці». З 1927 на кінафабрыцы Белдзяржкіно. У 1929 працаваў там кансультантам, у 1930 асістэнтам рэжысёра. Арыштаваны 29.7.1930 і асуджаны на 5 гадоў высылкі за межы Беларусі. У 1937 зноў арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Першая выяўленая публікацыя А. Ляжневіча — драма «З дымам-пажарам» датуецца 1924. Яна вызначалася слабасцю драматургічнай распрацоўкі канфлікту, перавагай дзеяння над псіхалагічнай праўдай характараў. Аднак пры ўсіх недахопах гэта быў адзін з першых узораў беларускай героіка-рэвалюцыйнай драмы. «З дымам-пажарам» ставілася на сцэнах самадзейных тэатраў. А. Ляжневіч апрацоўваў для пастановак п'есы рускага рэпертуару. Разам з Я. Купалам і Ц. Гартным уклаў анталогію «Беларускі дэкламатар Чырвоны Дудар». У 1927 у друку з'явілася некалькі яго вершаў. Выступаў з нататкамі пра сялянскі тэатр, з парадамі для клубных драмгурткоў. У пачатку 1930 на ўсебеларускім конкурсе п'ес атрымаў 2-ю прэмію за п'есу «Навала» (пад псеўд. Язэп Церабеж). Публікацыя яе не выяўлена.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Новыя ўсходы: П'еса ў 6-ці актах / Паводле Я. Задыхіна. Мн., 1927. (Сялянскі тэатр).

Таміла: Меладрама ў 5-ці дзеях / Па раману Ф. Дзюшэна; Паводле апрац. на ўкр. М. Ю. Смоліча. Мн., 1927. (Сялянскі тэатр).

З дымам-пажарам: Рэвалюцыйная п'еса ў 3-х дзеях. Мн., 1928. (Сялянскі тэатр). Рэц.: Я з - в і ч А. [Пальчэўскі А.] // Чырв. сейбіт. 1928. № 4—5.

Сялянскі тэатр: Дарады ў пытаннях тэатральнай тэхнікі і методы пастаноўкі п'ес сялянскімі і гарадскімі клубнымі драмгурткамі. Мінск, 1928.

**1.3.**

**1924.** З дымам-пажарам: Драма // Змаганне. Сш. 1. / Пад псеўд. А. Бяздольны.

**1926.** Сялянскі тэатр на Беларусі // Чырв. сейбіт. № 5.

**1927.** Я чую плач: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 15 / Пад псеўд. Алесь Бяздольны; Скарга дзядзькі: [Верш] // Камуніст. 28 вер. / Пад псеўд. Алесь Бяздольны.

**1928.** Як дэкламаваць вершы, апавяданні, байкі // Дэкламатар. Мн.

**1.6.**

Б е л а р у с к і дэкламатар Чырвоны Дудар. Мн., 1924 / Скл. з Я. Купалам, Ц. Гартным.

Б э н І. Цудадзеі: Камедыя ў 4-х дзеях. Мн., 1927 / Апрац.

М а р к а ў В. Варажба: П'еса ў 2-х дзеях. Мн., 1927 / Апрац. з рус. Рэц.: М а р к а ў В. «Варажба». П'еса ў 2-х дзеях / Апрацавана з расійскае мовы А. Ляжневічам // Звязда. 1927. 18 снеж.

Дэкламатар. Мн., 1928 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Л а ў ш у к С. Станаўленне беларускай савецкай драматургіі. Мн., 1984. С. 124—126.


*З. У. Драздова.*

* Фотаздымак узяты з архіва КДБ.

# ЛЯЛЬКО ХРЫСЦІНА



*Лялько Хрысціна Аляксееўна (н. 30.3. 1956, в. Хадзюкі Лідскага р-на Гродзенскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1983. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986, за кнігу прозы «Дарога пад гару»).*

Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Тарноўскай СШ працавала ў Радзівонішкаўскім сельсавеце Лідскага р-на бухгалтарам (1973—74). З 1974 вучылася на філалагічным факультэце БДУ (аддзяленне беларускай мовы і літаратуры). З 1979 працавала навуковым супрацоўнікам у Літаратурным музеі Я. Купалы, з 1983 карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва», з 1984 — рэдактар аддзела літаратуры часопіса «Беларусь». Член Рады СП Беларусі.

Літаратурную дзейнасць пачынала ў 1971 з вершаў, апублікаваных на старонках лідскай раённай газеты «Уперад». Падборка вершаў была змешчана ў зборніку «Дзень паэзіі». Першае апавяданне «Груган» апублікавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1979, затым яе апавяданні рэгулярна друкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў («Звязда», «ЛіМ», «Полымя», «Маладосць», «Неман», «Беларусь»). Першы зборнік апавяданняў «Дарога пад гару» выйшаў у 1985. Асноўная тэматыка творчасці — жыццё людзей старэйшага пакалення — працаўнікоў вёскі, маральна-этычныя праблемы, духоўны змест маладога чалавека, яго пачуцці, перажыванні, пошукі адказу на складаныя пытанні сучаснасці. Асобныя апавяданні перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. Апошняя значная публікацыя — аповесць «Лес» («Маладосць». 1989.№ 7).

Жыве ў Мінску.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Дарога пад гару: Апавяданні. Мн., 1985. (Першая кніга празаіка).

Світанак над бярозамі: Аповесць, апавяданні. Мн., 1989.

**1.3.**

**1977.** «Трухлеюць пні на могілках старых...»: [Верш] // Полымя. № 7.

**1979.** Груган: Апавяданне // ЛіМ. 18 мая; Свята Купалавай песні // Там жа. 15 чэрв.; Кветкі народнаму песняру // Там жа. 6 ліп.; Ідуць сюды людзі... // Там жа. 17 жн.; Творчая справаздача паэта // Там жа. 2 ліст.; Адзін верш Янкі Купалы // Там жа. 16 ліст.; Вечар паэзіі // Там жа. 7 снеж.

**1980.** Вечар памяці пісьменніка // ЛіМ. 18 студз.; Блокаўская пятніца // Там жа. 8 лют.; Памяццю сейбіта, салдата // Там жа. 4 крас.; Вечар юбіляра // Там жа. 25 крас.; У школе імя Янкі Купалы // Там жа. 13 чэрв.; Дом песняра // Там жа. 19 вер.; Юбілею насустрач // Там жа. 7 ліст.

**1982.** Мурза: Апавяданне // Беларусь. № 9; «Трывожны сон ці прыпамін...»; «Убачыць Вас. І зноў адчуць...»: [Вершы] // Полымя. № 4; З паездкі ў Акопы: [Верш] // Звязда. 9 ліп.

**1983.** З паездкі ў Акопы: [Верш] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; Бярэзнік на загонах; Лёгкі хлеб; Блізка вясна: [Апавяданні] // Маладосць. № 7; Выяўляць таленты // ЛіМ. 23 снеж.

**1984.** [Адказы на анкету «Маладосці»] // Маладосць. № 11; Цыба; Фэлькавы яблыкі; За ноччу раніца: Апавяданні // Полымя. № 10; «Вятры вяртаюцца дамоў» // Звязда. 2 жн.; Светлая рунь: Апавяданне // ЛіМ. 28 вер.

**1985.** Лёгкі хлеб; Мурза; Касцы: Апавяданні // Цяпло на першацвет. Мн.; Тварыць характво // Маладосць. № 11; Белыя брады: Апавяданне // Полымя. № 3; Слова Шолахава // Там жа. № 5; Собственный голос в хоре стремятся обрести молодые белорусские прозаики / Зап. Т. Сотникова // Знамя юности. 28 мая; Прыходзяць надзеі, выспяваюць задумы... // ЛіМ. 27 снеж.

**1.4.**

А р л о ў Г. Расказы дзядзькі Трывіма / З чув. Мн., 1988.

**1984.** М і к е л і н с к а с І. Наша школа: Апавяданне / З літ. // Бурштынавыя пацеркі. Мн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Белые броды: Рассказы / Пер. В. Щедрина. М., 1989. (Б-ка журн. «Молодая гвардия»).

Лёгкий хлеб: Рассказ / Пер. Л. Каминская // Гродн. правда. 1982. 20 нояб.; Лёгкий хлеб; Косцы; Мурза: Три рассказа / Пер. И. Климашевская // Неман. 1983. № 8.

**1.6.**

Залатое пяро: Бел. нар. казка. Мн., 1990 / Апрац.

Ц в і р к а В. Прызваны тварыць прыгажосць // Звязда. 1983. 13 лют. / Зап.
2.3.
**На беларускай мове.** С к р ы г а н Я. Няхай шырэе далячынь // Лялько Х. Дарога пад гару. Мн., 1985; Я г о ж. Шчаслівай дарогі // Беларусь. 1982. № 9.

**На рускай мове.** Т ы ч и н а М. Притяжение реальности // Неман. 1984. № 8.
2.4.
Я н і ш ч ы ц Я. Верш Хрысціне Лялько // Янішчыц Я. Пара любові і жалю. Мн., 1983.

*Т. М. Махнач.*

# ЛЯЛЬЧУК СЯМЁН



*Ляльчук Сямён Абрамавіч (25.9.1918, мяст. Калінкавічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер горад Гомельскай вобл.— 1941), паэт. Пісаў на яўрэйскай мове.*

Паходзіў з сям'і служачага (бацька працаваў сакратаром Калінкавіцкага гарсавета, затым галоўным бухгалтарам школы жывёлаводаў). Скончыўшы школу ў Калінкавічах, С. Ляльчук у 1935 паступіў у Мінскі педінстытут, які скончыў у 1939. Восенню гэтага ж года ён прызваны ў армію і накіраваны ў палкавую школу, пасля заканчэння якой служыў у Прыбалтыйскай ваеннай акрузе (Рыга). Там яго застала Вялікая Айчынная вайна. Прапаў без вестак у ліпені 1941.

Першыя публікацыі С. Ляльчука ў газеце «Юнгер ленінец» («Юны ленінец») не выяўлены. У 1938 друкаваўся ў часопісе «Штэрн». З гэтага часу да 1941 яго вершы рэгулярна змяшчаліся ў яўрэйскіх перыядычных выданнях Беларусі. У 1940 разам з маладымі паэтамі І. Баруховічам, Х. Гурэвічам, П. Плоткіным выдаў калектыўны «Зборнік вершаў». Перад адыходам у армію С. Ляльчук перадаў сястры папку з рукапісамі, але пры эвакуацыі яны згубіліся. Зберагся толькі рукапіс гумарыстычнай паэмы «Успаміны. К гадавіне нашай разлукі», прысвечанай студэнцкім сябрам паэта (захаваўся ў А. І. Фарбера, рыхтуецца да друку). У кнізе «Ліра» (на яўрэйскай мове) змешчана падборка твораў С. Ляльчука. У Калінкавічах, у школе, дзе вучыўся С. Ляльчук, аформлены прысвечаны яму мемарыяльны стэнд. Матэрыялы пра паэта захоўваюцца таксама ў Музеі баявой славы ў СШ № 150 г. Мінска.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.2.
Зборнік вершаў. Мн., 1940 / Яўр. Сааўт. І. Баруховіч, Х. Гурэвіч, П. Плоткін. Рэц.: С т р а л ь ц о ў К. Зборнік маладых паэтаў // ЛіМ. 1941. 15 лют.
1.3.
**1938.** Песня пра бусла: [Верш] // Штэрн. № 1 / Яўр.; Песня пра Сож: [Верш] // Там жа. № 10 / Яўр.; Песня пра Чкалава: [Верш] // Там жа. № 12 / Яўр.
**1939.** Песня пра хлеб: [Верш] // Штэрн. № 12 / Яўр.
**1940.** Вершы // Штэрн. № 7—8 / Яўр.
**1941.** Леніну: [Верш] // Штэрн. № 1 / Яўр.
**1985.** [Вершы] // Ліра. М. / Яўр.
1.5.
**На беларускую мову.** Песня пра Сож: [Верш] / Пер. з яўр. А. Вялюгін // Полымя. 1947. № 2; Песня пра Сож: (Урывак); Жаўрук: [Вершы] / Пер. з яўр. А. Вялюгін // Мы іх не забудзем. Мн., 1949.
2.3.
**На беларускай мове.** Г а с м а н Н. Творчасць маладых паэтаў // Звязда. 1941. 30 мая; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Сямён Ляльчук // Радзіме — радок і жыццё. Мн., 1986.


*Т. М. Махнач.*

# ЛЯПЁШКІН УЛАДЗІМІР



*Ляпёшкін Уладзімір Ігнатавіч (н. 8.11.1928, в. Церабель Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1962. Заслужаны настаўнік Беларусі (1976).*

Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. Пасля вызвалення Беларусі сям'я пераехала ў г. Рудзенск, бацька працаваў у райкоме партыі (памёр у 1974), маці — у калгасе (памерла ў 1973). Пасля заканчэння Рудзенскай сярэдняй школы (1947) У. Ляпёшкін паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педінстытута, які скончыў у 1951. У 1951—53 выкладаў беларускую мову і літаратуру, у 1953—57 загадваў навучальнай часткай у 4-й, у 1957—58 — у 2-й сярэдняй школе г. Мінска, з 1958 — дырэктар гэтай школы. З 1970 дырэктар выдавецтва «Народная асвета», з 1979 дырэктар сярэдняй школы № 23 у Мінску. З 1987 на пенсіі. Узнагароджаны медалямі.

З першымі вершамі выступіў у друку ў 1949 у газеце «Бальшавіцкі сцяг» б. Рудзенскага р-на. Выдаў кнігі паэзіі «Ранішнія росы», «Рупнасць», «Роднае», «Вусце», «Перадлецце». Сувязь пакаленняў, выхаванне маладой змены, жыццё і праца людзей і незабыўныя старонкі гістарычнай памяці — такі асноўны змест твораў паэта. Кніга «Званкі-званочкі» адрасуецца дзецям.

Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Ранішнія росы: Вершы. Мн., 1961. Рэц.: Кацюшын М. // Мін. праўда. 1961. 28 ліп.; Скапараў І. Вершы Уладзіміра Ляпёшкіна // Маладосць. 1961. № 8; Стральцоў М. Дубы, крыніцы, росы і старыя ісціны // ЛіМ. 1961. 30 чэрв.; Шаўня А. Пошукі свайго шляху // Беларусь. 1961. № 9.

Рупнасць: Вершы. Мн., 1966. Рэц.: Блатун С. А рупнасці мала // ЛіМ. 1967. 4 ліп.; Пруднікаў П. Лірычная споведзь // Наст. газ. 1967. 21 студз.

Роднае: Вершы. Мн., 1970. Рэц.: Каваленка В. Роднае і знаёмае // ЛіМ. 1971. 5 лют.

Званкі-званочкі: [Вершы]. Мн., 1972. Рэц.: Чаплавоцкая І. Пра роднае і блізкае // Наст. газ. 1972. 28 кастр.; Шушкевіч С. Лепш, чым для дарослых... // Чырв. змена. 1973. 14 сак.

Вусце: Вершы. Мн., 1973. Рэц.: Зяньковіч М. Вытокі // Чырв. змена. 1974. 29 студз.; Пысін А. Побач з незвычайным // Полымя. 1974. № 2; Фамін У. Вытокі любові // ЛіМ. 1974. 24 мая.

Перадлецце: Вершы. Мн., 1978. Рэц.: Кірпічэнкаў А. З любоўю да Радзімы // Наст. газ. 1979. 31 сак.

**1.3.**

**1951.** Пшаніца: [Верш] // Полымя. № 6; Маяк: [Верш] // Там жа. № 12; Ля карты: [Верш] // Работніца і сялянка. № 5; Сакратар; Ворыва: [Вершы] // Чырв. змена. 22 мая; «Рэпартаж» Фучыка: [Верш] // Там жа. 24 мая; Заранка: [Верш] // Там жа. 9 чэрв.

**1952.** Заранка: [Верш] // На сонечных сцежках. Мн.; Дзяўчына: Балада // Работніца і сялянка. № 2; Расставанне: [Верш] // Там жа. № 9; Агні: [Верш] // ЛіМ. 19 крас.; Бяссмертны Ільіч: [Верш] // Піянер Бел. 17 студз.; Хлапчукі: [Верш] // Там жа. 13 сак.; Мы ідзем у першы клас: [Верш] // Там жа. 28 жн.; Радзіма: [Верш] // Чырв. змена. 22 крас.

**1953.** Ворыва; «Рэпартаж» Фучыка; Агні; Радзіма; Дзяўчына: (Балада); Дарога; Маяк; Ля карты; Сакратар; Пшаніца: [Вершы] // На сонечных сцежках. Мн.; Старожка: [Верш] // Беларусь. № 9; Ля Свіслачы: [Верш] // Работніца і сялянка. № 2; Дарога; Сустрэчы: [Вершы] // Там жа. № 9; У бары: [Верш] // Піянер Бел. 13 жн.; Сад: [Верш] // Там жа. 24 вер.; Перадавая: [Верш] // Чырв. змена. 1 сак.; Мінскі самаскід: [Верш] // Там жа. 21 ліп.

**1954.** Чайкі: [Верш] // Беларусь. № 12; Зоры Радзімы: [Верш] // Полымя. № 1; Песня: [Верш] // Там жа. № 10; Бярозка: [Верш] // Работніца і сялянка. № 10; «Перагружаны»: (Фельетон) // Звязда. 24 кастр.; Рыбакі: [Верш] // Піянер Бел. 29 ліп.

**1956.** Зіма; Крыніца; Каля млына; Хваля; Страданне: [Вершы] // Беларусь. № 3; Вартавы: [Верш] // Работніца і сялянка. № 2; Золата [Верш] // Там жа. № 3; Бярозка: [Верш] // Там жа. № 12; Дождж: [Верш] // Чырв. змена. 25 сак.

**1957.** Загрукаў гром; Змена: [Вершы] // Беларусь. № 9.

**1958.** Крыўда: [Верш] // Полымя. № 2; Шчасце: [Верш] // ЛіМ. 2 крас.

**1960.** Каменьшчык; Землянкі; Аэрастат; Баравік; Маці; Лянок; На шашы: [Вершы] // Беларусь. № 6; Бабкі: [Верш] // Там жа. № 12; Церабель: [Верш] // Голас Радзімы. № 39; Царабель; Бяроза: [Вершы] // ЛіМ. 18 мая.

**1961.** Маці: [Верш] // Вершы, аднаактовыя п'есы. Мн.; Плыве салаўіная песня...; Святочная вуліца; Калі цвітуць пралескі; Алеська: [Вершы] // Беларусь. № 3; Ветэран вайны; Асенняй парою; На лесараспрацоўках: [Вершы] // Там жа. № 12; Наказ конніка: [Верш] // Голас Радзімы. № 40; «Вясновы дзень прасторы высініў...»; Спёка: [Вершы] // Полымя. № 5; Факел: [Верш] // Ленінська молодь. 21 трав.; Факел дружбы; Размова пра курорт; Наказ конніка: [Вершы] // ЛіМ. 7 сак.; Прывіваем любоў да паэзіі // Наст. газ. 6 вер.; Выпадак у паходзе: [Верш] // Піянер Бел. 4 жн.

**1962.** Першага верасня: [Верш] // Беларусь. № 9; Рэха маленства; Жыты; Па песні; Маёвы дождж; Зачапіўся туман...: [Вершы] // Маладосць. № 8; Пасля выпускнога вечара; На пяраднім краі; Касьба: [Вершы] // Наст. газ. 1 вер.; Дзесяць год пражылі...: [Верш] // Там жа. 20 кастр.; Чыстае, яе крышталь // Там жа. 24 кастр.; Жыццёвы след: [Верш] // Там жа. 22 снеж.; Вялікі настаўнік // Чырв. змена. 3 ліст.

**1963.** Пра дарогу; Рака: [Вершы] // Беларусь. № 4; У капцёрцы; «Я ізноў у бары...»: [Вершы] // Маладосць. № 10; На першы ўрок: [Верш] // Наст. газ. 31 жн.; Аднавясковец; Ля возера; Матулі; Гаючая студня: [Вершы] // Там жа. 7 вер.; Ад спякоты глуха ў палях...; Густаў Эйфель: [Вершы] // Чырв. змена. 21 жн.

**1964.** Я зноўку тут...: [Верш] // Работніца і сялянка. № 2.

**1965.** Птушыныя прозвішчы: [Верш] // Беларусь. № 4; Пакінуўшы ўспамін: [Верш] // Наст. газ. 6 студз.

**1966.** Таганы; Чаканне; Туманы: [Вершы] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Брыгадзір; Вінтоўка; Думка; На дарозе ў Вільнюс; Кактус: [Вершы] // Беларусь. № 5; Вясновы дзень: [Верш] // Бярозка. № 5; Партызанскі хлеб; Каменне; Лісцём вызвоньваюць асіны...: [Вершы] // Полымя. № 5; Тут моцным сном...; Ты нямнога са мной пабыла...; Зубчаты лес за вёскаю сінеў...: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 9; Лясная цішыня; Самае дарагое: [Вершы] // ЛіМ. 24 мая; Чатыры вершы: «Паглушэла, прыціхла наўкол далячынь...»; «Разышліся па вадзе кругі...»; «Гаварыла не раз перад людзямі...»; «Вецер хмары ў моры напаіў...» // Наст. газ. 31 жн.; У паходзе: [Верш] // Піянер Бел. 23 вер.

**1967.** Добрае імя — настаўнік // Родная наша ўлада. Мн.; Туманы: [Верш] // Голас Радзімы. № 3; «Галіны гнуткія ўніз...»; «Мяшкі, нібы вярблюжыя гарбы...»; «Дзе хістаецца голле ляшчын...»; «Шумяць бярозы жоўтым лісцем...»: [Вершы] // Маладосць. № 9; «Шуміць слаўны Леніна горад...»: [Верш] // Там жа. № 11; «Дзе хістаецца голле ляшчын...»: [Верш] // ЛіМ. 5 вер.

**1968.** Яшчэ адзін мужчына; Рыбачы сум; Па маліну; Шэйк: [Вершы] // Вожык. № 6; «Рухавым чоўнам месяц плыў здалёк...»; Вёска Дудзічы; Возера: [Вершы] // Полымя. № 8; Мінулае ў гасцях; Роздум пра багаж; Свабода: [Вершы] // Вяч. Мінск. 22 жн.; Вёска Дудзічы: [Верш] // ЛіМ. 6 жн.; Павеў бацькаўшчыны: [Верш] // Мін. праўда. 20 крас.; Малюнак маленства: [Верш] // Там жа. 31 мая.

**1969.** Многа песень ля кастроў прапета: [Верш] // Наст. газ. 30 жн.

**1970.** Першая школа; Пад бацькоўскай страхой...; На ўзлеску; Ракуцёўшчына: [Вершы] // Вяч. Мінск. 14 вер.

**1972.** Мара: [Верш] // Залацінкі. Мн.; «Мова матчына! Родная, звонкая...»; «Маразяна. Золка. Ветрана...»; «Зашарэла далеч...»; «Б'е цяплынь у твар, нібыта з печы...»; Воўк: [Вершы] // Полымя. № 3; Восень у Хатыні; «А над Нагасакі асеннія хмары...»; Газетная фота ўстрывожыла раны...: [Вершы] // Звязда. 17 снеж.; «Менш сяброў кожны год...»; «Выразалі бор у сорак пятым...»: [Вершы] // ЛіМ. 14 студз.; Снягі пакрылі плёс; Сорак пар дапытлівых вачэй; Ты ў тых мясцінах пабываеш; Сіняя града: [Вершы] // Наст. газ. 1 сак.; Бацькаўшчыне; Славяне; Хоць шчасце людское не знае граніц...: [Вершы] // Там жа. 13 вер.; «Мова матчына! Родная, звонкая...»: [Верш] // Ніва. 23 крас.

**1973.** Позірк назад // Вытокі песні. Мн.; Ля Вераб'ёўкі; Апанасаўна: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 10; «Я твой сын і рупны гаспадар...»: [Вершы]: Родныя бярозы і асіны; Рута-мята; «Промень сонца праз голлі прагляну...»; Будапешт; Укрыў Дунай туман...; І Свіслач у шкле; Адгрымелі, змоўклі ледаставы // Вяч. Мінск. 21 лют.; У раёне любым; Апусцелі пушчы; Ракіты ля берага; Зарыпелі асверы ў студнях; Шумяць высозныя таполі: [Вершы] // Наст. газ. 20 студз.; Па журавіны; Як вучыла маці; Калі зара гарыць: [Вершы] // Там жа. 28 ліп.; А мы ўсё чакалі...; Ласі; Рос: [Вершы] // Там жа. 13 кастр.; З нясвіжскага сшытка: [Вершы] // Чырв. змена. 28 студз.

**1974.** Адкуль бяруцца пусткі // Родная прырода. № 6; Будаўнік; Свіслач і Вілія; Стара-Віленскі тракт: [Вершы] // Вяч. Мінск. 30 мая; Горад-воін, горад-працаўнік // Звязда. 27 чэрв.; «Калі ты згубіў...»; «Ты кажаш...»; Славянскі пагорак; «Гярун з дубровай...»; На вайсковых вучэннях: [Вершы] // ЛіМ. 25 студз.; З зямной глыбіні; Снягі; Ля вясковай насоснай станцыі; Вугляпалы; Сёстры і браты: [Вершы] // Наст. газ. 20 лют.; Мост: [Верш] // Там жа. 1 мая.

**1975.** Восень у Хатыні: [Верш] // Слухайце — Хатынь!.. Мн.; Ля былых зямлянак; Маёр; Вогнішча ў пушчы: [Верш] // Вяч. Мінск. 7 мая; Зязюлі; Даўні вечар; Блакада; Пушкін: [Вершы] // ЛіМ. 6 чэрв.; Подвиг ратный, подвиг трудовой // Львов. правда. 26 янв.; Мае вучні; Што за гарызонтам; Збіральнік зброі; Галубы; Клікала далеч; Гаспадар: [Вершы] // Наст. газ. 15 лют.; Кавалёва гара; Мае птушкі; БАМ; Шчасце; Сябар; У гаі: [Вершы] // Там жа. 28 чэрв.; З новых вершаў: Пра пачуццё; Коні; Па дарозе; Мой край; Усць-Ілім // Чырв. змена. 25 студз.; Айчына; Гімн працы; Упрочкі: [Вершы] // Там жа. 16 крас.; Ліпа; Цётка Гата: [Вершы] // Там жа. 20 ліп.

**1976.** Платонавіч: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.

**1977.** Пад бацькоўскай страхой...: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.; Радзіма; Жанчыны; Успамін: [Вершы] // Наст. газ. 30 сак.

**1978.** Арбіта зялёных трывог: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.

**1980.** Арбіта зялёных трывог: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.; Сустрэча: [Верш] // Наст. газ. 18 кастр.

**1981.** Лівень: [Верш] // Наст. газ. 15 жн.

**1982.** Самае дарагое: [Верш] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Купала: [Верш] // Нам засталася спадчына. Мн.

**1985.** Партызанская сяўба: [Верш] // Партызаны, партызаны... Мн.

**1.4.**

**1974.** Гулія Д. Песня пастуха; Юным сябрам; Таварышу; Навагодняе; Нараджэнне гары; Юны год: [Вершы] / З абх. // Гулія Д. Выбранае. Мн.

**1975.** Загул Д. Іншы раз...; Сонца на ранку; Букавіна мая: [Вершы] // Украінская савецкая паэзія: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1.5.**

**На ўкраінскую мову.** Зозулі: [Верш] / Пер. В. Марко // Прапор юності. 1975. 26 черв.

**1.6.**

Родная літаратура: Хрэстаматыя для X класа сярэдняй школы. Мн., 1966; 2 выд. Мн., 1967; 3 выд. Мн., 1968 / Скл. з У. Боганам, В. Каваленкам.

Родная літаратура: Хрэстаматыя для 9-га класа сярэдняй школы. Мн., 1969; 2 выд. Мн., 1970; 3 выд. Мн., 1970; 4 выд. Мн., 1972; 5 выд. Мн., 1973; 6 выд. Мн., 1974; 7 выд. Мн., 1976; 8 выд. Мн., 1977; 9 выд. Мн., 1978; 10 выд. Мн., 1980; 11 выд. Мн., 1983; 12 выд. Мн., 1986; 13 выд. Мн., 1988 / Скл. з У. Боганам, В. Каваленкам.

Родная літаратура: Хрэстаматыя для X класа сярэдняй школы. Мн., 1970; 2 выд. Мн., 1971; 3 выд. Мн., 1972; 4 выд. Мн., 1973; 5 выд. Мн., 1974; 6 выд. Мн., 1975; 7 выд. Мн., 1977; 8 выд. перапрац. Мн., 1979; 9 выд. Мн., 1981; 10 выд. Мн., 1983; 11 выд. Мн., 1985; 12 выд. Мн., 1987 / Скл. з У. Боганам, В. Каваленкам.

Родная літаратура: Хрэстаматыя для 11-га класа сярэдняй школы. 13 выд. Мн., 1989 / Скл. з У. Боганам, В. Каваленкам.

**2.3.**

**На беларускай мове.** [Віншаванне з 50-год-

дзем] // Беларусь. 1978. № 2; Гарулёў М. Без належнай патрабавальнасці // ЛіМ. 1953. 27 чэрв.; Данілевіч Л. Што сэрца ўзрушвае // Наст. газ. 1978. 8 лют.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі; Кароткі даведнік. Мн., 1981; Уладзіміру Ляпёшкіну — 50 // ЛіМ. 1978. 3 лют.; Федаровіч М. Сустрэча з маладосцю // Вяч. Мінск. 1970. 25 чэрв.

*Т. М. Махнач.*

# ЛЯПІЧ РАМАН



*Ляпіч Раман Фёдаравіч (1.7.1906, в. Бор Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.— 9.1.1977, Мінск, пахаваны на Чыжоўскіх могілках), крытык, перакладчык. Пісаў на беларускай і рускай мовах.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. З дзяцінства парабкаваў, у вольны час зімой наведваў царкоўнапрыходскую школу. Каб дапамагчы сям'і, працаваў рабочым у агранамічным пракатным пункце (1922). У пачатку 1923 прыехаў у Мінск, адкуль яго накіравалі рабочым у саўгас «Трасцянец». У 1923—26 курсант школы міліцыі ў Мінску. У 1926—28 вучыўся на вячэрнім рабфаку, у 1928—31 — на літаратурным факультэце БДУ. Працаваў літработнікам у рэдакцыях газет «Звязда», «Рабочий». У 1931—35 у аспірантуры АН БССР. Пасля яе заканчэння да 1938 малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. Адначасова выкладаў у Мінскім педінстытуце (у сакавіку — ліпені 1938 дэкан філалагічнага факультэта). У 1938 быў беспадстаўна рэпрэсіраваны, 10.10.1938 асуджаны і высланы на Калыму, дзе адбываў тэрмін у Паўночна-Усходніх працоўных лагерах. Працаваў забойшчыкам на прыіску Дускан'я. З 1946 намеснік начальніка базы забеспячэння горна-прамысловага ўпраўлення, з 1951 прараб-геолаг Дзетрынскага геолагаразведвальнага камбіната Верхне-Калымскага раённага горна-руднага ўпраўлення, з 1955 геолаг Пенжынскай комплекснай экспедыцыі Паўночна-Усходняга горнага ўпраўлення (Магаданская вобл.). Доўгія гады, праведзеныя на Калыме, канчаткова падарвалі яго здароўе. З 1965 інвалід 2-й групы. У 1968 вярнуўся ў Мінск. Рэабілітаваны ў 1969. Апошні год перад смерцю быў паралізаваны.

Друкавацца пачаў у 1929 у газеце «Рабочий» як перакладчык. У 1931 змешчаны яго першы артыкул «На барыкадах барацьбы за сусветную гегемонію пралетарскай літаратуры» — аб першым Усесаюзным з'ездзе польскіх пралетарскіх пісьменнікаў. Набылі вядомасць яго крытычныя артыкулы, прысвечаныя творчасці народных пісьменнікаў Беларусі — Я. Коласа і Я. Купалы. Аналізуючы творчасць І. Гурскага, А. Кучара, Р. Ляпіч нярэдка паказваў памылковасць іх спрошчаных поглядаў на жывы літаратурны працэс. Аднак і яго выказванні не былі пазбаўлены характэрнага для свайго часу вульгарызатарства («Нацыянал-дэмакратычная фальсіфікацыя беларускай літаратуры», у сааўтарстве з Э. Галубком). Пісаў рэцэнзіі, перакладаў на рускую мову паасобныя творы З. Бядулі, П. Галавача, М. Лынькова. *Г. М. Урупіна.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1931.** На барыкадах барацьбы за сусветную гегемонію пралетарскай літаратуры (Першы Усесаюзны з'езд польскіх пралетарскіх пісьменнікаў) // Маладняк. № 10.

**1932.** «Новы горад» у Белдзяржтраме // Мастацтва і рэвалюцыя. № 3—4.

**1933.** У палоне памылак // Заклік. № 1 / Сааўт. Л. Фіглоўская, І. Кобер; Некалькі заўваг аб «Новым горадзе» І. Гурскага // Там жа. № 2; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 годзе // ЛіМ. 28 студз.; Уроки еще не извлечены // Рабочий. 5 апр.

**1934.** П'есы бадзёрага пралетарскага аптымізма: (Аб творчасці тав. І. Гурскага) // Драматургія. Мн.; Паэма камсамольскай маладосці // ЛіМ. 24 ліст.

**1936.** Нацыянал-дэмакратычная фальсіфікацыя беларускай літаратуры: (Крытычны агляд артыкулаў па беларускай літаратуры, змешчаных у «Литературной Энциклопедии» і «БСЭ») // Літаратура і мастацтва.

Мн. Кн. 4—5 / Сааўт. Э. Галубок; Якуб Колас: Народны паэт рэспублікі // Віцеб. пралетарый. 10 лют.; Народная мудрасць і прастата // Звязда. 11 кастр.; «Заштопаўшы душы прарэхі...»: [Рэц. на кн.: З в о н а к А. Мая радзіма. Мн., 1935] // ЛіМ. 11 лют.

**1937.** Песні будаўніцтва // Полымя рэвалюцыі. № 9—10; Аповесць пра класавую нянавісць: [Рэц. на: Г а л а в а ч П. Носьбіты нянавісці // Полымя рэвалюцыі. 1936. № 5] // ЛіМ. 17 сак.; Талантливейший поэт советской эпохи // Рабочий. 14 апр.; Творчество Якуба Коласа // Там жа. 11 окт.

**1.4.**

**1929.** Б я д у л я З. Три крестика: Рассказ / С бел. // Рабочий. 27 нояб.

**1931.** Г о л о в а ч П. Переполох на загонах: Отрывок из повести / С бел. // Рабочий. 5 июня; Л ы н ь к о в М. Последний звереедавец: [Урывак з аповесці] / С бел. // Там жа. 20 июня.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б я р о з к і н Р. Аб «бадзёрых рытмах» Р. Ляпіча // ЛіМ. 1938. 6 студз.; С а м у й л ё н а к Э. Супраць аглабельнай крытыкі // Там жа. 1936. 22 сак.

*Т. М. Махнач.*

# ЛЯСКОЎСКІ ЮЛЬЯН

***Ляскоўскі Юльян (псеўд. Б а н д у р ы с т К а р а б і ч, Ю. К а р а б і ч, М а р ц і н М і з э р а; 1826, в. Новая Жосна Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл.— пасля 1888), польскі і беларускі пісьменнік, журналіст.***

Біяграфія Ю. Ляскоўскага ўзнаўляецца фрагментарна. Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду герба «Кораб» (адсюль псеўданім). Першапачатковую адукацыю атрымаў у адной з бернардзінскіх школ (відаць, у Будславе). Працаваў канцылярыстам у Вільні. Удзельнічаў у вызваленчым руху, у сувязі з чым у 1849 быў вымушаны эмігрыраваць і перажыць шмат нягод. У адным з вершаў з сумам згадваў «гэтыя вандроўкі і прыгоды, што зламалі век мой малады» («Мая ўява», 1858). Тэкст твора «Гетманская магіла» (1858), прысвечанага гетману С. Жулкеўскаму, які загінуў у 1620 у бітве з туркамі, можа сведчыць пра бытнасць пісьменніка на Украіне (у Галіцыі?) і ў Румыніі. Нейкі час жыў у Лондане, дзе ў 1855 напісаў паэму «На чужой старане». У гэты ж час у Лондане знаходзіўся яго зямляк з Віцебшчыны А. Рыпінскі — можна меркаваць пра іх знаёмства, узаемны ўплыў. Паметкі пад творамі 1856—60 (Шчучын, Карсы, Осек, Зелюнь, Еленъ) не паддаюцца з пэўнасцю прывязцы да канкрэтнага рэгіёна, але хутчэй за ўсё іх трэба звязаць з Пазнанскім княствам. З эміграцыі Ю. Ляскоўскі вярнуўся паводле агульнай амністыі ў 1860. Пасяліўся ў Вільні, знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1861 удзельнічаў у антыўрадавых дэманстрацыях (спяваў патрыятычны гімн). Тады ж сваім коштам у друкарні А. Кіркора выдаў кнігу паэтычных твораў на польскай мове «Беларускі бандурыста. Зборнічак вандроўны». Для змешчаных там твораў (паэма «На чужой старане» і інш.) характэрны сувязь з беларускім фальклорам (выкарыстоўваецца часткова і ўкраінскі фальклор), шматлікія беларусізмы і беларускія рэаліі (рэкі Дзвіна, Бярэзіна, Сергуч, вёска Жаркі), патрыятычныя пачуцці, пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту. Як паэт-рамантык Ю. Ляскоўскі складваўся пад моцным уплывам заснавальніка «ўкраінскай школы» ў польскай паэзіі Б. Залескага (у творах Ю. Ляскоўскага ёсць адпаведныя прызнанні). Пра зборнік «Беларускі бандурыста» выказвалася думка («Наша ніва». 1913. № 37), што ён быў спачатку напісаны на беларускай мове. У 1870—80-я гады выступаў (часта пад псеўданімам) у польскім друку. На пачатку 80-х гадоў у Варшаве дапамагаў вядомаму педагогу К. Прушынскаму (родам з Беларусі) у рэдагаванні папулярнага выдання для народа «Gazeta Świąrteczna», на яе старонках агітаваў супраць эміграцыі сялян у Амерыку. Нейкі час рэдагаваў газету «Echo Łomżyńskie». Аўтар аповесці «У Амерыку па золата» (1888) пра цяжкае жыццё сялян-эмігрантаў з Польшчы і Беларусі, паасобных вершаў у перыёдыцы, брашур і артыкулаў на эканамічныя і сельскагаспадарчыя тэмы, напісаных з клопатам пра народны дабрабыт. У артыкуле «Слова пра песню» выявіў добрае веданне беларускай мовы і фальклору, падкрэсліваў іх багацце і самабытнасць, прывёў тэксты беларускіх (мяркуецца, уласных) вершаў «Зямелька мая» і «Пад дуду». У пісьме А. Рыпінскага А. Плугу (1883) названы ў ліку беларускіх пісьменнікаў.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Białoruski bandurzysta: Zbiorek wędrowny wierszem. Wilno, 1861.

O służebnościach. Warszawa, 1873 / Пад псеўд. J. Korabicz.

Jak przysporzyć ziemi i chleba, dla użytku sąsiadów... Warszawa; Kraków, 1883 / Пад псеўд. Marcin Mizera.

Do Ameryki po złoto, z opowiadania wędrowca, Macieja Świdra. Warszawa, 1888 / Пад псеўд. Marcin Mizera.

**1.3.**

**1871.** Odmiana losu // Jana Jaworskiego Kalendarz illustrowany na r. 1871. S. 142 / Пад псеўд. J. Korabicz.

**1882.** Słówko o pieśni // Nowiny. Nr 287—288 / Пад псеўд. J. Korabicz.

**1971.** Пад дуду; Зямелька мая... [Вершы] // Бела-

З сялянскай сям'і. Бацькі, Аляксандр Адамавіч і Зінаіда Міхайлаўна, былі калгаснікамі. Пасля сканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы М. Маляўка два гады (1959—1961) працаваў на эстакадзе Петразаводскага леспрамгаса Карэльскай АССР. У 1961—65 вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Палецкішскай сярэдняй школе Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. (1965—67). Служыў у Савецкай Арміі. Потым працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў Выдрыцкай сярэдняй школе Крупскага р-на. З 1967 загадчык аддзела пісем і масавай работы нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг». З 1969 старшы рэдактар літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё, з 1975 старшы рэдактар рэспубліканскага метадычнага кабінета Міністэрства культуры БССР, з 1976 старшы рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. З 1980 супрацоўнік часопіса «Вясёлка».

Першыя вершы М. Маляўкі «Мой сусед» і «Вясенні час» былі надрукаваны ў газеце «Чырвоная змена» ў 1957. З таго часу яго вершы, балады, байкі, казкі, апавяданні, нарысы, рэцэнзіі змяшчаюцца на старонках часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Вожык», «Вясёлка», газет «Літаратура і мастацтва», «Ніва» і інш., у штогодніках «Дзень паэзіі», калектыўных зборніках «Узлёт», «Залацінкі», «Зорка Венера», «На сцягу і ў сэрцы», «Вяснянка» і інш. Ён аўтар зборнікаў паэзіі «Едуць маразы», «Жалеза», «Лотаць», «Круг» і інш. Увагу паэта прыцягваюць родны Наднёманскі край, запаветныя коласаўскія мясціны. Шчыра, з добрай усмешкай ён умее расказаць пра паўсядзённыя справы землякоў, пра жыццё вёскі ў святы і будзённыя дні. Старонкі гераічнага мінулага свайго краю, услаўленне чалавека працы і хараства прыроды, студэнцкі побыт, маладосць і каханне — асноўныя матывы лірыкі М. Маляўкі. Вершы яго вылучаюцца напеўнасцю, меладычнасцю. Дасціпную размову з маленькімі чытачамі паэт вядзе ў кнігах «Дзед і ўнучка», «Як дом будавалі». Апошні раздзел кнігі «Аднавяскоўцы» склалі байкі, сатырычныя і гумарыстычныя творы. Паэма «Радзіны», балады, казкі, апавяданні, нарысы і рэцэнзіі вызначаюць жанравую разнастайнасць яго творчасці. Займаецца перакладам. Творы М. Маляўкі перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. Кампазітары К. Цесакоў, А. Казачкоў напісалі на яго вершы песні.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Едуць маразы: Вершы. Мн., 1966. Рэц.: Гніламёдаў У. У сувязях з жыццём // Маладосць. 1966. № 9; Кудраўцаў І. У дарозе, у пошуках // Звязда. 1966. 15 кастр.; Макаль П. Сваё і ўзятае на павер // ЛіМ. 1966. 18 ліст.; Шпакоўскі І. Пошукі і знаходкі // Беларусь. 1966. № 9.

Жалеза: Лірыка. Мн., 1970. Рэц.: Грачанікаў А. І да нашчадкаў вернемся // ЛіМ. 1970. 9 кастр.; Дзялянкоўскі М. Герой вам спадабаецца // Мін. праўда. 1970. 21 кастр.; Дукса М. Выпрабаванне глыбіні // Маладосць. 1971. № 2; Паўлюкоў П. Свежы струмень // Наст. газ. 1971. 1 студз.; Хведаровіч М. Пра рамантыку будняў // Вяч. Мінск. 1971. 13 студз.; Чаплаводская І. Высокае напружанне // Чырв. змена. 1971. 7 студз.

Лотаць: Лірыка. Мн., 1973. Рэц.: Баравікова Р. Каб не завяла лотаць... // ЛіМ. 1973. 18 мая; Дзялянкоўскі М. «Баюся спакою, як здрады» // Мін. праўда. 1973. 30 мая; Ракаў В. Адкрываць людскія душы // Полымя. 1974. № 6; Сапожков Ю. Золотой запас // Знамя юности. 1973. 14 авг.; Хведаровіч М. Хада да сталасці // Беларусь. 1974. № 12; Яфімаў Ф. Адкрываць людскія душы // Маладосць. 1974. № 4.

Круг: Вершы. Мн., 1977. Рэц.: Бялевіч А. Задушэўная споведзь // Полымя. 1978. № 4; Мятліцкі М. «За лёс Зямлі ў адказе» // ЛіМ. 1978. 18 сак.

Эстакада: Вершы і паэмы. Мн., 1982.

Дзед і ўнучка: Вершы. Мн., 1983.

Дар: Вершы і паэма. Мн., 1985. Рэц.: Дзялянкоўскі М. Праўда роднай зямлі // Наст. газ. 1985. 14 жн.; Рубін І. Шчыры дар душы // ЛіМ. 1985. 9 жн.; Турайкевіч Я. Пад песню матчыну // Мін. праўда. 1985. 11 ліп.

Салодкі лядзяш: Вершы і казкі. Мн., 1986.

Як дом будавалі. Мн., 1987. (Працу кожную шануй).

Аднавяскоўцы: Вершы; Балады; Байкі. Мн. 1988.

Зімні дождж: Вершы; Балады; Байкі. Мн., 1991.

**1.3.**

**1957.** Мой сусед; Вясенні час: [Вершы] // Чырв. змена. 13 лют.

**1958.** Па загаду сэрца; Хлеб: [Вершы] // Калг. праўда. 18 вер.; А такіх было мільёны...: [Верш] // Чырв. змена. 19 студз.; Папараць-кветка: [Верш] // Там жа. 19 жн.; Каханне: [Верш] // Там жа. 25 вер.

**1960.** У паходзе: [Верш] // Чырв. змена. 10 вер.

**1961.** Ля помніка Леніну; У дзень атрымання атэстата сталасці; Не раз другім сынам; Зіма; Гарачыня; Бярозы: [Вершы] // Маладосць. № 7; Радзіме; Пуцёўку мне, райком!; Стоўбцы; Лесаруб: [Вершы] // Там жа. № 10; Альбуцы; Атэстат сталасці: [Вершы] // Мін. праўда. 28 студз.; Карэлія; Гарачыня: [Вершы] // Чырв. змена. 10 студз.; Суёкі: З вершаў аб Карэліі // Там жа. 9 крас.; Чарніцы ў малацэ: [Верш] // Там жа. 26 ліст.

**1962.** У стэпе; Колькі верасняў; Вясна; Хай жа ўсе студэнты; На поўначы; Канцэрт на лузе; Мне сорамна; Чую галасы: [Вершы] // Маладосць. № 4; Музеі ў Альбуцы; Балада пра песню; Калі на бальнічны ложак; Без вестак прапаўшым; Дарожная брыгада; Яго не разбудзім крыкам; Не спіцца дажджам уначы: [Вершы] // Там жа. № 10; Мікалаеўшчына: [Верш] // Там жа. № 11; Чырв. змена. 31 кастр.; Пісьмо ў Карэлію: [Верш] // Чырв. змена. 10 чэрв.

**1963.** Папы; Паштовыя пераводы; Раённыя класікі: [Вершы] // Маладосць. № 8; Сесія: [Верш] // Чырв. змена. 7 мая.

**1965.** Калыскі: [Верш] // Дзень паэзіі — 65. Мн.; Ля помніка Леніну; «Не раз другім...»; «Паэтам, якія...»; Вераб'іная ноч; Хай жа ўсе студэнты...; Стоўбцы: [Вершы] // Узлёт. Мн.; Гады; Пакуль для нас не адцвілі акацыі; Не для песень, не для бронзавай славы; Косы, якія не сівеюць; Танцы; Алёнцы на карціне Васняцова; Чаму я люблю навальніцы; Казка: [Вершы] // Маладосць. № 2; Чаму я люблю навальніцы: [Верш] // ЛіМ. 23 лют.

**1966.** Малакасос: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.

**1968.** «Зрывалі з дрэў і дахаў...»; «Іх падымалі арэлі...»; Лаўровы ліст; «Апаіла маці макам...»: [Вершы] // Маладосць. № 1; У дваццаць год мы ўсе прарокі...: [Верш] // ЛіМ. 9 студз.; Ніва. 24 сак.

**1969.** Мне сорамна, я вінаваты...: [Верш] // Беларускі каляндар на 1970 год. Беласток; Трыдзевятае царства: [Верш] // Беларусь. № 3; Будзёнаўцы: [Верш] // Там жа. № 11.

**1970.** Свежыя барозны: Апавяданне // Бярозка. № 6; Брыгадзір: Апавяданне // Там жа. № 9; «Мы не загорнуты ў вату...»; Атланты; Слава; «А прывалы толькі зрэдку...»: [Вершы] // Маладосць. № 2.

**1971.** Хай жа ўсе студэнты...; «Усё далей —...»: [Вершы] // Універсітэт паэтычны. Мн.

**1972.** Жывіца; Дажджы: [Вершы] // Дзень паэзіі — 72. Мн.; Без вестак прапалі: [Верш] // Залацінкі.

Мн.; Ты паўтарыся яшчэ раз: [Верш] // Зорка Венера. Мн.; Роўны пульс: Нарыс // Беларусь. № 5; Дажджы: [Верш] // Голас Радзімы. № 33; «Не час перунам загрымець...»; «Я ў свет выплываў...»; Рана на Івана; Зялёны шум: [Вершы] // Маладосць. № 7; Каласок: [Верш] // Там жа. № 11; Ля вечнага агню; «Адзін чалавек не з горшых...»: [Вершы] // Звязда. 6 лют.; Зямныя сокі: Нарыс // Там жа. 26 мая; Продкі: [Верш] // Там жа. 18 чэрв.; Ля вытокаў была казка: Нарыс // ЛіМ. 7 крас.; Крыніца: [Верш] // Мін. праўда. 7 ліп.; Дубкі: [Верш] // Там жа. 3 ліст.

**1973.** «У жыцці спатыкаемся зрэдку...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 73. Мн.; Ля вытокаў была казка: [Нарыс] // Кім быць? Мн.; Пры святле ліўняў: [Рэц. на кн.: К а р ы з н а У. // Святло ліўня. Мн., 1972] // Звязда. 8 сак.

**1974.** «Зноў гавораць па радыё...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Працалюб: [Нарыс] // Беларусь. № 4; Жураўліная песня: Нарыс // ЛіМ 15 ліст.; Бацьку; «На памылках вучацца...»; Пакуль грымеў пярун; «Калыша жыта...»: [Вершы] // Там жа. 20 снеж.

**1975.** Першы гром!..; «Імгла. Туман сыры над рэчкай...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 75. Мн.; Зорны год; Першы праспект; Не заблудзіцеся ў блакіце; Вада ў азярынах, як лёд; Завару я чаю; Асколкі: [Вершы] // Маладосць. № 1; Школьны званок; «Разбудзіла цішыня за сценамі...»; «Мама, помню ўсё...»; «Люблю глядзець на чыстую ваду...»: [Вершы] // Маг. праўда. 22 ліст.

**1976.** Жывіца; Першы праспект: [Вершы] // Люблю будзённы дзень... Мн.; «Першы гром!..: [Верш] // Гродн. правда. 19 ферв.

**1977.** Млечны шлях: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; «Лісце, лісце...»: [Верш] // Родная прырода. № 6; Вершы з кнігі «Круг»; «Шкада і лютых завірух...»; Каліна; Над калыскай дачкі; Хлеб: [Вершы] // ЛіМ. 18 лют.

**1978.** Раб: [Верш] // Адданасць. Мн.; Балада пра лісцік; Міна: [Балады] // Беларуская балада. Мн.; Пальнік // Чырв. змена. 13 жн.

**1979.** Рэквіем; Князь; Помнік; «Прыязджаем дамоў, прыязджаем...»; Падае снег на ўспаміны...: [Вершы] // Маладосць. № 8.

**1980.** Як Вася Вясёлкін памог дзеду Марозу: [Верш] // Вясёлка. № 12; Мы родам з рэвалюцыі; Валасы Веранікі; Коні: [Вершы] // ЛіМ. 15 жн.

**1981.** Кот-казачнік: [Верш] // Вясёлка. № 3; Тут нараджаюцца «зубры»: [Апавяданне] // Там жа. № 5; Першая настаўніца: [Верш] // Там жа. № 10; Акопныя вершы // ЛіМ. 18 вер.

**1982.** Святочны касцюм; Поле; «Якая дата стане днём спакою?..»; Замак: [Вершы] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Свята паэзіі ў Мікалаеўшчыне; Белыя ночы: [Вершы] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Музеі ў Альбуці: [Верш] // Нам засталася спадчына. Мн.; Атэлье «Прамень»: Казка // Вясёлка. № 2; Млечны шлях; Забітая вёска; Дамоклаў меч; Гадзіннік з зязюляй; Сваты: [Вершы] // Маладосць. № 4; Повязь з роднай зямлёй // Там жа. № 10; Юбіляры: [Верш] // ЛіМ. 29 кастр.; Першая настаўніца: [Верш] // Ніва. 10 кастр.

**1983.** Атэлье «Прамень»: [Казка] // Вяснянка. Мн.; Спяваюць пеўні ў космасе: [Верш] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; Родам з рэвалюцыі: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Як зайцы з тушканчыкамі ў футбол гулялі // Казкі беларускіх пісьменнікаў. Мн.; Вясёлка. № 7; Сустракайце госця дарагога: [Верш] // Бярозка. № 1; Усе пяцёркі — нашы!: [Верш] // Там жа. № 9; Дамоклаў меч: [Верш] // Голас Радзімы. 24 лют.; Спяваюць пеўні ў космасе; «Як даўно мы выйшлі з дому»; Зямная праціска; Дзяўчынка ў белым плашчы; Дзеці на стрэльбішчы; Весны яблык; «Я гляджу праз часу дымку»: [Вершы] // ЛіМ. 14 кастр.

**1984.** Дарога, вецер, любоў; Апошні аўтограф: [Вершы] // Дзень паэзіі — 84. Мн.; Млечны шлях: [Верш] // За цябе, радзіма! Мн.; Хлапчуку, які запусціў папяровага змея; Падарунак; Прыгоды: [Вершы] // Бярозка. № 10; Балярына: Байка. // Вожык. № 15; Калійны хлеб: [Апавяданне] // Вясёлка. № 5; Разумная варона: З народнага: [Верш] // Там жа. № 9; Адпачывай, зямля; «Пакуль бацькі жывуць на свеце...»; Тайны; Звоніць тэлефон; Блакітныя аканіцы: [Вершы] // Маладосць. № 2; Падарунак: [Верш] // Работніца і сялянка. № 12; Зязюльчын лён; Чарамша: А. Кашароўскаму; Метэаролагі крылатыя; Ваза; «Палі бягуць на небасхіл...»: [Вершы] // Родная прырода. № 3; «І гэты дзень вясковы...»; Гледзячы на здымак: [Вершы] // Звязда. 4 ліст.; Чырвоная кніга: [Верш] // Там жа. 12 снеж.; Спадчына; Крылатыя ракеты; На вайсковых зборах; Старая яблыня; «Успамінаюцца ночы...»: [Вершы] // ЛіМ. 7 снеж.; Палі бягуць за небасхіл // Чырв. змена. 14 кастр.

**1985.** Крылатыя ракеты: [Верш] // Воляй азорыцца свет. Мн.; Лясныя сцежкі; Алея герояў: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.; Жалеза: [Верш] // Твой зорны час. Мн.; Марак; Крапіва смяецца: [Вершы] // Бярозка. № 9; Разумны дурань: [Верш] // Вожык. № 19; Шэры госць: З народнага: [Верш] // Вясёлка. № 8; Страцім-лебедзь; Дар; Да сустрэчы, сонца!; «Вітаешся яшчэ...»; Рутка; Зорка ўпала: [Вершы] // Маладосць. № 1; Балада пра вечнага марака: [Верш] // Полымя. № 5; Родам з рэвалюцыі: [Верш] // Вяч. Мінск. 6 ліст.; [Рэц. на кн.: Д е л е н к о в с к и й Н. Красота — рядом. Мн., 1984] // Голас Радзімы. 1 жн.; Малюнак; Голуб міру; Дзіцячая асамблея; Суд народаў; Касманаўты; Сустрэча з лесавозам; Хачу пабыць адзін...; Жывіце доўга, дзядзькі!; Чарніцы; Смага: [Вершы] // ЛіМ. 15 ліст.

**1.4.**

**1972.** М і р з о е ў Г. Гаспадар: [Верш] / З тадж. // Дзень паэзіі — 72. Мн.

**1973.** Н у р ы З. «Зямля мая...»: [Верш] / З тат. // Нуры З. Радасць сустрэч. Мн.; Д ж у н а л а л і я ў К. Горы: [Верш] / З каз. // ЛіМ. 19 кастр.

**1974.** М а ў л е н а ў С. Тэлеграфныя стужкі; С у л е й м е н а ў А. Яблыкі: [Вершы] / З каз. // Дзень паэзіі — 74. Мн.

**1975.** С і д а р э н к а М. Памяць: [Верш] / З рус. // ЛіМ. 26 снеж.

**1976.** А л е й н і к Б. Песня: [Верш] / З укр. // Звязда. 23 мая; С т э л ь м а х М. Маці: [Верш] / З укр. // Там жа. 1 чэрв.; К а р о ц і ч В. «На подзвіг ідучы...»: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 6 лют.; В і н г р а н о ў с к і М. Першая калыханка; К а р о ц і ч В. Канец змены: [Вершы] / З укр. // Там жа. 28 мая; К в л і в і д з е М. «Што мне рабіць?..»: [Верш] / З груз. // Там жа. 18 чэрв.

**1977.** З а й в ы й А. Праз далячынь гадоў: [Верш] / З укр. // Звязда. 16 снеж.; Д у д н і к П. Марак / З малд.; К а м і с а р а в а М. Пярэдні край / З рус.: [Вершы] // ЛіМ. 29 крас.; П е т э р с Я. Святло ў далонях: [Верш] / З лат. // Там жа. 2 вер.; Ф а т у л а е ў Г. Камуніст: [Верш] / З азерб. // Там жа. 23 вер.

**1978.** Т а ц ц я н і ч а в а Л. Шчасце: [Верш] / З рус. // ЛіМ. 6 студз.; А л е й н і к Б. «Тры бярозы растуць...»: [Верш] / З укр. // Там жа. 28 крас.

**1980.** А р а м я н Р. Фатаграфіі: [Апавяданне]; М і л і т а н я н Э. Ветразь: [Верш]; Ш а р а я н Р. Сяло баязліўцаў: Казка; Ч а р э н ц Е. Акцябронку: [Верш] / З арм. // Вясёлка. № 11 / Сааўт. пер. Т. Пагасян; С а а к я н А. Клянуся хлебам: [Верш] / З арм. // ЛіМ. 28 ліст.

**1981.** Б е р у л а в а Х. «Пад небам ясным...»: [Верш] / З груз. // ЛіМ. 20 лют.

**1982.** М у р а д з я н С. Песенька паштальёна: [Верш] / З арм. // Вясёлка. № 3; М і ш ы н А. Самалёт; Уюны: [Вершы] / З рус. // Там жа. № 8; Х а к і м а в а М. Старт; Храбры Далер; Рака: [Вершы] / З тадж. // Там жа. № 10 / Сааўт. пер. К. Камейша; М а м у р С. Апора / З тадж.; Т а н г р ы к у л і е ў К. Наша дружба / З туркм.: [Вершы] // ЛіМ. 31 снеж.

**1983.** Б а р а ў с к а с В. У-та-та: [Верш] / З літ. // Вясёлка. № 2; М і х а л к о ў С. Песенька сяброў: [Верш] / З рус. // Там жа. № 3; Ю ш ч а н к а А. Прыязджайце на Дзясну: [Верш] / З укр. // Там жа. № 6.

**1984.** Р у д а н с к і С. Ці да Кіева далёка?; Не свае ногі; Добра таргавалася: [Вершы] / З укр. // Ад круч дняпроўскіх. Мн.; Ш ы р в і с П. Помнік салдату; Жаваранкі-пеюны: [Вершы] / З літ. // Бурштынавыя пацеркі. Мн.

**1985.** А б а ш ы д з е І. Дзе ні вандраваў бы я...; А б а ш ы д з е Г. Вышыня: Урывак з паэмы; Ч ы ч ы -

н а д з е Г. Чый яблык?; Застанься з намі, ёлачка; Зайцу холадна ў завею; Берасцянка: [Вершы] / З груз. // Дружная з сонцам. Мн.; Р а ш к о ў с к і Л. Майскі жук; Спагада: [Вершы] / З рус. // Вясёлка. № 7 / Сааўт. пер. К. Камейша; Б а р а ў с к а с В. Карагод: [Верш] / З літ. // Там жа. № 11.

1.5.

**На рускую мову.** «Быстро в поезд сядем...»: [Верш] / Пер. А. Николаев // Мол. гвардия. 1967. № 5; Салаги: [Верш] / Пер. Н. Кислик // Родины сыновья. Мн., 1975; Зажинки: [Вершы] / Пер. Г. Бубнов // Неман. 1975. № 11; В голубизне не заплутайте...: [Верш] / Пер. И. Василевский // Извечной песни голоса. Мн., 1980; Тишина: [Вершы] / Пер. А. Дракохруст // Неман. 1980. № 9; В грозу; Павлинка: [Вершы] / Пер. А. Дракохруст // Биробидж. звезда. 1980. 4 мая; Рано на Ивана; Белый билет: [Вершы] / Пер. А. Дракохруст // Там жа. 1980. 1 июня; Родом из революции: Млечный Путь; Падает снег на воспоминанья; Реквием: [Вершы] / Пер. А. Аквилёв // Беларусь моя. Л., 1983.

**На ўкраінскую мову.** «Мені не сховать сорому...»: [Верш] // Комс. гарт. 1968. 18 лип.; Пробач; Зима; На лісосіці вночі; Завії: [Вершы] / Пер. М. Петренко // Калинові мости. К., 1969; «Ми не загорнуті ватою...»: [Верш] / Пер. І. Малюта // Комс. іскра. 1972. 19 серп.; Творчість: [Верш] / Пер. І. Низовий // Молодогвардієць. 1977. 13 вер.; Колосок: [Верш] / Пер. В. Гей // Молодий ленінець. 1978. 21 вер.; Зима: [Верш] // Вільна Укр. 1981. 10 жовт.; Лисички: [Верш] / Пер. Г. Кирпа // Барвінок. 1983. № 6.

2.3.

**На беларускай мове.** Г р а х о ў с к і С. Крытэрый патрабавальнасці // Полымя. 1971. № 4; М а р т ы н е н к а Т. Творчая справаздача паэта // ЛіМ. 1985. 27 вер.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р ы н я т ы ў Саюз пісьменнікаў // ЛіМ. 1971. 1 студз.; Ф е д з ю к о в і ч М. Мера адказнасці // Чырв. змена. 1976. 28 студз.; Х в а л е й Я. Што хвалюе цябе, паэт? // ЛіМ. 1974. 18 студз.

2.4.

**На беларускай мове.** К а м е й ш а К. «...Жывём з табой не на выгодзе...» (М. Маляўку): [Верш] // Камейша К. Сябрына. Мн., 1978.

*У. М. Ларчанка.*

# МАНЬКОЎСКІ ІГНАТ

*Манькоўскі Ігнат Антонавіч [крыпт. С. С. и К. М......; каля 1765, Віцебшчына — 30.12.1831 (11.1.1832), в. Мазалава Віцебскага пав.], публіцыст, асветнік, удзельнік літаратурнага жыцця на Віцебшчыне першай трэці 19 ст.*

Паходзіў з беларускай шляхты. Ранні перыяд біяграфіі нявысветлены. Ёсць звесткі, што юнацкія гады правёў у беднасці, вучыўся «ў езуітаў» (мабыць, у адным з езуіцкіх калегіумаў). Меў значныя здольнасці, пастаянна папаўняў свае веды і стаў па-еўрапейску адукаваным чалавекам. У 1783 паступіў на службу ў адну з канцылярый усходняй Беларусі, праз 4 гады — у штат беларускага генерал-губернатара перакладчыкам «па замежнай экспедыцыі». У 1793 прызначаны старшынёй дэпартамента Магілёўскага губернскага магістрата. Ва ўзросце больш за 30 гадоў рамантычнае пачуццё звязала яго лёс з зусім юнай дачкой мясцовага вяльможы А. Макавецкага — Рахіль Антонаўнай (каля 1780—1814). Ганарлівыя бацькі былі супраць яе шлюбу з бедным чыноўнікам. І. Манькоўскі паехаў у Пецярбург з пісьмом сваёй абранніцы да цара, здолеў выклікаць цікавасць і прыхільнасць імператара Паўла І, які ўзяўся быць яго сватам і апекуном. Як вясельны падарунак паводле царскіх указаў І. Манькоўскі атрымаў у 1797 у пажыццёвае ўладанне казённы маёнтак Буева пад Віцебскам, пазачарговы чын і даволі высокую пасаду саветніка ў Беларускім губернскім праўленні. Праз некаторы час набыў па суседству з маёнткам в. Мазалава і сваім разумным гаспадараннем ператварыў яе ва ўзорны маёнтак, які атрымаў назву Мілае. У 1799—1801 быў камянец-падольскім губернскім пракурорам на Украіне, потым на той жа пасадзе ў Віцебску. Памятнымі былі для яго падзеі Айчыннай вайны 1812. Сын яго, Антон, па сутнасці яшчэ падлетак, пайшоў добраахвотна ў армію з прывілеяванага пажаскага корпуса. Пры падыходзе французаў да Віцебска І. Манькоўскі эвакуіраваўся з губернскімі ўстановамі ўглыб Расіі (Вялікія Лукі, Луга). Жонка ж яго на працягу ўсёй акупацыі заставалася ў Віцебску. Маёмасць іх, як і іншых землякоў, была разрабавана акупантамі. Вярнуўшыся ў вызвалены Віцебск, І. Манькоўскі з-за адсутнасці губернатара і віцэ-губернатара ўзначаліў губернскую адміністрацыю, прыняў усе захады, каб хутчэй наладзіць жыццё ў спустошаным краі. У красавіку 1813 ён стаў віцебскім віцэ-губернатарам. Пра выпікі акупацыі Віцебска І. Манькоўскі расказаў у лісце ў рэдакцыю пецярбургскага часопіса «Сын Отечества», дзе асуджаў напалеонаўскую агрэсію і наогул усе захопніцкія войны, услаўляў подзвіг расійскіх воінаў у барацьбе з ворагам. Як віцэ-губернатар узяў пад сваю абарону герояў вайны — сялян в. Жарцы на Полаччыне, якіх праследавала жорсткая памешчыца. Пасля адстаўкі (1817) жыў у сваім маёнтку Мілае, займаўся гаспадаркай, літаратурай і навукамі. Паводле сваіх поглядаў быў блізкі да дзеячаў Асветніцтва. У 1830 прыняў удзел у конкурсе, абвешчаным пецярбургскім Вольным эканамічным таварыствам, напісаў вялікі твор, які быў адзначаны залатым медалём і надрукаваны ў часопісе таварыства. У ім І. Манькоўскі падсумаваў свой шматгадовы вопыт сельскага гаспадара і глыбокага знаўцы народнага жыцця, патрабаваў паляпшэння бытавых умоў сялянства, выказаў каштоўныя думкі па пытаннях сельскага будаўніцтва, жывёлагадоўлі, ветэрынарыі, санітарыі,

ахових прыроды і г. д. Гэты публіцыстычны дакумент быў накіраваны супраць кансерватызму і цемрашальства. І. Манькоўскі быў адным з тых беларускіх дваранскіх інтэлігентаў, якія арыентаваліся на супольнасць гістарычнага лёсу Беларусі і Расіі, у яго творах шмат цікавых этнаграфічных назіранняў. Ён захапляўся жывым беларускім словам, папулярызаваў паэму «Энеіда навыварат», трэба думаць, сам пісаў па-беларуску, у сувязі з чым многія землякі і сучаснікі лічылі яго аўтарам беларускай «Энеіды». *Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


1.3

**1813.** Письмо из Витебска // Сын отечества. Ч. 6 / Пад крыпт. С. С. и К. М.......

**1833.** Ответ на задачу, предложенную императорским Вольным экономическим обществом: «Каким образом легко и дешево исправить крестьянские сельские строения или сделать в оных полезные усовершенствования» // Труды 67-го года существования императорского ВЭО. Спб.

2.3

**На беларускай мове.** Гарэцкі М. Беларуская «Энеіда» // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 58—59; 2 выд. Вільня, 1921. С. 58—59; 3 выд. Вільня, 1924. С. 58—59; Кісялёў Г. Манькоўскі // Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971

**На рускай мове.** Маньковский К. Император Павел и Игнатий Маньковский: 1797 г. // Русская старина. 1882. № 8.

**На ўкраінскай мове.** Дорошенко Д. Білоруси і їх національне відродження // Рада. 1908. 10 груд.; Його ж. Відроджене Білоруси // Руслан. 1909. 29 лип.

3.1.

ЦДГА Расіі ў Санкт-Пецярбургу, ф. 1349, воп. 3, спр. 1377, л. 7—8; воп. 4, 1817 г., спр. 179, л. 392—394.


*Т. М. Махнач.*

# МАРАКОЎ ВАЛЕРЫЙ



*Маракоў Валерый Дзмітрыевіч [псеўд. В. Армак (з А. Мардвілкам), В. Армар (з А. Мардвілкам); крыпт. С. Ш. і В. М. (з С. Шушкевічам), 14(27).3.1909, в. Акалонія Мінскага пав., цяпер у межах Мінска — 29.10.1937, Мінск (?)], паэт, перакладчык. Член СП Беларусі з 1934.*

Нарадзіўся ў сям'і былога салдата, муляра і цеслі па прызванні, які пасяліўся каля чыгуначнай лініі на паўднёвай ускраіне Мінска (Калоніі — так яна называлася спачатку), пабудаваў там часовую хатку, а потым і даволі прыстойны дом. Пазбавіўшыся працы на чыгунцы, бацька рабіў у навакольных вёсках печы. Пасля сканчэння сямігодкі В. Маракоў нейкі час памагаў бацьку ў гэтай справе. Потым, скончыўшы Мінскі белпедтэхнікум і літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Мінскага педінстытута, 2 гады працаваў настаўнікам у Бабруйску. Яшчэ ў студэнцкія гады выязджаў на творчую практыку ў Любанскую камуну, на Рэчыцкую запалкавую фабрыку, Асінаўскую электрастанцыю. У 1927 разам з С. Шушкевічам, П. Галавачом, В. Кавалём, М. Нікановічам, І. Барашкам і некаторымі іншымі знаходзіўся ў двухтыднёвай паездцы, арганізаванай наркаматам асветы і рэдакцыяй газеты «Чырвоная змена», у Ленінград — пабачыў Царскае Сяло, Кранштат, Волхаўскую гідрастанцыю, наведаў музеі, сустракаўся з ленінградскімі пісьменнікамі і вучонымі. У 1926 прыняты ў літаратурную арганізацыю «Маладняк». Яго хутка заўважылі і высока ацанілі М. Чарот, К. Чорны, Я. Пушча. Вельмі падтрымліваў творчыя пошукі В. Маракова Я. Купала, які запрашаў да сябе ў госці, слухаў у аўтарскім выкананні вершы. У 1937 В. Маракоў быў незаконна рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957.

Першыя вершы В. Маракова надрукаваны ў 1925 у часопісах «Чырвоны сцяг» і «Маладыя араты». Потым яго вершы змяшчаліся на старонках газет «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», «Звязда», часопісах «Полымя», «Маладняк» і інш. Аўтар кніг паэзіі «Пялёсткі», «На залатым пакосе», «Вяршыні жаданняў», «Права на зброю». Вядомы як перакладчык на беларускую мову паасобных твораў М. Галоднага, П. Тычыны, А. Новікава-Прыбоя. Лірык паводле сутнасці свайго дараваня, ён у 30-я гады вымушаны быў аддаць даніну голай публіцыстычнасці. Змест творчасці В. Маракова вызначаецца пафасам маладосці, вітання жыцця, героікай рэвалюцыі і апяваннем новай явы.

*І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія


1.2.

Пялёсткі: Вершы. Мн., 1926. Рэц.: А д а м о в і ч А. А дзе ж грамадскасць? // Чырв. сейбіт. 1926. № 4; Б а р к о ў с к і С. Пойдзем піць прыгожасць сонца і вясны // Там жа. 1926. № 4; Л я в о н н ы Ю. // Сав. Бел. 1926. 25 снеж.; Я н ч у к. «Душу я выпяваю да дна» // Маладняк. 1927. № 1.

На залатым пакосе: Вершы. Мн., 1927. Рэц.: А. М. // Чырв. сейбіт. 1928. № 1; А д а м о в і ч А. // Узвышша. 1927. № 6; Б а г // Сав. Бел. 1928. 10 студз.; В е р а с В. // Полымя. 1928. № 1; З а м б р ж ы ц к і С. Не «плакаць і гарэць», а працаваць і вучыцца // Сав Бел. 1928. 15 студз.; Л я с н ы А. На залатым пакосе // Звязда. 1928. 15 студз.; Р а й д І. // Маладняк. 1928. № 2.

Вяршыні жаданняў. Паэзія. Мн. 1930. Рэц.: Г а л у б о к Э. // Полымя. 1931. № 1; С я д у р а У. Пра «Вяршыні жаданняў» Вал. Маракова // Маладняк. 1931. № 1.

Права на зброю: Вершы. Мн., 1933. Рэц.: К л і м к о в і ч М. Пра кніжку В. Маракова «Права на зброю» // ЛіМ. 1934. 12 студз.

Лірыка. Мн., 1959. Рэц.: В а с і л ь е ў К. Мовaю сэрца // ЛіМ. 1960. 1 ліст.

Вяршыні жаданняў: Вершы, паэмы. Мн., 1989. (Спадчына).

1.3.

**1925.** Піянерыя: [Верш] // Бел. піянер. № 8; Піянерская восень: [Верш] // Там жа. № 11; Гораду: [Верш] // Маладыя араты. № 12; Чырв. змена. 22 кастр.; «Толькі раніцай сонца як гляне»: [Верш] // Чырв. сцяг. № 5—6; «Зялёны месяц над ракой...»: [Верш] // Там жа. № 7; А цяпер...: [Верш] // Бел. вёска. 3 ліст.; Тыя дні: [Верш] // Там жа. 10 ліст.; «Ой, не радасна шуміць дуброва»: [Верш] // Сав. Бел. 1 ліст.; З вёскі: [Верш] // Там жа. 19 ліст.; «Б'ецца вецер над далінай...»: [Верш] // Там жа. 29 ліст.; «Белае зімняе поле...»: [Верш] // Там жа. 6 снеж.; «Песні, песні юнацкага слова...»: [Верш] // Там жа. 22 снеж.; У лесе: [Верш] // Чырв. змена. 12 кастр.; Гораду: [Верш] // Там жа. 22 кастр.

**1926.** Па бярозавым шляху: [Верш] // Маладняк. № 2; Я верыў тады: [Верш] // Там жа. № 3; «Над сінім лесам, шэрым полем...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Пеў пякучыя песні свае салавей...»: [Верш] // Там жа. № 6; «Нашто глядзіш так мне ў вочы...»: [Верш] // Маладыя араты. № 14; Кастрычнік: [Верш] // Там жа. № 18; Чырв. Полаччына. 6 ліст.; «Над прасторам ніў і над квяцістым лугам...»: [Верш] // Полымя. № 3; «Зноў прыйшла, прыйшла ты...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Тут так хораша, свету так многа...»; «Палюбіў я асенняе ранне...»; «Помніш ты, быў ціхі, ціхі вечар...»: [Вершы] // Там жа. № 7; Ноч запаліла...: [Верш] // Сав. Бел. 22 жн.

**1927.** «Была восень у роднай краіне...»: [Верш] // Маладняк. № 1; «О, вясна...»: [Верш] // Там жа. № 2; «Мне хочацца любіць...»: [Верш] // Там жа. № 3; Маці: [Верш] // Там жа. № 7—8; З цыкла «Гудкі»: [Верш] // Полымя. № 1; Маўрытанка; «У гэтай цемры бязрадаснай ночы...»: [Вершы] // Там жа. № 3; На прыволлі: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 6—7; «Мой родны край, ізноў я тут...»: [Верш] // Там жа. № 8—9; Памяці Сака і Ванцэці: [Верш] // Звязда. 24 жн.; Дзесяць год: [Верш] // Сав. Бел. 11 вер.; Кастрычнік: [Верш] // Чырв. Палессе. 7 ліст.; «Цяпер у грудзях другія словы...»: [Верш] // Чырв. змена. 21 студз.; Маладнякоўская ўдзячнасць // Там жа. 1 чэрв. / Сааўт. М. Нікановіч, В. Каваль.

**1928.** «Мой родны край, ізноў я тут!..: [Верш] // Дэкламатар. Мн.; Цыганка: [Верш] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 19; Працаўнік асветы. № 19; Новыя вершы // Маладняк. № 4; [Рэц. на кн.: К у л і к І. Антология «Американской поэзии» К., 1928] / Пад псеўд. В. Армар. Сааўт. А. Мардвілка; «Мне не забыць былыя вечары...» // Там жа. № 8; «Адсумаваўшы маладосць сваю...»: [Верш] // Там жа. № 11; Аднаўленая зямля: Да дзесяцігоддзя Сав. Беларусі: Паэма // Там жа. № 12; Чуеш, Беларусь?: [Верш] // Полымя. № 7; «За чужое шчасце і любоў...»: [Верш] // Там жа. № 8; «Ён адчыніў акно...»: [Верш] // Там жа. № 9; Беларусі; Цішку Гартнаму: [Вершы] // Там жа. № 10; «Доўга, доўга стаяў над вакном я і марыў...»: [Верш] // Узвышша. № 1; Пры дагараючым кастры: [Верш] // Заря Запада. 15 янв.; За 12 дзён: (З падарожжа маладнякоўцаў па Украіне) // Звязда. 25 ліп.; «Ёсць лепшы свет...»: [Верш] // Чырв. змена. 18 ліст.; З «рабінавай ночы»: Уступ да паэмы // Там жа. 25 ліст.

**1929.** Камсамолу Мазыршчыны: [Верш] // Маладняк. № 4; Муляр: Паэма; Гутарка з карэспандэнтам «Маладняка» // Там жа. № 7; «Жыццё, як мора-акіян...»: [Верш] // Там жа. № 10; «На гэтых пройдзеных шляхах...»: [Верш] // Паляўнічы Бел. № 11—12; Мая паэма: Паэма // Полымя. № 1, 4, 5; Урывак з паэмы «Муляр» // Прафрух на Бел. № 15—16; Паўлюку Трусу: [Верш] // Звязда. 3 вер.; Сав. Бел. 3 вер.; Восень: [Верш] // Сав. Бел. 8 снеж.; Я веру: [Верш] // Чырв. змена. 7 крас.

**1930.** «Пракрычалі пеўні ў ночы...»: [Верш] // Вясна. № 4; Заяц: [Верш] // Паляўнічы Бел. № 1; «Калі растрачаны пачуцці...»: [Верш] // Там жа. № 2; [Рэц. на кн.: Б а р б ю с А. Розныя факты. Мн., 1929] // Полымя. № 3 / Пад псеўд. В. Армак. Сааўт. А. Мардвілка; Янку Купалу: [Верш] // Там жа. № 5—6; Калгасная песня: [Верш] // Калгаснік Бел. 10 вер.; «Гукі матораў і радыё...»: [Верш] // Сав. Бел. 5 студз.; Парогі паміраюць: [Урывак з паэмы] // Там жа. 12 студз.; Хроніка Белдзяржкіно кульгае // Там жа. 17 студз. / Сааўт. Ч. Барысевіч; Чуеце голас антэн...: [Верш] // Там жа. 21 студз.; «Там дзесьці ў цемры туманных вякоў...»: [Верш] // Там жа. 28 студз.

**1931.** «Шануй, мой голуб, маладосць...»: [Верш] // Маладняк. № 2; «Страшныя сны навеяла гісторыя...»; «Я помню, яблыні цвілі...»: [Вершы] // Там жа. № 5; «Сінімі шляхамі на ружовы шлях»: [Верш] // Полымя. № 3; Леніну: [Верш] // Чырв. Бел. № 1; Адтуль, дзе палыхаюць домны: [Верш] // Там жа. № 3; «Горад грыміць і грыміць»; «Стаю прад Пушкіным адзін...»: [Вершы] // Там жа. № 11—12.

**1932.** Ля кастра чалавечага ўсходу падзей: [Верш] // Беларусь калгасная. № 8; Новыя вершы: Лірычны цыкл // Маладняк. № 1; Мой дзень пачынаецца на фабрыцы: [Верш] // Там жа. № 4; Расплачваецца за маладосць: [Верш] // Чырв. Бел. № 14; Мой сябра Мікола Капусцін: [Верш] // ЛіМ. 15 чэрв.; Ліст паэту Петрусю Броўку: [Верш] // Там жа. 10 ліп.; Дарогаю ў штаб: Максіму Горкаму: [Верш] // Сав. Бел. 25 вер.

**1933.** Мая каханая — рэдактар газеты: [Верш] // Заклік. № 2; Пісьменнікі і крытыка ў 1933 годзе //

ЛіМ. 28 студз.; Адна партыя ў валейбол: [Верш]; Пра паэзію // Там жа. 26 чэрв.; На варце; Камісар; Пачастунак: [Вершы] // Там жа. 13 жн.

**1934.** Першы снег: [Верш] // Іскры Ільіча. № 12 / Сааўт. Т. Кляшторны, А. Дудар; Майскім маршам: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 9; Віцеб. пралетарый. 2 кастр.; Калгаснік Бел. 1 мая; Жыццё за нас: [Верш] // Работніца і калгасніца Бел. № 4; Героі краіны Саветаў: [Верш] // Там жа. № 9; Слова беларускай савецкай рэспублікі: [Верш] // ЛіМ. 31 студз.; Мы ўключаем сваю маладосць: [Верш] // Там жа. 6 сак.; Маладыя сэрцам: На алімпіядзе самадзейнага мастацтва // Там жа. 18 крас.; Жыццё ў цвеце: [Верш] // Там жа. 13 жн.; Голас паэта: [Верш] // Там жа. 18 жн.; Пілот: [Верш] // Там жа. 25 жн.; Памяці тав. Кірава: [Верш] // Там жа. 30 снеж.; «Б'еццa мора аб бераг круты...»; «Ляжу і слухаю ўночы...»; «Было кругом, як у прыгожай байцы...»: (Вершы з цыкла «Пальмы даліны») // Там жа. 31 снеж.; За край камуны: [Верш] // Піянер Бел. 26 лют.; Насустрач ветру: (Урывак з новай паэмы) // Чырв. змена. 5 студз.; Маладая кроў рэспублікі: [Верш] // Там жа. 1 сак.; На варце: [Верш] // Там жа. 23 сак.; Мы дзён шчаслівых кавалі: [Верш] // Там жа. 13 крас. / Сааўт. Т. Хадкевіч.

**1935.** Байка пра Мішу і Зайку: [Верш] // Іскры Ільіча. № 1 / Сааўт. Т. Кляшторны, А. Дудар; На дарозе: [Верш] // ЛіМ. 16 вер.; Песня перамог: [Верш] // Піянер Бел. 6 лют. / Сааўт. Т. Кляшторны.

**1958.** Ля кастра чалавечага ўсходу надзей...; [Верш] // ЛіМ. 26 лют.

**1961.** «Белае зімняе поле...»; Леніну; Першы дзень на запалкавай фабрыцы: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2.

**1969.** Леніну: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.

**1970.** Леніну: [Верш] // З Леніным заўсёды Беларусь. Мн.

**1.4.**

Н о в і к а ў - П р ы б о й А. Па-цёмнаму: Апавяданні / З рус. Мн., 1931.

**1932.** Э м і С я о. Нанкін Род: [Верш] / З кіт. // Маладняк. № 4; Чырвонаарм. праўда. 26 ліп.

**1933.** Э м і С я о. Памяці Кантонскай камуны: [Верш] / З кіт. // ЛіМ. 22 лют.; Б р а н е ў с к і В. На смерць таварыша: [Верш] / З пол. // Там жа. 2 чэрв. / Пер. пад крыпт. С.Ш. і В. М. Сааўт. пер. С. Шушкевіч.

**1934.** Т ы ч ы н а П. Песня Чырвонай Арміі: [Верш] / З укр. // Полымя рэвалюцыі. № 9; Ц і х а н а ў М. Вясна ў Дэнау, або начное ворыва трактарамі «Вілліс»: [Верш] / З рус. // Звязда. 15 жн. Г р а ч ы л Х. Маё дзяцінства: [Верш] / З арм. // Там жа. 1 вер.; Г і д а ш А. Калоніі крычаць: Два ўрыўкі: [Вершы] / З венг. // ЛіМ. 6 сак.; С у л е й м а н з Ашуга Сталі [Стальскі С.] «Праз гор, цяснін бяскрайніх шыр...»: [Верш] / З лезг. // Там жа. 31 жн.

**1935.** Д у д з і н М. Мы адыходзім; К р а е ў С. Песня пра вінтоўку: [Вершы] / З рус. // Атака. Мн. Альм. 1; Г а л о д н ы М. Навальніца; Я пра цябе: [Вершы] / З рус. // Полымя рэвалюцыі. № 11.

**1936.** П у ш к і н А. Помнік: [Верш] / З рус. // ЛіМ. 6 студз.; Б е д н ы Д. Чырвонаму байцу: [Верш] / З рус. // Там жа. 27 мая; Я г о ж. Савецкі вартавы: [Верш] / З рус. // Там жа. 1 жн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Слышишь, Беларусь...; «Хрипло гудок просвистел...»; «Думы с тенями, а с думами тени...»; «Зеленый месяц над рекой...»; «Белое зимнее поле...»: [Вершы] / Пер. Л. Лавров // Сборник белорусской поэзии. М.; Л., 1930.

**На ўкраінскую мову.** Чуєш, Білорусь?: [Верш] / Пер. С. Голованівський // Гарт. 1928. № 12; Біле зимове поле: [Верш] / Пер. Т. М. // Молодняк. 1928. № 2; Знову холод і вечір, і синя пітьма...: [Верш] / Пер. М. Хмарка // Там жа. 1928. № 9; Над рікою / Пер. Т. Масенко; Знову холод і вечір / Пер. М. Хмарка: [Вершы] // Нова Білорусь. К., 1929; Леніну: [Верш] / Пер. Ю. Петренко // Білоруська радянська поэзія. 1971. Т. 1.

**На яўрэйскую мову.** Тыдзень: [Верш] / Пер. Ліўшыц // Паэзія БелАПП. Мн., 1931.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а р к о ў с к і С. Валеры Маракоў // Маракоў В. Лірыка. Мн., 1959; Я г о ж. Лірыка Валерыя Маракова // ЛіМ. 1958. 26 лют.; В я с н о в ы А. Бываюць і такія крытыкі // Сав. Бел. 1929. 31 сак.; Г а р э ц к і М. «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—28 // Максім Гарэцкі. Мн., 1984. С. 282—284; Г і л е в і ч Н. Акрыленая рэвалюцыяй. Мн., 1962. С. 115—117, 122; З в о н а к А. «Запісаны ў полк Акцябра...» // Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973. С. 145—150; К у ч а р А. Валеры Маракоў: Літ. партрэт // Маладняк. 1929. № 7; Л е в і н С. Нататкі пра творчасць Валерыя Маракова // ЛіМ. 1933. 26 ліст.; Л у ж а н і н М. Думкі пра паэзію Валерыя Маракова // Узвышша. 1930. № 8; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С я д у р а У. Камсамол у беларускай паэзіі // Маладняк. 1932. № 1; Х а т у л ё ў П. Супраць безадказных адносін да класікі // ЛіМ. 1936. 26 крас.; Ш у ш к е в і ч С. З Вялікаморскай вуліцы // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; Я г о ж. Залаты пакос паэта // ЛіМ. 1979. 23 сак.; Я г о ж. На залатым пакосе // Там жа. 1984. 30 сак.;

**На рускай мове.** П р а з д н о в а н и е 40-летнего юбилея М. Горького в Минске // Рабочий. 1932. 28 сент.; Т в о р ч е с к а я р а б о т а // Рабочий. 1929. 22 окт.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Х в е д а р о в і ч М. Сябру: [Верш] // Хведаровіч М. Пасля навальніцы. Мн., 1965.

*Г. І. Рэут.*

# МАРАХОЎСКІ ІЛЬЯ

*Марахоўскі Ілья (свецкае імя Іразім Стафанавіч, каля 1576, Львоў — 1631, Уладзімір Валынскі), пісьменнік-палеміст, палітычны і царкоўны дзеяч, уніяцкі ўладзіміра-брэсцкі мітрапаліт.*

З сям'і львоўскага шляхціца герба Корчак, жанатага з гараджанкай. У канцы 1595, магчыма, з ганаровай світай уніяцкіх епіскапаў, уладзіміра-брэсцкага Іпація Пацея і луцкага Кірылы Тарлецкага, быў накіраваны ў Рым на вучобу ў папскі калегіум, куды быў залічаны ў 1596 паводле хадайніцтва кардынала Севярына. У Рыме займаўся на працягу 7 гадоў, вывучаў тэалогію і філасофію. У красавіку 1603 прыбыў у Польшчу з рэкамендацыйнымі лістамі да епіскапа Бернарда Мацяеўскага і папскага нунцыя Ранганега. Дзякуючы ім пасля прыезду ў Кракаў ён прадстаўлены каралю Жыгімонту III Вазе і мітрапаліту Іпацію Пацею. Відаць, тады ж Ілья Марахоўскі працаваў у канцылярыі мітрапа-

літа, выконваў функцыі сакратара. У 1608—09 па даручэнні Іпація ён займаўся вырашэннем спрэчкі паміж Іосіфам Руцкім і архімандрытам віленскага манастыра св. Троіцы Самуілам Сянчылам, які не прымаў царкоўнай уніі 1596. Звязаўшы свой лёс з мітрапалітам, Ілья Марахоўскі ў 1612 стаў членам уніяцкага ордэна св. Базыля. Мяркуюць, што ён у сааўтарстве з Іпаціем напісаў кнігі «Гармонія» і «Рэляцыя», выдадзеныя ў Вільні ў 1608 і 1609. У 1609 кароль прызначыў Ілью Марахоўскага сваім сакратаром на Вялікае княства Літоўскае, а потым зрабіў яго пераемнікам мітрапаліта на Уладзіміра-Брэсцкім епіскапстве. Пасля смерці Іпація (1613) кароль выдаў Ільі Марахоўскаму свой прывілей на гэтае епіскапства. Валынская шляхта, незадаволеная дзеяннямі епіскапа, на сейме 1616 дамагалася ад караля яго замены. Ілья Марахоўскі, калі быў епіскапам, прымаў актыўны ўдзел ў з'ездзе уніятаў у Навагрудку (1624), дзе стаяла пытанне аб пашырэнні царкоўнай уніі за кошт далучэння да яе праваслаўных, а таксама ў рабоце Кобрынскага сінода 1626, на якім абяцаў выдаць 2000 злотых на ўтварэнне уніяцкай семінарыі. Разам з езуіцкім епіскапам Ераміяй Пачапоўскім напісаў рэляцыю каралю і папскаму нунцыю ў Варшаву.

Як абаронца уніі выступіў супраць палемічнапубліцыстычнага твора Мялеція Сматрыцкага «Трэнас». У кнізе «Парэгорыя...», выдадзенай у Вільні на польскай мове ў 1612, асудзіў ідэалогію брацкага руху. У 1622 выдаў у Замосці (таксама на польскай мове) «Размову аб пачатку разарвання грэчаскай царквы з рымскім касцёлам і хто быў таго прычынаю...» А праз два гады ў тым жа Замосці надрукаваў пераклад з грэчаскай мовы «Жыцця св. Ігнація, патрыярха царгародскага». Яму ж прыпісваецца «Рэляцыя аб жорсткім забойстве Іасафата Кунцэвіча, полацкага архіепіскапа» (Замосце, 1624). Пакінуў завяшчанне, паводле якога кіраванне епархіяй даручалася Іосіфу Руцкаму. *А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


**1.2**

Paregoria, albo Utulenie uszczypliwego lamentu mniemanej cerkwie wschodniej zmyslonego Theophila Ortologa. Wilno, 1612.

Dyskurs o początku rozerwania cerkwi greckiej od kosciola rzymskiego. Wilno, 1622.

De nece Rev. Patri J. Kuncewicz, archiepiscopo Polocensi, Vitebsci, atrociter illata. Zamosci, [1624].

Relacya o zamordowaniu Jozaf(ata) Kuncewicza archiepiskopa połockiego... Zamość, 1624.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 320, 324.

**На рускай мове.** История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 173, 175, 187.


*Т. М. Махнач.*

# МАРАШЭЎСКІ КАЯТАН

*Марашэўскі Каятан (гады нараджэння і смерці невядомыя), беларускі і польскі драматург 2-й паловы 18 ст., выкладчык рыторыкі і паэтыкі Забельскай дамініканскай калегіі (цяпер в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.). Біяграфічных звестак не захавалася.*

К. Марашэўскі — аўтар беларуска-польскай «Камедыі», пастаўленай у 1787 у Забельскім школьным тэатры. Гэта тыповая драма-маралітэ. Напісана яна ў адпаведнасці з эстэтыкай класіцызму, у ёй праўдзіва паказваецца сялянскае жыццё, праводзіцца асветніцкая думка, што шчасце чалавека залежыць не ад боскага наканавання, а ад уласных учынкаў. Нягледзячы на сваю рытарычнасць і зададзенасць, «Камедыя» мае несумненныя мастацкія вартасці, якія ставяць яе ля вытокаў новай беларускай літаратуры. Напісана яна жывой гутарковай мовай. У творы адчуваецца моцны ўплыў барочных інтэрмедый, якія ўпершыню ў беларускай літаратуры 18 ст. сінтэзуюцца ў камедыю. Ідэі Асветніцтва знайшлі адлюстраванне і ў польскамоўнай трагедыі К. Марашэўскага «Свабода ў няволі», галоўны герой якой, рымскі палкаводзец Велізарый, вышэй асабістых інтарэсаў ставіць інтарэсы радзімы. Абодва творы захаваліся ў рукапісным зборніку, які зберагаецца ў бібліятэцы Літоўскай АН. Упершыню поўны тэкст «Камедыі» апублікаваў (у адпаведнасці з арыгіналам — лацінкай) акадэмік У. Перацц (1911). У наш час перадаецца кірыліцай. Сюжэт «Камедыі» выкарыстоўваўся беларускімі драматургамі (Ф. Аляхновіч і інш.). Яна ставілася ў Мінску (1991). *А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1911.** Камэдыа // Известия ОРЯС. Т. 16. № 3.

**1920.** «Камэдыя» // Беларусь. 20 мая.

**1923.** З «Камедыі» Марашэўскага: [Урывак] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.

**1925.** Камедыя // Выпісы з беларускай літаратуры. М; Л. Ч. 1.

**1959.** Камедыя // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн.

**1975.** Камедыя // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн. Т. 1.

**1978.** Камедыя // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн.

**1979.** З «Камедыі» К. Марашэўскага: [Урывак] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Аляхновіч М., Тамашэвіч Т. Фразеалагізмы ў камедыі К. Марашэўскага // Слова, фразеалагізм і кантэкст. Мн., 1979; Ахрыменка П. Развіццё драматургіі: Школьныя драмы, інтэрмедыі, камедыі і батлейка // Ахрыменка П., Ларчанка М. Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1968. С. 153—155; Гарэцкі М. Літаратурныя творы ў XVII—XVIII веку // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. 4 выд. Мн., 1926. С. 98—99; Гісторыя беларускага тэатра: У 3 т. Мн., 1983. Т. 1. С. 170—176; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 427—429; Зарэмба Т. Ці камедыя «Камедыя», альбо З радаводнай нацыянальнага характару: Да 200-годдзя «Камедыі» Каятана Марашэўскага // Мастацтва Бел. 1987. № 12; Карскі Я. // Беларусь. 1920. 12 мая; Колас Г. «Чы гараст, сподару?» // ЛіМ. 1988. 1 студз.; Майхровіч С. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст. Мн., 1980. С. 218—223; Мальдзіс А. Вакол Парнаса Забельскай калегіі // Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974; Яго ж. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 329—335; Семяновіч А. Аб вытоках беларускай драматургіі // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. 1; Яго ж. «Камедыя» К. Марашэўскага // Семяновіч А. Гісторыя беларускай драматургіі: XIX — пачатак XX ст. Мн., 1985; Усікаў Я. Беларуская камедыя. Мн., 1979. С. 72—110; Яго ж. Беларуская камедыя: (Ля вытокаў жанру). Мн., 1964. С. 129—130, 150—195; Ціванова Г. Дзеяслоўныя формы ў творах беларускай драматургіі XVIII ст. // Бел. мова. 1983. Вып. 11.

**На польскай мове.** K. S.: Zaczątek białoruskiego teatru // Słowo. 1935. Nr 12; Sołoduch A. Bibliografia // Prz. Wileński. 1923. Nr 7.

**На рускай мове.** Барышев Г. Театральная культура Белоруссии эпохи феодализма: (Историко-хронологич. очерк) // Вопросы культуры и искусства Белоруссии. Мн., 1983. Вып. 2; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 309—312; Карский Е. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3. Вып. 2. С. 228—231; Конон В. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978. С. 145—146; Перетц В. К истории польского и русского народного театра // Известия ОРЯС. 1911. Т. 16. № 3.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Аляхновіч Ф. Птушка шчасця: П'еса ў 3 акт. Вільня, 1922. *Т. М. Махнач.*

# МАРДВІЛКА АРКАДЗЬ



**Мардвілка Аркадзь Пятровіч [псеўд. В. Армак (з В. Мараковым), В. Армар (з В. Мараковым), А. Вясковы, А. Лясны, Андрэй Лясны, Аркадзь Лясны; крыпт. А. Л., А. М., А. М-ка; 24.8.1905, в. Языль Бабруйскага пав., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл.— 27.10.1986, Ташкент, пахаваны на Дамбрабадскіх могілках № 2], празаік, крытык, перакладчык.**

Бацька А. Мардвілкі быў народным настаўнікам, а потым святаром. У першую сусветную вайну лёс закінуў сям'ю ў г. Уладзімір, дзе ў студзені 1916 А. Мардвілка паступіў у гімназію. Вярнуўшыся на Беларусь, працягваў вучобу ў слуцкай гімназіі. Філалагічныя схільнасці і жаданне займацца літаратурнай справай прывялі А. Мардвілку ў Мінск, дзе ён стаў сябрам «Маладняка», потым членам БелАПП. Адукацыю набыў спачатку на Фанетычных курсах новых моў у Ленінградзе (1926—27), на педфаку БДУ (1927—29) і на Вышэйшых курсах новых моў пры 2-м Маскоўскім дзяржаўным універсітэце (1929—30). З 1931 выкладаў англійскую мову ў Беларускім аўтадарожным інстытуце. У 1933 незаконна рэпрэсіраваны і асуджаны да трох год пазбаўлення волі. У той перыяд (1933—35) працаваў перакладчыкам англійскай тэхнічнай літаратуры ў Тэхнічным аддзеле Масквалгабуда. Рэабілітаваны ў 1988. З 1935 жыў у Ташкенце. Быў выкладчыкам англійскай мовы ва Усесаюзным НДІ бавоўнаводства, потым ва Узбекскім універсітэце (Самарканд, 1939—41). З 1942 да 1946 выкладчык Ташкенцкага сельскагаспадарчага інстытута.

З фр. Мн., 1982. Рэц.: К а з ы р а Л. Сустрэча з камісарам Мегрэ // ЛіМ. 1983. 4 сак.

С е н т — Э к з ю п е р ы А. дэ. Планета людзей: Выбранае / З фр. Мн., 1984. (Б-ка замеж. прозы).

К а с т э н к а Л. Лірыка / З укр. Мн., 1989.

С е н т-Э к з ю п е р ы А. дэ. Маленькі прынц: Казка / З фр. Мн., 1989.

Ш ы м б о р с к а В. Свет, варты вяртання: Лірыка / З пол. Мн., 1991.

**1967.** Н е й х а ў з В. Дзяўчына з «царства невадаў»: Апавяданне / З ням. // Работніца і сялянка. № 4.

**1968.** Ш т а й н і г е р К. Падзяка дваццацігадовага; Ш т р о й б е л ь М. Ноч у ноч: [Вершы] / З ням. // Пярэднія выйшлі ў заўтра. Мн.; Э м е М. Трысціна / З фр. // Беларусь. № 10.

**1969.** А р а г о н Л. Пакінула мяне: [Верш] /З фр. // Дзень паэзіі — 69. Мн.; С л а в а ц к і Ю. «Айчына нясчасная...»; Гімн; «О дайце мне шматок зямлі...»: [Вершы] / З пол. // ЛіМ. 5 вер.; Ш ы л е р Ф. Парука: Балада / З ням. // Там жа. 11 ліст.

**1970.** Х р у с ц я л е ў с к і Т. Храм Васіля Блажэннага; К а н а н о в і ч М. Лодзь: [Вершы] / З пол. // Маладосць. № 6; Х р у с ц я л е ў с к і Т. Касцёлак пад Алесна: [Верш] / З пол. // ЛіМ. 24 ліп.; К а н а н о в і ч М. Зямля Адамавай маладосці: [Верш] / З пол. // Там жа. 11 вер.; Б е р а н ж э П. Ластаўкі: [Верш] / З фр. // Там жа. 2 кастр.

**1971.** М і ш э л ь Л. Маніфест міру; Песня турмаў; Версаль — сталіца; Тым, хто хоча застацца рабамі; Зіма і ноч; На борце «Віргініі»; У паўночных марах: [Вершы] / З фр. // Паэты Парыжскай Камуны. Мн.

**1972.** К а н а н о в і ч М. Ю. Зямля Адамавай маладосці; Ч а р н ы Я. Возера ў Высокай; Наваселле; Бацька і сын; Х р у с ц я л е ў с к і Т. Касцёлак пад Алесна; А х о ц к і М. Зацёртыя сляды; Ш т а й н е р т Б. Мікельанджэла; «Любыя, бога нярэдка...»; З а ж ы ц к і Э. Буслы; А р л е ў с к і Р. Накцюрн; К у з ь н я к М. Ліст.; Х р у с ц я л е ў с к а я Д. «Эпікур шчаслівы...» [Вершы] / З пол. // Горад мільённы і мы. Мн.; К у з ь н я к М. Ліст.; Ш т а й н е р т Б. Мікельанджэла: [Вершы] / З пол. // Полымя. № 2.

**1973.** К а н т Г. Дзень каранацыі; К у н а р т Г. Берлінскія мураванкі: [Апавяданні] / З ням. // Незабыўны дзень. Мн.

**1974.** С л а в а ц к і Ю. Мой запавет: [Верш] / З пол. // Дзень паэзіі — 74. Мн.

**1977.** Х р у с ц я л е ў с к і Т. Касцёлак пад Алесна: [Верш] / З пол. // Хрусцялеўскі Т. На слядах майго дома. Мн.; Л ь в о в і ч М. Ластаўка; Пераклад: [Вершы] / З укр. // ЛіМ. 9 снеж.

**1978.** Ш ы м б о р с к а я В. Сябрам; Прытча; Нацюрморт з паветраным шарыкам; За кілішкам віна; Шчаслівае каханне; Не бывае двойчы: [Вершы] / З пол. // Далягляды. Мн.

**1979.** Г а ў р ы л ю к А. Песня з Бярозы: Паэма / З укр. // Гаврилюк О. Пісня з Берези. Львів; Б ж э х в а Я. Сарока; Лайдак; Г е л ь н е р а в а Д. Певень: [Вершы] / З пол. // Вясёлка. № 10; Т а к а р с к а я Г. Кармленне птушак; «Што ім засталося па тых дзівосных начах...»; «Пад маімі вокнамі не растуць сланечнікі...»: [Вершы] / З пол. // Работніца і сялянка. № 11.

**1980.** Р а с і н с к а я М. Цяпэк падае прыклад: [Апавяданне]; Я л о в е ц Я. Як паэт піша вершы; Г р а х о в я к С. Лясы і ружы: [Вершы] / З пол. // Вясёлка. № 12.

**1981.** Б ж э х в а Я. Сарока: [Верш] / З пол. // Вясёлка. Мн.; К а с т э н к а Л. «Паміраюць майстры, пакідаюць памяць, як рану...»; «Жыццё ідзе, і ўсё без карэктур...»; «Штогод я сведкаю — вясной, у маі...»; «Старэнькая кабета! Магда?.. Эльза?..»; Пінг-понг; «Такі чужы і — як наканаваны...»; «І не мінае, не мінае!..»; «Не гавары журботнымі вачыма...»; «Што ў нас было? Каханне й лета...»; «Перабірае струны бор сасновы...»: [Вершы] / З укр. // Далягляды. Мн.; А с т а ф ' е в а Н. «Зноў нечаму душа хвалу пяе...»; «У далёкай у далечы, пад глухімі снягамі...»; Сурыкаў: [Вершы] / З рус. // Работніца і сялянка. № 7.

**1982.** М а х П. «Плывуць гады, нібы жыты...»; «Адцалавалі пчолы...»; Ажыны; Туга; «Закружыўся ў ветры жаўталіст...»: [Вершы] / З укр. // ЛіМ. 28 мая.

**1984.** М а х П. Згадка ў Львове; «Стаміўся шум...»: [Вершы] / З укр. // Заря. 25 мая.

**1985.** М е р ы м э П. Матэа Фальконэ; Федэрыка: [Навелы] / З фр. // Далягляды. Мн.

**1.5.**

**На англійскую мову.** I thought that it was spring alone i loved...; How long it is the storks have not appeared...; There Lived Once on a Time a River / Transl. W. May // Fair Land of Byelorussia. M., 1976.

**На армянскую мову.** Мая доля: [Верш] // Айястані ашхатаворуі. 1983. № 1.

**На казахскую мову.** Терезе алдындагы ой: [Верш] // Лениншіл жас. 1972. 21 апр.

**На канада мову.** [Верш] / Пер. Б. Хінгамірэ // Анталогія беларускай паэзіі. Дхарвад, 1985.

**На літоўскую мову.** Dekingumas / Vert. M. Kudarauskaite // Komjaunimo tiesa. 1975. Kovo 14.

**На польскую мову.** Jesień / Tł. J. Huszcza // Odgłosy. 1974. Nr 49.

**На рускую мову.** Неутоленность: Лирика / Пер. С. Кузнецова. М., 1979. Рэц.: К о л е с н и к В. Концепция счастья // Заря. 1979. 20 сент.; С е м а ш к е в и ч Р. Созвучье помысла и дела // Неман. 1980. № 9.

Дождинка: [Верш] // Знамя юности. 1971. 12 марта; Восьмистишие; Просьба; Дождинка: [Вершы] / Пер. С. Макаров // Аврора. 1972. № 9; Благодарность: [Вершы] / Пер. И. Василевский, С. Макаров // Неман. 1972. № 6; Сидя у окна...; Просьба; «Ты тишину нависшую отринь...»; Осеннее: [Вершы] / Пер. С. Макаров // Знамя юноси. 1972. 7 апр.; Дождинка: [Верш] / Пер. С. Макаров // Кодры. 1974. № 2; Беспокойство: [Верш] / Пер. И. Бурсов // ЛГ. 1974. 18 дек.; «Я думала, люблю одну весну...»; «Моя доля...»: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // ЛГ. 1975. 5 марта; Добрыми глазами: [Вершы] / Пер. Б. Пчелинцев // Неман. 1976. № 3; Возле Березовской ГРЭС; Дождинка; Ночь опять цыганкой по приметам...; Огонь в ночи: [Вершы] / Пер. И. Василевский // Извечной песни голоса. Мн., 1980; Колыбельная маме: [Верш] // Сел. газ. 1980. 8 февр.; Ищу улыбку; «...Удивляться чуду, чуду жить...» / Пер. И. Сергеева; Песня; Признание; «И он пришел, мой самый горький день...» / Пер. Н. Яворская: [Вершы] // Беларусь моя. Л., 1983; Баллада мечты; Баллада памяти; Сумерки; Песни: [Вершы] / Пер. В. Тарас // Неман. 1984. № 3.

**На туркменскую мову.** Бергидар мен омурбойы... [Верш] // Сов. Туркменистаны. 1975. 30 нояб.

**На ўкраінскую мову.** Часу нам все не вистачае: [Верш] // Кіровогр. правда. 1972. 21 груд.; Вдячність: [Верш] / Пер. Й. Струцюк // Рад. Волинь. 1972. 17 бер.: «Мені потрібне сонце уночі...»; «Розкуй себе...»; «Не відмовляйте — ріка просила...»: [Вершы] / Пер. Й. Струцюк // Там жа. 1972. 11 лип.; «Я думала...»: [Верш] / Пер. Й. Струцюк // Там жа. 1975. 18 черв.; Олекса Довбуш: Уривок з поеми / Пер. В. Ганущак // Прикар. правда. 1976. 16 трав.; Коли вишнева гілка розцвіла...; Біля Березівської ДРЕС: [Вершы] / Пер. І. Жиленко // Дніпро. 1977. № 6; «В мені немало цвіту відбуяло...»: [Верш] / Пер. В. Гей // Молодий ленінець. 1978. 21 вер.; «Мені ж потрібно сонце уночі...»; «А може: так воно й потрібно...»; Я Вас люблю: [Вершы] / Пер. Л. Лежанськая // Молодий ленінець. 1979. 18 вер.; Поклик рідної землі; Одвічне: [Вершы] / Пер. П. Мах // Рад. Волинь. 1979. 15 вер.; Пісня; Якби ти запитав...; Доброта; «Як запізніла у гаю ожина...»; «Кажуть: треба. Кажуть: буде ліпше...»: [Вершы] / Пер. П. Мах// Літ. Укр. 1980. 7 бер.; «Мені ж потрібне сонце уночі...»: [Верш] / Пер. Л. Лежанськая // Рад. Волинь. 1981. 11 вер.; Олекса Довбуш: Уривки з поеми-бувальщини / Пер. В. Ганущак // Комс. прапор. 1982. 16, 21, 23, 28, 30 жовт., 2, 6 лист.; Дев'яте травня: [Верш] / Пер І. Левчук // Молодий ленінець. 1982. 8 трав.; Е ви, е; Я вас люблю; Біля Березівської ДРЭС: [Вершы] / Пер. В. Ганущак // Прикар. правда. 1982. 19 груд.; Я не кохаю вас...: [Верш] / Пер. В. Грабовський // Рад. Житомирщина. 1982. 1 жовт.; Березень; М. К. Чюрльоніс. День: Ріка; «Зустрінемось, хоч нас уже й не буде...»: [Вершы] / Пер. В. Ганущак // Комс. прапор. 1984. 28 квіт.; Натурщиця: [Верш] / Пер. К. Кирпа // Барвінок. 1985. № 1; Я вас люблю: [Верш] / Пер. М. Львович // Прапор. 1985. № 4.

2.3.

**На беларускай мове.** Б е р а с ц е н ь С. Выпрабаванне на сталасць //ЛіМ. 1977.18 ліст.; Б е ч ы к В. Прад высокаю красою... Мн., 1984. С. 203—204, 214—215; В і н ш у е м лаўрэатаў // ЛіМ. 1984. 20 студз.; В я р б а В. На шчырасць першую душы: Творчы партрэт // Там жа. 1973. 24 жн.; Г і л е в і ч Н. «Не скрывіць душой ні разу» // Гілевіч Н. У гэта веру. Мн., 1978; К а л е с н і к У. Берасцейскае вогнішча // Полымя. 1974. № 9; Я г о ж. Дарога да сябе і да людзей // Калеснік У. Зорны спеў. Мн., 1975; Л а м с а д з е Л. Жывая вада // Гомел. праўда. 1984. 15 ліст.; Л і п с к і У. Агонь душы // Дзень паэзіі — 81. Мн., 1981; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С е м а ш к е в і ч Р. Адчуванне шляху // Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоўю. Мн., 1982; С я л е н я Я. Агонь душы і сэрца // Голас Радзімы. 1972. № 4; Т а р а с ю к Л. Святасць даверу // Маладосць. 1985. № 12; Я р а ц В. Сталасць як поўдзень // ЛіМ. 1984. 23 ліст.

**На рускай мове.** А б р а м о в и ч М. Твои истоки, мужество / Знамя юности. 1976. 7 марта; Б е ч и к В. Обретение высоты // Неман. 1981. № 3; В а с и л е в и ч В. Возвращение легенды // Заря. 1983. 28 июля; К а л е с н и к В. Дорогой хлеба // Заря. 1983. 17 мая; Я г о ж. Жить в этом мире // Там жа. 21 сент.; Л и п с к и й В. Смотр муз // Знамя юности. 1970. 30 окт.; Л о м с а д з е Л. Живая вода // Сов. Бел. 1985. 10 янв.; Ч а б а н Т. Традиция обязывает // Неман. 1984. № 3.

2.4.

**На беларускай мове.** В о л ь с к і А. Я помню вечар той — у Ніўцы: [Верш] // Вольскі А. Чалавек, якому баліць. Мн., 1984; П а н і з н і к С. Расінка: [Верш] // Панізнік С. Слова на дабрыдзень. Мн., 1982; Р у д к о ў с к і М. Свяшчэнная трыяда: [Верш] // Рудкоўскі М. Засярога. Мн., 1984; Ш а ў ч о н а к М. Іду да людзей: [Верш] // Шаўчонак М. Бацькоўскае імя. Мн., 1981; Я н і ш ч ы ц Я. Лілея студзеня: (Да партрэта Ніны Мацяш): [Верш] // Янішчыц Я. Пара любові і жалю. Мн., 1983.

*Г. І. Рэут.*

# МАЧУЛЬСКІ ВАСІЛЬ



*Мачульскі Васіль Фёдаравіч [28.7(9.8).1893, в. Навасады Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.— 29.10.1973, Масква], літаратуразнавец.*

Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага святара. Бацька, Фёдар Фёдаравіч (1862—1919), скончыў Мінскую духоўную семінарыю, быў святаром у Навасадах і ў м. Магільна; маці, Аляксандра Сямёнаўна (1862—1922), хатняя гаспадыня. Пасля заканчэння Мінскага духоўнага вучылішча з 1907 В. Мачульскі вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі. У 1911, не скончыўшы яе, паступіў на юрыдычны факультэт Варшаўскага універсітэта. З 1912 вучыўся на славяна-рускім аддзяленні філалагічнага факультэта універсітэта. У кастрычніку 1915 пераведзены на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, які скончыў у 1917. У 1918 член Беларускай сацыялістычнай грамады, супрацоўнік Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве. У 1919—24 выкладчык у Слуцку. З 1925 супрацоўнік Інбелкульта, Беларускай Акадэміі навук, адначасова (з 1929) выкладчык Камуністычнага універсітэта ў Мінску. Рашэннем Прэзідыума БАН 21.2.1933 звольнены з Інстытута літаратуры і мастацтва як «класава-варожы элемент». З 1934 у Маскве: працаваў выкладчыкам Камуністычнага універсітэта, Прамакадэміі, Акадэміі грамадзянскага паветранага флоту. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, пайшоў у народнае апалчэнне. Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы ў Маскве (1943—47). З 1945 быў членам КПСС. З 1947 выкладчык Ваенна-палітычнай Акадэміі, Паліграфічнага інстытута. У 1952—71 дацэнт кафедры рускай літаратуры філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта.

Першае выступленне В. Мачульскага ў друку — рэцэнзія на кнігу Т. Шаўчэнкі «Паэзія» (часопіс «Узвышша», 1927). Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання першага Збору твораў М. Багдановіча (1927—28), А. Гаруна (1929). Пісаў рэцэнзіі, артыкулы («К. Каганец як пісьменнік і грамадзянін», «Да пытання аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым», «З сучаснага стану літаратуразнаўства на Украіне», «Да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння Якуба Коласа»). Выдаў кнігу «Тэхніка работы з кнігай». Абараніў кандыдацкую ды-

сертацыю на тэму «Даследаванні па гісторыі беларускай літаратуры» (1946). Яна была прысвечана сувязям «Слова аб палку Ігаравым» з беларускай вусна-паэтычнай творчасцю, паэмамі «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Перапісваўся з А. Багдановічам. Захаваў працу М. Піятуховіча «Рукапісы Рыпінскага». Друкаваўся на старонках часопісаў «Узвышша», «Маладняк», «Вестник Московского университета» і інш., газеты «Савецкая Беларусь» (не ўсе публікацыі выяўлены). Аўтар артыкулаў па праблемах рускай літаратуры («Іван Аляксандравіч Ганчароў. Да выхаду збору твораў», «Неацэнная спадчына. Да выхаду збораў А. І. Герцэна»). Асабісты архіў В. Мачульскага захоўваецца ў БДАМЛіМ. *В. У. Скалабан.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Да пытання аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым». Мн., 1929 (Адб. з «Зап. аддз. гуманіт. навук» Бел. АН. Т. 2. Кн. 9). Рэц.: П е р е т ц В. // Труды института славяноведения. 1932. Т. 1.

Тэхніка работы з кнігай. Мн., 1933.

**1.3.**

**1927.** [Рэц. на кн.: Ш е в ч е н к о Т. Поезія. Т.1. М.; К., 1927] // Узвышша. № 5; Літературна бібліотека: [Рэц. на кн.: Ш е в ч е н к о Т. Поезія. Т. 1. М.; К., 1927] // Сав. Бел. 12 кастр.

**1928.** К. Каганец, як пісьменнік і грамадзянін // Сав. Бел. 20 мая; [Рэц. на кн.: Ш е в ч е н к о Т. Щоденні записки. К., 1927] // Там жа. 26 вер.

**1929.** Да пытання аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым» // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мн., 1929. Т. 2. Кн. 9; З сучаснага стану літаратуразнаўства на Украіне // Маладняк. № 3; [Рэц. на кн.: Б о г д а н о в і ч М. Вінок. К., 1929] // Сав. Бел. 14 снеж.

**1932.** Да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння Якуба Коласа // За пралет. навуку. 15 снеж.; Ленін пра Горкага // Сав. Бел. 25 вер.

**1959.** А. Н. Радищев // Что читать. № 8.

**1960.** Иван Александрович Гончаров: К выходу собрания сочинений // Что читать. № 12.

**1961.** Драгоценное наследие: К выходу собрания сочинений А. И. Герцена // В мире книг. № 9.

**1962.** «Слово о полку Игореве» и белорусское устно-поэтическое творчество // Вестник Моск. ун-та. Серия 7. № 2; 1965. № 1; 1967. № 6; 1969. № 4; Проблемы истории литературы // Русская литература. № 4.

**1967.** Новый музей на Суворовском // В мире книг. № 5.

**1975.** Лісты В. Ф. Мачульскага да А. Я. Багдановіча // Шлях паэта. Мн.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а р а ш к а І. Клясавы вораг у тоге «вучонага» // Сав. Бел. 1931.10 сак.; Я г о ж. «Мы — за сучаснасць, але...» // Там жа. 1929. 27 кастр.; Б і б і л а Ю. З успамінаў // Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1982. С. 116; М у ш ы н с к і М. І. І. Замоцін — тэкстолаг і культура сучаснага выдання мастацкай спадчыны // Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры. Мн., 1980. С. 48—50.

**На рускай мове.** Б а л а х о в М. // Восточные славяне: Языки, история, культура. М., 1985. С. 230; В. Ф. М о ч у л ь с к и й: [Некролог] // Вестник Московского ун-та. Филология. 1974. № 4.

**3.1.**

Архіў АН Беларусі, ф. 1, спр. 12, л. 55; спр. 16, л. 136; спр. 21, л. 34; БДА, ф. 4, воп. 1, спр. 21, л. 82; спр. 25, л. 11; спр. 28, л. 67; БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1417, л. 29 РДГА г. Масквы, ф. 418, воп. 329, спр. 2079. *В. М. Грышкевіч, В. У. Скалабан.*

# МАШАРА МІХАСЬ



**Машара Міхась [Міхаіл Антонавіч; псеўд. С. А н т о н а ў, М. К а л і н а, М і х. К а л і н а, М і х а с ь К а л і н а, М.М а ш а р а к, крыпт. М. М.; 5(18).11.1902, б. хут. Падсосна Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.— 7.6.1976, Мінск, пахаваны на Паўночных могілках], паэт, празаік, драматург, перакладчык. Член СП Беларусі з 1940.**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і, якая потым пераехала з хутара Падсосна ў в. Таболы (цяпер Шаркоўшчынскі раён). Скончыўшы Шкунцікаўскую народную школу (1914), працаваў пісарчуком у канцылярыі Ігуменскай воласці. Потым вучыўся ў вышэйшай пачатковай, а пасля рэвалюцыі — адзінай працоўнай школе 2-й ступені ў Глыбокім (1915—18), быў справаводам Германавіцкага валвыканкома (1918). У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі быў арыштаваны, але адпушчаны як малалетак. Вясной 1920 добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у баях. Часць, у якой ён служыў, была інтэрніравана ў Германіі. 11 месяцаў М. Машара адбыў у лагеры Зальцведаль у Саксоніі. Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора перададзены Польшчы, 8 месяцаў правёў у прафілактычным лагеры «Шчыпёрна», а потым вярнуўся ў Таболы. У 1923—25 служыў у польскай арміі. Пасля дэмабілізацыі прыняў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, быў адным з арганізатараў гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў родных мясцінах, рэдагаваў у Вільні прагрэсіўную газету «Наша воля» (1927). У 1928 арыштаваны і зняволены ў віленскай турме Лукішкі, дзе прасядзеў больш за 4 гады. Пасля астрогу зноў вярнуўся ў Таболы, жыў выпадковымі заробкамі, быў лесарубам, плытагонам, капаў канавы, рамантаваў дарогі, батрачыў у мясцовых кулакоў і асаднікаў. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў верасні 1939 М. Машара кіраваў аддзелам народнай асветы ў Шаркоўшчынскім р-не. Быў выбраны дэпутатам Народнага Сходу ў Беластоку. У час Вялікай Айчыннай вайны працаваў у газетах «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Партызанскае слова», на радыё. Пасля вайны жыў у Мінску, працаваў у часопісе «Полымя» (1945—47), «Настаўніцкай газеце» (1947—49). Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны», медалямі.

Першыя вершы М. Машара напісаў яшчэ ў час вучобы ў Глыбоцкай школе, але стала заняўся паэтычнай творчасцю ў канцы 20-х гадоў. Друкавацца пачаў з 1927. Паэтызацыя прыроды роднага краю, працы і быту селяніна спалучалася ў тагачаснай яго творчасці з пратэстам супраць нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, з заклікам да барацьбы за лепшую долю. З дапамогай сяброў па вызваленчым руху вершы, напісаныя ў турме, былі перасланы на волю і ў 1928 склалі першы зборнік «Малюнкі». Потым былі выдадзены зборнікі «На сонечны бераг!», «Напрадвесні», паэмы «Вяселле», «Смерць Кастуся Каліноўскага», «Мамчына горка», п'есы «Вось тут і зразумей», «Лёгкі хлеб», «Чорт з падпечча». Зборнік М. Машары «З-пад стрэх саламяных» (1937) быў канфіскаваны польскімі ўладамі, а рукапіс зборніка «З ваколіц Сініх Балот» увогуле не быў надрукаваны. Патрыятычная лірыка М. Машары ваеннага часу, якая склала зборнік «Беларусі», адносіцца да ліку лепшых творчых дасягненняў паэта. Тэма Радзімы, захапленне прыгажосцю яе краявідаў, услаўленне працоўных спраў народа складалі аснову паэзіі М. Машары ў пасляваенныя гады (зборнікі «Праз навальніцы», «Урачыстасць», «Ад родных аселіц», кніга выбранай лірыкі «Мая азёрная краіна»). Вершы паэта вызначаюцца лірычнасцю, песеннасцю. Многія з іх пакладзены на музыку М. Аладавым, Д. Лукасам, Ю. Семянякам, А. Туранковым і інш. кампазітарамі. У 60-я гады М. Машара па-ранейшаму выступаў з творамі для дзяцей, выдаў казкі ў вершах «Зязюльчыны слёзы», «Зелянушка і Кракатушка». У 60—70-я гады пераважна працаваў як празаік. Напісаў трылогію аб вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі, якую склалі раманы «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі», «Лукішкі», а таксама раманы «Ішоў дваццаты год», «І прыйдзе час...», прысвечаныя падзеям грамадзянскай вайны. У празаічных творах пісьменнік выкарыстоўваў многія факты з свайго жыцця, апісваў падзеі, якія адбываліся ў яго родных ваколіцах, ствараючы шырокую панараму падзей 20—30-х гадоў. Пераклаў на беларускую мову творы П. Бажова, М. Гогаля, Г. Сянкевіча і інш. Барэльеф М. Машары ў 1934 зрабіў Я. Драздовіч.

*У. А. Лебедзеў.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Выбр. лірыка. Мн., 1945. Рэц.: Ларчанка М. // Полымя. 1945. № 11—12; Пестрак П. «Выбраная лірыка» Міхася Машары // ЛіМ. 1946. 18 мая; Шкраба Р. Шлях паэта // Беларусь. 1945. № 11—12.

Выбр. тв. Мн., 1958. (Школьная серыя). Рэц.: Майхровіч С. З родных крыніц // ЛіМ. 1958. 15 ліст.

Мая азёрная краіна: Выбранае. Мн., 1962.

**1.2.**

Малюнкі: Вершы. Вільня, 1928.

Вось тут і зразумей...: Драматычны абразок у двух адслонах. Вільня, 1934.

Вяселле: Паэма. Вільня, 1934.

На сонечны бераг!: Зборнік вершаў. Вільня, 1934. Рэц.: К. М. [Краўцоў М.] На сонечны бераг! // Родны край. 1934.25 мая; Налецкі Я. «На сонечны бераг» // Шлях моладзі. 1934. № 6; Станкевіч С. // Калоссе. 1935. № 1; S-wicz [Stepowicz A.?] // Prz. Wileński. 1934. Nr 16—17.

Смерць Кастуся Каліноўскага: У 70-ыя ўгодкі яго смерці: Паэма. Вільня, 1934. Рэц.: Станкевіч С. // Калоссе. 1935. № 1.

Напрадвесні: Зборнік вершаў. Вільня, 1935. Рэц.: Асіповіч Ф. Паэт на раздарожжы // ЛіМ. 1936. 6 студз.; К. М. [Краўцоў М.] З выдавецкае нівы // Родны край. 1935. 25 кастр.

Чорт з падпечча: Сцэны з сялянскага жыцця. Вільня, 1935. (Тэатральная б-ка).

Лёгкі хлеб: Драма ў 3-х актах з жыцця вясковае моладзі. Вільня, 1936. Рэц.: Станкевіч А. Міхась Машара — «Лёгкі хлеб» // Калоссе. 1936. № 4.

Мамчына горка: Паэма. Вільня, 1936.

З-пад стрэх саламяных: Вершы. Вільня, 1937.

Беларусі: Вершы. М., 1944. Рэц.: Ларчанка М. Песні помсты і гневу // Беларусь. 1944. № 6.

Праз навальніцы: Вершы і паэмы. Мн., 1948. Рэц.: Конанаў С. «Праз навальніцы» // Бальш. сцяг. 1949. 11 мая; Нахай Р. «Праз навальніцы» // ЛіМ. 1949. 5 сак.

Урачыстасць: Вершы і паэмы. Мн., 1952. Рэц.: Марціновіч А. Творы аб жыцці і барацьбе народа // Калг. праўда. 1953. 14 чэрв.; Цітоў К. Паэт і яго герой // Полымя. 1953. № 12.

Ад родных аселіц: Вершы розных гадоў. Мн., 1959. Рэц.: Якаўцава Н. Светлая паэзія // Чырв. сцяг. 1960. 19 студз.

Зязюльчыны слёзы: Вершаваная казка. Мн., 1961.

Зелянушка і Кракатушка: Казка ў вершах. Мн., 1964. Рэц.: Юрчанка Г. Гэта не дробязі // Полымя. 1965. № 4.

Крэсы змагаюцца: Раман-хроніка. Мн., 1966. Рэц.: Досін М. Аповесць пра неспакойныя крэсы // Беларусь. 1967. № 9; Нахай Р. Старонкі народнага змагання //

Звязда. 1967. 28 студз.; Прашковіч М. Крэсы змагаліся... // ЛіМ. 1966. 20 снеж.; Хромчанка К. Падзеі незабыўных дзён // Вяч. Мінск. 1969. 23 кастр. Мн., 1977.

Сонца за кратамі: Раман-хроніка. Мн., 1968. Рэц.: Досін М. Жывая плынь // Звязда. 1969. 9 лют.; Рудчык В. Раман пра Грамаду // Ніва. 1968. 24 ліст.; Хромчанка К. Падзеі незабыўных дзён // Вяч. Мінск. 1969. 23 кастр.

Лукішкі: Раман-хроніка. Кніга трэцяя. Мн., 1970. Рэц.: Досін М. Заканчэнне трылогіі // Беларусь. 1971. № 2.

Вершы. Мн., 1971.

Ішоў дваццаты год: Раман. Мн., 1973. Рэц.: Ермаловіч М. Сталенне Міхася Рубяжэвіча // ЛіМ. 1974. 1 мая.

І прыйдзе час...: Раман. Мн., 1975.

Старонкі летапісу: Кніга ўспамінаў. Мн., 1975. Рэц.: Досін М. Летапіс жыцця і барацьбы // Звязда. 1976. 1 крас.; Кірылаў Г. Жывое сведчанне часу // Віцеб. рабочы. 1975. 23 жн.

Ішоў дваццаты год: Раман. Мн., 1982.

**1.3.**

**1927.** «Я восень залатую люблю...»: Верш // Заранка. № 7; «Восень... рада вёска...»: [Верш] // Там жа. № 8—9.

**1928.** «Гэй, браткі, мы з мур-вязніцы...»: [Верш] // Рунь веснаходу. Вільня; Зімовыя малюнкі: [Верш] // Заранка. № 1—2; 10—11; З вясновых малюнкаў: [Верш] // Там жа. № 3.

**1929.** Вітаю Новы год...: [Верш] // Заранка. № 1; Ноч перад Новым годам: [Апавяданне] // Там жа. № 1, 2—3; Чую — ржуць: [Верш] // Шлях моладзі. № 3; Ад працы: [Верш] //Там жа. № 7; Летні вечар: [Верш] // Там жа. № 8, 9.

**1930.** «Паветра запахла вясняным...»; «Спацеўшы кіселіцца снег...»; «Неба зноў сіняе, сіняе...»; Звонак напеў жаўрука...; Маладым песнярам: [Вершы] // Вучн. звон. № 3—4 / Пад крыпт. М. М.; Сенажаць: [Верш] // Шлях моладзі. № 1; З навагодніх матываў; «Новы год вось ізноў пачынаецца...»: [Вершы] // Наперад! 15 студз. / Пад крыпт. М. М.; Наперад!: [Верш] // Там жа. 22 студз. / Пад крыпт. М. М.; Калядніца: [Паэма] // Там жа. 18 сак.; Мы — песняры: [Верш] // Там жа. 2 крас.; Чорны госць: [Верш] // Там жа. 17 крас.; «Адраджэнне — наша свята...»: [Верш] // Там жа. 19 ліп.; «Вёска ўся ўбраная...»: [Верш] // Там жа. 21 ліп.; «Мы — моладзь... Мы гвардыя працы...»: [Верш] // Там жа. 4 вер.; «Вецер, вецер гне калоссе...»: [Верш] // Там жа. 11 вер.; Места: [Верш] // Нар. звон. 20 кастр.

**1931.** «Зямля, зямля... О, як ірдзіцца...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 10; «Палосы, палосы, палосы!..»: [Верш] // Там жа. № 11; «Мароз... Аснежаныя хаты...»: [Верш] // Там жа. № 12.

**1932.** Новаму году; «Снегам, як пухам, завеяны хаты...»: [Вершы] // Беларускі каляндар на 1932 год. Вільня; «...Не шкода дзён, нябачна так пражытых...»; «...Распалю ў вагні цярпення...»; «Зямля напоена да п'яна...»; Каваль: (Пасвячаю брату); З цыкла «Вандроўнае»: [Вершы] // Нёман. № 1; «...Я — святляк начы маёвай...»; «Ты мне многа дала, маць-зямліца...»; Пегас: (З астрожных настрояў); «...Месяц рог свой павесіў на краце...»: [Вершы] // Там жа. № 2; Валачобнае: [Паэма] // Там жа. № 3; Радаўніца: [Верш]; Песня жаўрука: [Апавяданне] // Там жа. № 4; З цыкла «Асеннія напевы»; З цыкла «Праз жыццё»; З цыкла «Безработныя»; Васількі: [Вершы]; Рэфлексія: [Абразок] // Там жа. № 5; Маладым песнярам: [Верш] // Шлях моладзі. № 1; «О, Беларусь! Я — знаю...»: [Верш] // Там жа. № 2; «Волю тваю выпаўняючы»: [Верш] // Там жа. № 3; З вясняных напеваў: [Верш] // Там жа. № 4; «Чую, б'е прыліў гарачы...»: [Верш] // Там жа. № 7—8; Ёй: [Верш] // Там жа. № 9; «Цяпер зусім я не вясёлы...» [Верш] // Бел. звон. 13 крас.

**1933.** Маладым песнярам: [Верш] // Бел. школа ў Латвіі. № 4; Вятровай ноччу: [Верш] // Там жа. № 5; «Браты, браты краіны сіняй!..»; «Зімовы вечар... ціхі... сіні...»: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1; «Па белым снегу сонка лічыць...»: [Верш] // Там жа. № 2; «Ах песні, песні...»; Пралескам: [Вершы]; Конь: [Апавяданне] // Там жа. № 5; «Не, не красці — пазычаць хачу...»; На начлезе: [Вершы] // Там жа. № 6; Янка-пастушок: [Апавяданне] // Там жа. № 6, 7/8; «Звініць каса... Каса звініць...»: [Верш] // Там жа. № 7/8; Мы — песняры: [Верш] // Там жа, № 9; С. П. Міхасю Явару: (Замест вянка на магілу): [Верш] // Там жа. № 10; З цыкла «Песні аб хлебе»: [Верш] // Там жа. № 11—12; «Маладыя дні...»; Знямога: [Вершы] // Там жа. № 13; Трыццаць трэцяму: [Верш] // Родны край. 14 студз.; «...Растуць пытанні ўночы...»: [Верш] // Там жа. 28 студз.; Падарожжа: (Прысвячаю Пётры Сергіевічу): [Паэма] // Там жа. 11, 25 лют.; З цыкла «Месту»: «О Вільня! Тваім камяніцам...»: [Верш] // Там жа. 25 сак.; «Вам, браты! За вёслы смела...»: [Верш] // Там жа. 8 крас.; Кірмаш: (Прысвячаю К. Мядзёлку): [Верш] // Там жа. 29 крас.; «Адзін я — з тых першых...»; Светлай памяці Ів. Луцкевіча: [Вершы] // Там жа. 24 чэрв.; Вось тут і зразумей...: (Драматычны абразок у 2-х адслонах) // Там жа. 22 ліп., 5, 19 жн., 2 вер.; Ушануйма памяць бацькі Адраджэння!: (У 14-я ўгодкі смерці Ів. Луцкевіча) // Там жа. 19 жн.; Хатка: [Верш] // Там жа. 4 ліст.; «Маліцца болей я не буду...»: [Верш] // Там жа. 16 снеж.

**1934.** З навагодніх матываў; З цыкла «Звінячая бель»: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1; Знямога: [Верш] // Там жа. № 2; «Не крычу, не шкадую, не плачу...»: [Верш] // Там жа. № 3; Смерць Кастуся Каліноўскага: [Паэма] // Там жа. № 4—6; Майскія слёзы: Апавяданне // Там жа. № 5; З веснаходу: Замалёўка // Там жа. № 6; «Плыве, плыве з нязнанай далі...»: [Верш]; З веснашумаў: Замалёўка // Там жа. № 7—8; «Яшчэ здаўна абкрадалі...»: [Верш] // Там жа. № 9; На начлезе: Апавяданне; «Жыццё няласкава і хмура...»: [Верш] // Там жа. № 11; «Не страшны нам віхор шалёны...»; Вясенні вечар: [Вершы] // Там жа. № 12; «Сэрца, сэрца, чым ты рада?..»: [Верш] // Там жа. № 13; З навагодніх матываў: [Верш] // Родны край. 10 студз.; Вяселле: [Паэма] // Там жа. 23 лют., 9 сак.; Вяселле: [Заканчэнне паэмы, 2 ч.] // Там жа. 23 сак.; З цыкла «Безработныя»: [Верш] // Там жа. 10 жн.; Падарожжа: [Цыкл вершаў] // Там жа. 23 снеж.

**1935.** На пералом; «Я хачу, каб ты спявала...»; «Мне хочацца сёння расчуліцца...»; «Пад акном, над парканнем бярозка...»; «Так бы вербай стаяць пры дарозе...»; «Наўкол так прыгожа, прыгожа...»; Ліст; Новаму году: [Вершы]; Асенняй ноччу: [Абразок] // Калоссе. № 1; На прадвесні; «Вясна...»; Русалкі: [Вершы]; Па хлеб: [Апавяданне] // Там жа. № 2; З цыкла «Вяснянкі»: [Вершы] // Там жа. № 3; (З «Праабражэння»): «То не чырвоны свет вячэрні...»; Спячы волат: [Вершы] // Там жа. № 4; Z poematu «Mamčуna horka» // Poprostu. Nr 10; Сонца і зорка: Народная казка // Пралескі. № 2; «Нізка схіліліс над снегам бярозы...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 2; 25 сакавіка: [Верш] // Там жа. № 3; «Гадую песні без адрыву...»: [Верш] // Там жа. № 5; «Я сёння вясёлы і рады...»: [Верш] // Там жа. № 6; «Ты ізноў запяяў, развясёлы...»: [Верш] // Там жа. № 7; Ахвяра працы: [Апавяданне] // Там жа. № 8—9; «Вечар асенні імгліцай...»: [Верш] // Там жа. № 10; «Агні... агні... Гарачь высока...»: [Верш] // Там жа. № 11; Марш маладых: [Верш] // Там жа. № 12—13; Слова да моладзі Заходняй Беларусі: [Верш] // Чырв. змена. 28 снеж. / Пад псеўд. Міхась. Аўт. спрэчнае.

**1936.** Новаму году: [Верш] // Бел. народна-гаспадарскі каляндар на 1936 год. Вільня; На Новы год!: [Верш] // Беларускі сялянскі каляндар на 1937 год. Вільня; Даўно мінулі сенакосы...: [Верш] // Бел. летапіс. № 1; «Мы — жывы маладняк песняроў...»; Званар; «Вецер, вецер, вецярок...»: [Вершы]; Падарожжа: З цыкла «Падарожжа»: [Вершы] // Калоссе. № 1. Рэц.: Танк М. Падарожжа і бездарожжа // Наша воля. 1936. 12 крас.; З цыкла «Падарожжа»: У 10-я ўгодкі смерці К. Сваяка; «Цябе не пакіну я, вёска...»; «У кашулі бела-палатнянай...»: [Вершы] // Калоссе. № 2. Рэц.: Танк М. Досыць бездарожжа // Наша воля. 1936. 16 чэрв.; Мамчына горка: [Паэма] // Калоссе. № 3—4; Хмары над Нёманам: [Верш]; На пройдзеным шляху: У 30-я ўгодкі творчае працы Якуба Коласа // Там жа. № 5; Першы спектакль у Рынічах: Абразок з жыцця // Летапіс ТБШ. № 1—3 / Пад крыпт. М. М.; «Вёска, вёска! Чым ты сёння...»; «Вёска, вёска, ты прамокла...»; «Вецер кудлаты на вербах...»; «Цяпер зусім я не вясёлы...»: [Вершы] // Там жа. № 4—8; Маладая Беларусь; З аснежаным ветрам: [Вершы] // Маладая Бел. № 1; «Я адну нашу надзею...»;

«Мы ў паходзе да лепшага заўтра...»: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1; «То не снег за вятрамі ў пагоні...»: [Верш] // Там жа. № 2; Ідзём туды, дзе волаты: [Верш] // Там жа. № 3; «Засінела даль пpастораў...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Бульбу даелі ўчора...»; Бярозка: [Вершы] // Там жа. № 5; «Вецер знямогся зусім...»: [Верш] // Там жа. № 6; «Ізноў шагаю па аржышчы...»: [Верш] // Там жа. № 7—8; Трэба нам школу: [Верш] // Там жа. № 9; «Не хачу расплывацца ў кволым...»: [Верш] // Там жа. № 10; Ручнікі: [Верш] // Там жа. № 11—12; Лёгкі хлеб: Драма ў трох актах з жыцця вясковай моладзі // Бел. крыніца. 26 крас., 3, 10, 17, 24, 31 мая, 10, 21, 30 чэрв.; У 10-я ўгодкі смерці К. Сваяка: (Замест вянка на магілу): [Верш] // Там жа. 31 мая; Трэба нам школу: [Верш] // За бел. школу. 16 чэрв.; Ну, дай руку, сын мужыцкі; Мы — моладзь, бадзёрая духам; Бура над Нарачам: [Вершы] // Чырв. змена. 30 снеж. / Пад псеўд. Міхась. Аўт. спрэчнае.

**1937.** Вясна: [Верш] // Беларускі каляндар 1937 г. Рыга; «Не песні...»; «Ні слоў, ні песні, ні малітвы...»: [Вершы] // Бел. летапіс. № 10—11; «Замест слёз — у торбе песні...»: [Верш] // Бюл. «Хаўрусу» бел. рабочых у Францыі. 15 ліп.; Начамі чорнымі: [Верш] // Калоссе. № 2; «Лясы, лясы і пералескі...»; «Я шукаў цябе заўсёды...»: [Вершы] // Там жа. № 3; Ліпнёвы дзень; Ліпень; «Папалудню — звыклым буднем...»; Неба; Жніво; Начная калыханка: [Вершы] // Там жа. № 4; Касцы: [Верш] // Снапок. № 3; Вераб'і: [Верш] // Хрысціянская думка. № 6 / Пад крыпт. М. М.; Бярозка: [Верш] // Там жа. № 7 / Пад крыпт. М. М.; Снежань: [Верш] // Там жа. № 22; «Песня, песня, звіні весялей...»; Адказ на пісьмо ад Апалона; М. Забэйдзе-Суміцкаму: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1; Зімовая ноч; «Поле маё, поле...»: [Вершы] // Там жа. № 2; Шагі: [Верш] // Там жа. № 3; «Возера спіць у затоках...»: [Верш] // Там жа. № 4; Вісяты; «За косы сонца залатыя...»: [Вершы] // Там жа. № 5; Нашыя шляхі: [Верш] // Там жа. № 6; «Месяц срэбны дарожку...»; «Чырвоным венікам на ўзгорках...»: [Вершы] // Там жа. № 7; У садзе: [Верш] // Там жа. № 8—9; «Цёмнай грывай на узгорках...»: [Верш] // Там жа. № 10; Дарога: [Верш] // Там жа. № 11; Песня батрака: [Верш] // Там жа. № 14; «Сухавеям рана ў садзе ля паркану...»: [Верш] // Там жа. № 15; «Культуры дзень — вялікі дзень народу...»: [Верш] // Там жа. № 16; Песня наша: [Верш] // Там жа. № 17; Дзве зямлі: [Верш] // Чырв. змена. 6 лют. / Пад псеўд. Міхась. Аўт. спрэчнае; Замучанаму таварышу: [Верш] // Там жа. 23 сак. / Пад псеўд. Міхась. Аўт. спрэчнае.

**1938.** «Вечар сіні ляжыць на снягу...»: [Верш] // Зорка. № 1; Зайчык: [Верш] // Там жа. № 2; «Лес сякуць...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Люблю цябе ў цішы сумуючае поле...»; Зімовы лес; «Такой вось ноччу...»: [Вершы] // Калоссе. № 1; З цыкла «Ёй»: [Верш] // Там жа. № 2; Сум вясенні: [Верш] // Там жа. № 3; З цыкла «Ваколіца сініх балот»: [Вершы] // Там жа. № 4; Смерць Кастуся Каліноўскага: (Вынятак з паэмы) // Рэха. № 1; Зімой; «Ні шэрых дзён, ні песень шэрых...»: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1, 2; «Ня тужу... і не шкадую...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Годзі! Ня можна быць сённяка ціхім...»: [Верш] // Там жа. № 8; З цыкла «Ёй»: [Вершы] // Там жа. № 12, 13, 20, 21; «Ну чаго? Ну чаго табе трэба...»: [Верш] // Там жа. № 16; «Ёсць душы ціхія...»: [Верш] // Там жа. № 18; «Поле замоўкла...»: [Верш] // Там жа. № 23; «Вясенні лес, як нейкая загадка...»: [Верш] // Там жа. № 24; Маладым: [Верш] // Там жа. № 26.

**1939.** «Ні шэрых дзён, ні песняў шэрых...»: [Верш] // Беларускі народны каляндар. Вільня; Новаму Году: [Верш] // Беларускі сялянскі каляндар на 1939 год. Вільня; Май: [Верш] // Зорка. № 6; З цыкла «Ваколіца сініх балот»: [Вершы] // Калоссе. № 1; «Не маеце права кідаць нам у вочы...»: [Верш] // Там жа. № 2; Вясна на балотах; Сіняе неба: [Вершы] // Там жа. № 5; Правадыру: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 11—12; Вілейская праўда. 21 снеж.; Звязда. 21 снеж.; Таварышу Сталіну: [Верш] // Работніца і калгасніца Бел. № 24; Звязда. 3 ліст.; «Сягоння лес глыбока засмучоны...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 1; Дзікева: [Верш] // Там жа. № 2; «О, крытык слаўны мой!..»: [Верш] // Там жа. № 3 / Пад крыпт. М. М.; «Свеціць месяц — месяц свеціць...»: [Верш] // Там жа. № 4; «Ах, не магу я ніяк пагадзіцца...»: [Верш] // Там жа. № 6; «Час настаў трывожны...»: [Верш] // Там жа. № 10; «Там над Дзісенкай і Нёманам сінім...»: [Верш] // Там жа. № 11; «Хоць усе мы жывём як на вулкане...»: [Верш] // Там жа. № 12; Дзень Сталінскай Канстытуцыі: [Верш] // Вілейская праўда. 11 снеж.; Яго імя натхняе на перамогу // Там жа. 21 снеж.; Шчаслівы ты...: [Верш] // Віленская праўда. 10 кастр.; Прывітанне: [Верш] // ЛіМ. 12 ліст.

**1940.** З тваім імем у сэрцы: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 9—10; Бальш. Пал. 4 снеж.; Віцеб. рабочы. 3 снеж.; Вольная праца. 3 снеж.; Зара. 7 снеж.; Звязда. 29 ліст.; ЛіМ. 30 ліст.; Палес. праўда. 5 снеж.; Сялян. газета. 1 снеж.; Чырв. звязда. 4 снеж.; / Сааўт. М. Клімковіч, П. Пестрак, М. Танк; Вялікае імя: [Верш] // Звязда. 22 крас.; Ходзіць радасць па вёсках: [Верш] // ЛіМ. 14 вер.; Першы май: [Верш] // Сялян. газ. 1 мая; «Кветка шчасця»; Ялта: [Вершы] // Там жа. 22 чэрв.; Раённы цэнтр // Там жа. 17 жн.; Растуць кадры // Там жа. 28 жн.; Зямля раскутая: [Верш] // Там жа. 17 вер.; Па Сталінскаму закону: [Верш] // Там жа. 5 снеж.

**1941.** «Каб наша не снілася жыта...»: [Верш] // Звязда. 20 ліп.; «Магіла вырыта — гатова...»: [Верш] // Там жа. 22 ліп.; Вядзі, Нарком!: [Верш] // Там жа. 25 ліп.; Партызаны: [Верш] // Там жа. 1 жн.; Хто клікаў вас: [Верш] // Там жа. 7 жн.; Ваколіца сініх балот: (З песень мінулага): [Верш] // ЛіМ. 12 крас.; Вялікае імя: [Верш] // Палес. праўда. 22 крас.; Радзіма: [Верш] // Сав. Бел. 7 ліст.; Чырвонай Арміі: [Верш] // Сялян. газ. 23 сак.

**1942.** Ты будзеш жыць!: [Верш] // Раздавім фашысцкую гадзіну. № 40; «Ад краю, да краю цямра на прасторах...»: [Верш]; Вось сапраўдны выкармыш Гітлера // Там жа. № 44; «На іх глядзець немагчыма...»: [Верш] // Там жа. № 45 / Сааўт. А. Астрэйка, М. Танк, М. Чавускі; Мы адпомсцім: [Верш] // Там жа. № 54; Дзень адплаты: [Верш] // Там жа. № 62; Расплата: [Верш] // Сав. Бел. 19 лют.; Здраднік: [Верш] // Там жа. 14 сак.; Песня помсты: [Верш] // Там жа. 23 крас.; Нянавісць: [Верш] // Там жа. 17 ліп.

**1943.** Ліст у няволю; Ты будзеш жыць: [Вершы] // Беларусь. М.; Першы май: [Верш] // Бюл. «Сялян. газеты». № 11; Клятва партызана: [Верш] // Там жа. № 12; Раздавім фашысцкую гадзіну. № 88; Сав. Бел. 8 мая; Мая вазёрная краіна: [Верш] // Бюл. «Сялян. газеты». № 14; Віцеб. рабочы. 4 жн.; Кушталі: [Верш] // Бюл. «Сялян. газеты». № 15; Прысуд: [Верш] // Там жа. № 16; Чырвонай Арміі: [Верш] // Там жа. № 20; «Край наш акуталі чорныя хмары...»: [Верш] // Там жа. № 21; На Захад: [Верш] // Там жа. № 25; Раздавім фашысцкую гадзіну. № 97; Віцеб. рабочы. 12 кастр.; Партызанская: [Верш] // Бюл. «Сялян. газеты». № 26; Бой кіпіць: [Верш] // Там жа. № 28; Чакаем з дня на дзень...: [Верш] // Там жа. № 29; Праз два гады // Раздавім фашысцкую гадзіну. № 93; Дзе немца сустрэнеш — забі!: [Верш] // Там жа. № 94; Віцеб. рабочы. 10 чэрв.; Звязда. 4 вер.; Чырв. звязда. 9 снеж.; Ніна, Фрыц і міна: [Верш] // Раздавім фашысцкую гадзіну. № 99; Адзін адказ // Там жа. № 106 / Пад псеўд. С. Антонаў; Апошні рэсурс / Пад псеўд. С. Антонаў; Да помсты: [Верш] // Там жа. № 107; Не ведаю, як у вас... // Там жа. № 111 / Пад псеўд. С. Антонаў; Пісьмо ў няволю: [Верш] // Віцеб. рабочы. 10 сак.; Песня помсты: [Верш] // Там жа. 31 сак.; Кроў на бруку: Апавяданне // Там жа. 10 чэрв. / Пад псеўд. М. Каліна; Дзень добры, родная краіна: [Верш] // Там жа. 26 ліст.; Сталінскай Канстытуцыі: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; «Язык»: [Апавяданне] // Там жа. 19 снеж.; Героі: Урывак з паэмы // Сав. Бел. 6 сак.

**1944.** Ноч атуліла зямлю: [Верш] // Беларусь. № 3; Немец // Раздавім фашысцкую гадзіну. № 115; Клятва партызана: [Верш] // Беласток. правда. 12 янв.; Віцебск: [Гістарычны нарыс] // Сав. Бел. 28 чэрв.; Ніна, фрыц і міна: [Верш] // Чырв. звязда. 19 мая; Мы вольная моладзь: [Верш] // Чырв. змена. 1 мая.

**1945.** Ліст у няволю; Мы вызваляць цябе ідзём; Мы вольная моладзь; Ты будзеш жыць: [Вершы] // За шчасце Беларусі. М.; Л.; Ідзе наша помста: [Верш] // Беларусь. № 2; Араты; Сад: [Вершы] // Там жа. № 4; На сцежках помсты: [Верш] // Там жа. № 7—8; Бярозка: [Верш] // Бярозка. № 1; Семнаццатае верасня: [Верш] // Полымя. № 9; Кастусь Каліноўскі: Паэма // Там жа.

№ 10; Крыніцы; Дзень адплаты: [Вершы] // Гродн. праўда. 16 февр.; Кветка шчасця: [Верш] // Звязда. 18 вер.; «Ну чаго?»: [Верш] // ЛіМ. 10 чэрв.; Чырвоны штык: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Сталіну: [Верш] // Сав. Радзіма. 20 чэрв.; Чырв. змена. 3 ліп.; Дзінева: [Верш] // Сав. селянін. 11 крас.; Ноч прайшла: [Верш] // Там жа. 16 мая; Радзіма: [Верш] // Там жа. 7 ліст.; Мінск: [Верш] // Сов. Бел. 6 июля; Ходзіць радасць па вёсках і сёлах: [Верш] // Там жа. 15 сент.; Народное собрание // Там жа. 16 сент.

**1946.** З тваім імем у сэрцы / Сааўт. П. Пестрак, М. Танк, М. Клімковіч; Прывітанне; Правадыру; Ходзіць радасць па вёсках; Таварышу Сталіну; Чырвоны штык; Кастрычнік; Ленін; Першы май; «Прайшлі гады...»; Залатая восень: [Вершы] // Семнаццатага верасня. Мн.; Страта: [Верш] // Работніца і сялянка. № 3; Наст. газ. 6 чэрв.; Кветка шчасця: [Верш] // За Радзіму. 17 вер.; Песня аднаўлення: [Верш] // Звязда. 7 ліст.; Наш правадыр — кандыдат: [Верш] // Наст. газ. 31 студз.; Мы ўсё зноў адновім: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Чырвонай Арміі: [Верш] // Сав. селянін. 24 лют.

**1947.** Да 800-годдзя Масквы; Масква; Прывітанне; Народны сход: [Вершы] // Роднай Маскве. Мн.; Прысуд; Ручнікі: [Вершы] // Эстрада. Мн.; Красавік: [Верш] // Беларусь. № 4; Студзень: [Верш] // Бярозка. № 1; Люты: [Верш] // Там жа. № 2; З'яднанне: [Верш] // Полымя. № 1; Масква; Семнаццатага верасня: [Вершы] // Там жа. № 9; Трыццаты Кастрычнік: [Верш] // Там жа. № 11; Заря. 5 нояб.; Наст. газ. 6 ліст.; [Мары]: [Верш] // Życie Sł. Nr 5; Масква: [Верш] // Бальш. сцяг. 7 вер.; Сталіну; Песня аднаўлення; Калгаснае: [Вершы] // Гродн. правда. 5 нояб.; Гастелло: [Верш] // Заря. 21 окт.; Янку Купале: [Верш] // Наст. газ. 26 чэрв.; Атэстат сталасці: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; Песня аб ураджаі; Сталіну: [Вершы] // Там жа. 31 ліп.; Гастэлу: [Верш] // Там жа. 7 жн.; Масква: [Верш] // Там жа. 4 вер.; Семнаццаты верасень: [Верш] // Там жа. 18 вер.; Канстанціну Заслонаву: [Верш] // Там жа. 20 ліст.; Савецкай Арміі: [Верш] // Палес. праўда. 23 лют.; Таварышу Сталіну: [Верш] // Там жа. 17 вер.; Сав. селянін. 4 вер.; Песня аб ураджаі: [Верш] // Сав. селянін. 17 ліп.; Наш правадыр — дэпутат; З'яднанне: [Вершы] // Чырв. звязда. 26 студз.

**1948.** Правадыру; Перад святам: [Вершы] // Заря. 12 дек.; Верасень: [Верш] // Звязда. 17 вер.; На калгасным прасторы: [Верш] // ЛіМ. 29 ліп.; Леніну: [Верш] // Наст. газ. 22 студз.; Савецкай Арміі: [Верш] // Там жа. 19 лют.; Максіму Горкаму: [Верш] // Там жа. 1 крас.; Першамайскае прывітанне: [Верш] // Там жа. 30 крас.; «Ніколі не забудзем» // Там жа. 13 мая / Пад псеўд. М. Каліна; 3 ліпеня: [Верш] // Там жа. 2 ліп.; Кніга нашай партыі: [Верш] // Там жа. 30 вер.; Глянь, таварыш: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Перад святам: [Верш] // Сялян. газ. 31 снеж.

**1949.** Званар; Ідзем туды, дзе волаты...; Прывітанне; Таварышу Сталіну; Залатая восень; Мая азёрная краіна; Леніну: [Вершы] // Беларуская савецкая паэзія. Мн.; Янку Купалу: [Верш] // Янку Купалу. Мн.; У той дзень: [Верш] // Полымя. № 10; Гродзен. праўда. 17 вер.; Наст. газ. 30 кастр.; Усюды, заўсёды ты з намі: [Верш] // Полымя. № 12; Гомел. праўда. 20 снеж.; Сав. Радзіма. 20 снеж.; Першамайскае прывітанне: [Верш] // Бальш. сцяг. 1 мая; Заслонаву: [Верш] // Гродзен. праўда. 27 сак.; Аб творчасці пачынаючых пісьменнікаў // Там жа. 30 сак. / Сааўт. Р. Няхай; Уз'яднанне: [Верш] // Там жа. 10 крас.; Вясна ў калгасе // Звязда. 31 мая / Сааўт. Р. Няхай; Горад над Нёманам; На пабудове: [Вершы] // ЛіМ. 28 мая; У маўзалеі: [Верш] // Наст. газ. 22 студз.; Першае мая // Там жа. 30 крас.; Беларуская савецкая літаратура да другога з'езда савецкіх пісьменнікаў БССР // Там жа. 16 чэрв. / Сааўт. Р. Няхай; У той дзень: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Вечна жыві, любімы наш Сталін!: [Верш] // Там жа. 15 снеж.; Леніну: [Верш] // Піянер Бел. 19 студз.; На Скидельской равнине // Сов. Бел. 2 авг. / Сааўт. Р. Няхай; Вязынка не тая, і вязынцы не тыя // Сялян. газ. 2 ліст. / Сааўт. М. Калачынскі; Вялікаму Кастрычніку: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Савецкая Армія: [Верш] // Чырв. звязда. 23 лют.

**1950.** Усюды, заўсёды ты з намі; Падпальшчыкам вайны: [Вершы] // На варце міру. Мн.; Землякам з ваколіц Сініх балот: [Верш] // Полымя. № 1; У дзень выбараў: [Верш] // Там жа. № 12; Мін. праўда. 17 снеж.; Аб творчасці пачынаючых // Бальш. Пал. 28 мая; Першае мая: [Верш] // Бальш. сцяг. 1 мая; На калгасным прасторы: [Верш] // Там жа. 18 ліп.; Янку Купалу: [Верш] // Гомел. праўда. 28 чэрв.; Сталінскі закон: [Верш] // Калг. праўда. 5 снеж.; Таварышу Варашылаву: [Верш] // ЛіМ. 4 сак.; Падпальшчыкам вайны: [Верш] // Там жа. 8 ліп.; Хай песні радасці гучаць: [Верш] // Там жа. 9 снеж.; Настаўнік-агітатар: [Верш] // Наст. газ. 16 лют.; Дванаццатага сакавіка. [Верш] // Там жа. 12 сак.; У яе няма непаспяваючых // Там жа. 20 ліп.; Залатая кніга: [Верш] //Там жа. 30 ліст.; Слова выбаршчыка: [Верш] // Там жа. 14 снеж.; Леніну: [Верш] // Сялян. газ. 22 крас.; Ходзяць песні і радасць па краю: [Верш] // Там жа. 1 мая.

**1951.** Ленінскія словы: [Верш] // Полымя. № 1; У дзень выбараў: [Верш] // Работніца і сялянка. № 2; Бальш. Пал. 27 лют.; Слова выбаршчыка: [Верш] // Бальш. сцяг. 25 лют.; Першамайскае прывітанне: [Верш] // Там жа. 1 мая; Дарога ў камуну: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Мін. праўда. 21 кастр.; На калгасным прасторы: [Верш] // Гродзен. праўда. 5 жн.; Мін. праўда. 4 жн.; Камсамольская песня; [Верш] // Гродзен. праўда. 19 жн.; У той дзень: [Верш] // Там жа. 16 вер.; Я маю права: [Верш] // За Радзіму. 25 лют.; Мін. праўда. 24 лют.; Першае Мая: [Верш] // За Радзіму. 1 мая; Я подпіс стаўлю: [Верш] // Калг. праўда. 26 кастр.; Мая магутная дзяржава: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Ленін: [Верш] // Мін. праўда. 21 студз.; Наст. газ. 21 студз.; Вясна на калгасным двары: [Верш] // Мін. праўда. 20 крас.; Веснавая песня: [Верш] // Там жа. 1 мая; Трэцяга ліпеня: [Верш] // Там жа. 3 ліп.; 17 верасня: [Верш] // Там жа. 16 вер.; Марш піянераў: [Верш] // Наст. газ. 4 студз.; Гараць векапомныя зоры: [Верш] // Там жа. 6 ліст.

**1952.** З тваім імем у сэрцы: (Працоўныя Заходняй Беларусі таварышу Сталіну): [Верш] / Сааўт. М. Клімковіч, П. Пестрак, М. Танк; Усюды, заўсёды ты з намі; Прывітанне; Таварышу Сталіну; Калі гляну на карту жыцця: [Вершы] // Ад шчырага сэрца. Мн.; Паэзія калгаснай вёскі: [Рэц. на кн.: Т а р а с Н. Вершы. Мн., 1952] // Беларусь. № 12 / Пад псеўд. С. Антонаў; На калгасным полі; Песня; Трактарыст; Дарога ў камуну: [Вершы] // Полымя. № 12; Леніну: [Верш] // Бальш. сцяг. 21 студз.; Мінску: [Верш] // Калг. праўда. 6 студз.; Сталінскі закон: [Верш] // Там жа. 5 снеж.; Жыве між намі Ленін: [Верш] // Мін. праўда. 21 студз.; Урачыстасць: [Верш] // Наст. газ. 4 снеж.

**1953.** Балота тут не будзе; У экскаватары: [Вершы] // Калг. праўда. 7 чэрв.

**1954.** Кішынёў: [Верш] // Беларусь. № 12; Наш Кастрычнік: [Верш] // Полымя. № 11.

**1955.** Маскве; Петразаводск: [Вершы] // Маладосць. № 2; Прывет табе...: [Верш] // Полымя. № 7; На радзіме паэта: Нарыс // Там жа. № 11 / Сааўт. Р. Няхай; Навагоднае: [Верш] // Калг. праўда. 1 студз.

**1956.** Май: [Верш] // Бярозка. № 5; Снежань: [Верш] // Віцеб. рабочы. 23 снеж.; Святочны тост: [Верш] // Калг. праўда. 4 студз.; У гэты дзень: [Верш] // Там жа. 10 ліст.; Жнівень: [Верш] // ЛіМ. 4 жн.; Абыякавасць ці нежаданне прапагандаваць кнігу // Там жа. 8 снеж. / Сааўт. Р. Няхай; Кветкі восені: [Верш] // Там жа. 15 снеж.; У хаце: [Верш] // Ніва. 23 снеж.

**1957.** У хаце: [Верш] // Беларускі каляндар на 1957 год. Беласток; Землякам: [Верш] // Нарач. Маладзечна. Кн. 1; Капяжы; На прадвесні: [Вершы] // Полымя. № 2; Нядарам зорамі: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4; Навагодняе: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Віцебск: [Верш] // Там жа. 13 студз.; Першы май: [Верш] // Там жа. 1 мая; Наш Кастрычнік: [Верш] // Віцеб. рабочы. 17 ліст.; Калг. праўда. 6 ліст.; Расстанне: [Верш] // Калг. праўда. 3 лют.; Сельскі настаўнік // Там жа. 7 лют.; Вечар у калгасе: [Верш] // Там жа. 23 лют.; Школа і жыццё // Там жа. 9 сак.; Навагодні тост: [Верш] // Мін. праўда. 1 студз.; За веліч камунізма я голас аддаю: [Верш] // Там жа. 3 сак.; Кастрычнік: [Верш] // Сел. газ. 6 ліст.; Чырв. сцяг. 6 ліст.; Кветкі восені: [Верш] // Чырв. сцяг. 24 ліст.

**1958.** Леніну: [Верш] // Між нас жыве Ленін. Мн.; Атэстат сталасці: [Верш] // Юным дэкламатарам. Мн.; Студзень: [Верш] // Бярозка. № 1; Гітлераўскі найміт // За вяртанне на Радзіму. № 94; Наш Кастрычнік:

[Верш] // Гомел. праўда. 5 ліст.; З Новым годам!: [Верш] // Гродзен. праўда. 1 студз.; Кастусь Каліноўскі: (Урывак з паэмы) // Ніва. 2 лют.; За святочным сталом: [Верш] // Чырв. сцяг. 1 студз.; Верасень; Камбайнёрка; «Ты — як рання вясновага промень...»: [Вершы] // Там жа. 7 вер.; Свята: [Верш] // Там жа. 17 вер.; Сцёпа: Апавяданне // Там жа. 21 вер.; Растанне: [Верш] // Там жа. 30 ліст.; Снежань: [Верш] // Там жа. 8 снеж.; Народны мсціўца: [Верш] // Там жа. 30 снеж.

**1959.** Айцам: [Верш] // Антырэлігійныя вершы беларускіх паэтаў. Мн.; Бярозка: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 28; Ліпень: [Верш] // Там жа. № 51; Крыніцы: [Верш] // Там жа. № 53; На былых сцежках // Там жа. № 65; Верасnёўскія частушкі // Там жа. № 68; Чырв. сцяг. 22 жн.; Землякам; Верасень: [Вершы] // За вярт. на Радзіму. № 71; Калыханка ночы: [Верш] // Там жа. № 88; Агітатар: [Верш] // ЛіМ. 25 лют.; На прадвесні: [Верш] // Там жа. 25 сак.; Расквітнеў наш родны край: [Верш] // Там жа. 16 вер.; З Новым годам!: [Верш] // Мін. праўда. 1 студз.; «Улада ўся Саветам»: [Верш] // Там жа. 1 сак.; Лунайце песні: [Верш] // Там жа. 6 ліст.; Сакавік; «Адходзіў я адзін...»; Зімовы лес: [Вершы] // Чырв. змена. 15 сак.; Вечар у калгасе: [Верш] // Чырв. сцяг. 25 лют.; За родную ўладу я голас аддаю: [Верш] // Там жа. 1 сак.; Сакавік: [Верш] // Там жа. 22 сак.; Масква; Прыйшлі сюды людзі; Вясна: [Вершы] // Там жа. 26 мая; Мар'яне маці гаварыла...: [Верш] // Там жа. 8 жн.; Прачынаецца народ: (Урыўкі з паэмы) // Там жа. 16 вер.; Калыханка ночы: [Верш] // Там жа. 18 ліст.; Марш піянераў; Зімовы лес: [Вершы] // Там жа. 20 снеж.

**1960.** Здраднік: [Верш] // Голас Радзімы. № 8; Маладзечна: [Верш] // Там жа. № 16; Мін. праўда. 14 лют.; На прадвесні: [Верш] // Голас Радзімы. № 24; Плач над Гудзонам // Там жа. № 28; Не дазволяць народы: [Верш] // Там жа. № 43; Ліпень: [Верш] // Там жа. № 54; Паштальён: [Верш] // Там жа. № 55; Гродзен. праўда. 3 ліп.; Я слухаў Хрушчова: [Верш] // Голас Радзімы. № 80; Год 43-і // Там жа. № 83; Канстытуцыя — асноўны закон: [Верш] // Там жа. № 91; Святочны верш // Там жа. № 99; Паштальён; Верасnёвы вецер жаліцца: [Вершы] // Маладосць. № 9; Калыханка начы: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4; Растанне: [Верш] // Там жа. № 9; Вам, жанчыны: [Верш] // Віцеб. рабочы. 22 сак.; Не магу маўчаць: [Верш] // Там жа. 11 кастр.; Кангалезцам: [Верш] // Там жа. 11 снеж.; Чырв. змена. 16 кастр.; У Маўзалеі: [Верш] // Гродзен. праўда. 20 крас.; Светлы воблік: [Верш] // Звязда. 17 жн.; Радзіма, твой закон...: [Верш] // Там жа. 4 снеж.; Мы ў Новы год уступаем горда: [Верш] // Наст. газ. 31 снеж.; Алену Далесу: [Верш] // Чырв. змена. 23 ліп.; Ноч, як лебедзь, белая: [Верш] // Чырв. сцяг. 6 студз.

**1961.** «Падае, падае лісце...»; На раллі; Ручнікі; Песня батрака; Кастрычнік; Ліст у няволю; Мая азёрная краіна; Дарога ў камуну; Я слухаў Хрушчова; Земляку: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2; Радзіма, твой закон...: [Верш] // Для школьнай эстрады. Мн.; Наст. газ. 4 снеж.; Тое было ў Таболах: Быль // Беларусь. № 11; Зязюльчыны слёзы: [Вершаваная казка] // Бярозка. № 2; Кангалезцам: [Верш] // Голас Радзімы. № 7; Гродзен. праўда. 7 студз.; ЛіМ. 3 лют.; Лумумбы больш няма..: [Верш] // Голас Радзімы. № 14; Слаўце наша жыццё // Там жа. № 15—16; Вам, жанчыны: [Верш] // Там жа. № 19; Першая сустрэча // Там жа. № 39; Ленінскі напрамак: [Верш] // Там жа. № 66; Мін. праўда. 29 жн.; Земляку: [Верш] // Голас Радзімы. № 75; Красуй, Радзіма! // Там жа. № 96; Работніца і сялянка. № 12; Я слухаў Хрушчова; Ліст да земляка Івана Сікоры; Сіняе неба: [Вершы] // Полымя. № 5; Сустрэчы з Янкам Купалам: Успаміны // Там жа. № 7; Вам, жанчыны: [Верш] // Работніца і сялянка. № 3; Маладзечна: [Верш] // Там жа. № 6; Гульня з агнём — не жарт, панове: [Верш] // Там жа. № 10; Святочны марш: [Верш] // Віцеб. рабочы. 1 студз.; Сцежачка-сцяжына: [Верш] // Там жа. 21 чэрв.; Успаміны аб вялікім песняру // Там жа. 9 ліп.; Айцец Красноўскі: Быль // Там жа. 12 ліп.; Маршрут да зорак — наш маршрут: [Верш] // Звязда. 14 крас.; Піянер Бел. 21 крас.; Вяселле: Апавяданне // Калг. праўда. 12 жн. / Пад псеўд. С. Антонаў; Збудуцца імкненні: [Верш] // Наст. газ. 19 жн.; Партысыны: [Верш] // Там жа. 28 кастр.; Атэстат сталасці: [Верш] // Ніва. 28 мая.

**1962.** Хмары над Нёманам: [Верш] // Жыццё для народа. Мн.; Асілак: [Паэма] // Бярозка. № 1; Мая калгасная сям'я: Урывак з паэмы // Там жа. № 10; Гульня з агнём не жарт, панове!: [Верш] // Голас Радзімы. № 36; Кантрасты // Там жа. № 60; Два сокалы: [Верш] // Там жа. № 65; Водарасць: (Паэма) // Там жа. № 92; Сцёпа: [Верш] // Гродзен. праўда. 19 мая; Вялікаму песняру: [Верш] // Там жа. 6 ліп.; Кветкі восені: [Верш] // Там жа. 18 ліст.; На раллі: [Верш] // Ніва. 16 снеж.

**1963.** Ля Маўзалея Леніна; Ленінскі напрамак: [Вершы] // Бяссмерце. Мн.; Старонкі маёй біяграфіі // Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мн.; Каласянае мора; Летні вечар; Бура на возеры; Мяцель; Ноч зімовая: [Вершы] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.; Кастусь Каліноўскі: [Урыўкі з паэмы] // Голас Радзімы. № 11; Ніва. 17 сак.; Наш госць Міхаіл Забейда // Голас Радзімы. № 38; Мой Нёман: [Верш] // Там жа. № 41; Гродн. правда. 18 авг.; Чайцы: [Верш] // Голас Радзімы. № 48; Бяроза белая над Сожам: [Верш] // Там жа. № 62; Квітней, рэспубліка мая! // Там жа. № 73.

**1964.** Першы наступ: Урывак з рамана // Беларусь. № 11; Ля маўзалея: [Верш] // Голас Радзімы. № 31—32; Раніца: [Верш] // Там жа. № 48; «Струменяць ліпы пах мядовы...»: [Верш] // Там жа. № 52; Подых восені: [Верш] // Там жа. № 59; Грукочуць стальныя калёсы: [Верш] // Маладосць. № 7; «Песні, песні — крылатыя птахі...»; «Люблю я гэту прыгажосць...»; Верасень: [Вершы] // Полымя. № 11; Лета: [Верш] // Гродн. правда. 23 авг.; Нашаява: [Верш] // Звязда. 7 ліп.; «Песні, песні — крылатыя птахі...»: [Верш] // ЛіМ. 17 ліст.; Подых восені; За морам...; Я маладосць сваю ўбачыў: [Вершы] // Наст. газ. 12 вер.; Мяцель: [Верш] // Ніва. 16 лют.; Кастусь Каліноўскі: (Паэма) // Там жа. 25 кастр.; «На сонцы ззяюць струны-рэйкі...»; «Песні, песні — крылатыя птахі...»: [Вершы] // Там жа. 13 снеж.; Люблю святочныя калоны: [Верш] // Чырв. змена. 7 ліст.

**1965.** Рыбачка: [Верш] // Дзень паэзіі — 65. Мн.; Ленінскі напрамак: [Верш] // Ленін заўсёды з намі. Мн.; «Не стаўце, людзі, агарожаў...»; «На сонцы ззяюць струны-рэйкі...»: [Вершы] // Беларусь. № 6; Раніца: [Верш] // Бярозка. № 8; Навагодні тост: [Верш] // Голас Радзімы. № 1; Люблю я гэту прыгажосць...; Кладзе мароз свае ўзоры...: [Вершы] // Там жа. № 7; Калі дзень адыходзіць...: [Верш] // Там жа. № 16; Калі дзень адыходзіць і вечар: [Верш] // Маладосць. № 7; ЛіМ. 9 ліп.; Памяць: [Верш] // Голас Радзімы. № 26; Мін. праўда. 16 чэрв.; Расстанне; У дарозе: [Вершы] // Голас Радзімы. № 34; Сцяжыначка-сцяжына: [Верш] // Там жа. № 50; Мой Нёман: [Верш] // Работніца і сялянка. № 9; «Не стаўце людзі агарожаў...»: [Верш] // Гродн. правда. 26 июня; Калі дзень адыходзіць; «Не стаўце людзі агарожаў...»: [Вершы] // Ніва. 9 мая; Подых восені: [Верш] // Там жа. 29 жн.; У дарозе: [Верш] // Там жа. 17 кастр.; Ля брацкіх магілак: [Верш] // Там жа. 31 кастр.; Расстанне: [Верш] // Там жа. 28 ліст.

**1966.** Памяць; Расстанне: [Вершы] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Зіма: [Верш] // Бярозка. № 1; Крэсы змагаюцца: (Урывак з рамана) // Голас Радзімы. № 15; З'яднаныя ў барацьбе // Там жа. № 29; На былых «крэсах» // Там жа. № 38; У былым панскім маёнтку // Там жа. № 43; Крэсы: Фрагменты з рамана / Літ. зап. Я. Семяжон // Полымя. № 9; Памяць: [Верш] // Ніва. 20 лют.

**1967.** «Сёння дзень такі прыгожы...»; Бярозка; Ноч зімовая; Калыханка начы; Люты; Ліпень; На сцежках помсты: [Вершы] // Арлянятам. У 2 т. Мн. Т. 2; У дарозе: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Леніну: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Наш дарагі Ільіч. Мн.; На допыце: (Урывак з рамана «Сонца за кратамі») // Голас Радзімы. № 39; У дэфензіве: Старонкі з кнігі «Сонца за кратамі» // ЛіМ. 3 сак.; Жанчынам: [Верш] // Сел. газ. 8 марта.

**1968.** Бура на возеры; Мяцель, Ноч зімовая: [Вершы] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.; Сонца за кратамі: Фрагменты з другой часткі рамана // Полымя. № 3; Радзіма: [Верш] // Віцеб. рабочы. 17 вер.; Апошняе спатканне: Старонкі з рамана «Лукішкі» // ЛіМ. 20 жн.

**1969.** «Я яшчэ старых знямог не знаю...»; «Мароз кладзе свае ўзоры...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 69. Мн.; Ленінскі напрамак: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.; Незабыўнае // Бярозка. № 9; Ля брамы астрога: (Урывак з рамана «Лукішкі») // Голас Радзімы. № 4; Лукішкі: Раман-хроніка // Полымя. № 5; На родных прасторах: (З падарожных нататкаў) // Віцеб. рабочы. 15 сак.; З новых вершаў: Подых восені; Ля брацкіх магіл; Мора // Вяч. Мінск. 11 вер.; Вызваленне: (Раздзел з кнігі «Шляхі-дарогі») // Там жа. 18 вер.

**1970.** Ліпень: [Верш] // Крынічка. Мн.; На былых сцежках // На задворках. Мн.; Дарогамі юнацтва: [Нарыс] // Слова пра родны кут. Мн.; Народны Сход // Голас Радзімы. № 37; Ішоў дваццаты год: Фрагмент з рамана // Полымя. № 9; Праваднру: [Верш] // Віцеб. рабочы. 21 сак.; Памяць; У дарозе: [Вершы] // Вяч. Мінск. 25 чэрв.; У тую цяжкую часіну // Там жа. 9 ліп.; Максімава прысада: Раздзел з рамана «Ішоў дваццаты год...» // ЛіМ. 1 мая; Старонкі летапісу: Урывак з кнігі успамінаў // Там жа. 18 вер.

**1971.** «Ёсць у памяці многа засекаў...»; Расстанне; Ля мора...: [Вершы] // Дзень паэзіі — 71. Мн.; Незабыўныя сустрэчы: З кнігі «Старонкі летапісу» // Маладосць. № 7; Ваколіца; «Паляцець бы у сінія далі...»; «Лес жнівеньскі...»; «Не спіцца мне...»: [Вершы] // ЛіМ. 16 ліп.

**1972.** Любы мой: [Верш] // Зорка Венера. Мн.; Перад вызваленнем: Урывак з рамана «Дачка батрака» // Беларусь. № 11; «Нашу ў грудзях я сонечнае шчасце...»: [Інтэрв'ю] / Зап. А. Карэлін // Віцеб. рабочы. 18 ліст.; Вяч. Мінск. 18 ліст.; «Я яшчэ старых знямог не знаю...»: [Верш] // Знамя юности. 19 нояб.; Запаветнае: Успаміны // ЛіМ. 10 ліст.

**1973.** Нараджэнне помсты: [Урывак з рамана] // ЛіМ. 7 снеж.

**1974.** І прыйдзе час...: Раздзелы з рамана // Полымя. № 10.

**1975.** Сустрэчы з Янкам Купалам // Такі ён быў. Мн.

**1976.** З тых дзён у Беластоку // Песняру мужнасці. Мн.; Калыханка начы: [Верш] // Ніва. 1 жн.

**1977.** Ноч зімовая: [Верш] // Беларускі каляндар 1977. Беласток.

**1978.** Горды арол: [Балада] // Беларуская балада. Мн.; Ідзём туды, дзе волаты...: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.

**1979.** «Я сын галоты і цямры...»;«Гэй, браточкі, з мурвязніцы...»; «Адзін я — з тых першых...»; Чорны госць; Гул трывогі; Прывітанне: [Вершы] // Покліч долі адзінай. Мн.

**1980.** Ідзём туды, дзе волаты...: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.; Леніну: [Верш] // Піянер Бел. 17 студз.

**1981.** Айцам: [Верш] // Туман трэба развеяць. Мн.

**1982.** Крыніцы: [Верш] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Якубу Коласу: [Верш] // Нам засталася спадчына. Мн.; Запаветнае // Успаміны пра Якуба Коласа. Мн.; Ленінскі напрамак: [Верш] // Мін. праўда. 22 крас.

**1983.** Калыханка начы; Ліпень: [Вершы] // Вяснянка. Мн.; Сабрала партыя сыноў: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.; Зязюльчыны слёзы: [Казка ў вершах] // Казкі беларускіх пісьменнікаў. Мн.

**1985.** З «Партызанскага слова»; Партызанская песня: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.

**1.4.**

Г о г а л ь М. Мёртвыя душы: Паэма / З рус. Мн., 1950.

Г о г а л ь М. Выбр. тв. / З рус. Мн., 1952.

М і р о н а ў А. Гэта твае сябры: Аповесць і апавяданні / З рус. Мн., 1953.

С я н к е в і ч Г. Апавяданні / З пол. Мн., 1955. (Школьная б-ка).

Б а ж о ў П. Уральскія сказы / З рус. Мн., 1956.

К а л е в а л а: Карэла-фінскі эпас / З фін. Мн., 1956.

**1928.** К р о т: [Апавяданне] / З пол. // Заранка. № 4 / Аўт. не ўказаны.

**1933.** М а н а с е н а В. Чаму сончыкі цвітуць раней за ўсю траву: [Казка] / З рус. // Шлях моладзі. № 4; [А л е г р а] Водарасць: (З зялёнага шуму): [Апавяданне] / З пол. // Там жа. № 9.

**1946.** Б ы т а в о й С. У тайзе: [Верш] / З рус. // Беларусь. № 7; Ц і х а н а ў М. Супрацьгаз: [Верш] / З рус. // Там жа. № 9 / Сааўт. пер. А. Вялюгін; Б р а у н М. Ваенная вясна; Б ы т а в о й С. У тайзе: [Вершы] / З рус. // Полымя. № 6.

**1947.** Г о р к і М. Дзяўчына і смерць / З рус. // Беларусь. № 6 / Сааўт. пер. А. Зарыцкі; Т ы ч ы н а П. Свяці, наша сонца; Р ы л ь с к і М. Ленінград: [Вершы] / З укр. // Полымя. № 1; Р а й н і с Я. Прывет табе, радзіма; Магілы нашых герояў / З лат.; Н е р ы с С. Сталіну; К о р с а к а с К. Зварот / З літ.: [Вершы] // Там жа. № 7; Н е й м а н С. Прывітанне; Г а л а с Ф. Маскве да дня нараджэння; Г о р а І. Ля маўзалея Леніна: [Вершы] / З чэш. // Там жа. № 12.

**1948.** П р а к о ф ' е ў А. «Два-тры павароты і горад...»: [Верш] / З рус. // Пракоф'еў А. Выбр. вершы. Мн.; М і ц к е в і ч А. Рускім сябрам: [Верш] / З пол. // ЛіМ. 25 снеж.

**1950.** М а я к о ў с к і У. Левы марш: [Верш] / З рус. // Наст. газ. 13 крас.

**1951.** Г о р к і М. Песня пра буравесніка / З рус. // Зара. 17 чэрв. / Сааўт. пер. А. Зарыцкі.

**1952.** Р ы л ь с к і М. Чатыры вершы; Крамлёўскія куранты; Праява; «Гэта ў горадзе было тым...»; Ленінград; Сыну; Жаваранкі; Пулкаўскі мерыдыян; На магіле героя; Зварот; Бедржык Сметана; Сенакос; «Дакурвайце сігары, дапівайце...»; Дзень вызвалення; Будзь верным: [Вершы] / З укр. // Рыльскі М. Выбр. тв. Мн.; Г о г а л ь М. Тройка: Урывак з «Мёртвых душ» / З рус. // За Радзіму. 4 сак.

**1953.** Л у ч ы н а Я. З дзеяў жыцця і песні: [Верш] / З пол. // Лучына Я. Выбр. тв. Мн.; М а л ы ш к а А. Маці; «Вайна дарогі выбухамі рые...»; «Зачаруй мяне песняй знаёмай...»; «Дружылі так яшчэ нядаўна...»; «Я цябе вымраіў ветлай, рашучай...»; «Палюбі мяне,— я не знаю...»; Дзіцячая балада; Каменацёс; Бура ў парту; Восень над Гудзонам; Балада пра дружбу; Танец; Дуб у Нью-Йорку; Канадская песенька; У ліфце; Хлеб; Пшаніца на амерыканскім полі: [Вершы] / З укр. // Малышка А. Выбр. тв. Мн.; Г о р к і М. Дзяўчына і смерць: (Казка) / Сааўт. пер. А. Зарыцкі; Б е д н ы Дз. Галоўная вуліца: Паэма; Ц і х а н а ў М. Супрацьгаз / Сааўт. пер. А. Вялюгін; Перакоп; Балада аб сінім пакеце; С у р к о ў А. «Час такі, а ці што другое...»; Прадчуванне вясны; К е д р ы н Дз. Сон лорда; К а м а р о ў П. Глушэц: [Вершы] / З рус. // Руская савецкая паэзія. Мн. Рэц: С а л а в е й Л. Паэзія вялікага народа // Полымя. 1953. № 12.

**1954.** К о р с а к а с К. Вызваліцелям Літвы: [Вершы] / З літ. // Паэты савецкай Літвы. Мн.; Т ы ч ы н а П. Песня пра Зою Касмадзем'янскую; Сіротка: [Вершы] / З укр. // Тычына П. Выбр. тв. Мн.; Б ж э х в а Я. Палац культуры: [Верш] / З пол. // Звязда. 22 ліп.

**1955.** М і ц к е в і ч А. Да маці-полькі: [Верш]; Помнік Пятру Вялікаму (З «Дзядоў»; З часткі трэцяй) / З пол. // Міцкевіч А. Выбр. тв. Мн.; С т а ф Л. Мір; І в а ш к е в і ч Я. Пісьмо да прэзідэнта; Б р а н е ў с к і У. На смерць рэвалюцыянера; Заканадаўцам; Дамброўскі басейн; Вуліца Мілая; Польскі салдат; На сярэднім Усходзе; Дамоў; Я с т р у н М. Станцыя імя Маякоўскага; Пісьмо Анны Жывёл; С п е в а к Я. Ода да Варшавы; К у б я к Т. Вечар у Варшаве; Б ж э х в а Я. Палац культуры: [Вершы] / З пол. // Сучасная польская паэзія. Мн.; Б р а н е ў с к і У. Заканадаўцам; На сярэднім Усходзе: [Вершы] / З пол. // Полымя. № 4; М і ц к е в і ч А. Помнік Пятру Вялікаму: [Верш] / З пол. // Там жа. № 11; Я г о ж. Рускім сябрам: [Верш] / З пол. // Гродзен. праўда. 11 вер.; Я г о ж. Да рускіх сяброў: [Верш] / З пол. // Калг. праўда. 26 ліст.

**1956.** Л у ч ы н а Я. З дзеяў жыцця і песні: [Верш] / З пол. // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мн.; Р а й н і с Я. Найвялікшая Радзіма: [Верш] / З лат. // Райніс Я. Выбранае. Мн., Г о р к і М. Дзяўчына і смерць // Ніва. 17 чэрв. / Сааўт. пер. А. Зарыцкі.

**1957.** Б а г у ш э в і ч Ф. Запавет: [Верш] / З пол. // ЛіМ. 14 жн.

**1961.** Б р а н е ў с к і У. На смерць рэвалюцыянера; Дамброўскі басейн; Заканадаўцам; Вуліца Мілая; Middle East; Дамоў: [Вершы] / З пол. // Бранеўскі У. Дарогай дзён. Мн.; Л я ў к о в а В. Мінскія «Лужнікі»: [Верш] / З рус. // Голас Радзімы. № 26; Я г о ж. Зімой у лесе: [Верш] / З рус. // Там жа. № 90.

**1962.** Л я ў к о в а В. Сэрца маці: [Верш] / З рус. // Голас Радзімы. № 14; Я г о ж. Ой, дарогі, вы, дарогі: [Верш] / З рус. // Там жа. № 28.

**1964.** К у б я к Т. Вечар у Варшаве: [Верш] / З пол. // Ніва. 19 студз.

1965. С п е в а к Я. Ода да Варшавы: [Верш] / З пол. // Ніва. 17 студз.

1985. Р ы л ь с к і М. Пулкаўскі мерыдыян: [Верш] / З укр. // Рыльскі М. Світальная зара. Мн.

1.5.

На армянскую мову. Гэты ярка-чырвоны захад; З сахой: [Вершы] / Пер. А. Аран // Анталогія беларускай літаратуры. Ерэван. 1957.

На латышскую мову. Nakts sūpła dziesma; Avoti / Atdz. A. Elksne // Balrkrievijas priede. Rigā, 1960.

На літоўскую мову. Pasveikinimas / Vert. A. Skinkys; Auksinis ruduo; Mano ežeru kraštas // Iš baltarusiu poezijos. Vilnius, 1952; Lenino tiesa. Šaltiniai / Vert. A. Žukauskas; Susitikimas / Vert. K. Inčiūra; Kai žydejo rutos, metos / Vert. J. Siožinys // Atplaukia Nemunu daina. Vilnius, 1958; Saltiniai / Vert. A. Žukauskas // Lit. ir menas. 1958. Liep. 26; Lenino tiesa / Vert. A. Žukauskas // Tiesa. 1958. Rugs. 7.

На польскую мову. My — pieśniarze / Tł. T. Iljaszewicz // Poprostu. 1936. Nr. 13; «W dzień powszedni po południu...» / Tł. K. Jaworski // Kamena. 1938. Nr. 8; Wśród zbóż / Tł. K. Jaworski // Kamena. 1939. Nr. 5; Na przedwiośniu: (Fragm.) // Prawda Wil. 1940. 18 wrześ.; Marzenia / Tł. K. Jaworski. 1947. Nr. 5; Z sakwą dzwięcznych słów / Tł. K. Jaworski // Poglądy. 1971. Nr. 1; «W dzień powszedni po południu...»; «Dojedli ziemniaki wczoraj...»; Ze słowikami gwarzę; Wśród kłosów; Marzenia; Z ośnieżonym wiatrem; «Ukochany, przyjdź w sobotę; Z sakwą dźwięcznych słów / Tł. K. Jaworski / Jaworski K. Pisma. Lublin, 1972. T. 3.

На рускую мову. Лирика / Пер. Б. Турганов. М., 1947.

Зеленушка и Крякотушка: Сказка в стихах / Пер. А. Шарапов. Мн., 1966.

Кукушкины слезы: Сказка / Пер. А. Шарапов. Мн., 1967.

Кресы борются: Роман-хроника / Пер. В. Севрук. М., 1971. Кн. 1.

Солнце за решеткой; Лукишки: Романы / Пер. В. Севрук. М., 1974.

Шел двадцатый год: Роман / Пер. В. Севрук. М., 1977.

Кресы борются: Роман (Первая часть трилогии) / Пер. В. Севрук. М., 1980. Рэц.: Б а д р о ў А. Кнігапіс // ЛіМ. 1981. 12 чэрв.

Солнце за решеткой: Роман (Вторая часть трилогии); Лукишки: Роман (Третья часть трилогии) / Пер. В. Севрук. М., 1980.

Привет: [Верш] / Пер. Н. Сидоренко // ЛГ. 1939. 7 нояб.; Товарищу Сталину: [Верш] / Пер. К. Титов // Сов. Бел. 1940. 29 нояб. / Сааўт. П. Пестрак, М. Танк, М. Клімковіч; Сталіну: [Верш] / Пер. А. Твардовский // Трудовая газ. (Рига). 1940. 17 сент.; Москва; Ты будешь жить / Пер. С. Левман; Родине / Пер. М. Зенкевич: [Вершы] // За Советскую Беларусь. М., 1942; Веди, нарком!: [Верш] / Пер. М. Пасынок // Огонек. 1942. № 7—8; Родина: [Верш] / Пер. М. Зенкевич // Октябрь. 1942. № 1—2; Ненависть: [Верш] / Пер. М. Пасынок // Белоруссия борется. М.; Л., 1943; От края до края: [Верш] / Пер. М. Пасынок // Огонек. 1943. № 16; Витебск: [Верш] / Пер. Д. Кедрин // Сов. Бел. 1945. 26 июня; Спящий лебедь: [Верш] / Пер. П. Кобзаревский // Звезда. 1946. № 4; Сталину: [Верш] / Зорька. 1946. 3 июля; Первый из первых: [Верш] / Пер. В. Миловаnов // Сов. Бел. 1946. 12 февр.; На Запад; Мой милый край: [Вершы] / Пер. Л. Друскин // Поэты Белоруссии. М., 1947; Приветствие: [Верш] / Пер. М. Зенкевич // Читайте, завидуйте, я гражданин Советского Союза. М., 1947; Летний вечер / Пер. И. Садофьев; По дорогам мести / Пер. Г. Семенов; Доваторцы / Пер. П. Кобзаревский; Встреча; Жатва / Пер. И. Садофьев; Мой милый край / Пер. Л. Друскин: [Вершы] // Антология белорусской поэзии. Л., 1948; 3-е июля: [Верш] / Пер. В. Рождественский // Ленинград. правда. 1949. 19 июня; Всюду, всегда ты с нами: [Верш] / Пер. Н. Горулев // Сов. Бел. 1949. 18 дек.; В Мавзолее: [Верш] // Гродн. правда. 1950. 22 янв.; Взгляни, товарищ!: [Верш] // Зорька. 1950. 5 нояб.; Сталин. молодежь. 1950. 5 нояб.; Моя держава: [Верш] / Пер. К. Титов // Сов. Бел. 1950. 8 янв.; Первый кандидат: [Верш] / Пер. Д. Ковалев // Там жа. 1950. 17 дек.; Тем, кто готовит войну: [Верш] // Сталин. молодежь. 1950. 12 июля; Заслонову: [Верш] / Пер. Д. Дворецкий // Смоленский альманах. Смоленск, 1951. Кн. 8; «То не вечерний свет багровый...»; За плугом; Золотая осень; Вождю; Семнадцатое сентября 1939 года; Песня об урожае; Песня обновления; Ленину / Пер. Н. Сидоренко; Приветствие / Пер. М. Зеленкевич; Сталину / Пер. А. Твардовский; Прошли года / Пер. Л. Длигач: [Вершы] // Антология белорусской поэзии. М., 1952; Моя могучая Держава; Околица синих болот; Цветок счастья; Дорога в коммуну; Пылают Кремлевские звезды: [Вершы] / Пер. А. Шарапов // Сов. Отчизна. 1952. № 5; Всюду, всегда с нами / Пер. Н. Горулев; Приветствие / Пер. М. Зенкевич; Товарищу Сталину; Когда гляну на карту страны / Пер. Д. Ковалев: [Вершы] // От всего сердца. Мн., 1953; Советский штык; Кишинев: [Вершы] / Пер. А. Ренин // Октябрь (Кишинев). 1954. № 5; Цветок счастья: [Верш] // Знамя юности. 1957. 19 сент.; Баллада о Полесье: [Верш] / Пер. К. Титов // Сов. Бел. 1957. 11 янв.; Цветок счастья: [Верш] // Сов. молодежь (Рига). 1957. 8 окт.; Гордость страны: [Верш] / Пер. К. Титов // Сов. Бел. 1958. 8 марта; За солнечную явь!: [Верш] / Пер. К. Титов // Там жа. 1958. 16 марта; Слово Ильича: [Верш] / Пер. К. Титов // Там жа. 1958. 22 апр.; Летний вечер: [Верш] // Знамя юности. 1960. 22 июля; Криница; Ялта; Апрель: [Вершы] / Пер. И. Беляев // Курортная газета (Ялта). 1960. 17 апр.; Я слушал Хрущева: [Верш] / Пер. К. Титов // ЛГ. 1960. 22 окт.; Сов. Бел. 1960. 21 окт.; Я слушал Хрущева; Осенние цветы; Буря на озере; Тропиночка-тропинка: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Неман. 1962. № 6; Разлив; Осенние цветы: [Вершы] / Пер. Б. Спринчан // Сов. Бел. 1962. 29 нояб.; «На запад по дыму пожарищ...»: [Верш] / Пер. А. Шарапов // Путь к победе. Мн., 1970; Доваторцы; Тропиночка-тропинка; Память: [Вершы] / Пер. П. Кобзаревский // Кобзаревский П. Говорят мои друзья. Мн., 1971; Народное собрание / Пер. С. Арадьев // Неман. 1972. № 9; Криницы: [Верш] / Пер. Г. Ладонщиков // Земля с лазурными очами. М., 1979; Доваторцы / Пер. П. Кобзаревский; По дорогам мести / Пер. Г. Семенов: [Вершы] // Партизанская слава. Л., 1985.

На таджыкскую мову. Рузи муздур; Солхо гузаштанд: [Вершы] / Тарч. Б. Расо // Армугони дусти. Душанбе, 1965.

На татарскую мову. Уч чэм нэфрэт юллары: [Верш] / З. Нури тэрж. // Соц. Татарстан. 1964. 3 июль; Белорус шагыйрьлэре. Казан, 1968.

На узбекскую мову. Кудратли Ватаним; Коммуна йули; Куллар улкаси; Тун алласи; Ёз окшоми; Хижрон: [Вершы] / Тарч. Х. Шарипов // Белорус шоирлари. Тошкент, 1962.

На ўкраінскую мову. Зустріч: [Верш] / Пер. М. Николаенко // Правда Укр. 1945. 16 січ.; Ідемо в лавах здружені; Криниці; Червоний штик; Перше травня: [Вершы] / Пер. М. Шеремет, В. Ткаченко, В. Мисик, М. Пригара // Білоруська радянська поезія. К., 1948; Зустріч / Пер. Г. Коваль; Осінній ліс / Пер. О. Жолдак: [Вершы] // Пісні з Білорусі. К., 1957; На ріллі; Рушники; Найрийська пісня; Жовтень; Моя країна-озерянка; Землякові: [Вершы] / Пер. Р. Лубківський // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 1; На ріллі: [Верш] / Пер. Р. Лубківський // Слов'янське небо. Львів, 1972; Час іще тривожний: [Верш] / Пер. Б. Олійник // Ля Вечнага агню. 1941—1945. Харків; Мн., 1984.

На чэшскую мову. Na přelom; Bez nazvu / Přel. F. Tichý // Slovanský přehled. 1937. T. 39.

1.6.

С е м н а ц ц а т а г а в е р а с н я: Літаратурны зборнік, прысвечаны вызваленню Заходняй Беларусі. Мн., 1946 / Скл.

2.1.

На рускай мове. Ч е р н я е в Н. Стихи Михася Машары: Библиография // Заря. 1947. 11 окт.

2.3.

На беларускай мове. Б а з а р э в і ч М. Пясняр барацьбы і вызвалення // Звязда. 1977. 18 ліст.; Б а р а г Л. Міхась Машара // ЛіМ. 1940. 16 ліст.; Б а р ш ч э ў с к і А. Міхась Машара // Беларускі каляндар 1972. Беласток. 1972; В - і к А. Наш літаратурны малядняк // Шлях моладзі. 1937. № 4; В - і ч. Уражанні з «культурнай крытыкі» // Наша воля. 1936. 23 жн.; В а д а н о с а ў М. Сэнс жыцця — змаганне // ЛіМ. 1974. 27 снеж.; В а с і л ь е ў К. З народам і для народа // Нар. асвета. 1962. № 11; В е р а с З. Атрымлівала лісты, а ў іх — вершы... // Голас Радзімы. 1983. 1 вер.; Я г о ж. Як выдаваўся збор-

нік // ЛіМ. 1979. 28 ліст.; Г е р ц о в і ч Я. На перадавых пазіцыях. Мн., 1957. С. 67—68. Я г о ж. Паэтычнае бачанне свету //ЛіМ. 1955. 19 сак.; Г і л е в і ч Н. Паэзія Міхася Машары // Машара М. Мая азёрная краіна. Мн., 1962; Г і с т о р ы я беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1964. Т. 1. С. 84—85; Г л е б к а П. Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі // Глебка П. Паэзія барацьбы і перамогі. Мн., 1973; Д а н і л е в і ч Л. Мужнелі ў паходзе // Наст. газ. 1972. 18 ліст.; К а р э л і н А. Нашу ў грудзях я сонечнае шчасце: Да 70-годдзя з дня нараджэння Міхася Машары // Віцеб. рабочы. 1972. 18 ліст.; К л і м к о в і ч М. Міхась Машара // Клімковіч М. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1962; Л у к а ш э н к а В. Пясняр азёрнага краю // Гродзен. праўда. 1962. 18 ліст.; М. Ш. [Шкялёнак М.] Нацыянальна-грамадскія матывы ў творчасці Міхася Машары: (З нагоды 10-тых угодкаў працы на літаратурнай ніве) // Бел. фронт. 1939. 1 лют.; М а й х р о в і ч С. Вынікі творчай перабудовы // Полымя. 1948. № 9; Я г о ж. Міхась Машара: (Да 50-годдзя з дня нараджэння) // ЛіМ. 1952. 29 ліст.; Я г о ж. На службе народа // Бальш. сцяг. 1949. 18 снеж.; Я г о ж. Паэтычная творчасць Міхася Машары // Машара М. Выбр. лірыка. Мн., 1948; М і с к о Я. Ішоў 1928 год... // ЛіМ. 1972. 24 ліст.; Я г о ж. Міхасю Машару — 70 // Міско Я. Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983; Я г о ж. Слова развітання // ЛіМ. 1976. 11 чэрв.; М і х а с ь Машара: [Некралог] // ЛіМ. 1976. 11 чэрв.; М і х а с ю Машару — 70: [Віншаванне з юбілеем] // Там жа. 1972. 24 ліст.; Н я х а й Р. Міхась Машара // Машара М. Выбр. тв. Мн., 1958; Я г о ж. Пясняр азёрнага краю // Полымя. 1972. № 11; Яго ж. Сын азёрнага краю: Да 80-годдзя з дня нараджэння Міхася Машары // ЛіМ. 1982. 26 ліст.; Я г о ж. Шчасця табе, паэт! // Там жа. 1962. 27 ліст.; П а п к о ў с к і К. З глыбінь народных // Наст. газ. 1962. 28 ліст.; П а ў л ю к о ў с к і І. З кагорты змагароў // ЛіМ. 1977. 18 ліст.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П я т р о в і ч А. Праз пераломы часу // Звязда. 1972. 18 ліст.; Р ы м ч у к А. Пясняр сялянскай Беларусі // Шлях моладзі. 1937. № 1; С а л а в е й Л. Пясняр зямлі роднай // Голас Радзімы. 1962. № 92; С а ч а н к а І. Публіцыстыка беларускіх пісьменнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1977. С. 133—134, 149—151, 206—207; С н ы т к о Ю. Міхась Антонавіч Машара // Сялян. газета. 1940. 8 снеж.; С о д а л ь У. У словах, фарбах і кадрах // ЛіМ. 1974. 5 ліп.; С т а н к е в і ч С. Аб беларускай літаратурнай сучаснасці // Нёман. 1932. № 5; Т а н к М. Стрэхі за гасцінцам // Бел. летапіс. 1937. № 8; Х р о м ч а н к а К. Разам з народам // Мін. праўда. 1972. 18 ліст.; Ш у к л і н а Н., К а б а к о в і ч А., Ш п а к о ў с к і І. Паэзія абнаўлення свету. Мн., 1981. С. 187—189; Ш у т о в і ч Я. 10 год літаратурнай творчасці М. Машары // Калоссе. 1938. № 4; Ш у ш к е в і ч С. Майстар праўдзівага палымянага слова: Да 80-годдзя з дня нараджэння М. Машары // Голас Радзімы. 1982. 18 ліст.; Я. Н. [Найдзюк Я.] Палемічныя запіскі // Шлях моладзі. 1936. № 6; Я. Ш. [Шутовіч Я.] 10 год літаратурнае творчасці Міхася Машары // Там жа. 1938. № 26.

**На польскай мове.** K r o n i k a Słowiańska // Kamena. 1939. Nr 5; Ł a s t ó w k a P. Białoruska młódź literacka // Kultura. 1937. Nr 45; R. K. Na białoruskim Parnasie poetyckim w Wilnie // Środy Literackie. 1937. Nr. 7; S m r e c z y ń s k i K. Twórczość poetycka Białorusinów wileńskich // Słowo. 1931. Nr 220.

**На рускай мове.** М е л е ж И. Жизненные заботы. М., 1980. С. 109; Н е х а й Р. Михась Машара // Рассказы о наших земляках. Молодечно, 1959; Я г о ж. От родных нив // Сел. газ. 1972. 18 нояб.; П о э т ы Западной Белоруссии. М., 1940. С. 9—11; Т у р г а н о в Б. Міхась Машара // Машара М. Лирика. М., 1947; Х р о м ч е н к о К. Вместе с народом // Гродн. правда. 1972. 18 нояб.; Заря. 1972. 18 нояб.; Я г о ж. Трилогия о жизни и борьбе народа // Машара М. Кресы борются. М., 1980.

**На чэшскай мове.** L a s t a ů k a P. Rozvoj současné běloruskei literatury v Polsku / Z pol. rukop. přel. A. Frinta // Slovanský přehled. 1938. T. 30; H r y b T. Z běloruské poesie // Slovanský přehled. 1937. T. 29.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Б а з ы л ю к М. Міхасю Машару: [Верш] // Шлях моладзі. 1938. № 3; Б я р о з к а А. «...Заснула ноч. Павіслі ціха зоры...»: (Грам. Машары на выезд у Гдыню прысвячаю): [Верш] // Калоссе. 1935. № 2; М і х а с ь. Перад бурай: (Прысвячаю грамадзяніну Машары): [Верш] // ЛіМ. 1936. 31 снеж.

**3.1.**

БДАМЛіМ, ф. 1, воп. 1, спр. 1—63; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, спр. 210—211; ф. 32; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 389—393.

*У. М. Ларчанка.*

## МАШКОЎ УЛАДЗІМІР



***Машкоў Уладзімір Георгіевіч (н. 5. 7. 1938, Масква), празаік. Член СП Беларусі з 1970. Піша на рускай і беларускай мовах.***

Нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага. Бацька, Георгій Мікалаевіч, працаваў кіраўніком спраў ЦК КПБ. Маці, Аляксандра Іванаўна,— хатняя гаспадыня. Перад вайной бацькі жылі ў г. Горкі Магілёўскай вобл. і г. п. Іўе Гродзенскай вобл. У гады Вялікай Айчыннай вайны У. Машкоў з маці і братамі знаходзіўся ў Маскве. Бацька ў той час быў на тэрыторыі акупаванай фашыстамі Беларусі ў партызанах, камісарам 100-й партызанскай брыгады імя Кірава. З 1944 сям'я жыве ў Мінску. У 1955 У. Машкоў скончыў сярэднюю школу і паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ (скончыў у 1960). Працаваў літсупрацоўнікам газеты «Зорька» (1960—64), рэдактарам галоўнай рэдакцыі вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё. У лютым—верасні 1968 слухач Вышэйшых сцэнарных курсаў у Маскве. У 1968—70 сцэнарыст па дагавору кінастудыі «Беларусьфільм», у 1971—72 рэдактар выдавецтва «Беларусь», потым старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1972—81). У 1981—86 загадчык рэдакцыі літаратуры для малодшага школьнага ўзросту выдавецтва «Юнацтва». З 1987 рэдактар аддзела прозы часопіса «Неман».

Першы твор У. Машкова — гумарэска «Голас з калыскі, або Незвычайнае інтэрв'ю» — надрукаваны ў шматтыражцы «Беларускі універсітэт» у 1957. Героі аповесцяў празаіка («Паміж «А» і «Б», «Вясёлы тузін», «Я сам», «Засумаваў па дожджыку» і інш.), як правіла, хлопчыкі і дзяўчынкі школьнага ўзросту, падлеткі. Праз іх паводзіны і ўчынкі вырашаюцца праблемы выхавання ў сям'і і школе, аналізуецца станаўленне характару і сяброўскіх узаемаадносін. Раскрываецца ўнутраны свет, падкрэсліваюцца такія рысы, як дапытлівасць, імкненне да самастойнасці. Аповесць «Як я быў вундэркіндам» экранізавана кінастудыяй «Беларусьфільм» (1983). Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў «Хлопчык і чапля» (паст. ў 1969, з М. Беравым), «Чалавек з майго жыцця» (паст. ў 1971), «Добрая справа» (паст. ў 1973), «Юныя айбаліты» (паст. ў 1980), «Станаўленне» (паст. ў 1982). Аўтар п'есы (разам з А. Вольскім) «Як я быў вундэркіндам» (паст. ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача ў 1986). На рускую мову пераклаў асобныя творы З. Бядулі, К. Чорнага, С. Александровіча, А. Васілевіч і інш.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік, Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1. 2.**

Дружба даражэй за ўсё. Мн., 1962 (Законы юных піянераў).

Дзень добры, кастры і прыгоды: Піянерскія нататкі. Мн., 1963 (Б-чка піянера-актывіста).

Между «А» и «Б»: Повесть. Мн., 1966. Рэц.: Пиотуховская Р. Кто помнит свое детство // Неман. 1967. № 7; Семенова А. Весело о серьезном // Сов. Бел. 1966. 23 нояб.; Шкляревский И. // Знамя. 1967. № 3.

Веселая дюжина: Повесть. Мн., 1968.

Я сам: Повесть. Мн., 1972.

Здравствуй, Валерка!: Повести. Мн., 1974. Рэц.: Мартинович А. // Дет. лит. 1976. № 1; Яфімава М. На веласіпедзе... да Малой Мядзведзіцы // ЛіМ. 1975. 12 снеж.

Соскучился по дождику: Повесть. Мн., 1976. Рэц.: Барсток М. // Неман. 1978. № 1; Катюшенко М. Судьба «бегуна на длинные дистанции» // Знамя юности. 1977. 24 февр.; Хорсун Т. Шлях да людзей // ЛіМ. 1977. 27 мая.

Как я был вундеркиндом: Повесть. Мн., 1979. Рэц.: Тычына М. Што можна ўбачыць ў бінокль? // ЛіМ. 1980. 11 крас.

Как я был вундеркиндом: Повесть. Мн., 1982.

Последний день матриархата: Повесть. Мн., 1985.

Детское время: Повести. Мн., 1987.

**1.3.**

**1958.** Калі побач дзядзя Пеця: [Апавяданне] // Піянер Бел. 11 ліп.; Да рыбацкага возера //Там жа. 18 ліп.; Чырвоны гальштук // Там жа. 1 жн.

**1959.** Адкуль прыйшоў твой касцюм // Піянер Бел. 14 жн.

**1961.**17 лет назад // Зорька. 16 сент.

**1962.** Ён не сказаў ні слова: [Нарыс] // Піянеры-героі. Мн.

**1964.** Спасенное знамя: Рассказ // Зорька. 11 апр. Солнце, Нарочь, сосны // Там жа. 1 мая; Судьба героя // Там жа. 22 авг.

**1967.** Юнакі з зялёнымі нашыўкамі: [Апавяданне] // Эстафета пакаленняў. Мн.; Про веселого петуха: [Рэц. на на кн.: Бурсов И. Как звери к зиме готовятся. Мн., 1966] // Неман. № 6.

**1968.** Сцяжынка бойным шляхам стане!: [Рэц. на кн.: Дубоўка У. Жоўтая акацыя. Мн., 1967] // ЛіМ. 16 студз.; Усім людзям на доўгія гады: [Рэц. на кн.: Сяркоў I. Мы з Санькам у тыле ворага. Мн., 1968] // Там жа. 22 ліст.

**1969.** И взрослым, и детям: [Рэц. на кн.: Бурсов И. Матрёшкины сказки. Мн., 1968] // Неман. № 6.

**1970.** [Рэц. на кн.: Грицкевич В. Путешествия наших земляков. Мн., 1968] // Неман. № 3; [Рэц. на кн.: Бородулин Р. Раскидач. Мн., 1969] // Там жа. № 6; Чтоб помнили...: [Рэц. на кн.: Саченко Б. Последние и первые. М., 1969] // Там жа. № 8; [Рэц. на кн.: Гузанов В. Одиссей с Белой Руси. Мн., 1969] // Там жа. № 11; Загартоўка характару: [Рэц. на кн.: Хомчанка В. Сустрэча з цудам. Мн., 1969] // Полымя. № 7.

**1971.** Вместе с людьми... [Рэц. на кн.: Лужанин М. Двенадцать вечерних костров. М., 1970] // Неман. № 3.

**1973.** Запаветнае жаданне: Апавяданне // Бярозка. № 3.

**1974.** Засумаваў па дождж ыку: [Аповесць] // Бярозка. № 10—12; Между «А» и «Б»: Отрывок из повести // Зорька. 29 нояб.

**1981.** «Юнацтва» выходит в дорогу // Зорька. 30 янв.

**1984.** Аразбек Айтымбетаў: [Уступнае слова] // Братэрства. Мн.

**1985.** Запаветнае жаданне: Апавяданне // Буслы над хатай. Мн.

**1.4.**

Бядуля З. Клад: Сказка / С бел. Мн., 1965.

Александрович С. От родной земли...: Повесть о детских и юношеских годах Я. Коласа / С бел. Мн., 1966.

Гарбук В. Алочка-забывалочка / С бел. Мн., 1966.

Василевская Г. Я еду на верблюде: Повесть / С бел. Мн., 1972.

Юревич В. Дедушкины пятерки: Рассказы / С бел. Мн., 1973.

Василевич А. Я — внук капитана: Рассказы / С бел. Мн., 1978. / Сааўт. пер. Б. Бур'ян. Рэц.: Скальскі Б. Кнігапіс // ЛіМ. 1979. 2 лют.

Короткевич В. Беловежская пуща / С бел. Мн., 1979.

Чорный К. Настенька: Повесть / С бел. Мн., 1979.

Мехов В. Старинная гравюра: Повести из прошлого / С бел. Мн., 1982.

Кравченко В. Преступление у Зеленой тони: Повести / С бел. Мн., 1985 / Сааўт. пер. У. Жыжэнка.

Ус А. За лесом — Березовая Роща: Повести /С бел. Мн., 1985.

**1977.** Мехов В. Последняя явка: [Аповесць] / С бел. // Мехов В. Зарево. Мн.

**1982.** Лецка Е. Дорога в оба конца: [Повесть] / С бел. // Неман. № 9—10.

**1983.** Маеўская Н. Такая поздняя весна: [Апавяданне] // Неман. № 3.
**1.5.**

**На балгарскую мову.** Как бях вундэрскинд: Повест / Прев. С. Тодорова. София, 1984.

**На беларускую мову.** Як я быў вундэркіндам: Раздзел з новай аповесці / Пер. С. Міхальчук // Бярозка. 1979. № 4—6; Апошні дзень матрыярхату: [Раздзел з аповесці] / Пер. С. Міхальчук // Бярозка. 1985. № 8, 9.

**На венгерскую мову.** Miböl lesz a csodagyerek? / F. I. Földeak. Budapest, 1985.

**На малдаўскую мову.** Ам фост одатэ вундеркинд... / Трад. Е. Левандовская. Кишинэу, 1984.

**На рускую мову.** Он не сказал ни слова: [Нарыс] / Пер. Ю. Богушевич // Пионеры-герои. Мн., 1965.

**На узбекскую мову.** Билагон бола кисеа / Тарж. Р. Рауферов. Тошкент, 1984.

**На чэшскую мову.** Poslední den matriarchátu / Přel. D. Bělоševský. Praha, 1989.
**2.3.**

**На беларускай мове.** Беларуская літаратура: Дзень сённяшні. Мн., 1980. С. 233—237; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

**На рускай мове.** Букчин С. Велика надежда... // Неман. 1970. № 1; Гуревич Э. Детская литература Белоруссии. М., 1982. С. 122—123. *Я. А. Гарадніцкі.*

# МАШЫНСКАЯ-ГЕЛЬТМАН ЯДВІГА



*Машынская-Гельтман Ядвіга Уладзіславаўна (16.7. 1886, мяст. Глуск Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Глуск Магілёўскай вобл.— 7.5.1946, Казахстан, пас. Тайнча), паэтэса, перакладчыца, педагог. Член СП Беларусі з 1934. Пісала на польскай мове.*

З сям'і аптэкара. Вучылася ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве (1904—07). Удзельнічала ў польскім рэвалюцыйным руху (маладзёжная арганізацыя «Спуйня»). Тады ж пачала пісаць вершы — «Заклік», «Калыханка» і інш. [з іх у мінскай газеце «Polska prawda» («Польская праўда») у 1917 апублікаваны толькі верш «Слова праўды», публікацыя не выяўлена]. У 1917—18 удзельнічала ў рэвалюцыйных падзеях у Мінску (член праўлення Польскага сацыялістычнага аб'яднання). У 1924—31 выкладала ў польскім педтэхнікуме (Мінск), Камуністычным універсітэце Беларусі, у 1932—37 у Ваеннай акадэміі імя М. Фрунзе ў Маскве. Друкавалася ў польскай газеце «Orka» («Ворыва»), якая выходзіла ў Мінску. Пасля арышту мужа — рэвалюцыянера і грамадскага дзеяча Стэфана Гельтмана — была незаконна рэпрэсіравана (1937), знаходзілася ў Казахлагеры, а з 1943 на пасяленні (с. Баравое, Багаслоўка, пас. Тайнча). Працавала начным сторажам, настаўніцай, нянькай, перапісчыкам табуноў. У неверагодна цяжкіх умовах, заўсёды галодная, пісала мужныя пісьмы сыну — будучаму беларускаму вучонаму-батаніку Віктару Гельтману. Дасылала яму свае лірычныя вершы («Магутны Ленінград», «Вясна ў стэпе» і інш.; апублікаваны ў час. «Неман». 1988. № 9).

Я. Машынская-Гельтман — аўтар падручнікаў для польскіх школ на Беларусі, дзе змясціла каля дзесяці сваіх твораў («Першая кніжка для чытання», «Другая частка лемантара», «Другая кніжка для чытання»). Валодаючы дзевяццю мовамі (польскай, беларускай, рускай, украінскай, яўрэйскай, нямецкай, французскай, італьянскай, лацінскай), перакладала на польскую мову пераважна з беларускай і рускай. Была асабіста знаёмая з Я. Купалам, пераклала яго паэму «Над ракой Арэсай», а таксама аповесць Я. Коласа «Дрыгва», урыўкі з яго паэмы «Сымон-музыка», аповесць З. Бядулі «Салавей», «Выбраныя аповесці» Ц. Гартнага, «Выбраныя вершы» А. Александровіча і інш.
*В. І. Гапава.*

**1.3.**

**1931.** Zbudujemy i przebudujemy! // Orka. 21 stycz.; Proletariackiej — międzynarodowej! // Orka. 20 lut.

**1966.** «Płyń, słowo prawdy, żywą falą...» // Czerw. Szt. 16 lip.

**1.4.**

Hartny C. Wybór nowel / Z biał. Mń., 1928.

Niemanski J. Matka: (Opowiadania) / Z biał. Mń., 1928.

Hartny C. Wybór nowel / Z biał. Mń., 1929.

Niomański J. Romeo i Julja na Białorusi / Z biał. Mń., 1929.

Czarot M. Wybór nowel / Z biał. M.; Charków; Mń., 1930.

Czukowski K. Z brudem walka: Kinematograf dla dzieci / Z ros. M., Charków; Mń., 1930.

Biadula Z. Słowik / Z. biał. M.; Charków; Mń., 1931.

Zamojski P. List do Iljicza: (Opowiadania) / Z. ros. M.; Charków; Mń., 1931.

Aleksandrowicz A. Wybór poezji / Z biał. Mń., 1932.

Grynberg A. Opowiadanie o śmierci Lenina / Z ros. Mń., 1932.

Sawieljew Z. Pokój N 13 / Z ros. Mń., 1932.

Kolcow M. Pod znakiem czerwonej gwiazdy / Z ros. Mń., 1935.

Kupała J. Nad rzeką Oresą (Poemat) / Z biał. Mń., 1935.

Kołas J. Mokradła / Z biał. Mń., 1936.

**1927.** Verhaeren. Bunt / Z ros. // Gwiazda młodzieży. 7 list.; German P. Zastepcy / Z ros. // Gwiazda mlodzieży. 23 list.; German P. Marsz lotników. / Z ros. // Gwiazda mlodzieży. 31 grud.

**1931.** Aleksandrowicz A. Stalinstan; Syreny; Fabryka śmierci / Z biał. // Orka. 20 grud.

**1935.** Kupała J. Nad rzeką Oresą: (Urywek z poematu) / Z biał. // Orka. 28 maja.

**1937.** Puszkin A. Do Czaadajewa / Z ros. // Orka. 10 lut.; Ogniwcow. Śrubka-czopek: (Fragment) / Z ros. // Orka. 28 lut.; Ostrowski S. Wichru szum w topolach / Z ros. // Orka. 12 lip.

**1.6.**

Pierwsza książka do czytania. Mń., 1926 / Zebrała i ułożyła; 2 wyd., przejrzane i znacznie rozszerzone. Mń., 1927.

Druga część elementarza zastosowana do I cześci elementarza Smolińskiej. Mń., 1926 / Zebrała i opracowała.

Druga książka do czytania. Mń., 1926 / Zebrała i opracowała.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Гапава В. З перакладам і вершам у страі // Голас Радзімы. 1966. № 30; Звязда. 1966. 16 ліп.; Мальдзіс А. Імя, вартае памяці // ЛіМ. 1966. 15 ліп.

**На польскай мове.** Maldzis A. Orędowniczka wolności i przyjaźni // Czerw. Szt. 1966. 16 lip.

**На рускай мове.** Гельтман В. Поэт и переводчик // Неман. 1972. № 1; Касперович Э. Колыбельная // Неман. 1988. № 9.

*У. І. Мархель.*

# МЕЛЕЖ ІВАН



*Мележ Іван Паўлавіч (8.2.1921, в. Глінішча Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.— 9.8.1976, г. Мінск, пахаваны на Маскоўскіх могілках), празаік, драматург, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972, за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1976, за зборнік «Жыццёвыя клопаты»), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1962, за раман «Людзі на балоце»). Член СП Беларусі з 1945.*

Бацькі, Павел Фёдаравіч і Марыя Дзянісаўна, былі малазямельнымі сялянамі. Бацька, паводле слоў пісьменніка, «з маладых гадоў займаўся розным рамяством: рабіў гонты, дзежкі, цабэркі, наймаўся ўстаўляць вокны і дзверы ў новыя хаты». Маці, родам з суседняй вёскі Каранёўка, «была працавітая, гаспадарлівая, любіла спяваць свае «палескія песні». Пачатковую адукацыю І. Мележ атрымаў у Глінішчах, школу-сямігодку закончыў у Алексічах, дзесяцігодку (СШ № 1) з атэстатам выдатніка ў 1938 у Хойніках. У школьныя гады шмат маляваў, марыў стаць мастаком, удзельнічаў у драматычным гуртку. У старэйшых класах захапіўся творамі беларускіх і рускіх пісьменнікаў. У 1938 паступаў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, але не прайшоў па конкурсу. Вярнуўся ў родныя мясціны, працаваў загадчыкам аддзела піянераў Хойніцкага райкома камсамо-

ла. У 1939 стаў студэнтам таго ж інстытута, але з першага курса прызваны ў армію, служыў у 289-м палку 192-й горна-артылерыйскай дывізіі на Украіне, у Карпатах. Летам 1940 удзельнічаў у вызваленні Паўночнай Букавіны і Бесарабіі. Вайна застала яго ў г. Стары Самбор (Львоўская вобл.). Ваяваў пад Уманню, Нікалаевам, Сінельнікавым, Лазавой, Растовам-на-Доне. У снежні 1941 быў паранены. У лютым—маі 1942 вучыўся ў г. Каменску на курсах палітсаставу Паўднёвага фронту, пасля заканчэння якіх працаваў літсупрацоўнікам газеты 51-й стралковай дывізіі «Красноармейская правда». 20.6.1942 пад Растовам зноў цяжка паранены (асколак бомбы раздрабіў правае плячо). Лячыўся ў шпіталях Растова, Есентукоў, Тбілісі, потым трапіў у г. Бугуруслан, дзе з лістапада 1942 выкладаў ваенную падрыхтоўку і завочна вучыўся на літаратурным факультэце Малдаўскага пединстытута. У 1943—44 выкладаў ваенную падрыхтоўку ў БДУ (знаходзіўся тады на ст. Сходня пад Масквой). У жніўні 1944 разам з універсітэтам пераехаў у Мінск. Завочна вучыўся на філалагічным факультэце, які закончыў у 1945. У 1945—48 вучыўся ў аспірантуры пры БДУ. Пісаў дысертацыю па творчасці К. Чорнага. Як адзначаў пазней сам пісьменнік, «дысертацыі не напісаў — замест яе напісаў некалькі кніжак прозы». Матэрыялы дысертацыі сталі асновай артыкула «Пра творчасць Кузьмы Чорнага». З мая 1945 па студзень 1947, адначасова з вучобай ў аспірантуры, працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя». Пасля заканчэння аспірантуры працаваў старшым выкладчыкам беларускай літаратуры БДУ. З жніўня 1950 па верасень 1951 кансультант аддзела прапаганды і агітацыі па пытаннях літаратуры ЦК КП/б/Б. З 1966 сакратар, у 1971—74 намеснік старшыні праўлення СП БССР.

Друкавацца І. Мележ пачаў у 1930-я г. У 1933 удзельнічаў у конкурсе, аб'яўленым часопісам «Іскры Ільіча», на лепшае апавяданне па малюнках пад назвай «Прыгоды на граніцы». Апавяданне І. Мележа было прызнаным адным з лепшых. Сам аўтар назваў удзел у конкурсе «першым сваім пісьменніцкім поспехам, першай аўтарскай радасцю. Адтуль усё і пачалося». Літаратурныя захапленні юнака падтрымаў М. Пакроўскі, настаўнік рускай мовы і літаратуры школы ў Хойніках. У 1939 у газ. «Чырвоная змена» быў надрукаваны першы верш І. Мележа «Радзіме». Перад вайной яго вершы друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Бальшавік Палесся» (г. Мазыр), у 1943 у «Бугурусланской правде». Да вайны спрабаваў свае сілы ў прозе. У 1941—42 вёў дзённік. Першыя апавяданні напісаў у тбіліскім шпіталі. У «Бугурусланской правде» ў верасні 1943 выступіў з апавяданнем «Апошняя аперацыя». У 1944 у газеце «Звязда» надрукавана апавяданне «Сустрэча ў шпіталі». Раннія яго апавяданні, асабліва «У завіруху», высока ацаніў К. Чорны. У 1946 выдаў першы зборнік апавяданняў «У завіруху», напісаных у 1942—45 і прысвечаных падзеям вайны. У 1946 з'явілася аповесць «Гарачы жнівень» — твор аб жыцці першага пасляваеннага года, цяжкасцях аднаўленчага перыяду. У 1948 выйшаў другі зборнік прозы «Гарачы жнівень». У 1947—52 напісаў раман «Мінскі напрамак», у якім паказаў вызваленне Беларусі воінамі Савецкай Арміі і партызанамі ў красавіку — ліпені 1944. Гэтаму твору папярэднічаў напісаны ў 1947 нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» (друкаваўся пад назвай «Заўсёды наперадзе»), у якім расказваецца пра камандзіра танкавай брыгады двойчы Героя Савецкага Саюза С. Шутава. Раман вызначаецца панарамнасцю і шырынёй у адлюстраванні ўсенароднай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У ім паказана рэальная гістарычная асоба, камандуючы 3-м Беларускім фронтам І. Чарняхоўскі, раскрыты народныя характары, адлюстраваны мужнасць і гераізм савецкіх людзей. Пры перавыданнях раман грунтоўна дапрацоўваўся. У далейшым І. Мележ выдаў зборнікі прозы «Блізкае і далёкае», «У гарах дажджы», «Што ён за чалавек». Узбагачалася мастацкая палітра пісьменніка, паглыблялася яго майстэрства ў раскрыцці псіхалогіі і духоўнага свету сваіх герояў. Пасля паездкі ў Чэхаславакію і іншыя краіны Еўропы напісаў нарысы «Паездка ў Прагу» і «Вакол Еўропы». Вёў цікавыя пошукі і ў галіне драматургіі. Стварыў аднаактавую п'есу «Хто прыйшоў уночы», прысвечаную падзеям вайны, і тры шматактавыя: «Пакуль вы маладыя» (ставілася Беларускім тэатрам імя Я. Купалы), «Дні нараджэння» (пастаўлена ў Магілёўскім абласным драмтэатры і Беларускім тэатры імя Я. Купалы) і «У новым доме». Сам пісьменнік, згадваючы сярэдзіну 50-х гг., адзначаў: «... гэта быў вельмі важны для мяне час, час пошукаў, роздуму, расчаравання, самапазнання».

Талент І. Мележа з асаблівай сілай раскрыўся ў трылогіі «Палеская хроніка». Гэта галоўная яго кніга, твор пра блізкі і дарагі пісьменніку родны край. Складаецца з раманаў «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань» (няскончаны). Напісаць «вялікую рэч... пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня», І. Мележ задумаў яшчэ ў 1946—47. Першымі подступамі да будучага твора, яго фрагментамі сталі апавяданні «Здарэнне» і «Дадому». У «Палескай хроніцы» І. Мележ раскрыў лёс сялянства ў пераломны перыяд гісторыі, паказаў складаныя жыццёвыя шляхі Васіля Дзятла, Ганны, Апейкі, Башлыкова, адлюстраваў падзеі 20-х г. і калектывізацыю на Палессі. Ён стварыў народную кнігу, нацыянальную эпапею. Па значнасці і мастацкай вартасці «Палескую хроніку» можна параўнаць з «Новай зямлёй» Я. Коласа, раманамі К. Чорнага, «Ціхім Донам» М. Шолахава.

Аўтар кніг літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў і публіцыстычных выступленняў «Жыццёвыя клопаты», зборнікаў «Белыя вішні і яблыні» (апавяданні і аповесці), «Першая кніга. Дзённікі. Сшыткі. З запісных кніжак» і інш. Творы пісьменніка перакладаліся на мовы народаў СССР і за мяжой.

На Беларускім тэлебачанні пастаўлены тэлеспектаклі па раманах «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» (1965), па раману «Завеі, снежань» (1979), па творах пісьменніка пад назвай «Сустрэчы іростані» (1973), зняты шматсерыйны тэлефільм па раману «Людзі на балоце». Інсцэніроўку Т. Абакумоўскай і З. Браварскай паводле рамана «Людзі на балоце» паставілі Беларускі тэатр імя Я. Купалы (1966) і Народны тэатр у Мазыры (1970), інсцэніроўку А. Папова паводле рамана «Подых навальніцы» — Гомельскі абласны тэатр і Мінскі ТЮГ (1978). Па матывах раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» К. Цесаковым напісана радыёопера «Барвовы золак» (1978). На студыі «Беларусьфільм» рэжысёрамі В. Туравым і Д. Зайцавым па «Палескай хроніцы» пастаўлены мастацкі фільм «Людзі на балоце» (1982, у 1984 удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР) і «Подых навальніцы» (1983). Жыц-

№ 11; [Рэц. на кн.: Л і х а д з і е ў с к і С. Чырванеюць вішні. Мн., 1931] // Полымя. № 4; Дума пра помсту: Навела; [Рэц. на кн.: А с т а п е н к а З. На ўсход сонца. Мн, 1931; Б а г у н М. Рэха бур. Мн., 1931] / Сааўт. С. Ліхадзіеўскі // Там жа. № 5; Наша сонца: Аповесць // Там жа. № 8—12; Ліст да аўтара «Цэхавых будняў» // Там жа. № 9 /Сааўт. С. Ліхадзіеўскі; На лінію агня // Чырв. змена. 1 чэрв.; Крывяная сыць: [Урывак з аповесці «Наша сонца»] // Там жа. 11 ліп.; Дума пра помсту: (Ядро навелы) // Там жа. 10 жн.; Так пачынаецца гісторыя: [Нарыс] // Там жа. 11 кастр.; Ударнік у літаратуры // Там жа. 30 ліст. / Сааўт. С. Ліхадзіеўскі.

**1932.** Ускраіна: Аповесць // Маладняк. № 5—8; Рабінавыя ночы: Апавяданне // Чырв. Бел. № 18; Праверыць пяро і вінтоўку // ЛіМ. 26 лют.; Творчасць Сцяпана Ліхадзіеўскага // Там жа. 18 сак.; XV гадавіна — не толькі свята, а стымул да барацьбы // Там жа. 11 крас.; Сустрэчы: Урывак з аповесці «Ускраіна» // Там жа. 21 крас.; Больш партыйнай баяздольнасці // Там жа. 30 крас.; Мікола Бацюшкоў // Там жа. 15 чэрв.; «Кухня святасці» ў рабочым тэатры ЦС ПСБ»; «Напор» Андрэя Александровіча ў БДТ-2 / Сааўт. С. Ліхадзіеўскі // Там жа. 5 жн.; За прынцыповае таварыскае супрацоўніцтва з камсамолам // Там жа. 10 вер.; Абзацы петытам: Адказ на артыкул А. Сучковай «За сапраўдную творчую перабудову» («Звязда», 1932, 5 вер.) // Там жа. 8 кастр.; Ля завадской брамы: Урывак з п'есы «Rot Front» // Там жа. 19 ліст.; Новай кнігі чакае моладзь // Там жа. 4 снеж. / Сааўт. С. Ліхадзіеўскі; Дыскусійнае слова пра «Бацькаўшчыну» // Там жа. 25 снеж.; Крыніцы жаданняў атручаны // Чырв. змена. 1 студз.; За бальшавіцкую партыйнасць у камсамольскай літаратуры // Там жа. 15 крас.; Віншуем народнага паэта рэспублікі // Там жа. 10 вер. / У сааўт.; Аварыя: 2 карціна з 3 дзеі п'есы «Rot Front» // Там жа. 15 ліст.

**1933.** «Rot Front»: Драматычнае апавяданне // Заклік. № 4; Заўвагі да «Эпічных фрагментаў» Алеся Зарыцкага // Полымя рэвалюцыі. № 4; Публіцыстычныя эскізы // Там жа. № 8—9; «Першы выток» — збор вершаў Люгоўскага і Жалезняка // Там жа. № 11; Дужасць: Раман // Там жа. № 11—12; 1934. № 2, 4; Тэнар: Апавяданне; Бацькаўшчына / Пад крыпт. Б. М. // Чырв. Бел. № 1; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. // ЛіМ. 28 студз.; Дакумент няпоўнай перабудовы: (Заўвагі пра «Лён» Міровіча ў БДТ-1) // Там жа. 10 лют.; Сіла нашай зброі // Там жа. 24 сак.; Пра самадзейны тэатр, пра творчасць М. Блісцінава // Там жа. 12 крас.; Пяцідзесяцігоддзе паэта-бальшавіка // Там жа. 23 крас. / Пад крыпт. Б. М.; Там, дзе быў стэп...: (Ліст з Магнітагорска) // Там жа. 26 чэрв. / Сааўт. Э. Коган; Рэквіем: Урывак з рамана «Мужнасць» // Там жа. 15 ліп.; Літаратура маладосці, адвагі, геройства; Чыстку праходзіць тав. Бэндэ; Тайна рэгістрацыйных картак // Там жа. 6 вер.; Зрабіць Інстытут ЛіМ кузняй бальшавіцкай навукі: (Рэйд газеты «ЛіМ») // Там жа. 16 кастр. / Сааўт. У. Стэльмах, С. Шушкевіч; У двух планах // Там жа. 26 кастр.; Выклік прымаю // Там жа. 31 снеж.; Працаваць больш і лепш // Чырв. змена. 23 крас.; За бальшавіцкую партыйнасць у камсамольскай літаратуры // Там жа. 7 кастр.; На фронт: Эпізод з рамана «Дужасць» // Там жа. 28 кастр.

**1934.** Аднаго разу ўначы: [Апавяданне] // Бальшавіцкая моладзь. Мн.; Дыскусійныя нататкі // Драматургія. Мн.; Аб «Сонца пад шпалы» Шынклера // Полымя рэвалюцыі. № 4; Доктар Пецін: Навела // Там жа. № 8; Паказ нашай моладзі // ЛіМ. 6 студз.; Пра «Вольпонэ»: Водзыў на спектакль // Там жа. 12 лют.; Масоўка: Урывак з рамана «Дужасць» // Там жа. 16 лют.; Нашы ўражанні // Там жа. 28 лют. / Сааўт. М. Модэль; Пра «тэхніку справы» // Там жа. 28 сак.; М. В. Гогаль (1809—1934) // Пад крыпт. Б. М-ч; Рэплікі таварышу Браништэйну: (У парадку творчай дыскусіі) // Там жа. 6 крас.; Пісьменнік у дзяцей // Там жа. 12 крас.; На ўвесь голас; Новая якасць: Слова пісьменніка // Там жа. 22 крас.; Супраць фашызму за сусветны Кастрычнік // Там жа. 30 крас.; Некаторыя вынікі тэасезона ў БДТ-1 // Там жа. 12 мая; «Цудоўны» сплаў у Смаленскім дзяржаўным тэатры // Там жа. 17 мая; Апавяданні Барыса Пасканьева // Там жа. 24 чэрв.; Маладзёжны ўчастак // Там жа. 10 ліп.; Мы дойдзем; Рэквіем: Навелы // Там жа. 12 ліп.; Кулямётчык Пятроў; Яхант: Навелы // Там жа. 31 ліп.; Раман Фукунага і абаронная літаратура // Там жа. 13 жн.; Дзве выдатныя кнігі // Там жа. 18 жн.; «Паўстанне рыбакоў»: Водзыў на кінафільм // Там жа. 27 кастр.; Самае важнае // Там жа. 24 ліст.; Крытыкі опернага мастацтва: «Прычыны зла» і «Пікавая Дама» // Там жа. 30 ліст.; Больш творчай суровасці: Прамова на III пленуме ССПБ // Там жа. 18 снеж.; «Жакерыя»: Урывак з аповесці // Чырв. змена. 9, 11 крас.; «З дарогі, крот і кракадзіл!»: [Рэц. на кн.: К л я ш т о р н ы Т. Праз штурм на штурм. Мн., 1934] // Там жа. 10 ліп. / Пад крыпт. М. Б.

**1935.** Мы дойдзем!; Доктар Пецін; Рэквіем: [Апавяданні] // Атака. Мн. Альм. № 2; Трое: Імпрэсія// Полымя рэвалюцыі. № 4; Дружба: Аповесць // Там жа. № 11, 12; Месяц у Савецкай Грузіі // Звязда. 9 чэрв.; Савецкія субтропікі // Там жа. 20 чэрв.; У Кахеціі // Там жа. 21 чэрв.; Мастацтва ардэнаноснай Грузіі: [Нарыс] // Там жа. 12 ліп.; Аб «слаўнай традыцыі» // ЛіМ. 16 сак.; Сталіца ардэнаноснай рэспублікі // Там жа. 26 сак.; Аб некаторых лозунгах БДТ-1: (У сувязі з «Сімфоніяй гневу») // Там жа. 10 крас.; Пачатак вялікай дружбы: Слова пісьменніка // Там жа. 24 ліп.; Руставелеўцы: (Нататкі пра грузінскае мастацтва) // Там жа. 22 жн.; Навальніца: Урывак з аповесці «Дружба» // Там жа. 27 вер.; Новы высокі палёт: Слова пра Бядулю // Там жа. 23 кастр.; Для вясёлых гадаванцаў Кастрычніка: Слова пісьменніка // Там жа. 29 кастр.; Так гартуецца сталь // Там жа. 31 кастр.; Кніга Галіны Грэкавай // Там жа. 12 ліст.; Яркі эксперымент: Водгук на кінафільм // Там жа. 1 снеж.; «Прадгісторыя» гісторыі фабрыкі: Нарыс // Там жа. 6 снеж.; Янка Купала і рускія паэты // Там жа. 11 снеж.; Асноўная якасць: Слова пра БДТ-III // Там жа. 28 снеж.; Бал: Апавяданне // Там жа. 31 снеж.; Купала в переводах русских поэтов // ЛГ. 15 дек.

**1936.** На полі: Навела // Полымя рэвалюцыі. № 6; Жанчына: [Апавяданне] // Работніца і калгасніца Бел. № 5; Казбек: Апавяданне // ЛіМ. 11 сак.; «Як яе завуць»: (Прэм'ера ў БДТ-1) // Там жа. 28 сак. / Сааўт. М. Юдэлевіч; За ідэйна глыбокую і сюжэтна моцную літаратуру: З прамовы на сходзе пісьменнікаў г. Мінска // Там жа. 7 крас.; Маякоўскі // Там жа. 16 крас.; «Слава»: (Тэатр Чырвонай арміі БВА) // Там жа. 16 мая; Заўвагі па сутнасці // Там жа. 21 мая / Сааўт. М. Юдэлевіч; Пра спектакль «Смерть Иоанна Грозного» // Там жа. 27 мая; Думкі аб тэатры // Там жа. 11 ліп.; Тры вадэвілі // Там жа. 26 ліп.; Да канца выкрыць ворагаў у літаратуры // Там жа. 3 вер. / У сааўт.; Пра творчы метад БДТ-2: Вынікі гастроляў у Мінску // Там жа. 27 вер.; Дзяржавін і Пушкін // Там жа. 6 кастр.; Творы Я. Коласа на рускай мове // Там жа. 11 кастр.; Чырвоная разетка; Сыны: Апавяданні // Там жа. 30 кастр.; Канцэрт: Фрагмент з аповесці «Дванаццатая скрыпка» // Там жа. 7 ліст.; Пра кнігу Рэйзіна і яе рэдактараў // Там жа. 17 ліст. / Сааўт. Х. Мальцінскі, Г. Шведзік.

**1957.** Зорка: Апавяданне // Беларусь. № 6; Звычайны дзень: Аповесць // ЛіМ. 23 студз.

**1958.** У Мінску: Урывак з аповесці пра Максіма Багдановіча // Маладосць. № 6; Жыццяпіс Вінцэся Шастака: [Апавяданне] // Полымя. № 3.

**1962.** Над Бярозай: Урывак з аповесці «Адвечнае» // ЛіМ. 12 кастр.

**1967.** Зорка: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн., 1967. Т. 1.

**1972.** Адвечнае. Першая кніга: Аповесць // Полымя. № 8; «Ваша рэдакцыя для мяне вельмі карысная...»: Лісты Барыса Мікуліча Уладзіміру Лідзіну // ЛіМ. 8 вер.

**1979.** Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля ў Мінску: [Урывак з аповесці «Развітанне»] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

**1987.** Повесть для себя // Неман. № 3, 6.

**1988.** Повесть для себя // Неман. № 12.

**1.4.**

В я с ё л ы А. Краіна родная: Раман / З рус. Мн., 1932.

Л і д з і н У. Магіла невядомага салдата: Аповесць / З рус. Мн., 1934.

**1933.** Р э н н Л. Пасля вайны: (Урывак з рамана) / З ням. // ЛіМ. 29 вер.

**1934.** Л і д з і н У. Дзесяць франкаў: Урывак з рамана «Магіла невядомага салдата» / З рус. // ЛіМ. 16 сак.

**1935.** К л и м к о в и ч М. Янка Купала: К 30-летию лит. деятельности / С бел. // Наступление. № 7 / Пер. пад крыпт. Б. М.

**1936.** П а н ч П. Праз шаснаццаць гадоў / З укр. // Звязда. 1 лют.; Л ы н ь к о в М. Случай с генеральским мундиром: (Отрывок из повести для детей «Про храброго воина Мишку и его славных товарищей») / С бел. // Рабочий. 12 апр. / Пер. пад крыпт. Б. М.

**1.5.**

Повести / Пер. М. Горбачев. М., 1960.

**На рускую мову.** Повести / Пер. М. Горбачев. Мн., 1960.

Стойкость; Прощание; Трудная година / Пер. Б. Бурьян, Г. Попов, Мн., 1973 (Б-ка бел. повести).

Массовка: (Глава из романа «Мощь») / Пер. авт. // Антология белорусской литературы. Мн., 1934; Однажды ночью: [Апавяданне] / Пер. П. Минин // Проза Советской Белоруссии. Смоленск, 1935; Звезда: [Апавяданне] / Пер. В. Жиженко // Неман. 1960. № 6.

**1.6.**

У д а р н і к і: Зборнік. Мн., 1931 / Літ. праўка з С. Ліхадзіеўскім.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а г у н М. Павысіць якасць часопіса // ЛіМ. 1936. 8 сак.; Б е л а р у с к а я савецкая проза: Раман і аповесць. Мн., 1971. С. 125—128, 141—146; Б р а н ш т э й н Я. Пра старыя галошы і наватарскія балеткі: (Адказ на рэплікі Б. Мікуліча) // ЛіМ. 1934. 26 крас.; Я г о ж. Праблемы стылю ў творчасці маладых празаікаў // ЛіМ. 1934. 28 сак.; Б у г а ё ў Д. Станаўленне мастака // Бугаёў Д. Шматграннасць. Мн., 1970; Г р а м а д ч а н к а Т. Барыс Мікуліч // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985; Я г о ж. З плеяды маладнякоўцаў // ЛіМ. 1982. 20 жн.; Я г о ж. Талент малады і светлы // Мікуліч Б. Аповесці. Мн., 1985; Г р а х о ў с к і С. Барыс Мікуліч // Мікуліч Б. Выбранае. Мн., 1959; Я г о ж. Слова пра друга // ЛіМ. 1962. 31 жн.; Я г о ж. Так і застаўся маладым...: [Успаміны] // Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986; Д у н е ц Х. Трэба змяніць стрыжаны: [Нататкі пра творчасць Б. Мікуліча] // ЛіМ. 1932. 8 кастр.; Ж у к Т. Рытмы індустрыяльнага жыцця: Рабочая тэма ў творчасці Б. Мікуліча // Беларуская літаратура. Мн., 1978. Вып. 6; З а р э ц к і М. Вобразы ў «Дужасці» Б. Мікуліча // ЛіМ. 1935. 8 студз. Л а р ч а н к а М. Перамагчы творчыя недахопы // Крытыка-бібл. бюл. 1934. № 10; Л ы н ь к о ў М. [Лісты] // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. 1985; Т. 8. С. 128—130, 134, 139; М а ж э й к а А. Год 1812... // ЛіМ. 1972. 25 жн.; М і к і ц і н М. Слова чытача // Вясна. 1929. № 8; М у ш ы н с к і М. Традыцыі, якія не старэюць: Беларуская «вясковая» аповесць 30-х гадоў // Полымя. 1970. № 8; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р а ш к о в і ч Л. Некаторыя асаблівасці развіцця гістарычных жанраў у беларускай літаратуры 40-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7; П ш ы р к о ў Ю. Гістарычная аповесць Барыса Мікуліча // Полымя. 1972. № 8; Р у ж а н ц о в а Л. Станоўчыя вобразы пададзены схематычна: Слова чытача // ЛіМ. 1935. 12 лют.; У г а с ц я х у пісьменніка // Піянер Бел. 1936. 3 студз.; Х а т у л ё ў П. Рэплікі // ЛіМ. 1934. 26 крас.; Ш а р а х о ў с к і Я. «Дужасць» Барыса Мікуліча // Полымя рэвалюцыі. 1934. № 12; Ш а р у п і ч Б. Слова чытача // Вясна. 1930. № 8; Ш у ш к е в і ч С. Беларускі савецкі празаік Барыс Мікуліч... // ЛіМ. 1972. 8 вер.; Я г о ж. Ён застаецца маладым // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2; Ю ш к е в і ч В. У нагу з жыццём // Маг. праўда. 1974. 25 вер.

**На рускай мове.** Г р а х о в с к и й С. Борис Микулич // Микулич Б. Повести. М., 1960; Я г о ж. Слово о Борисе Микуличе // Микулич Б. Стойкость; Прощание; Трудная година. Мн., 1973.

**3.1.**

Інстытут літаратуры АН Беларусі, бібліятэка, рукап. фонд, № 23. *В. У. Смольская.*

## МІЛЮЦЬ АЛЕСЬ



*Мілюць Алесь [Аляксандр Макаравіч; 23.9(6.10).1908, в. Скорычы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.— 26.10.1944, Усходняя Прусія; пахаваны ў брацкай магіле ў пас. Ватуціна Несцераўскага р-на Калінінградскай вобл.], паэт.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў 2 класы пачатковай школы. Займаўся сельскагаспадарчай працай і самаадукацыяй. Быў земляком і сябрам Я. Брыля. У час нямецкай акупацыі жыў у партызанскай зоне. Пасля вызвалення родных мясцін пайшоў на фронт. Удзельнічаў у баях ва Усходняй Прусіі, загінуў ад снайперскай кулі.

З вершамі ў заходнебеларускім друку А. Мілюць пачаў выступаць у 1928 (першыя публікацыі не выяўлены). Рукапісы яго твораў (некалькі сшыткаў з вершамі 1929—43 гадоў), лісты з фронту да сястры Марыі перададзены братам Іванам у Музей гісторыі беларускай літаратуры. У вершах А. Мілюца гучаць матывы любові да Бацькаўшчыны, да беларускага народа, «патомка слаўных крывічоў». Паэт верыў у адраджэнне свайго народа, спачуваў нялёгкай долі «брата-беларуса», разумеў яго спрадвечныя мары, паэтызаваў працу. У яго паэзіі адчувальны ўплыў свабодалюбівага пафасу твораў Ф. Багушэвіча і Я. Купалы. Абстрактна-гуманістычны характар творчасці А. Мілюця, яго заклікі да сацыяльнай роўнасці і справядлівасці грунтаваліся, як лічыць У. Калеснік, і на маральна-этычным вучэнні Л. Талстога, якім захапляўся паэт-самавук. Пасля 1939 у яго вершах і артыкулах, надрукаваных стаўбцоўскай раённай газетай, адлюстраваны пераўтварэнні ў жыцці сялян былой Заходняй Беларусі. *І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1934.** «Беларусам я радзіўся...»: [Верш] // Пралескі. № 1; Шлях моладзі. № 9; У кузні: [Верш] // Шлях моладзі. № 2.

**1935.** «Можа гэта пэрлы...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 1; Беларус: [Верш] // Там жа. № 4; «Я хацеў бы...»: [Верш] // Там жа. № 7.

**1937.** Калісь і цяпер: [Верш] // Хрысціянская думка. № 20.

**1938.** А ўсё ж спаткаемся з табой...: [Верш] // Шлях моладзі. № 10.

**1939.** Ноч: [Верш] // Шлях моладзі. № 2; «Ня ў гучнай бяседзе пры піве і мёдзе...»: [Верш] // Там жа. № 4; Міхасю Машары: [Верш] // Там жа. № 8.

**1949.** «А ўсё ж спаткаемся з табой...»; Напрадвесні: [Вершы] // Мы іх не забудзем. Мн.

**1965.** Бярозы; Брату; Яны; З родных песень; Мой ідэал; Яшчэ ўзыдзе сонца; Покліч; Вясною; «А ўсё ж спаткаемся з табой...»; «Сагнутая, згорбленая пастаць...»; Напрадвесні; Дзве дарожкі: [Вершы] // Сцягі і паходні. Мн.; «А ўсё ж спаткаемся з табой...»: [Верш] // Чырв. змена. 11 крас.

**1967.** Брату; Яны; Напрадвесні: [Вершы].// Крывёю сэрца. Мн.

**1989.** Пішу табе...: [Вершы, лісты] // Полымя. № 5.

**1.5.**

**На рускую мову.** Стальная песня: Брату; Весной; «Громыхнул кто-то песней стальною...»: [Вершы] / Пер. И. Бурсов // Возвращение. Мн., 1985; Мы все же встретимся с тобой...; Перед весной: [Вершы] / Пер. И. Василевский// Кровью сердца. Мн., 1985; Мы все же встретимся с тобой...: [Вершы] / Пер. И. Василевский // Неман. 1985. № 5.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Алесь Мілюць // Радзіме — радок і жыццё. Мн., 1986; [Біябібліяграфічная даведка] // Крывёю сэрца. Мн., 1967; Брыль Я. Алесь Мілюць // Мы іх не забудзем. Мн., 1949; Яго ж. У ратным полі // ЛіМ. 1985. 28 чэрв.; Яго ж. Успамін // Брыль Я. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1981. Т. 4; Калеснік У. Лёсам пазнанае. Мн., 1982; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981. *М. П. Барташэвіч.*


# МІНКІН АЛЕГ



Мінкін Алег Гаўрылавіч (н. 31.3.1952, в. Чарняўка Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл.), паэт, драматург. Член СП Беларусі з 1988, СП Літвы з 1991.

З сялян. Бацька памёр рана, жылося цяжка. Маці вымушана была аддаць сына вучыцца ў Хоцімскую васьмігадовую школу-інтэрнат. Дзесяты клас А. Мінкін скончыў у Бабруйскай школе-інтэрнаце № 1. У 1969 паступіў у Маскоўскі энергетычны інстытут. Пасля 2 гадоў вучобы перавёўся на факультэт электрыфікацыі Маскоўскага інстытута інжынераў сельскагаспадарчай вытворчасці (1971—75). Атрымаўшы спецыяльнасць інжынера-электрыка, накіраваны майстрам ва Улан-Удэ, у тэхкалону № 56. Працаваў электрамантажнікам, брыгадзірам, майстрам па будаўніцтву электрападстанцый. З Бураціі вярнуўся на Беларусь. З 1977 працаваў інжынерам у сістэме «Галоўтранснафта», у тым ліку начальнікам брыгады на поўначы Цюменскай вобл. (г. Наябрск). Потым інжынер у Брэсце. Цяпер жыве ў Вільнюсе і працуе ў рэдакцыі газеты «Наша ніва».

Друкуецца А. Мінкін з 1980. Першы зб. вершаў «Сурма» выйшаў у 1985. Тады ж у зборніку п'ес «Крынічка» надрукавана яго п'еса-казка «Як Лыска ваўком быў». Паэзія А. Мінкіна вызначаецца адметнай паэтычнай пластыкай, сталым поглядам на свет з яго складанымі праблемамі. Гэта паэт-наватар, але яго «наватарства глыбока схавана ў нацыянальнае, традыцыйнае» (Д. Бічэль-Загнетава).

*Т. М. Тарасава.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Сурма: Вершы. Мн., 1985. (Першая кніга паэта). Рэц.: Сідарэвіч А. Кветка паэзіі і жытнёвы колас // ЛіМ. 1985. 6 снеж.

Расколіна: Вершы і паэма. Мн., 1991.

**1.3.**

**1980.** В праздничном зале: [Верш] // Гомел. праўда. 1 студз.; «Зноў сонца зімняе ружовым і чырвоным...»: [Верш] // Там жа. 5 лют.; Сакавік; Чароўны куфэрак; «Што я — без Радзімы?..»; «У лясным гушчары...»; «У сінічкі — кропкі-вочкі...»; Перапечкі: [Вершы] // Там жа. 1 сак.; Багдановіч; Думы Багрыма; Воз; «Адпачывае на ніве...»; Кошка; Радзімічы; Дон Кіхот: [Вершы] // ЛіМ. 26 вер.

**1981.** Сурма; «Прымроіўся горад мне мёртвы...»; Перамога; Элегія; Ідал; «Усё, чым дыхаў я раней...»: [Вершы] // ЛіМ. 11 снеж.; Чэрвень; Цымбалы; «Адсухавейных, мёртвых сполахаў...»; Яліны: [Вершы] // Чырв. змена. 21 сак.; Воз; «Адпачывае на ніве...»: [Вершы] // Там жа. 3 кастр.

**1982.** Напрадвесні; «Там, дзе хвоі над рэчкай заснулі...»: [Вершы] // Беларусь. № 9.

**1983.** «Над цёмным карэннем высока ў сінечы...»; Санет: [Вершы] // Дзень паэзіі — 83. Мн.; Перапечкі; Размова з ракою; Вяснянка; Чэрвень: [Вершы] // // Маладосць. № 7; Вяснянка; «Дык бывай...»; «Над цёмным карэннем, высока ў сінечы...»; Скрыпка; Сафійскі сабор: [Вершы] // ЛіМ. 26 жн.

**1984.** Марсіянін: [Верш] // Заря. 7 апр.

**1985.** Як Лыска ваўком быў: П'еса // Крынічка. Мн.; Пугач; Туман; Хохлік; Вецер: [Вершы] // Беларусь. № 4; Дуда; Віяланчэль; «Бязмежны — свет пачуццяў, дум...»: [Вершы] // Маладосць. № 3.

*Т. М. Махнач.*


# МІРОВІЧ ЕЎСЦІГНЕЙ



*Міровіч (сапр. Дунаеў) Еўсцігней Афінагенавіч [29.7 (10.8).1878, Пецярбург — 16.2.1952, Мінск; пахаваны на Вайсковых могілках], драматург, рэжысёр, акцёр, педагог. Народны артыст Беларусі (1940). Прафесар (1946).*

Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Бацькі Е. Міровіча былі родам з Беларусі (з былой Віцебскай губ.), але жыццёвыя акалічнасці прывялі іх на працу ў Пецярбург. Пасля заканчэння пачатковай школы і Самсонаўскага рэальнага вучылішча Сцеша Дунаеў вучыўся ў школе малявання пры Акадэміі мастацтваў і паспяхова здаў выпускныя экзамены. Але яго вабіў тэатр. Ён паступіў на двух-

гадовыя Тэатральныя курсы імя Ф. Волкава, рабіў паспяховыя крокі на прафесійнай сцэне (з 1900 працаваў у Адміралцейскім, потым у Кацярынінскім тэатрах). У 1906 стаў правадзейным членам С.-Пецярбургскага саюза драматычных і музычных пісьменнікаў. Плённая і паспяховая дзейнасць Е. Міровіча як акцёра і рэжысёра пецярбургскіх тэатраў працягвалася да 1918. У 1919 у складзе гастрольнай трупы Ліцейнага тэатра ён паехаў на радзіму бацькоў, выступаў у Віцебску, Гомелі, Мінску. З гэтага часу яго творчая дзейнасць цесна звязана з Беларуссю. Ён быў акцёрам і рэжысёрам Мінскага гарнізоннага тэатра (1919), Тэатра рэвалюцыйнай сатыры (1921), рускага тэатра «Шануар» (1922). У 1921—31 мастацкі кіраўнік БДТ-1 (Беларускага тэатра імя Я. Купалы). Яму даводзілася вырашаць складаныя на той час праблемы акцёрскіх кадраў, нацыянальнага рэпертуару. Е. Міровіч вывучаў гісторыю і культуру, побыт і традыцыі беларускага народа. Падтрымліваў творчую моладзь, заахвочваў да напісання нацыянальных па каларыту і тэматыцы п'ес, дапамагаў давесці іх да сцэнічнага ўвасаблення. Першы такі спектакль пастаўлены Е. Міровічам у БДТ-1 па п'есе М. Чарота «На купалле» (1921). Ён меў поспех у гледачоў, паказваўся на фестывалі ў Маскве (1923), стварыў папулярнасць драматургу, рэжысёру і акцёрам. Е. Міровіч адкрыў для тэатра такіх таленавітых драматургаў, як В. Шашалевіч, Л. Родзевіч, В. Гарбацэвіч, Я. Рамановіч, Р. Кобец, Д. Курдзін, ставіў іх п'есы. Выхаваў плеяду выдатных акцёраў купалаўскага тэатра (У. Уладамірскі, Г. Глебаў, Л. Ржэцкая і інш.). Чалавек высокай духоўнасці і культуры, Е. Міровіч энергічна і натхнёна ствараў сваю рэжысёрскую школу, абапіраючыся на лепшыя традыцыі сусветнага і рускага тэатральнага майстэрства, паслядоўна выкарыстоўваючы вопыт сістэмы К. Станіслаўскага ў рабоце з акцёрамі. Яго спектаклі вылучаліся псіхалагічнай праўдай характараў, майстэрствам акцёрскага праўвасаблення, глыбінёй рэжысёрскага прачытання твораў, яркай сцэнічнасцю.

Гэтыя ж творчыя і педагагічныя прынцыпы Е. Міровіч паслядоўна праводзіў, працуючы ў іншых тэатрах Беларусі. У 1932 ён пераехаў у Гомель, кіраваў мясцовым тэатрам рабочай моладзі, які ў 1935 рэарганізаваны ім у Першы Беларускі калгасна-саўгасны тэатр. У 1937—40 — мастацкі кіраўнік Тэатра юнага гледача БССР. Адначасова ён выкладаў майстэрства акцёра ў тэатральным вучылішчы (1938—41; Мінск). У 1941—45 зноў рэжысёр купалаўскага тэатра. З 1945 — мастацкі кіраўнік і загадчык кафедры акцёрскага майстэрства Беларускага тэатральнага інстытута.

Першая п'еса Е. Міровіча «Апякун» (напісана ў 1904) была забаронена для паказу ў тэатрах царскай цэнзурай. Такі ж лёс напаткаў і іншыя яго раннія творы: «Гнілыя ўстоі» (1905), «Сучасны вампір», «Ноч мілінера» (абедзве 1906). Пецярбургская публіка з драматургіяй Міровіча ўпершыню пазнаёмілася восенню 1910, калі на сцэне Ліцейнага тэатра мініяцюр была пастаўлена яго п'еса «Графіня Эльвіра». Поспех Міровіча-драматурга ўзрос з напісаннем і пастаноўкай п'ес «Тэатр купца Япішкіна» (пастаўлена ў 1914) і «Вова прыстасаваўся» (пастаўлена ў 1915). Апошняя п'еса абышла амаль усе сцэны прафесійных і аматарскіх тэатраў Расіі, ставілася яна і ў Мінску. Была экранізавана на Беларускім тэлебачанні (1978, рэж. В. Карпілаў). П'еса накіравана супраць ілжэпатрыятызму арыстакратычных колаў у час 1-й сусветнай вайны, трымалася на моцнай смехавай (нават саркастычнай) аснове, вылучалася выдатнымі сцэнічнымі якасцямі. У дакастрычніцкі час Е. Міровічам напісана больш за 50 п'ес.

Плённай была яго дзейнасць і як беларускага драматурга. Разумеючы патрэбу стварэння прафесійнага нацыянальнага тэатра і адчуваючы недахоп нацыянальнага драматургічнага матэрыялу, Е. Міровіч звярнуўся да вуснапаэтычнай творчасці і гісторыі беларускага народа. Паклаўшы ў аснову фальклорныя сюжэты, шырока выкарыстоўваючы элементы народных абрадаў і звычаяў, ён напісаў п'есы «Машэка», «Кат і сын» (пастаўлены ў 1923), камедыю «Каваль-ваявода» (пастаўлена ў 1925), стварыў першую беларускую гістарычную драму «Кастусь Каліноўскі» (пастаўлена ў 1923, экранізавана ў 1928). Творы яго мелі сцэнічны поспех, давалі штуршок развіццю беларускай нацыянальнай драматургіі. У 2-й палове 20-х гг. гэтыя п'есы і спектаклі па іх падвяргаліся жорсткім нападкам вульгарна-сацыялагізатарскай крытыкі за так званы «нацыянал-дэмакратызм». У 1925 Е. Міровіч напісаў сатырычную камедыю «Кар'ера таварыша Брызгаліна» (прэм'ера адбылася 26.12.1925, пастаўлена таксама тэатрам Ленінградскага народнага дома), сюжэт якой быў непасрэдна звязаны з рэчаіснасцю 20-х гадоў. Таленавіта напісаная п'еса, з ярка выпісаным вобразам цэнтральнага персанажа (былы царскі жандар, які стаў савецкім кіраўніком), з выкарыстаннем дэтэктыўных элементаў, здаецца, адпавядала ўсім канонам савецкай сцэнічнай класікі (і лічылася такой), аднак была ўсё ж данінай аўтара свайму часу, своеасаблівай мастацкай ілюстрацыяй канцэпцыі барацьбы партыі супраць так званых класава-варожых элементаў у сацыялістычным будаўніцтве. Вобраз Брызгаліна, «скрытага» ворага савецкай улады, быў папярэднікам Гарлахвацкага з сатырычнай камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». Актуальнымі па тэматыцы, але больш слабымі ў мастацкіх адносінах былі п'есы Е. Міровіча «Перамога» (1926), «Запяюць верацёны» (1928). Спектакль па апошняй п'есе даў пачатак вядомай «тэатральнай дыскусіі». У перыяд калектывізацыі Міровіч стварыў некалькі п'ес на вясковую тэматыку: «Лён» (пастаўлена ў 1932) і «У вясновую ноч» (1934). Асноўная заслуга Е. Міровіча як беларускага драматурга — у стварэнні ім беларускай фальклорна-гераічнай і нацыянальна-гістарычнай драмы.

Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», медалямі.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Мефистофель в интересном положении, или Женатый Мефистофель: Пьеса. Пб., 1909.

Графиня Эльвира: Комедия. Пб., 1910.

Рыцарь дон-Фернандо: Пьеса. Пб., 1912.

Фабрика талантов: («Остановитесь!»): Пьеса. Пб., 1912.

Какой нахал: [Аднаактовая п'еса]. Пб., 1914.

Вова приспособился: Пьеса. Пб., 1915.

Не ревнуй!: [Аднаактовая п'еса]. Пб., 1915.

Театр купца Епишкина: Комедия. Пб., 1915.

У веснавую ноч: П'еса. Мн., 1934. Рэц.: Галубок Э. Новая п'еса для калгаснай сцэны // Крытыка-бібл. бюл. 1934. № 7.

П'есы. Мн., 1957. Рэц.: Модэль М. Драматургія Яўсцігнея Міровіча // Полымя. 1958. № 2; Няфёд У. Драматургічная спадчына Я. Міровіча // ЛіМ. 1957. 12 кастр.

**1.3.**

**1925.** Юбиляр о себе // Трибуна искусства. № 8.

**1931.** Слова за шостай: Урывак з п'есы «36 325» // Палес. праўда. 14 крас. / Сааўт. М. Зораў.

**1934.** У вясновую ноч: [П'еса] // Літ. Гомель. Гомель.

**1935.** Жадаю пладатворнай творчай працы // Палес. праўда. 23 снеж.

**1940.** Шлях тэатра // Чырв. змена. 6 студз.

**1941.** Слова рускай сцэны // Звязда. 15 чэрв.

**1945.** Мая работа над п'есай «Машэка» // ЛіМ. 10 мая; Кастусь Каліноўскі: (Урывак з п'есы) // Там жа. 6 ліст.

**1962.** Театр купца Епишкина: Сатира в одном действии; Вова приспособился: Комедия в 2-х действиях // Беларускае мастацтва. Мн. Вып. 3.

**1964.** Апошнія гадзіны: Урывак з п'есы Кастусь Каліноўскі // Ніва. 22 сак.

**1975.** Машэка: [Заключная дзея п'есы]; Кастусь Каліноўскі: [Урывак з п'есы] // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн. Т. 2.

**1.5.**

**На ўкраінскую мову.** Весняної ночі: П'еса / Пер. П. Нечай, Харків, 1936.

**2.2.**

**На беларускай мове.** Пятровіч С. Народны артыст БССР Е. А. Міровіч. Мн., 1963; 2 выд., перапрац. Мн., 1978. Рэц.: Смольский Р. У истоков // Сов. Бел. 1979. 20 сент.

**На рускай мове.** Петрович С. Е. А. Мирович и его роль в развитии белорусского театра: Автореф. дис. ... канд. искусствоведения. Мн., 1962.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Баліцкі А. Першы Беларускі дзяржаўны тэатр і заслужаны артыст Е. А. Міровіч // Заря Запада. 1928. 22 апр.; Барышаў Г. Станаўленне рэалістычнай дэкарацыі ў Першым беларускім драматычным тэатры ў перыяд 1920—1924 гг. // Зборнік навуковых прац Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Мн., 1958. Вып. 1; Брандабоўская Л. Тэатр-тракцір купца Япішкіна // ЛіМ. 1979. 19 студз.; Бур'ян Б. Добры дзень, Еўсцігней Афінагенавіч! // Там жа. 1978. 11 жн.; Яго ж. Шчаслівы лёс: Да 100-годдзя з дня нараджэння Еўсцігнея Міровіча // Беларусь. 1978. № 8; Галіна В. Е. А. Міровіч // Тэатр. Мінск. 1968. № 4; Яго ж. Ля вытокаў // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн., 1975. Т. 2; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1964. Т. 1. С. 70, 72, 73; Гурыч С. Творчы поспех // Мін. праўда. 1958. 25 ліст.; Есакоў А. Еўсцігней Міровіч // Міровіч Е. П'есы. Мн., 1957; Яго ж. Янка Купала і беларускі тэатр. Мн., 1972. С. 188—191; К-а. «Кастусь Каліноўскі» // Змаганне. 1924. 6 студз.; К.-Р. Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч: [Да 25-гадовага юбілею тэатральнай працы] // Трибуна искусства. 1925. № 8; Карабанава Л. Да пытання аб эвалюцыі жанравых форм беларускай драматургіі 20 — пачатку 30-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн., 1983. Вып. 11; Яго ж. Прыёмы фальклорна-рамантычнай тыпізацыі ў драматургіі Е. Міровіча // Узроўні фальклорных уплываў. Мн., 1982; Яго ж. Рэгіянальныя элементы драматургіі Е. Міровіча // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры. Гомель, 1980; Крапіва К. П'есы і воббразы // Крапіва К. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5; Купала Я. «Кастусь Каліноўскі» // Купала Я. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7; Лаўшук С. Станаўленне беларускай савецкай драматургіі (20-я — пач. 30-х гг.). Мн., 1984. С. 85—91, 108—112; 130—135, 146—149; Літвінаў Л., Зораў М. Супраць непісьменнай крытыкі // ЛіМ. 1932. 5 жн.; Ліхачоў В. Успаміны аб юнацкіх гадах Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча (Дунаева) // Беларускае мастацтва. Мн., 1960; Мельнікава Л. Рамантыка барацьбы ў драматургіі 20-х — пачатку 30-х гадоў // Беларуская літаратура. Мн., 1985. Вып. 13; Мікуліч Б. «Запяюць верацёны» // Камуніст. 1929. 23 чэрв.; Яго ж. Дакумент няпоўнай перабудовы: (Заўвагі пра «Лён» Міровіча ў БДТ-1) // ЛіМ. 1933. 10 лют.; Міровіч Е. А. [Некралог] // ЛіМ. 1952. 23 лют.; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады). Мн., 1975. С. 188—189; Няразік Е. Гістарычная драма Е. А. Міровіча «Кастусь Каліноўскі» // Вуч. зап. Маг. пед. ін-та. 1959. Вып. 6; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Пятровіч С. Вяртаючыся да вытокаў // Вяч. Мінск. 1969. 12 лют.; Яго ж. Дзве неапублікаваныя камедыі Е. А. Міровіча // Беларускае мастацтва. Мн., 1962. Вып. 3; Яго ж. Непратаптанымі сцежкамі // Мін. праўда. 1965. 3 лют.; Яго ж. Праца Е. А. Міровіча над творамі беларускіх драматургаў // Беларускае мастацтва: Зб. арт. і матэрыялаў. Мн., 1962. Вып. 3; Яго ж. Творчая дзейнасць Е. А. Міровіча да Кастрычніцкай рэвалюцыі // Беларускае мастацтва. Мн., 1960; Яго ж. У памяці нашчадкаў // Звязда. 1978. 10 жн.; Яго ж. Шляхам першаадкрывальніка: (Да 100-годдзя з дня нараджэння Е. Міровіча) // Тэатр. Мінск. 1978. № 3; Яго ж. Е. А. Міровіч і яго роля ў развіцці беларускага тэатра // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1961. № 1; Ракіцкі В. Служыць свайму народу // Голас Радзімы. 1978. 10 жн.; Раманаў П. Разважаючы пра мінулае // Тэатр. Мінск. 1980. № 2; Рамановіч Я. Ён закладаў падмурак // ЛіМ. 1978. 11 жн.; Яго ж. На зямлі продкаў // Тэатр. Мінск. 1978. № 3; Яго ж. Спектакль у вёсцы // Вяч. Мінск. 1974. 16 мая; Яго ж. Справа яго жыцця // Рамановіч Я. Знаёмыя сілуэты. Мн., 1974; Яго ж. Успаміны пра Янку Купалу // Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1982; Рахленка Л. Яркі талент // Вяч. Мінск. 1968. 12 жн.; Сабаленка Р. «Лён»: П'еса Е. Міровіча ў пастаноўцы БДТ-1 // Палес. праўда. 1932. 15 ліп.; Сабалеўскі А. Еўсцігней Міровіч // Сабалеўскі А. Беларуская савецкая драма. Мн., 1969. Кн. 1; Яго ж. Еўсцігней Міровіч // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі. Мн., 1975. Т. 2; Яго ж. Мастацкі летапіс свайго часу // Полымя. 1968. № 6; Яго ж. Настаўнік // Сабалеўскі А. Жыццё тэатра. Мн., 1980; Яго ж. Сучаснасць і гісторыя. Мн., 1985. С. 197—199; Саннікаў А. Першая п'еса Е. Міровіча // ЛіМ. 1960. 4 студз.; Яго ж. «Таварыш Брызгалін кіруе і набывае» // Саннікаў А. Сатырычныя характары беларускіх камедый. Мн., 1961; Семяновіч А. Ад вытокаў да сталасці: Беларуская драматургія 1917—1945 гг. Мн., 1978. С. 12—14, 15—17, 25—27, 29—30; Яго ж. Беларуская савецкая драматургія: 1917—1932. Мн., 1968. С. 47—54, 60—66, 95—101, 105—110; Усікаў Я. Беларуская камедыя. Мн., 1979. С. 199—206; Яго ж. Шматгранны талент: Да 100-годдзя з дня нараджэння Еўсцігнея Міровіча // Полымя. 1978. № 8; Ялецкі В. Надзейныя крылы // Тэатр. Мінск. 1978. № 3.

**На рускай мове.** Евстигнеева Н. Первая белорусская советская историческая драма // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Мн., 1973; Яго ж. Проблема героя в п'есе Е. А. Мировича «Машека» // Веснік БДУ. Сер. 4. 1972. № 1; Глебов Г. Творческий год // Сов. Бел. 1946. 1 янв.; Лапицкий Г. Деревня в гостях у театра // Трибуна искусства. 1925. № 4. Литвинов Л. Мирович // Там жа. 1925. № 8; Лысенко С. Грани героической темы в драме Е. Мировича «Кастусь Калиновский» // Вопр. лит. народов СССР. 1981. Вып. 7; Яго ж. Романтика борьбы и созидания. Мн., 1982. С. 23—26; Н. Б. Открытие сезона в Гостеатре // Звезда. 1922. 27 окт.; Нефед В. И полезно, и занимательно // Сов. Бел. 1965. 23 янв.; Петрович С. Смех не ради смеха // Неман. 1960. № 4; Романович Е. Он жил театром: К 100-летию со дня рождения Е. Мировича // Там жа. 1978. № 8; Соболевский А. Белорусская драматургия в театрах народов

СССР. Мн., 1972. С. 34—37; Я г о ж. Режиссер, драматург, наставник: К 100-летию со дня рождения Е. А. Мировича // Неман. 1978. № 8; Х е р с о н с к и й Х. Белорусский театр. // Звезда. 1923. № 2—3; Я г о ж. «Ветка счастья»: Крестьянский белорусский театр // Известия. 1923. 7 сент.; Ш у л ь м а н С. Гримасы «театра Епишкина» // Знамя юности. 1979. 9 янв.

На ўкраінскай мове. О х р і м е н к о П. Шляхами братання: (Про українсько-білоруські театрально-драматургічні зв'язки). К., 1968. С. 93—95;

*В. У. Смольская.*

# МІРОНАЎ АЛЯКСАНДР



*Міронаў Аляксандр Яўгенавіч [10(23).11.1910, г. Орша — 15.12.1992, Мінск; па завяшчанні прах развеяны над Чорным морам], празаік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1978). Член СП Беларусі з 1939. Пісаў на рускай мове.*

Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Бацька, Яўген Мікітавіч, усё жыццё працаваў на чыгунцы, памёр у 1924. Маці, Кацярына Эдуардаўна, актрыса тэатра імя Я. Купалы, заслужаная артыстка БССР; памерла ў 1946. Скончыўшы сямігодку, А. Міронаў вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Мінску. У 1928 адначасова з вучобай працаваў рабочым на будаўніцтве, з 1930 рэпарцёрам рэспубліканскай газеты «Звязда». Але юнака вельмі прыцягвала мора, і летам 1930 ён паехаў у Архангельск, уладкаваўся матросам 1-га класа савецкага гандлёвага флоту. Плаваў на суднах «Малыгін», «Валадарскі», «Смідовіч», «Чалюскін», удзельнічаў у чалюскінскай эпапеі (1933—34). Некаторы час працаваў у рэдакцыях газет «Правда Севера», «Моряк Севера» (1930—41). Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, А. Міронаў скончыў паскораную школу вахценных камандзіраў баявога карабля, служыў на Паўночным флоце (1941—46). Пасля дэмабілізацыі (1946) вярнуўся ў Мінск, працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Звязда» (1946—47), адказным сакратаром альманаха «Советская Отчизна», начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм» (1947—50). З 1950 на творчай рабоце. Узнагароджаны 2 ордэнамі Чырвонай Зоркі, ордэнамі Айчыннай вайны 2-й ступені, «Знак Пашаны», «Дружбы народаў», медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Ганаровы палярнік Савецкага Саюза.

Друкавацца пачаў з пачатку 1930-х г. (у беларускім друку — з 1934). Пісаў нарысы, апавяданні, аповесці, раманы і п'есы, прысвечаныя пераважна жыццю, працы і подзвігам савецкіх маракоў («Паход Чалюскіна», «Ля студзёнага мора», «У чужых шыротах», «Па марах, па акіянах», «Толькі мора вакол» і інш.). Пісьменнік добра ведаў побыт сваіх таварышаў па працы і ваеннай службе. У яго творах шмат з перажытага, уласнага жыццёвага вопыту. Піша для дзяцей («Чэснае піянерскае», «Сцяг карабля», «Гэта твае сябры» і інш.). Многія яго апавяданні і нарысы прысвечаны тэме рабочага класа. Займаўся перакладамі. У літаратурнай апрацоўцы А. Міронава за пасляваенныя гады выйшлі многія кнігі ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар аповесці-ўспамінаў «Дзед Маўр». На словы А. Міронава напісаны песні («Зубронак» П. Падкавырава і інш.).

Жыў у Мінску і Кактэбелі (Крым). *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Избр. произв.: В 2 т. Мн., 1970—1971. Т. 1. Рассказы. Повести. Мн., 1970. Т. 2. Романы. Мн., 1971.

Избр. произв.: В 2 т. Мн., 1986. Т. 1. Повести. Т. 2. Романы.

**1.2.**

Морские будни: Рассказы. Архангельск, 1932.

Поход «Челюскина»: Очерк. Архангельск, 1935.

Чукотские новеллы. Архангельск, 1935; 2 изд., испр. и доп. Архангельск, 1937.

Большое сердце: Рассказы. Архангельск. 1939; Мн., 1939. Рэц.: Цітоў К. Гімн пераможцам // ЛіМ. 1940. 7 вер.

Мужество. Архангельск, 1942.

Крепость во льдах: Повесть. М.; Л., 1944.

Далеко на севере: Повесть. Мн., 1947. Рэц.: Бурьян Б., Мечно Р. Хорошая повесть с досадным «но» // Сталин. молодежь. 1948. 14 марта; Пятницкая Е. Повесть о далеком севере // Сов. Бел. 1948. 6 апр.

Каменщик Петр Дудко и его звено: Очерк. Мн., 1947.

Остров розовых скал: Повесть. Архангельск, 1947.

В стране голубых просторов. Мн., 1948. Рэц.: Гамолка М. Падарожжа па цудоўнаму краю // Чырв. змена. 1949. 12 крас.

Конец легенды: Рассказы. Мн., 1948. Рэц.: Кудраўцаў І. Чалавек — аснова твора // ЛіМ. 1949. 1 кастр.; Пиотуховская Р. Волнующие рассказы // Сталин. молодежь. 1949. 12 июня.

Честное пионерское: Рассказы для детей. Мн., 1950. Рэц.: Клешчанка В. Новы зборнік Аляксандра Міронава // Наст. газ. 1951. 24 мая; Масевіч С. Побач з добрымі творамі... // ЛіМ. 1951. 29 чэрв.

В краю полуночного солнца. Иркутск, 1951.

В чужих широтах. Мн., 1952.

На океанских дорогах: Рассказы. Мн., 1952. Рэц.: Астапенка А. Цікавыя апавяданні // Бярозка. 1953. № 3; Васілевіч А. // Звязда. 1952. 25 снеж.; Ерохин Р. // Сов. Отчизна. 1953. № 1; Есьман І. На акіянскіх дарогах // Беларусь. 1953. № 4; Сокалаў В. Слова ў барацьбе // Полымя. 1953. № 1.

На океанских дорогах: Рассказы. М.; Л., 1953.

Сын докера: Рассказы. Мн., 1954.

Флаг корабля. М., 1954.

Это твои друзья: Рассказы. Симферополь, 1954.

По морям, по океанам: Повести. Рассказы. Мн., 1956. Рэц.: Жыжэнка У. Масавым тыражом // ЛіМ. 1956. 17 ліст.; Кудраўцаў І. Герой і характар // Беларусь. 1956. № 7.

Корабли выходят в океан: Роман. Мн., 1957. Рэц.: Белашэеў А. Дарога на акіян // ЛіМ. 1958. 5 снеж.; Бурносаў В. Жыццёвы матэрыял — аснова мастацкага твора // Полымя. 1958. № 10; Саянов В. «Корабли выходят в океан» // Сов. Отчизна. 1959. № 1.

Только море вокруг: Роман. Мн., 1960. Рэц.: Бойка У. Кніга аб працаўніках мора // Беларусь. 1960. № 12; Бурносов В. Герои суровой судьбы // Сов. Бел. 1960. 11 окт.

Твое будущее. Мн., 1962. (Беседы на морально-этические темы).

Только море вокруг: Дилогия. Мн., 1962. Рэц.: Бур'ян Б. Далёкія і блізкія прычалы // Беларусь. 1963. № 7.

Дорогой мой подросток: Очерки. Мн., 1966. (По законам совести и чести).

Зачислен навечно: О людях милиции: Очерки. Мн., 1966. Рэц.: Новиков Г. Уроки отваги и мужества // Знамя юности. 1967. 8 авг.

Ледовая Одиссея: (Записки челюскинца): Документальная повесть. М., 1966. Рэц.: Глагазин А., Тарасюк А. // Поляр. правда. 1966. 26 окт.; Губароўскі В. Адысея мужнасці // Чырв. змена. 1967. 15 студз.; Малышева В. Подвиг во льдах // Неман. 1967. № 2; Некрасов П. Книга о челюскинцах // Правда Севера. 1966. 31 авг.

Коса на камень: Повесть. Мн., 1967 / Сааўт. М. Янушка.

Пути, которые мы выбираем. Мн., 1968. (По законам совести и чести). Рэц.: Каралевіч Г. Напаўголасу, напаўсілы // Наст. газ. 1969. 15 лют.; Лаўроў У. Заўсёды на маршы // Маладосць. 1969. № 2.

Через тысячу смертей: Повесть. Мн., 1972. Рэц.: Віхроў А. Вернасць тэме // Віцеб. рабочы. 1973. 29 жн.; Зайцев Ф. // Неман. 1973. № 5; Марціновіч А. Мужанне Барыса Алексіевіча // ЛіМ. 1973. 12 мая; Собаль Ф. Каб плылі караблі // Вяч. Мінск. 1973. 19 студз.

...Не поле перейти: Роман. Мн., 1975 / Сааўт. М. Янушка.

Ледовая Одиссея; Через тысячу смертей: Повести. Мн., 1978.

Дед Мавр: Повесть-воспоминания. Мн., 1979. Рэц.: Бурьян Б. Признательность воспитанника // Неман. 1980. № 11; Ерохин Р. Приглашение к книге // Сов. Бел. 1980. 24 янв.; Кудраўцаў І. Чараўнік з краіны дзяцінства // Вяч. Мінск. 1980. 28 студз.; Спіцын В. Такім быў Маўр // ЛіМ. 1979. 7 снеж.

Корабли выходят в океан: Роман. Мн., 1980.

Только море вокруг: Роман. Мн., 1981.

Дед Мавр.: Повесть-воспоминания. Мн., 1983.

Ледовая одиссея: Записки челюскинца. Повесть. Мн., 1984.

**1.3.**

**1934.** Чацвераногае бажаство: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 9; У месячную ноч: Апавяданне // Там жа. № 10; Белы жах: Апавяданне // Там жа. № 11; Вялікая любоў; Чорны туман: Апавяданні // Там жа. № 12; Логіка вадалаза: [Апавяданне] // Звязда. 21 ліп.; Жанчыны ў лагеры Шмідта: [Нарысы] // Там жа. 23 ліп.; Судна не кінем: [Апавяданне] // Калгаснік Бел. 19—20 чэрв.; Пісьменнікі і журналісты «Челюскина»: Нарыс // ЛіМ. 26 ліп.; Ячэйка на крызе: [Апавяданне] // Чырв. змена. 22 ліп.

**1935.** Пецька-марак: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 8; Тынано: Апавяданне // Там жа. № 10; Багі пераможаныя: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 10.

**1936.** Ілька: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 5; Ворагі: Апавяданне // Там жа. № 10; Паляванне на цюленяў: Апавяданне // Там жа. № 12; Лонданскі рэйс: Нарыс // Полымя рэвалюцыі. № 6; У дні незаходзячага сонца: Апавяданне // Там жа. № 9; У чужых шыротах. І. Нарвегія: [Нарыс] //Звязда. 20 лют. ІІ. Англія: [Нарыс] // Там жа. 22 лют.; ІІІ. Германія: [Нарыс] // Там жа. 6 крас.; За і супраць: [Нарыс] // Там жа. 10 ліп.; Героі марскіх глыбінь: [Нарыс] // Там жа. 26 жн.; Сосны шумяць: [Нарыс] // Там жа. 2 вер.; Савецкая поўнач: [Нарыс] // Там жа. 4, 16 вер., 9 кастр.; Дух маржа: [Апавяданне] // Піянер Бел. 3 крас.

**1937.** Запаветны томік: Нарыс // Полымя рэвалюцыі. № 1; Адданасць; Вораг: Апавяданні // Там жа. № 8.

**1938.** На зімоўцы: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 1; Банка кансерваў: Апавяданне // Там жа. № 11.

**1939.** Пачатак дружбы: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 2; Цана чалавека: Апавяданне // Там жа. № 7; У фашысцкім палоне: Урывак з аповесці «У сярэдневяковай Талосе» // Звязда. 12, 24 жн.; Сацыялістычная магістраль: Расказы аб 3-й Сталінскай пяцігодцы // Піянер Бел. 15 вер.

**1940.** Марфа Сямёнаўна Крукава // ЛіМ. 1 мая.

**1945.** Наши земляки: Письмо с далекого севера // Сов. Бел. 22 авг.; Север после войны // Там жа. 1 сент.

**1946.** Пушок: Апавяданне // Бярозка. № 12; Патриот: [Апавяданне] // Гродн. правда. 16 июля; Повесть о нашей борьбе за счастье: [Нарыс] // Там жа. 6 сент.; Радость и счастье коллективного труда: [Нарыс] // Там жа. 17 сент.; Вперед следопыты: Повесть // Зорька. 14, 21, 28 нояб., 5, 12, 26 дек.; 1947. 9 янв.

**1947.** Блакітная маланка: Апавяданне // Бярозка. № 6; Кастрычніцкі рэйс: Апавяданне // Там жа. № 10; Полымя. № 11; Наташа: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 8; Дожинки; Срочное задание: [Апавяданні] // Сов. Отчизна. № 3; На берегах Немана // Звязда. 9 лют. / Сааўт. В. Басак; На новым этапе тэатральнага мастацтва // ЛіМ. 30 жн.; Ці права Вера? // Піянер Бел. 8 вер.; Далёка на поўначы: [Урывак з аповесці] // Там жа. 1, 8 кастр.; Чаму заплакаў Віця: Апавяданне // Там жа. 24 снеж.; Знатный штукатур Трифон Громов // Сов. Бел. 23 мая; Швейницы Гродно // Там жа. 1 июня; Каменщик Петр Дудко и инженеры участка // Там жа. 21 июня; Фрезеровщик Юрий Раков // Там жа. 22 июля; Так рождается победа // Там жа. 9 авг.; Старший мастер Алексей Максимов // Там жа. 17 авг.; Песни белорусского народа // Там жа. 27 авг.

**1948.** Самае дарагое: Апавяданне // Беларусь. № 9;

Хрыстафора Філалета, Клірыка Астрожскага, абараняў іх ад нападкаў Мялеція. На «Антыдотум» апошні адказаў з'едлівым «Экзэтэзісам» (1629). А. Мужылоўскі падтрымліваў цесныя сувязі з І. Барэцкім, П. Магілай, членамі праваслаўных брацтваў. Яго сын, Сілуян Мужылоўскі, быў украінскабеларускім палітычным і культурным дзеячам, актыўным удзельнікам вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа супраць Рэчы Паспалітай, адным з бліжэйшых паплечнікаў Б. Хмяльніцкага.

*У. Г. Кароткі, Ю. А. Мыцык.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Antidotum przezacnemu narodowi Ruskiemu abo warunek przeciw Apologiey iadem napełnioney, ktorą wydał Melety Smotrzycki njestłusznie cerkiew ruską... w niey pomawiaiąc o haeresią y schizmie. [Wilno], 1629.

**1.3.**

**1887.** Отпис на лист униатов виленских // Архив Юго-Зап. России. Ч. 1. Т. 7.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 306, 328.

**На рускай мове.** Апокрисис Христофора Филалета, к переводу на современный язык, с предисловием, предложениями и примечаниями. Издан в память юбилея Киевской Духовной Академии, 28 сент. 1869 г. Киев, 1870 // Вестн. Зап. России. 1870. Кн. 7; Воссоединение Украины с Россией: Документы и материалы: В 3 т. М., 1953. Т. 2. № 46, 53, 60—61, 119; Т. 3. № 147—150, 152—154, 157, 159—166; Голубев С. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники: (Опыт исторического исследования). К., 1883. Т. 1. С. 399—401; Забелин И. Малороссийская переписка, хранящаяся в Московской оружейной палате. М., 1848. № 17—18; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 172, 176, 190; Макарий. История русской церкви. СПб., 1879. Т. 9. Кн. 4. С. 615; Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина грекороссийской церкви. 2 изд., исправл. и умнож. Спб., 1827. Т. 1. С. 58; Филарет. Обзор русской духовной литературы. 862—1863. 3 изд., с попр. и дополн. автора. СПб., 1884. Кн. 1 и 2. С. 186—187.

**На украінскай мове.** Возняк М. Історія української літератури. Т. II. Вікі XVI—XVIII. Львів, 1921. Ч. 1. С. 271; Документи Богдана Хмельницького: 1648—1657. К., 1961. № 192—202.

*М. П. Барташэвіч.*


# МУРАВЕЙКА ІВАН



*Муравейка Іван Андрэевіч (н. 21.10.1921, в. Таль Любанскага р-на Мінскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1953. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1982).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Андрэй Апанасавіч (1899—1925), хлебароб. Маці, Варвара Васілеўна (1900—1981), працавала ў калгасе. Айчым, Лаўрыеня Ілья Якаўлевіч (1901—1969), работнік лясгаса, калгасны бухгалтар, быў шчыры, добразычлівы чалавек. І. Муравейка вучыўся ў Тальскай сямігодцы (школа калгаснай моладзі) і Любанскай СШ. За актыўную дзяткораўскую работу двойчы атрымліваў прэміі — бібліятэку дзіцячай літаратуры. Яшчэ ў школьныя гады абудзілася ў яго мара стаць журналістам ці пісьменнікам. Іскрынку ў дзіцячым сэрцы запаліў «хросны бацька» дзядзька Волесь (Аляксандр), які быў малапісьменным, але адчуваў цягу да рыфмаванага слова, прыдумваў дасціпныя гумарыстычныя вершы і куплеты, у якіх высмейваў розныя хібы вяскоўцаў. Яшчэ ў 4-м класе на здольнага да літаратуры вучня звярнуў увагу школьны настаўнік, пісьменнік М. П. Лобан. Пазней яго падтрымаў М. М. Клімковіч. У 1939 пасля заканчэння школы І. Муравейка

паступіў у мінскі Камуністычны інстытут журналістыкі. Але ў канцы 1939 быў прызваны ў Чырвоную Армію. У гады Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Заходнім фронце. Быў паранены і адпраўлены ў шпіталь. Потым курсант Новасібірскага ваенна-пяхотнага вучылішча, малодшы лейтэнант на Паўднёва-Заходнім фронце, літсупрацоўнік дывізійнай («Наступление», 1944—45), карэспандэнт армейскай («На защиту Родины») газет. У 1945—47 у складзе Цэнтральнай групы войск служыў у Германіі. Дэмабілізаваўся ў 1947 як інвалід 2-й групы (па хваробе лёгкіх) і вярнуўся ў в. Сарачы Любанскага р-на, куды яшчэ да вайны перасялілася маці з айчымам. З 1948 працаваў адказным сакратаром, з 1952 — рэдактарам, у 1952—61 зноў сакратар Любанскай раённай газеты «Кліч Радзімы». У 1962 літсупрацоўнік раённай газеты «Будаўнік камунізму» (г. Салігорск). У 1962—64 вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах, потым зноў працаваў адказным сакратаром любанскай раённай газеты «Будаўнік камунізму». Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеняў, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Першыя вершы І. Муравейкі апублікаваны ў 1936 у газеце «Піянер Беларусі» (публікацыі не выяўлены). З таго часу яго вершы, казкі друкуюцца на старонках перыядычных выданняў, зборнікаў, школьных падручнікаў, у слуцкай акруговай газеце «Праўда на рубяжы». Аўтар кніг паэзіі для дзяцей: «Песня над палямі», «Ручаінкі», «Вось якія мы», «Пра работу і ляноту», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Сем колераў вясёлкі», «Мы таксама падрасцём», «Дуб і дубок», «Няхай сонца не заходзіць», «Я прыдумаў казку». Паэзія І. Муравейкі адкрывае маленькаму чытачу дзівосны шматгалосы і шматфарбны свет, вучыць любіць Радзіму, абуджае адчуванне прыгожага. Яго сатырычныя і гумарыстычныя вершы друкаваліся ў часопісе «Вожык», газетах «Літаратура і мастацтва», «Сельская газета», «Мінская праўда» і інш. На аснове франтавых блакнотаў, дапоўненых вершамі, апавяданнямі і ўражаннямі, стварыў кнігу «Прынёс з вайны». Некаторыя яго вершы («Па грыбы», «Адмарозіў лапкі», «Рэха», «Наш прыгавор вайне» і іншыя) пакладзены на музыку кампазітарамі С. Альхімовічам, І. Кузняцовым, П. Падкавыравым, А. Туранковым і інш.

Жыве ў г. п. Любань. *Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Мы таксама падрасцём: Выбранае: Вершы. Мн., 1971. Рэц.: Л і т в і н а ў Р. Па-сур'ёзнаму і з жартам // Гомел. праўда. 1971. 3 ліст.; Я г о ж. Характво наваколля // Наст. газ. 1972. 19 лют.

**1.2.**

Песня над палямі: Вершы і песні. Мн., 1955. Рэц.: Б у р ь я н Б. Автор дождался выхода книги // Сталин. молодежь. 1956. 3 янв.; Б я р о з к і н Г. Маладосць — гэта пошукі // Беларусь. 1956. № 2; Е с а к о в А. Первые книжки молодых поэтов // Сов. Бел. 1956. 8 янв.; К у д р а ў ц а ў І. Першыя сляды // Полымя. 1956. № 1.

Ручаінкі: Вершы. Мн., 1956. Рэц.: Г а ў р у с ё ў С. Добры пачатак // ЛіМ. 1956. 23 чэрв.; Ш ч а р б а т а ў І. Ручаінам — шырокую плынь // Маладосць. 1956. № 11.

Вось якія мы: Вершы. Мн., 1958. Рэц.: Д а н і л е в і ч Л. Вершы для маленькіх // Наст. газ. 1959. 9 студз.

Пра работу і ляноту: Вершы, казкі. Мн., 1960. Рэц.: П у ч ы н с к і Д. Маленькім чытачам // Віцеб. рабочы. 1960. 1 ліст.

Дружная сямейка: Вершы. Мн., 1961.

Сняжынкі-смяшынкі: Вершы. Мн., 1962.

Сем колераў вясёлкі: Вершы. Мн., 1965. Рэц.: Р а з а н а ў І. Вясёлыя і невясёлыя колеры // ЛіМ. 1966. 11 сак.

Лясное возера: Вершы. Мн., 1970.

Мы таксама падрасцём: Вершы. Мн., 1971.

Дуб і дубок: Вершы. Мн., 1977.

На зямлі камунараў. Мн., 1979 / Сааўт. А. Андруховіч.

Няхай сонца не заходзіць: Вершы, паэмы, казкі. Мн., 1981. Рэц.: Т у р а й к е в і ч Я. Пра снегіра і сонечнага зайчыка // Мін. праўда. 1981. 3 вер.

Я прыдумаў казку: Вершы. Мн., 1985.

Прынёс з вайны: Франтавыя запісы. Расказы пра аднапалчан. Апавяданні. Вершы. Мн., 1991.

**1.3.**

**1937.** Дзяцінства: [Верш] // Піянер Бел. 20 кастр.

**1939.** Юбіляру: [Верш] // Піянер Бел. 1 студз.

**1947.** Любімы Сталін нас вядзе: [Верш] // Сав. Радзіма. 17 крас.; Як з-за гаю-гаю: [Верш] // Там жа. 17 жн.; Шчасце: [Верш] // Там жа. 21 кастр.; «Не гуляй у полі, вецярок асенні...»: [Верш] // Там жа. 14 снеж.

**1948.** Каска: [Верш] // ЛіМ. 7 лют.; У кузні; «Гэй — у поле, сейбіт і араты...»: [Вершы] // Там жа. 15 мая; Кіраўнік партыйнай арганізацыі: [Нарыс] // Сав. Радзіма. 14 вер.

**1949.** Прымі падзяку, мудры правадыр: [Верш] // Сав. Радзіма. 20 снеж.

**1950.** Песня простых людзей: [Верш] // На варце міру. Мн.; Шчасце: [Верш] // На сонечных сцежках. Мн.; Вясна: [Верш] // Беларусь. № 4; Зацвілі ільны над рэчкай: Песня // Там жа. № 6; Як мы ўчора: Песня // Там жа. № 9; Забалоцце: [Верш] // Полымя. № 5; Навагодняя песня: [Верш] // ЛіМ. 1 студз.; Песня простых людзей: [Верш] // Там жа. 3 чэрв.

**1951.** Колькі ў небе зорак ясных; Я не жала ў полі жыта: [Вершы] // Беларусь. № 2; Песня: («Ой, цякла Арэса...») // Полымя. № 10; З дарогі прэч, падпальшчыкі вайны!: Песня // ЛіМ. 2 чэрв.; Рапарты Вялікаму Сталіну: [Верш] // Сав. Радзіма. 6 ліст.

**1952.** Колькі ў небе зорак ясных; Сталінскае імя; Я не жала ў полі жыта: [Вершы] // На сонечных сцежках. Мн.; Сейбіту песень: [Верш] // Беларусь. № 6; Над ракой Арэсай // Калг. праўда. 6 ліп.; Па волі партыі, па волі Сталіна: [Верш] // Сав. Радзіма. 5 кастр.; Бяссмертнае Сталіна імя: [Верш] // Чырв. змена. 15 сак.

**1953.** Льецца рэчка нашым полем: [Верш] // На сонечных сцежках. Мн.; Бяссмертнае Сталіна імя: [Верш] // Беларусь. № 3; Чырв. змена. 15 сак.; Калгаса нашага палі: [Верш] // Маладосць. № 5; Дзень вясенні корміць год; Лён; Па камбайнавых дарожках: [Вершы] // Полымя. № 9; Да пары збан ваду носіць: [Верш] // Калг. праўда. 3 чэрв.; Аб адной справаздачы: Байка // Там жа. 5 ліп.; Імя Сталіна — наша сонца: [Верш] // Сав. Радзіма. 11 сак.; Вясна: [Верш] // Там жа. 19 крас.; Дзе праходзіў салдат наш...: [Верш] // Там жа. 9 мая; Настаўніца; Над ракой; Кім ён будзе; Пасля працы; Я адна сяджу ў садочку: [Вершы] // Там жа. 30 жн.

**1954.** Снежная баба; Хмарка; Конік; Згубіла ляльку Люся: [Вершы] // Бярозка. № 4; Начное сонейка; Велікан; Рыбакі; Камбайн; Ластаўкі; Парэчкі: [Вершы] // Там жа. № 9; Садоўнік: [Верш] // Маладосць. № 1; У навагодні вечар: [Верш] // Калг. праўда. 1 студз.; Лісіца: Байка // Там жа. 10 студз.; Спрэчкі каля тэлефона: [Верш] // Там жа. 26 мая; У барацьбе за ўраджай // Мін. праўда. 22 студз.; Незвычайная ёлка: [Верш] // Сав. Радзіма. 1 студз.; У паход за ўраджай: [Верш] //

Чырв. змена. 7 сак.; Мяцеліца: [Верш] // Там жа. 17 кастр.

**1955.** Сейбіту песен: [Верш] // Янка Купала. Мн.; Новыя вершы // Бярозка. № 8; Дарога; Света; Я спытала ў вішні; Падрасцём; Крапіва: [Вершы] // Там жа. № 9; Ідзе між ільноў звеннявая: [Верш] // Віцеб. рабочы. 10 ліп.; Над ракой: [Верш] // Там жа. 18 вер.; Прысуд вайне: [Верш] // ЛіМ. 2 крас.; Як сеялі абаранкі; Два зайкі; Ляцелі шпакі; Гарманіст; Тамарын дождж; Наш дом: [Вершы] // Там жа. 7 вер.; Наш кандыдат: [Верш] // Мін. праўда. 27 лют.; На Алтай: [Верш] // Чырв. змена. 16 студз.; Ён рукі твае расцалуе: [Верш] // Там жа. 8 сак.

**1956.** Малюнкі на шыбе; Пабудую лёдакол; Адмарозіў лапкі: [Вершы] // Бярозка. № 2; Мая мама; Адмарозіў лапкі; Пеўні; Малюнкі на шыбе: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 1; Рэха; Рабіна; Небыліца: [Вершы] // ЛіМ. 1 вер.; Мы збіраем каласы; Плача бярозка; Пра зайчыка-гультайчыка: [Вершы] // Піянер Бел. 27 ліп.; Нас, маладых, кліча прастор: [Верш] // Чырв. змена. 2 снеж.

**1957.** Расці, яблынька!: Паэма // Бярозка. № 8, 9; Восень: [Верш] // Вясёлка. № 6; Слова пра герояў: [Верш] // За вяртанне на Радзіму. № 80; Звязда. 13 кастр.; Мой карандаш; Пажар; Чароўнае шкельца; Веліканы: [Вершы] // Полымя. № 8; Неўміручасць: [Верш] // Віцеб. рабочы. 2 чэрв.; Сымон гоніць самагон... // Звязда. 20 вер.; Ігнатка будзе героем: [Верш] // Калг. праўда. 24 жн.; Прыязджайце к нам у госці: [Верш] // Там жа. 31 жн.; Хітрыкі дзядзькі Кузьмы: Гумарыстычнае апавяданне. (На конкурс «Мінскай праўды») // Мін. праўда. 8 вер.; Званочак; На гушкалцы: [Вершы] // Піянер Бел. 1 мая.

**1958.** Веліканы; Чараціна заспявала; Пра бабулю, унучку і карзіну: [Вершы] / Юным дэкламатарам. Мн.; Ці памыліўся Яша?; Кніга; Вясна: [Вершы] // Вясёлка. № 3; На рацэ: [Верш] // Там жа. № 7; Гэта я намаляваў: [Верш] // Там жа. № 9; Крэпасць; Страшнае здарэнне: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 3; Пра Хаму, лета і зіму: [Верш] // Калг. праўда. 24 крас.; Жора: [Верш] // Там жа. 2 кастр.; Угаварвалі Савося...: [Байка] // Там жа. 17 жн.; Ці памыліўся Яша?; Сарокі; Чараціна заспявала; Гарбуз: [Вершы] // Мін. праўда. 30 крас.; Калі б і тых: Фельетон // Там жа. 13 снеж.; Вершы для маленькіх: Боты; Ільюша і грушы; Му і Мэ // Наст. газ. 30 мая; Жора-абжора; Чаму піла зламала зуб; Пакрыўджаныя воблакі; Скокі; Лыжнікі: [Вершы] // Там жа. 1 жн.; Стрэмкі; Схаваўся: [Вершы] // Піянер Бел. 4 ліп.; Першы палёт; Вышывала Светка; Лыжнікі: [Вершы] // Там жа. 12 вер.

**1959.** Вышай сонца; Наш дом; Галубкі; Малюнкі на шыбе; Кот-хвалько; Вясна; Мішу сумна; Пчала і ліпа; Света; Перапёлка; Парэчкі; Рая ідзе ў школу: [Вершы] // Мы спяваем. Мн.; Мы пабудавалі дом: [Верш] // Бярозка. № 6; Пра Ляноту і яго работу: Паэма // Там жа. № 7; Як Васілёк вучыў урок: [Верш] // Вясёлка. № 1; Мятла; Падзялілі: [Вершы] // Там жа. № 5; Дачушка і падушка; Лясныя дактары; Гусі: [Вершы] // Маладосць. № 6; Наш тэлефон; Не сказаў; Самакат; Разявака: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 5; Перапалох: [Верш] // Сел. гасп. Бел. № 9; Татаў сынок: Фельетон // Звязда. 18 кастр.; Аднойчы раніцай: [Верш] // Калг. праўда. 21 ліп.; Песня пра голуба міру: [Верш] // ЛіМ. 28 крас.; Дзіўнае здарэнне; Скачы, ножка; Колеры году: [Вершы] // Там жа. 7 кастр.; Далі па шапцы: Фельетон // Мін. праўда. 4 крас.; Лічылачка; Хто прымусіў Валю працаваць; Грыбняты; Не затрымалася...; Певень у ботах; Гарбузы: [Вершы] // Наст. газ. 13 студз.; Дружная сямейка; Непаседа; Так яму і трэба: [Вершы] // Там жа. 1 мая; Эх, як добра працаваць!; Малаток; Усе любуюцца; Для каго?; Пудзіла: [Вершы] // Там жа. 20 кастр.;« — Вясна! Вясна! — пяюць шпакі...»: [Верш] // Піянер Бел. 1 мая.

**1960.** Я сама; Лялька гуляць пайшла; Адмарозіў лапкі; Пра зайчыка-гультайчыка; Малюнкі на шыбе; Зіма; Ала піша маме пісьмо; Ручаінкі; Ляцелі шпакі; Галубкі; Я сам араў; Парэчкі; Медзведзяня; На прыгорку; Экскаватар; Мая мама; Мы збіраем каласы; Матылёк; Рая ідзе ў школу: [Вершы] // Дзецям. Мн.; Зімовае лета: [Верш]; Адмарозіў лапкі: Песня // Вясёлка. № 1; Ледзь уцёк; Мяч-хвалько; Рыдлёўка: [Вершы] // Там жа. № 5; Гарох: [Верш] // Сел. гасп. Бел. № 5; Кот і гусак: [Верш] // Там жа. № 9; Ролі: Гумарэска // Там жа. № 12; Сарокі: [Верш] // Мін. праўда. 24 снеж.; Заблудзіла; Марак; Ешце, качаняты; Тры ручайкі; А я ведаю; Смешны козлік; Светлячок; Сапраўдны гаспадар; Ля вячэрняга кастра: Вершы для маленькіх // Наст. газ. 9 лют.; Сварка: Гумарэска // Там жа. 22 кастр.; Саня і камень; Майстар на ўсе рукі; Чаму гудуць тэлефонныя правады; Валерка-агароднік; Галя-Галачка; Дачушку мама прабірала; Неба раскрышылася...; Апраўдалася: Вершы для маленькіх // Там жа. 17 снеж.; Як я сам сябе загартоўваў: [Верш] // Піянер Бел. 30 снеж.

**1961.** Як сеялі абаранкі; Хмарка: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 3; Ці памыліўся Яша?; Ля вячэрняга кастра: [Вершы] // Для школьнай эстрады. Мн.; Зайкін — Знайкін: [Верш] // Бярозка. № 11; Плады выхавання; Мама і гуз: [Вершы] // Вожык. № 21; Савецкі вымпел: [Верш] // Вясёлка. № 2; Сняжынкі-смяшынкі: [Верш] // Там жа. № 3; Замарачуйся; Лес у кошыку; Садовы чэмпіянат: [Вершы] // Там жа. № 10; Сонца свеціць: [Верш] // Там жа. № 11; Савецкі вымпел; Каб мама пашкадавала: [Вершы] // Голас Радзімы. № 18; Лічылачка: [Верш] // Работніца і сялянка. № 1; Вершы пра вясну: Дома; Вясна прыйшла; Красавік; Пачатак вясны; Крылатыя муляры; Першы дожджык // Там жа. № 5; Два цягнікі сустрэліся...: [Верш] // Сел. гасп. Бел. № 10; Бацькі і дзеці: Гумарэска // Звязда. 22 жн.; Кантралёр і інструкцыя: Нарыс // Там жа. 13 кастр.; На арбіту камунізма: [Верш] // ЛіМ. 8 жн.; Бычок-свавольнік: [Верш] // Наст. газ. 30 вер.; Наша зорачка: [Верш] // Піянер Бел. 15 вер.

**1962.** Як кукуруза старшыню перарасла: [Верш] // Слаўце Радзіму. Мн.; Пазайздросціў: Жарт // Вожык. № 18; «А ён жа сам цень дае»: Маленькая байка // Там жа. № 22; Восень-чараўніца: [Верш] // Вясёлка. № 10; За шчасце: [Верш] // Звязда. 18 сак.; Праваліўся; Мама абураецца; Каб не кювет; З пункту гледжання крата: [Вершаваныя гумарэскі] // Там жа. 8 ліп.; Заклёны млынара: Нарыс // Там жа. 7 кастр.; Перапалох: [Верш] // Калг. праўда. 16 сак.; П'яўка: [Верш] // Там жа. 14 кастр.; Бацькі і дзеці: Як тата і мама; «А чаму так мала?»; Каго слухаць?; Хто зарабіў двойку: [Вершы] // Наст. газ. 19 вер.; Як Васілёк вучыў урок: [Верш] // Ніва. 14 студз.; Колькі год дзіцяці?: [Байка] // Там жа. 18 сак.; «Футбаліст»; Працаўніца: [Вершы] // Там жа. 25 сак.; Няўжо вясна?; Веснавы мядзведзь: [Вершы] // Там жа. 1 крас.; Зайчыкавы брацікі: [Верш] // Там жа. 10 чэрв.; Дружная сямейка: [Верш] // Там жа. 17 чэрв.; Куды зніклі яблыкі?: [Верш] // Там жа. 5 жн.; Як тата і мама: Гумарэска // Там жа. 21 кастр.; У магазіне «Дзіцячы свет»; З пункту гледжання крата: [Гумарэскі] // Там жа. 4 ліст.; Каб не кювет: [Верш] // Там жа. 18 ліст.; Будзе майстрам; «Футбаліст»; Новая сукенка; Куды зніклі яблыкі?; Сыночка мама прабірала; Працаўніца: [Вершы] // Чырв. змена. 3 сак.

**1963.** «Дапамога» драпежнікі: [Байка] // Вожык. № 11; Адкуль прыходзіць на стол каша?: [Верш] // Там жа. № 16; Мінскі асілак: [Верш] // Вясёлка. № 5; Матчыны рукі: [Верш] // Работніца і сялянка. № 11; Шчасце: [Верш] // Заря. 16 февр.; Промні: [Верш] // Звязда. 14 ліп.; Салігорск: [Верш] // Мін. праўда. 25 жн.; Толева прыкмета: [Верш] // Наст. газ. 13 крас.; Партрэт Ільіча: [Верш] // Там жа. 20 крас.; Гудуць правады; Дзе расце малако?; Святланка шые: [Вершы] // Там жа. 5 чэрв.; Тры ручайкі: [Верш] // Сел. газ. 14 июля; Віхар; Пра смяшынку і смуцінку: [Вершы] // Чырв. змена. 27 ліп.; Тры лыжкі: [Верш] // Там жа. 21 жн.

**1964.** «А ён жа сам цень дае»: [Верш] // Мініяцюры і карыкатуры. Мн.; Партрэт Ільіча: [Верш] // Вясёлка. № 1; Дзень і ноч: [Верш] // Работніца і сялянка. № 7; Сатырычны калаўрот: Балбатушкін; Чакае ўказання; Забылі пра «дробязь»; Знайшоў апраўданне // Звязда. 29 лют.; Хадок: [Верш] // Там жа. 26 крас.; Не бяда!; Памыліўся: [Вершы] // Наст. газ. 25 студз.; Сынава вячэра: [Верш] // Там жа. 8 жн.; Не бяда: [Верш] // Ніва. 1 сак.; Як Васілёк вучыў урок: [Верш] // Там жа. 27 снеж.; А я не буду спаць; Дзіўнае здарэнне: [Вершы] // Сел. газ. 21 июня; Дождж; Падмануў: [Вершы] // Там жа. 9 авг.

**1965.** Завіруха старалася; Снягір; Зімовы сад: [Вершы] // Вясёлка. № 2; Журавіны; Сельскія студні; Салігорскі шахцёр; Цётка Зося: [Вершы] // Полымя. № 7; Чатырнаццаць і адзін: [Верш] // Работніца і сялянка. № 5; Бяжыць дарожка: [Верш] // Сел. х-во Бел. № 16; Журавіны: [Верш] // ЛіМ. 9 ліп.; Пра дзяжурную бярозку, бясконцы дожджык і многае іншае... // Там жа. 3 вер.; Бяжыць дарожка: [Верш] // Ніва. 17 кастр.; Дзе жывуць чараўнікі?: [Верш] // Чырв. змена. 28 ліп.

**1966.** Любоў і боль // Пра час і пра сябе. Мн.; Не бяда!: [Вершы] // Бярозка. № 10; Вось дык я: [Верш] // Вожык. № 8; Зязюля; Ные старая рана: [Вершы] // ЛіМ. 16 жн.; Размова з сэрцам: [Верш] // Чырв. змена. 3 сак.; Дзед і ўнук: [Верш] // Там жа. 9 мая.

**1967.** Конік; Мы таксама падрасцём; Я сама; У лясочку; Пеўні; Мая мама; Як сеялі абаранкі: [Вершы] // Арлянятам: У 2 т. Мн. Т. 1; «На покуці ў праўленні сноп апошні...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Адмарозіў лапкі; А ты, коцінька-каток: [Вершы] // Нам светит солнце ясное. Мн.; Мастак; Перайначка: [Вершы] // Вожык. № 23; Мінскі асілак: [Верш] // Звязда. 24 ліст.; «Хутка, хутка Новы год...»: [Верш] // Наст. газ. 30 снеж.

**1968.** Прыліпалы: [Верш] // Вожык. № 7; Усмешка Капітона Спірыдонавіча: Гумарэска // Там жа. № 16; Бацькава шапка; Сараканожка; Шахцёрачка; Не плач: [Вершы] // Вясёлка. № 4; Случ; Гром; Лясное возера: [Вершы] // Там жа. № 8; Няхай сонца не заходзіць; Пеўнік; Рогі і рожкі: [Вершы] // Работніца і сялянка. № 10; Няхай сонца не заходзіць; Яблык: [Вершы] // Звязда. 3 студз.; Першае верасня: Раздзел з паэмы «Жыла на Палессі дзяўчына» // ЛіМ. 3 вер.; Пад снегавым покрывам: [Верш] // Наст. газ. 27 студз.

**1969.** Партрэт Ільіча: [Верш] // У нашых сэрцах Ільіч. Мн.; Жыла на Палессі дзяўчына: [Паэма] // Бярозка. № 3; Салігорскі дождж: [Верш] // Там жа. № 4; Пайшоў кот на каток: [Верш] // Вясёлка. № 12; Свет у захапленні: [Верш] // Звязда. 17 кастр.; Хатынь — Сангмі: [Верш] // ЛіМ. 16 снеж.

**1970.** Лясное возера; Праляцела лета; Сасна; Салігорскі дождж; Случ: [Вершы] // Крынічка. Мн.; Ля Арэсы, ціхае ракі...: [Нарыс] // Слова пра родны кут. Мн.; З новых вершаў: Сферы ўплыву; Жаніха мама знайшла; Сямейны савет // Вожык. № 5; Дзень узорнага абслугоўвання: Гумарэска // ЛіМ. 17 ліп.; Прырода і людзі // Мін. праўда. 25 вер.; Самазвал; Вецер і хмара; Якога колеру рэчка; Нядобры будзільнік: [Вершы] // Наст. газ. 15 жн.; Сельскія студні; Салігорскі шахцёр: [Вершы] // Ніва. 17 кастр.; Калгаснікі ідуць да Ільіча: [Верш] // Сел. газ. 11 янв.; Маміны літары; Сумна: [Вершы] // Там жа. 2 авг.; І зноў будзе любоў: [Верш] // Там жа. 24 окт.

**1971.** Першыя крокі; Ёсць у мяне яблыкі: [Вершы] // Беларусь. № 10; Хлеб; Сонейкі; Унук і дзед; Наш сад; Лось: [Вершы] // Бярозка. № 10; Забалела ножка...; На ракеце; Ладкі: [Вершы] // Вясёлка. № 10; Снягурачка: [Верш] // Там жа. № 12; «Перацярплю любыя мукі...»; Лось: [Вершы] // Маладосць. № 10; Я сама: [Верш] // Работніца і сялянка. № 6; Гушкі, гушкі; Калі б не прачнуўся; Слухае тату; Ліст: [Вершы] // Там жа. № 10; Асеннія замалёўкі: [Вершы] // ЛіМ. 22 кастр.; Касмічны экіпаж; Качыная краіна; Новае плацце: [Вершы] // Мін. праўда. 20 кастр.; Умейце чытаць // Наст. газ. 9 кастр. (Пісьменнік і школа); Размова з Ільічом; Ёсць у мяне яблыкі: [Вершы] // Там жа. 20 кастр.; Як Вароня вучыўся лічыць; Уцякла: [Вершы] // Чырв. змена. 21 кастр.

**1972.** Ручаёк; Дуб і дубок: [Вершы] // Вясёлка. № 3.

**1973.** Яблыня разладу: [Верш] // Вожык. № 12; Праглядзелі: [Верш] // Там жа. № 19.

**1974.** Цягнікі; Дождж з-пад зямлі; Вішня: [Вершы] // Акцябраты. Мн.; Пра мышку і кніжку: [Верш] // Вясёлка. № 3.

**1975.** Хто ўцёк?: [Верш] // Работніца і сялянка. № 8; Ветэраны: [Верш] // Мін. праўда. 7 мая; Прычына строгасці; Апраўдаўся; Зайздроснік у бальніцы: Кароткія гумарэскі // Там жа. 16 жн.

**1976.** Сняжынкі-смяшынкі: [Верш] // Вясёлка. № 1; ...Пісаць больш і цікавей // ЛіМ. 13 лют.

**1977.** Мухамор; Усе працуюць: [Вершы] // Наст. газ. 3 жн.

**1979.** Плыла хмара; Я прыдумаў казку; Абганю: [Вершы] // Наст. газ. 6 ліст.; Пайшоў кот на каток: [Верш] // Ніва. 11 сак.; Пра зорку залатую: [Верш] // Сел. газ. 25 нояб.; Ішла курачка з базару; Сорамна стала; Я ў клетку шпака пасадзіў; Дом, які ўмее граць: [Вершы] // Чырв. змена. 31 кастр.

**1980.** Перад дажджом; Акраец хлеба; Расцвілі сады: [Вершы] // Бярозка. № 8; Снегіры: [Верш] // Вясёлка. № 3; Сястрычка вышывала; У кнігарні; Віўся хмель; Незвычайны ручаёк: [Вершы] // Там жа. № 12; Акраец хлеба; Ён бачыў акіян: [Вершы] // Мін. праўда. 24 жн.

**1981.** Забалела ножка...: [Верш] // Вясёлка. Мн.; Александровна: [Нарыс] // Труд, талант, доблесть. Мн. Ч. 2; Даўно было гэта...: [Верш] // Бярозка. № 10; Не знаю як: [Верш] // Вожык. № 12; Лясныя скарбы; Ішоў Сымон; Абяцала: [Вершы] // Вясёлка. № 10; У кузні; Песня травы і кветак; Бяроза і вішня; Няхай і ён памарыць: [Вершы] // Мін. праўда. 21 кастр.; Сястрычка вышывала; У кнігарні; Віўся хмель: [Вершы] // Ніва. 3 мая; Смеласць і страх; Певень прастудзіўся; Мой Бураціна: [Вершы] // Чырв. змена. 21 кастр.

**1982.** Кроплі; Вясновыя коцікі: [Вершы] // Дзень паэзіі — 82. Мн.; Раніца: [Верш] // Бярозка. № 8; Сняжынкі мак таўкуць: [Верш] // Вясёлка. № 1; Драздзяня і транзістар: [Верш] // Там жа. № 6; Веснавое здарэнне: [Верш] // Наст. газ. 17 ліп.

**1983.** Лясныя скарбы; Веснавое здарэнне; Пра Мышку і кніжку: [Вершы] // Вяснянка. Мн.; Казка пра Мінуту і Анюту: [Казка ў вершах] // Казкі беларускіх пісьменнікаў. Мн.; Дачка ці сын?: [Верш] // Вожык. № 20; Перад сходам: [Верш] // Там жа. № 21; Залатая зорка: [Верш] // Вясёлка. № 9; Снег і хмара: [Верш] // Ніва. 30 студз.; Раніца: [Верш] // Там жа. 24 ліп.

**1984.** Акраец хлеба: [Верш] // Бярозка. Мн.; Адмарозіў лапкі: [Верш] // Дошколятам. Мн.; Два асілкі; Мінскі асілак; Дождж з-пад зямлі; Як сеялі абаранкі; Адмарозіў лапкі; Лясныя дактары; Лічылачка; Пра Мышку і кніжку: [Вершы] // Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.; Забалела ножка: [Верш] // Ніва. 25 сак.; Маё Прыарэссе: [Верш] // Сел. газ. 1 февр.

**1985.** Кенгуру: [Верш] // Вясёлка. № 8.

**1.4.**

**1954.** Л а г о д а В. Песня аб вечнай дружбе: [Верш] / З укр. // Звязда. 10 студз.

**1962.** Х а б і б і. Ленін заўсёды з намі; Ф а т а х Ц. Ода Камуністычнай партыі: [Вершы] / З узб. // Спявае Узбекістан. Мн.

**1966.** Х а б і б і. Ленін заўсёды з намі: [Верш] / З узб. // Сонца ў арыках. Мн.

**1982.** Х а б і б і. Ленін заўсёды з намі: [Верш] / З узб. // Бярозка. № 4.

**1.5.**

**На латышскую мову.** Pārteikšanās / Atdz. J. Osmanis // Bērniba. 1964. Nr 1; Raketē / Atdz. V. Grenkovs // Zilite. 1972. Nr. 4.

**На рускую мову.** Дружная семейка: [Вершы] / Пер. В. Варно. Мн., 1961.

Бежит дорожка: [Вершы] / Пер. Э. Котляр. М., 1968.

Где волшебники живут?: [Вершы і паэма] / Пер. В. Болдырева. М., 1975.

Я сама: [Кніжка-раскладушка аднаго верша]. М., 1977. М., 1981.

Счастье: [Верш] / Пер. П. Волкодаев // Сталин. молодежь. 1950. 6 авг.; Летели скворцы: [Верш] / Пер. Я. Липман // Зорька. 1956. 14 апр.; Как мы сеяли баранки: [Верш] / Пер. Я. Липман // Там жа. 1956. 31 марта; Эхо: [Верш] / Пер. Я. Липман // Там жа. 1958. 11 янв.; Яблоки: [Верш] / Пер. В. Варно // Там жа. 1961. 19 авг.; Рябина: [Верш] / Пер. Я. Липман // Там жа. 1963. 12 окт.; Расти, яблонька!: [Верш] / Пер. В. Болдырева // Комс. знамя. 1965. 17 апр.; Нарядилась вишня: [Верш] / Пер. В. Болдырева // Дет. лит. 1967. № 5; Я сама: [Верш] // Малютка. Симферополь. 1977; Как Василек учил урок:

Самосвал; Радость в лесу: [Вершы] / Пер. В. Болдырева // Земля с лазурными очами. М., 1979.

**На туркменскую мову.** Яз; Йылын ренки: [Вершы] / Терж. К. Нурбадов // Пионер. 1983. № 9.

**На ўкраінскую мову.** Пісня про голуба миру: [Верш] / Пер. О. Жолдак // Жовтень. 1951. № 8; Посмішка Капітона Спиридоновича: Гумореска // Рад. Волинь. 1968. 22 вер.; «Останній хліб на покуті в правлінні...»: [Верш] / Пер. О. Юрченко // Юрченко О. Тройзілля. Харків. 1970; Сфери впливу; Сімейна рада; Поталанило: [Вершы] / Пер. С. Вігучин // Сіл. вісті. 1971. 17 груд.; Зимове літо: [Верш] / Пер. П. Горецький; Вишня: [Верш] / Пер. В. Скоморовський // Лісова колиска. К., 1979; Зірка. 1979. 2 серп.; Два богатирі: [Верш] / Пер. С. Жупанин // Молодь Закарпаття. 1982. 4 груд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а к у н о в і ч В. Проба голасу // ЛіМ. 1956. 24 сак.; Б е л а р у с к а я дзіцячая літаратура. Мн., 1980. С. 119—120; В о л ь с к і А. Каб пісаць для дзяцей... // ЛіМ. 1981. 23 кастр.; Д а н і л е в і ч Л. На ўсё жыццё // Наст. газ. 1971. 20 кастр.; І в а н у Муравейка — 50 гадоў // ЛіМ. 1971. 22 кастр.; І в а н у Муравейка — 60 // Там жа. 1981. 23 кастр.; К у д р а ў ц а ў І. Першыя сляды // Полымя. 1956. № 1; М а р ц і н о в і ч А. Павышаць паэтычнае майстэрства // Калг. праўда. 1951. 10 студз.; М і х а л ь ч у к С. Шчаслівы дар // Работніца і сялянка. 1971. № 10; П а ў л ю к о ў с к і І. Малы бярэ кнігу... // ЛіМ. 1961. 14 лют.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

**На рускай мове.** Г у р е в и ч Э. Детская литература Белоруссии. М., 1982. С. 214—215; Е с а к о в А. Первые книжки молодых поэтов // Сов. Бел. 1956. 8 янв.; Л и т в и н о в Р. Поэзия детства и доброты // Дет. лит. 1982. № 9; М о р о з о в В. О стихах для маленьких // Сов. Отчизна. 1959. № 2.

*У. М. Ларчанка.*

# МУРАШКА РЫГОР



*Мурашка Рыгор Данілавіч [псеўд. Р э м; 3(16).2.1902, в. Бязверхавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.— красавік 1944], празаік, крытык.*

З бедных сялян. Вучыцца пачаў з шасці гадоў. Скончыў народную школу, потым — двухкласную валасную школу (1916). У 1917—18 вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, але не скончыў «з прычыны акупавання мясцовасці белапалякамі і зачынення семінарыі, якую яны звалі «пралетарскім вучэбным завядзеннем». У 1919—20 удзельнічаў у барацьбе з польскімі войскамі на Случчыне. У 1920 скончыў інструктарскія курсы пры Наркамаце ўнутраных спраў Беларусі і працаваў інструктарам Слуцкага павятовага ваенрэўкома. Служыў у Чырвонай Арміі (1920—21, 1924—26). У 1921—24 на савецкай і партыйнай рабоце. Член літаратурна-мастацкай арганізацыі «Маладняк». Быў адказным сакратаром часопіса «Бальшавік Беларусі» (1926—29), загадваў аддзелам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР (1930—33). У гады Вялікай Айчыннай вайны — удзельнік Мінскага падполля, з восені 1943 — партызан. Загінуў у час прарыву партызанскай блакады на Лагойшчыне.

Першае апавяданне «Папоўскі шлюб» апублікаваў у 1924 у газеце «Савецкая Беларусь». Аўтар зборнікаў апавяданняў «Стрэл начны ў лесе», «Прыгранічны манастыр», «Званкі», «Рузікі», «Мюдаўская ноч», аповесці «У іхнім доме», раманаў «Сын», «Салаўі святога Палікара» (напісаны ў 1940, апублікаваны ў 1967). Вядучая тэма творчасці — выспяванне свядомасці рабочых у часы рэвалюцыі 1905—07, жыццё беларускай вёскі 30-х гадоў. У гады акупацыі напісаў раманы «Насупераk лёсу» і «Таварышы» («Полымя». 1993. № 6, 7), апавяданне «Смерць маткі» (друкавалася ў лагойскай падпольнай газеце «За Савецкую Беларусь»), антыгітлераўскі фельетон.

*І. П. Чыгрын.*

1.2.

Стрэл начны ў лесе: Апавяданні. Мн., 1926. Рэц.: Аліч [Аляховіч] // Маладняк. 1926. № 10; Астаповіч. «Ты вечна новая, вечна свежая» // Чырв. сейбіт. 1926. № 5.

Сын: Раман. Мн., 1929. Рэц.: Fr. Hr [yškěvič] // Slovanský přehled. 1931. Т. 23. 2 выд. Мн., 1933. 3 выд. Мн., 1957.

У іхным доме: Аповесць. Мн., 1929. Рэц.: А. К. // Маладняк. 1929. № 1; Кабакоў Н. Пра пісьменнікаў і іх творы // Кам. выхаванне. 1930. № 2.

Прыгранічны манастыр: Апавяданні. Мн., 1930. (Мастацкае слова — масам). Рэц.: Сядура У. // Маладняк. 1930. № 8—9.

Тысяча дзевяцьсот пяты: Урыўкі з рамана «Сын». Мн., 1930. Рэц.: Кабакоў Н. // Маладняк. 1930. № 6—7.

Званкі: Апавяданні. Мн., 1931.

Рузікі: Апавяданні. Мн., 1932. (Б-ка для малапісьменных).

Мюдаўская ноч: Апавяданні. Мн., 1934. Рэц.: Скрыган Я. Майстар сюжэтнай займальнасці // ЛіМ. 1934. 7 жн.

Бацька Башэнка: Запіскі Тарашчанца. Мн., 1935 / Сааўт. Н. Гарніч.

Дарога ў свет: (З рамана «Сын»). Мн., 1941.

Салаўі святога Палікара: Раман. Мн., 1967.

1.3.

**1924.** Паноўскі шлюб: Малюнак з натуры // Сав. Бел. 19 снеж.

**1925.** Зноў я тут: [Верш] // Полымя. № 8; У глушы вясковай: Апавяданне // Сав. Бел. 31 сак.; 1, 2 крас.; Дзіўна ці не?: [Фельетон] // Там жа. 31 мая; Бросня вясновая: Апавяданне // Там жа. 3,4,6,8 ліп.; Янка ў адпачынку; Жыццёвы малюнак // Там жа. 15 ліп.; Каваль Максім: Апавяданне // Там жа. 22, 24 ліп.; Хіба празаік піша вершы?: Гумар // Там жа. 15 ліст.; Стары бальшавік: [Верш] // Там жа. 22 снеж.; Стрэл начны ў лесе: [Абразок] // Там жа. 31 снеж.

**1926.** Катрыншчык: Апавяданне // Маладняк. № 7—8; Два і адна: Апавяданне; Стары бальшавік (Партрэт): [Верш] // Маладняк Барысаўшчыны. № 1; Шлёмка-пернічнік: [Апавяданне] // Полымя. № 2; Пытанні: Апавяданне // Там жа. № 8; Акцябрыны: Апавяданне // Сав. Бел. 19, 21 студз.; Забыты шлём; Наспеўшае пытанне: [Замалёўкі] // Там жа. 31 студз.; Пасвянціў: Абразок // Там жа. 1 мая.

**1927.** Каваль Максім: [Апавяданне] // Да дню вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Мн.; Яйцо і слівы: Апавяданне // Маладняк. № 1; Пасвянціў: [Апавяданне] // Камуніст. 22 крас.

**1928.** Прыгранічны манастыр: Апавяданне // Маладняк. № 1; У іхнім доме: Аповесць // Там жа. № 2—6; Вінчэсцер: Апавяданне // Там жа. № 12; Чыя справа робіцца на Случчыне: [Нарыс] // Сав. Бел. 18, 19 ліп. / Пад псеўд. Рэм; Сацыял-дэмакрат: Урывак з рамана «Сын» // Чырв. змена. 18 крас.; Ракі ў кратох: Урывак з рамана «Сын» // Там жа. 12, 30 снеж.

**1929.** На новы радок: Апавяданне // Маладняк. № 2; Дык дзе ж зямля? (Па раману К. Чорнага «Зямля») // Там жа. № 3; Пахі зямлі: Урывак з рамана «Сын» // Там жа. № 5—6; Гутарка з карэспандэнтам «Маладняка» // Там жа. № 7; На бровары: Урывак з рамана «Сын»; На новым этапе // Віцеб. пралетарый. 12 ліст.; Памяці тав. П. Труса // Сав. Бел. 3 вер.; За цесную сувязь літаратурных атрадаў Савецкага Саюза // Там жа. 22 вер.; Новыя «откровения» Зарэцкага // Там жа. 26 кастр.

**1930.** З-пад пласту гадоў: Апавяданне // Маладняк. № 6—7; Званкі: Апавяданне // Чырв. Бел. № 6; Закапаны пуп: Апавяданне // Там жа. № 12; На хлебазаводзе «Нашы дакументы правяралі ўважліва» // Палес. праўда. 14 кастр. / У сааўт.; Навокал забойства, ці Шарлок Холмс і акалодачны: [Урывак з рамана «Сын»] // Сав. Бел. 12 студз.

**1931.** Каваль Максім: [Апавяданне] // Рытмы Перамогі. Мн.; На паўтаратонцы з «Амерыканкай»: (З падарожнага блакнота): Нарыс // Маладняк. № 10, 11; О борьбе с национал-демократическими рыцарями в литературе // На литературном посту. № 2; Барацьба з нацыянал-дэмакратычнымі рыцарамі ў літаратуры // Чырв. Бел. № 2; Рузікі: Апавяданне // Там жа. № 14; Заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру // Рабселькор. 13 лют.

**1932.** Часопіс «Маладняк» за 1931 г.: (Да вынікаў творчага агляду часопіса ў дыскусіі БелАПП) // Кніга масам. № 2—3; Сын: Кінааповесць // Полымя. № 1—4; Ці баяздольны часопіс «Маладняк»?: [Выступленне] // ЛіМ. 21 крас.

**1933.** З-пад напласту гадоў: [Апавяданне] // 11 ліпеня. Мн.; Мюдаўская ноч: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 12; Бойка ў горадзе: Урывак з кінааповесці «Сын» // Чырв. Бел. № 4; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. // ЛіМ. 18 студз.

**1934.** Мюдаўская ноч: [Апавяданне] // Бальшавіцкая моладзь. Мн., Свае-чужыя: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 4; На катарзе акопнай: Апавяданне // Там жа. № 10; З-пад напласту гадоў: [Успаміны] // Віцеб. пралетарый. 11 ліп.; Людзі вясны: Урывак з аповесці «Палітаддзел» // Там жа. 20 ліп.; Браты і ворагі: З апавядання «На катарзе акопнай» // Там жа. 1 жн.; «Сабірайцеся таварышы, па ко-ня-х...»: [Верш] // Там жа. 2 кастр.; Думкі аб з'ездзе // Звязда. 9 вер.; На шляху да вялікай літаратуры // ЛіМ. 6 крас.; Два браты: Урывак з апавядання «Свае-чужыя» // Там жа. 6 мая; Пытанні тэорыі і практыкі // Там жа. 30 чэрв.; Пісьменнік у бібліятэцы // Там жа. 10 ліп. / Пад псеўд. Рэм; На катарзе акопнай: Апавяданне / Там жа. 7, 13 жн.; Пад знакам творчага росту: (Віцебская арганізацыя ССПБ) // Там жа. 13 жн.; Вялікая адзнака выдатнай эпохі // Там жа. 18 жн.; Выхаваем новых мастакоў бальшавіцкага слова// Там жа. 12 кастр. / Пад псеўд. Рэм; Вялікі скептык з вілы Саід: 1924—1934 // Там жа. 24 кастр.; Літаратурная газета КІЖ'а // Там жа. 15 ліст. / Пад псеўд. Рэм.

**1935.** Свае-чужыя: [Апавяданне] // Атака: Альманах. Мн.; Узброеная нянавісць: З дзённіка слуцкага падпольшчыка // Полымя рэвалюцыі. № 8; ЛіМ. 30 вер.; Крывавымі літарамі: Урывак з рамана «Сын» // Звязда. 2 ліст.; Царскі маніфест: Урывак з рамана «Сын» // ЛіМ. 23 снеж.

**1936.** Партрэт: Эцюд // ЛіМ. 22 сак.

**1937.** Цішча: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 11.

**1938.** Пад трыма шкурамі: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 9; Пётр Васільевіч Сарокін // ЛіМ. 11 чэрв.; Першыя крокі ў літаратуру // Там жа. 16 ліп.; А. А. Дэльвіг // Там жа. 22 жн.; Пісьменнікбарацьбіт // Там жа. 30 жн.; Літаратурныя парасткі // Там жа. 30 кастр.; «Полымя рэвалюцыі» № 7—9 // Там жа. 27 ліст.; Габінет маладога аўтара // Чырв. змена. 23 ліст.

**1939.** Яніна: Урывак з рамана «Салаўі святога Палікара» // ЛіМ. 23 чэрв.; Удалы дэбют маладога пісьменніка // ЛіМ. 23 жн.; Надуманае, фальшывае апавяданне // Там жа. 3 вер.; Праз дваццаць год // Там жа. 21 вер.; Малая проза// Там жа. 5 ліст.; Пра творчасць юных аўтараў: (Агляд пісем) // Піянер Бел. 5 мая.

**1940.** Салаўі святога Палікара: Раман // Полымя рэвалюцыі. № 3—5. Рэц.: Герцовіч Я. За подлинную правду жизни // Сов. Бел. 22 нояб.; Дворкіна Ю. Раман Р. Мурашкі «Салаўі святога Палікара» // ЛіМ. 1940. 28 снеж.; Кучар А. «Салаўі святога Палікара» Р. Мурашкі // Там жа. 1940. 31 жн.; [Рэц. на кн.: Рунец П. Юныя змагары. Мн., 1940] // Полымя рэвалюцыі. № 7; Салдат, вучоны, слесар і смерць: Казка // Там жа. № 11; Пра «карову, свіней і іншую хатнюю птушку» // ЛіМ. 3 лют.; Казка-праўда // Там жа. 10 жн.; Два зборнікі апавяданняў // Там жа. 24 жн.; Экзамен на майстэрства: (Некалькі думак пра жывапіс) // Там жа. 16 ліст.; Надыходзіць вясна: Агляд пісем, дасланых у рэдакцыю // Піянер Бел. 11 крас.; «Дзе заходзіла сонца» // Чырв. змена. 1 студз.

**1941.** Школьная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў // Полымя. № 2; Стварыць беларускі літаратурны музей // ЛіМ. 18 студз. / У сааўт.

**1960.** Партрэт лакея // Голас Радзімы. № 59, 60.

**1965.** Уласнажыццёпіс // Беларусь. № 8.

**1966.** Уласны жыццёпіс // Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн.

**1967.** Прыгранічны манастыр: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн., Т. 1.

**1970.** Партрэты лакеяў // На задворках. Мн.

**1979.** Маёўка: [Урывак з рамана «Сын»] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

**1.4.**

**1934.** Курдзін Д. Кроў: Урывак з п'есы «Азеляненне цэха» / З рус. // ЛіМ. 31 кастр.

**1941.** Зошчанка М. Як Леніну сяляне прыслалі дроў / З рус. // Іскры Ільіча. № 1.

**1.5.**

**На польскую мову.** Pawluk Trus // Orka. 1929. 5 wrześ. / У сааўт.

**На рускую мову.** Соловьи святого Поликара: Роман / Пер. Л. Соловей. Мн., 1970. Рэц.: Мушинский М. Схватка в Поликарповке // Неман. 1971. № 4.

Сын: Роман / Пер. Л. Соловей. Мн., 1973. (Белорус. роман). Рэц.: Лавшук С. Во имя будущего // Неман. 1974. № 8.

Винчестер: Рассказ / Пер. Ф. Павловский // Рабочий. 1929. 22 окт.; Свои-чужие: [Апавяданне] / Пер. Я. Скриган // Антология белорусской литературы. М., 1934; Винчестер: [Апавяданне] / Пер. Н. Макаев // Проза Советской Белоруссии. Смоленск, 1935.

**На ўкраінскую мову.** Боротьба проти націонал-демократичних лицарів у білоруськіі літературі // Молодняк. 1931. № 2.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Алёшкін Б. Яго кнігі з намі: Да 60-годдзя з дня нараджэння Р. Мурашкі // ЛіМ. 1962. 16 лют.; Аляхновіч М. Маладняк // Маладняк Барысаўшчыны. 1926. № 1; Яго ж. На аванпостах пралетарскай літаратуры: (1920—1930) // Маладняк. 1930. № 6—7; Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць. Мн., 1971. С. 57—61, 81—82, 194—199; Бугаёў Д. Старонкі адной біяграфіі // Беларусь. 1965. № 8; Бэндэ Л. На літаратурным фронце // Чырв. змена. 1929. 15 вер.; Гарэцкі М. «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928 // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. Мн., 1984; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1964. Т. 1. С. 64; Гусак С. Пафас праўды. Мн., 1973. С. 88—90; Дворкіна Ю. Беларуская проза за 1940 год // Полымя. 1941. № 3; Жураўлёў В. Структура твора. Мн., 1978. С. 193—195, 198; З лёсам бацькаўшчыны // Беларусь. 1972. № 2; Каваленка В. У працэсе станаўлення // Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы. Мн., 1972. С. 131—132, 179—182; Карабан С. Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971. С. 98—99; Кіркевіч А. Рыгор Мурашка: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Гродзен. праўда. 1962. 18 лют.; Клімковіч М. Да першага пленуму аргкамітэту ССПБ // Звязда. 1933. 21 лют.; Кучар А. Заўвагі пра раман Р. Мурашкі «Сын» // Полымя. 1930. № 4; Л. «Полымя рэвалюцыі», кніга 4-я за 1934 г. // ЛіМ. 1934. 26 ліп.; Мушынскі М. У пошуках шляху: Да 70-годдзя з дня нараджэння Рыгора Мурашкі // Там жа. 1972. 3 сак.; Навумовіч У. Вернасць праўдзе жыцця // Чырв. змена. 1972. 16 сак.; Яго ж. Шляхамі арлянят: (Проза «Маладняка»). Мн., 1984. С. 156—165, 171—172; Перкін Н. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг.: Праблемы сацыялістычнага рэалізму. Мн., 1960. С. 284—285; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Піятуховіч М. Асноўныя этапы ў развіцці беларускай літаратуры пасляkастрычніцкага перыяду // Полымя рэвалюцыі. 1933. № 1; Пшыркоў Ю. Раман аб рэвалюцыйнай барацьбе народа // ЛіМ. 1956. 16 вер.; Яго ж. Раман Р. Мурашкі «Сын» // Мурашка Р. Сын. Мн., 1957; Румянцава В. «Пан інспектар»: З успамінаў пра Рыгора Мурашку // ЛіМ. 1968. 30 студз.; Строева Т. Рыгор Мурашка // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985; Фомчанка А. Святло яго жыцця // Вяч. Мінск. 1970. 14 сак.; Хведаровіч М. Рыгор Мурашка // Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы. 2 выд., дап. Мн., 1963; Хромчанка К. За шчасце зямное. Мн., 1966. С. 54—55; Шушкевіч С. Яго гартавалі навальніцы // ЛіМ. 1977. 18 лют.

**На рускай мове.** Герцович Я. За подлинную правду жизни // Сов. Бел. 1940. 22 нояб.; Климкович М. Белорусская проза за 1940 год // Там жа. 1941. 16 апр.; Пширков Ю. Один из первопроходцев // Мурашко Р. Сын. Мн., 1973.

**2.4.**

**На беларускай мове.** Алёша [Вольны А.] Рыгор Мурашка: Гумарэска // Чырв. Бел. 1931. № 13.

*В. М. Грышкевіч.*

## МУРЗО СЯРГЕЙ



*Мурзо Сяргей [1912, Віцебшчына (?)— 1937 (?)], паэт.*

Біяграфічныя звесткі пра С. Мурзо вельмі скупыя. Працаваў токарам на Віцебскім станкабудаўнічым заводзе «Камінтэрн» (да 1930). Скончыў Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут (1934). Быў членам Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Верагодна, быў рэпрэсіраваны і загінуў у 2-й палове 1930-х гадоў.

Друкаваўся з 1929, але публікацыі гэтага года не выяўлены. Па тыпу творчасці належаў да так званых тады паэтаў-ударнікаў, асноўнай тэмай якіх было ўслаўленне працы рабочага, а галоўнымі паэтычнымі рэаліямі станавіліся завод, варштат, элементы вытворчага працэсу (верш «Ля сталёвых бліскучых станін»). У вершы «Вясна ў ліцейнай» і інш. імкнуўся спалучаць лірычнае светаўспрыняцце з «машыннай» тэматыкай. Пакуль што вядома толькі частка літаратурнай спадчыны С. Мурзо.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1930.** Ля сталёвых бліскучых станін; Вясна ў ліцейнай; З цыкла «Дарога»; Вечар: [Вершы] // Рытмы будавання. Віцебск; Увечар: [Верш] // Віцеб. пралетарый. 21 крас.; Кніжная паліца: [Рэц. на кн.: Александровіч А. Цені на сонцы. Мн., 1930]; Ля сталёвых бліскучых станін...: [Верш] // Там жа. 23 жн.

*М. П. Барташэвіч.*


# МУШЫНСКІ МІХАСЬ



*Мушынскі Міхась (Міхаіл Іосіфавіч; н. 24.1.1931, в. Мокрае Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.), літаратуразнавец, тэкстолаг, літаратурны крытык. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1991). Доктар філалагічных навук (1978). Член СП Беларусі з 1973. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа [1980, за ўдзел у стварэнні «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры (на рус. мове)].*

Нарадзіўся ў сям'і служачага-чыгуначніка. У 1938 паступіў у Макранскую СШ. У час Вялікай Айчыннай вайны пражываў з маці ў в. Мокрае. Бацька з ліпеня 1941 да 1946 працаваў у г. Ніжні Тагіл Свярдлоўскай вобл. на ваенным заводзе, потым — дыспетчарам на станцыі Магілёў. Пасля вайны М. Мушынскі працягваў вучобу ў Макранскай школе. У 1948 здаў экстэрнам экзамены за 8 класаў і перайшоў у Быхаўскую СШ № 1, якую скончыў з медалём у 1950. У 1950 паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Скончыўшы універсітэт у 1955, да лістапада 1956 працаваў рэдактарам выдавецтва БДУ. З 1956 навуковы супрацоўнік, з 1964 старшы навуковы супрацоўнік, з 1979 загадчык сектара (цяпер аддзела) выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі. Узнагароджаны медалём.

Выступае ў друку ў жанры крытыкі і літаратуразнаўства з 1955. Даследуе жыццё і творчасць Я. Коласа (манаграфія «Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі»; дакументальная кніга «Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці»), вывучае гісторыка-літаратурны працэс, развіццё беларускай мастацкай прозы, тэарэтычныя і метадалагічныя аспекты станаўлення беларускай крытычнай і навуковай думкі. Манаграфіі М. Мушынскага «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады» (адзначана бронзавым медалём ВДНГ СССР), «Беларускае савецкае літаратуразнаўства», «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40 — першая палавіна 60-х гадоў», «Каардынаты пошукаў» асвятляюць гісторыю беларускай літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства, дзе выяўлены іх вядучыя тэндэнцыі і ўнутраныя заканамернасці, раскрыта роля крытычнай думкі і літаратурнай навукі ў барацьбе за сцвярджэнне прынцыпаў рэалізму, народнасці, гуманізму, агульначалавечых каштоўнасцей. Паказана і негатыўная роля крытыкі ў літаратурным працэсе, асабліва 30 — 1-й

фольклора и методы их изучения. Гомель, 1985. Ч. 2; Савик Л. Память суровых дорог // Сел. газ. 1985. 16 февр.; Сапожков Ю. Верность семнадцатой весне // Сов. Бел. 1975. 16 февр.; Семенова А. Заметки о рассказах // Неман. 1967. № 6; Синенко Г. Духовные наследники Октября // Великий Октябрь и художественная литература. Мн., 1977; Яго ж. Жанровое и стилевое многообразие современной советской литературы (поэзия, проза) // Современные проблемы советской литературы. Мн., 1980; Тычина М. Народ и война. Мн., 1985. С. 258—262; Хромченко К. Летописец своего поколения // Заря. 1975. 15 февр.; Шамякин И. Твое поколение // ЛГ. 1977. 13 июля; Юревич В. Возвращение в юность // Юревич В. Испытание зрелостью. М., 1981.

**На славацкай мове.** Židlický V. Co zaznamenala Pamät srdca // Navumenka I. Návrat do mladosti. Košice, 1985.

**На чэшскай мове.** Židlický V. Ivan Navumenka // Současná sovětské literatura. III Ukrajinská a běloruská. Prahá, 1968.

2.4.

**На беларускай мове.** Верамейчык У. Урочышча Нехарань: [Верш] // ЛіМ. 1982. 18 чэрв.; Губернатарау М. Юбіляру: [Верш] // Наст. газ. 1975. 15 лют.; Жычка Х. Акадэмік ідзе ў грыбы: [Верш] // ЛіМ. 1983. 16 вер.

*М. П. Барташэвіч.*

# НАВУМОВІЧ УЛАДЗІМІР



**Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч (н. 29.10.1943, в. Баўцічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.), літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1974).**

Нарадзіўся ў сям'і служачых. Маці, Марыя Гаўрылаўна, 30 гадоў працавала настаўніцай. Бацька, Аляксандр Раманавіч, працаваў будаўніком у роднай вёсцы; быў партызанам, удзельнічаў у баях за вызваленне Венгрыі, Югаславіі, перамогу сустрэў у Альпах (яму прысвечана дакументальная аповесць У. Навумовіча «Бацькаў сад», змешчаная ў карэліцкай раённай газеце «Полымя», 1985). У. Навумовіч вучыўся ў Скорыцкай сямігодцы (1950—57), Ярэміцкай сярэдняй школе (1957—60), працаваў настаўнікам у Беражэнскай васьмігадовай школе (1960—61). У 1961—66 — студэнт аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Пасля заканчэння універсітэта на камсамольскай рабоце ў Мінску: загадчык аргаддзела Ленінскага райкома ЛКСМБ (1965—66), загадчык сектара культмасавай работы Мінскага абкома ЛКСМБ (1966—69), лектар ЦК ЛКСМБ (1969—70). У 1970—73 — аспірант кафедры беларускай літаратуры БДУ. Абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Проза «Маладняка» (1974). З 1973 выкладчык, з 1981 дацэнт гэтай жа кафедры. З 1991 узначальвае міжнародную летнюю школу беларусістаў пры БДУ.

Першае апавяданне У. Навумовіча «Навырост» змешчана ў 1964 у навагрудскай раённай газеце «Новае жыццё», у тым жа годзе дэбютаваў у рэспубліканскім друку («Чырвоная змена»). Даследуе пытанні развіцця і перспектыўныя тэндэнцыі беларускай прозы 20-х гадоў, праблемы творчасці беларускіх пісьменнікаў, членаў літаб'яднання «Маладняк». Выдаў манаграфію «Шляхамі арлянят: Проза «Маладняка». Займаецца вывучэннем маральна-этычнай праблематыкі сучаснай беларускай прозы. Распрацаваў і вядзе спецсемінар для студэнтаў «Канцэпцыя чалавека ў беларускай савецкай прозе (маральна-этычныя асновы нацыянальнага характару)». Складальнік зборніка «Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур».

Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Проза «Маладняка»: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1974.

Такое бывае аднойчы: Аповесць. Мн., 1982. (Першая кніга празаіка). Рэц.: Васючэнка П. Флірт без адрыву ад вытворчасці // ЛіМ. 1983. 24 чэрв.; Нікішын М. Ля вытокаў сталасці // Чырв. змена. 1983. 15 сак.; Погорелов С., Титенков М.

Такими они были // Знамя юности. 1983. 27 апр.
Шляхамі арлянят: Проза «Маладняка». Мн., 1984. Рэц.: У л ь я н к о Н. Революцией открытыми путями // Гродн. правда. 1985. 23 апр.

1.3.

**1964.** На скразняку: Апавяданне // Чырв. змена. 28 кастр.

**1965.** Другое нараджэнне // ЛіМ. 13 кастр.

**1968.** Узаранае поле: Старонкі роздуму // Маладосць. № 10.

**1970.** З Лукомльскага сшытка: [Апавяданні] // Маладосць. № 11.

**1971.** Попел на сэрцы: Апавяданне // Маладосць. № 2.

**1972.** Атеистическое содержание прозы молодых белорусских писателей 20-х годов // Атеистическое воспитание молодежи. Мн.; З клопатам аб маладой змене // Народныя песняры. Мн.; Романтическая эпопея: [Рэц. на кн.: З а р е ц к и й М. Стежки-дорожки. Мн., 1971] // Неман. № 2; З кагорты маладнякоўцаў: 70 год з дня нараджэння С. Хурсіка // ЛіМ. 10 сак.; Вернасць праўдзе жыцця // Чырв. змена. 16 сак.

**1973.** Крылатае племя // Чырв. змена. 28 ліст.

**1975.** Неабходнасць героя // ЛіМ. 4 кастр.

**1977.** Талент яркі, непаўторны // Чырв. змена. 4 жн.

**1978.** Маладыя гады аднаўлення // Маладосць. № 6.

**1979.** З рамантыкай рэвалюцыі ў сэрцы // Святло яго душы. Мн.; Маладыя гады абнаўлення: Успаміны // Маладосць. № 6; Найбольш поўны // ЛіМ. 8 чэрв.

**1980.** Поезд в завтрашний день // Знамя юности. 18 сент.

**1981.** Духоўны бацька «Маладняка»: Янка Купала і «Маладняк» // Песні беларускай валадар. Мн.; З днём заўтрашнім // Маладосць. № 5; Поплеч з арлянятамі // Там жа. № 10; Старонкі пра выдатнага празаіка: [Рэц. на кн.: К а з е к а Я. Кузьма Чорны: Старонкі творчасці. Мн., 1980] // Полымя. № 6.

**1982.** Перспектыўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай савецкай прозы 20-х гадоў XX стагоддзя // Актуальныя праблемы грамадскіх навук. Мн.; На шырокую дарогу: (Якуб Колас і «Маладняк») // З глыбінь народных. Мн.; Маральна-этычныя асновы характару сялянскага тыпажу і свет кахання ў трылогіі Я. Коласа «На ростанях» // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн.; На шырокую дарогу // Маладосць. № 5; Запрашаем у Вязынку! // ЛіМ. 14 мая.

**1983.** Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур // Веснік БДУ. Сер. 4. № 1.

**1984.** Быть голосом собственной совести: О положительном герое современной белорусской прозы // Коммунист Бел. № 11; Гражданином быть обязан // Сов. Бел. 7 сент.

**1985.** Партызанскае братэрства: Апавяданне // Беларусь. № 11.

1.5.

**На рускую мову.** Снова в Хатыни: [Апавяданне] / Пер. Б. Мескин // Смена. 1972. № 20.

**На украінскую мову.** З «Лукомльського зошита»: Земляки; Новий комсорг; Бригада семи Василів; Нөволукомлянин / Пер. Г. Вігурська // Сузір'я. К., 1972. Вип. 6; Бригада семи Василів: [Навела] / Пер. Г. Вігурська // Друг читача. 1972. 4 січ.; З «Лукомльського зошита»: Земляки; Новий комсорг / Пер. Г. Вігурська // Сузір'я. К., 1976. Вып. 10.

1.6.

Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн., 1982 / Скл.

2.3.

**На беларускай мове.** Ш а м я к і н а Т. У імкненні да ідэалу // Полымя. 1983. № 7. *В. М. Грышкевіч.*

# НАГРОДСКІ ЗЫГМУНТ



***Нагродскі Зыгмунт Вікенцьевіч (1866, в. Зулова Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Швянчонскі р-н, Літва — 25.3.1937, Вільня), беларускі культурны дзеяч, паэт.***

З сям'і арандатара, які працаваў у бацькоў польскага дзяржаўнага дзеяча Ю. Пілсудскага. З. Нагродскі меў уласны склад-краму сельскагаспадарчых машын у Вільні (вул. Завальная, 11). Праводзіў культурна-асветную работу сярод віленскіх рамеснікаў. У 1893 пазнаёміўся з «Дудкай беларускай» Ф. Багушэвіча. З яе нелегальнага распаўсюджвання распачаў актыўную прапаганду твораў беларускіх пісьменнікаў сярод сялян, што наведвалі яго склад-краму. У 1896 ахвяраваў сродкі на другое выданне «Дудкі беларускай» у Кракаве. Асабістае знаёмства З. Нагродскага з Ф. Багушэвічам, які працаваў у Вільні адвакатам судовай палаты, перайшло ў шчырае сяброўства. У 1898—1900 З. Нагродскі неаднойчы наведваў Ф. Багушэвіча ў Кушлянах (цяпер Смаргонскі р-н),

перапісваўся з ім, даваў тэмы для апавяданняў з беларускага сялянскага побыту («Сведка», «Дзядзіна» і інш.). Калі Ф. Багушэвіч памёр, З. Нагродскі арганізаваў дэлегацыю рамеснікаў, якія прыехалі ў Жупраны (цяпер Ашмянскі р-н) на пахаванне паэта (17(30).4.1900) з вянком, перавязаным беларускім ручніком з надпісам: «Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы». На смерць Ф. Багушэвіча напісаў верш «На памяць зычліваму для сям'і». У 1901 нейкі час быў пад арыштам у пецярбургскім астрозе, дзе напісаў верш «Да жонкі маёй у Вільні». Далучаўся да беларускага адраджэнскага руху, у цяжкія моманты матэрыяльна падтрымліваў выданне «Нашай нівы», удзельнічаў у віленскіх літаратурных вечарах, на якіх, пераапрануўшыся ў сялянскую світку, дэкламаваў вершы беларускіх аўтараў. У верасні 1899 выступіў з вершаванай прамовай «Пастароньцесь, мае братцы...» на адкрыцці памятнага каменя ў Барэйкаўшчыне (каля Вільні), пастаўленага ў гонар У. Сыракомлі. У 1920-я гады на ўласныя сродкі стварыў «Народнае выдавецтва», якое выпускала танныя кніжкі для масавага чытання, у іх ліку «Гутаркі і песенькі» У. Сыракомлі (1929). Арыентаваўся на традыцыі літаратуры Беларусі 19 ст. Сустракаўся з А. Луцкевічам і М. Танкам.

Адзін з буйных твораў З. Нагродскага — двухмоўная (беларуска-польская) п'еса «На каляды», напісана на беларускім фальклорна-этнаграфічным матэрыяле з падзагалоўкам «Народны абразок з ваколіц Зулова з 1876 года» (пастаўлена ў Вільні ў 1936, захавалася ў рукапісе ў ЦБ АН Літвы). У творах і ў грамадскай дзейнасці З. Нагродскі быў перакананым дэмакратам-асветнікам і гарачым прыхільнікам дружбы беларускага і польскага народаў. *У. І. Мархель.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Skład maszyn i narzędzi rolniczych, nasion i nawozów sztucznych. Wilno, 1928.

Ze wspomnień oświatowca. Wilno, 1929.

O maszynach do szycia. Wilno, [1930].

Moje wspomnienie i rozważania z powodu budowy pomnika Montwiłłowi. Wilno, 1931.

Wyprawa wileńska roku 1919 we wspomnieniach cywila. Wilno, 1933.

Rola duchowieństwa katolickiego w godzinie prób i cierpień na terenie Litwy i Białejrusi: (1863—1883). Wilno, 1935.

**1.3.**

**1928.** Kilka nieuporządkowanych wspomnień z lat przeszłych // Wilno — Legiony. Wilno.

**1971.** На памяць зычліваму для сям'і: [Урывак з верша] // Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Мн.

**1977.** З успамінаў пляменніцы паэта Ю. Радзевіч і З. Нагродскага // Пачынальнікі. Мн.

**1978.** На памяць зычліваму для сям'і; «Пастароньцесь, мае братцы...»: [Вершы] // Помнікі гіст. і культ. Бел. № 2.

**1982.** «Пастароньцесь, мае братцы...»; На памяць зычліваму для сям'і: [Вершы] // Рагойша В. Кантакты. Мн.

**1988.** Нашым ён быў братам...; На памяць зычліваму для сям'і: [Вершы] // Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Мн.

**2.3.**

**На беларускай мове. Глядзельнік.** «На каляды»: (Народны абразок з беларускага жыцця з ваколіц Зулава) // Бел. фронт. 1936. 5 ліп.; Луцкевіч А. Жыццё і творчасць Фр. Багушэвіча ў успамінах яго сучаснікаў // Запісы БНТ. 1938. Сш. 1; Мальдзіс А. Сярод віленскіх рукапісаў // ЛіМ. 1971. 16 ліп.; Рагойша В. Зыгмунт Нагродскі і яго вершы // Рагойша В. Кантакты. Мн., 1982; Св. п. Зыгмунт Нагродскі: (Замест некралогу) // Калоссе. 1937. № 2; Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мн., 1971. С. 46—58; Содаль У. Зыгмунт Нагродскі — сябар Ф. Багушэвіча // ЛіМ. 1976. 30 студз.; Яго ж. Людзьмі звацца. Мн., 1977. С. 41—45; Танк М. Лісткі календара // Танк М. Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1967. Т. 4.

**На польскай мове. Archiwista.** Nie dynaści, lecz pompadury: (W odpowiedzi p. Z. Nagrodzkiemu) // Prz. Wileński. 1936. Nr 5; **Archiwista.** W odpowiedzi p. Zygmuntowi Nagrodzkiemu // Prz. Wileński. 1937. Nr 1; Hass L. Nagrodzki Zygmunt // Polski Słownik Biograficzny. T. XXII/3. Z. 94; Huszcza J. Poeta Białej Rusi // Huszcza J. Opowieści w czarnych ramkach. Łódź, 1979; Łuckiewicz A. Zygmunt Nagrodzki: (Wspomnienie pośmiertne) // Prz. Wileński. 1937. Nr 4; Życka C. Krótki rys dziejów tajnej oświaty polskiej na ziemi Wileńskiej od 1880 do 1919. Wilno, 1932. S. 7, 11—13, 27.

**3.1.**

БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 17, л. 5, Б-ка Асалінскіх у Вроцлаве (РП), аддз. рукап., адз. зах. 7180; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 138, адз. зах. 2184; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 218. *Т. М. Махнач.*

# НАЛІВАЙКА АЛЕСЬ



*Налівайка Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 20.10.1922, в. Вязычын Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.), літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1954). Дацэнт (1961).*

З сялянскай сям'і. Бацька, Міхаіл Лазаравіч, у 1914—18 працаваў шахцёрам у Данбасе, потым селянін-аднаасобнік, у 1930 быў рэпрэсіраваны «за антыкалгасную агітацыю» і высланы ў г. Салікамск на вугальныя шахты. Вярнуўшыся, у 1934 уступіў у калгас. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанскім атрадзе спецпрызначэння. А. Налівайка скончыў пачатковую школу ў в. Вязычын (1932), Свіслацкую сямігодку (1936). У 1937 паступіў на Бабруйскі педрабфак (у 1940 рэарганізаваны ў педкурсы), пасля заканчэння якога накіраваны ў Беластоцкую вобл. Працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры, загадчыкам навучальнай часткі ў Вышонкаўскай няпоўнай СШ (цяпер у Польшчы). У гады Вялікай Айчыннай вайны А. Налівайка разам з групай вясковай інтэлігенцыі і моладзі праз старэйшую сястру, якая жыла і працавала да вайны настаўніцай у Клічаўскім р-не, наладзіў сувязь з партызанскім атрадам І. Ізоха, распаўсюджваў зводкі Саўінфармбюро і паведамленні з газеты «Правда». У лістападзе 1942 стаў байцом, потым камандзірам разведгрупы Заходняга фронту (партызанскі атрад спецпрызначэння № 309 імя С. М. Кірава, потым гэты атрад перайшоў у падпарадкаванне разведаддзела 2-га Беларускага фронту). У студзені 1944 увайшоў у спецгрупу, якая выконвала заданні ў раёне г. Вільнюса, а 13 ліпеня 1944 злучылася з часцямі Савецкай Арміі. У кастрычніку 1944 накіраваны ў Арлоўскае ваеннае танкавае вучылішча, адкуль у 1945 дэмабілізаваны. У 1946—47 працаваў выкладчыкам гісторыі і канстытуцыі ў Свіслацкай сямігодцы. Паступіў і ў 1951 скончыў з адзнакай філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута і накіраваны ў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце. Пасля заканчэння яе (1953) працуе выкладчыкам, дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры гэтага ж інстытута. Абараніў кандыдацкую дысертацыю «Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва». Узнагароджаны 2 ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступені, медалямі і інш.

Першыя публікацыі А. Налівайкі з'явіліся ў 1956. Артыкулы «Стыль і мова аповесці Якуба Коласа «Дрыгва» і «Выяўленчыя сродкі аповесці Я. Коласа «Дрыгва» засведчылі настойлівае імкненне даследчыка разабрацца ў складаных літаратурных з'явах. Аўтар манаграфіі «Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва», вучэбнага дапаможніка «Беларуская савецкая літаратура», адзін з аўтараў падручнікаў «Беларуская літаратура», «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» для студэнтаў педінстытутаў. Увага даследчыка скіравана да асноўных праблем беларускай савецкай літаратуры. Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Повесть Якуба Коласа «Трясина»: Автореф. дис. ... канд. филолог. н. Мн., 1954.

Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва». Мн., 1959. Рэц.: Бугаёў Д. Першая манаграфія пра «Дрыгву» // Полымя. 1959. № 9; Манаграфія пра аповесць «Дрыгва» // ЛіМ. 1959. 4 ліп.

Жывыя рысы Ільіча. Вобраз У. І. Леніна ў бел. маст. літаратуры. Мн., 1960.

Тэматыка курсавых работ па беларускай літаратуры. Мн., 1961.

Проза Якуба Коласа. Мн., 1962.

Кантрольныя работы па беларускай літаратуры. Мн., 1962 / У сааўт. Рэц.: Кутневіч П. Не трэба шпаргалак // Полымя. 1962. № 11.

З Леніным у сэрцы. Мн., 1970. (Матэрыял у дапамогу лектару).

Беларуская літаратура. Мн., 1971 / Сааўт. Т. Бурэйка. Рэц.: Касабокава Я. З любоўю да роднай літаратуры // Вяч. Мінск. 1972. 13 вер.; Беларуская савецкая літаратура. 2 выд., перапрац. і дап. Мн., 1979.

**1.3.**

**1956.** Выяўленчыя сродкі аповесці Я. Коласа «Дрыгва» // Уч. зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 4, юбилейный;

Стыль і мова аповесці Якуба Коласа «Дрыгва» // Полымя. № 4.

**1959.** У новым жанры: [Рэц. на: Сіўцоў І. «Нягоды і радасці» // Полымя. 1958. № 7—9] // ЛіМ. 21 лют.; Раман пра нашу сучаснасць: [Рэц. на кн.: Хадкевіч Т. Даль палявая. Мн., 1959] // Мін. праўда. 10 сак.; «Лясная песня»: [Рэц. на кн.: Пестрак П. Лясная песня. Мн., 1958] // Там жа. 6 мая; Летапіс гераізму і мужнасці: [Рэц. на кн.: Лынькоў М. Векапомныя дні. Мн., 1958] // Там жа. 29 мая.

**1960.** Паэт-грамадзянін // Мін. праўда. 20 сак.; Вобраз У. І. Леніна ў беларускай мастацкай літаратуры // Наст. газ. 26 крас.

**1962.** Пясняр народнага лёсу // Нар. асвета. № 11; Мін. праўда. 26 вер.; Паэзія прозы: [Рэц. на кн.: Брыль Я. Працяг размовы. Мн., 1962] // Мін. праўда. 14 вер.; Пісьменнік-гуманіст // Там жа. 3 ліст.

**1963.** Пісьменнікі пра Янку Купалу; Творчасць Янкі Купалы савецкага часу; Янка Купала і ўсходнеславянскія літаратуры; Асноўныя выданні твораў Я. Купалы; Асноўныя дапаможнікі па семінарыю: (Артыкулы, бібліяграфічныя даведкі) // Семінарый. Мн.

**1964.** Жывыя, праўдзівыя вобразы // Нар. асвета. № 5.

**1966.** Замест прадмовы // Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн. / У сааўт.

**1970.** Пасляваенная беларуская драматургія // Нар. асвета. № 3.

**1977.** Паэма аб рэвалюцыі // Вялікі Кастрычнік і беларуская літаратура: Зб. артыкулаў. Мн.

**1981.** Якуб Колас // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры (1917—1940). Мн.; З любоўю да народа і верай у народ // Нар. асвета. № 2.

**1982.** Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» — шэдэўр беларускага нацыянальнага ліраэпасу // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 10; Паэма аб рэвалюцыі; Проза Якуба Коласа савецкага часу // Янка Купала і Якуб Колас: Некаторыя аспекты творчасці. Мн.; Аркадзь Куляшоў // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, 1941—1980. Мн.; Адзін з паэтычных шэдэўраў Якуба Коласа [«Сымон-музыка»] // Неўміручая спадчына: Матэрыялы рэсп. навук. канф. выкладчыкаў бел. літ. ВНУ БССР, прысвеч. 100-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. 14—15 мая 1982 г. Мн.

**1984.** Ад складальніка // Хрэстаматыя па беларускай савецкай літаратуры. Мн.

**1.6.**

Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн., 1966 / Скл. з інш.

Хрэстаматыя па Беларускай савецкай літаратуры: (Для сярэд. спец. навуч. устаноў БССР). Мн., 1984. Ч. 1. Ч. 2 / Скл.

**2.3.**

На беларускай мове. Сямяновіч А. Гады сталасці // Наст. газ. 1972. 18 кастр.

*В. М. Грышкевіч.*

# НАСОВІЧ ІВАН



***Насовіч Іван Іванавіч [26.9(7.10).1788, в. Гразівец Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл.— 25.7(6.8). 1877, г. Мсціслаў; пахаваны на могілках Тупічэўскага манастыра], літаратар, лексікограф, фалькларыст.***

Нарадзіўся ў сям'і дзяка. Скончыў у Магілёве гімназію і духоўную семінарыю (1812). Працаваў выкладчыкам рускай славеснасці і інспектарам Аршанскага павятовага вучылішча, потым быў настаўнікам і рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча (1813—22), загадчыкам, наглядчыкам, выкладчыкам Дынабургскай гімназіі (1822—32), Маладзечанскага (1832—34) і Свянцянскага (1834—43) дваранскіх вучылішчаў. У 1843 кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі нечакана прапанавала яму падаць у адстаўку, не маючы на гэта сур'ёзных падстаў. І. Насовіч пасяліўся ў Мсціславе і грунтоўна заняўся навуковай працай — наладзіў цесныя сувязі з Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Пецярбургскай Акадэміі навук, Археаграфічнай камісіяй, Аддзяленнем этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Па іх парадзе склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы «Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі», які Акадэмія навук удастоіла Увараўскай прэміі (1865). Гэты слоўнік, які ўключае каля 13 тыс. слоў, застаўся ненадрукаваны (захоўваецца ў бібліятэцы АН Расіі ў г. Санкт-Пецярбургу). І. Насовіча справядліва называюць беларускім Далем — ён аўтар манументальнага, унікальнага па тым часе тлумачальна-перакладнога «Слоўніка беларускай мовы», у які ўвайшло

больш за 30 тыс. слоў, запісаных аўтарам ад насельніцтва Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губ., а таксама выбраных з фальклорных твораў, розных літаратурных помнікаў старажытнага беларускага пісьменства. У ім раскрыты сэнс кожнага слова і фразеалагізма, прыведзены прыкладныя рускія эквіваленты, часам даецца этымалогія слова, словы і словазлучэнні ілюструюцца багатым кантэкстам з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы. За гэты слоўнік Акадэмія навук прысудзіла І. Насовічу Дзямідаўскую прэмію (1885). У 1881 выдадзены «Дадатак да беларускага слоўніка». «Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча, нягледзячы на шэраг слоўнікаў, выдадзеных беларускімі савецкімі лінгвістамі, застаецца выдатнай працай беларускай лексікаграфіі. І. Насовіч таксама надзвычай многа зрабіў у галіне збірання і публікацыі беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці. Упершыню ў гісторыі беларускай фалькларыстыкі ён выдаў асобнай кнігай «Зборнік беларускіх прыказак» (залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства), у які ўвайшло каля 3500 твораў гэтага малога празаічнага жанру, а таксама шэраг блізкіх да яго па форме прыгаворак, пажаданняў, прывітанняў, віншаванняў, праклёнаў і інш. Аўтар раскрыў семантыку прыказак, выявіў гісторыю іх узнікнення, даў паралелі з рускай і іншых моў. Здабыткам беларускай дарэвалюцыйнай фалькларыстыкі сталі зборнікі «Беларускія прыказкі і прымаўкі», «Беларускія прыказкі і загадкі». Што ж датычыць зборніка «Беларускія песні», то, як зараз устаноўлена, ён з'яўляецца працай несамастойнай: складальнік узяў тэксты (а іх там больш як 350) са зборнікаў Я. Чачота і А. Рыпінскага і выдаў іх, не пазначыўшы крыніц запазычання. Паводле ўспамінаў самога І. Насовіча, у свой час ім быў падрыхтаваны асобны том беларускай народнай прозы — казкі, легенды, паданні і інш.— і дасланы ў Акадэмію навук, аднак лёс яго склаўся няўдала: рукапіс згубіўся ў пецярбургскіх архівах. Многае з навуковай спадчыны вучонага і па сённяшні застаецца ненадрукаваным: «Успаміны майго жыцця» (рукапіс знаходзіцца ў Ін-це мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі), гістарычны нарыс «Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялілі беларускую тэрыторыю», некалькі абагульняючых даследаванняў аб беларускай мове, яе месцы сярод славянскіх моў, а таксама дыялектах (рукапісы захоўваюцца ў бібліятэцы АН Расіі ў Санкт-Пецярбургу).

Вялікую каштоўнасць маюць літаратурныя творы І. Насовіча. Амаль усё жыццё, з юнацкіх гадоў, ён пісаў вершы. Да нас дайшла толькі частка яго паэтычных твораў, напісаных на беларускай мове. Гэта нізка псалмаў і некалькі гутарак (напрыклад, каларытнае «Апісанне свянцянскага ігрышча»). Некаторыя са сваіх уласных твораў ён змясціў у зборніку «Беларускія песні», закамуфляваўшы аўтарства, што дало падставу пазнейшым даследчыкам аднесці іх да ліку ананімных паэм. Так здарылася з вядомай хрэстаматыйнай паэмай «Во цяпер які люд стаў» (у рукапісе яна называецца «Изображение развращения нравов»). Рукапіс паэмы «Іудзіяда» (прысвячаецца Я. К. Гроту) захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Удалай трэба прызнаць спробу перакладу І. Насовічам на беларускую мову катэхізіса. Важнае навуковае і гістарычнае значэнне мае эпісталярная спадчына І. Насовіча — дзесяткі лістоў у Пецярбург вядомым рускім вучоным акадэмікам І. Сразнеўскаму і А. Быкаву. Матэрыялы пра І. Насовіча экспануюцца ў беларускіх музеях. Яго імем названа вуліца ў Мсціславе.

*І. К. Цішчанка.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1848.** Об ответном послании российских архиереев к сорбонским епископам // Мог. губ. вед. № 17, 18, 20, 21, 23—27.

**1.4.**

Псаломские песни, переложенные в стихотворную русскую речь. Спб., 1866.

**1.6.**

Белорусские пословицы и поговорки. Спб., 1852. Прибавл. к «Изв. второго отд-ния Акад. наук».

Сборник белорусских пословиц, составленный надворным советником И. И. Носовичем и удостоенный от императорского Русского географического общества Малой золотой медали. Спб., 1866. Отд. отт. из «Зап. РГО по отд-нию этнографии». 1867. Т. 1.

Белорусские пословицы и загадки: [Доп. к «Сборнику бел. пословиц», помещенному в т. 1 «Записок РГО по отд-нию этнографии»]. Спб., 1868 [На вокл.: 1869]. Отд. отт. из «Зап. РГО по отд-нию этнографии». Т. 2.

Словарь белорусского наречия. Спб., 1870 / Скл.

Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем. Спб., 1874. Отд. отт. из «Зап. РГО по отд-нию этнографии». 1873. Т. 5.

Сборник белорусских пословиц, составленный надворным советником И. И. Носовичем. Спб., 1874. Отд. отт. из «Сборника ОРЯС Акад. наук». 1875. Т. 12. № 2.

Дополнение к белорусскому словарю И. И. Носовича. Спб., 1881. Отд. отт. из «Сборника ОРЯС Акад. наук». Т. 21. № 6.

Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. (Факс. выд.). Спб. 1870.

**2.2.**

Шейн П. Иван Иванович Носович: Краткий биографический очерк. Спб., 1900. Отд. отт. из «Изв. ОРЯС Акад. наук». 1900. Т. 5. № 3.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Абабурка М. Багатая душа народа... // Маг. праўда. 1977. 23 ліп.; Бандарчык В. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 109—116; Бандарчык В., Ларчанка М. Развіццё беларускай фалькларыстыкі // Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мн., 1966. С. 39; Бандарчык В., Сабаленка Э. Этнограф, фалькларыст, мовазнаўца. Да 175-годдзя з дня нараджэння І. І. Насовіча // ЛіМ. 1963. 30 жн.; Гарэцкі М. Іван Іванавіч Насовіч // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920; 2 выд. Вільня, 1921. 3 выд. Вільня, 1924; Гілевіч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 44—46; Гуліцкі М. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978. С. 50—83; Дзейнасць беларускіх вучоных-этнографаў і асвета // Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985; Жураўскі А., Крамко І. Навуковы подзвіг // ЛіМ. 1962. 12 кастр.; Іх жа. Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1963. № 4; Ігнатоўскі У. І. Насовіч // Вольны сцяг. 1921. № 2; Камароўскі Я. І. І. Насовіч і яго слоўнік // Беларусь. 1957. № 7; Лепешаў І. Класічная праца айчыннай філалогіі // Помн. гіст. і культ. Бел. 1974. № 3; Ралько І. Вершаскладанне. Мн., 1977. С. 11—12; Скварцоў І. Слова роднае, беларускае // Маг. праўда. 1984. 11 мая; Суднік М. І. І. Насовіч // Беларусь. 1949. № 7;

Я г о ж. Неапублікаваны рукапіс // Там жа. 1949. № 5; Я г о ж. Слоўнік Насовіча // Там жа. 1950. № 9; Ц і ш ч а н к а І. Першапраходзец // Полымя. 1983. № 10; Я г о ж. Хто аўтар ананімнай паэмы? // Помнікі гіст. і культ. Бел. 1984. № 3.

**На рускай мове.** Б у л а х о в М. Носович Иван Иванович // Булахов М. Восточнославянские языковеды: (Биобиблиограф. словарь). Мн., 1976. Т. 1; П ы п и н А. История русской этнографии. Спб., 1892. Т. 4. С. 153; С т о л е т и е первого белорусского словаря // Сел. газ. 1971. 14 янв.; С у д н и к М. И. И. Носович и современность // Новости ЮНЕСКО (Париж). 1977. № 11; Ш е й н П. И. И. Носович: (Краткий биографический очерк) // Изв. ОРЯС Акад. наук. Спб., 1900. Т. 5. Кн. 3.

**3.1.**

Б-ка АН Расіі (Санкт-Пецярбург), ф. 26, вып. 5, спр. 107; Дзярж. публічная б-ка (Санкт-Пецярбург), аддз. рэдкіх кніг і рукапісаў, ф. 120, адз. зах. 1012.

*Т. М. Махнач.*

# НАЎРОЦКІ АЛЕСЬ



*Наўроцкі Алесь (Аляксандр Піліпавіч; н. 12.2.1937, в. Давыдаўка Азарыцкага, цяпер Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.), празаік, паэт.*

Бацькі, Ніна Афанасьеўна і Піліп Тарасавіч, былі настаўнікамі. Бацька, які выкладаў беларускую мову і літаратуру, садзейнічаў захапленню сына мастацкай літаратурай. У 1944 будучы пісьменнік пайшоў у 1-ы клас Давыдаўскай сямігодкі. Потым, у сувязі з пераездам бацькоў, вучыўся ў Вяжненскай сямігодцы. Скончыўшы яе, вучыўся ў Бабруйскай школе санфельчараў (1951—54). Працаваў фельчарам у в. Вышкава Мірскага (цяпер Карэліцкага) р-на Гродзенскай вобл. У 1956—62 вучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце. Пасля атрымання дыплома быў урачом участковай бальніцы ў в. Аравічы Хойніцкага р-на Гомельскай вобл. (1962—65). У 1965 пераехаў у Мінск, працаваў на станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. У 1975 паступіў на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Але скончыць іх не ўдалося па стану здароўя. У той час яго сталі праследаваць ахоўныя органы. «Пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах», выйшаў з беларускай пісьменніцкай арганізацыі. З 1976, за невялікім выключэннем, нідзе не працуе. Паводле слоў самога А. Наўроцкага, «дабіваецца палітычнай рэабілітацыі».

Першы верш А. Наўроцкага «Ранак ідзе» надрукаваны ў 1954 у часопісе «Полымя». Потым надрукаваў у «Полымі» і «Маладосці» шэраг апавяданняў. Выдаў зборнікі паэзіі «Неба ўсміхаецца маланкаю», «Гарачы снег», кнігу апавяданняў «Валун». Паэтычным творам А. Наўроцкага ўласцівы глыбіня роздуму і свежасць вобразнага ўспрыняцця свету, смелая асацыятыўнасць і метафарычнасць, іронія і гратэск. Амаль усе апавяданні А. Наўроцкага, якія ўвайшлі ў зборнік «Валун», звязаны агульным героем. Гэта — наш сучаснік, малады спецыяліст, медык па прафесіі, які перайначвае жыццё ў вясковай глушы. Паэзію і прозу А. Наўроцкага высока ацэньвалі Я. Брыль, У. Караткевіч, М. Стральцоў.

*В. У. Ярац.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Неба ўсміхаецца маланкаю: Паэзія. Мн., 1962. Рэц.: А р о ч к а М. Арыгінальнасць і арыгінальнічанне // ЛіМ. 1962. 12 чэрв.; Б я р о з к і н Р. Маладосць шукае // Беларусь. 1962. № 12; К а р а т к е в і ч У. З любоўю да чалавека // Маладосць. 1962. № 12; К а ц ю ш ы н М. Змена маладая, таленавітая // Голас Радзімы. 1962. № 90; К л ы ш к а А. Натхненне табе, паэт! // Полымя. 1962. № 7.

Гарачы снег: Паэзія. Мн., 1968. Рэц.: А р х і п а ў Ф. Мера пачуцця // Беларусь. 1969. № 2; К а з л о в і ч А. Шлях да майстэрства складаны // Мін. праўда. 1969. 29 студз.; Х а м я н к о ў М. // Гомел. праўда. 1968. 13 ліст.; Ш п а к о ў с к і Я. Між двух жорнаў // Маладосць. 1969. № 2; Я г о ж. Душа, открытая людям // Дружба народов. 1969. № 6; Ю р ч а н к а Г. Пачатак і працяг // ЛіМ. 1968. 3 снеж.

Валун: Кніга апавяданняў. Мн., 1976. Рэц.: И г н а-

т о в и ч Ф. Герой книги — фельдшер // Мед. газ. 1977. 16 нояб.; Л е ц к а Я. Шлях да сталасці // Полымя. 1977. № 2.

Пакаленні і папялішчы: Кніга вершаў. Мн., 1990.

**1.3.**

**1954.** Ранак ідзе: [Верш] // Полымя. № 10.

**1957.** Рукі; Я хацеў засмяяцца; Малако; Расінка: [Вершы] // Полымя. № 6; Я хацеў засмяяцца; Расінка: [Вершы] // Ніва. 28 ліп.

**1958.** Каліна; Цішыня; Дзе ты?: [Вершы] // Полымя. № 5; З думкай пра мір: [Верш] // ЛіМ. 2 крас.

**1959.** Цалціннік; Чатырохгранная ваза; Елка: [Вершы] // Маладосць. № 1.

**1960.** На полі калгасным; Каханне; Нарэшце: [Вершы] // Маладосць. № 6.

**1961.** Акмолінскі стэп; Адгабляваная дошка: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 3; Размова з Уладзімірам Ільічом; «Ветры, буйныя ветры»; Акмолінскі стэп; Адгабляваная дошка: [Вершы] // Полымя. № 4; Радасць; Ноша: [Вершы] // Там жа. № 5; Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Звязда. 22 крас.

**1962.** Пачатак; Маці мая і я: [Вершы] // Голас сэрца. Мн.; Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Слаўце Радзіму. Мн.

**1963.** Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Бяссмерце. Мн.; Я стэп шукаў...; «Хачу ў душы тваёй...»; Мелодыя працы; «Жалезны стол. Усё нязвыкла...»: [Вершы] // Полымя. № 8.

**1964.** Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Чырв. змена. 7 сак.

**1965.** Палячыце нас, доктар; «Чуваць саланчаковай ночы крокі...»: [Вершы] // Маладосць. № 5; «Чуваць саланчаковай ночы крокі...»: [Верш] // ЛіМ. 18 мая.

**1966.** Вершы пра сябе; «Калі-небудзь у ясны летні дзень...»; «Я плыву»; «Месяца бледнага...»; «Не заўважаем мы, не заўважаем...»: [Вершы] // Маладосць. № 8; Валун: Апавяданне // Полымя. № 10; Вершы пра сябе // ЛіМ. 9 жн.

**1967.** Хвоя: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Пагоня: [Верш] // Вясёлка. № 7; Саша: Апавяданне // Маладосць. № 5; Снежань: Апавяданне // Полымя. № 1; Імгненне; «Гузік белы, кругленькі, пластмасавы...»; «Як жа мне трэба мала-мала...»; «У вядры калыхаўся я, у вадзе...»; «Карэннем буду заўтра я...»; «Чорны вузел гальштука ён зашмаргнуў...»; «Па залітай жоўтым святлом дарозе...»: [Вершы] // Там жа. № 3; «Як жа мне трэба мала-мала...»: [Верш] // ЛіМ. 7 сак.

**1968.** У дажджыстым тумане; Пытанне; Снег з ветрам; Робім мы віткі; На лавачцы ў парку: [Вершы] // Маладосць. № 3; Акушэрка: Апавяданне // Полымя. № 1; «Снег з ветрам калючым шныраюць...»: [Верш] // ЛіМ. 12 сак.

**1969.** Размова з Уладзімірам Ільічом: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.; Рукі; Цішыня; Чатырохгранная ваза; «Ветры, буйныя ветры...»; Ты — мяцеліца; Просьба: [Вершы] // Мары юнацкія. Мн.; Засімак: Апавяданне // Маладосць. № 6.

**1970.** Сустрэча; Інтэрнат: [Вершы] // ЛіМ. 7 жн.; Так і паляцеў бы...: Апавяданне // Там жа. 25 снеж.; «Снег з ветрам калючым шныраюць...»: [Верш] // Ніва. 1 сак.

**1971.** Некалькі згадак: Апавяданне // Маладосць. № 8; «Неба шэры меніск...»; На воблаку: [Вершы] // Полымя. № 2.

**1972.** Ліст да З.; Успамін: [Вершы] // Зорка Венера. Мн.

**1973.** Сустрэчы: Апавяданне // Полымя. № 1.

**1976.** Рукі: [Верш] // Люблю будзённы дзень... Мн.

**1977.** Маці мая і я: [Верш] // Дзень добры, мама! Мн.

**1978.** Успамін: [Верш] // Адданасць. Мн.; Рукі: [Верш] // Сэрцам табе прысягаю. Мн.

**1980.** Рукі: [Верш] // Такія сэрцы ў нас. Мн.

**1.5.**

**На балгарскую мову.** Зимна приказка; Дърво; От теб какво ще стане; Шепот: [Вершы] / Прев. С. Бакърджиев // Белоруски поети. Едно поколение. София. 1971.

**На латышскую мову.** Es gribeju smieties / Atdz. K. Skujenieks // Liesma. 1960. Nr. 10.

**На польскую мову.** Rudel; «Czym ty będziesz, drzewo...?» / Tł. T. Huszcza // Wiersze białoruskie. Łódź. 1971; Nadodrze. 1974. Nr 12.

**На рускую мову.** «Походил фуганок!»: [Верш] / Пер. Я. Хелемский // Дружба народов. 1963. № 1; В Акмолинской степи; Начало: [Вершы] // Неман. 1963. № 3; Руки: [Верш] // Сов. Бел. 1963. 22 окт.; Руки: [Верш] / Пер. Б. Спринчан // Знамя юности. 1965. 6 авг.; Руки; Тишина: [Вершы] / Пер. Я. Хелемский // Дружба народов. 1968. № 2; Валун: [Апавяданне] / Пер. В. Кудинов // Неман. 1968. № 1; Акушерка: Рассказ / Пер. Н. Кислик // Дружба народов. 1969. № 5; Баня: [Апавяданне] / Пер. О. Новожилов // Неман. 1970. № 6; Встреча: [Апавяданне] / Пер. В. Кудинов // Там жа. 1971. № 12.

**На ўкраінскую мову.** По степу Акмолінським: [Верш] / Пер. В. Матчук // Жовтень. 1962. № 12; Чотиригранна ваза: [Верш] / Пер. В. Лучук // Там жа. 1964. № 9; Відро водою наповнене: [Верш] / Пер. В. Лучук // Вільна Украіна. 1967. 22 січ.; Відстругана дошка; Вітри буйні: [Вершы] / Пер. М. Коцюбинська // Жовтень. 1967. № 1; Просто не віриться: [Верш] / Пер. В. Сидоренко // Сузір'я. К., 1968. Вип. 2; «По залитій жовтим світлом дорозі...»: [Верш] / Пер. А. Таран // Літ. Укр. 1968. 31 груд.; Відстругана дошка; Чим ти будеш, дерево? Павлюк Багрим; Мати моя і я; Початок; Вітри буйні; Заступ; Із циклу «Елегіі»: Говорив з трибуни якось ніс; Не розбираючи, хто винний...; Другові; Води у відрі повнісінько; В душі твоїй пожити хочу потайки: [Вершы] / Пер. М. Коцюбинська, В. Лучук // Калинові мости. К., 1969; Твоє ймення: [Верш] / Пер. В. Коломієць // Дніпро. 1969. № 4; Не помічаемі...; Росинка; Втрата; По степу Акмолінськом; Просто не віриться: [Вершы] / Пер. Ю. Петренко, С. Литвин // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 2; Дерево, чим ти будеш?: [Верш] / Пер. И. Струцюк // Рад. Волинь. 1972. 17 берез.

**2.3.**

**На балгарскай мове.** В ъ л ч е в Г. Едно поетично поколение // Белоруски поети: Едно поколение. София. 1971; В ъ л ч е в Г. Алес Навроцки: [Партрэтны эцюд] // Вълчев Г. Приобщения. Лит. контакти и аналогии. София. 1971.

**На беларускай мове.** А н д р а ю к С. Вывяраючы жыццём. Мн., 1976. С. 195; Б я р о з к і н Г. Вершы Алеся Наўроцкага // ЛіМ. 1957. 27 ліп.; Г н і л а м ё д а ў У. Традыцыі і наватарства. Мн. 1972. С. 54—55; 164; Я г о ж. Чалавек і свет // Полымя. 1965. № 12; К а в а л е н к а В. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі. Мн., 1977. С. 129—130; К е н ь к а М. За права малога жанру // ЛіМ. 1974. 1 ліст.; Л о й к а А. Сустрэчы з днём сённяшнім. Мн. 1968. С. 130—133; Р а г у л я А. Асноўныя тэндэнцыі развіцця сучаснай маладой беларускай прозы // Беларуская літаратура на сучасным этапе. Мн. 1977; Ш п а к о ў с к і Я. Між двух жорнаў // Шпакоўскі Я. Узрушанасць. Мн. 1978; Я г о ж. Структура вершаванага вобраза. Мн. 1972. С. 14—16, 27—29, 34—37; Я р о ш М., Б е ч ы к В. Беларуская савецкая лірыка. Мн. 1979. С. 282—283.

**На польскай мове.** A l e ś N a u r o c k i // Wiersze białoruskie. Łódź, 1971.

**На рускай мове.** Б о й к о В. Быть поэтом — мыслить // Знамя юности. 1962. 18 сент.; С е м е н о в а А. Заметки о рассказах // Неман. 1967. № 6; С т р е л ь ц о в М. Первое знакомство // Неман. 1968. № 1.

*В. У. Смольская.*

# НЕЗАБІТОЎСКІ СТАНІСЛАЎ

*Незабітоўскі Станіслаў (24.9.1641, в. Ятра Навагрудскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.— восень 1717, Навагрудак), кальвінскі грамадскі дзеяч, мемуарыст. Пісаў на польскай мове.*

Паходзіў з засцянковай шляхецкай сям'і герба Любіч, якая выводзілася з Незабітова Люблінскага ваяв. (цяпер Польшча). Яго бацька — Мікалай Незабітоўскі, маці — Ганна Маскевіч, дачка мемуарыста Б. Маскевіча. Вядома, што ў 1649 С. Незабітоўскі вучыўся ў Навагрудскім езуіцкім калегіуме ў ксяндза А. Слёнскага. Верагодна, за заслугі бацькі, які служыў у войску кн. Б. Радзівіла і загінуў у бітве пад Простскамі ў Прусіі (1656), быў прыняты на службу да князя. З 1661 знаходзіўся ў Крулеўцы (Кёнігсбергу), дзе здабыў давер Г. М. Радзівіл, якая даводзілася стрыечнай сястрой Б. Радзівілу. У 1662 выконваў ролю пасрэдніка паміж князем і каралеўскім дваром у Варшаве. Паступова Б. Радзівіл даверыў яму справы, звязаныя з адміністрацыяй сваіх маёнткаў у Жэмайціі, што вымагала ад С. Незабітоўскага часта бываць у Біржах, Коўне, Вільні і Слуцку (у апошнім ён жыў доўгі час). У 1666 ездзіў на варшаўскі вальны сейм па справах Б. Радзівіла. У 1668 ажаніўся ў Слуцку з Мар'янай, дачкой Рыгора Мірскага, і таму стаў сваяком уплывовых шляхціцаў Цадроўскіх, Чыжаў, Клакоцкіх і Аборскіх. У 1670 пасля смерці Б. Радзівіла (1669) разам з К. Клакоцкім і В. Сяніцкім стаў кіравацьвялікімі маёнткамі адзінай спадчынніцы нябожчыка Л. К. Радзівіл. Новыя абавязкі зблізілі С. Незабітоўскага з апекуном князёўны польскім паэтам З. Морштынам, з якім ён пасябраваў і пастаянна перапісваўся. Рэзідэнцыяй С. Незабітоўскага з таго часу стаў Слуцк, дзе ён жыў са сваёй сям'ёй. С. Незабітоўскі ўдзельнічаў у кальвінскіх сінодах Навагрудскай акругі, абараняў маёмасныя інтарэсы слуцкай абшчыны. Каля 1676 ён прызначаны каліскім падчашым, хоць і не валодаў маёмасцю ў той частцы Польшчы.

У рукапісах зберагліся шматлікія (каля 700) лісты С. Незабітоўскага да З. Морштына і іншых асоб, а таксама копія (пачатку 18 ст.) змястоўных і падрабязных успамінаў, у якіх апісаны падзеі 1682—1700 на Навагрудчыне і Случчыне. Гэтыя мемуары з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі грамадска-палітычнага і прыватнага жыцця Беларусі і Літвы канца 17 ст. Рукапіс мемуараў (944 старонкі) зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

*А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія


**2.3.**

**На польскай мове.** Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. Poznań, 1843. T. 2. S. 70—78; Sajkowski A. Niezabitowski Stanisław // Polski Słownik Biograficzny. T. 23; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki. Poznań, 1965. S. 115—132; Sajkowski A. Staropolskie nekrologi // Opuscula Casimiro Tymieniecki dedicata. Poznań, 1959; S. 70—78; Syrokomla W. Pan Stanisław Leszczyński // Atheneum. 1846. T. 2.

**На рускай мове.** История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 273.

**3.1.**

Галоўны архіў старадаўніх актаў у Варшаве, ф. Радзівілаў, аддз. V, т. 229, спр. 10481, 10493 [Лісты]; Нацыянальная б-ка ў Варшаве, аддз. рукап., ф. ардынацыі Замойскіх, адз. зах. 911 [Дзённік].


*А. Ф. Коршунаў.*

# НЕПАЧАЛОВІЧ ЯНКА



Непачаловіч Янка [Іван Данілавіч; 12(25).5.1917, в. Мінкавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл.— 3.7.1969, в. Дараганава Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., пахаваны на радзіме — у в. Мінкавічы], паэт. Член СП Беларусі з 1958.

З сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў загадчыкам хаты-чытальні ў в. Крываносава Старадарожскага р-на (1934). У 1935 паступіў на літаратурны ф-т Мінскага пед-інстытута. З трэцяга курса накіраваны Наркаматам асветы БССР настаўнікам у Дзяржынскую СШ Мінскай вобл., дзе працаваў у 1937—39, потым у Мар'інагорскай СШ (1939—41). У 1940 завочна скончыў педінстытут. У час вайны жыў у родных мясцінах (в. Мінкавічы). З 1942 быў сувязным партызанскай брыгады імя Кірава, выконваў яе заданні. Пасля вайны працаваў настаўнікам у Дзяржынску (1944—47), інспектарам школ Старадарожскага р-на (1947—48). З 1948 настаўнік у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. У 1967 пераехаў у Мінск, працаваў у выдавецтве «Народная асвета». Трагічна загінуў у в. Дараганава. Узнагароджаны медалём.

Першыя вершы Я. Непачаловіча надрукаваны ў 1936 у часопісе «Полымя рэвалюцыі». Першая кніга паэта «Мера любві» выйшла ў свет у 1958, калі яе аўтар быў ужо далёка не пачаткоўцам. Блаславіўшы рукапіс у друк, А. Вялюгін адзначаў жыццёвую канкрэтыку твораў паэта, задушэўнасць інтанацый, адсутнасць «таннай траскатні». Другая прыжыццёвая кніга паэзіі, «Позні паром», выйшла ў 1967. Сярод яе асноўных матываў — любоў да роднай зямлі і прыроды, разуменне жыццёвых клопатаў чалавека-працаўніка, адчуванне сваёй крэўнай сувязі з ім. Характэрная рыса вершаў Я. Непачаловіча — прыглушанае выяўленне свайго лірычнага «я», якое раскрываецца часцей у адносінах да героя верша, у суперажыванні яму. Паводле жанру такія вершы маюць пераважна баладны характар. На словы Я. Непачаловіча Ю. Семяняка напісаў папулярную песню «Табе маё прызнанне».

*Э. І. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Перад захадам сонца: Выбр. вершы. Мн., 1977. Рэц.: Кнігапіс // ЛіМ. 1977. 21 кастр.

**1.2.**

Мера любві: Вершы. Мн., 1958. Рэц.: Астапенка А. «Мера любви» // Знамя юности. 1958. 18 июля; Гілевіч Н. Сапраўднае і павярхоўнае // Полымя. 1958. № 8; Кудраўцаў І. Першая кніга // Беларусь. 1958. № 7; Піітухоўская Р. Роздум паэта // Маладосць. 1959. № 5; Усікаў Я. Сваім голасам // Звязда. 1959. 5 ліп.; Шавня А. Поиски и находки // Сов. Бел. 1958. 20 авг.

Позні паром: Вершы. Мн., 1967. Рэц.: Парахневіч М. Паром не прычаліў да берага // Мін. праўда. 1967. 20 чэрв.

**1.3.**

**1936.** Матчына гора; Зялёны сад: [Вершы] // Полымя рэвалюцыі. № 3; Марыула: [Верш] // Там жа. № 4. Рэц.: Багун М. У возеры шэрай вадзічкі... // ЛіМ. 18 ліп.; Вячэрняя сустрэча: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 6.

**1937.** Стары садоўнік: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 9—10; Песня над калыскай: [Верш] // Чырв. змена. 5 крас.

**1938.** Чаканне: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 4.

**1946.** Два ўрокі ў адным класе // Наст. газ. 31 кастр.

**1952.** Мой гадзіннік; Млынар; «Светлакудры хлопчык Мішка...»: [Вершы] // Полымя. № 12.

**1953.** Раённая газета; Вясна і маладосць: [Вершы] // Полымя. № 12.

**1955.** Само сэрца пяе; Сталасць; Спадчына; Паштальён: [Вершы] // Полымя. № 6; Мера любві; Даведкі; Ляснік; Этнограф на рынку; Стары халасцяк: [Вершы] // Там жа. № 10; Ля карты Радзімы: [Верш] // Там жа. № 12.

**1956.** Ты, як маці: [Верш] // Полымя. № 2; Вятрак; У навальніцу; Калючыя драты; «Пераношу я цябе праз лужы...»: [Вершы] // Там жа. № 11.

**1957.** Зрываючы лісток календара; Сонца і кропля вады: [Вершы] // Маладосць. № 8; У ролях заканых: [Верш] // Там жа. № 12; Перад захадам сонца; Дараганава; Першыя крокі: [Вершы] // Полымя. № 7; Таварышу; Моцныя рукі: [Вершы] // Там жа. № 10:

**1958.** Падкова; З табою; «Гары, маё сонца, гары...»; Вернасць; «Можа праўду ты сказаць не хочаш?..»; Два сонцы: [Вершы] // Маладосць. № 4.

**1959.** Змена: [Верш] // Полымя. № 2; Прызнанне: [Верш] // Работніца і сялянка. № 4.

**1960.** Балада пра скрыпача і скрыпку: [Верш] // Наст. газ. 26 лют.; У час дажджу: [Верш] // Там жа. 4 сак.

**1961.** Мера любві; Этнограф на рынку; Калючыя драты: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 3.

**1964.** Мой абавязак і права: [Верш] // Наст. газ. 5 снеж.

**1965.** Мазалі: [Верш] // Полымя. № 1; Гады; Сібір; Нядзеля; Запаўняючы анкеты; Прызнанне; «О, павучаць людзей умелі...»; Сустрэча з Янкам Купалам: [Вершы] // Там жа. № 12; Гады; Прызнанне: [Вершы] // ЛіМ. 7 снеж.; З новай кнігі: [Вершы] // Маг. праўда. 17 ліст.; Вернаму другу: [Верш] // Чырв. змена. 6 мая.

**1966.** Роднай зямлі: [Верш] // Беларусь. № 1; ЛіМ. 7 студз.; Трывожнае сэрца; Маё крэда; У час дажджу; Жалезная гара; «Сонца заўсёды адб'еццa...»; «Жыццё не знае старасці...»; Дасціпная; «Перад табой, магутны геній...»: [Вершы] // Беларусь. № 3; Партыя: [Верш] // Полымя. № 3; ЛіМ. 8 сак.; Наст. газ. 30 сак.; Позні паром; Карэнні; «Дубы зямлю ўсыпаюць жалудамі...»; Магіла маёра; «О, як жа звязана трывала...»; Лета; Цень; Мінскім сябрам; «Банкет праз ноч гудзе...»; Успаміны: [Вершы] // Полымя. № 10.

**1967.** Аднагодкам Кастрычніка: [Верш] // Дзень паэзіі — 67. Мн.; З партыяй: [Верш] // Мы славім Леніна, мы славім партыю. Мн.; Роздум над паперай; Імя сыну; Рубель; «Хапае сонцу й прастору...»; Праўда; Скарга Пцічы; Развіхрылася віхура; «Не ўсімі аднолькава свет пазнаецца...»: [Вершы] // Беларусь. № 1; «Чалавекам пройдзена нямала...»; Жончын клопат: [Вершы] // Там жа. № 5; Зялёныя гады: [Верш] // Вожык. № 23; Месяц; Явачная кватэра; Сонца: [Вершы] // Полымя. № 5; У дарозе: [Верш] // Там жа. № 10; Імя сыну: [Верш] // ЛіМ. 6 студз.; Роднай зямлі: [Верш] // Маг. праўда. 27 мая; «Гары, маё сонца, гары...»: [Верш] // Там жа. 23 ліп.; Ляснік; Дарaганава: [Вершы] // Там жа. 20 жн.

**1968.** Імёны герояў: [Верш] // Беларусь. № 7; Сустрэча партызан; Маці; «Дзень і ноч грукочуць паязды...»: [Вершы] // Полымя. № 3; «Дзень і ноч грукочуць паязды...»: [Верш] // ЛіМ. 12 сак.

**1969.** З партыяй: [Верш] // Жыве між нас геній. Мн.

**1972.** Роднай зямлі: [Верш] // Залацінкі. Мн.; «Можа, праўду ты сказаць не хочаш?..»: [Верш] // Зорка Венера. Мн.

**1973.** Аўтабіяграфія // Вытокі песні. Мн.

**1976.** Застольнае слова; «А лясы прадаўжаюць радзець...»; Кірмаш; «Завітала маці да мяне...»; «Бацька акурак цыгаркі...»; «Свет пабачыць — ад здзіўлення...»; «Яму не больш як дваццаць пяць...»; Явачная кватэра; Запавет: [Вершы] // Полымя. № 12.

**1978.** Мера любві: [Верш] // Адданасць. Мн.

**1982.** Дружба: [Верш] // На сцягу і ў сэрцы. Мн.; Сустрэча з Янкам Купалам: [Верш] // Нам засталася спадчына. Мн.

**1983.** Ленінскай партыі слова: [Верш] // Заўсёды з Леніным. Мн.

**1985.** Сярнічка; Явачная кватэра; Сустрэча партызан: [Вершы] // Партызаны, партызаны... Мн.

**1.5.**

**На рускую мову.** Три стихотворения: Воскресенье; Корни; Поздний паром / Пер. Ф. Ефимов // Неман. 1968. № 6; «Когда домой вернулся батька...»: [Верш] / Пер. И. Василевский // Путь к победе. Мн., 1970.

**На ўкраінскую мову.** Етнограф на ринку; Колючі дроти; Коріння; Зустріч партизанів: [Вершы] / Пер. І. Гончаренко, С. Литвин // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 2; Таіна: [Верш] / Пер. В. Колодій // Колодій В. Братерство. Львів, 1985.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А н о ш к і н І. Паэт грамадзянскага гарту: Да 60-годдзя з дня нараджэння Я. Непачаловіча // ЛіМ. 1977. 27 мая; Маг. праўда. 1977. 25 мая; Б я л е в і ч А. Слова пра юбіляра // Полымя. 1967. № 5; В а с і л ь е ў А. «Залатое маё Дараганава» // ЛіМ. 1977. 3 чэрв.; В я л ю г і н А. Карэнне // Непачаловіч Я. Позні паром. Мн., 1967; Я г о ж. Радкі пакідаем з жывымі // Непачаловіч Я. Перад захадам сонца. Мн., 1977; Ж г у т В. Насустрач раскрываюцца сэрцы // ЛіМ. 1959. 2 снеж.; Н я х а й Р. На родных берагах // Там жа. 1967. 23 мая; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р ы х о д з ь к а П. Паэзія працы і змагання // Звязда. 1967. 25 мая; П ы с і н А. З новай кнігі: Памяці Янкі Непачаловіча // Маг. праўда. 1970. 17 кастр.; У с і к а ў Я. Сталасць // Там жа. 1967. 27 мая; Я н к а Непачаловіч: [Некралог] // ЛіМ. 1969. 8 ліп.

**2.4.**

**На беларускай мове.** П ы с і н А. «Ападае лісток на руку...»: [Верш] // Пысін А. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1980. Т. 2.

*В. У. Смольская.*

# НЁМАНСКІ ЯНКА



*Нёманскі Янка [сапр. П я т р о в і ч Іван Андрэевіч; інш. псеўд. Н ё м а н с к і, Я. Н ё м а н с к і, Н ё м а н с к и й, крыпт. І. П., И. П., Я. Н - с к і; 31.3(12.4).1890, в. Шчорсы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.— 30.10.1937], празаік, публіцыст, вучоны-эканаміст, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН Беларусі (1928).*

З сялян. Рана памерла маці. Жыў з бацькам, Андрэем Мікалаевічам, і дзедам. Дзяцінства і юнацтва прайшло ў цяжкай працы. Вучыцца пачаў з шасці гадоў, настаўнікамі былі дзед, бацька, дзядзька. У 1909 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і нейкі час працаваў у вясковай школе. У 1914—16, 1918 вучыўся ў Петраградскім універсітэце на гісторыка-філалагічным факультэце. Побач з вучобай займаўся грамадскай дзейнасцю. У 1916 мабілізаваны ў царскую армію і пасля школы прапаршчыкаў адпраўлены на фронт у якасці малодшага афіцэра роты. Кастрычніцкую рэвалюцыю сустрэў на фронце. У 1919—21 гадах служыў у Чырвонай Арміі — ваяваў на Карэльскім, Петраградскім, Польскім франтах, быў пад Нарвай і Варшавай, у Сібіры і на Далёкім Усходзе. Адразу пасля рэвалюцыі працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце — сакратаром культурна-асветнага аддзела, загадчыкам выдавецкага аддзела. Актыўна ўдзельнічаў ва ўсерасійскім з'ездзе бежанцаў Беларусі ў ліпені 1918 (быў яго сакратаром). Разам з Ц. Гартным выдаваў першую беларускую савецкую газету «Дзянніца» (1918—19). На працягу 1918—20 з Я. Карскім, А. Сержпутоўскім, А. Шахматавым і інш. быў членам Беларускага вольна-эканамічнага таварыства, створанага ў Петраградзе з мэтай развіцця навукі, культуры, народнай гаспадаркі Беларусі. З 1921 жыў у Мінску. Працаваў у планава-эканамічных органах рэспублікі, вучоным сакратаром Інстытута эканомікі АН БССР, намеснікам старшыні Дзяржплана БССР. Быў членам Інбелкульта, членам праўлення літаратурна-мастацкага аб'яднання «Полымя» (1927—32). У 1927—36 член ЦВК. У 1933—36 працаваў у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі, узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін. Сябраваў з Я. Купалам, Я. Коласам, Ц. Гартным. 26 красавіка 1937 беспадстаўна арыштаваны, 30 кастрычніка 1937 расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957.

Друкавацца пачаў у 1918 у газеце «Дзянніца». Першае апавяданне «Над Кроманню» апублікаваў у 1922 у часопісе «Полымя». Аўтар аповесці «Партызаны», рамана «Драпежнікі» (1928—30, няскончаны, рукапіс 2-й часткі загінуў пасля арышту). Вядучая тэма творчасці — жыццё працоўнага чалавека ва ўмовах рэчаіснасці дакастрычніцкага часу, кантрасты сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці.

*І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

На зломе: Апавяданні. Мн., 1925. Рэц.: Б а й к о ў М. // Полымя. 1926. № 1; 2 выд. Мн., 1928.

Творы. Мн., 1984. Рэц.: Я р о ш М. Вяртанне ў дзень сённяшні // Полымя. 1985. № 12.

**1.3.**

**1918.** Нацыянальныя задачы Беларусі // Зажынкі. М. / Пад псеўд. Нёманскі; К культурно-просветительным задачам Белоруссии // Дзянніца. 8 сак. / Пад сваім прозв.; К хозяйственно-экономическим задачам Русской Советской Республики // Там жа. 7 чэрв. / Пад псеўд. Нёманский; Адзіная Расія і падзел Германіі // Там жа. 24 снеж. / Пад псеўд. Нёманскі.

**1919.** Значнасць апавяшчэння Беларусі Радаваю рэспублікай / Пад псеўд. Нёманскі; Патрэбнасць прадстаўніцтва Беларусі пры Расейскай Радавай Рэспубліцы / Пад сваім прозв. // Дзянніца. 8 лют.

**1922.** Над Кроманню: Апавяданне // Полымя. № 1 / Пад псеўд. Нёманскі.

**1923.** Перечень статей, помещенных в журн. «Народное хозяйство Белоруссии» за 1923 г. // Нар. хоз-во Бел. № 6, 12 / Пад сваім прозв.; Рамэо і Джульета на Беларусі: Апавяданне // Полымя. № 2 / Пад псеўд. Нёманскі; Дзэзерцір: Апавяданне // Там жа. № 7—8; Покупайте хлебный заем!: Письмо делегатам Волконференции: [Верш] // Бел. деревня. 3 июня / Пад крыпт. И. П. Аўт. спрэчнае.

**1924.** Маці: Апавяданне // Полымя. № 4.

**1927.** Партызан: Апавяданне // Полымя. № 7.

**1928.** Драпежнікі: Раман у трох частках // Полымя. № 1, 2, 4, 10; 1929. № 3, 8—9, 11—12.

**1931.** Партызан: [Апавяданне] // Рытмы перамогі. Мн.; Пясняр пралетарскай рэвалюцыі // Сав. Бел. 2 крас. / Пад крыпт. Я. Н-скі.

**1933.** Партызан: [Апавяданне] // 11 ліпеня. Мн.

**1934.** «Полымя рэвалюцыі». Кніга шостая-сёмая 1934 г. // ЛіМ. 27 кастр. / Пад крыпт. І. П.; «Спалох на загонах» Платона Галавача // Там жа. 31 снеж. / Пад крыпт. І. П.

**1967.** Над Кроманню: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1973.** Аўтабіяграфія // Вытокі песні. Мн.

**1.4.**

К і й. Радавая рэспубліка / З кіт. М., 1918.

К і й. Што такое сацыялізм / З кіт. М., 1918.

**1918.** К а н ч а р Е. Патрэбы Беларусі / З рус. // Зажынкі. М.

**1.5.**

**На нямецкую мову.** Romeo und Julia in Belorussland / Übers. G. u. W. Tschepego // Störche über den Sümpfen. Berlin, 1971.

**На польскую мову.** Matka / Tł. I. Moszyńska-Heltmanowa. Mn., 1928.

Romeo i Julja na Bialorusi / Tł. Moszyńska-Heltmanowa. Mn., 1929.

**На рускую мову.** На изломе: Рассказы / Пер. К. Яковчик. М.; Л., 1930.

Над Кроманью: [Апавяданне] / Пер. Я. Густырь // Просторы. Мн., 1927; Дезертир: [Апавяданне] / Пер. авт. // Соки целины. М., 1928.

**На ўкраінскую мову.** Ромео і Джульета на Білорусі: [Апавяданне] / Пер. Л. Кардиналовська // Нова Білорусь. К., 1929.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а й к о ў М. Наша літаратура за 1925 г. // Полымя. 1926. № 1; Б е л а р у с к а я савецкая проза: Раман і аповесць. Мн., 1971. С. 61—65; Г а л ь м а к о ў З. Пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч // Полымя. 1970. № 3; Г а р э ц к і М. Творчасць Я. Нёманскага // Сав. Бел. 1927. 8, 12 кастр.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С а в і к Л. Янка Нёманскі // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985; С т р о е в а Т. Адзін з пачынальнікаў // ЛіМ. 1980. 4 крас.; Х о м ч а н к а В. Абавязак памяці // Там жа. 1985. 15 ліст.; Ш у л я к о ў с к і А. [Біябібліяграфічная нататка да 95-годдзя нараджэння] // Полымя. 1985. № 4.

**На нямецкай мове.** R a n d o w N. Über die Autoren // Störche über den Sümpfen. Berlin, 1971.

**На рускай мове.** З а м б р ж и ц к и й С. Янка Неманский // Неманский Я. На изломе. Рассказы. М.; Л., 1930; К л е й н б о р т Л. Я. Нёманский (Я. Петрович) // Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928.


*В. У. Смольская.*



**Нікановіч Мікола [Мікалай Уладзіміравіч; псеўд. і крыпт. Селянін М. Н-іч, М. Н., М. Н-віч, М. Н-іч, Н., Н-іч, Н-ч, N.; 2(15).4.1902, в. Кляннікі Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н — кастрычнік 1944], празаік, перакладчык.**

З сялян. Вучыўся ў Кляннiцкай пачатковай школе, потым у гімназіі ў Ігумене (цяпер Чэрвень). Удзельнічаў у партызанскай барацьбе супраць польскіх акупантаў. Пасля грамадзянскай вайны настаўнічаў у роднай вёсцы, актыўна прапагандаваў усё новае — змагаўся супраць грамадскай пасіўнасці селяніна, супраць п'янства і забабонаў. У 1928 пераехаў у Мінск і стаў працаваць стылістам у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», затым у «Звяздзе». На працягу 1923—32 сістэматычна друкаваўся на старонках «Савецкай Беларусі», «Звязды», «Полымя», «Маладняка», «Аршанскага маладняка», «Маладога аратага», «Беларускага піянера», «Чырвонай змены», «Чырвонай Беларусі», «Беларусі калгаснай» і іншых перыядычных выданняў рэспублікі. У 1933 рэпрэсіраваны, сасланы на тры гады на Урал. Працаваў у газетах «Уральский рабочий», «Советский Дон». У 1942 прызваны ў армію. Удзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У кастрычніку 1944 на тэр. Чэхаславакіі прапаў без вестак. Рэабілітаваны ў 1956.

Першае апавяданне «Ахвяры цемры» надрукаваў у 1923 у газеце «Савецкая Беларусь», першы верш — у часопісе «Маладняк» за 1925. Першыя зборнікі апавяданняў «Золак» і «Радасць» выйшлі ў свет у 1926. Апрача гэтага пры жыцці пісьменніка асобным выданнем свет пабачылі яшчэ 4 кнігі прозы «Крык працы», «Вясновы прамень», аповесці «Мяцеліца» і «У паўстанцаў». Творы М. Нікановіча пафасныя, узнёслыя, рамантычныя; асноўная іх тэма — змены ў жыцці паслякастрычніцкай вёскі, будаўніцтва новага жыцця. *І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Летнім днём: Выбранае. Мн., 1960. Рэц.:Перкін Н. Прыкметы часу // Полымя. 1961. № 7; Царанкоў Л. Час і спадчына // ЛіМ. 1961. 10 лют.

**1.2.**

Золак: Апавяданні. Мн., 1926. Рэц.: Жарскі П. // Полымя. 1926. № 6; Ш.-Тр. Р. [Шукевіч-Траццякоў Р.]. Што прайшло і ніколі не вернецца // Чырв. сейбіт. 1926. № 5.

Радасць: Апавяданні. Мн., 1926. Рэц.: Шчасны Я. // Маладняк. 1926. № 6.

Крык працы: Апавяданні. Мн., 1928. Рэц.: Астаповіч // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». 1928. № 10; Грэскі М. // Полымя. 1928. № 4; Лясны Л. Крык працы // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». 1928. № 11; Савченко Ю. // Плуг. 1928. № 10.

Вясновы прамень: Апавяданні. Мн., 1929.

Мяцеліца: Аповесць. Мн., 1930. (Мастацкае слова — масам).

У паўстанцаў: Аповесць штрыхамі нарысаў. Мн., 1931.

Светлая даль: Апавяданні; Аповесці; Замалёўкі. Мн., 1985.

**1.3.**

**1923.** Беларуская школа як фактар культуры беларускага пралетарыяту // Полымя. № 3—4. / Пад крыпт. N.; Виссарион Григорьевич Белинский: (К 75-летию со дня смерти) // Красная смена. 15 июня / Пад крыпт. Н.: Нашы старажытнасці // Наш сцяг. 9 чэрв.; Культасветныя гурткі // Сав. Бел. 7 лют.; Мінуўшчына й музей: (Уражанні вяскоўца); Трэба шанаваць старажытнасці // Там жа. 16 лют.; Прыклад добрага загадчыка хаты-чытальні // Там жа. 31 мая / Пад крыпт. М. Н.; Ахвяра цемнаты: [Апавяданне] // Там жа. 19—21 ліп.

**1924.** Ці патрэбен пост?: Думкі й развагі ў «вялікі пост» // Бел. вёска. 16 крас.; Два мира: (Рассказ) // Там жа. 21 мая / Пад крыпт. М. Н.; Так часта бывае: Апавяданне // Сав. Бел. 4 крас.; Каштоўны падарунак: Апавяданне // Там жа. 8 крас.; Антон Чупрына: Абразок // Там жа. 27 ліп.; Не сцярпела: Малюнак // Там жа. 9 вер.

**1925.** Песні вясны: Імпрэсія; Вясковы камсамол: [Верш] // Арш. маладняк. № 2; Перарадзіліся: Апавяданне // Бел. піянер. № 6; «Малады Араты» заваяваў сімпатыю вясковай моладзі: Нарыс // Малады араты. № 9—10; У хвалях жыцця: Апавяданне // Там жа. № 9—12; Пераменнікі, возьмемся за працу // Бел. вёска. 21 лют.; Нядзеляй // Там жа. 25 жн.

**1926.** Пастушкі: Апавяданне // Бел. піянер. № 10; Крык працы: Апавяданне // Маладняк. № 7—8;

Амаладзіўся: Апавяданне // Маладь араты. № 7; «Так бог даў!..»: Апавяданне // Полымя. № 3; На начлезе: Апавяданне // Там жа. № 6; Беларуская вёска дапамагла: Малюнак // Бел. вёска. 21 сак.; Вёска: [Урывак з аповесці] // Звезда. 16 февр.; Так часта бывае: [Апавяданне] // Там жа. 4 апр.; Вёска: Урывак з аповесці // Сав. Бел. 3 жн.

**1927.** Адплаціў: [Апавяданне] // Да дня вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Мн.; Напралом: Апавяданне // Бел. піянер. № 5; Залатыя званочкі: Апавяданне // Маладняк. № 6; Дзве баразны: Апавяданне // Полымя. № 3; На вёсцы: Апавяданне // Там жа. № 5; Сав. Бел. 27 мая; Помніцца... // Чырв. краіна. № 2; Казка жывая: [Урывак з аповесці] // Сав. Бел. 24 мая; На хутары: [Апавяданне] // Там жа. 20—22 жн.; Культура і мова бюракратызму // Там жа. 25 снеж. / Пад крыпт. М. Н.; У дарозе: [Нарыс] // Чырв. змена. 22 мая; На вуліцах горада Леніна: [Уражанні] // Там жа. 27 мая; Маладняковўская ўдзячнасць // Там жа. 1 чэрв. / Сааўт. В. Каваль, В. Маракоў.

**1928.** Слёзы веснавыя: Апавяданне // Маладняк. № 2; К працягам новага: Апавяданне // Там жа. № 4; Аднаго разу вечарам: Апавяданне // Там жа. № 6; Кацярына: Апавяданне // Там жа. № 11; За плячамі гадоў: [Апавяданне] // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 9; Заклятае шчасце: [Урывак з рамана] // Там жа. № 19; На хутары: Апавяданне // Полымя. № 2; Дні мядовыя // Звязда. 15 студз.; Зімовымі досвіткамі // Там жа. 2 снеж.; Па цёмных кутках: [Апавяданне] // Сав. Бел. 20, 21 чэрв.; Абарваная сімфонія: Урывак з рамана «Цераз калдобіны» // Чырв. змена. 25 ліст.

**1929.** Вечарам: Эскіз // Моладзь — за новы быт. Мн.; Гутарка з карэспандэнтам «Маладняка» // Маладняк. № 7; У палявых дарогах: [Апавяданне] // Там жа. № 8; Рэц.: К а б а к о ў М. // Полымя. 1929. № 10; Віхура ночы: [Урывак з апавядання «На начлезе»] // На Беларусі. 15 жн.; Той дзень: [Урывак з рамана] // Сав. Бел. 27 студз.; Вочы: Апавяданне // Там жа. 21 крас.; Вяснянка: [Урывак з рамана] // Там жа. 28 ліп.; Вечарам: Эскіз // Чырв. змена. 3 сак.; У дні барацьбы: [Урывак з рамана] // Там жа. 11 жн.

**1930.** Звер: Апавяданне // Паляўнічы Бел. № 4; У паўстанцаў: Замалёўкі // Полымя. № 3, 5—6; Новай дарогаю: Апавяданне // Чырв. Бел. № 23—24; На мяжы загонаў: [Эскіз] // Камунар Магілёўшчыны. 9 сак.

**1931.** На світанні: Апавяданне // Паляўнічы Бел. № 12; 1932. № 1; Скарабея: Урывак з аповесці // Чырв. Бел. № 15.

**1932.** Ванька Гак: Нарыс // Іскры Ільіча. № 24; Залатая восень: Урыўкі з дзённіка на Дарбудзе // Чырв. Бел. № 23—24; Пра мову ДВБ // ЛіМ. 21 крас. / Пад крыпт. Н-ч; Кацярынінскі гасцінец: [Штрыхі] // Сав. Бел. 30 кастр.

**1967.** На мяжы загонаў: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1.4.**

Н я в е р а ў А. Ташкент — горад хлебны: Аповесць / З рус. Мн., 1930.

Д о н ч а н к а А. Ударны атрад: Аповесць / З укр. Мн., 1933.

**1.5.**

**На рускую мову.** Соня из коммуны: [Апавяданне] / Пер. Л-на // Рабочий. 1929. 27 нояб.

**На ўкраінскую мову.** У вирі життя: Повість / Пер. О. Сорока. Харків, 1930.

Радість: [Апавяданне] / Пер. Л. Кардиналовська // Нова Білорусь. К., 1929.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А л я х н о в і ч М. Мікола Нікановіч // Нікановіч М. Мяцеліца. Мн., 1930; Г а н ч а р ы к М. Так пачынаўся шлях: Да 80-годдзя з дня нар. М. Нікановіча // ЛіМ. 1982. 16 крас.; Г а р э ц к і М. «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928. Мн., 1928. С. 101—103; Д а в і д з ю к А. Пад фальшыва-нацыянальным сцягам // Мастацтва і рэвалюцыя. 1933. № 1—2; К р а к о ц к і М. Пісаў жыццё народа // ЛіМ. 1977. 15 крас.; М у ш ы н с к і М. Творчасць, народжаная рэвалюцыяй // Нікановіч М. Светлая даль. Мн., 1985; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С к р ы г а н Я. Мікола Нікановіч // Нікановіч М. Летнім днём. Мн., 1960; Я г о ж. Прапаў без вестак // Скрыган Я. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1985. Т. 2; Я г о ж. Творчасць М. Нікановіча // Маладняк. 1929. № 5—6; С т р у м і н с к і М. Крытыкі і лірыкі контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму // Чырвонаарм. праўда. 1933. 5 сак.; Т р ы к л і н і Т. Казкі для малых і вялікіх // Узвышша. 1929. № 2; У с л а ў л е н н е маладосці // Беларусь. 1972. № 4; Ф о м ч а н к а А. Голас зямлі роднай // Вяч. Мінск. 1970. 12 жн.; Ш у ш к е в і ч С. Сын незабыўных дзён // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.

**На рускай мове.** К л е й н б о р т Л. М. Никанович // Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928.

*В. У. Смольская.*

# НІКІФАРОВІЧ ВАНКАРЭМ



*Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (н. 15.11.1934, Мінск), крытык, перакладчык. Член СП Беларусі з 1972.*

Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. У гады Вялікай Айчыннай вайны жыў у Мічурынску, потым у г. Цяцюшы Татарскай АССР. Калі былі вызвалены першыя раёны Беларусі, разам з маці вярнуўся на радзіму, жыў у г. п. Церахоўка Гомельскай вобл., потым у г. Тарту (Эстонія), а з 1946 — у Мінску. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1952) паступіў на філалагічны факультэт БДУ, які скончыў у 1957. Працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь» (1957—65). З 1965 старшы рэдактар, з 1976 загадчык аддзела Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Па напісаных В. Нікіфаровічам сцэнарыях прайшлі ў эфір больш за 50 перадач пра сучасную беларускую літаратуру і яе аўтараў, пра асобныя старонкі з гісторыі нашай літаратуры, культурныя і літаратурныя ўзаемасувязі Беларусі з іншымі рэспублікамі. У 1983—87 працаваў памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Мінскага тэатра-студыі кінаакцёра. З 1987 памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Узнагароджаны балгарскім ордэнам Кірылы і Мяфодзія.

Літаратурнай працай пачаў займацца з 1958. Выступаў у друку як літаратурны крытык. Пісаў нарысы, рэцэнзіі, артыкулы па пытаннях развіцця беларускай літаратуры для дзяцей, сучаснай паэзіі і прозы, па праблемах тэлебачання. Асобнае месца ў творчасці займаюць праблемы мастацкага перакладу. Артыкулы, прысвечаныя літаратурным узаемасувязям Беларусі з замежнымі краінамі, сабраны ў кнігах «Усяму свету — свой дар», «Дарогі ў шырокі свет». Даследуе галоўным чынам беларуска-балгарскія літаратурныя ўзаемасувязі і ўзаемасувязі літаратур народаў СНД, выступае ў друку і як тэатральны крытык. Перакладае пераважна з балгарскай мовы на беларускую і рускую мовы. Аўтар сцэнарыяў дакументальных і тэлевізійных фільмаў, цыкла тэленарысаў «У сям'і адзінай», «Помнікі не маўчаць», «Дом Макаравых», «Такая ў зямлі песня» і інш., інсцэніровак для тэлеспектакляў Беларускага рэспубліканскага тэлебачання па творах А. Куляшова, І. Мележа, А. Кулакоўскага, І. Пташнікава, Р. Барадуліна, Я. Сіпакова і інш.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Усяму свету — свой дар: Пераклады твораў беларускай савецкай літаратуры за мяжой. Мн., 1973. (Б-чка газ. «Голас Радзімы»). Рэц.: Н а р а з н ы х языках // Сел. газ. 1974. 9 июня.

Дарогі ў шырокі свет: Старонкі літаратурных узаемасувязей. Мн., 1979. Рэц.: В е р а б е й А. Пра дружбу літаратур // Полымя. 1980. № 5; К а з ы р а Л. Добра, ды не ўсё... // ЛіМ. 1980. 28 ліст.; К о п и л е н к о Л. Дороги у широкий світ // Літ. Укр. 1981. 14 лип.; Я к а ў л е в а Г. Дарогі ў шырокі свет // Голас Радзімы. 1979. 27 снеж.; S i e l i c k i F. // Sl. Orient. 1981. Nr 2.

**1.3.**

**1958.** Літаратура барацьбы і перамог: Да адкрыцця канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі // За вярт. на Радзіму. № 77 / Сааўт. С. Польскі; Аповесці аб лётчыках: [Рэц. на кн.: А л е ш к а А. Іх першых вітае сонца. Мн., 1957] // Маладосць. № 6; Цікавае ў звычайным: [Рэц. на кн.: Р ы л ь к о А. Цвіце чаромха. Мн., 1957] // ЛіМ. 12 крас.; Літаратура барацьбы і перамог // Там жа. 4 кастр. / Сааўт. С. Польскі.

**1959.** На пачатку стагоддзя // Маладосць. № 2; Паэзія маладосці, паэзія працы // Там жа. № 8; Женские судьбы: [Рэц. на кн.: В а с и л е в и ч А. Вечная тема. Мн., 1958] // Сов. Отчизна. № 4; Апавяданні пра сучаснікаў // ЛіМ. 9 мая; Голас супраць каланіялізму // Там жа. 4 ліп.

**1960.** Пра нашых сучаснікаў: [Рэц. на кн.: Д а н і л е н к а М. Майская навальніца. Мн., 1959] // Маладосць. № 3; Пясняр братняй Румыніі // Звязда. 5 ліст.; Аповесць напісаў журналіст: [Рэц. на кн.: Р о м а н о в А. На исходе ночи. Мн., 1959] // ЛіМ. 10 чэрв.; Супраць «карычневай чумы»: [Рэц. на кн.: Б р э д э л ь В. Ад Эбра да Волгі. Мн., 1960] // Там жа. 16 вер.; Подзвіг Петруся Каваля: [Рэц. на кн.: С а в і ц к і А. Кедры глядзяць на мора. Мн., 1960] // Чырв. змена. 27 крас.

**1961.** Герой паэта — наш сучаснік: [Рэц. на кн.: П р а к о ф ' е ў А. Прызнанне ў любві. Мн., 1961] // Звязда. 11 жн.

**1962.** На быстрыні жыцця: [Рэц. на кн.: Н я д з в е д с к і У. У лясной старане. Мн., 1962] // Полымя. № 5; Голас мільёнаў: [Рэц. на кн.: Г о л а с сэрца. Мн., 1962] // Там жа. № 12; Мільён экземпляраў // Звязда. 3 ліст.; Народнае багацце // ЛіМ. 27 сак.

**1963.** Кніга аб нашай дружбе // Голас Радзімы. № 1; У гонар нашага краю... // Там жа. № 80; Ён быў камуністам: [Рэц. на кн.: Б я с с м е р ц е. Мн., 1963] // Полымя. № 5; Як і для дарослых, толькі яшчэ лепш... // Там жа. № 10; Кроў на пазалоце: [Рэц. на кн.: Л ы н ь к о ў М. За акіянам. Мн., 1962] // Звязда. 28 лют.; Всегда с народом, всегда с партией // Знамя юности. 27 нояб.; У пошуках маладога героя // ЛіМ. 16 ліп.

**1964.** Наследники героя-комсомольца: (Очерк) // Люди высокого долга. Мн.; Хваляванне неспакойнага сэрца: [Рэц. на кн.: М е х а ў У. Станцыя паблізу Тамбова. Мн., 1964] // Беларусь. № 11; О времени и о себе // Сов. Бел. 3 дек.

**1965.** У нашых перакладчыкаў // Голас Радзімы. № 29; Перакладчык «Гамлета» // Полымя. № 4; Падарожжа ў сучаснасць: [Рэц. на кн.: П е с т р а к П. Сярод чаротаў. Мн., 1964] // Там жа. № 7; Малому прынеслі новую кніжку... // ЛіМ. 13 ліп.; Нямецкая літаратура на беларускай мове // Наст. газ. 20 кастр.; Волнение за камерой и перед экраном // Сов. Бел. 27 янв.; Поэтическое наступление: Вам, книголюбы! // Там жа. 9 июля; И сокращаются большие расстояния // Там жа. 12 авг.; Жыватворная крыніца // Чырв. змена. 11 вер.

**1966.** Заўсёды з народам // Голас Радзімы. № 30; Працяг добрай традыцыі: [Рэц. на кн.: А д с т р о м балканскіх. Мн., 1965] // Полымя. № 4; Ад стром балканскіх // ЛіМ. 18 кастр.; Свет новой жизни // Сов. Бел. 9 окт.

**1967.** Песни новой жизни // Сов. Бел. 12 апр.

**1968.** Кніга і яе героі: [Рэц. на кн.: С т р а л ь ц о ў М. Сена на асфальце. Мн., 1966] // Беларусь. № 3; Ад хваляванняў да раўнавагі: [Рэц. на кн.: Б л а т у н С. Раўнавага. Мн., 1968] // Полымя. № 9; У экрана — вся страна // Сов. Бел. 7 марта.

**1969.** Спросить себя: [Рэц. на кн.: С т р е л ь ц о в М. Что будет сниться. М., 1968] // Неман. № 3; Падарунак сяброў // ЛіМ. 11 лют.; Правдиво, полнокровно, ярко // Сел. газ. 1 июня; Летапісец векапомных дзён // Чырв. змена. 30 ліст.

**1970.** За синим Дунаем: [Нарыс] // На перекрестках планеты. Мн.; У адным ключы // Беларусь. № 12; [Рэц. на кн.: С и м а н о в и ч Д. Минуты. Мн., 1969] // Неман. № 9; Радость, пережитая дважды // Сов. Бел. 2 сент.

**1971.** «Белоруссия — бяла балада»: Тры дні ў Балгарыі // ЛіМ. 15 кастр.; Наш госць — Андрэй Германаў // Там жа. 3 снеж.; Свята блакітнага экрана // Чырв. змена. 2 кастр.

**1972.** Літаратура збліжае народы // Голас Радзімы. № 22; Вачыма і сэрцам друга: [Рэц. на кн.:

Поптонев С. Белоруссия — бяла балада. София, 1971] // Полымя. № 5; Нашай дружбе мацнець // Вяч. Мінск. 27 мая; Наш общий праздник // Знамя юности. 23 мая; Дарогамі Магілёўшчыны // ЛіМ. 2 чэрв.

**1973.** Пераклад — зброя гуманізму, міру, прагрэсу: Нататкі пра ўзаемасувязі беларускай і нямецкай літаратур // Голас Радзімы. № 23; Алтайские встречи // Неман. № 10; Свет сялібы паэта: [Рэц. на кн.: Зуёнак В. Сяліба. Мн., 1973] // ЛіМ. 13 крас.; Свята непарушнай дружбы: Нарыс // Там жа. 29 чэрв.; «Загадкай не змяніць эпоху...»: [Рэц. на кн.: Семашкевіч Р. Субота. Мн., 1973] // Там жа. 10 жн.; Такая она, Америка // Сов. Бел. 20 янв.

**1974.** На блакітным экране — «Тартак» // Голас Радзімы. № 22; Праз прызму сучаснасці: [Рэц. на кн.: Андраюк С. Жыццё. Літаратура. Героі. Мн., 1973] // Маладосць. № 6; Перачытваючы серыю... // ЛіМ. 19 ліп.; Выбар Багдана Хацяноўскага: [Рэц. на кн.: Кулакоўскі А. Сцежкі зведаныя і нязведаныя. Мн., 1974] // Там жа. 6 вер.; Панорама жизни и борьбы // Сов. Бел. 23 марта; Трудные раунды // Сов. спорт. 6 сент.

**1975.** У жанры музычнага фільма: Штрыхі да творчага партрэта кінарэжысёра Юрыя Цвяткова // Голас Радзімы. № 13; Пачатак ёсць... Што далей? // ЛіМ. 4 ліп.; Радасць зямнога дотыку: [Рэц. на кн.: Макаль П. Дотык да зямлі. Мн., 1975] // Там жа. 8 жн.; Беларуская проза — на балгарскай мове // Там жа. 12 вер.; «Мы ўсе — будаўнікі, па сутнасці...»: Нататкі пра ўзаемасувязі беларускіх і балгарскіх маладых пісьменнікаў // Чырв. змена. 27 вер.

**1976.** У імя братняй супольнасці // Беларусь. № 5; Новая встреча с Гарсиа Лоркой: [Рэц. на кн.: Лорка Ф. Г. Блакітны звон Гранады. Мн., 1975] // Неман. № 10; Сугучнасць слоў і думак: [Рэц. на кн.: Германаў А. Касцёр на вяршыні. Мн., 1975] // Полымя. № 6; На мове сяброў // ЛіМ. 6 жн.; Чувство Родины великой: [Рэц. на кн.: Коротич В. Зеленый виноградник. М., 1975] // Сов. Бел. 23 мая; Калі прыходзіць сталасць...: [Рэц. на кн.: Кудравец А. Дзень перад святам. Мн., 1975] // Чырв. змена. 22 чэрв.

**1977.** Ад імя пакалення: [Рэц. на кн.: Голуб Ю. Векапомнае поле. Мн., 1976] // Маладосць. № 4; Заметкі аб сучаснай беларускай мастацкай літаратуры // Ніва. 4 вер.

**1978.** «Твой вечны помнік — мой сардэчны верш...» // Дзень паэзіі — 1978. Мн.; Тэлефільм пра Беларусь // Беларусь. № 2; Сын двух республик // Неман. № 8; Даследуецца балгарская паэзія: [Рэц. на кн.: Гілевіч Н. Верная вялікім запаветам: Сучасная балгарская паэзія. Мн., 1977] // Полымя. № 2; Цуд паэтычнага пераўвасаблення: [Рэц. на кн.: Семяжон Я. Сем цудаў свету. Мн., 1977] // Там жа. № 9; Беларуская проза на балгарскай мове // Голас Радзімы. 16 сак.; Беларусь у сэрцы // ЛіМ. 17 ліст.

**1979.** «Адамкнуў бы я лета» // Маладосць. № 6; Аб'ект даследавання — паэтыка: [Рэц. на кн.: Кабаковіч А. Паэзія Максіма Багдановіча. Мн., 1978] // Полымя. № 5; Наш госць — Стэфан Паптонеў // ЛіМ. 21 вер.

**1980.** Запрашэнне ў падарожжа // Адпачынак з байкапісцам. Мн.; Праўдзівая і чалавечная: (Водгукі на беларускую прозу ў Балгарыі) // Далягляды. Мн.; Роздум пра Беларусь: [Рэц. на кн.: Вълчев Н. Белоруска бреза. София, 1979] // Полымя. № 3; Вернасць баявой маладосці // Віцеб. рабочы. 1 мая; Героі — нашы сучаснікі: [Рэц. на кн.: Левановіч Л. Якар надзеі. Мн., 1979] // ЛіМ. 11 студз.; Беларусь — у сэрцы горца // Там жа. 4 ліп.

**1981.** У адзінай сям'і літаратур // Беларусь. № 3; У пошуках сваёй спецыфікі // Там жа. № 4; Зброяй слова: [Рэц. на кн.: Лынькоў М. Публіцыстыка. Мн., 1980] // Полымя. № 5; Урокі майстэрства // Полымя. № 6.

**1982.** Дружная з сонцам краіна // Бярозка. № 6; В его книгах — эпоха // В мире книг. № 9; Дружная з сонцам: Нарыс // Полымя. № 5; Пад дахам свету, ля высокіх вяршынь: Нарыс // Там жа. № 11; Плён братняга супрацоўніцтва // ЛіМ. 5 сак.; У балгарскім друку // Там жа. 2 ліп.; Нашы класікі па-балгарску // Там жа. 16 ліп.; Судьба — к судьбе // Сов. Бел. 7 сент.

**1983.** Рэжысёр тэлевізійнага тэатра // Мастацтва Бел. № 5; Ад імя пакалення: [Рэц. на кн.: Някляеў У. Знак аховы. Мн., 1983] // Полымя. № 12; У пошуках свайго аблічча // Тэатр. Мінск. № 5; Жыць, як людзі // ЛіМ. 7 студз.; Сустрэча з сябрамі // Там жа. 29 ліп.; Героі Расіна на тэлеэкране // Там жа. 18 ліст.; Нести свой дар // Сов. Бел. 29 июня.

**1984.** Каб заўсёды было жыццё // Далягляды. Мн.; «Я вам ні слова не зманю...»: Язэпу Семяжону — 70 // Беларусь. № 11; Духовное величие подвига: В. Быкову — 60 // В мире книг. № 6; [Рэц. на кн.: Симанович Д. Солнечный хмель. Мн., 1982] // Неман. № 4; Святое слова — дружба // ЛіМ. 2 сак.; Вернасць ідэалам маладосці // Там жа. 21 вер.; Как боевой приказ... // Сов. Бел. 15 июня.

**1985.** Пазначана любоўю // Далягляды. Мн.; Достижение перевода: Формирование концепции // Майстарство превода — традиции и съвременни изискивания. София; У яго быў свой вострaў // Маладосць. № 4; Такая ў яго прафесія // Вяч. Мінск. 15 кастр.; Возвращение к истокам // Знамя юности. 19 марта; Братэрскім сэрцам // ЛіМ. 8 лют.; Полдень его поэзии // Сов. Бел. 23 февр.

**1.4.**

Грыгораў К. Танча з Гарацвета: Аповесць / З балг. Мн., 1961.

Калчаў К. Закаханыя птушкі: Аповесць / З балг. Мн., 1964.

Караславаў Г. Нявестка: Аповесць / З балг. Мн., 1966.

Габровские улыбки / С болг. Мн., 1968.

Угараў Г. Кліча Радопскі бор: Аповесць / З балг. Мн., 1972.

Адпачынак з байкапісцам: Балгарскі гумар. Мн., 1980.

Мішаў Г. Матрыярхат: Аповесць / З балг. Мн., 1981. Рэц.: Гуліцкі Г. Кнігапіс // ЛіМ. 1981. 11 вер.

Улыбки друзей: Сборник болгарского юмора. Мн., 1981.

Калчаў К. Люба: Раман / З балг. Мн., 1984.

Усмешкі на старых здымках: Апавяданні, гумарэскі / З балг. Мн., 1990.

**1962.** Севярняк С. Слова каваля: Апавяданне / З балг. // Звязда. 25 вер.

**1963.** Шумíхін М. Вясна ў Цянь-Шані: [Нарыс] / З кірг. // Дружбай з'яднаны мы назаўжды. Мн.; Тодараў Й. На беразе Дуная: Аповесць / З балг. // Бярозка. № 6, 7; Пятроў І. У дарозе: Апавяданне / З балг. // Звязда. 14 ліст.; Васілеў О. Хісткае крэсла; Рамонт у раманіста-кібернетыста: Маленькія апавяданні; Огнеў Ж. На сходзе літаратараў: Выпадковыя запісы; Шывараў Д. Прозвішча: Апавяданне / З балг. // ЛіМ. 7 мая; Тодараў Й. Нечаканы стрэл: Апавяданне / З балг. // Там жа. 6 вер.; Пятроў І. Першая тайна; Адно імгненне волі: Апавяданні / З балг. // Там жа. 1 ліст.

**1964.** Мкрціч А. Дзяўчына, якая шукала мяне; Кочар Р. Сястра генерала; Тацікян Ш. Песня: [Апавяданні] / З арм. // Кветкі Арарата. Мн.; Гаранаў Н. Тайна атрада «Космас»: Апавяданне / З балг. // Бярозка. № 9; Калчаў К. Закаханыя птушкі: Урывак з аповесці / З балг. // ЛіМ. 2 чэрв.; Дэнеў М. Вясенні вецер: Апавяданне / З балг. // Там жа. 8 вер.; Вылчаў Г. Плады свабоды / З балг. // Наст. газ. 9 вер.

**1965.** Браты Мармаравы. Ружа; Іваноў М. Культурныя мерапрыемствы: [Успаміны] / З балг. // ЛіМ. 7 вер.; Станеў Э. Арлы: Апавяданне / З балг. // Там жа. 17 вер.; Остриков И. Разбитое окно: (Рассказ) / С болг. // Сов. Бел. 18 сент.

**1966.** Тодараў Й. Няёмкае становішча: Апавяданне / З балг. // Вожык. № 14.

**1967.** Грубешліева М. Дома; Каралійчаў А. Сокалава поле; Караславаў Г. Браты; Васілеў А. Любоўная гісторыя; Волен Г. Сіла жыцця; Станеў Э. Арлы; Даскалоў С. Апошні танец; Асенаў Д. Строгае выхаванне; Остраў І. Пятнаццаць мінут любві; Севярняк С. Слова каваля; Тодараў Й. Прамова ў абарону любві; Галі-

на Л. Восень у дубовых лясах: [Апавяданні] / З балг. // Скарб: Апавяданні балгарскіх пісьменнікаў. Мн.; Грубешліева М. Дома / З балг. // Маладосць. № 9; Габровские анекдоты / С болг. // Неман. № 3; Аўэзаў М. Паляўнічы з арлом: Апавяданне / З каз. // Полымя. № 11; Габраўскія анекдоты / З балг. // ЛіМ. 30 чэрв.

**1968.** Фучаджыеў Д. Бэз: Апавяданне / З балг. // Маладосць. № 10; Мишев Г. Матриархат: [Аповесць] / С болг. // Неман. № 10; Гуляшкі А. Навагодні вечар Авакума Захава: Апавяданне / З балг. // ЛіМ. 1 студз.

**1969.** Даскалов С. Глашатай: [Апавяданне] / С болг. // Неман. № 9; Паптонеў С. Помста: Апавяданне / З балг. // ЛіМ. 27 чэрв.; Папоў В. Быць птушкай: Апавяданне / З балг. // Чырв. змена. 9 вер.

**1970.** Вылчаў Г. Балгарскае ў беларускім літаратуразнаўстве / З балг. // Маладосць. № 6.

**1971.** Тодоров Й. Лунный свет: [Апавяданне] / С болг. // Сов. Бел. 9 сент.

**1972.** Паптонеў С. Беларусь — белая балада / З балг. // Голас Радзімы. № 27; Райнов Б. Бразильская мелодия: Роман / С болг. // Неман. № 3, 4; Даскалаў С. Невядомая: Апавяданне / З балг. // Вяч. Мінск. 27 мая; Папоў В. Птушкі: Апавяданне / З балг. // ЛіМ. 26 мая; Чалкаш. Варона; Асёл і Салавей: Старыя байкі на новы матыў / З балг. // Там жа. 2 чэрв.; Галина Л. Яркая лампочка: Рассказ / С болг. // Сов. Бел. 21 мая; Странджев К. У бетонщиков: [Навелы] / С болг. // Там жа. 25 мая.

**1975.** Пятроў І. Свой чалавек; Пеліцеў Х. Два мядзведзі: Гумарыстычныя апавяданні / З балг. // Беларусь. № 7; Цонеў В. Эх, каханне, каханне!: Апавяланне / З балг. // Там жа. № 9; Галіна Л. Начная змена; Агні на зямлі: [Апавяданні] / З балг. // ЛіМ. 18 крас.

**1976.** Джэркавіч М. Мост, які не разбураецца часам / З балг. // Далягляды. Мн., Георгіеў К. Нелегальны; Асенаў Д. Сустрэча: [Апавяданні] / З балг. // Беларусь. № 9; Незнакомаў П. Апошні прытулак; Паптонеў С. Беражыце кветкі: [Апавяданні] / З балг. // ЛіМ. 10 вер.

**1978.** Уладзіміраў С. Чалавек народжаны для подзвігу / З балг. // Далягляды. Мн.; Іоўкаў І. Снег у маі: Апавяданне / З балг. // Беларусь. № 3.

**1979.** Жыдліцкі В. Два артыкулы аб творчасці Івана Пташнікава / З чэш. // Далягляды. Мн. / Сааўт. пер. В. Крайко; Паптонеў С. Беларусь — белая балада; Бярозы, я ў палоне ў вас!: Нарысы / З балг. // Паптонеў С. Беларусь — белая балада. Мн.; Яго ж. Беларусь — белая балада / З балг. // Полымя. № 1; Яго ж. Дзеля жыцця на зямлі: Урывак з кнігі «Кап'ё» / З балг. // Віцеб. рабочы. 20 кастр.; Уладзіміраў С. Зноў сустрэцца з сябрамі / З балг. // ЛіМ. 6 ліп.

**1980.** Поптонев С. Белоруссия — белая баллада: [Раздзелы з кнігі] // С болг. // Неман. № 11; Станилов В. В ожидании следующего; Цонев В. Как вести себя за столом; Челкаш. Вежливый; Антонов-Тонич А. Как я спасся от хулиганов: [Гумарэскі]; Незнамов П. Что это — юмор?; Ралин Р. Мысли вслух / С болг. // Знамя юности. 5 сент.; Тодараў А. Талеркі: [Гумарэска] / З балг. // ЛіМ. 12 вер.; Іваноў М. Цырульніцкая балада: [Гумарэска] / З балг. // Там жа. 24 кастр.

**1981.** Ралін Р. Паслядоўнасць: Апавяданне / З балг. // Вожык. № 17; Думбадзе Н. Алвануры; Адкуль у горадзе ястраб?; Квіцарыдзе Д. Біклага; Бярозка ў жыцце; Барада; Вясна; Гадэрдзішвілі Т. Чацвёрты гарызонт; Рэха; Чэйшвілі Р. Бзіянеці; Андронікашвілі Б. БМЖ; Інанішвілі Р. Мужчыны: [Апавяданні] / З груз. // Полымя. № 8.

**1982.** Баранга А. Дзеля агульнай карысці: Камедыя / З рум. // Далягляды. Мн.

**1983.** Мітоўска М. Наступным пакаленням / З балг. // Далягляды. Мн.; Уладзіміраў С. Шукальнік вечнага / З балг. // ЛіМ. 29 крас.

**1984.** Гадэрдзішвілі Т. Вясёлая арэна: Аповесць / З груз. // Братэрства. Мн.; Паптонеў С. Дзеля жыцця на зямлі / З балг. // Полымя. № 6; Яго ж. У сэрцы маім — Беларусь // Там жа. № 7; Кынева П. Загадка мастацтва / З балг. // ЛіМ. 16 сак.; Уладзіміраў С. Два жыцці Максіма Багдановіча / З балг. // Там жа. 20 крас.; Мітоўска М. Афарбаваная памяць / З балг. // Там жа. 18 мая.

**1985.** Квіцарыдзе Д. Біклага; Інанішвілі Р. Тоція прыехаў; Іаселіяні О. Адзін дзень; Гадэрдзішвілі Т. Прыгоды Гігі; Петрыяшвілі П. Чалавек, які любіў дождж: Апавяданні / З груз. // Дружная з сонцам. Мн.; Паптонеў С. Беларусь — белая балада; Бярозы, я ў палоне ў вас!: Нарысы / З балг. // Паптонеў С. Беларусь — белая балада. Мн.

**1.5.**

**На балгарскую мову.** Изстрадано с душата и сърцето // Белоруски повести. Варна, 1978.

**На чэшскую мову.** Takie literatura sbližnje narody // Nova Svoboda. 1962. Nr 5.

**1.6.**

Адпачынак з байкапісцам. Мн., 1980 / Скл.

Дружная з сонцам: Творы пісьменнікаў Грузіі і грузінскага фальклору. Мн., 1985. (Б-ка дзіцячай літ. народаў СССР) / Скл. з Р. Інанішвілі.

Такая любоў: Сучасная балгарская аповесць. Мн., 1987 / Скл.

Гарбачоў І. Полюсы нашай дасягальнасці: [Інтэрв'ю] // Чырв. змена. 1971. 4 ліп. / Зап.; Шамякин И. ТВ — это человековедение: (Беседа) // Телевидение. Радиовещание. 1982. № 3 / Зап.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Аніскові У. Адказнасць перакладчыка: Заўвагі на палях // ЛіМ. 1967. 17 ліст.; Бугаёў Д. Здабыткі крытычнай думкі і яе зігзагі // Бугаёў Д. Чалавечнасць. Мн., 1985; Ванкарэму Нікіфаровічу — 50 // ЛіМ. 1984. 16 ліст.; Верабей А. Пра дружбу літаратур // Полымя. 1980. № 5; Лецка Я. Хараство і боль жыцця. Мн., 1985. С. 13—14; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Рагойша В. В. Нікіфаровічу — 50 гадоў // Полымя. 1984. № 11. *В. У. Смольская.*

# НІКІФАРОЎСКІ МІКАЛАЙ



Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч [крыпт. Н. Я. Н., N. N.; 5(17).5.1845, в. Вымна Віцебскага пав. Віцебскай губ., цяпер Віцебскага р-на — 28.5(10.6).1910, Віцебск], этнограф, фалькларыст, літаратар, педагог.

Нарадзіўся ў сям'і дзяка. Скончыў Віцебскае духоўнае вучылішча (1861) і Віцебскую духоўную семінарыю (1867). Педагагічную дзейнасць пачаў у кастрычніку 1867 у Лоўжанскім народным вучылішчы Віцебскай губ. У 1871 пераехаў у Віцебск для работы законанастаўнікам Першага прыходскага вучылішча, адначасова рыхтаваўся да экзамену на званне настаўніка рускай мовы павятовага вучылішча. Пасля здачы экзамена (1876) пераведзены настаўнікам падрыхтоўчага класа Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Гродзенскай губ. У 1882 вярнуўся ў Віцебск, дзе з невялікім перапынкам (1900—02) да канца свайго жыцця працаваў настаўнікам падрыхтоўчага класа мужчынскай гімназіі.

Побач з педагагічнай дзейнасцю вёў вялікую працу па вывучэнні культуры і побыту беларускага народа, шырока прапагандаваў іх у сваіх навуковых публікацыях. Яшчэ ў час вучобы ў семінарыі ў 1860-я гады пачаў запісваць фальклорныя творы, а пазней па просьбе этнографа П. Шэйна, карэспандэнтам якога быў на працягу 20 год, апісаў асаблівасці побыту і культуры беларусаў. Сваёй папулярнасцю і навуковай каштоўнасцю працы П. Шэйна абавязаны апублікаванню ў іх матэрыялаў М. Нікіфароўскага. На самастойны навуковы шлях перайшоў у 1891. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала Маскоўскае таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, правадзейным членам якога М. Нікіфароўскі быў з 1890. У далейшым актыўна супрацоўнічаў з Рускім геаграфічным таварыствам (з 1897), Віцебскім царкоўна-археалагічным старажытным сховішчам (з 1895), Віцебскім губернскім статыстычным камітэтам (з 1895). За дваццацігадовы перыяд самастойнай навуковай работы выдаў і падрыхтаваў да друку каля 20 прац па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны, якія з'яўляюцца і ў нашы дні каштоўнай крыніцай для вывучэння асаблівасцей побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу. Характарыстыцы грамадскага побыту і сацыяльна-эканамічнага становішча розных слаёў і груп сельскага насельніцтва Віцебшчыны М. Нікіфароўскі прысвяціў серыю публікацый у «Этнографическом обозрении» (1892—99) пад агульнай назвай «Нарысы Віцебскай Беларусі». Пытанні грамадскага побыту гарадскога насельніцтва ўпершыню закрануты ў яго гістарычнай працы «Старонкі з нядаўняй старыны горада Віцебска». М. Нікіфароўскаму належыць першая спецыяльная праца ў беларускай этнаграфічнай літаратуры па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сельскага насельніцтва «Нарысы простанароднага жыццябыцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку». Першы раздзел гэтай кнігі дае грунтоўную характарыстыку харчавання і класіфікацыю страў, іх прыгатаванне (112 страў), гатункі хлеба. У асобных раздзелах апісваюцца адзенне і абутак, сельскія паселішчы, сядзібы, жыллё і гаспадарчыя будынкі, інтэр'еры жылых памяшканняў. Апошні раздзел дае падрабязную характарыстыку вытворчай дзейнасці сялян: земляробства, промыслаў і рамёстваў, прылад працы. З фальклорных прац М. Нікіфароўскага асаблівай увагі заслугоўваюць першы буйны зборнік «Беларускія песні-частушкі» (2356 частушак), «Простанародныя загадкі». Вераванням, забабонам, звычаям, абрадам, паданням прысвечаны працы «Простанародныя прыкметы і павер'і, забабоны і звычаі, легендарныя сказы аб асобах і месцах» (2307 запісаў) і «Нячысцікі». Даследаванні і публікацыі М. Нікіфароўскага вызначаюцца вобразнасцю апісанняў, сакавітасцю мовы, што надае ім літаратурна-мастацкую каштоўнасць. *В. К. Бандарчык.*

## Бібліяграфія


1.2.
Очерки Витебской Белоруссии. I — V. М., 1892—1897. I. Старцы. М., 1892. II. Дудар и музыка. М., 1892. III. Пособники жихара. М., 1893. IV. Подданые пособники. М., 1893. V. Питущие и пропойцы. М., 1897.

Сельскошкольное обучение в юго-восточной окраине Витебской Белоруссии, каким застает его реформа 19 февраля 1861 г. Витебск, 1893. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1893. № 67, 68, 71—76).

Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. Витебск, 1895; Рэц.: К а р с к и й Е. Новые труды по белорусской этнографии // ЖМНП. 1896. № 5; Л я ц к и й Е. // Этнограф. обозрение. 1896. № 1.

Гончарные терракоты Витебска по археологическим находкам. Витебск, 1897. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1897. № 135—138).

Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1896—1897). Рэц.: К а р с к и й Е. // ЖМНП. 1897. № 10; Л я ц к и й Е. // Этнограф. обозрение. 1897. № 4.

На почве простоты веры: (Бытовая картинка). Витебск, 1898. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1898. № 11, 12.)

Никольская церковь в Задвинской слободе м. Бешенковичи Лепельского уезда. Витебск, 1899. (Отд. отт. из «Полоц. епарх. вед.». 1899. № 3—5).

Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1899. Рэц.: С т у к а л и ч В. Н. Я. Никифоровский: Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1900. (Отд. отт. из «Витеб. губ. вед.». 1900. № 231, 232).

Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии. Витебск, 1903. (Отд. отт. из «Полоц. епарх. вед.». 1903. № 10—20, 22).

Нечистики: Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907.

**1.3.**

**1874.** Четыре листка из памятной книжки сельского учителя // Нар. школа. № 9.

**1892.** Очерки Витебской Белоруссии. I. Старцы // Этнограф. обозрение. № 1; Очерки Витебской Белоруссии. II. Дудар и музыка // Там жа. № 2, 3.

**1893.** Очерки Витебской Белоруссии. III. Пособники жихара // Этнограф. обозрение. № 2; Сельскошкольное обучение в юго-восточной окраине Витебской Белоруссии, каким застает его реформа 19 февр. 1861 г.: (Воспоминания бывшего ученика) // Витеб. губ. вед. № 67, 68, 71—76.

**1894.** Очерки Витебской Белоруссии. IV. Подданые пособники // Этнограф. обозрение. № 1.

**1896.** Очерки Витебской Белоруссии. V. Питущие и пропойцы // Этнограф. обозрение. № 4.

**1897.** Очерки Витебской Белоруссии VI. Игры и игроки // Этнограф. обозрение. № 3; Гончарные терракоты Витебска по археологическим находкам // Витеб. губ. вед. № 135—138.

**1898.** Материалы для народного снотолкователя // Этнограф. обозрение. № 1; Очерки Витебской Белоруссии. VII. Бабы або жонки // Там жа. № 2; На почве простоты веры: (Бытовая картинка) // Витеб. губ. вед. № 11, 12.

**1899.** Никольская церковь в Задвинской слободе м. Бешенковичи Лепельского уезда // Полоц. епарх. вед. № 3—5; Очерки Витебской Белоруссии. VIII. Сбяги, прочки, вонки, уходалы // Этнограф. обозрение. № 1—2.

**1903.** Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии // Полоц. епарх. вед. № 10—20, 22.

**1962.** Біяграфія І. Буйніцкага, напісаная пасля яго смерці М. Нікіфароўскім // Бел. мастацтва. Вып. 3.

**1.6.**

Простонародные загадки: Собр. в Витеб. губ. Н. Я. Никифоровский. Витебск, 1898. (Отд. отт. из «Памятной книжки Витеб. губ.» за 1897 г.) / Скл. Рэц.: Л я ц к и й Е. // Этнограф. обозрение. 1898. № 3.

Б е л о р у с с к и е песни-частушки, собранные Н. Я. Никифоровским. Вильна, 1911 / Скл. Рэц.: К а р с к и й Е. // РФВ. 1912. Т. 67.

Белорусские загадки // Памятная книжка Витебской губернии на 1898 год. Витебск, 1898 / Скл.; Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии // Зап. Сев.-Зап. отдела Русского Географического Общества. 1910. № 1; 1911. № 2; 1912. № 3 / Скл.; Духоўныя песні // Гоман. 1917. 14, 17, 21, 24, 28, 31 жн., 4, 7 вер. / Скл.; Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі // Крывіч. 1924. № 1 / Скл.; Напаўпрыказкі — напаўпрыслаўкі // Зап. аддзелу гуманіт. н. 1928. Кн. 4 / Скл.

**2.2.**

**На рускай мове.** Б о н д а р ч и к В., Ч и г р и н о в И. Николай Яковлевич Никифоровский: Очерк жизни и деятельности. Мн., 1960. Рэц.: Б о г а н У. Для пачатку — добра // ЛіМ. 1961. 28 лют.; Б у р н о с а ў В. Нарыс пра выдатнага вучонага // Полымя. 1961. № 4; К о р з у н У. Буйнейшы беларускі этнограф // Беларусь. 1961. № 8; Я н к о ў с к і Ф. Настаўнік, этнограф, фалькларыст // Наст. газ. 1961. 25 лют.

С т у к а л и ч В. Н. Я. Никифоровский. 1845—1910 г.: Крит.-биогр. очерк. Вильна, 1910. (Отд. отт. из «Зап. Сев.-зап. отд. РГО». 1910. Кн. 1).

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а н д а р ч ы к В. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 161—174; Я г о ж. Выдатны беларускі этнограф // ЛіМ. 1960. 21 мая; Я г о ж. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961. С. 34—38; Б а н д а р ч ы к В., Л а р ч а н к а М. Развіццё беларускай фалькларыстыкі // Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мн., 1966. С. 43—44; Б л а г і н і н Л. Да юбілею Шэйна, Нікіфароўскага і Раманава // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1947. № 1; Г а р э ц к і М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня. 1920. С. 130; 2 выд. Вільня, 1921. С. 130; 3 выд. Вільня. 1924. С. 130; Г і л е в і ч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 63—66; Д з е й н а с ц ь беларускіх вучоных-этнографаў і асвета // Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985. С. 326—328; І г н а т о ў с к і У. Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі // Вольны сцяг. 1921. № 2; П е ц ю к е в і ч М. Мікола Нікіфароўскі — беларускі этнограф // Калоссе. 1935. № 4; У чэсць Міколы Нікіфароўскага // Шлях моладзі. 1935. № 12; Ч. [Ч ы г р ы н а ў]. Мікалай Нікіфароўскі // Полымя. 1966. № 6.

**На рускай мове.** Б о н д а р ч и к В. Ученый и педагог // Неман. 1975. № 7.

**3.1.**

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1.

*В. У. Смольская.*

# НОВІК ГАННА



**Новік Ганна Аляксееўна** [н. 12(25).3.1914, г. Аўгустоў Сувалкскай губ., цяпер Польшча], паэтэса, празаік. Член СП Беларусі з 1960.

Нарадзілася ў сям'і вясковага каваля. Маці — хатняя гаспадыня. У горад бацькі выехалі ў пошуках заробку. У час першай сусветнай вайны вярнуліся ў родную вёску Варонічы на Вілейшчыне. З дзевяці гадоў Ганна працавала наймічкай. У 1924 пайшла ў 2-і клас пачатковай школы, праз тры гады скончыла 4 класы і зноў наймалася працаваць на палявых работах у заможных гаспадароў. У 1930 пайшла ў 5-ы клас Куранецкай сямігодкі і праз 2 гады скончыла 7 класаў. Далей вучыцца не было сродкаў. У 1935 была ў жаночым лагеры для беспрацоўнай моладзі ў Рашыне каля Варшавы. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху неаднаразова арыштоўвалася. У чэрвені 1936 група з 12 чалавек спрабавала ўцячы ў Савецкі Саюз. Трапілі ў рукі пагранічнікаў. Адзін з групы быў забіты, астатніх арыштавалі. Г. Новік, як кіраўнік групы, трапіла ў Вілейскую турму. Праз паўгода выпусцілі пад нагляд паліцыі. Наймалася на падзённыя работы, была вучаніцай краўца. У 1937 яе зноў арыштавалі. У 1939, пасля прыходу Чырвонай Арміі, выбрана дэпутатам Народнага Сходу Заходняй Беларусі. У 1939—40 працавала намеснікам старшыні Вілейскага райспажыўсаюза, інспектарам Куранецкага раённага аддзела народнай адукацыі. Завочна вучылася ў 47-й сярэдняй школе Мінска. У гады Вялікай Айчыннай вайны працавала на гаспадарцы ў в. Варонічы, была сувязной партызанскай брыгады імя Даватара. Шыла партызанам шапкі і маскхалаты. Пасля вайны выбіралася дэпутатам сельскага Савета, засядацелем народнага суда. З 1948 старшыня калгаса, старшыня сельскага Савета (в. Кузьмічы Вілейскага р-на), памочнік начальніка палітаддзела Будслаўскай МТС Маладзечанскай вобл. У 1951 паступіла на завочнае аддзяленне аграноміі Мар'інагорскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Праз 2 гады з-за хваробы пакінула вучобу, а з 1954 — і працу. Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Першы верш Г. Новік «У дарозе» змешчаны ў часопісе «Калоссе» ў 1937. Творы яе друкаваліся ў «Беларускім летапісе» і іншых заходнебеларускіх выданнях. Аўтар кнігі вершаў «Мае вёсны». У 1956 у часопісе «Полымя» надрукаваны фрагменты паэмы «Праз восем год». З 1955 у перыядычным друку змяшчаюцца яе апавяданні і нарысы, фрагменты аповесці «Другая сустрэча». Асноўная тэма яе твораў — жыццё і праца людзей вёскі. Пісьменніца па-свойму бачыць цікавыя з'явы ў жыцці і паэтычна ўмее пра іх расказаць. Вершы, апавяданні, дарожныя нататкі друкуе ў вілейскай раённай газеце «Шлях перамогі».

Жыве ў г. Вілейка Мінскай вобл.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Мае вёсны: Вершы. Мн., 1961. Рэц.: Чыгрын І. Так сэрца дыктуе // Полымя. 1962. № 3.

**1.3.**

**1937.** Маё сонца: [Верш] // Бел. летапіс. № 6—7; Песнярам: [Верш] // Там жа. № 8; Не таму я стаў: [Верш] // Там жа. № 9; У дарозе: [Верш] // Калоссе. № 3.

**1938.** Аратай: [Верш] // Шлях моладзі. № 14, 15; Дзяўчыне: [Верш] // Там жа. № 20, 21.

**1939.** Жаноцкая доля: [Верш] // Шлях моладзі. № 7; Пагодная ноч: [Верш] // Там жа. № 10; Струна: [Верш] // Там жа. № 11; Вёсцы: [Верш] // Вілейская праўда. 27 ліст.; Пад зорамі Крамля: [Верш] // Там жа. 21 снеж.

**1940.** Мая радзіма: [Верш] // Вольная праца. 27 снеж.; Таварышам: [Верш] // ЛіМ. 3 жн.; Сталин. молодежь. 20 авг.; Сустрэча // Сялян. газ. 24 лют.; Першая вясна: [Верш] // Там жа. 22 чэрв.

**1946.** Таварышам: [Верш] // Семнаццатага верасня. Мн.

**1947.** Адроджанае жыццё; А калі дрэмле лес: [Вершы] // Беларусь. № 4; Расце новая вёска // Сав. селянін. 15 чэрв.; Адбудаванае сяло // Там жа. 26 чэрв.;

Мельнічук Ю. Памфлеты / З укр. Мн., 1961.
Вятроў І. Браты па зброі / З рус. Мн., 1962.

**1944.** Фарух Б. Сябрам-дэсантнікам: [Верш] / З тадж. // Звязда. 16 жн.

**1947.** Ляўчук І. У цаху; Хрысціч М. Песня; Ранак: [Вершы] / З рус. // ЛіМ. 17 мая; Нізамі. Перавага мовы вершаванай над празаічнай: Раздзел з паэмы «Скарбніца таямніц» / З азерб. // Там жа. 20 вер. / Сааўт. пер. А. Бачыла.

**1948.** Зар'ян Н. Вясна; Словы хлебаробаў: [Вершы] / З арм. // ЛіМ. 17 ліп.; Сасюра У. «У напружанай працы, бы ў грозных баях...»; «Любіце Айчыну, любіце заўсёды...»: [Вершы] / З укр. // Там жа. 8 снеж.

**1949.** Рэйзін Р. Думы вартавога; Талалай Л. У палявым штабе: [Вершы] / З яўр. // Мы іх не забудзем. Мн.; Масэнка Т. Роднай сястры: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 1 студз.

**1950.** Шымкус І. Шчасце: [Верш] / З літ. // ЛіМ. 22 ліп.

**1951.** Малікаў К. Расія: [Верш] / З кірг. // ЛіМ. 3 лют.

**1952.** Сасюра У. Майская песня; Савецкая Армія; Бычко В. Ішоў я ў школу; Я хоць невялічка; Пеўнікі: [Вершы] / З укр. // Вершы для дзяцей. Мн.; Маякоўскі У. Сакрэт маладосці: [Верш] / З рус. // Маякоўскі У. Выбр. тв. Мн.; Рыльскі М. Слова пра родную маці: [Верш] / З укр. // Рыльскі М. Выбр. тв. Мн.; Тычына П. Мой траўню залаты; Рыльскі М. Слова пра родную маці; Сасюра У. «Так ніхто не кахаў...»; «У напружанай працы...»; «Любіце Айчыну...»; Бажан М. Вецер з усходу; Ганчарэнка І. Аксана; Васкрэсенка С. Ад душы; Дзмітэрка Л. Ты на Дняпры, а я за Одэрам; Бычко В. Песня пра Сталіна; Малышка А. Грузчыкі; Хвалі акіяна б'юць...; Песня; Чырвоная бліскавіца; Каралі; Ліст; Алейнік С. «Няма ўказання»; Біба П. Мы будзем жыць ізноўку без журбы; Марганец; Горы; Возера Рыца; За ракою Арпачаем; Рудэнка М. Мы ўжо не тыя...: [Вершы] / З укр. // Украінская савецкая паэзія. Мн.; Максімаў М. Мір — за нас: [Верш] / З рус. // Беларусь. № 4; Твардоўскі А. Дом ля дарогі: (Раздзел з паэмы) / З рус. // Полымя. № 7.

**1953.** Малышка А. Чырвоная бліскавіца; Грузчыкі; «Хвалі акіяна б'юць у бераг...»; «Дзяўчынка стаіць на панелі...»; Каралі; Ліст: [Вершы] / З укр. // Малышка А. Выбраныя творы. Мн.; Твардоўскі А. Дом пры дарозе: (Урывак з паэмы) / З рус. // Руская савецкая паэзія. Мн.; Твардоўскі А. Дом ля дарогі: Паэма / З рус. // Твардоўскі А. Выбраныя творы. Мн.; Радары Д. Якога колеру рамёствы?: [Вершы] / З італ. // Бярозка. № 7; Лагода В. Мая рука: [Верш] / З укр. // Вожык. № 23; Маякоўскі У. Сакрэт маладосці: [Верш] / З рус. // Маладосць. № 4; Рыльскі М. Прысяга: [Верш] / З укр. // Полымя. № 4; Суркоў А. «Вораг дом разбурыў і разбіў...»; «На лузе ад гарматы косы цень...»: [Вершы] / З рус. // Там жа. № 6; Тувім Ю. Песня аб Светлым Доме: [Верш] / З пол. // ЛіМ. 28 ліст.

**1954.** Бажан М. Песня волі; Балада пра подзвіг; Жалезны крыж; Сцяг на штыку; Кліч; Вецер з Усходу; Сцягі перамогі: [Вершы] / З укр. // Бажан М. Выбраныя творы. Мн.; Тычына П. Што месяцу зорачкі кажуць; «Поўны сілы маладой...»; Гаі шумяць...; Хадзіла ў гай я; Курэнь; «Жыві, жыві, красуйся...»; Памяці Оксаны Петрусэнка; Наша слава; Мой маю залаты: [Вершы] / З укр. // Тычына П. Выбраныя творы. Мн.; Стэльмах М. Каля млына; Працадні: [Вершы] / З укр. // Бярозка. № 5; Стэльмах М. Над Чарамошам (Гуцульскія матывы): Аповесць / З укр. // Полымя. № 5; Адудзька Ц. Браты: [Верш] / З укр. // Там жа. № 9; Упенік М. Сястра вялікае Расіі: [Верш] / З укр. // Работніца і сялянка. № 2; Варанько П. Песня дружбы: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 16 студз.; Рыбак Н. На векі вечныя: Урывак з 2-га тома рамана «Перэяслаўская Рада» / З укр. // Мін. праўда. 17 студз.

**1955.** Раждзественскі У. Беларусі: [Верш] / З рус. // Беларусь. № 1; Белшэвіца В. Мая Радзіма; Лукс В. Маладыя будзем: [Вершы] / З лат. // ЛіМ. 24 снеж.

**1957.** Лагода В. Якім; Масэнка Т. Дзень над Дняпром; Як пахне зямля: [Вершы]; Марыя Ульянава: [Урывак з паэмы]; Стэльмах М. Лірыка: «Ізноў мне здаецца ўсё новым...»; «Зялёны стэп, чырвоны мак...»; «Сустрэч няма ўжо вечаровых...»; «Пад жоўты смутак явароў...»: [Вершы] / З укр. // Дзень украінскай паэзіі. Мн.; Нагнібяда М. Часта сняцца мне ў сне Карпаты; Агні; Кабзару; На Маскоўскім вакзале: [Вершы] / З укр. // Нагнібяда М. Песня з Украіны. Мн.; Украінка Л. Надзея; Канвалія; Калі стамлюся я жыццём штодзённым; Сяброўцы на ўспамін; «Калі ў любімыя гляджу я вочы...»: [Вершы] / З укр. // Украінка Л. Вершы і паэмы. Мн.; Масэнка Т. Як пахне зямля: [Верш] / З укр. // Полымя. № 6; Лагода В. Якім: [Верш] / З укр. // Звязда. 8 лют.; Варанько П. Ад Масквы да Карпат: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 18 мая; Стэльмах М. Лірыка: [Верш] / З укр. // Там жа. 1 чэрв.

**1958.** Гіра Л. Народ і паэты; Радасныя дні; Грыбас У. Кара-Даг; Дрылінга А. Цана зерня; Пачатак; Малдоніс А. Слёзы; Мішкініс А. Агні; Маё слова; Рудокас В. Стрэл: [Вершы] / З літ. // Галасы сяброў. Мн.; Дрылінга А. Цана зерня: [Верш] / З літ. // Маладосць. № 5; Гіра Л. Радасныя дні; Малдоніс А. Слёзы: [Вершы] / З літ. // Полымя. № 5; Шогенц Ц. Ёлка: [Верш] / З арм. // ЛіМ. 8 лют.

**1959.** Алейнік С. Не кажы, што ты паэт; «Няма ўказання»: [Вершы] / З укр. // Алейнік С. Гумар і сатыра. Мн.; Брутане В. Агонь жыцця; Дзінарэ Ц. Сыну; Скалбе А. Лета; Хейслер Х. Якім будзеш, сэрца?: [Вершы] / З лат. // Ветрык, вей! Мн.; Валашчак А. Брыгадам камуністычнай працы: [Верш] / З укр. // Полымя. № 10; Бянюк М. Ленін: [Верш] / З рум. // Віцеб. рабочы. 23 жн.; ЛіМ. 8 жн.; Мін. праўда. 25 жн.; Чабаніўскі М. У Кіеве, на Падоле: Апавяданне / З укр. // ЛіМ. 7 сак.; Алейнік С. Не гавары, што ты паэт: [Верш] / З укр. // Там жа. 1 жн.; Дзінарэ Ц. Сыну: [Верш] / З лат. // Чырв. змена. 9 вер.

**1960.** Істру Б. Гайдукі; Панамар Ф. «Буна, фрацэ!»; Адказ дачцы: [Вершы] / З малд. // Паэты сонечнай Малдовы. Мн.; Сасюра У. «Пацяплела, хоць снег яшчэ ў полі...»; «З руін узняўся дом. Цаглiну на цагліну...»; Тэрыконы; «У напружанай працы, бы ў грозных баях...»; Я люблю; Аскольдава магіла; «Ізноў іду шчаслівым хуткім крокам...»; «Над Дняпром жураўлі зноўку будуць вітаць Украіну...»; «Гуцулка спявае між кветак і траў...»: [Вершы] / З укр. // Сасюра У. Выбранае. Мн.; Плотнікаў М. Маці: [Верш] / З рус. // Голас Радзімы. № 23; Камар Б. Каменчык: Апавяданне / З укр. // Маладосць. № 3; Мельнічук Ю. Тры памфлеты: Хто такі епіскап Мсціслаў; З жыцця бандыцкага атамана; Адказ фанатыку / З укр. // Полымя. № 5; Істру Б. Гайдукі: [Верш] / З малд. // Там жа. № 8; Яго ж. Я слаўлю партыю: [Верш] / З малд. // Звязда. 27 вер.; Рыльскі М. Калі капаецца бульба: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 19 сак.; Плотнікаў М. Маці: [Верш] / З рус. // Там жа. 20 лют.; Барскі Л. Метамарфоза: Апавяданне / З малд. // Мін. праўда. 18 вер.

**1961.** Масэнка Т. Як пахне зямля; Сонца над Дняпром: Вершы: Марыя Ульянава: Урывак з паэмы / З укр. // Масэнка Т. Вішнёвыя зоры Украіны. Мн.; Пракоф'еў А. Мае рэкі; Кветкі сінія, лугі...; «Сінее ў промнях мачтавы лясок...»; «Крануў на ўзмор'і вецер клёны...»; Браты; «Бушуе Балтыйскае мора...»: [Вершы] / З рус. // Пракоф'еў А. Прызнанне ў любві. Мн.; Тычына П. Акно ў міжпланетныя прасторы: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 27 студз.; Масэнка Т. Як пахне зямля: [Верш] / З укр. // Там жа. 29 жн.

**1962.** Хакім-задэ Н. Вітаю я Саветы!; Зульфія. Мушаіра; Мухтар А. Юнацтва маё...; Крамлёўскія елкі: [Вершы] / З узб. // Спявае Узбекістан. Мн.

**1963.** Юшчанка А. Мая зямля заўжды са мной; У лесе; «Трашчаць цыкады, як сухое голле...»; Плыты ідуць; «Быў Ленін госцем каваля...; Асканія Нова (Стэпавы эцюд); «Я кнігу разгарнуў, каб у вандроў-

ку...»; Халоднай восенню: [Вершы] / З укр. // Юшчанка А. Калі ласка! Мн.

**1964.** Навіцкі А. Шаўчэнка і Олдрыдж; Панчанка У. На Тарасавай гары: [Вершы] / З укр. // Полымя. № 3; Гарэцкі П. Зямля Купалы: [Верш] / З укр. // Там жа. № 9; Рыльскі М. Новае шаўчэнкаўскае слова / З укр. // Звязда. 8 сак.

**1965.** Матузявічус Э. Праз туман; Статак ідзе...; У навальніцу: [Вершы] / З літ. // Матузявічус Э. Просіцца ў песню мора. Мн.; Рыльскі М. Айчыне: [Верш] / З укр. // Голас Радзімы. № 13; Гарэцкі П. Мая зямля: [Верш] / З укр. // Там жа. № 27; Яго ж. Бярозка: [Верш] / З укр. // Там жа. № 48; Яго ж. Балада пра сасну / З укр. // Звязда. 11 крас.; Турсун-задэ М. Клятва: [Верш] / З тадж. // Мін. праўда. 20 ліст.

**1966.** Турсун-задэ М. Клятва; Ансары Ф. Нецярплівая дзяўчына; Канаатаў М. Ленін наш; Стары і кветкі; Новы месяц; Наша праўда; Агонь; Кахары А. Кабул; Рака і песня; Чадра і зоры; Дарога; Рахім-задэ Б. Пісьмо з берлінскай чайханы; Фарух Б. Сябрам-дэсантнікам; Фархат М. Дзве чынары; Шаралiеў Л. Зераўшан: [Верш] / З тадж. // Паэты Таджыкістана. Мн.; Хакім-задэ Н. Вітаю я Саветы!; Мірмухсін. Праўдзівае слова; «Я чую даўні водгук бою...»: [Вершы] / З узб. // Сонца ў арыках. Мн.; Канаатаў М. Агонь; Ленін наш: [Вершы] / З тадж. // Знамя юности. 9 окт.; Яго ж. Ленін наш: [Верш] / З тадж. // Піянер Бел. 14 кастр.

**1967.** Міколіч М. Партызанская маладосць: [Верш] / З сербахарвац. // Дзень паэзіі — 67. Мн.; Гарэцкі П. Мінску: [Верш] / З укр. // Мін. праўда. 28 мая / Сааўт. пер. А. Астрэйка.

**1968.** Маякоўскі У. Сакрэт маладосці: [Верш] / З рус. // Работніца і сялянка. № 7.

**1969.** Гарэцкі П. Балада пра сасну; Зямля Купалы; Хмель; Бярозка; «У полі выйшлі...»; «Зямлю цалую...»: [Вершы] / З укр. // Гарэцкі П. З дняпроўскіх круч. Мн.

**1970.** Канаатаў М. Ленін наш: [Верш] / З тадж. // З Леніным заўсёды Беларусь. Мн.

**1971.** Гюг К. Вяртанне Жана-Поля; Што яны робяць: Вершы / З фр. // Паэты Парыжскай Камуны. Мн.

**1972.** Гамзатаў Р. «Хоць я не бяссмертнік...»; Калі я заходзіў у дом...; Бывай, Стамбул!; З балгарскага сшытка: Да неба дастаю рукой зямною...; Балгарыя, зайдзі ў мой верш...; Ружа балгарская; Сафія, я цябе люблю; Вялікая краіна: [Вершы] / З авар. // Гамзатаў Р. Высокія зоркі. Мн.; Эмін Г. Газела; Сляпы; «Каля дома ў цішы...»; «Пры кожнай разлуцы...»; Камітас у пустыні: [Вершы] / З арм. // Эмін Г. Песні Арменіі. Мн.; Сасюра У. «У напружанай працы, бы ў грозных баях...»: [Верш] / З укр. // Бярозка. № 2; Ігнаценка М. Палессе: [Верш] / З укр. // ЛіМ. 17 сак.; Рыльскі М. Якубу Коласу: [Верш] / З укр. // Там жа. 3 ліст.

**1973.** Казачэнка В. Іх было сорак; Баш Я. Калі я плакаў; Чандэй І. Чайкі ляцяць на ўсход; Багмут І. Характар; Сіманенка В. Віно з ружаў: Апавяданні / З укр. // Рука друга. Мн.; Лагода В. Загрэба / З укр. // Вожык. № 4.

**1974.** Збанацкі Ю. Пудзілы з Кукардамі: [Навела] / З укр. // Беларусь. № 1; Яго ж. Мы — не з легенды. Дакументальная аповесць / З укр. // Полымя. № 1.

**1975.** Кежун Б. Брэст; Кузняцоў В. Брэст: [Вершы] / З рус. // Рэха ў граніце. Мн.; Рыльскі М. Слова пра родную маці; Тарэшчанка М. Навіна; Дзяўчына з Украіны; Ураджай; Дзмітэрка Л. «Пекнаю шаўчэнкаўскай Аксанай...»: [Вершы] / З укр. // Украінская савецкая паэзія. Мн. Т. 1; Лагада В. Зірніце на рукі, салдаты!; Каб добра было!; Ножык; Нектар жыцця: [Вершы] / З укр. /7 Украінская савецкая паэзія. Мн. Т. 2; Яго ж. Ножык: [Верш] / З укр. // Полымя. № 6; Пракоф'еў А. «Бушуе Балтыйскае мора...»: [Верш] / З рус. // Звязда. 2 снеж.

**1977.** Фарух Б. Сябрам — дэсантнікам: [Верш] / З тадж. // Звязда. 16 жн.

**1978.** Радары Д. Колькі ўсяго дзяцей на свеце: [Верш] / З італ. // Піянер Бел. 29 чэрв.

**1979.** Радары Д. Колькі ўсяго дзяцей на свеце: [Верш] / З італ. // Ніва. 23 вер.

**1982.** Сасюра У. «У напружанай працы бы ў грозных баях...»: [Верш] / З укр. // Бярозка. № 3.

**1984.** Рыльскі М. Слова пра родную маці: [Верш] / З укр. // Ля Вечнага агню. Вершы, 1941—1945. Х.; Мн.

**1985.** Рыльскі М. Слова пра родную маці; Агні Масквы; Прарок зары: [Вершы] / З укр. // Рыльскі М. Світальная зара. Мн.

**1.5.**

**На армянскую мову.** Вецер моцна б'е ў вакно; Пра маці; Вясенняя песня: [Вершы] / Пер. В. Авсяпян; Вялікі мой і ціхі акіян: [Вершы] / Пер. Арценян // Анталогія беларускай літаратуры. Ерэван, 1957.

**На балгарскую мову.** Великият пшеничен океан: [Верш] / Прев. Н. Вълчев // Септември, 1960. Кн. 11.

**На латышскую мову.** Par mati; Mans varenais un klusais okeans; Bresta rozeş vel zied; Mana republika / Atdz. I. Auzins // Baltkrievijas priede. Rīgā, 1960; Komjaunicša biedra karte: Kinonovele // Cina. 1960. 3. Sept; Mana republika / Atdz. I. Auzins // Pad. Jaunatne. 1962. 30. Dec.; Mana republika / Atdz. I. Auzins // Zīlīte. 1967. Nr 11; Brestā rozes vel zied. Dzeja // Stars. 1972. 7. Nov.

**На літоўскую мову.** Paminklas Leninui; Rytmetis / Vert. V. Bloze // Is baltarusiu poezijos. Vilnius, 1952; «Mūrininkai dirba cia karstai...» / Vert. A. Skinkys // Literatūra ir menas. 1953. Saus. 25.; Su duona ir druska sutinkam / Vert. P. Keidosius; Vēl Poleseje giedra diena; Iš tolo matyti Drisviatai / Vert. J. Siozinys; Lietūs / Vert. E. Matuzevicius // Atplaukia Nemunu daina. Vilnius, 1958; Lietus / Vert. E. Matuzevicius // Pergale. 1958. Nr 9; Su duona ir druska sutinkam / Vert. P. Keidošius // Tiesa. 1958. Geg. 25; Lietus / Vert. E. Matuzevičius // Taryb. mokyt. 1982. Rugp. 25.

**На малдаўскую мову.** Кынтек де примэварэ: [Верш] / Трад. А. Гужель // Поезій белорусе. Кишинэу, 1956; Карнетул комсомолист: (Нувелэ чинематографикэ) // Тинеримя Молдовей, 1960. 2 окт. / Сааўт. Ю. Багушэвіч.

**На польскую мову.** W muzeum wojny / Tł. Segal // Materiały Repertuarowe. 1965. Nr 3; W muzeum wojny / Tł. W. Segal // Świat naszej woli. Warszawa, 1977.

**На рускую мову.** Алешка-атаман; Сорочий лес: Повести / Пер. Л. Соловей, Ю. Богушевич. Мн., 1968.

Сорочий лес; Туман над степью; Алешка-атаман: Повести / Пер. Ю. Богушевич, Л. Соловей. Мн., 1974. (Б-ка бел. повести).

Путь на Эльбу: Повесть / Пер. А. Борушко. Мн., 1978. (Б-ка бел. повести).

Памятник Ленину: [Верш] // Сталин. молодежь. 1948. 2 июля; Родная усадьба / Пер. Б. Иринин; Утро / Пер. В. Цвелев; Сбывшиеся сны / Пер. В. Потапова; Великий мой и тихий океан... / Пер. П. Дружинин: [Вершы] // Антология белорусской поэзии. М., 1952; Есть такая партия / Пер. Л. Хаустов; Памятник Ленину / Пер. В. Рождественский; Великий мой и тихий океан / Пер. А. Прокофьев; Перед грозой / Пер. М. Комиссарова; Сестра / Пер. Н. Браун; На горе Чернечьей / Пер. А. Прокофьев; О матери / Пер. А. Островский; Сбывшиеся сны; Проспект имени Сталина / Пер. П. Кобзаревский; Моим сверстникам / Пер. В. Лифшиц; Лучами негасимыми... / Пер. М. Комиссарова; Весенняя песня / Пер. А. Андреев; На площадях Праги; Ветры бьются крылами в окне / Пер. П. Кобзаревский; В Каховку! / Пер. М. Бернович: [Вершы] // Молодая Беларусь. М., 1952; На площадях Праги; Песня о солнце: [Вершы] / Пер. П. Кобзаревский // От всего сердца. Мн., 1953; Каховское море: [Верш] / Пер. П. Кобзаревский // Сов. Отчизна. 1953. № 5; Праздник труда: [Верш] / Пер. К. Титов // Сов. Бел. 1953. 19 июля; Советской Украине: [Верш] / Пер. Д. Ковалев // Там жа. 1954. 17 янв.; Сов. культура. 1954. 19 янв.; Электростанция дружбы: [Верш] / Пер. А. Тверской // Комс. правда. 1955. 12 февр.; Октябрю: [Верш] / Пер. Д. Ковалев // Сов. Бел. 1955. 6 нояб.; Двадцатый съезд: [Верш] // Там жа. 1956. 14 февр.; Великая сила: [Верш] / Пер. К. Титов // Там жа. 1957. 30 янв.; Соседи: [Верш] / Пер. К. Титов // Там жа. 1957. 9 июня; «Лучами негасимыми легла...»: [Верш] // Комс. правда. 1958. 21 сент.; Путь нашей

партии любимой: [Верш] // Сов. Бел. 1958. 22 апр.; В Каховку!; Славят землю повсюду мою: [Вершы] // Сов. Клайпеда. 1958. 19 сент.; О матери: [Верш] // Там жа. 1958. 23 сент.; Партии родной: [Верш] / Пер. В. Тарас // Сов. Бел. 1959. 14 янв.; Медное эхо: Баллада / Пер. Ф. Мурашко // Во славу Родины. 1960. 3 дек.; Комсомольский билет: (Киноновелла) // Сов. Бел. 1960. 27 окт. / Сааўт. Ю. Багушэвіч; Солдатская слава: [Верш] / Пер. Ф. Мурашко // Там жа. 1961. 3 февр.; Возмездие; Пламенное сердце / Сааўт. А. Звонак // Героини войны. М., 1963; Слава боевая: [Верш] / Пер. К. Титов // Во славу Родины. 1963. 1 нояб.; Стихи разных лет: «Я с боями грозными шагал...»; Слава; Кукушка; Целина / Пер. Ф. Мурашко // Неман. 1964. № 6; Разговор с друзьями детства: [Верш] / Пер. К. Титов // Во славу Родины. 1964. 15 янв.; Подвиг: (Рассказ артиллериста) / Пер. Ф. Мурашко // Там жа. 1964. 18 окт.; Минску; Перед атакой: [Вершы] / Пер. Ф. Мурашко // Там жа. 1964. 13 дек.; Герои не отступают // Сов. Бел. 1964. 12 дек.; Под знаменем Октября // Люди легенд. М., 1965. Вып. 1; Таджикскому брату: [Верш] / Пер. В. Кириллов // Коммунист Таджикистана. 1965. 27 нояб.; Сорочий лес: [Аповесць] / Пер. Ю. Богушевич // Неман. 1966. № 2; На тревожных рубежах; Возмездие; Пламенное сердце / Сааўт. А. Звонак // Люди легенд. Очерки о партизанах и подпольщиках Героях Советского Союза. М., 1968. Вып. 3; «Я с боями грозными шагал...»; Перед атакой: [Вершы] / Пер. Ф. Мурашко // Чтоб всегда было солнце. Мн., 1968; Возмездие; Пламенное сердце / Сааўт. А.Звонак // Героини. Очерки о женщинах — Героях Советского Союза. М., 1969. Вып. 2; Я с боями грозными шагал...: [Верш] / Пер. Ф. Мурашко // Мать моя, Беларусь. Элиста, 1969; ... Я с боями шел немало дней; Перед атакой; Боевым друзьям: [Вершы] / Пер. А. Шарапов // Путь к победе. Мн., 1970; Янош и Герминка: [Апавяданне] / Пер. А. Тонкель // Белорусские рассказы. М., 1971; Ветры бьются крылами в окне...; Каховское море: [Вершы] / Пер. П. Кобзаревский // Кобзаревский П. Говорят мои друзья. Мн., 1971; Туман над степью: [Аповесць] / Пер. Л. Соловей // Неман. 1971. № 11; Поэт и воин: [Верш] // Заря. 1971. 24 июля; Соседи: [Верш] / Пер. В. Лагода // Породнились навсегда. Репертуарный сборник. К., 1972; Слово о дружбе: [Верш] / Пер. И. Василевский // Чолом тобі, Славутичу; Поклон тебе, Славута; Паклон табе, Славуціч. Днiпропетровськ, 1972; Боевым друзьям: [Верш] / Пер. А. Шарапов // Во славу Родины. 1973. 27 апр.; Путь на Эльбу: [Аповесць] / Пер. А. Борушко // Неман. 1978. № 3; Слово о дружбе: [Верш] / Пер. И. Василевский // Извечной песни голоса. Мн., 1980; Слово о дружбе: [Верш] / Пер. И. Василевский // Чолом тобі, Славутичу; Поклон тебе, Славута; Паклон табе, Славуціч. Днiпропетровськ. М.; Мн., 1982; Таджикскому брату: [Верш] / Пер. В. Кириллов // Книга дружбы: Сб. стихов. Душанбе, 1984; Сестра / Пер. Н. Браун; На горе Чернечьей / Пер. А. Прокофьев; На Тарасовом кургане; В Киеве / Пер. В. Шошин: [Вершы] // Партизанская слава. Стихи и песни. Л., 1985.

**На таджыкскую мову.** Дехаи азиз; Орзуи баамаломада: [Вершы] / Тарч. И. Мукаддас // Армугони дусти (Мачмуаи эчодиёти шоирони белорус). Душанбе, 1965; Дар бахор оед назди мо...: [Верш] / Тарч. И. Мукаддас // Комсомоли Точикистон. 1965. 21 ноябрь.

**На узбекскую мову.** Белорус совет поэзияси [Уст. арт.]; Республикам; Менинг цехим; Тинч океан; Бахор куйи: [Вершы] / Г. Жахонгиров тарж. // Белорус шоирлари. Тошкент, 1962.

**На ўкраінскую мову.** Сорочий ліс: Повiсть / Пер. Ю. Збанацький. К., 1968.

Сестра: [Верш] / Пер. П. Дорошко // Літ. газ. 1949. 16 черв.; Великий мій і тихий океан: [Верш] / Пер. М. Нагнибіда // Вітчизна. 1953. № 1; Українському народові: [Верш] / Пер. М. Гірник // Там жа. 1954. № 5; Білорусія // Жовтень. 1955. № 9; Сестра: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Україна. 1955. № 3; Нашій дружбі міцніти й міцніти // Літ. газ. 1955. 3 лист.; Великий мій і тихий океан / Пер. М. Нагнибіда; Каховське море / Пер. Б. Степанюк; Сестра / Пер. О. Ющенко; Сусіди / Пер. П. Воронько: [Вершы] // Пісні з Білорусі. К., 1957; Каховське море: [Верш] / Пер. Б. Степанюк // Дніпро. 1957. № 9; Сестра / Пер. О. Ющенко; Сусіди / Пер. В. Лагода: [Верш] // Зміна. 1957. № 6; Каховське море: [Верш] / Пер. Ю. Назаренко // Колгоспне село. 1957. 17 вер.; Сусіди: [Верш] / Пер. В. Логода // Літ. газ. 1957. 25 черв.; Велика дружба // Там жа. 1957. 17 вер.; Сестра: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Там жа. 1957. 20 вер.; Низький уклін від землі белоруської // Там жа. 1957. 31 груд.; Бойовим братам: [Верш] / Пер. Л. Тендюк // Молодь України. 1957. 15 вер.; У Киеві: [Верш] / Пер. Ю. Назаренко // Ленінська правда. 1958. 18 трав.; На шляху творчого розквіту // Літ. газ. 1958. 30 груд.; Республіці моїй: [Верш] / Пер. М. Подолян // Вітчизна. 1959. № 1; Слово про дружбу: [Верш] / Пер. І. Гончаренко // Літ. газ. 1959. 16 січ.; Імені Тараса Шевченка: [Урывак з нарыса «Па бацькоўскіх сцежках»] // Там жа. 1961. 3 бер.; Слово про дружбу; Одному критику: [Вершы] / Пер. В. Матчук // Жовтень. 1962. № 12; Слово про незабутнього друга // Там жа. 1964. № 9; Незгасна зірка: [Успаміны] // Літ. Україна. 1965. 19 бер.; На горі Чернечій: [Верш] // Рад. Волинь. 1966. 16 квіт.; Несподівана проза: «Я ішов дорогами фронтів...»; Сестра; Великий мій і тихий океан; Республіка моя; Весняне; Сусіди; Слово про дружбу; Проліска: [Вершы] / Пер. В. Вільний, О. Ющенко, М. Нагнибіда, М. Ігнатенко // Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. II; Сусіди: [Верш] / Пер. В. Лагода // Поріднились назавжди. К., 1972; Слово про дружбу: [Верш] / Пер. М. Ігнатенко // Чолом тобі, Славутичу. Поклон тебе, Славута. Паклон табе, Славуціч. Дніпропетровськ, 1972; Республіка моя: [Вершы] // Деснянська правда. 1972. 24 вер.; Ми — Леніна сини; Сестра: [Вершы] // Там жа. 1972. 30 вер.; Сусіди: [Верш] // Там жа. 1972. 19 лист.; Сестра: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Комс. гарт. 1972. 28 вер.; Наші зустрічі: [Ліст Ю. Збанацкаму] // Літ. Україна. 1972. 12 груд.; Знайомі, вірні друзі: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Патріот Батьківщини. 1972. 23 лип.; Сестра: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Прикар. правда. 1972. 16 січ.; Сільські вісті. 1973. 28 черв.; Ідуть поїзди: [Верш] / Пер. В. Чабаненко // Комсомолець Запоріжжя. 1975. 21 черв.; Бойовим друзям: [Верш] / Пер. Ю. Назаренко // Молода гвардія. 1975. 20 вер.; На горі Чернечій: [Верш] / Пер. М. Негода // Молодь Черкащини. 1977. 20 вер.; Канівським партизанам: [Верш] / Пер. Е. Варда // Там жа. 1977. 1 лист.; Дружба: [Верш] // Прикар. правда. 1977. 16 жовт.; Пам'яті Максима Рильського; Криниця: [Вершы з кн. «Асеннія пракосы»] / Пер. М. Еременко // Черкас. правда. 1977. 11 вер.; Пам'яті Максима Рильського: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Літ. Україна. 1978. 26 груд.; Великий план / Пер. Л. Талалай; В Бресті ружі цвітуць / Пер. М. Нагнібіда; Пісня дружби / Пер. Л. Талалай: [Вершы] // Лісова колиска: К., 1979; Максимові Рильському: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Україна. 1979. № 23; Ленінське світло: [Верш] / Пер. В. Гуцаленко // Прапор. 1980. № 5; У Киеві [Верш] / Пер. В. Сидоренко // Сузір'я. К., 1982. Вип. 16; Слово про дружбу: [Верш] / Пер. М. Ігнатенко // Чолом тобі, Славутичу. Поклон тебе, Славута. Паклон табе, Славуціч. Дніпропетровськ; М.; Мн., 1982. У Киеві: [Верш] / Пер. П. Горецький // Початкова школа. 1982. № 7; У Киеві: [Верш] / Пер. В. Сидоренко // Друг читача. 1982. 27 трав.; Пам'яті Максима Рильського: [Верш] / Пер. О. Ющенко // Прапор комунізму. 1982. 12 вер.; Добром зігріте серце: [Верш] // Черкас. правда. 1982. 11 лип.; Я ішов дорогами фронтів... [Верш] / Пер. У. Вільны // Ля Вечнага агню. Вершы, 1941—1945. Х.; Мн., 1984.

**1.6.**

Л і в е н ц а ў В. Партызанскі край. Мн., 1950 / Літ. запіс. Рэц.: К а р п а ў У. Кніга аб усенароднай барацьбе // ЛіМ. 1950. 26 жн. 2 изд., дораб. Мн., 1969. 4-е изд., испр. и доп. Мн., 1983.

Л и в е н ц е в В. Партизанский край: Воспоминания. М., 1951 / Літ. запіс.

Л и в е н ц е в В. Партизанский край: Воспоминания. Мн., 1956 / Літ. запіс.

П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі біяграфічны даведнік. Мн., 1959 / Скл. з інш.

Паэты Таджыкістана. Мн., 1966 / Скл.

Шубітыдзе І. Палескія былі. Мн., 1969 / Літ. запіс.

Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі бібліяграфічны даведнік. Мн., 1970 / Скл. з інш.

Шубитидзе И. Полесские были. Мн., 1974. [Мемуары] / Літ. запіс.

Лівенцаў В. Лена Колесава: Урывак з кнігі // ЛіМ. 1947. 5 ліп. / Літ. апрац.

Лівенцаў В. Партызанскі край: [З кнігі «Па тылах ворага») // Полымя. 1948. № 9; ЛіМ. 1948. 21 лют. / Літ. апр.;

Лівенцаў В. Вайна на рэйках: Трэцяя частка [Нарыс] // Полымя. 1949. № 7 / Літ. запіс.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Абмеркаванне новай паэмы А. Бялевіча // ЛіМ. 1947. 21 чэрв.; Астрэйка А. Творчая сталасць // Беларусь. 1974. № 12; Броўка П. Літаратура і жыццё // Полымя. 1954. № 10; Бур'ян Б. Тры кнігі маладых паэтаў // Там жа. 1951. № 1; Бялевіч А. Каб песню падарыць вясне // Там жа. 1974. № 12; Яго ж. Слова пра друга // ЛіМ. 1964. 4 снеж.; Бярозкін Р. З блізкае далечы // Там жа. 1961. 11 ліп.; Ваданосаў М. У дарозе // Там жа. 1974. 5 снеж.; Віншаванне юбіляра // Там жа. 1964. 8 снеж.; Вольскі В. Вялікія будоўлі камунізма ў творах беларускай паэзіі // Полымя. 1953. № 2; Вялюгін А. Сэрца салдата // Дзень паэзіі — 84. Мн., 1984; Дашкевіч С. Яшчэ раз пра вайну // ЛіМ. 1979. 19 студз.; Дзень паэзіі // Віцеб. рабочы. 1956. 11 снеж.; Зайцаў Д. Творчыя вёрсты // Мін. праўда. 1974. 5 снеж.; Капец У. Слова маладосці // Віцеб. рабочы. 1955. 22 мая; Кірэенка К. Паэзія працы і міру // ЛіМ. 1951. 21 крас.; Крупенька Я. «І болей сонца ў вышыні...» // Чырв. змена. 1974. 5 снеж.; Лівенцаў В. [Уступны артыкул] // Нягай Р. Алёшка-атаман. Мн., 1967; Мартынава Э. Беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад. Мн., 1973. С. 99—104; Матэвушаў В. «Беларускі трактарны» // За Радзіму. 1950. 13 кастр.; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40-я — першая палавіна 60-х гадоў. Мн., 1985. С. 117—118; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Прыходзька П. Гарыць зары агонь // ЛіМ. 1984. 30 ліст.; Яго ж. Паэзія кінадакумента // Віцеб. рабочы. 1965. 27 чэрв.; Пысін А. Поле паэта // Маг. праўда. 1973. 8 вер.; Рыгору Нягаю — 60 // ЛіМ. 1974. 5 снеж.; Рыгору Нягаю — 70: Віншаванне // Там жа. 1984.: 30 ліст.; Шамякін І. Размова з чытачом: Артыкулы, выступленні, дзённікі. Мн., 1973. С. 62—63.

**На рускай мове.** Герцович Я. Испытание огнём // Нехай Р. Сорочий лес; Туман над степью; Алешка-атаман. Мн., 1974; Збанацкий Ю. Друзья по оружию // ЛГ. 1967. 18 окт.; Его ж. Его великий океан // Сов. Бел. 1984. 5 дек.

**3.1.**

БДАМЛіМ, ф. 88, воп. 1, 2, спр. 1—83.

*В. М. Грышкевіч.*



# ОРШЫН АНДРЭЙ

*Оршын Андрэй [магчыма, у сапраўднасці Яфімаў Аляксей Іванавіч; крыпт. А. О.; жнівень (?). 1874 — да 10.2.1936, Мінск, пахаваны на Вайсковых могілках (?)], празаік. Пісаў на рускай і беларускай мовах.*

З сялянскай сям'і. У дзяцінстве спазнаў беднасць і хранічны голад. У 1885 адпраўлены бацькамі на заробкі ў Пецярбург. У сталіцы вясковы юнак зведаў усё — і здзекі, і пабоі, і што такое падзёншчына і беспрацоўе. Але няўтольная прага да ведаў, любоў да роднай зямлі вырашылі яго далейшы лёс: ён атрымаў адукацыю агранома. Праца земскага агранома давала магчымасць наглядаць тагачасную вёску і правінцыяльную інтэлігенцыю. Свае назіранні А. Оршын афармляў у невялікія навелы, апавяданні. Станаўленне яго як пісьменніка адбывалася ў часы рэакцыі, праследавання рэвалюцыянераў, разгулу царскай цэнзуры, рэвалюцый 1905 і 1917 гадоў. Ён удзельнічаў у рэвалюцыйным руху ў Пецярбургу. У 1920—30-я гады жыў у Мінску, працаваў у газеце «Звезда», быў членам аб'яднання рускіх пісьменнікаў «Звенні» (1925—28).

Яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі А. Оршын пачаў друкавацца ў часопісах «Вестник знания», «Нива», «Русское богатство» (публікацыі не выяўлены). Пасля рэвалюцыі першы яго артыкул «Сельская гаспадарка» з'явіўся ў сенненскім часопісе «В буре» (1919). Карэспандэнцыі, нарысы, артыкулы А. Оршына змяшчаліся ў часопісах «Полымя рэвалюцыі», газетах «Заря Запада», «Звезда», «ЛіМ» і інш. Яго кнігі «Так было», «Цяжкія роды», «Этапным парадкам» пераклалі на беларускую мову П. Жарскі і М. Паслядовіч. У гэтых творах расказваецца пра супярэчнасці на вёсцы ў часы сталыпінскай рэформы, пра трагедыю галоднага сялянства, распад і бязволле дробнабуржуазнай інтэлігенцыі. Аповесць «Этапным парадкам», паводле сведчання Я. Шарахоўскага,— першая частка задуманага А. Оршыным вялікага рамана «Паўвека». Напісана яна на аўтабіяграфічным матэрыяле. Год нараджэння апавядальніка супадае ў аповесці з біяграфічнымі звесткамі пра пісьменніка, якія знойдзены ў архіве. Магчыма, Оршын Андрэй — толькі псеўданім пісьменніка, сапраўднае імя і прозвішча яго, як і ў героя аповесці, Аляксей Іванавіч Яфімаў (імя па бацьку таксама супадае з архіўнымі звесткамі). Нарадзіўся апавядальнік у в. Слабада Цвярской губ., якая знаходзілася каля вусця ракі Оршы (адсюль і другая назва той жа або суседняй вёскі — Воршына, якая, магчыма, стала псеўданімам пісьменніка). У сям'і яго бацькоў, Івана Яфімавіча і Зіновіі Паўлаўны, было сямёра дзяцей, сярод якіх Аляксей быў старэйшым. Ад 19-гадзіннай працы ў тракціры да рабочага майстэрні гільзавага аддзела патроннага завода «Арсенал» прайшоў герой аповесці (і, відаць, сам пісьменнік) у юнацкія гады. За пракламацыі, выпадкова знойдзеныя ў яго, быў арыштаваны, бязвінна асуджаны і высланы на востраў Валаам. Пасля адбыцця тэрміну высланы з Пецярбурга па этапах у Каблукоўскае валаснае праўленне, а адтуль у родную вёску — пад нагляд грамады і бацькоў. На прыкладзе свайго асабістага лёсу аўтар аповесці паказаў тыя цяжкія ўмовы, у якіх выхоўвалася і працавала да рэвалюцыі бядняцкая сялянская моладзь. У час свайго жыцця ў Мінску А. Оршын збіраўся напісаць вялікі твор пра Беларусь, але мара яго не збылася. Пасля цяжкай хваробы ён памёр.

*Г. М. Урупіна.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Так было: Апавяданні. Мн., 1930.

**1.3.**

**1919.** Сельское хозяйство / Пад крыпт. А. О.; Звериный образ: Рапсодия // В буре. № 1—2.

**1924.** Дом с наследством: (Сценка на суде) // Заря Запада. 27 сент. / Пад крыпт. А. О.

**1925.** Федосова тоска: [Апавяданне] // Звезда. 21 июня; Трактор: Отрывок из повести «Тяжелые роды» // Там жа. 23 авг.; Спектакль в деревне: (Отрывок из повести «Тяжелые роды») // Там жа. 6 сент.

**1931.** У лесарубаў: [Нарыс] // Звязда. 17 сак.

**1935.** Жоўты білет: (З кнігі «Паўвека») // Полымя рэвалюцыі. № 5; На сваіх нагах: (Урывак з кнігі «Паў-

века») // Там жа. № 6; У Казла: З кнігі «Паўвека» // Там жа. № 7; Кобазеўка: З кнігі «Паўвека» // Там жа. № 9; Людзі: (З кнігі «Паўвека») // Там жа. № 10; На патронным заводзе: (З кнігі «Паўвека») // Там жа. № 11, 12.

**1936.** Гарохавая нумар першы: (З кнігі «Паўвека») // Полымя рэвалюцыі. № 1; На Валааме: (З кнігі «Паўвека») // Там жа. № 2; Этапным парадкам: (З кнігі «Паўвека») // Там жа. № 3; Вечар дружбы // ЛіМ. 27 лют. / Пад крыпт. А. О.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Цяжкія роды: Аповесць / Пер. з рус. рукапісу П. Жарскі. Мн., 1929.

Этапным парадкам: Аповесць / Пер. М. Паслядовіч. Мн., 1936. Рэц.: Ш а р а х о ў с к і Я. // Полымя рэвалюцыі. 1936. № 10.

*Т. М. Махнач.*

# П

## ПАДАБЕД ЯЗЭП



Падабед Язэп Тодаравіч [псеўд.: Аркадзь Чабор, Аркадзь Чобар; лістапад 1905, в. Ванікоўшчына Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н — ?], паэт.

Паходзіў з сялянскай сям'і. Скончыў Белпедтэхнікум (1925). Працаваў у рэдакцыі акруговай газеты «Наш працаўнік» (Клімавічы Магілёўскай вобл.). Быў членам «Маладняка», дэлегатам яго 1-га з'езда, прымаў удзел у працы Калінінскай філіі «Маладняка» — уваходзіў у прэзідыум філіі і рэдкалегію альманаха «Маладняк Калінішчыны». Далейшы лёс Я. Падабеда не высветлены.

Паводле «маладнякоўскіх» анкет, Я. Падабед пачаў пісаць вершы ў 1923. Першай яго публікацыяй лічыцца верш «Будзь гатоў», змешчаны ў газеце «Беларускі піянер» (1924). Яго вершы з'яўляліся таксама на старонках часопісаў «Маладняк» і «Полымя». Да 1928 выступаў у рэспубліканскім друку з рэцэнзіямі, артыкуламі. Асобным выданнем творы Я. Падабеда выйшлі ў 1926. Яго вершы на грамадзянскую тэматыку мелі досыць дэкларатыўны характар, былі вытрыманы ў духу распаўсюджанага тады супрацьпастаўлення нешчаслівага мінулага жыцця стану надзей і акрыленасці, што прыйшлі з рэвалюцыйнымі пераменамі. Больш тонка выявіў сябе паэт у лірычных вершах асабістага плану, у паэтызацыі прыроды і спрадвечнай землярobчай працы. У гэтых творах менш дэкларацыйнасці і больш шчырага чалавечага пачуцця, мастацкасці. Пасля 1928 публікацыі твораў Я. Падабеда ў перыёдыцы зніклі. Прычыны гэтага пакуль не высветлены. Магчыма, адчуваючы набліжэнне рэпрэсій ці з якіх іншых прычын, паэт пакінуў небяспечную літаратурную дзейнасць, змяніў месца жыхарства. У 50—60-я гады, верагодна, жыў у Брэсце або Брэсцкай вобл., бо ў 1958—61 некалькі вершаў пад яго прозвішчам змешчаны ў брэсцкай абласной газеце «Заря».

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Вершы. Мн., 1926. (Кніжніца «Маладняка»). Рэц.: К. // Маладняк. 1926. № 2; Кудзер Я. // Наш працаўнік. 1926. 28 сак.

**1.3.**

**1924.** Будзь гатоў!: [Верш] // Бел. піянер. № 1; На сенажаці: [Верш] // Радавая рунь. № 3—4 / Пад псеўд. Аркадзь Чабор.

**1925.** Пойдзем наперад: [Верш] // Бел. піянер. № 2; Я не быў піянерам: [Верш] // Там жа. № 4; Мая песня: Урывак з верша «Вёска» // Маладняк. № 7; Ростань...: [Верш] // Там жа. № 9; «Мы ідзем...»: [Верш] //

Полымя. № 4; Ноччу: [Верш] // Там жа. № 6; У дуброве: [Верш] //Там жа. № 7; «Не ныраць нам у хвалі ныцця...»: [Урывак з паэмы «Алеся»] //Звезда. 5 апр.; «У сэрцы — радасць...»: [Верш] //Там жа. 2 авг.; Пакінь, перастань галасіць...: [Верш] //Наш працаўнік. 17 вер.; 3600...: [Верш] //Там жа. 3 кастр.; Маладая Беларусь: [Верш] //Там жа. 6 снеж.; «Не стрымаць, не змагчы...»: [Верш] //Сав. Бел. 18 студз.; «Плывем к другім вякам...»: [Верш] //Там жа. 1 ліст.; «У заўтрашні дзень зайдзі ў момант»: [Верш] //Там жа. 19 ліст.; Не зраўняла прырода лесу: Урывак з паэмы //Там жа. 22 снеж.

**1926.** Маладая Беларусь; Маруся — студэнтка КамВУЗа: [Вершы] //Маладняк Калінінщчыны. № 3—4; Ліст брату; Мілы друг: [Вершы] //Там жа. № 5—6; Да трохгадовага юбілею «Маладняка» //Світанне. № 2; Другу-дзяўчыне: [Верш] //Звязда. 4 вер.; Збірайце народную творчасць //Мал. камуніст. 22 ліп.; З нізкі вершаў «Крым»: [Верш] //Там жа. 30 вер.; Да яе: [Верш] //Наш працаўнік. 7 студз.; [Рэц. на кн.: Чарот М. Карчма. Мн., 1926] //Там жа. 31 студз.; Маруся, студэнтка КамВУЗа: [Верш] //Там жа. 7 сак.; «І многа песень засталося»; «Ён спіць...»: [Вершы] //Там жа. 11 крас.; «Летуценні...»: [Верш] //Там жа. 1 мая; Патрэбная кніжка для літаратараў //Там жа. 16 мая; «Песнаслоў...»: [Верш] //Там жа. 10 чэрв.; Сав. Бел. 20 чэрв.; «Асеннія напевы...»: [Верш] //Сав. Бел. 27 жн.

**1927.** Мая песня: [Верш] //Беларускі каляндар. Вільня; Асенні напеў: [Верш] //Полымя. № 6; «Шляхі вядуць...»; Баявая песня: [Вершы] //Там жа. № 7; Да сонца: [Верш] //Світанне. № 3; Сав. Бел. 17 крас.; Другу-дзяўчыне: [Верш] //Звязда. 4 вер.; Сав. Бел. 4 вер.; Чароўны Крым: [Верш] //Звязда. 11 вер.; Настроі: [Верш] //Там жа. 9 кастр.; Сяргею Фаміну: [Верш] //Там жа. 20 ліст.; З маёвага спеву: [Верш] //Сав. Бел. 5 мая; Савецкай Беларусі: [Верш] //Там жа. 29 мая; Баявая песня: [Верш] //Там жа. 3 жн.

**1928.** Сівер студзіць грудзі: [Верш] //Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». № 9.

**1958.** На палескім балоце: [Верш] // Заря. 14 дек. / Аўт. спрэчнае.

**1961.** Трасса новой эры: [Верш] // Заря. 20 авг. / Аўт. спрэчнае. *Г. І. Рэут.*

# ПАЗНЯК ЯНКА



*Пазняк Янка [Ян Аляксандравіч; псеўд. Д у д а р, Я. Д у д а р, Я н к а  Д у д а р, Т о й  С а м ы, Т о й  с а м ы, С я л я н е ц; крыпт. Я. Д., Д-р, Я. Д-р, П. (?), п. (?), Я. П., я. п., Яп., П-к, п-к, Я. П-к, Р э д. «Б. Кр.»; 1887, мяст. Суботнікі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.— пасля кастр. 1939], публіцыст, палітычны і культурны дзеяч. Адзін з арганізатараў і лідэраў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.*

З сялянскай сям'і. Атрымаў музычную адукацыю (верагодна, скончыў кансерваторыю), але дакладных звестак пра гэта няма. У 1918—20 служыў арганістам у Лаварышкаўскім касцёле каля Вільні, потым у Вільні (беларускім Святаянскім касцёле, дзе ксяндзом быў А. Станкевіч — яго даўні сябар). З юнацтва Я. Пазняк стаў удзельнічаць у беларускіх гуртках хрысціянска-дэмакратычнага асветніцкага кірунку. У 1913—15 у Вільні сумесна з А. Бычкоўскім, Ядвігіным Ш., Б. Пачопкам выдаваў папулярную тады сярод католікаў газету «Беларус». З моманту арганізацыі ў маі 1917 у Петраградзе «Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці» (ХДЗ) і пасля перанясення дзейнасці беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў (1921) у Вільню удзельнічаў у гэтым руху, набіраўся палітычнага і арганізатарскага вопыту, выступаў з вострымі палемічнымі артыкуламі на старонках газеты «Крыніца» (пасля «Беларуская крыніца»). Ён шмат ездзіў па вёсках, гутарыў з сялянамі, арганізоўваў беларускія тэатралізаваныя імпрэзы, змагаўся за адкрыццё беларускіх школ, выступаў супраць нацыянальнага ўціску беларусаў праз польскі касцёл і асадніцтва. У 1928 на з'ездзе Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў Вільні Я. Пазняк выбраны сакратаром Прэзідыума БХД. У 1928—36 рэдагаваў газету «Беларуская крыніца». У пачатку 30-х гадоў стаў старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэта (БНК), створанага ў 1919 для каардынацыі ўсіх нацыянальных сіл і абароны правоў беларускага народа. Палітычная і рэдактарская дзейнасць Я. Пазняка прыйшліся на цяжкі для беларускага народа час: у канцы 20-х і на працягу 30-х гадоў у Заходняй Беларусі ўзмацніўся польскі шавіністычны ўціск, падагрэты сталінскай дыктатурай

у СССР; паланізацыя беларусаў усё больш набывала рысы дзяржаўнай палітыкі. Развіваць незалежніцкі нацыянальны рух для БХД і БНК станавілася ўсё цяжэй. У 1936 «Беларуская крыніца» канфіскоўвалася 11 разоў. На яе рэдактара было заведзена больш за 30 судовых спраў. Яго абкладалі грашовымі штрафамі, па некалькі месяцаў трымалі ў турме. У 1936 для аб'яднання ўсіх беларускіх сіл і стварэння адзінага нацыянальна-вызваленчага фронту БХД была рэарганізавана ў Беларускае Народнае Аб'яднанне (БНА), прэзідэнтам якога быў выбраны Я. Пазняк. Пасля закрыцця ў 1937 «Беларускай крыніцы» з канца 1938 ён стаў рэдагаваць «Хрысціянскую думку», дапамагаў у выданні сельскагаспадарчага часопіса «Самапомач». У кастрычніку 1939 разам з іншымі беларускімі дзеячамі (У. Самойлам, А. Луцкевічам, В. Багдановічам і інш.) быў арыштаваны савецкімі рэпрэсіўнымі органамі, вывезены з Вільні і, магчыма, без суда і следства расстраляны. Дакладных звестак пра час, месца і абставіны яго смерці пакуль што няма.

Літаратурную дзейнасць Я. Пазняк пачаў з верша «Люблю я край свой родны» (1920). Большасць яго выступленняў на старонках «Беларускай крыніцы» зашыфравана псеўданімамі і крыптанімамі. Ёсць падставы меркаваць, што публікацыі ў «Беларускай крыніцы», падпісаныя крыптанімамі П., п., Я., Я-ка таксама належаць Я. Пазняку, як і шэраг артыкулаў без подпісу. Тэматыка публіцыстычных выступленняў Я. Пазняка была шырокай: ён асвятляў тагачасныя палітычныя падзеі, аналізаваў сацыяльнае, рэлігійнае, культурнае становішча, у якім знаходзілася беларускае насельніцтва пад уладай Польшчы, пісаў аб гаспадарчым крызісе ў свеце, самабытнасці кожнага народа і яго праве на незалежнасць (артыкулы пра Каталонію, Абісінію), акрэсліваў кірункі барацьбы беларускага народа за свае правы (змаганне за беларускую мову ў школах і касцёлах, удзел у гмінных самаўрадах і інш.). Шмат увагі ён аддаваў палеміцы з польскімі рэлігійнымі ўладамі (выступаў супраць антыбеларускай палітыкі арцыбіскупа Ялбжыкоўскага), заклікаў да абнаўлення і аздараўлення (маральнага, палітычнага) жыцця ў беларускай вёсцы, да яе асветы. Быў тэарэтыкам беларускага хрысціянскага дэмакратызму і выступаў з праграмнымі артыкуламі, дзе тлумачыў ідэалагічныя асновы гэтага руху. З пункта гледжання філасофіі БХД разглядаў і «славянскую ідэю», бачыў яе агульны кірунак у аб'яднанні ўсіх славянскіх народаў на аснове роўнасці, незалежнасці і ўзаемадапамогі, што спрыяла калісьці перамозе пад Грунвальдам, але адмаўляў і рэзка крытыкаваў спробы ўсялякага тыпу месіянства (і расійскага і польскага). Публіцыстычныя выступленні Я. Пазняка вызначаліся эмацыянальнасцю і адначасова лагічнай абгрунтаванасцю тэзісаў, праніклівасцю і апантанай перакананасцю ў тым, што толькі на аснове хрысціянскай маральнасці можа быць дасягнута сацыяльная гармонія і справядлівасць у чалавечым жыцці і супольніцтве народаў. У сярэдзіне 20-х гадоў, калі ішло змаганне розных палітычных груповак за ўплыў на насельніцтва і перамогу на выбарах у польскі Сойм, Я. Пазняк пісаў своеасаблівыя інсцэнізаваныя апавяданні, каб даходліва растлумачыць беларускім працаўнікам, якога кірунку ім трэба прытрымлівацца. У цэнтры апавядання, як правіла, знаходзіўся найбольш дасведчаны персанаж (Адам Канцавы, Язэп), вакол якога збіраліся людзі і гамаділі (месцам дзеяння была сялянская хата або царкоўны цвінтар). Праз жывы дыялог, рэплікі і пытанні аўтар тлумачыў асноўныя прынцыпы дзейнасці палітычных партый (Сялянска-Работніцкай Грамады, Сялянскага Саюза, БХД), галоўную накіраванасць беларускіх газет. У канцы 30-х гадоў найбольш увагу Я. Пазняка-публіцыста прыцягвала палітычнае становішча ў Германіі і СССР. Адчуваючы небяспеку для ўсяго свету з боку гітлераўскага фашызму, бачачы жахі сталінскай дыктатуры, ён аналізаваў становішча ў суседніх краінах, выступаў супраць іх таталітарных рэжымаў. Пазітыўна ключавымі заставаліся для яго ідэалы хрысціянскага дэмакратызму, ненасілля, нацыянальнага самавызначэння і незалежнасці Беларусі.

*І. Э. Багдановіч.*

# Бібліяграфія

**1.2.**

Самаўрад вясковых гмін: (Паводле «ўставы гміннай» Генеральнага Камісара ўсходніх зямель з дня 26 верасня 1919 г.). Вільня, 1929.

**1.3.**

**1920.** Люблю я край свой родны: [Верш] // Крыніца. 2 мая.

**1921.** Беларускі тэатр // Крыніца. 4 вер. / Пад крыпт. Я. П.

**1925.** Ксёндз проціў народу // Крыніца. 25 сак. / Пад крыпт. Я. Д.; Што дзяды Лявону казалі?: [Апавяданне] // Там жа. 13 снеж. / Пад псеўд. Той Самы.

**1926.** Гутаркі суседзяў: [Апавяданне] // Бел. крыніца. 18 студз. / Пад псеўд. Той Самы; Аб чым гамоняць сяляне: [Апавяданне] // Там жа. 14 лют. / Пад псеўд. Янка Дудар; Правільны шлях БХД // Там жа. 8 кастр. / Пад псеўд. Янка Дудар; Пісьмо ў Рэдакцыю // Там жа. 22 кастр. / Пад псеўд. Я. Дудар; Сааўт. М. Заноза; Апосталы ці духоўныя жандары // Там жа. 5 ліст. / Пад крыпт. П-к; Гутаркі суседзяў: [Апавяданне] // Сялян. ніва. 21 лют. / Пад крыпт. Той Самы; Сялянскія гутаркі: [Апавяданне] // Там жа. 11 крас. / Пад псеўд. Сялянец.

**1927.** Праграма і тактыка нашых валасных самаўрадаў // Бел. крыніца. 15 ліп. / Пад псеўд. Янка Дудар; На незалежніцкі шлях // Там жа. 16 вер. / Пад крыпт. Я. Д.; Успаміны з 1920 г. // Там жа. 21 кастр. / Пад крыпт. Я. Д.; Баль невялічкай, але «чэснай» кампаніі // Там жа. 28 кастр. / Пад псеўд. Той самы.

**1928.** Заслужаная кара // Бел. крыніца. 1 студз. / Пад псеўд. Той самы; Два кірункі // Там жа. 22 крас. / Пад крыпт. Я. П.; Наша хвароба і лекі ад яе // Там жа. 12 кастр. / Пад крыпт. Я. П.; Пашырайма асвету // Там жа. 2 ліст. / Пад крыпт. Я. П.; Для беларускіх дзетак патрэбна школа ў роднай мове беларускай // Там жа. 22 ліст. / Пад крыпт. Я. П.; З казак сапраўднасці // Там жа. 7 снеж. / Пад псеўд. Той самы; Ящчэ аб паходзе Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага проціў БХД // Там жа. 21 снеж. / Пад крыпт. Я. П-к; Пусты стрэл // Там жа. 30 снеж. / Пад крыпт. П.; Чародная хлусня «Dziennika Wil.» // Там жа. 30 снеж. / Пад псеўд. Я. Дудар.

**1929.** Хто выкарыстоўвае рэлігію для палітычных мэтаў? // Бел. крыніца. 6 студз. / Пад псеўд. Я. Дудар; Самаўрад вясковых гмін // Там жа. 6, 13 студз.; Аб самаўрадах: Справа дарог // Там жа. 25 студз.; Антон Луцкевіч — «За дваццаць пяць гадоў» (1903—1928). Вільня // Там жа. 1 лют. / Пад крыпт. П-к; Сталін і Троцкі // Там жа. 8 лют. / Пад крыпт. Я. Д.; Пакт Келлёга і пакт Літвінава // Там жа. 15 лют. // Пад крыпт. Я. Д.; З беларускага жыцця: з Беларусі пад Польшчай // Там жа. 8 сак. / Пад крыпт. П-к; Перад пагрозай голаду // Там жа. 15 сак. / Пад крыпт. П-к;

ваны агляд культурна-гістарычнага жыцця ўкраінскага народа і беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей пачатку 20 ст. У сваёй кароткай, але надзвычай яркай і плённай літаратурна-крытычнай дзейнасці С. Палуян змагаўся за наватарскі характар маладой літаратуры, у аснову ацэнкі твораў клаў найперш эстэтычна-мастацкія крытэрыі (рэц. «Якуб Колас. Другое чытанне для дзяцей беларусаў»). Падтрымліваў і заахвочваў творчыя пошукі М. Багдановіча, Я. Коласа, В. Ластоўскага, быў прыхільнікам таленту Я. Купалы, прадказаў яму вялікую будучыню, адным з першых убачыў творчую адметнасць К. Буйло. Даследаваў гісторыю беларускай літаратуры (арт. «Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках»). Ствараў вершаваныя і драматычныя творы «на сучасны лад» (апошнія да гэтага часу не выяўлены). С. Палуян стаяў і ля вытокаў беларускага тэатразнаўства (арт. «Беларускія вечарыны» і інш.), адводзіў тэатру ў тагачасных умовах Беларусі адметную ролю «нацыянальнай школы», «цэментуючага пачатку» нацыі (пазней гэтыя ідэі творча развіваў у сваёй крытычнай дзейнасці М. Гарэцкі). У артыкулах і нататках, прысвечаных праблемам народнай асветы і нацыянальнай школы, паслядоўна адстойваў права беларусаў на родную мову і культуру (арт. «Пра нацыянальную школу на Беларусі»). Падтрымліваў імкненні да духоўнага адраджэння так званых «малых народаў» царскай Расіі (якутаў, чувашоў), з сімпатыяй пісаў пра асветніцкую дзейнасць украінскай інтэлігенцыі. С. Палуян — ініцыятар і паслядоўны прыхільнік ідэі заснавання літаратурнага перыядычнага выдання, якое магло б стаць школай выхавання і згуртавання свядомай беларускай інтэлігенцыі (гэта задума потым рэалізавалася ў альманаху «Маладая Беларусь», 1912—13). Уся творчасць С. Палуяна вызначаецца глыбокім дэмакратызмам і патрыятызмам, высокім прафесійным узроўнем, імкненнем далучыць роднае мастацкае слова да агульнаеўрапейскага кантэксту, глыбінёй аналітычнага мыслення, вобразным багаццем мовы.

Паўсядзённая матэрыяльная незабяспечанасць, абвостраная жыццёвым меркантылізмам і правінцыяльнай вузкасцю светапогляду некаторых калег па агульнай справе, эстэтычнай іх глухатой, ва ўмовах змрочнай грамадска-палітычнай атмасферы 1907—10 надзвычай адмоўна паўплывалі на рамантычную натуру С. Палуяна, наблізіўшы яго да духоўнай драмы. На 20-м годзе ён скончыў жыццё самагубствам. Смерць пісьменніка выклікала шчымлівы боль і смутак сярод прагрэсіўнай грамадскасці Беларусі і Украіны. Свае творы прысвяцілі яму Я. Купала, М. Багдановіч, Ц. Гартны, Ядвігін Ш, украінскі пісьменнік А. Тэсленка і інш. *М. А. Варвашэвіч, У. А. Лебедзеў.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Лісты ў будучыню: Проза; Публіцыстыка; Крытыка. Мн., 1986.

**1.3.**

**1909.** [Рэц. на кн.: Видавництво «Час». К., 1909] // Укр. хата. № 3 / Пад крыпт. П. Ян; Про національну школу на Білорусі / З нагоди виходу зб. «Білорусскій учитель в Петербурзі») // Там жа. № 5; Лісты з Украіны // Н. н. 25 чэрв. 13, 20 жн., 15 кастр. / Пад крыпт. С. П.; З нашага жыцця // Там жа. 3, 17 вер.; Якуцкі нацыянальны рух // Там жа. 22 кастр. / Пад псеўд. С. Ясяновіч; З нашага жыцця // Там жа. 17 снеж. / Пад псеўд. С. Ясяновіч.

**1910.** [Рэц. на кн.: Винниченко В. Третя книжка оповіданнів. К., 1910; Першы беларускі каляндар «Нашае Нівы» на 1910 г. Вільня. 1910] // Укр. хата. № 1; [Рэц. на кн.: Тарас на Парнасе. Вільня. 1909; Ядвігін Ш. Дзед Завала. Вільня. 1910] // Там жа. № 2; Білоруська поезія в її типових представниках; [Рэц. на кн.: Народний календар «Село» на 1910 р. К., 1910] // Там жа. № 3; [Рэц. на кн.: Колас Я. Другое чытанне для дзяцей беларусаў. Вільня, 1910] // Там жа. № 4; [Рэц. на кн.: Ващенко Г. Сліпий. Спб., 1910] // Там жа. № 5; Беларуская літаратура ў 1909 гаду // Н. н. 11 лют. / Пад псеўд. С. Ясяновіч; Лісты з Украіны // Там жа. 11 сак. / Пад псеўд. С. Ясяновіч; Хрыстос уваскрос! // Там жа. 15 крас.; Вёска: [Апавяданне] // Там жа. 21 кастр.; Білоруські вечірки // Рада. 4 трав.

**1912.** Што рабіць? // Беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1912 год. Вільня.

**1913.** Думаць і гаварыць трэба па-беларуску // Н. н. 24 кастр. / Пад крыпт. С. П., Бог — добры гаспадар: Казка // Там жа. 21 ліст. / Пад крыпт. С. П.

**1916.** Аляксандр Рыпінскі: [Нарыс] // Гоман. 3 сак.

**1919.** Хрыстос уваскрос! // Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства. К.

**1920.** Хрыстос уваскрос! // Беларускі каляндар на 1920 год «Наша хата». Вільня.

**1927.** Хрыстос уваскрос! // Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня.

**1928.** Хрыстос уваскрос! // Беларускі рэкламатар. Вільня; З роднай нівы. Вільня.

**1934.** Хрыстос уваскрос! // Родны край. 7 крас.

**1978.** З нашага жыцця; Беларуская літаратура ў 1909 годзе; Лісты з Украіны // Александровіч С., Александровіч В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Мн.

**1.5.**

**На ўкраінскую мову.** Хутір: (З циклю «Забраний край») / Пер. М. Шаповал // Укр. хата. 1910. № 6.

**2.2.**

Кабржыцкая Т., Рагойша В. Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна. Мн., 1990.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Багдановіч М. Глыбы і слаі // Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2; С. 103. Бас І. Друг маладога Купалы // Полымя. 1976. № 1; Яго ж. Сявец у родных слоў сяўбе // Бас І. Літаратуразнаўчыя эцюды. Мн., 1977; Бядуля З. Загінуўшыя на цяжкім шляху // Сав. Бел. 1926. 14 вер.; Ватацы Н., Лапідус Н. Пісьменнік і публіцыст // ЛіМ. 1960. 23 крас.; Гадаўшчына смерці Сяргея Палуяна // Н. н. 1911. 7 крас.; Гарэцкі М. Палуян Сяргей // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; Кабржыцкая Т. Сяргей Палуян на Украіне // ЛіМ. 1969. 17 студз.; Кабржыцкая Т., Рагойша В. Акрылены рэвалюцыяй // Полымя. 1985. № 12; Іх жа. Карані дружбы: Бел.-укр. літ. ўзаемасувязі пачатку XX ст. Мн., 1976. С. 73—79; Іх жа. Падушка Сяргея Палуяна // ЛіМ. 1984. 26 кастр.; Іх жа. Слядамі знічкі // Маладосць. 1985. № 10; Іх жа. Ускрылены рэвалюцыяй // ЛіМ. 1985. 19 крас.; Карабан С. Ля вытокаў беларускай дэмакратычнай крытыкі // Полымя. 1956. № 10; Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1980. Ч. 2. С. 416—418; Ляндрэс І. Сяргей Палуян (1890—1910) // ЛіМ. 1941. 12 крас.; Піўтарадны В. С. Палуян на Украіне // Там жа. 1955. 14 мая; Яго ж. Сяргей Палуян пра беларускі тэатр // Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі па вывучэнню беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязей. Гомель, 1969; Шараховскі Я. Пясняр народных дум. Мн., 1970.

**На польскай мове.** Aleksiuk P. Z życia białoruskiego: S. Połujan // Litwa. 1910. Nr 10.

**На рускай мове.** Ватацы Н. Всего легче и лучше // Неман. 1971. № 9; Карабан С. Очерки истории белорусской эстетической мысли и литературной критики. Мн., 1971. С. 71, 73, 92; Лапидус Н. Максим Богданович — литературный критик // Неман. 1961. № 6.

**На ўкраінскай мове.** Богацький П. Памяті Сергія Полуяна // Укр. хата. 1910. № 4; Діброва А. Пам'яті А. Тесленка // Там жа. 1911. № 5—6; Кобржицька Т. З невідомого про Сергія Полуяна // Укр. літературознавство. 1970. Вип. 8; Шаповал М.

В дань безмежку: (Пам'яті Сергія Полуяна) // Рада. 1910. 10 квіт.
2.4.
**На беларускай мове.** Багдановіч М. С. Е. Палуяну: [Верш] // Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1; Беларусы з Капыля і Слуцка. Ліст у «Нашу ніву»: [Верш] // Н. н. 1910. 20 мая; Гурло А. Памяці С. Палуяна: [Верш у прозе] // Там жа. 1910. 13 мая; Купала Я. Курган: (Памяці С. Палуяна): [Верш] // Там жа. 1912. 21 чэрв.; Лёўчык Г. Мне трэба умярці...: На смерць С. Палуяна: [Верш] // Лёўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; Панізнік С. На несурочнай зямлі: Сяргей Палуян: [Верш] // Панізнік С. Чало і век. Мн., 1979; Яго ж. Сяргею Палуяну: [Верш] // Панізнік С. Палявая пошта. Мн., 1972; Ядвігін Ш. Раны; Памяці С. Палуяна: [Верш у прозе] // Н. н. 1912. 3 мая.
**На рускай мове.** Купала Я. Памяти С. Полуяна: [Верш] / Пер. Г. Семенов // Купала Я. Избранное. 2-е изд. Л., 1973; Лойко О. Как огонь, как вода / Пер. Г. Бубнов // Неман. 1981. № 9.
3.1.
ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 225.

*В. М. Грышкевіч.*

# ПАЛЬЧЭЎСКІ АЛЕСЬ



*Пальчэўскі Алесь [Аляксандр Восіпавіч; псеўд. Аер, А. Вясковы, Ал. Вясковы, Падарожны, Прусіноўскі, Селькор Аер, Селянін В. А., Сусед, А. Язвіч; крыпт. А. В., А. В-вы, А. П., А-р, Ал. Яз-віч, В. А-сь, В-вы, П-ны і інш.; 3(16).1.1905, в. Прусінава Мінскага пав., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл.— 26.4.1979, Мінск; пахаваны ў в. Прусінава], празаік, драматург. Член СП Беларусі з 1956*

З сялянскай сям'і, у якой было 11 дзяцей. Бацькі мелі 3,5 гектара зямлі. Выбіваючыся з сіл, бацька імкнуўся дапамагчы дзецям знайсці сваю дарогу ў жыцці — даць ім па магчымасці патрэбную адукацыю. Сам ён быў вельмі працавіты і дзяцей прывучаў змалку да працы. У 1913 А. Пальчэўскі пачаў наведваць земскую школу, якую скончыў толькі пасля двухгадовага перапынку ў вучобе (у 1915 яго настаўніка мабілізавалі ў войска, і школа закрылася). Потым вучыўся ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы ў Новым Свержані, перайменаваным пазней у гімназію, але не скончыў яе. «Па мірнаму дагавору Савецкай Расіі з Польшчай, які ўвайшоў у сілу 2 красавіка 1921 года,— сведчыў пісьменнік у сваёй аўтабіяграфіі «Жыццёвыя сцежкі»,— наша вёска з нейтральнай паласы на час перамір'я адышла да Савецкай Беларусі, а Новы Свержань астаўся пад Польшчай. 1 чэрвеня я скончыў трэці клас гімназіі і ўжо з-за мяжы вярнуўся дахаты». Яшчэ ў пачатковай школе А. Пальчэўскі шмат чытаў, у тым ліку кнігі беларускіх пісьменнікаў. У 1921—25 працаваў на гаспадарцы, прымаў удзел у вясковай самадзейнасці, займаўся зборам падпіскі на газеты, дасылаў допісы і замалёўкі ў «Савецкую Беларусь» і «Беларускую вёску». У 1925 па рэкамендацыі Уздзенскага райана («за актыўны ўдзел у ліквідацыі непісьменнасці сярод сялян, за распаўсюджанне друкаванага слова») паступіў на рабфак БДУ. У 1931 скончыў педагагічны факультэт (творчы цыкл). Хацеў стаць настаўнікам, але быў накіраваны на газетна-выдавецкую работу — спачатку ў часопіс «Кааперацыя БССР», потым у часопіс «Шляхі калектывізацыі». У 1931—36 — адказны сакратар дзіцячага часопіса «Іскры Ільіча». У 1936 А. Пальчэўскі незаконна рэпрэсіраваны, а ў 1937 прыгавораны да васьмі гадоў зняволення. З 1937 да 1946 працаваў лесарубам у Горкаўскай вобласці. Вярнуўшыся на Беларусь, выкладаў мову і літаратуру ў Пухавіцкай і Рудзенскай сярэдніх школах (1946—48). У 1949 зноў незаконна асуджаны, высланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1954. У 1955—57 быў рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, літсупрацоўнікам (з 1957), а з 1961 да 1971 адказным сакратаром часопіса «Вясёлка». Узнагароджаны медалём.

Першы верш («Адліга») А. Пальчэўскі напісаў у 1922, у 1923 — некалькі апавяданняў (засталіся неапублікаванымі). У 1923—24 у сааўтарстве з І. Жаўрыдам стварыў п'есу «Зняслаўлены бацькам», якая тады ж была пастаўлена на вясковай сцэне (спектаклі з поспехам паўтараліся некалькі разоў). У адказ на адно з ранніх апавяданняў З. Бядуля прыслаў маладому аўтару пісьмо, у якім раіў «працаваць на літаратурнай ніве і пабольш чытаць мастацкіх твораў». Першыя вершы і апавяданні А. Пальчэўскага надрукаваны ў 1925. У 1932 у выдавецтве «Чырвоная змена» выйшла асобнай кніжкай для школьнай самадзейнасці яго п'еса

«З чырвоным сцягам», у 1934 у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі п'еса «Зламаная іголка». Свае вершы і апавяданні А. Пальчэўскі змяшчаў на старонках «Чырвонай змены», «Работніцы і сялянкі Беларусі», «Чырвонага сейбіта», «Савецкай Беларусі», «Беларускага піянера», «Іскраў Ільіча». Ён аўтар зборнікаў апавяданняў «Родныя берагі», «Разбітае люстэрка», «Былі ў маці сыны», кніг аповесцяў і апавяданняў «Жнівеньская раніца», «Запознены пасаг», «Ноч на вахце», п'есы «Суседка», кніжак апавяданняў для дзяцей «Беражанкі», «Аля і Галя», «Дым над лесам», «Таемная крушня», «Аднавокі сом», аповесцей «Ты не адзін», «Данеўцы — нашы знаёмыя» і інш. Творчасць А. Пальчэўскага вылучаецца добрым веданнем вясковага побыту, псіхалогіі дзяцей, улюбёнасцю ў родны край, глыбокім адчуваннем жывога слова.

Імя А. Пальчэўскага носіць вуліца ў г. п. Узда. У 1989 у в. Стальбоўшчына Уздзенскага р-на, у мясцовай школе, быў адкрыты літаратурны музей пісьменніка. У в. Прусінава, на доме, дзе ён нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Мора на камені: Выбранае. Мн., 1966. Рэц.: Гілевіч Н. Праўдзівыя старонкі жыцця // Беларусь. 1966. № 9; Гніламёдаў У. Перажытае // ЛіМ. 1966. 2 жн.

Выбр. тв.: У 2-х т. Мн., 1975. Т. 1. Апавяданні. Т. 2. Аповесці, літаратурныя партрэты, сцежкі, эцюды.

Выбр. тв.: У 2-х т. Мн., 1980. Т. 1. Апавяданні і аповесць. Т. 2. Аповесці. Рэц.: Гніламёдаў У. Радасць тварыць дабро // ЛіМ. 1980. 8 жн.

**1.2.**

З чырвоным сцягам: Інсцэніроўка. Мн., 1932.

Зломаная іголка: П'еса. Мн., 1934.

Беражанкі: Апавяданні. Мн., 1958. Рэц.: Каламінскі Я. Калі б героі ажылі... // Чырв. змена. 1959. 12 лют.

Родныя берагі: Апавяданні. Мн., 1958. Рэц.: Арабей Л. Дарагое сэрцу // Полымя. 1958. № 6; Браиловский А. Люди родной земли // Сов. Бел. 1958. 16 июля; Папкоўскі К. Апавяданні пра дзяцей і настаўнікаў // Наст. газ. 1958. 18 ліп.; Паўлюкоўскі І. Старонкі жыцця // Маладосць. 1958. № 9; Юрэвіч У. Запозненае, але прыемнае знаёмства // ЛіМ. 1958. 26 сак.

Суседка: Аднаактоўка. Беласток. 1958.

Ты не адзін: Аповесць. Мн., 1960.

Аля і Галя: Апавяданні. Мн., 1961.

Жнівеньская раніца: Аповесць, апавяданні і замалёўкі. Мн., 1963. Рэц.: Сталяроў М. Сустрэча з добрымі людзьмі // ЛіМ. 1964. 20 сак.

Дым над лесам: Апавяданні. Мн., 1964.

Данеўцы — нашы знаёмыя: Аповесць. Мн., 1965. Рэц.: Кудравец А. Сагрэтая любоўю // ЛіМ. 1966. 28 студз.

Разбітае люстэрка: Апавяданні. Мн., 1965. (Б-ка «Вожыка»).

Былі ў маці сыны: Апавяданні: Замалёўкі. Успаміны. Мн., 1968.

Таемная крушня: Апавяданні. Мн., 1969. Рэц.: Букчин С. Велика надежда... // Неман. 1970. № 1.

Тайна аднаго звяна: Аповесць. Мн., 1970.

Ты не адзін: Аповесць і апавяданні. Мн., 1970. (Школьная б-ка).

Запознены пасаг: Апавяданні і аповесць. Мн., 1973. Рэц.: Дубоўскі М. Дарагі мой чалавек // ЛіМ. 1974. 23 жн.; Лаўшук С. З верай у чалавека // Мін. праўда. 1974. 21 вер.; Сталяроў М. Пільны погляд мастака // Беларусь. 1974. № 6.

Аднавокі сом: Апавяданні. Мн., 1974.

Сцежкі: Аповесць. Мн., 1977. Рэц.: Досін М. Сцежкамі мінулага // Наст. газ. 1979. 24 кастр.; Канэ Ю. Суравая нітка // Вяч. Мінск. 1978. 16 чэрв.; Разанаў І. Сцежкі жыцця // Звязда. 1978. 2 снеж.

Ноч на вахце: Аповесці, апавяданні, замалёўкі. Мн., 1979. Рэц.: Локун В. Жыццё багатае і шматграннае // Полымя. 1980. № 4.

**1.3.**

**1925.** На пасёлку: [Верш] // Малады араты. № 17—18 / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Вясковыя частушкі // Бел. вёска. 22 мая / Пад псеўд. А. Вясковы; Сарочка дарэмна: [Апавяданне] // Там жа. 30 чэрв. / Пад крыпт. А. В.; А сёлета падатак лягчэйшы: [Малюнак] // Там жа. 18 вер. / Пад крыпт. А. В-вы; Дзень ураджаю: [Верш] // Там жа. 7 кастр. / Пад псеўд. А. Вясковы; Аграном дапамог: Малюнак // Там жа. 6 снеж. / Пад крыпт. А. В-вы; Памылка: Апавяданне // Сав. Бел. 3,5 снеж. / Пад псеўд. А. Вясковы.

**1926.** Ахвяра: Апавяданне // Малады араты. № 1—2 / Пад псеўд. Ал. Вясковы; У нядзелю: Малюнак // Чырв. сейбіт. № 3 / Пад псеўд. А. Вясковы; Перавыбары: [Верш] // Бел. вёска. 26 студз. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; На сходзе: [Верш] // Там жа. 9 сак. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Свае мужчыны дапамогуць: [Верш] // Там жа. 4 крас. / Пад псеўд. Вясковы; Раней і цяпер: [Верш] // Там жа. 21 вер.; Камуніст. 26 вер.; Чырв. змена. 17 кастр.; Чырв. Полаччына. 29 вер. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Вясковы фельетон: «Павінен прашпэціцца» // Бел. вёска. 12 снеж. / Пад псеўд. Сусед.

**1927.** Сенажаць: [Апавяданне] // Чырв. сейбіт. № 12 / Пад псеўд. А. Вясковы; Вёска Харанякі: [Замалёўка] // Сав. Бел. 18 студз. / Пад. псеўд. Падарожны; Альбрэхтаўскі сельсавет; Аўлас; З-пад хмар вандроўных; Выбары: [Апавяданні] // Там жа. 19 студз. / Пад псеўд. Падарожны; Аб тым, што не падыходзіць да друку: [Апавяданне] // Там жа. 20 студз. / Пад псеўд. Падарожны; Як не варта было б загадваць школай // Там жа. 13 вер. / Пад псеўд. Падарожны; Сем: [Верш] // Чырв. змена. 18 сак. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Чаму ён перастаў верыць (Праўдзівае здарэнне з дзядзькам Фабуком) // Там жа. 17 крас. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Перакоша: [Апавяданне] // Там жа. 23 ліп. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Сасмажаныя зажыва: [Страшэннае апавяданне відавочца] // Там жа. 25 жн. / Пад крыпт. А. В.; За лес сонейка закацілася...: [Верш] // Там жа. 27 жн. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Ранне: [Верш] // Там жа. 10 вер. / Пад псеўд. Ал. Вясковы.

**1928.** Насця: Апавяданне // Бел. работніца і сялянка. № 4; На беразе Нёмана: Апавяданне // Маладняк. № 4; [Рэц. на кн.: Ляжневіч А. З дымам пажарам: П'еса] // Чырв. сейбіт. № 4—5 / Пад крыпт. Ал. Яз-віч; «Акуратныя» людзі: Вясковы фельетон // Бел. вёска. 29 чэрв. / Пад псеўд. Аер; На лікпункт: [Верш] // Чырв. змена. 26 лют. / Пад псеўд. Ал. Вясковы; Казкі, шаптухі, байкі // Там жа. 1 крас. / Пад псеўд. Вясковы.

**1929.** Акурак: Апавяданне // Бел. піянер. № 12; Злётавец Янка: Апавяданне // Там жа. № 16; Бываюць і такія «крыцікі»: [Водгук на арт.: Кр-скі Р. «Паэма адзінства і раздарожжа»] // Сав. Бел. 31 сак. / Пад псеўд. А. Вясковы; Гора-працаўнікі // Там жа. 4 чэрв. / Пад псеўд. Падарожны.

**1930.** У чырвонаармейскім гарадку: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 9; Волат: Апавяданне // Піянер Бел. 24 кастр.

**1931.** Шпак: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 5; Вольчына радасць: Апавяданне // Там жа. № 9; Новыя дні: Апавяданне // Піянер Бел. 30 сак., 4 крас.

**1932.** Неспакойнае пакаленне: Апавяданне // Беларусь калгасная. № 5; У тыя дні: Апавяданне // Там жа. № 6—7; Школа: Нарыс // Іскры Ільіча. № 2; Рыгорава грамата: Апавяданне // Там жа. № 8; Лясныя шкоднікі: Апавяданне // Там жа. № 9; Брыгада Ігнася Танковіча: Урывак з твору «Зямля чакае» // Там жа. № 10; Першыя акцябрацкія лагеры: Нарыс // Там жа. № 15; Ашукаў: Апавяданне // Там жа. № 24.

**1933.** Будуць яшчэ з большаю ахвотаю вучыцца: [Нарыс] // Іскры Ільіча. № 11; Юлік: Апавяданне // Там жа. № 12; Мы павінны добра вучыцца // Там жа. № 15; Загубленая надзея: [Апавяданне] // Піянер Бел. 6 студз.; Таварыш: Апавяданне // Там жа. 5 вер.

**1934.** Яна лепшая ўдарніца: Нарыс // Іскры Ільіча. № 1; Лабакайс Трэцнекс: Нарыс // Там жа. № 4; Баявы агляд: Інсцэніроўка // Піянер Бел. 15 крас. / Сааўт. В. Каваль.

**1935.** Першы касцёр: [Нарыс з серыі «Цікава ведаць»] // Піянер Бел. 10 лют. / Пад крыпт. А. П.; Не-

спадзяваная развязка: Апавяданне // Там жа. 9 вер.; Заплямлены гальштук: Апавяданне // Там жа. 15 ліст.

**1936.** Беражанкі: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 7; Трывожны сігнал: Нататкі // ЛіМ. 21 вер. / Пад крыпт. А. П. Аўт. спрэчнае; Прачытай гэту кнігу // Піянер Бел. 15 студз.

**1955.** Упарты верабей: Апавяданне // Бярозка. № 6; Юныя змагары: Нарыс // Там жа. № 10; Сустрэча: Навагодняя сцэнка // Там жа. № 12; Апошні ўрок: Апавяданне // Маладосць. № 7; Жыццёвы прынцып: Апавяданне // Там жа. № 11; Мікалай Бойка: Апавяданне // Полымя. № 11.

**1956.** Суседка: Бытавая камедыя // Аднаактавыя п'есы. Мн.; Матчына сэрца: Апавяданне // Мастацкае слова. Мн.; Калі ападала лісце: Апавяданне // Беларусь. № 1; Кажушок: Апавяданне // Бярозка. № 9; Тэлеграма: Апавяданне // Маладосць. № 5; Засмучаная радасць: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 9; Мая першая ёлка: Апавяданне // ЛіМ. 1 студз.; Першы стрэл: Апавяданне // Піянер Бел. 28 вер.; Рассказы И. Франко // Сов. Бел. 2 сент.; Матчына сэрца: Апавяданне // Чырв. змена. 4 ліст.

**1957.** Горад у лесе: [Нарыс] // Над краем спяваюць гудкі. Мн.; Бярозка. № 7; Збітыя рогі: Апавяданне // Беларусь. № 12; Ножык: Апавяданне // Бярозка. № 9; Памылка: Апавяданне // Маладосць. № 5; Крыга ў моры: Апавяданне // Там жа. № 12; Сын: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 9; З хуткасцю чарапахі: Фельетон // ЛіМ. 23 сак.; У Ігнатавай хаце: Апавяданне // Там жа. 28 вер.; Бітончык: [Апавяданне] // Піянер Бел. 20 вер.

**1958.** Дзіма будзе вучыцца: [Апавяданне] // Юным дэкламатарам. Мн.; Родныя берагі: Апавяданне // Бярозка. № 1; Славік-натураліст: Апавяданне // Там жа. № 6; Вяртанне: Апавяданне // За вярт. на Радзіму. № 13; Полымя. № 1; Саневы шпакоўні: [Апавяданне] // Піянер Бел. 23 мая.

**1959.** Выпадак у дарозе: Апавяданне // Беларусь. № 1; Рэкс і Казбек: Апавяданне // Там жа. № 10; Грушкі-мінушкі: Апавяданне // Вясёлка. № 2. Прасека; Буслы; Дуб і сасна: Мініяцюры // Маладосць. № 1; Ты не адзін: Аповесць // Там жа. № 12. Рэц.: Юрчанка Г. Твор аб знойдзеным шчасці // ЛіМ. 1960. 20 студз.; Прасека // За вярт. на Радзіму. № 19; Разбураны мост // Там жа. № 66; На свяшчэннай зямлі // ЛіМ. 15 ліп.; Акрайчык хлеба: Апавяданне // Піянер Бел. 9 студз.

**1960.** Межы; Таполі; Пацалунак; Змяя на грудзях; Памяць: Апавяданні // Беларусь. № 3; Амерыканец: Апавяданне // Там жа. № 10; Знойдзены скарб: Нарыс // Бярозка. № 8; Ліпы: Апавяданне // Маладосць. № 11; Калі ападала лісце: [Апавяданне] // Піянер Бел. 4 ліст.

**1961.** Бацькава шчасце; Лапці: Апавяданні // Беларусь. № 8; Чарадзейная палачка: Апавяданне // Бярозка. № 12; Гняздо на алешыне: Апавяданне // Вясёлка. № 2: Голас Радзімы. № 18; Заморскія птушкі: Апавяданне // Вясёлка № 6; Дым над лесам: Апавяданне // Там жа. № 12; Іза: Апавяданне // Маладосць. № 1; Скарб: Апавяданне // Полымя. № 3; Рыбачка і рыбакі: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. № 6; Буслінае качаня: [Апавяданне] // Піянер Бел. 26 мая.

**1962.** Мастакі: [Нарыс] // Памочнікі. Мн.; Стахнова студня: Апавяданне // Беларусь. № 2; Малако: Апавяданне // Там жа. № 8; Аджытая прафесія: [Гумарэска] // Вожык. № 18; Ліпка: Апавяданне // Вясёлка. № 3; Хустка і гальштук: [Апавяданне] // Там жа. № 5; Чысцёха: [Апавяданне] // Там жа. № 11; Чайкі; Вера ў жыццё; Дакор; Першае выступленне: Апавяданні // Маладосць. № 8; Жнівеньская раніца: Аповесць // Там жа. № 11, 12.

**1963.** Вальс Шапэна; Сваты: Апавяданні // Беларусь. № 6; Начлег на хутары: Апавяданне // Бярозка. № 4; Разбітае люстэрка: [Апавяданне] // Вожык. № 21; Барабаншчык: [Апавяданне] // Вясёлка. № 6; Цыркач: [Апавяданне] // Там жа. № 12; Раіса: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. № 1; Мікітка: Апавяданне // ЛіМ. 8 студз.; На валасок ад смерці: Апавяданне // Там жа. 19 ліст.; Аля і Галя: [Апавяданне] // Ніва. 24 лют.; Грушкі-мінушкі: [Апавяданне] // Там жа. 20 кастр.

**1964.** Настырная: Апавяданне // Беларусь. № 8; Перастаўленае крэсла: Апавяданне // Вожык. № 16; Буська: Апавяданне Валодзевага таты // Вясёлка. № 5; Дзівачок: [Апавяданне] // Там жа. № 8; Выбітая шыба: [Апавяданне] // Там жа. № 11; Апусцелае гняздо; Мора на камені: Апавяданні // Маладосць. № 5; Татава спіна: Апавяданне // Наст. газ. 15 лют.

**1965.** Былі ў маці сыны: Апавяданне // Беларусь. № 1; Жарало ў дубе: [Раздзел з аповесці «Данеўцы — нашы знаёмыя»] // Бярозка. № 2; Крыўда: Апавяданне // Вясёлка. № 1; Як мядзведзь лавіў рыбу: Апавяданне // Там жа. № 10; Тры апавяданні: Неўтаймаванасць; Гора на дарогах; Зямляк // Маладосць. № 1; Данеўцы — нашы знаёмыя: Аповесць // Там жа. № 9; Неадасланае пісьмо: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 6; Свежы ветрык: Апавяданне // ЛіМ. 15 студз.

**1966.** Жыццёвыя сцежкі: Каля вытокаў памяці // Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн.; Акрайчык хлеба: Апавяданне Інінай маці // Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.; Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Першамайская вуліца; Гняздо на алешыне; Пісьмо: [Апавяданні] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; Каля палонкі: [Апавяданне] // Вясёлка. № 2; Сануля: [Апавяданне] // Там жа. № 7; Сцяжынка; Адпачынак; Парадокс: Замалёўкі // Маладосць. № 12; За тэматычную разнастайнасць, за высокае майстэрства // ЛіМ. 21 студз.

**1967.** Стахнова студня: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1; Славік-натураліст: [Апавяданне] // Арлянятам: У 2 т. Мн. Т. 2; За плотам: Апавяданне // Беларусь. № 3; Гняздо на хаце: Апавяданне // Бярозка. № 5; Глушцы і каршун: [Апавяданне] // Вясёлка. № 3; Аднавокі сом: [Апавяданне] // Там жа. № 8; Волат: Казка // Там жа. № 11; Пра майго дарадцу // Маладосць. № 12; Акно ў волю: Апавяданне // Полымя. № 4; Васіль Каваль // Там жа. № 9; Адказны: [Апавяданне] // Работніца і сялянка. № 8.

**1968.** Пра гэту кнігу і яе аўтара // Бяганская Я. Кожны марыць стаць Калумбам. Мн.; Сустрэча: Навагодняя сцэнка // П'есы для школьнай самадзейнасці. Мн.; Сябар далёкіх гадоў: Мемуары, дзённікі // Беларусь. № 9; Святло над прасторамі: Апавяданне // Вясёлка. № 9; Даверлівасць // Голас Радзімы. № 43; Даверлівасць; Неонава лямпа: Апавяданні // Маладосць. № 7; За святочным сталом; Сведкі: Мініяцюры // Полымя. № 8; Фарфоравая попельніца: Апавяданне // Мін. праўда. 4 вер.

**1969.** Рэўнасць: Камедыя // Беларусь. № 12; Тайна аднаго звяна: Аповесць // Бярозка. № 10—12; Шарыкі: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Добрае слова: [Апавяданне] // Там жа. № 10; Запознены пасаг: Апавяданне // Маладосць. № 6; Паказальны ўрок: [Апавяданне] // Наст. газ. 5 сак.

**1970.** Аднавокі сом; Жывы барометр: [Апавяданні] // Крынічка. Мн.; Хітрыцы: [Апавяданне] // Вясёлка. № 3; Перад званком: [Апавяданне] // Там жа. № 10; Тры апавяданні: Перад світаннем; Лясная ноч; Навагодняе віншаванне // Полымя. № 1; Перад світаннем: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 5; У асенні вечар // Там жа. № 10; Выбітая шыба: Апавяданне // Піянер Бел. 26 сак.

**1971.** Вёска ў радасці: Верш // Універсітэт паэтычны. Мн.; Сваццая: Камедыя ў адной дзеі // Беларусь. № 10; Браты: Апавяданне // Бярозка. № 7; Шэсць падзяк: [Апавяданне] // Вясёлка. № 4; Твая сцяжынка: [Верш] // Там жа. № 9; Гладыёлусы: Апавяданне // Маладосць. № 12.

**1972.** Помста: Апавяданне // Беларусь. № 9; Модная хвароба: Апавяданне // Бярозка. № 4; Міхцюк: Апавяданне // Вожык. № 19; Вачыма дзяўчынкі: [Рэц. на кн.: Каліна К. Забароненая песня. Мн., 1971] // ЛіМ. 28 студз.

**1973.** Адліга падвяла: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Генаў вожык: [Апавяданне] // Там жа. № 5; Чорны дзень: Аповесць // Маладосць. № 6; Мянёк: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 2.

**1974.** Ліпка; Хустка і гальштук: [Апавяданні] // Акцябраты. Мн.; Партыя ў шахматы: Апавяданне // Бярозка. № 9; Выпадак у лесе: [Апавяданне] // Вясёлка. № 6; Для тых, хто адкрывае новае // Полымя. № 1; У асеннюю ноч: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 12.

**1975.** Чуласць // Беларусь. № 1; Млынішча: Апавяданне // Там жа. № 12; Раменны пасак; Наша помста: [Раздзелы з аповесці «Сцежкі»] // Бярозка. № 1; Гоша-імітатар: Апавяданне // Там жа. № 8; Купраша: Апавяданне // Вожык. № 1; Лапці: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Дні далёкія, дні сучасныя // Голас Радзімы. № 45; Разбітае шкло; Юзікавы слёзы: Апавяданні // Маладосць. № 1; Разбураны горад: Апавяданне // Звязда. 16 студз.; Аўтограф: Апавяданне // ЛіМ. 12 вер.; Шлях да святла: [Урывак з кнігі «Сцежкі»] // Чырв. змена. 16 студз.

**1976.** Выхавацель; Недаконачаная вячэра: Замалёўкі з натуры // Вожык. № 21; Экзамен: [Апавяданне] // Вясёлка. № 11; Сцежкі: Аўтабіяграфічная аповесць // Полымя. № 12; Ключ: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 2.

**1977.** Першая сяброўка: [Апавяданне] // Вясёлка. № 7.

**1978.** Прыблуда: Апавяданне // Бярозка. № 5; Бабуля з фотакарткамі: Апавяданне // ЛіМ. 2 чэрв.

**1979.** Ноч на вахце: Аповесць // Полымя. № 2.

**1980.** Экзамен; Сяброўка: [Апавяданні] // Бярозка. № 1; Добрае слова: [Апавяданне] // Вясёлка. № 1; Шпачок-дзівачок: [Апавяданне] // Ніва. 31 жн.; Кірыкаў сябар: [Апавяданне] // Там жа. 14 вер.; Грушы: [Апавяданне] // Там жа. 12 кастр.

**1981.** Экзамен: [Апавяданне] // Вясёлка. Мн.

**1982.** Сустрэчы з Якубам Коласам // Успаміны пра Якуба Коласа. Мн.

**1983.** Добрае слова: [Апавяданне] // Вяснянка. Мн.; Сяброўка: [Апавяданне] // Ніва. 10 крас.; Экзамен: [Апавяданне] // Там жа. 25 вер.

**1984.** Кажушок: [Апавяданне] // Бярозка. Мн.; Пісьмо; Акрайчык хлеба: [Апавяданні] // Чырвоныя лісткі календара. Мн.; За парогам: Аповесць // Полымя. № 7.

**1985.** Добрае слова: Апавяданне // Буслы над хатай. Мн.; Навагодняя сустрэча: [П'еса] // Ніва. 22, 29 снеж.

**1.4.**

С т о н а ў З. Сваёй уласнаю рукою / З рус. Мн., 1930 / Сааўт. пер. С. Баранаў.

З а л к а М. Аповесць аб вечным міры / З венг. Мн., 1931 / Сааўт. пер. С. Баранавых. Рэц.: А л ё ш ы н П.// Маладняк. 1931. № 12.

П а н ч П. Белы воўк: Аповесць / З укр. Мн., 1931.

К а д з у о К. Пад націскам хваляў: Раман / З рус. Мн., 1932.

К а с і л ь Л. Кандуіт: Аповесць / З рус. Мн., 1936 / Сааўт. пер. Шыдлоўскі.

Д а н ж а ш в і л і Ц. На Алазані: Раман / З груз. Мн., 1959 / Сааўт. пер. Т. Цулукідзе.

**1936.** П а н ч П. Гыля гусі: Апавяданне / З укр. // Іскры Ільіча. № 2 / Пер. пад крыпт. А. П.

**1957.** В е н ц л а в а А. Амерыканскі салдат: Апавяданне / З літ. // Літоўскія апавяданні. Мн.

**1967.** Д ж а п а р ы д з е Р. Вясёлы цягнік; Д а н ж а ш в і л і Ц. Маці: Апавяданні / З груз. // Горны вадаспад. Мн.; С у л а к а у р ы А. Габо: Апавяданне / З груз. Полымя. № 11 / Сааўт. пер. Т. Цулукідзе.

**1971.** Р а м а н і н М. Тарасік у Леніна: [Апавяданне] / З укр. // Мы Ленина любим. Мн.; Ш э н г е л а я Д. Стары Тая; К л д ы я ш в і л і С. Турыст: Апавяданні / З груз. // Полымя. № 2 /Сааўт. пер. Т. Цулукідзе.

**1984.** П і с ь м е н н а я Л. Каменьчык большы за гару; А яно ўсё ж сіняе! А ў мяне...: Апавяданні / З укр. // Ад круч дняпроўскіх. Мн.

**1.5.**

**На азербайджанскую мову.** Чэпэр дибиндэ: [Апавяданне] / Тэрч. М. Миркишијев // Белорус гекајэлэри. Бакы, 1982.

**На армянскую мову.** Воўчы ашыйнік: [Апавяданне] / Пер. М. Максапецян // Мост. Ерэван, 1979.

**На балгарскую мову.** Шъркелово гнездо / Прев. И. Дойчинов // Под шепота на дъбовете. София, 1981.

**На грузінскую мову.** Даследчык прыроды / Пер. Т. Цулукідзе; Кажушок / Пер. Л. Хучуа, Е. Кодуа: [Апавяданні] // Беларускія апавяданні. Тбілісі, 1961.

**На казахскую мову.** Кутандар; Терек; Ата данкымен: [Апавяданні] / Ауд. С. Макпыров // Полесье энгімелері. Алматы, 1984.

**На рускую мову.** Ты не один: Повесть / Пер. авт. Мн., 1962.

Родные берега: Рассказы / Пер. Э. Любанская. М., 1964.

Августовское утро: Повесть и рассказы / Пер. М. Мусиенко. М., 1966.

Тайна одного звена; Даневцы — наши знакомые: Повести / Пер. Э. Любанская. М., 1975.

Море на камне: Повесть, рассказы, зарисовки / Пер. Р. Ветошкина. М., 1976.

Береговушки: [Апавяданне] // Зорька. 1957. 7 сент.; Когда опадали листья: [Апавяданне] / Пер. М. Герчик // Там жа. 1957. 26 окт.; Волчий ремешок: Рассказ // Там жа. 1958. 20, 27 сент.; Необычная находка: Рассказ // Там жа. 1961. 21 янв.; Кирилкин друг: [Аповесць] / Пер. И. Бурсов // Там жа. 1961. 26 авг.; Когда опадала листва: [Апавяданне] / Пер. Н. Рогова // Белорусские рассказы. М., 1962; Короткие рассказы: Криница; Аисты; Дуб и сосна; Тополя; Поцелуй; Светлячок; Оскорбление; Межи / Пер. Е. Лесная // Неман. 1962. № 6; Светлячок: Рассказ / Пер. Т. Цулукидзе // Лит. Грузия. 1964. № 9; Наследство; С легкой руки: [Апавяданні] / Пер. Ю. Лабун // Белорусский юмор. Мн., 1965; Липка: [Апавяданне] // Лесная промышленность. 1967. 6 мая; Дым над лесом: [Апавяданне] / Пер. Э. Любанская // Там жа. 1968. 3 авг.; Наследство; С легкой руки: [Апавяданні] / Пер. Ю. Лабун // Белорусский юмор. Мн., 1969; У забора: [Апавяданне] / Пер. П. Жур // Белорусские рассказы. М., 1971; Мастер // Знамя юности. 1976. 7 сент.; Шаги за горизонт // Там жа. 1977. 14 июня.

**На ўкраінскую мову.** Ти не один: Повість / Пер. З. Біленка. К., 1965.

**1.6.**

Л і т о ў с к і я апавяданні. Мн., 1957 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А л е с ь П а л ь ч э ў с к і // Голас Радзімы. 1965. № 6; Х р э с т а м а т ы я па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн., 1966; А л е с ь П а л ь ч э ў с к і [Некралог] // Звязда. 1979. 28 крас.; ЛіМ. 1979. 4 мая; Б а р с т о к М. [Біябібліяграфічная нататка да 80-годдзя нараджэння] // Полымя. 1985. № 1; В і н ш у е м з узнагародай! // ЛіМ. 1969. 3 студз.; В і н ш у е м з юбілеем // Там жа. 1969. 15 студз.; В і ш н е ў с к і І. Вышыні пражытых гадоў // Мін. праўда. 1975. 17 студз.; Г р а х о ў с к і С. Ёсць у мяне друг // Полымя. 1965. № 1; Я г о ж. Чаго не паспеў сказаць // Маладосць. 1980. № 1; Д а л і д о в і ч Г. Дабрыня // ЛіМ. 1975. 18 студз.; Д а л і д о в і ч М. З глыбінь памяці і сэрца // Там жа. 1978. 20 студз.; Д з ю б а й л а П. Вобраз нашага сучасніка ў беларускай прозе. Мн., 1978. С. 161—162; Я г о ж. Духоўныя далягляды героя // На арбіце часу. Мн., 1974; І в а н о в а Л. Сцежкі, якія неканчаюцца // Наст. газ. 1975. 15 студз.; К а в а л ё ў П. Патрабавальнае сумленне // ЛіМ. 1975. 17 студз.; К а л а м і н с к і Я. Калі б героі ажылі... // Чырв. змена. 1959. 12 лют.; К і р э е н к а К. Жыў чалавек... // Кірэенка К. Заўсёды з Радзімай. Мн., 1980; Л і п с к і У. З сумам і болем у сэрцы... // ЛіМ. 1979. 4 мая; М я ж э в і ч У. Талент слухаць чалавека // Полымя. 1975. № 1; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П р у д н і к а ў П. Праз жыццё з піянерскім гальштукам // Наст. газ. 1985. 16 студз.; Х о м ч а н к а В. Дарагі наш дзядзька Алесь // Вясёлка. 1980. № 1; Ц у л у к і д з е Т. Памяць // Маладосць. 1985. № 1; Неман. 1987. № 9; Ц у л у к і д з е Т., Д а л і д о в і ч Г. [Уступнае слова да твораў Алеся Пальчэўскага] // Полымя. 1984. № 7; Ю р э в і ч У. Неўтаймоўнасць таленту // Полымя. 1980. № 1; Я г о ж. Прадмова // Пальчэўскі А. Мора на камені. Мн., 1966; Я г о ж. Пясняр душэўнай шчодрасці // Пальчэўскі А. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1980.

**На рускай мове.** К а н э Ю. Суровая нить // Дет. лит. 1982. № 9; К и с е л е в В. Край творческий

// Киселев В. На истоках неманских. Мн., 1985; Юревич В. В глубины жизни // Сов. Бел. 1975. 16 янв.

2.4.

На беларускай мове. Вольскі А. Пух зямлі: [Верш] // Вольскі А. Чалавек, якому баліць. Мн., 1984; Грахоўскі С. Маўчанне: [Верш] // Грахоўскі С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1983. Т. 2; Яго ж. Шукаю сяброў: [Верш] // ЛіМ. 1977. 14 студз.; Скрыган Я. Пасля развітання // Там жа. 1980. 18 студз.

На рускай мове. Скрыган Я. После прощания: Рассказ / Пер. И. Кононец // Неман. 1981. № 12.

3.1.

БДАМЛіМ, ф. 50, воп. 1—3, спр. 1—290; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 20.

*В. М. Грышкевіч.*

# ПАНАМАРОЎ ВАЛЯНЦІН



*Панамароў Валянцін Георгіевіч (н. 6.7.1923, Масква), празаік, нарысіст. Член СП Беларусі з 1965. Член Саюза журналістаў Беларусі з 1958. Піша на рускай і беларускай мовах.*

З сям'і служачага. Бацька працаваў інжынерам-эканамістам у авіяцыйнай прамысловасці. Дзіцячыя і школьныя гады В. Панамарова прайшлі ў Маскве. Пасля сканчэння дзесяцігодкі (1941) паступіў у Маскоўскі авіяцыйны інстытут, разам з якім у пачатку вайны эвакуіраваўся ў Алма-Ату. У 1942 прызваны ў армію. Быў курсантам Серпухаўскай школы авіямеханікаў, потым слухачом Ваенна-паветранай акадэміі імя Жукоўскага (1942—44). У 1944—45 вучыўся ў Маскоўскім інстытуце міжнародных адносін. Працаваў у крытыка-бібліяграфічным аддзеле рэдакцыі газеты «Правда» (1945—49). У 1949 пераехаў у Мінск, быў карэспандэнтам «Правды», «Известий», «Огонька» па Беларусі. У 1965—71 памочнік першага сакратара ЦК КПБ. Кіраўнік групы паліт-аглядальнікаў Дзяржтэлерадыё БССР (1971—74), уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Беларусі (1974—76). З 1976 на творчай рабоце. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, медалямі.

Літаратурную дзейнасць у галіне публіцыстыкі і нарыса В. Панамароў пачаў у 1946. Першы яго нарыс «Станочніца Аня Салыгіна» быў надрукаваны ў газеце «Правда». Журналісцкія шляхі В. Панамарова ў пасляваенны час цесна звязаны з лёсам многіх вядомых людзей Беларусі, жыццём рэспублікі. Ён знаходзіў добрыя, цёплыя словы, каб уславіць ратны і працоўны подзвіг беларускага партызанскага краю і яго герояў, раскрыць іх духоўнае багацце («Партызанскія гады Арлоўскага», «Кірыла Арлоўскі»), расказаць пра маладомыя старонкі жыцця і дзейнасці П. М. Машэрава (нарыс «Усё так і было»). Пісаў партрэты сучаснікаў, якіх сустракаў на журналісцкіх пуцявінах, папулярызаваў вопыт лепшых прадстаўнікоў старшынскага корпуса рэспублікі, гаспадарлівых вясковых спецыялістаў, калгаснікаў (дакументальная аповесць «Ідалінскія роздумы»). Выступаў з нарысамі, апавяданнямі па тэлебачанні («Памяць сэрца»), на Маскоўскім радыё («Ад сэрца да сэрца»). Стварыў сцэнарыі дакументальных фільмаў («У агні жыцця», паст. 1969; «Цяжкія радасці», паст. 1984; «Тутэйшыя» па матывах п'есы Я. Купалы, выд. 1991). Аўтар успамінаў пра М. Лынькова, П. Броўку, П. Пестрака, А. Куляшова, дакументальнай аповесці «Мяцежнае сэрца», кніг нарысаў і апавяданняў «На хвалях жыцця», «Раскажы маім дзяўчаткам», «Усё так і было».

Жыве ў Мінску.

*Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Партизанские годы Орловского. М., 1958. (Б-ка «Огонек»).

На волнах жизни: Очерки и зарисовки. Мн., 1961. Рэц.: Дадзіёмаў У. Ураженне застаецца прыемнае // ЛіМ. 1961. 25 крас.; Емельянов В. Люди,

которые сказку делают былью // Сов. Бел. 1961. 9 июня; К а р п а ч о ў Э. На людскіх пуцявінах // Чырв. змена. 1961. 18 сак.; М і р о н а в а В. На хвалях жыцця // Беларусь. 1961. № 5; П о л у н и ч е в Н. Очерки о современности // Неман. 1961. № 6.

Суд спасает убийц. Мн., 1963. Рэц.: С а д о ў с к а я С. За мір у адказе кожны // Звязда. 1963. 20 снеж.

Расскажи моим девочкам. М., 1969. (Б-ка «Огонек»).

Мятежное сердце: Повесть о К. П. Орловском. М., 1970. (Герои Советской Родины). Рэц.: К і с я л ё ў Л. Усё жыццё — подзвіг // ЛіМ. 1970. 6 ліст.; С о б а л ь Ф. Гордасць зямлі беларускай // Вяч. Мінск. 1970. 4 вер.; 2 изд. М., 1972. (Герои Советской Родины).

К. П. Орловский: Очерк. Мн., 1977.

Все так и было: Очерки. Мн., 1984.

Своими глазами: (Из американских впечатлений). Мн., 1989.

Тутэйшыя: Па матывах п'есы Я. Купалы «Тутэйшыя» / Рэж. сцэнарый. Мн., 1991.

**1.3.**

**1946.** Станочница Аня Салыгина: Очерк // Правда. 17 июня.

**1952.** Мастер белорусского театра // Огонек. № 23; Прызнанне // Гомел. праўда. 30 ліст.

**1953.** Молодая поросль // Огонек. № 9; Покорение болот: (Очерк) // Там жа. № 24; Людзі нашых дзён: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 4; «Трагическая Америка» // Сов. Бел. 29 янв.

**1954.** Две встречи: [Апавяданне] // Сов. Отчизна. № 4; Беспокойная служба // Там жа. 28 нояб.

**1955.** На пути к социализму // Сов. Бел. 29 июля; Настоящее: Рассказ // Сталин. молодежь. 16 янв.

**1956.** Кузьмич: [Нарыс] // Мужество побеждает. М.; Большой колхозный разговор // Огонек. № 12; Вакол Еўропы: (З турысцкіх уражанняў) // Звязда. 23, 25, 26, 28 вер.

**1957.** Страницы жизни Кирилла Орловского: Очерк // Огонек. № 40; Между повестью и очерком: [Рэц. на кн.: В а с и л е в с к и й П. Новый день. Мн., 1956] // Сов. Отчизна. № 4; Герои войны и мира: Отрывок из очерка об К. П. Орловском // Сов. Бел. 24, 26—28 марта.

**1958.** Триумф королевы полей: (Очерк) // Огонек. № 42; Подзвіг: Нарыс // Полымя. № 5 / Сааўт. А. Дзітлаў; Песни принеманской стороны: [Рэц. на кн.: Б р ы л ь Я. Избранное. Мн., 1957] // Сов. Отчизна. № 5; Служба пагранічная // Сел. газ. 31 мая; На границе: (Эпизоды из пограничной службы) // Сов. Бел. 26 марта; Могучий шелкопряд // Там жа. 2 июля; Глазами советского человека // Там жа. 9 сент.

**1959.** Люди принеманского края: [Рэц. на кн.: Б р ы л ь Я. Рассказы и повести. М., 1958] // Огонек. № 19; Дар актера // Там жа. № 39; Анечка: Апавяданне // Калг. праўда. 22 лют.; Интимная история: (Отрывок из книги о председателе колхоза «Рассвет» Могилевской обл. К. П. Орловском) // Сов. Литва. 21 авг.; Марыя Васільеўна: [Апавяданне] // Чырв. сцяг. 22 жн.; Падарожжа па Узбекістану // Там жа. 3 кастр.

**1960.** Турма апусцела // Голас Радзімы. № 19; Не спит пуща зимою: (Рассказ о Беловежской пуще) // Известия. 8 марта.

**1962.** Колька Иванович: [Нарыс] // Неман. № 6; Сел да поехал, но...: (Заметки о работе автомоб. транспорта Белорус. ССР) // Огонек. № 48; Паразіты: Публіцыстычны нарыс // Полымя. № 9; Путь к сердцу читателей // Во славу Родины. 3 авг.; Понимают человека: Рассказ // Сов. Бел. 8 февр.; Перед объективом — Франция // Там жа. 8, 9 дек.; Дзве сустрэчы з франц. моладдзю: [Дарожныя нататкі аб знаходжанні ў Францыі] // Чырв. змена. 8, 10 ліп.

**1963.** Колхозные послы на земле белорусской и на земле болгарской // Огонек. № 43; В расчете на нетребовательность // Сов. Бел. 1 марта.

**1965.** Усё залежыць ад людзей: Нарыс // Полымя. № 6.

**1966.** Всё так и было // Люди легенд. М.; Дороги друзей сойдутся // Огонек. № 19.

**1967.** В огне жизни // Сов. Бел. 18—21 мая.

**1968.** Мятежное сердце: Повесть о Кирилле Прокофьевиче Орловском // Неман. № 9, 12. Рэц.: Г р а к о в и ч Н. Повесть о великом гражданине // Сел. хоз-во Бел. 1969. № 3; К і с я л ё ў Л. // Маг. праўда. 1968. 20 снеж.; Наст. газ. 1968, 2 ліст.; П о с л е д о в и ч М. // Сел. газ. 1969. 27 мая; Р ы в к и н Я. Сердце коммуниста // Сов. Бел. 1969. 27 февр.

**1969.** От сердца к сердцу // Огонек. № 24; Оборотень: Докум. рассказ // Сел. газ. 18—20 марта.

**1975.** Сила фактов // Лит. обозрение. № 1; Память сердца // ЛГ. 9 апр.

**1977.** Звонкае сэрца паэта //ЛіМ. 30 снеж.

**1978.** Вельмі трэба пагаварыць // Маладосць. № 7; «Люблю народ»: Успаміны // Там жа. № 11.

**1979.** Самая большая радость: [Нарыс] // Первая строка. Мн.; Спагадлівасць // Святло яго душы. Мн.; Імем Кастрычніка // Беларусь. № 11.

**1981.** «Ціхі» гераізм: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Тихий героизм: [Урыўкі з дакум. аповесці] // Неман. № 10.

**1985.** Оборотень: Докум. рассказ // Высокий долг. Мн.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Кірыла Арлоўскі: Дакум. аповесць / Пер. А. Вялюгін. Мн., 1970. (Нар. героі).

Кірыла Арлоўскі: Дакум. аповесць / Пер. А. Вялюгін. Мн., 1971. (Нар. героі).

Кірыла Арлоўскі: Дакум. аповесць / Пер. А. Вялюгін. Мн., 1982. (Слава твая, Беларусь!).

Кірыла Арлоўскі: Дакум. аповесць / Пер. А. Вялюгін. Мн., 1983. (Слава твая, Беларусь!). Рэц.: М і х а л е в і ч Д. // ЛіМ. 1983. 27 мая.

Два лёсы: Апавяданне / Пер. Я. Брыль // Звязда. 1957. 27 снеж.

**На польскую мову.** Wielki obywatel // Literatura Radziecka. 1971. № 3.

**2.3.**

В а л я н ц і н у Панамарову — 50 // ЛіМ. 1973. 13 ліп.; В а л я н ц і н у Панамарову — 60: Віншаванне // Там жа. 1983. 8 ліп.; В я л ю г і н А. Няпростыя лёсы // Беларусь. 1985. № 7; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; [Пісьмо М. Лынькова] // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1985. Т. 8. С. 424—425; С о б а л ь Ф. Праўда жыцця // Вяч. Мінск. 1969. 15 мая.

*В. У. Смольская.*

# ПАНІЗНІК СЯРГЕЙ



*Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (псеўд. С. Папар, Сяргей Папар; н. 10.5.1942, в. Бабышкі Міёрскага р-на Віцебскай вобл.), паэт, перакладчык. Член СП Беларусі з 1967. Член Саюза журналістаў Беларусі з 1966.*

З сялянскай сям'і. Бацька, Сцяпан Дзмітрыевіч, і маці, Алена Рыгораўна, працавалі ў калгасе, цяпер на пенсіі. Вучыўся С. Панізнік спачатку ў Латаўшчынскай пачатковай, потым у Лявонпальскай сярэдняй школе (1949—59). У 1962 скончыў фельчарскае аддзяленне Магілёўскага медыцынскага вучылішча. Працаваў фельчарам Княжыцкай участковай бальніцы каля Магілёва. З 1962 да 1963 служыў фельчарам дывізіёна ў вайсковай часці Беларускай ваеннай акругі. У 1963—67 студэнт факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ. З 1967 да 1976 ваенны журналіст. У складзе Цэнтральнай групы войск служыў у Чэхаславакіі (1969—73), потым — у Беларусі. Быў звольнены з арміі па абвінавачанні ў антысаветызме, выключаны з КПСС і нейкі час нідзе не працаваў. З 1977 стыльрэдактар газеты «Вячэрні Мінск», з 1980 рэдактар Дзяржтэлерадыё БССР, з 1982 рэдактар, загадчык, а пазней вядучы рэдактар рэдакцыі літаратуры для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту выдавецтва «Юнацтва». З 1992 у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, даследуе беларуска-латышскія і беларуска-чэшскія культурныя сувязі. Узнагароджаны савецкімі і чэхаславацкімі медалямі.

Першы верш С. Панізніка «Фестывальнае свята» надрукаваны ў 1959 у Міёрскай раённай газеце «Зара камунізму». Першая публікацыя ў рэспубліканскім друку (верш «Нічагуткі») з'явілася ў 1960 у ліпеньскім нумары часопіса «Вожык». З таго часу ў беларускіх, а таксама ўкраінскіх перыядычных выданнях, у калектыўных зборніках друкуюцца яго вершы, артыкулы, рэцэнзіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Кастры Купалля», «Палявая пошта», «Крона надзеі», «Чало і век», «Слова на дабрыдзень», «Мацярык», «Жыцень», «Стырно», дакументальнай аповесці «Браніслава». Лёс Радзімы, Віцебшчыны, працавітых землякоў высвечваецца ў яго творах трагічным зарывам вайны. Сувязь з культурнымі традыцыямі беларускага народа, вернасць грамадзянскаму абавязку, працоўныя і салдацкія будні краіны, пачуцці кахання, складаныя чалавечыя ўзаемаадносіны — асноўны змест лірычнага маналога-роздуму С. Панізніка. Ён звяртаецца да фальклорнай паэтыкі, запісвае народныя жарты, песні (зб. «Са старога куфэрка»). Дзецям адрасаваў вершы, жарты, пацешкі, скорагаворкі, якія сабраў у кнігах «Адкуль вясёлка п'е ваду» і «Мы — грамацеі!». Выдаў брашуру «Пасля вогненных вёсак» пра лёс вязняў былых фашысцкіх канцлагераў. У перыядычным друку выступае з артыкуламі і рэцэнзіямі па праблемах сучаснага літаратурнага працэсу.

Творы С. Панізніка перакладаліся на латышскую, рускую, украінскую мовы. Паэт таксама перакладае на беларускую мову творы латышскіх, літоўскіх, украінскіх, чэшскіх аўтараў. Складальнік двухтомнай анталогіі «Латышская савецкая паэзія», зборніка вершаў беларускіх паэтаў для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту «Воляй азорыцца свет», зборніка выбранай лірыкі М. Багдановіча на рускай мове «Узор василька». На вершы С. Панізніка кампазітары В. Бурдзіцкі, В. Войцік, Г. Казлова, М. Пятрэнка, А. Чыркун і інш. напісалі песні.

Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Кастры Купалля: Лірыка. Мн., 1967. Рэц.: Б л а т у н С. Настоеная на карэннях // Чырв. змена. 1967. 13 снеж.; Г н і л а м ё д а ў У. Радасць зямлі // ЛіМ. 1967. 12 вер.; Л а п і ц к і В. Шчырае слова // Маг. праўда. 1968. 7 мая; Р а г о й ш а В. Кастрам купалля — палымнець // Маладосць. 1968. № 1.

Палявая пошта: [Вершы] Мн., 1972. Рэц.: Ж у к Д. Упэўненасць // ЛіМ. 1973. 16 лют.; М а р ц і н о в і ч А. Раніца ў вайсковым страі // Маладосць. 1973. № 3.

# ПАЎЛЮКОЎСКІ УЛАДЗІСЛАЎ



**Паўлюкоўскі Уладзіслаў [псеўд. У.-Ініцкі, Улад. Ініцкі, Уладз. Ініцкі, У. І. Ніцкі, Улад-Ініцкі, Улад.-Ініцкі, Унучак, Унучкаў Зямляк; крыпт. У. Паў-скі, Ул. Паў-скі, У. І., У.- І., Ў. П.; 1(13).5.1895, в. Ініца Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.— 8.9(паводле іншых звестак 8.11).1955, Вільнюс, пахаваны на могілках Роса], паэт, празаік, этнограф, мастак.**

Паходзіў з мнагадзетнай сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу ў Стоўбцах, пасля — гарадскую ў Навагрудку. Працаваў у канцылярыі маёнтка кн. Радзівіла. Вучыўся ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы. У першую сусветную вайну служыў прапаршчыкам, быў палкавым пісарам у штабе 530-га пяхотнага Васіль-Сураўскага палка, франтавыя дзеянні якога канцэнтраваліся пераважна на Віленшчыне. Захаваўся альбом франтавых фотаздымкаў, зробленых У. Паўлюкоўскім (зберагаецца ў ЦНБ АН Беларусі). Удзельнік грамадзянскай вайны, меў баявыя ўзнагароды. У 1920 дэмабілізаваны, вярнуўся ў родную Ініцу. У сярэдзіне 20-х гадоў пераехаў у Вільню. Некаторы час быў звязаны з Грамадой, удзельнічаў у яе друку (1925—27). Супрацоўнічаў у часопісах «Маланка», «Шлях моладзі» (лёс аддадзенай туды працы «Тэхніка вершаў» сёння невядомы), «Авадзень» і інш. Як графік удзельнічаў у выданні календароў, кніжак, падручнікаў. Прырабляў рознымі выпадковымі работамі: фатаграфаваў, фарбаваў сцены і падлогі, рабіў маленькія абразкі, якія прадаваў на кірмашах. У 1926 арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў віленскую турму на Лукішках. Апеляцыйны суд скасаваў яго судовую справу, і ў 1927 У. Паўлюкоўскі вызвалены з турмы. У 1939 арыштаваны другі раз і адпраўлены ў Картуз-Бярозаўскі канцлагер, адкуль выйшаў на волю пасля вызвалення Заходняй Беларусі. Сваё знаходжанне ў канцлагеры апісаў у 1940 ва ўспамінах «Арышты; Бяроза і воля». Вярнуўся ў Вільню. У 1940 стаў штатным супрацоўнікам Беларускага музея імя І. Луцкевіча. Пасля яго ліквідацыі працаваў дырэктарам Літаратурнага музея імя А. Пушкіна (1945—48). 29.8.1948 арыштаваны савецкімі органамі бяспекі і асуджаны ў Мінску на 10 гадоў лагернага рэжыму. Вярнуўся з лагера ў 1953 невылечна хворы, спаралізаваны.

Літаратурная спадчына У. Паўлюкоўскага — галоўным чынам гумарыстычныя і лірычныя вершы. У заходнебеларускім друку першыя яго творы пачалі з'яўляцца з 1926. Іх тэматыка — турэмнае зняволенне, жыццё за кратамі (вершы «Лукішкі», «Дзень у адзіночцы», «У вастрозе», «Відзежа ў вастрозе»). У канцы 20-х гадоў даволі часта выступаў у перыядычным друку («Наша справа», «Наша праўда», «Сялянская ніва», «Маланка», «Грамадзянін» і інш.); тады ж выйшлі ў Вільні асобнымі выданнямі яго кнігі «Сон Гаўрылы і розныя вершы», «Клім бабаю і іншыя жарты», «Апавяданні». У 30-я гады друкаваўся пераважна ў «Шляху моладзі», «Беларускай крыніцы». Асноўныя матывы яго вершаў — сацыяльная няроўнасць і нядоля, імкненне да свабоды і справядлівасці. У жартоўных і гумарыстычных вершах апісваў анекдатычныя жыццёвыя сітуацыі, камічныя здарэнні. Гэтыя вершы (хутчэй апавяданні вершам) добразычлівыя, хоць месцамі і маралізатарскія. Удалымі можна лічыць яго літаратурныя спробы ў прозе. Яго апавяданні напісаны каларытнай мовай, з гумарам і спачуваннем простаму чалавеку, у іх даволі дынамічны сюжэт. У лепшых з іх гучаць матывы пошуку літасці беспрытульнаму чалавеку, які гіне, не знайшоўшы падтрымкі і спагады ў чэрствым свеце («На сходцах касцёла», «Ля крыжа»). У жартоўных яго апавяданнях раскрываецца рахманы і шчыры характар беларуса («Жулік», «Ня поўны беларус»). Найбольш вядомая праца У. Паўлюкоўскага ў 30-я гады — этнаграфічныя эцюды, прысвечаныя кожнаму месяцу года,— своеасаблівы народны каляндар, у якім апісваліся традыцыйныя народныя святы, звычаі, абрады, прыводзіліся народныя прыказкі, адпаведныя земляробчаму цыклу, тлумачыліся назвы месяцаў і іх першакрыніцы, а таксама назвы ў календарах іншых народаў, пачынаючы са старажытнарымскіх часоў і да пачатку 20 ст. Запісаныя У. Паўлюкоўскім народныя прыказкі і прымаўкі выкарыстаны ў акадэмічным томе «Прыказкі і прымаўкі» (1976). Быў вядомы і як перакладчык. Асобнымі выданнямі ў Вільні выйшлі апавяданні Л. Талстога ў яго перакладзе. Разам з мастакамі Я. Драздовічам і М. Васілеўскім ілюстраваў «Першыя зярняткі» — чытанку і лемантар, складзеныя С. Паўловічам. Рукапісы некаторых мастацкіх твораў У. Паўлюкоўскага, прац пра М. Багдановіча, І. Насовіча і інш. захоўваюцца ў бібліятэцы АН Літвы.

*І. Э. Багдановіч, Л. А. Войцік.*

# Бібліяграфія

**1.2.**

Сон Гаўрылы і розныя вершы. Вільня, 1928 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

Апавяданні. Вільня, 1929 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

Клім бабаю і іншыя жарты. Вільня, 1929 (Гумарыст. б-ка. Сш. 1) / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

Arylšty; Biareza i vola: (Uspaminy aryštanta). Vilnius, 1940 / Пад псеўд. Ілад-Ініцкі.

**1.3.**

**1926.** Віншаванне; У школе: [Вершы] // Маланка. № 17 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Лукішкі: [Верш] // Нар. справа. 30 кастр. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Дзень у адзіночцы (на Лукішках): [Верш] // Там жа. 27 ліст. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; У вастрозе: [Верш] // Наша справа. 8 снеж. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1927.** Відзежа ў вастрозе: [Верш] // Наша праўда. 14 мая / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Адзіночка на Лукішках: [Верш] // Там жа. 4 чэрв. / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Тры агні: [Верш] // Там жа. 15 чэрв. / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Каўка: [Байка] // Там жа. 18 чэрв. / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Крыгалом; «Надыдзе час! Святая праўда...»: [Вершы] // Там жа. 2 ліп. / Пад псеўд. Уладз. Ініцкі; Ад чаго дрыжыць асіна: (Літоўская пагудка): [Паэма] // Там жа. 21 вер. / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Пачатак зімы: [Верш] // Сялян. ніва. 26 ліст. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Пані — свіння: (Жарт) // Там жа. 13 снеж. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1928.** «Зязюльчыны слёзы»: (Легенда) // Грамадзянін. № 12 / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Стары спосаб: [Верш] // Маланка. № 1 / Пад псеўд. Улад.-Ініцкі; Жонка мужа пахавала; Кахала Міхала: [Вершы] // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Улад.-Ініцкі; Па смерці; Евангельскі поп: [Вершы] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Улад.-Ініцкі; Як да дурня: [Верш] // Маланка. № 11 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Ні добра, ні дрэнна (з Руданьскага): [Верш] // Там жа. № 13 / Пад крыпт. У. І.; Праз вастрогі: [Верш] // Голас працы. 30 мая / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Захацеў я ажаніцца: [Верш] // Пякучая маланка. 22 кастр. / Пад псеўд. Улад.-Ініцкі; Мне сумна: [Верш] // Сцяг працы. 4 ліп. / Пад псеўд. Улад. Ініцкі; Ой, рана...: [Верш] // Сялян. ніва. 4 студз. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Не сумуйце: (Алегорыя) // Там жа. 11, 14 студз. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Развважанні: [Верш] // Там жа. 29 студз. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1929.** Ах, чаму я не радзіўся; Не, ня згіне: [Вершы] // Беларускі каляндар на 1929 год. Вільня / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Кахала Міхала; «Гаварылі мне старыя...»; Пані — свіння: [Вершы] // Беларускі народны каляндар. Вільня / Пад псеўд. У.-Ініцкі; Тыдзень гультая; Тыдзень п'яніцы: [Вершы] // Авадзень. № 1 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; «Рай на Крэсах»: [Верш] // Грамадзянін. № 1 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Чую, кажуць...: [Верш] // Там жа. № 2 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Моладзі; Устанем ад сну векавога: [Вершы] // Шлях моладзі. № 1 / Пад крыпт. У. І.; Смела ідзі: [Верш] // Там жа. № 3 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1930.** Дождж; Смех; Страшны суд: (Па Руд-у); Вёска: [Вершы] // Беларускі гаспадарскі каляндар «Рольнік» на 1931 год. Вільня / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Летняя ноч: [Верш] // Шлях моладзі. № 10 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1931.** Вёска: [Верш] // Бел. думка (Гродна). 31 мая / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1933.** Крызіс і ё-ё; Банадысь і Акуліна: [Вершы] // Авадзень. № 1 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Баравік і мухамор: [Байка] // Шлях моладзі. № 2 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Мы: [Верш] // Там жа. № 3 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Пралескі: (З паэмы «Крыжачка») // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Да зоркі: [Верш] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Улад.-Ініцкі.

**1934.** Зімовая ноч: [Верш] // Шлях моладзі. № 1 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; На моры: [Верш] // Там жа. № 2 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Незалежнасць — наша зорка: [Верш] // Там жа. № 3 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Шлях моладзі: [Верш] Там жа. № 6 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Да брата: [Верш] // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Ранняй восенню: [Верш] // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1935.** Зайцы: (Байка) // Пралескі. № 5 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; «Сонца ўзбегла на нябёсы...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 7 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Трыялет: [Верш] // Там жа. № 8—9 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1938.** Мяцеліца: [Верш] // Шлях моладзі. № 3 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Летам у лесе: [Верш] // Там жа. № 18 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1939.** Арабская прыповесць: [Верш] // Шлях моладзі. № 2 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Шлях моладзі: [Верш] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Да пагоні: [Верш] // Крыніца. 5 снеж. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Арышты, Бяроза і воля: (Успаміны арыштанта) // Там жа. 8, 12, 15, 19, 29 снеж.; 1940. 1, 9, 16, 19, 23, 26 студз. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі; Ноч мінула: [Верш] // Там жа. 22—25 снеж. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1965.** Як на дурня: [Верш] // Ніва. 20 чэрв. / Пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1.4.**

Т а л с т о й Л. Ці шмат чалавеку трэба зямлі і другія апавяданні / З рус. Вільня, 1928 / Пер. пад псеўд. Улад-Ініцкі.

Т а л с т о й Л. Ад чаго зло на свеце і другія апавяданні / З рус. Вільня, 1929 / Пер. пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**1928.** З о ш ч а н к а М. Хамства: Апавяданне / З рус. // Грамадзянін. № 21 / Пер. пад псеўд. Улад-Ініцкі; Л е в і н Б. Саша: (З радавой гумарыстыкі) / З рус. // Там жа. № 22 / Пер. пад псеўд. Улад-Ініцкі.

**2.3.**

**На беларускай мове.** «С о н Г а ў р ы л ы» // Слова працы. 1928. 27, 31 кастр.

**3.1.**

БДА, ф. 882 с., воп. 1, адз. зах. 60, л. 30; ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 228; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 158, 186, 455—457, 526, 707.

*Т. М. Махнач.*

# ПАЎЛЮКЯВІЧУС (ДЖУГАС) БАНАВЕНТУРА



**Паўлюкявічус (Джугас) Банавентура Казіміравіч (інш. псеўд. Bonplas, крыпт. B. P., Dž.; 1896, в. Будэжэрай Мар'ямпальскага пав. Ковенскай губ., цяпер Вілкавішскі р-н, Літва— 29.11.1938, Мінск), празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў на літоўскай мове.**

Нарадзіўся ў сям'і вясковага цесляра. У дзяцінстве быў пастушком, парабкаваў. З цяжкасцю, самавукам здабываў адукацыю. У 1922 паступіў на трэці курс настаўніцкай семінарыі ў Мар'ямпалі. Там удзельнічаў у рабоце марксісцкага гуртка (па сутнасці — камсамольскай арганізацыі). Закончыўшы семінарыю (1924), паступіў на прыродазнаўчы факультэт Каўнаскага універсітэта. У 1926, калі Літоўская Камуністычная партыя пачала выдаваць легальны часопіс «Skardas» («Водгук»), Б. Паўлюкавічус стаў яго афіцыйным рэдактарам. На другім нумары часопіс быў закрыты, а яго рэдактар апынуўся ў турме. Выйшаўшы на волю, паехаў працаваць настаўнікам літоўскай школы ў Рызе, адначасова сам вучыўся там ва універсітэце. Завязаў кантакты з газетай «Balsas» («Голас»), якая выходзіла ў Германіі як орган ЛКП, пасылаў туды артыкулы пра жыццё рыжскіх рабочых. У 1929 ЛКП запрасіла яго ў Германію (Кёнігсберг) працаваць у рэдакцыі гэтай газеты. Там жа ў 1930 Б. Паўлюкявічус стаў членам ЛКП. Пасылаў публіцыстычныя і крытычныя артыкулы ў літоўскія газеты ЗША «Laisve» («Свабода») і «Vilnis» («Надзея»), а таксама ў газету «Raudonasis artojas» («Чырвоны араты»), якая выдавалася ў Мінску. З 1932 працаваў у гэтай газеце загадчыкам культмасавага сектара. Друкаваў у ёй нарысы пра літоўскія калгасы і школы ў БССР, апавяданні. У 1934 прыняты ў СП БССР, увайшоў у яго літоўскую секцыю. З 1933 вучыўся ў аспірантуры АН БССР, пісаў дысертацыю пра творчасць літоўскага паэта І. Білюнаса (незакончана, пазней загінула). У час вучобы захапляўся музыкай, тэатрам, мастацкай самадзейнасцю. У 1938 арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання (прысуд, магчыма, быў выкананы ў Курапатах). У 1957 пасмяротна рэабілітаваны.

Друкавацца Б. Паўлюкявічус пачаў у 1926 у часопісе «Skardas». У сваіх апавяданнях, абразках і артыкулах паказваў цяжкае жыццё літоўскіх батракоў на сваёй радзіме («Пасяленец», «Аўкцыён», «Жніво»). Потым у яго творчасць увайшла рабочая тэматыка (апавяданні «Першае мая», «Забастоўка», рэпартаж «Свята барацьбы», незакончаная аповесць «Беспрацоўны»). У Мінску працаваў над аповесцю «Бядоты батрака», другая частка якой загінула. У 1936 пачаў пісаць новую аповесць «Сенакос» — з жыцця літоўскага калгаса ў БССР (в. Малькова). На старонках газеты «Raudonasis artojas» друкаваліся яго крытычныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў. Напісаны яны з добрым веданнем іх творчасці. Аднак на артыкулах адбілася захапленне Б. Паўлюкявічуса «белапаўскай» крытыкай: паэзію Я. Купалы, Я. Коласа і сваіх літоўскіх калег ён разглядаў з пазіцый вульгарнага сацыялагізму, шукаў у ёй праявы «дробнабуржуазнай, нацдэмаўскай» ідэалогіі. Перакладаў з латышскай, нямецкай і рускай моў. Артыкулы на беларускай мове змяшчаў у газеце «Літаратура і мастацтва». Лепшае з таго, што напісана Б. Паўлюкявічусам, увайшло ў пасмяротны зборнік «Бядоты батрака», выдадзены ў Вільнюсе ў 1960.

*А. В. Мальдзіс.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Lietuvių kalbos vadovėlis: (Vadovelis pradžios mokykloms). Мн., 1933 / Сааўт. Ф. Вайшнарас.

Berno vargai. Vilnius, 1960.

**1.3.**

**1926.** Naujakurys // Musų skardas. Kaunas / Пад псеўд. Bonplas; Tegirdi // Skardas. Nr 11 / Пад крыпт. B. P.; Bedarbis // Skardas. Nr 2 / Пад псеўд. Bonplas.

**1929.** Latvijos socialdemokratai tarnauja Angleijos ir Lenkijos imperialistams; Provokatoriai bėga iš Latvijos // Balsas. Nr 1; Latvies buržuazijos ir socialdemokratų bendro 10 m. viešpatavimo balansas // Balsas. Nr 2; Latvijos fašizmas ir socialfašizmas // Balsas. Nr 6; Rugiapiūtė // Balsas. Nr 9; 1-oji Gegužes Latvijoje // Balsas. Nr 12.

**1930.** Smulkiaburžuazinės ziurkes // Balsas. Nr 6;

Varzytynės // Balsas. Nr 9; Nauja streikų banga Vokietijoj // Raud. artojas. Lapkr. 7.

**1931.** Gegužes Pirmoji // Priekalas. Nr 3—4; Streikas // Priekalas. Nr 5—6; Idiotas // Raud. artojas. Geg. 1; Kas dedas vokietijoj: (Nuo musų Korespondento iš Vokietijos) // Raud. artojas. Liep. 20, 27; Gruod. 11; Saus. 27.

**1932.** Svajones ir realybė: Iš apysakos «Naujakurys» // Raud. artojas. Saus. 21; Diskusijos: (Iš apysakos «Nedarbas») // Raud. artojas. Kov. 10; Daugiau realių Kovos vaizdų poezijoj // Raud. artojas. Kov. 15; Šešiasdešimt pirmosios Paryžiaus Komunos sukaktuvės // Raud. artojas. Nr 14 / Пад крыпт. Dž.; Kovos švente // Raud. artojas. Geg. 1.

**1933.** Паэзія рэвалюцыйнай барацьбы // ЛіМ. 27 жн.; Gegužes Pirmoji; Diskusijos // Lietuvių literatūros chrestomatija. Mn., D. 1; V. Žalonio «Audringosios jėgos» // Priekalas. Nr 1, 2; Grabes kasant: (Iš apysakos «Naujakurys») // Raud. artojas. Vas. 16; Susiderėjo: (Iš apysakos «Berno vargai») // Raud. artojas. Bal. 5; Svelkintinas žingsnis // Raud. artojas. Geg. 1; Janka Kupala — liaudies poetas // Raud. artojas. Nr 24; Jonas nori i sigyti žagrė: (Iš apysakos «Naujakurys») // Raud. artojas. Liep. 30.

**1934.** Nedarbas // Po raudonaja vėliava. Mn.; Lietuvių tarybinių rašytojų pasitarimas Minskė // Priekalas. Nr 1; Amerikos «Šviesa» ir jos poetai // Priekalas. Nr 3; Smalkėse // Priekalas. Nr 11; Kovokime už literatūros kokybė // Priekalas. Nr 12; Apie musų poeziją // Raud. artojas. Liep. 22.

**1935.** Juratos Juraitės apysakos // Priekalas. Nr 5; Malkova // Priekalas. Nr 10; Janka Kupala — liaudies poetas // Raud. artojas. Gruod. 11.

**1936.** Poezijos plenumas // Priėkalas. Nr 4; Atsiminimai apie K. Požela Kauno kalejime // Priekalas. Nr 12; Apie BSSR sovietinių rašibojų lietuvių sekcijos poeziją // Raud. artojas. Vas. 10; Merginos valdomi sarčiai: (Ištrauka iš apysakos «Sienapiutė») // Raud. artojas. Geg. 1; Išgivendinkim musą poezijos trukumus // Raud. artojas. Birž. 30; V. Žalionio romanas «Jonas Stumbris» // Raud. artojas. Rugs. 29; Jakubo Kolaso 30 metų literatūrinio darbo sukaktuves minint // Raud. artojas. Spal. 11; Sovietų Baltarusijos lietuvių mokyklas belankant // Raud. artojas. Gruod. 22, 29.

**1937.** Nesažiningai atliktas darbas: Bibliografija ir kritika // Raud. artojas. Saus. 10; A. S. Puškino sukaktuvemis besiartinant // Raud. artojas. Saus. 15; Prieš chałtura // Raud. Artojas. Vas. 14; Keletas žodžių apie pradedančius poetus // Raud. artojas. Kov. 24; Geriausias Sovietų epochos poetas // Raud. artojas. Bal. 20.

**1.4.**

L a i c e n s L. Klykiantieji korpusai: Romanas / Iš latv. Mn., 1935.

**1932.** G o r k i j M. Daina apie Audros Pranaša / Iš rusų // Raud. artojas. Rugs. 29.

**1933.** L a i c e n s L. Viens nakti bėldesi; P r i e d n i e k s K. Sovietos Minske / Iš latv. // Raud. artojas. Geg. 1.

**1935.** L o r d k i p a n i d z e K. Šalin kukuruzu respublika / Iš gruz. // Raud. artojas. Liep. 25; O s t r o v s k i j N. Kaip grudimsi plienas / Iš rusų // Raud. artojas. Lapkr. 11.

**1936.** J a k i m i e n k o N. Partizanas ir jo motina / Iš rusų // Raud. artojas. Lapkr. 11.

**1937.** B o g d a n o v i č L. Čemodanas: (Novele) / Iš rusų // Raud. artojas. Kov. 24; G r a d o v G. Menkniekiai: (Vieno veiksmo komedija) / Iš rusų // Raud. artojas. Bal. 20, 25; A l t a j s k i N. Parubežinis epizodas / Iš baltar. // Raud. artojas. Geg. 21; I l j e n k o v V. Asmenibė / Iš rusų // Raud. artojas. Geg. 31; G o r k i M. Vaikai givens geriau / Iš rusų // Raud. artojas. Birž. 16.

**1.5.**

**На беларускую мову.** Пад павеццю: Урывак з аповесці «Беспрацоўе» / Пер. В. Віскар // ЛіМ. 1933. 27 жн.; Мары і сапраўднасць: Урывак з аповесці «Наваселец» / Пер. В. Віскар // ЛіМ. 1936. 17 жн.

**2.3.**

**На беларускай мове.** М а л ь д з і с А. Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час // Старонкі літаратурных сувязей. Мн., 1970. С. 74—76.

**На літоўскай мове.** L i e t u v i ų literatūros istorija. Vilnius, 1965. T. 3. D. 2. P. 163—167; P r a n s k u s B. Bonaventūras Pauliukevičius // Pauliukevičius B. Berno vargai. Vilnius, 1960; P r ė s k i e n i s B. Bonaventūros Pauliukevičius — literatūros kritikas // Literatūra. Vilnius, 1963. T. 6.

*Т. М. Махнач.*

# ПАЧОПКА ЯНКА

*Пачопка Янка [Іван Пятровіч; псеўд. Б а ш к і р, П р а в а с л а ў н ы, Я. Б а ш к і р, Я н к а Б а ш к і р, Я. Ш к і р-б а, Ш к і р-б а, крыпт. І. Р., І в. П-к а, Я. П.; 26.10(8.11).1890, в. Летнікі Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.— 26.5.1977, пахаваны ў в. Малінаўка Глыбоцкага р-на], паэт, празаік, фалькларыст.*

З сям'і лесніка. У 1913 скончыў Варанецкую сельскагаспадарчую школу (цяпер у Пастаўскім р-не). Працаваў у дэпартаменце земляробства Віленскай губ. Быў рэдактарам двухтыднёвіка «Праваслаўны беларус» (1925), які выдаваўся ў Варшаве. Працаваў аграномам (1939—58). Апошнія гады жыцця працаваў на зямлі, вырасціў траіх дзяцей.

Літаратурную працу Я. Пачопка пачаў з вершаў. Вёска Летнікі, дзе нарадзіўся пісьменнік, была ўся населена Пачопкамі, дзялілася на два «канцы», якія па-вулічнаму называліся Башкіры і Вушлакі, таму адзін з псеўданімаў Я. Пачопкі — Башкір. Першы яго верш «Дудар» надрукаваны ў «Нашай ніве» (1913). Яшчэ раней з'явіўся пераклад з рускай мовы («Наша ніва», 1912). Пісаў таксама прозу. Першае апавяданне «Злы лёс» апублікавана ў газеце «Савецкая Беларусь» (1921). У той жа газеце змяшчаліся яго «Абразкі жыцця». З малых гадоў Я. Пачопка збіраў і запісваў народныя казкі, паданні, з якіх потым нарадзілася кніга «Народная казка з Дзісеншчыны». Вершы, народныя паданні,

казкі, апрацаваныя Я. Пачопкам, друкаваліся на старонках дзіцячых часопісаў «Заранка», «Пралескі», у «Праваслаўным беларусе». Я. Пачопка стала супрацоўнічаў і ў часопісе «Маланка», дзе друкаваў свае вершы і байкі. Творы яго змяшчаліся таксама ў заходнебеларускіх часопісах «Калоссе», «Хрысціянская думка», газеце «Сялянская ніва». У 20-я гады ў Вільні выйшлі яго кнігі на сельскагаспадарчую тэматыку: «Малочная карова: як яе выбраць, карміць і даглядаць», «Гародніцтва: як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мецъ добрае варыва», «Як выбраць добрага каня», «Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях». Я. Пачопка быў блізкім сябрам і земляком беларускага мастака Я. Драздовіча, які зрабіў яго разны партрэт і малюнкі да яго кнігі «Пчолы...». Рукапісны сшытак з яго вершамі ахвяраваны дачкой пісьменніка, Л. І. Павульскай, Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры.

*А. С. Ліс.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Малочная карова: Як яе выбраць, карміць і даглядаць. Вільня, 1923 (Сельскагаспадарская б-ка № 1).

Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях. Вільня, 1923.

Гародніцтва: Як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мецъ добрае варыва. Вільня, 1925 (Сельскагаспадарская б-ка № 2).

Гурток: Камедыя ў адной дзеі з сучаснага жыцця. Вільня, [1926] / Пад псеўд. Янка Башкір.

Дурнішча: Народная казка з Дзісеншчыны. Вільня, 1927.

Як выбраць добрага каня. Вільня, 1928 (Папулярная нар. б-ка, серыя гаспадарчая 21).

**1.3.**

**1913.** Дудар: [Верш] // Н. н. 23 мая; Вясна: [Верш] // Там жа. 7 чэрв.

**1918.** Дамагаюцца замірэння // Дзянніца. 1 кастр. / Пад крыпт. І. Р.

**1921.** Ноч: [Верш] // Бел. вед. 25 снеж.; Злы лёс: [Апавяданне] // Сав. Бел. 28 снеж. / Пад крыпт. Я. П. Аўт. спрэчнае.

**1922.** Зіма: [Верш] // Бел. вед. 1 студз.; Абразкі жыцця // Сав. Бел. 13 снеж. / Пад крыпт. Я. П. Аўт. спрэчнае.

**1925.** Салдатка: [Верш] // Правасл. Беларус. № 1 / Пад псеўд. Янка Башкір; 400-лецце беларускага друку // Там жа. № 2 / Пад крыпт. Ів. П-ко; Марылька: (Казка для дзяцей); Жабрак: (З Беранжэ): [Верш] // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Янка Башкір; Над царамі цар: [Казка] // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Я. Башкір; Адамка: Апавяданне для дзяцей // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Янка Башкір; Адзін: [Верш] / Пад псеўд. Янка Башкір; Янка Купала: (Да 20-лецця яго паэтычнай творчасці) / Пад крыпт. Ів. П-ка // Там жа. № 9; Летам; Раніца; Поўдзень: [Вершы] // Там жа. № 11 / Пад псеўд. Я. Башкір; Бусел: (Бел. легенда): [Верш]; Тры праўды: Нар. апавяданне // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Янка Башкір; Восень; «Лес аглох, спусцелі нівы...»; «Калі ты выйшаў на дарогу...»: [Вершы] // Там жа. № 13—14 / Пад псеўд. Я. Башкір; Сама вінавата: Нар. легенда: [Верш] // Там жа. № 15—16 / Пад псеўд. Янка Башкір; «Чаму, як чуткі Жук кудлаты...»: [Верш] // Там жа. № 17—18 / Пад псеўд. Я. Башкір; Прафесар Іван Агіенка // Там жа. № 19—20; Сасновыя боты: Калляднае апавяданне // Там жа. № 22 / Пад крыпт. Я. П.

**1926.** Паправіў; Зняважыў: [Вершы] // Маланка. № 3 / Пад псеўд. Я. Башкір; Зняважыў: [Верш] // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Я. Башкір; Дарадзіла: [Верш] // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Я. Башкір; Дарадзіла: [Верш] // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Я. Башкір; Добры сынок: [Верш] // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Я. Башкір; Поп і клоп: [Верш] / Пад псеўд. Янка Башкір; Хто быў Адам?: [Байка] / Пад псеўд. Шкірба // Там жа. № 8; Самаўрад: Паэзія і проза: [Вершы] // Пад псеўд. Шкір-Ба; Жаночая любасць: [Верш] / Пад псеўд. Я. Башкір // Там жа. № 9; Сураежачка: [Верш] // Там жа. № 10 / Пад псеўд. Я. Башкір; Каб крыху раней: З цыкла «Нашы дзеткі»: Разважлівы. Цікавы: [Вершы] // Там жа. № 11 / Пад псеўд. Янка Башкір; З песняў пралетара: [Верш] // Сялян. ніва / Пад псеўд. Я. Башкір; Глядзі, брацеі!.. [Верш] // Там жа. 7 жн. / Пад псеўд. Я. Башкір.

**1927.** Два цары: [Казка] // Заранка. № 5—6 / Пад псеўд. Янка Башкір; Без галавы лепей: [Жарт] / Пад псеўд. Я. Шкір-Ба; Дабрахвочы; Усюды; «Грамада»: [Вершы] / Пад псеўд. Янка Башкір // Маланка. № 1; Адзін другога лепшы: [Верш] // Там жа. № 2, 3 / Пад псеўд. Янка Башкір; Нашы дзяўчаты; Нашы бабы: [Вершы] // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Башкір; У нашай гміне: [Апавяданне] // Сялян. ніва. 1 студз. / Пад псеўд. Янка Башкір.

**1928.** Бялынкавіцкія благачынныя: [Апавяданне] // Працаўнік асветы. 23 снеж. / Пад крыпт. Я. П. Аўт. спрэчнае.

**1935.** Як баран ваўку парадзіў: Апавяданне // Пралескі. № 1; Дом-дамок; Апавяданне // Там жа. № 2.

**1936.** Смерць: [Верш] // Калоссе. № 2.

**1937.** Навучы мяне, божа!: [Верш] // Хрысціянская думка. № 18 / Пад псеўд. Праваслаўны.

**1.4.**

В а г н е р Ю. Апавяданне аб жывёлах / З рус. Вільня, 1923.

**1912.** І в а н о в а А. З дзіцячых разгавораў: [Верш] / З рус. // Н. н. 20 вер.

**1924.** З д з і ц я ч ы х разгавораў (А. Іванова) / З рус. // Беларускі дэкламатар. Мн.

**1925.** Т а н У. Дуб і віхор: [Верш] / З рус. // Правасл. Беларус. № 9.

*В. М. Грышкевіч.*

# ПАШКЕВІЧ МІКАЛАЙ

*Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (20.5.1936, в. Гарадзішча Вілейскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл.— 14.3.1972, в. Сваткі Мядзельскага р-на, пахаваны ля в. Гарадзішча), літаратуразнавец, педагог, краязнавец.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У час Айчыннай вайны бацька са старэйшым сынам былі на фронце, маці з шасцю меншымі дзецьмі ў час акупацыі жыла ў вёсцы. Пасля вайны бацькі працавалі ў калгасе. У 1945 М. Пашкевіч пайшоў у Халмянскую пачатковую школу, якую скончыў у 1949. Вучыўся ў Сваткаўскай СШ (1949—55). У 1955—58 служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1963). Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Сваткаўскай СШ Мядзельскага р-на, працаваў намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай частцы той жа школы (1963—67). Быў старшынёй літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце «Нарачанская зара». У школе ўзначальваў гурток паэзіі «Маладая рунь», выпускаў аднайменныя насценгазету і альманах. У 1967 паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, але не змог яе скончыць па стану здароўя.

Першыя вершы надрукаваў у мядзельскай раённай газеце. Друкаваўся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Вопыт кіраўніка школьнага гуртка беларускай літаратуры, у пасяджэннях якога прымалі ўдзел М. Танк, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, І. Навуменка, М. Аўрамчык, Г. Бураўкін, А. Лойка, А. Вярцінскі, Р. Барадулін, В. Рагойша і інш. пісьменнікі, абагульніў у кнізе «З вопыту работы літаратурнага гуртка...». Памяці М. Пашкевіча прысвечаны аповесць В. Быкава «Абеліск», верш А. Лойкі «Каліны», карціна А. Пупко «Памяць», раздзел экспазіцыі ў Мядзельскім музеі народнай славы. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1959.** Адыходзіць навабранец: [Верш] // Чырв. змена. 8 кастр.

**1962.** Раніца: [Верш] // Чырв. змена. 15 сак.; Як сонца над зямлёю...: [Верш] // Там жа. 5 ліп.

**1.5.**

**На англійскую мову.** [Рэц. на кн.: Шамякин И. Снежные зимы. М., 1971] // Soviet Literature. 1971. № 12.

**На польскую мову.** [Рэц. на кн.: Шамякин И. Снежные зимы. М., 1971] // Lit. Radz. 1972. Nr 2.

**1.6.**

З вопыту работы літаратурнага гуртка Сваткаўскай сярэдняй школы Мядзельскага раёна: (Метад. дапаможнік для настаўнікаў). Мн., 1968 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Жук В. Сцежка застаецца людзям // Маладосць. 1981. № 9; Рагойша В. Зробленае застаецца // ЛіМ. 1972. 7 крас.

**2.4.**

Лойка А. Каліны: [Верш] // Лойка А. Пачуцці. Мн., 1976. *Т. М. Махнач.*


# ПАШКЕВІЧ НІЧЫПАР



*Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч (псеўд. П. Зеляньkоўскі, А. Каліна, К. Кветка, А. Крушина, А. Крушына; н. 12.12.1924; в. Філістава Талачынскага р-на Віцебскай вобл.), крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1970). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974). Член СП Беларусі з 1958. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1966, за кнігу «На шырокіх шляхах жыцця»).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Еўдакім Іванавіч, быў сельскім актывістам, у 1934 загінуў ад рук бандытаў. Маці, Марыя Барысаўна, працавала ў калгасе, памерла ў 1945. Пасля заканчэння сямігодкі Н. Пашкевіч паступіў у Мінскае педвучылішча (1939). Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, ён вярнуўся да маці ў в. Малыя Міхінічы Талачынскага р-на. Стаў байцом партызанскага атрада брыгады «Граза», якая дзейнічала на Віцебшчыне, потым памочнікам камісара атрада па камсамолу, камісарам атрада імя Катоўскага (1942—44). Удзельнічаў у выпуску талачынскай падпольнай газеты «Чырвоны хлебароб» як член рэдкалегіі (сакавік 1943 — чэрвень 1944). Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прызначаны рэдактарам талачынскай раённай газеты «Чырвоны хлебароб» (1944—45). Працаваў загадчыкам аддзела газеты «Віцебскі рабочы» (1945—46, 1948—51). Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ (1946—48), завочна — гістарычны факультэт Віцебскага педінстытута (1951). Быў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром газеты «Звязда» (1951—56). Скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (кафедра тэорыі літаратуры і мастацтва, 1956—60). Працаваў рэдактарам аддзела культуры і быту «Экономической газеты» (1960—61). У снежні 1961 вярнуўся ў Мінск і прызначаны галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» (1961—69). Зноў пераехаў у Маскву, працаваў рэдактарам газеты «Правда» па аддзеле прэсы, крытыкі і бібліяграфіі (1969—72), першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Литературное обозрение» (1972—74). З 1974 у Мінску. Працаваў намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (1974—76), рэктарам Мінскага інстытута культуры (1976—79), галоўным рэдактарам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм» (1979—87). З 1992 старшыня Праўлення Беллітфонда. У складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XXX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1975). Выбіраўся дэпутатам Мінскага гарсавета. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Друкавацца пачаў у 1943. Першая публікацыя (верш «Буря грянет») у раённай газеце «Чырвоны хлебароб» (1943). Пісаў артыкулы, рэцэнзіі пра творчасць беларускіх пісьменнікаў М. Лынькова, І. Мележа, І. Шамякіна, Я. Брыля, П. Панчанкі, І. Навуменкі, А. Адамовіча, А. Зарыцкага, А. Васілевіч, А. Кулакоўскага, У. Карпава, А. Асіпенкі, А. Чарнышэвіча, В. Іпатавай. Аўтар кнігі «На шырокіх шляхах жыцця», у якой аналізуе развіццё сучаснага беларускага рамана, адлюстраванне беларускімі празаікамі подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Звяртаецца да сучасных праблем развіцця беларускай літаратуры, даследуе пытанні пісьменніцкага майстэрства.

Жыве ў Мінску. *Л. С. Савік.*

## Бібліяграфія

**1.2.**
На шырокіх шляхах жыцця. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1965. Рэц.: Бярозкін Р. Аб праблемах надзённых // Маладосць. 1966. № 7; Казека Я. З высокай патрабавальнасцю // Полымя. 1966. № 11; Крахмальникова З. Пути современного белорусского романа // Вопр. лит. 1967. № 1; Навуменка І. Шчырая, зацікаўленая размова // Беларусь. 1966. № 7. Оскоцкий В. На путях жизни и творчества // ЛГ. 1966. 12 мая.

**1.3.**
**1945.** На будаўніцтве торфабрыкетнага завода // Віцеб. рабочы. 30 мая; У калгасах Талачыншчыны // Там жа. 8 чэрв.; На хвалях самацёку // Там жа. 17 чэрв.; Тарфянікі: [Нарыс] // Там жа. 26 чэрв.; Саўгас «Рэканструктар»: [Нарыс] // Там жа. 21 ліп.; Дзень у калгасе: [Нарыс] // Там жа. 7 вер.; Ля роднае хаты: [Верш] // Там жа. 30 вер.; Планы і сапраўднасць // Там жа. 27 кастр.; Стаханаўцы // Там жа. 28 кастр.; Партыйна-палітычная работа на нізкім узроўні // Там жа. 31 кастр.; Пісьмы з Белдрэса. Час брацца за работу // Там жа. 2 ліст.; Вернутае жыццё: [Нарыс] // Там жа. 23 ліст.

**1946.** Мерачы гэтыя гоні...: [Верш] // Полымя. № 7; Віцеб. рабочы. 1 мая; Цяпер скажу: [Верш] // Там жа. 24 сак.; На чыгунцы: [Верш] // Там жа. 26 чэрв.; Ранак: [Верш] // Там жа. 8 жн.

**1947.** Ліст з трактарнага: [Верш] // Беларусь. № 3; Тэлефон: [Верш] // Вожык. № 3—4; Мерка ячменю: [Верш] // Там жа. № 8; Гастралёр: [Верш] // Там жа. № 10; На лініі найменшага супраціўлення: [Верш] // Там жа. № 11; Дзень у калгасе: Пародыя // Там жа. № 13; Бюракратычны шторм: [Гумарэска] // Там жа. № 14; Аляксандр Іванавіч Колышкін // Віцеб. рабочы. 25 студз.; Едуць камсамольцы ў сталіцу: [Верш] // Там жа. 9 лют.; Наваселле: [Верш] // Там жа. 9 мая; Ліст у рэдакцыю: [Верш] // Там жа. 7 ліст.

**1948.** Перакамісоўка: Апавяданне // Вожык. № 13; Канарэзы і іхнія апекуны: [Верш] // Там жа. № 17; Пяцігодку ў чатыры гады: [Верш] // Полымя. № 2; Віцеб. рабочы. 11 студз.; У залах гістарычнага музея Айчыннай вайны // Там жа. 15 лют.; Яны з Віцебшчыны // Там жа. 24 лют.; Звеннявая: [Верш] // Там жа. 20 чэрв.; Ты сказала...: [Верш] // Там жа. 26 вер.; Шляхам змагання // Там жа. 19 кастр.

**1949.** Мітынг на таку: Апавяданне // Віцеб. рабочы. 19 чэрв.; Райком партыі і друк // Там жа. 7 вер.; «Алазанская даліна» // Там жа. 2 кастр. / Сааўт. В. Хазанскі; За калючым дротам граніцы // Там жа. 28 кастр.; «Шчаслівага плавання» // Там жа. 7 ліст. / Сааўт. В. Хазанскі; Праўда аб Грэцыі // Там жа. 23 ліст.

**1950.** Ліст з трактарнага: [Верш] // На сонечных сцежках. Мн.; Галасы пачынаючых // Віцеб. рабочы. 15 студз.; «Свежы вецер» // Там жа. 18 лют. / Сааўт. В. Хазанскі; Я ля урны стаю: [Верш] // Там жа. 12 сак.; «Алёна Фаміна» // Там жа. 28 сак.; «Святло над зямлёй» // Там жа. 26 крас.; Фільм аб вялікім рускім вучоным-патрыёце // Там жа. 12 мая; Дарогай шчасця: Урывак з другой карціны п'есы // Там жа. 28 мая / Сааўт. В. Хазанскі; Дзеля паўнаты фразы // Там жа. 14 чэрв.; Перамогу трэба арганізаваць // Там жа. 14 ліст.; Ружы і церні: Фельетон // Там жа. 17 ліст.; «Пяюць жаваранкі» // Там жа. 26 ліст.; Народнаму абранніку: [Верш] // Там жа. 17 снеж.

**1951.** Соль: Байка // Вожык. № 20; Новыя арыенціры: Па слядах Някрасава Н. А.: [Верш] // Там жа. № 24; Мітынг у гумне: Апавяданне // Работніца і сялянка. № 12; Цікавы і патрэбны спектакль // Віцеб. рабочы. 25 сак.; Па зямлі ідзе вясна // Там жа. 1 мая; «Двайная ігра» // Там жа. 20 мая; Другое лета // Там жа. 22 жн.; Бітва за жыццё // ЛіМ. 21 крас.

**1952.** Апавяданні аб савецкіх людзях: [Рэц. на кн.: Кавалёў П. У новы дзень. Мн., 1952] // Беларусь. № 12 / Пад псеўд. А. Крушына; Нечаканы госць: Апавяданне // Вожык. № 7; Ды тут ён раптам трапярхнуўся: Апавяданне // Там жа. № 13; Крах традыцыі: Апавяданне // Там жа. № 21; Проста і пераканаўча: [Рэц. на кн.: Брыль Я. У Забалоцці днее. Мн., 1951] // Полымя. № 4; Багатая спадчына // Звязда. 1 студз. / Сааўт. В. Грыгор'еў; Спектакль аб барацьбе за мір // Там жа. 31 студз. / Сааўт. Г. Шчарбатаў; Адлюстроўваць жыццё ва ўсёй яго паўнаце і шматграннасці: Аб сур'ёзным адставанні беларускай

драматургіі // Там жа. 17 ліп.; Настаўніца // Там жа. 14 снеж.

**1953.** Зямля маладзее: [Рэц. на кн.: Д у б р о ў с к і І. Зямля маладзее. Мн., 1952] // Беларусь. № 4; Быць на вышыні задач! Па старонках альманаха «Советская Отчизна» // Звязда. 16 студз.; Жалоба і мужнасць // Там жа. 10 сак.; Клубы без свайго аблічча // Там жа. 9 чэрв.; «Васа Жалязнова» // Там жа. 13 чэрв.; Па старонках часопісаў // Там жа. 29 ліп.; Зброяй смеху // Там жа. 18 ліст.; Аб паэтычным асэнсаванні жыцця // ЛіМ. 1 студз.; Спектакль аб рабочым класе // Там жа. 28 сак.; Непатрабавальнасць паэта і рэдактара // Там жа. 26 вер.; Сумна аб паэтычным... // Там жа. 21 ліст.; Знішчальны смех // Там жа. 12 снеж.

**1954.** Мерка ячменю: [Верш] // Размова па шчырасці. Мн.; Творчая камандзіроўка аднаго пісьменніка; Песня: [Вершы]; У гародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька: Байка //Беларусь. № 6 / Пад псеўд. А. Каліна; Жанр патрабуе: [Рэц. на кн.: К о р б а н У. Байкі. Мн., 1953] // Полымя. № 4; «Новы Мінск» // Звязда. 23 лют.; «Верныя сябры» // Там жа. 30 крас.; Інструктар райкома // Там жа. 1 мая; Так выхоўвалася мужнасць // Там жа. 18 чэрв.; Подзвіг юнага героя // Там жа. 24 ліп.; «Багатыр» ідзе ў Марто» // Там жа. 13 ліст.; «Брэсцкая крэпасць» // ЛіМ. 10 ліп.

**1955.** Тры п'есы: [Рэц. на кн.: Г у б а р э в і ч К. П'есы. Мн., 1954] // Полымя. № 1; Апавяданні і замалёўкі фактаў // Звязда. 16 студз.; Пасняховыя пошукі // Там жа. 2 крас.; Без яснай ідэі // Там жа. 10 вер.; Характар і схемы: Апавяданні часопіса «Беларусь» // ЛіМ. 26 лют.

**1956.** З верай у чалавека // ЛіМ. 1 вер.

**1957.** У новым жанры: [Рэц. на кн.: С а б а л е н к а Р. Жменя зярнят. Мн., 1957] // Полымя. № 12; Разговор о басне // Сов. Отчизна. № 2; У кнізе і на экране // Віцеб. рабочы. 26 ліп.; Свет юнацкіх пачуццяў // ЛіМ. 13 лют.; У добры час // Там жа. 7 жн.; Праўда характару // Там жа. 27 ліст.

**1958.** А. М. Горкі аб мастацкай тыпізацыі // Маладосць. № 10; Жизнь, конфликты, характеры // Сов. Отчизна. № 3; Галоўную ўвагу — сучаснай тэме! Па старонках часопіса «Маладосць» // Звязда. 22 чэрв.

**1959.** Самае галоўнае // ЛіМ. 11 лют.; Красота подвига во имя Родины // Сов. Бел. 10 февр.

**1961.** Народнасць і партыйнасць савецкага мастацтва // Камуніст Бел. № 2; Поиски ведут к новым открытиям // Неман. № 4; Героі ці ахвяры лёсу? // ЛіМ. 27 чэрв.; На скрыжаваннях ваенных дарог // Там жа. 11 ліп.; Вслед за бегущим днем // Сов. Бел. 13 дек.

**1962.** Шыракаплынная і шматгалосая // Звязда. 25 крас.; Замардаваныя пацалункамі: [Рэц. на кн.: У к с у с о в Д. Я — твой друг. Мн., 1962] // ЛіМ. 10 жн.

**1963.** Услед за імклівым днём // Літаратура нашых дзён. Мн.; Псіхалагічнае і эпічнае // Полымя. № 5; Пафас нараджаецца ў сэрцы: [Рэц. на кн.: П р о ш ы н С. Я забыўся пра цішыню. Мн., 1963] // Там жа. № 11; Сквозь огонь войны // Сов. Бел. 5 янв.

**1965.** Течение раздольное и глубокое // Коммунист Таджикистана. 24 нояб.; Ішоў сорак першы...: [Рэц. на: А с і п е н к а А. Вогненны азімут // Маладость. 1965. № 2—5] // ЛіМ. 13 ліп.; Мост в будущее // ЛГ. 28 авг.

**1966.** За тридевять исторических земель // Неман. № 10; Откуда мы родом // Известия. 11, 12 мая.

**1967.** Возмужали и мы, и напевы // ЛГ. 18 окт.

**1968.** Ключы таямніц // Максім Горкі і Беларусь. Мн.; Удакладнім крытэрыі // Маладосць. № 5.

**1970.** Шаг пятый, состоявшийся: [Рэц. на кн.: Н о в и к о в Н. Пять шагов жизни. Мн., 1970] // Правда. 13 нояб.

**1972.** Евгений Мозольков (1909—1969) // Мозольков Е. Поющая земля. М.; Адрасуецца масаваму чытачу // Звязда. 13 вер.

**1973.** Земли родной минувшая судьба // Лит. обозрение. № 1.

**1974.** Неравнодушной рукой // Осипенко А. Белый камень. М.; Возводя капитальную стену... // Лит. обозрение. № 1; Встречный огонь: [Рэц. на: Н а в у м е н к а І. Сорак трэці // Маладосць. 1973. № 10—12] // Лит. обозрение. № 8; На высокой волне // Огонек. № 52.

**1975.** Чистое пламя: [Рэц. на кн.: П а н ч е н к о П. При свете молний. М., 1974] // Правда. 5 авг.

**1976.** Кондрату Крапиве — 80 лет // ЛГ. 10 марта.

**1978.** Из чистой криницы // Далидович Г. Тепло на первоцвет. М.

**1979.** По азимуту долга и совести // Неман. № 9.

**1980.** Гэта наша з табой біяграфія: [Інтэрв'ю] / Зап. А. Стулава // Вяч. Мінск. 27 жн.

**1981.** Перадз'ездаўскі экран рэспублікі // Звязда. 23 студз.; Крытыка і літаратуразнаўства: Здабыткі і праблемы // ЛіМ. 24 крас.

**1983.** Перачытваючы п'есы // ЛіМ. 23 вер.

**1984.** Да сустрэчы на экране!: [Інтэрв'ю] / Зап. А. Бржазоўскі // Работніца і сялянка. № 9.

**1.4.**

Ш а ш к о в А. Рассказы / С бел. М., 1965.

**1970.** Ш а ш к о в А. Цветы в окопах: [Апавяданне] / С бел. // Путь к победе. Мн.

**1.5.**

**На англійскую мову.** Inspired by life // Shamyakin I. Snowtime. M., 1973.

**На іспанскую мову.** Tierra en llamas // Linkov M. Dias inolvidables. M., 1975.

**На рускую мову.** На эпическом направлении: Подвиг народа в белорусском романе / Пер. З. Крахмальникова. М., 1969. Рэц.: Б о ч а р о в А. На главном направлении // Вопросы лит. 1970. № 7; Г н і л а м ё д а ў У. З пазіцы сведкі і ўдзельніка // ЛіМ. 1970. 10 сак.; К о в а л е н к о В. Главное направление — художественная правда // Неман. 1970. № 6; С е в р у к В. Героика партизанского эпоса // ЛГ. 1970. 18 февр.

Письмо с тракторного: [Верш] / Пер. П. Волкодаев // Сталин. молодежь. 1950. 6 авг.

**1.6.**

Вобраз-81. Мн., 1981 / Скл., рэд.
Вобраз-83. Мн., 1983 / Скл., рэд.
Вобраз-85. Мн., 1985 / Скл., рэд.
Вобраз-86. Мн., 1986 /Скл., рэд.
Вобраз-88. Мн., 1988 / Скл., рэд.
Вобраз-89. Мн., 1989 / Скл., рэд.
Вобраз-90. Мн., 1990 / Скл., рэд.

**2.1.**

**На беларускай мове.** С м ы к а в а І. Нічыпар Пашкевіч // Смыкава І. Беларускія пісьменнікі-лаўрэаты (1941—1970 гг.): Рэкам. бібліягр. паказальнік. Мн., 1973.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А б п р ы с у д ж э н н і дзяржаўных прэмій БССР 1966 года // ЛіМ. 1966. 7 ліст.; А н і с к о в і ч У. Проза і крытыка: На «франтах» зацішша? // Там жа. 1979. 16 сак.; А с і п е н к а А. Дарога без прыпынкаў // Полымя. 1974. № 12; Б у р а ў к і н Г. Ён прыйшоў з вайны... // ЛіМ. 1974. 13 снеж.; Б у р' я н Б. У даўгу перад чытачом: Літаратурная крытыка ў часопісе «Полымя» // Там жа. 1954. 14 жн.; В я р ц і н с к і А., С т у к А. Пафас, народжаны ў сэрцы // Віцеб. рабочы. 1974. 13 снеж.; З ж ы ц ц ё в ы х крыніц // Беларусь. 1974. № 12; К а в а л е н к а В. Галоўны напрамак — мастацкая праўда // Каваленка В. Прага духоўнасці. Мн., 1975; Я г о ж . Праблемы сучаснай беларускай крытыкі. Мн., 1977. С. 121—122; К а в а л ё ў Д. Аб тым, што набалела // ЛіМ. 1953. 26 снеж.; К а з е к а Я. Аповесць і яе крытыкі // ЛіМ. 1955. 30 ліп.; К а п у с ц і н А. Размова шчырая, зацікаўленая // Там жа. 1976. 27 лют.; К л ы ш к а А. Плён пісьменніцкага жыццяпісу // Звязда. 1974. 11 снеж.; К р ы т ы к а: Набыткі, задачы// ЛіМ. 1977. 21 студз.; М а р ч а н к а С. Дыялог, непадуладны забыццю // Полымя. 1984. № 12; М е х а ў У. Урокі галоўнага // ЛіМ. 1984. 7 снеж.; М у ш ы н с к і М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. Мн., 1985. С. 281—282; Н і ч ы п а р у Пашкевічу — 60 // ЛіМ. 1984. 7 снеж.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981. С. 272—273; С а е н к а В. Аналіз і прапановы // ЛіМ. 1979. 4 мая; Ствараць летапіс сучаснасці // Там жа.

1980. 19 снеж.; Т а м а р ы н Н. Аб пачынаючых // Віцеб. рабочы. 1946. 24 сак.

**На рускай мове.** О в ч а р е н к о А. Н. Е. Пашкевичу — 50 лет // ЛГ. 1974. 18 дек.

2.4.

**На беларускай мове.** К а л а ч ы н с к і М. А добра разам!: [Верш] // Калачынскі М. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1982. Т. 2. *Г. І. Рэут.*

# ПАШКЕВІЧ ЯН КАЗІМІР

***Пашкевіч Ян Казімір, беларускі паэт 1-й паловы 17 ст.***

Біяграфічныя звесткі пра Я. К. Пашкевіча не захаваліся. Мяркуюць, што паходзіў з каталіцкай, верагодна, шляхецкай сям'і. Магчыма, быў родам з Ашмяншчыны, бо меў герб «Радван». Аўтар адзінага вядомага нам верша «Полска квітнет лаціною...» (1612), які быў адшуканы цывільным віленскім губернатарам А. Сямёнавым і апублікаваны ім у віленскім календары «Месяцаслоў гаспадарчы на 1842 г.». У гэтым творы паэт адзначае выдатную ролю роднай мовы («русчызны») у грамадскім і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага, ганарыцца міжнароднай славай свайго народа і верыць у яго неўміручасць. Змест, паэтычная форма і мова верша сведчаць пра тое, што яго аўтар быў чалавекам свецкім, высокаадукаваным, патрыятычна настроеным беларускім шляхціцам (або мешчанінам). Рукапіс гэтага верша, які лічыцца ўзорам грамадска-палітычнай лірыкі 17 ст., захаваўся ў Слуцкім спісе Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 (цяпер захоўваецца ў Нацыянальнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу). Там жа змешчана яшчэ пяць аўтографаў паэта, а таксама запісы іншых асоб, якія сведчаць, што рукапіс бытаваў у Вільні (там, напэўна, быў напісаны і сам верш). *А. Ф. Коршунаў, В. А. Чамярыцкі.*

## Бібліяграфія

1.3.

**1842.** «Полска квитнет лациною...»: [Верш] // Месяцеслов хозяйственный. Вильна.

**1959.** «Полска квитнет лациною...»: [Верш] // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн.

**1979.** «Полска квитнет лациною...»: [Верш] // Гісторыя Беларусі ў літаратурных вобразах. Мн.

2.3.

**На беларускай мове.** Г а р э ц к і М. Верш Пашкевіча // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 361—362; Г р ы н ч ы к М. З гісторыі беларускай сілабікі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1973. Вып. 1; Я г о ж. Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі // Беларуская літаратура. Мн., 1977. Вып. 5; Я г о ж. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973. С. 48—50; К і с я л ё ў Г. Як знайшлі верш // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982; Р а л ь к о І. Беларускі верш: Старонкі гісторыі і тэорыі. Мн., 1969. С. 30.

**На рускай мове.** И с т о р и я белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 223—224. *Т. М. Махнач.*

# ПАШКОЎ ГЕНАДЗЬ



**Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 23.3.1948, в. Ліпавічы Чашніцкага р-на Віцебскай вобл.), паэт, перакладчык. Член СП Беларусі з 1977. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980, за кнігі паэзіі «Чырвоны жаваранак» і «Дыстанцыя небяспекі»).**

Нарадзіўся ў сям'і служачых. Бацька, Пётр Трафімавіч, быў старшынёй калгаса, маці, Уклейка Марыя Харытонаўна, працавала настаўніцай (цяпер на пенсіі). У 1953 сям'я пераехала на Гродзеншчыну, у в. Войстам Смаргонскага р-на. Там Г. Пашкоў скончыў сярэднюю школу і ў 1966 паступіў на факультэт журналістыкі БДУ. У час летніх студэнцкіх канікул працаваў на будоўлі ў Казахстане. Пасля заканчэння універсітэта (1971) быў рэдактарам галоўнай рэдакцыі вяшчання для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё. З 1972 у часопісе «Полымя»: спачатку літсупрацоўнік аддзелаў публіцыстыкі і нарыса, паэзіі, пасля загадчык рэдакцыі, з 1975 адказны сакратар, з 1979 намеснік галоўнага рэдактара. З 1989 інструктар ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ. З 1991 намеснік гал. рэдактара часопіса «Тэатральная Беларусь». Быў дэпутатам Фрунзенскага раённага Савета народных дэпутатаў. Узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Першыя вершы Г. Пашкова «Затаіліся лес і зямля...», «Імчаць нас да ракі...» надрукаваны ў 1967 у калектыўным зборніку «Натхненне». Аўтар кніг паэзіі «Кляновік», «Гравюры дарог», «Зямлю слухаю», «Маналог на кастрышчы», «Люблю, спадзяюся, жыву», кнігі выбраных твораў «Крокі». Творчасць Г. Пашкова вызначаецца грамадзянскай страснасцю, шырынёй паэтычных абсягаў — ад інтымнай лірыкі да касмічных прастораў і падзей міжнароднай значнасці. Асноўная ўвага паэта звернута да лёсу Радзімы, гісторыі свайго краю, гераічных і культурных традыцый беларускага народа. У яго вершах гучыць роздум над складанымі праблемамі часу, месцам чалавека ў жыцці і нялёгкімі ўзаемаадносінамі паміж людзьмі. Для ўвасаблення творчай задумы ён знаходзіць разнастайныя жанрава-кампазіцыйныя формы, вобразныя і рытміка-інтанацыйныя прыёмы і сродкі. Выдаў кнігу нарысаў «Будзень як свята». Па сцэнарыі Г. Пашкова «Я так люблю зямлю...» у 1978 пастаўлены фільм. На беларускую мову пераклаў асобныя творы азербайджанскіх, армянскіх, латышскіх, рускіх, таджыкскіх, украінскіх паэтаў.

Жыве ў Мінску.

*Л. М. Гарэлік.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Крокі: Вершы, паэма. Мн., 1988. (Б-ка бел. паэзіі).

**1.2.**

Кляновік: Вершы. Мн., 1975. (Першая кніга паэта). Рэц.: Хведаровіч М. Першаквецень паэта // Беларусь. 1975. № 11.

Будзень як свята: Нарысы. Мн., 1977. Рэц.: Говин С. Будни и праздники // Знамя юности. 1977. 16 дек.

Дыстанцыя небяспекі: Лірыка. Мн., 1979. Рэц.: Губернатараў М. Маладая нястрымная плынь // Маладосць. 1980. № 1; Камейша К. Калі ёсць пошук // ЛіМ. 1979. 20 ліп.; Марціновіч А. На вачах часу і сумлення // Чырв. змена. 1979. 17 ліп.; Хвалей Я. Жаваранак маладой трывогі // Беларусь. 1979. № 8.

Гравюры дарог: Лірыка. Мн., 1981. Рэц.: Хвалей Я. Жаваранак маладой трывогі // Маладосць. 1982. № 1.

Зямлю слухаю: Лірыка. Мн., 1983. Рэц.: Марціновіч А. Без заспакоенасці // Маладосць. 1984. № 4.

Дзяўчынка з блакітным мячыкам: Кніга паэзіі. Мн., 1986.

Маналог на кастрышчы: Кніга вершаў. Мн., 1986.

Люблю, спадзяюся, жыву: Лірыка. Мн., 1990.

Пціч: Вершы. Мн., 1992.

**1.3.**

**1967.** «Затаіліся лес і зямля...»; «Імчаць нас да ракі...»: [Вершы] // Натхненне. Мн.

**1969.** «І не так ужо...»: [Верш] // ЛіМ. 1 жн.

**1971.** Млын: [Верш] // Універсітэт паэтычны. Мн.

**1972.** [Рэц. на кн.: Місько П. Зямля ў нас такая. Мн., 1971] // Неман. № 8; Абнаўленне: [Верш] // Чырв. змена. 10 снеж.

**1973.** Бульдазерыст: [Нарыс] // Кім быць? Мн.; Лірыка: «Зямля...»; «Пад Новы год завеі калядуюць...»; «За скрыжаваннем пуцявін...»; «Маладзічок...»; Зазімак; Верасень: [Вершы] // Полымя. № 1; Пачатак: [Верш] // Там жа. № 5; На перавале: Нарыс // Там жа. № 7.

**1974.** Светаяннік: [Верш] // Дзень паэзіі — 74. Мн.; Дома; «Вуліца начная...»; «Сусед мой кожны дзень на небе...»; Вясна: [Вершы] // Маладосць. № 11; Бацька;

